Перакладзена з выдання:
Kraft R. Insel hne Leuchtfeuer: Rman -
Berlin: Verlag der Natin, 1979. - 576 6.
Пераклаў з нямецкай У. Папковіч

Крафт Рут

Востраў без маяка. Раман: З ням. /Пер. У. Папковіч: Мн, Маст. літ., 523 с.

Раман сучаснай пісьменніцы з ГДР – твор антыфашысцкай накіраванасці. У цэнтры рамана – работы гітлераўскага вермахта над стварэннем зброі масавага знішчэння, з дапамогай якой нямецкае камандаванне спадзявалася дамагчыся пераломy ў ходзе другой сусветнай вайны. Пісьменніца апісвае падзеі, сведкай якіх была сама ў сакрэтнай вайсковай даследнай установе.

УСІМ,
ХТО Ў ТЫЯ
ЗМРОЧНЫЯ ГАДЫ
БЫЎ МАЦНЕЙШЫ
ЗА МАЮ ГЕРАІНЮ

*Дзейныя асобы гэтага рамана — выдуманыя. Іх гістарычная верагоднасць у тым, што яны маглі існаваць у свой час, асабліва ва ўмовах, якія панавалі на тэрыторыі прадпрыемства, дзе выраблялася і выпрабоўвалася рэактыўная зброя «ФАУ».*

# КНІГА ПЕРШАЯ

# ВЫПРАБАВАННІ

# I
# ПРАЛОГ У БЕРЛІНЕ

Капітан Говер сядзеў за ніжнім канцом доўгага стала для пасяджэнняў. Ніз быў там, дзе не сядзеў генерал. А ўпаўнаважаны па зброі і боепрыпасах быў так далёка ад яго, што Говер мог бачыць толькі карычневы рукаў аднаго з яго ад'ютантаў. Нягледзячы на гэта капітан сваім дакладам, які абмяркоўваўся апошні пасля ўсіх пытанняў, прыцягнуў да сябе ўвагу хутчэй, чым сам спадзяваўся. Нават карычневая чародка вакол прадстаўніка міністра, што ў зале пасяджэнняў гэтай установы вайсковага ўзбраення выглядала астраўком у аднастайным шэрым моры вайсковай уніформы, здавалася, зразумела яго.

Говер выканаў сваё службовае даручэнне ў стойцы «смірна». Тым, што гэтая стойка выглядала нязмушана. Ён быў абавязаны коннаму спорту. Магчымасць тады-сяды праехацца на кані прымірыла фабрыканта па вырабу кансерваў з гародніны Ульрыха Говера з вайной, тым больш што яго цяперашняе становішча было бяспечнае, а хатняе прадпрыемства працвітала. Жонка скупляла свежую гародніну ў даліне Одэра, а ён тым часам гандляваў маладымі людзьмі. Здавалася, што ён не прагадаў. Ён і сябе цяпер больш паважаў, бо справу меў не з качанамі. Натуральна, што і таргаваўся ён цяпер зусім іншым тонам, чым раней з сялянамі-агароднікамі. Ён вёў пераможныя бітвы за тавар. Сённяшні тавар быў на дзвюх нагах і з доўгімі валасамі.

— Востраву патрэбна рабочая сіла! Тэрмінова! — Говер рэзка абарваў сваю кароткую прамову.

— У вас жа ёсць доследная каманда Норд, — запярэчыў палкоўнік-інтэндант. — Якая яшчэ доследная ўстанова можа дазволіць сабе такое: пасля амаль двух з паловай гадоў вайны — ніякіх вынікаў і цэлы барачны гарадок прыгодных для фронту салдат!

Упаўнаважаны міністра адкінуўся ў крэсле і лёгкім рухам галавы дазволіў выступіць свайму ад’ютанту.

— Умовы ў доследнай установе Востраў асаблівыя. Салдатаў рыхтуюць да вырабу зброі і валодання ёю. Калі ў мяне правільная інфармацыя, цяпер гаворка ідзе аб павелічэнні колькасці жаночай рабочай сілы.

Карычневы так моцна нахіліўся наперад, што Говер убачыў яго грудзі з бляскам холада.

Капітан адчуў падтрымку. Ён спрытна ўзяўся каваць гарачае жалеза:

— З нашых доследных лабараторый, тэхнічных бюро і ў першую

чаргу з упраўлення на некаторых участках маглі б вызваліцца мужчыны для фронту ,ці іншых важных спецзадач, калі б мы набралі адпаведна больш жаночай рабочай сілы. Прапанова начальніка аддзела кадраў доследнай установы: ён атрымлівае паўнамоцтвы прызываць на абавязковую службу ў доследнай установе дзяўчат са службы ваеннай дапамогі.

Говер напружана чакаў рэакцыі на свае словы, якія ён добра прадумаў. Заёрзаў нейкі маёр побач з ім. Нават, здалося, уздыхнуў. Магчыма, яго дачка была работніцай працоўнага фронту, і яму падумалася, што ёй не давядзецца вучыцца, пакуль не скончыцца вайна.

Говер глянуў на афіцэраў, што сядзелі ў рад. Шэра-зялёная форма. Шэра-зялёныя былі і качаны ў сялян на Одэры пасля дажджу — высаджаныя ў рад, як салдаты.

«Толькі не дайце ім падгніць, — бывала, часта гаварыў ён, робячы агляд. А далей толькі думаў сабе: — Назва маёй фірмы на вашай смярдзючай капусце павінна быць гонарам для вас... Сігару?.. Заўтра я прышлю два грузавікі...»

Гандаль ішоў угору. Яго манера гаварыць коратка і ўпэўнена рабіла ўражанне. Работніц-дзяўчат не вазілі на грузавіках. Гэта было б невысакародна. Калі яны ужо як работніцы СВД (службы ваеннай дапамогі) здымалі з сябе брудна-карычневую форму, якая нагадвала яму кармавыя буракі, пакрытыя струпамі гною, то выглядалі амаль як артысткі кабарэ — гэтыя дзевятнаццаці- і дваццацігадовыя дзяўчаты. Калі шанцавала прыдбаць такіх дзвюх гусак для якога-небудзь канторскага жарабка, то Востраў так-сяк укладаўся ў тэрміны, пра якія бясконца напамінаў Берлін.

— Было б добра, каб гэтыя дзяўчаты добраахвотна пайшлі на абавязковую службу, — пачуў Говер рэзкі голас генерала здалёк. – Без непасрэднага прымусу.

Говер выдатна разумеў. Качаны адсякаюць ад каранёў секачом. І строгае распараджэнне адсекла б у некалькіх соцень дзяўчат нешта падобнае: планы, мары, будучыню, вучобу... А чаму б і не? Хто пытаецца пра гэта ў мужчын? Але такое выказванне было б зусім недарэчы, ды Говер адчуў, што і без патрэбы. Ён дазволіў сабе нават штосьці падобнае да усмешкі, гаворачы:

— Тут цяжкасцей не будзе, гер генерал. У асноўным работніцы СВД акліматызаваліся на Востраве цудоўна. У сённяшніх умовах тое-сёе прываблівае іх: мора, пляж, водны спорт... — і мужчыны — рознай вартасці і у дастатковай колькасці, — з'едліва сказаў агрэсіўны палкоўнік інтэнданцкай службы.

Говер паціснуў плячыма, быццам гэтым усе сказана. Ён заўва-

жыў, як генерал і прадстаўнік міністра перакінуліся позіркамі. Было ясна: ён выйграў.

Карычневы энклаў першы пакінуў залу пасяджэнняў.

«Як грыбы лісічкі, — мільганула думка ў галаве у Говера. — Тыя таксама заўсёды трымаюцца гэткімі групкамі. Вялікая галоўка, маленькія ножкі». Калі міма яго праходзіў высокі нацысцкі чын, Говер стаяў навыцяжку пад вялізным партрэтам фюрэра, які займаў папярочную сцяну. Важны чын глянуў на яго коратка і цвёрда. Говер добра ведаў, што Востраў цікавіў міністэрства асабліва. На сотнях грузавікоў і прыстасаванняў пры дапамозе якіх манціравалася і расшыралася ў ваенных мэтах абсталяванне, і сёння яшчэ стаяла скарочанае прозвішча міністра, напісанае вялікімі літарамі белай алейнай фарбай. У той час ён быў яшчэ адказны інспектар будаўніцтва рэйха.

Генерал пайшоў у свой кабінет, і ў той самы момант строгі парадак генеральнага абмеркавання парушыўся.

— Ну стары сутэнёр, вам зноў пашанцавала? Прыемная ў вас пасада. — Да Говера падышоў палкоўнік-інтэндант.

— Як паглядзець, гер оберфельдінтэндант...

— Вы робіце выгляд, быццам усё гэта сабранае баб'ё вам жа самім даводзіцца І ахоўваць.

Говер усміхнуўся і прапусціў старшага званнем у дзверы..

— Тады б я заслужыў Крыж за Ваенныя Заслугі І ступені...

— З мячамі, якія трэба было б устанавіць спецыяльна для вас... Скажыце мне... але пойдзем лепш спачатку перакусім... — Відаць, пікантныя застольныя размовы падабаліся інтэнданту. Ён быў расчараваны, калі Говер адмовіўся:

— У мяне сустрэча. Прабачце, калі ласка.

Інтэндант зрабіў такі твар, быццам западозрыў, што ў Говера спатканне з цэлым дзесяткам дзяўчат з СВД.

Сярэдняга росту, схільны да паўнаты чалавек у цывільным з круглым партыйным значком на штрыфлі пінжака сеў так, каб можна было назіраць за часткай вуліцы Курфюрстэндам і бачыць - царкву Гедэхтніскірхе. Вайсковая форма панавала і на вуліцы і ў рэстаране. Афіцыянтка папрасіла яго разлічыцца за піва. Ён велікадушна дазволіў ёй пакапацца ў поўным кашальку, а сам з цікаўнасцю назіраў за групай унтэр-афіцэраў, што з шумам рассаджваліся за суседнім столікам. На іх былі пілоткі горных стралкоў, упрыгожаныя эдэльвейсам. Чалавек усміхнуўся сам сабе, нібы прыпамінаючы мінулае. Гедэхтніскірхе здалася яму саборам святога Штэфана, а піва Берлінер Вайсэ — маладым вінам... 12 сакавіка 1938 года. Ён ехаў са

штандартэнфюрэрам на поўдзень, каб паціснуць руку князю Штархенбергу, бо справа ўдалася. Праўда, без яго, Густая Швентмайра, які быў вымушаны ў 36-м годзе знікнуць з венскага Нойштата, каб пад апекай рэйха дачакацца далучэння нямецкага Остмарка.

— Фройляйн, дзве бутэлькі чырвонага горным стралкам, там, у куце.

«Гэта з-за Эвы, — падумаў ён, — толькі з-за Эвы. Я забабонны, мне патрэбна падтрымка боскай волі... Калі б Говеру сапраўды ўдалося...» Яго думкі пра дваццацігадовую падчарку афіцыянтка перабіла пытаннем:

— Можна, я пана выдам?

— Не ведаю, якім чынам.

— Пан — аўстрыец?

— Быў ім, фройляйн.— Гэта прагучала ветлівым пацверджаннем.

Дзяўчына пайшла, і ён паглядзеў ёй услед. Зноў яму прыпомнілася Эва. «Не шмат старэйшая за яе», — падумаў ён. Але задок зашырокі. У Эвы прапорцыі намнога лепшыя.

Ён не ўбачыў, як увайшоў Говер, і здзівіўся, калі перад ім вырас доўгі хударлявы капітан.

— Твае вочы былі ў іншым месцы, — пакпіў Говер.

— Не мае значэння. — Швентмайр з напружанай зацікаўленасцю павярнуўся да Говера. Той павесіў сваё шэрае скураное паліто на завешаную вешалку.

— Як справы, што-небудзь атрымалася?

Говер узяў меню і зморшчыў нос.

— Выбар не лепшы, чым у нашым казіно. Ніякай разнастайнасці ў гародніне. — Цішэй ён прамовіў: — Чаму нам Францыя не пастаўляе арцішокаў? — А потым з-за меню: — У мяне заўсёды нешта атрымліваецца!

Твар Швентмайра занямеў у нецярплівым чаканні. Ён нават не ўбачыў, што горным стралкам падалі віно і яны здзіўлена і з цікаўнасцю азіраюцца, шукаючы ананімнага дабрадзея.

«Ты, зачуханы прускі барон, — падумаў Швентмайр. — Кожнае слова прымушаеш выцягваць з сябе. Можаш дазволіць сабе, бо козыры ў тваіх руках».

Ён стрымана сказаў:

— Ты сёння мой госць. Чаго б ты хацеў выпіць?

Шум і гам перапоўненага рэстарана перакрыў голас маладога аўстрыйца ад стала горных стралкоў:

— За здароўе таго, хто высакародна частуе!

— За здароўе! — далучыліся іншыя, уважліва пазіраючы на суседзяў свайго стала.

Міжволі Швентмайр падцягнуўся. Говер весела спытаў:

— Усё яшчэ такі ж высакародны? А, старая зямляцкая вернасць! — Ён паківаў галавой. — Чаму ж ты не адкрыешся?

— Навошта! Хлопцы задаволены. Больш мне нічога не трэба. Хто ведае, што ім яшчэ свеціць.

— Вы, аўстрыйцы, усе сентыментальныя.

— Усе? — Швентмайр шматзначна кашлянуў і з задавальненнем заўважыў, што Говер неяк занепакоіўся. — Браўнаў, зрэшты, таксама быў у Аўстрыі.

— Амаль усе, — паправіўся капітан і спрытна перавёў размову на іншую тэму. — Доказ таму — турботы пра тваю падчарку, напрыклад. Са сваімі роднымі дзецьмі я б такога спектакля не рабіў.

— Каб яны былі...

— Ну добра. Мяне вельмі цікавіць гэтая маладая асоба.

— Дык ты можаш уладкаваць яе на Востраў?

— Я дамогся таго, што мы можам цяпер залічваць дзяўчат з СВД на абавязковую службу, калі яны згодныя.

Здалося, у Швентмайра зваліўся цяжар з плячэй.

— Эва будзе згодная, павер мне. Пра вучобу ёй цяпер няма чаго і думаць. Мне ж галоўнае, каб яна атрымала месца, адкуль яе не забяруць да канца вайны. Запаўняць увесь час анкеты, адказваць на пытанне, чаму эмігрыраваў бацька, — ты разумееш, гэта даканае дзяўчыну. Ёй трэба супакоіцца. У вас там высокая ступень важнасці. Я не хачу, каб яе запхнулі на нейкі ваенны завод. Урэшце, яна некалі выйдзе замуж за нашага чалавека.

— Упэўнены?

— Амаль.

Говеру давялося пракаўтнуць здзіўленне разам з глытком віна. Перад ім сядзеў тып, які ў хітрыках, магчыма, пераўзыходзіў яго самога.

— Я запрасіў сюды начальніцу дзяўчат нашай установы, — сказаў ён. — Калі ты ўмела пачнеш, яна не вельмі будзе распытвацца, чаму тваёй падчарцы так пільна трэба трапіць на Востраў... Між іншым, вось і яна ўжо.

Говер устаў і пайшоў насустрач дзяўчыне, якая крыху разгублена запынілася ля дзвярэй. «Пудзіла», — падумаў ён і павітаў яе, як належыць кавалеру. Швентмайр пачаў здалёк разглядаць спачатку капялюш начальніцы дзяўчат. Капялюш сядзеў высакавата з-за вузла бялявых валасоў на патыліцы. У яе цераз плячо вісела сумка з рудой

скуры, якія нязменна насілі дзяўчаты працоўнага фронту. Яна ішла за Говерам крокам, звыклым у дзяўчат, якія ўжо восем з лішнім гадоў лічылі за шык і гонар насіць плецены абутак. Швентмайр уздыхнуў і падумаў: «Сёння вечарам мне трэба запрасіць яе ў оперу».

Яе твар пад знарок заламаным уніз капелюшом быў малады, але змушана энергічны, таму непрывабны. Загар — у гэтую пару года можна было так загарэць толькі ў гарах, на моры ці на паўднёвым участку фронту — кідаўся ў вочы. Салдаты і афіцэры азіраліся на яе. «у сваім карычневым скураным паліто я гляджуся яшчэ ніштавата», — падумаў Швентмайр, устаючы і называючы сябе.

З познанскага краявога кіраўніцтва нацыянал-сацыялісцкай партыі, — дапоўніў Говер.

На маладога горнага стралка, які праціскаўся праз натоўп, ніхто не звярнуў увагі.

Ён стаў перад Швентмайрам па стойцы «смірна» і вымавіў цудоўна па-аўстрыйску:

— Дазвольце, пан амтсляйтэр, падзякаваць вам ад імя маіх таварышаў. Віно было выдатнае.

Швентмайр хацеў, нібы нічога не ведаючы, адмахнуцца. Але апладысменты, што прагучалі якраз у гэты момант, не далі яму схаваць сваё задавальненне. Ён паціснуў руку унтэр-афіцэру і зычліва памахаў рукой яго таварышам праз сталы.

— Вы — з Вены? — спытала дзявочая начальніца, калі горны стралок адышоў. Яна зняла ўжо свой непрыгожы капялюш і ўсміхалася Швентмайру.

«Віват, Аўстрыя! — весела падумаў Швентмайр. — І лапаць сёння ў пашане!»

## 2
## СЯБРОЎСКАЯ ВЯЧЭРА

Патрабавалася каля пяці гадзін — з перасадкай, — каб трапіць са Штэцінскага вакзала ў Берліне на Востраў. Востраў — не зусім маленькі. Ён — не аддалены марскі фарпост. Наадварот: здаецца, што ён вымушаны ўзяць руку — у выглядзе моста, — працягнутую яму большым братам — мацерыком. І ўсё-такі гэта востраў.

Людзям, якія пасля 1939 года пераязджалі ў кур'ерскім цягніку мост з праязным білетам вермахта ў кішэні ды яшчэ з вайсковым прадпісаннем або камандзіровачным пасведчаннем, здавалася, што яны ўжо плацяць дастатковую даніну богу вайны, згадзіўшыся сачыць з гэтага пакінутага богам кутка зямлі за канцом знішчэння

народаў, якое адбывалася па ўсіх напрамках ружы вятроў.

Калі малады фізікахімік д-р Юрген Бэр у красавіку 1942 года ў гэтым жа месцы пакідаў мацярык, на ім была шэрая форма са знакам яфрэйтара на рукаве. Як бачым. Ён быў у тым жа вайсковым чыне, з якога нейкі аўстрыйскі салдат першай сусветнай вайны пачынаў сваю «сусветную місію». Бэр вельмі цікавіўся гэтым чалавекам. Ён насіў яго значок на пілотцы і на партупеі. Жыццё — гэта не толькі фізіка... Праз два дні Бэр быў ужо ў цывільным. Вузкай воднай стужкі паміж мацерыком і востравам хапіла для рэзкай змены клімату. Праўда, законамі фізікі растлумачыць гэтага было нельга.

Спачатку Бэр адчуваў сябе няёмка, як у вопратцы з чужога пляча. Цывільная вопратка была для яго, як жытло, якое ён занадта даўно пакінуў, каб адчуваць сябе цяпер утульна. Кіцель з яфрэйтарскім знакам ляжаў у чамадане зверху. Ён не мог так хутка забыць яго. Чамадан можна паставіць у куток ці запхнуць пад ложак, але "яго нельга збыць са свету. У любы час яго можна адчыніць, і яфрэйтар уваскрэсне ў ім, як прывід, як той, хто заснуў летаргічным сном. І ўсё тады зноў пакоціцца, як раней, як кацілася два гады: Кёнігсбрук і Грос-Борн, чужыя краявіды і рэкі, сустрэчы з людзьмі, з якімі хочацца хутчэй развітацца, і, самае дрэннае, — агіда да самога сябе, калі робіш тое, што называецца ваеннай неабходнасцю.

Пасля ўсяго таго Востраў адкрываўся са свайго найлепшага боку. Нават святы святкаваліся. Дзяўчатам не каштавала вялікіх намаганняў, каб выглядаць прывабна. Яны былі прывабныя: загарэлыя ад вясновага сонца, стракатая касынка на шыі, на галаве — цюрбан з квяцістай тканіны. Яны ўбіралі ў сябе сонечныя промні, што напалялі пясок на схілах дзюнаў. Ужо цяпер, у красавіку, Юрген Бэр стараўся больш не думаць пра чамадан пад ложкам, не думаць пра з'едлівыя словы свайго оберфельдфебеля пры развітанні: «Менавіта вас дадумаліся забраць на сакрэтнае прадпрыемства. Гэта ж смеху варта. Таго, хто не быў ні ў якай арганізацыі, без ніводнай ваеннай узнагароды. Дзе вы працавалі апошнім часам? Ага, універсітэт! Ну канечне, інтэлектуал. Мне вядома: нацыянал-сацыялісцкі саюз выкладчыкаў лічыць вас ненадзейным элементам. Але ў кіраўніцтва па ўзбраенні доўгія рукі, яно вышуквае спецыялістаў. Цывільнае кіраўніцтва палажыла вока на вас. Ну добра, я ўмываю рукі. Я ні пры чым».

«Цывільнае кіраўніцтва» — гэта быў галоўны інжынер доследнай установы, для якога Бэр у Гётынгене выконваў тэхнічны заказ. Малады вучоны славіўся тым, што меў нюх на спецыялістаў у навучальных установах, якіх ён мог выкарыстаць для свайго праекта. Калі ён браў некага на мушку, то не адступаў, пакуль не перацягваў

таго на Востраў. Яго красамоўства амаль заўсёды дасягала мэты.

Гэткім чынам Юрген Бэр трапіў на сакрэтнае прадпрыемства і зноў стаў цывільным. Найперш трэба было пастарацца не даваць ніякай спажывы сумненням, якія маглі быць наконт яго яшчэ з універсітэта. Найлепш аднесціся да таварыскага вечара так, як і ўсе іншыя тут. Бэр абцягнуў пінжак і сабраўся паводзіць сябе як мага больш цывільна.

На імправізаваны бар у вялікай прахадной зале галоўнага тэхнічнага корпуса канструктары далі чарцёжныя дошкі. У бары гаспадарыла, задаючы тон, тэхнічная супрацоўніца — высокая, крыху пышнаватая, а ўвогуле вельмі прываблівая, якую ўсе называлі Кайзера. Хаця выбар напіткаў не даваў ёй багатых магчымасцей, але бар як месца сустрэч моладзі выконваў сваю ролю тым лепш, што трэба было паважаць афіцыйную забарону на танцы і ў час таварыскіх урачыстасцей.

Акрамя жанчын-супрацоўніц свайго аддзела Бэр пакуль што ведаў толькі выхавацельку прадпрыемства. Марліс Хасэ падабалася яму. Яна была не вельмі тэмпераментная і не самая маладая сярод дзяўчат, затое з ёю можна было пагаварыць. Калі ён убачыў, што яна сядзіць на падстаўцы з чарцёжнай залы, прыстасаванай для сядзення ў бары. Ён падышоў да яе. Яна якраз назірала за Кайзеркай. Ён далучыўся да яе. Дзяўчына зачаста чокалася з наведнікамі і смяялася занадта гучна і шмат. Марлю паклікала дзяжурнага па казіно.

— Падмяніце, калі ласка, фройляйн Кайзер, — сказала яна.

Малады хлопец у белым халаце коратка кіўнуў, з разуменнем падміргнуў і рашуча забраў у Кайзеркі бутэльку з каньяком. Дзяўчына здзіўлена зірнула ўбок, не супраціўляючыся. Убачыўшы вясёлыя твары вакол сябе, яна ўсміхнулася так пагардліва, як толькі магла, і змяніла стойку бара на стол у глыбіні вялікага пакоя, дзе яе з шумам" прынялі ў кампанію маладыя людзі.

— У вас нялёгкая пасада, — звярнуўся Бэр да Марліс.

— Калі вы думаеце, што я — гувернантка пры ўсіх гэтых дзяўчатах, то памыляецеся. — Яна дапытліва зірнула на яго. — Быць ахоўніцай маралі — справа не па мне. Але тут я павінна была ўмяшацца — што зробіш!

Падпалкоўнік Кельнер не вельмі б узрадаваўся, калі б убачыў Крысту Кайзер у такім выглядзе за стойкай, разам з яго ардынарцамі.

— Як? Шэф казіно і гэтая Кайзер?

Марліс пацiснула плячыма.

— Вам прыйдзецца да таго-сяго прывыкнуць. Ён жа «толькі» на трыццаць тры гады старэйшы за яе.

Высокі хударлявы капітан завалодаў увагай Марліс. Юрген Бэр, пакінуты сам-насам, смактаў саломінку, схіліўшыся над шклянкай, паглядаў за шырокую стойку. Ён параўноўваў свае ўражанні з пачутым. Вось, напрыклад, дзяўчына, гэтая Кайзерка... Колькі ёй можа быць гадоў? Відаць, равесніца той шатэнкі, што падышла да бара. У яе быў прыкметны профіль і здаровыя, крыху велікаватыя зубы. Таго-сяго з яе праважатых ён ведаў: маладыя інжынеры, фізікі і адзін матэматык. З ім Бэр пазнаёміўся каля выпрабавальнага стэнда. Сур'ёзны чалавек гэты Марцін Уліг. Крыху занадта цвярозы, занадта сутаргавы для смуглявай істоты побач з ім, якая стрымана весела рухалася, нібы камета ў сузор'і маладых людзей. Уліг, здавалася, стоена сачыў за тым, каб шатэнка ў меру выяўляла свае прыхільнасці. Відавочна, яна была з ім у блізкіх адносінах, таму што менавіта ён прасіў падліць ёй. Ён мусіў мірыцца з тым, што яна піла за здароўе іншых.

Бэр задумліва круціў шклянку. Магчыма, і ён выпіў бы за яе здароўе, калі б мог гэтым завалодаць яе ўвагай. Але яна нават не глядзела ў яго бок. Яму ўжо не было месца... Зноў у яго з'явілася адчуванне, што на ім пазычаны касцюм. Ён раструшчыў саломінку і ўстаў, адчуваючы сябе няёмка. Дарэмна ён абмацваў кішэні, шукаючы тытунёвую картку. Ён не мог нават купіць сабе сігарэт. Пэўна, Уліг пазычыў бы яму некалькі штук. Але такая дзёрзкасць магла быць вытлумачана як падстава пазнаёміцца з дзяўчынай. Бэр бачыў яе цяпер ззаду. Бліскучыя гладкія валасы былі закручаны на патыліцы... Дзяўчына б усміхнулася, паказаўшы свае вялікія белыя зубы, з затоеным задавальненнем адзначыла б сабе яго званне, якое хто-небудзь назваў бы, знаёмячы іх, і ўжо ўявіла б сабе, што бачыць яго наскрозь. Не, так не будзе! Ён крутнуўся на абцасе. У сталоўцы ён, пэўна ж, знойдзе некага са свайго аддзела і пазычыць некалькі сігарэт.

Калі ён увайшоў у маленькі пакойчык сталовай, яму памахала Марліс Хасэ. Яна сядзела з хударлявым капітанам Говерам і курыла. Прыязна, быццам гэта само сабой разумелася, яна запрасіла Юргена Бэра сесці, а ён, убачыўшы поўны пачак сігарэт на стале, палічыў неразумным адмаўляцца.

Быў час вячэры, і адзіны ўтульны пакой сталоўкі прыкметна папаўнеў. Юргену Бэру капітан з крутой складкай на лобе і з доўгімі вялымі крыламі носа, якія надавалі твару афіцэра нешта ўладарна-фанабэрыстае, здаўся не вельмі сімпатычным. Магчыма, яшчэ і таму, што ў яго прысутнасці непрыемна прыпомнілася салдацкая служба. Але дзеля Марлю і сігарэт можна было павячэраць разам.

Марліс і Говер усталі, каб пашукаць Бэру пару. Тым часам Бэр з асалодай курыў. Шэрае афіцэрскае скураное паліто Говера на спінцы

крэсла надзейна ахоўвала месца ад наскокаў прышэльцаў. Бэр засмяяўся сам сабе. Ці надаў бы капітан якое значэнне яго прысутнасці восем дзён назад? У салдацкай форме Бэра вечна нешта было не ў парадку.

Афіцыянтка, што прынесла яму піва, гаварыла на паўднёвым дыялекце. Прыкладна так павінна гаварыць Хана Пэплаў. Магчыма, Марлю ведае яе? Ён не адважыўся спытаць. Яна ўмела так пранізліва глянуць на цябе. Ды яна б і здзівілася, чаму гэта ён пытаецца пра дачку рыбака, якая працуе недзе машыністкай ці некім накшталт таго.

А бацька, якому цяпер нельга было рыбачыць, працаваў, мусіць, у камандзе аховы. Магчыма, начным вартаўніком. На такім вялікім заводзе Бэру за гэтыя першыя дні не ўдалося адшукаць яго. Ці не Хана тая дзяўчына-шатэнка, якую ён бачыў побач з Улігам? Тады б ім давялося разам працаваць... Ён узяў трэцюю сігарэту... У дзяўчыны былі незвычайныя рысы вакол вачэй. Цяжка растлумачыць, чаму менавіта гэта асабліва ўразіла яго. Для дачок нямецкага ўзбярэжжа такі твар, ва ўсякім разе, быў нехарактэрны. Ёй падышло б імя Зулейка, падумаў ён. Пра тое, што яе звалі Эва. Ён даведаўся праз некалькі хвілін. Яна стаяла перад ім крыху разгарачаная і ўсміхалася на ўвесь рот. Сёння яна перажыла трыумф. Нельга недаацэньваць такія трыумфы ў жыцці дваццацігадовай дзяўчыны. У многіх такое астаецца на ўсё жыццё. Марліс і капітану пашанцавала вырваць яе з-пад нагляду Уліга. Адчуванне, што ён тут чужы, у Бэра знікла адразу. Ён паставіў крэслы, запрасіў сесці і паклікаў афіцыянтку.

Значыць, не Хана, падумаў ён, сядаючы паміж ёю і Марліс. Ён не запомніў яе прозвішча. Здавалася, што Говер таксама толькі што пазнаёміўся з ёю, але добра ведаў яе сям'ю. Ён называў яе фройляйн Эва. З Марліс яна была, відавочна, у блізкіх адносінах.

— Мы жывём разам, — растлумачыла Марліс.

— На працоўным фронце нас было па тузіну ў пакоі, — расказвала Эва, — а ў службе ваеннай дапамогі — па шасцёра.

— Дык вы не вельмі былі расчараваны, што вам не далі асобнага пакоя? — спытаў Говер.

— І так цудоўна.

— Начальніца дзяўчат не захацела рабіць выключэння, — растлумачыў капітан.

Яна шматзначна падміргнула Говеру.

— Густль, мусіць, прыйшоўся ёй не да густу? Ён пісаў мне пра размову ў Берліне.

Яна прыкусіла губу, злавіўшы незадаволены позірк Говера.

Бэр выпускаў клубы дыму на вялікі плакат. Плакат вісеў побач з

ім на сцяне, на плакаце быў чорны абрыс ценю і перасцерагальны надпіс: «Тсс! Вораг падслухвае!» Ён заўважыў, што Эва, крыху ўспуджаная, нахілілася над сваёй талеркай, і зразумеў, якая маладая яшчэ яна і якая нявопытная і што ёй цяжка нешта хаваць у сабе. Вось якой атрутнай кухняй рэйха была гэта суперсакрэтная справа. Ён чуў пра гэта яшчэ раней, да таго, як яму далі прыстанішча. Востраў быў сакрэтам з сакрэтаў. Той, хто працаваў тут, павінен быў мець арыйскую бабулю і незаплямленую палітычную рэпутацыю. Каб вораг не падслухаў... Чорны цень на плакаце на імгненне пакрыўся шэрай туманнай шапкай. Пачак «Р6» быў выкураны. Бэр узяўся за відэлец... Колькі іх тут у зале, гатовых намаляваць англійскім лётчыкам крыжык на карце? Крыжык — умоўны знак на месцы баракаў у сасновых барах, на месцы выпрабавальных стэндаў, замаскіраваных майстэрань і лабараторый з адчувальнымі прыборамі — на месцы Вострава!

Эва адсунула ад сябе талерку. Пры гэтым яна заўважыла, што Бэр назірае за ёю. Ёй стала няёмка, і яна адвяла позірк. Падтрымкай за гэтым сталом у яе была Марліс. Яму было прыемна, што яна засаромелася. Калі ён па тытунёвай картцы Марліс прынёс сігарэты, Эва расказвала пра юнкер-фельдфебеля, закаханага ў дачку яе айчыма. Здаецца, Говер пераключыў яе на сямейныя тэмы. Потым яна прыпомніла маладога архітэктара, які хоча праявіць сябе ў якасці афіцэра, перш чым... Усе дваццацігадовыя дзяўчаты, відаць, лічаць сваёй заслугай магчымасць пахваліцца заручоным, падумаў Бэр.

Говер узяў яе левую руку і іранічна сказаў:

— У вас жа няма пярсцёнка!

У дзвярах стаяў Марцін Уліг і дапытліва азіраў занятыя сталы.

«Шкада, — падумаў Юрген Бэр. — Маё свята, відаць, скончылася».

## 3
## A4VIP

Лякала сваімі крутымі выгінамі напамінала Эве эмбрыён. У кнізе «Пра з'яўленне чалавека» яна ўпершыню сустрэла відарысы гэтай перадродавай стадыі і разглядала іх з затоеным жахам. Яна ў той час толькі што перайшла ў другі клас. Яна памятала гэта і цяпер вельмі выразна, бо гэта было якраз у той час, калі яна страціла бацьку; яна страціла яго не так, як іншыя дзеці, чые бацькі загінулі ў каменяломні ці памерлі ад аперацыі. Яе бацька быў жывы, і ўсё-такі яна яго страціла.

Гэта было дзевяць гадоў назад. Яна бесклапотна праводзіла

вясновыя канікулы ў бабулі і дзядулі ў Лангенбруку, вялікай вёсцы на поўдзень ад павятовага горада, дзе яна жыла з бацькамі. Яна капалася ў кніжнай шафе дзядулі, бо старыя, зваленыя на гарышчы кнігі дзядзькоў яе не цікавілі. «Харыда Лютцаў», «Пад сцягамі Прусіі» і «Горда лунае чорна-бела-чырвоны сцяг» — такія назвы былі на запыленых вокладках. Дзядулева кніга яе вабіла больш. Там, праўда, былі такія рэчы, пра якія яна не адважвалася гаварыць з дарослымі, баючыся, што ў яе адбяруць гэтую крыніцу пазнання. Адбяруць так, як у яе вырвалі газетны лісток, што застаўся ляжаць у маленькай дзядулевай канторцы і дзе яна пачала чытаць подпісы пад малюнкамі. «Таму, хто ганьбіў расу, — канец» было тлуста надрукавана пад фатаграфіяй чалавека з размытымі рысамі твару. Больш яна нічога не паспела прачытаць, бо дзядуля позіркам паверх акуляраў пазнаў назву газеты «Дэр шцюрмер», у найвялікшым гневе скамячыў яе і забегаў па доме ў страшэннай гарачнасці. Ён сумняваўся, што гэты «свінячы» лісток трапіў у дом выпадкова, а меркаваў, што фурман, які прывозіў дровы, закручваў у яго свой падвячорак і пакінуў газету знарок.

На другі дзень маці прынесла ўжо іншыя непрыемнасці. Яна прыйшла адна, без бацькі. Заплаканая і разгубленая, яна доўга размаўляла са старымі пры зачыненых дзвярах. Спакойная бабуля ператварылася ў прыгнечаную казурку, і Эва чула, як яна на кухні гаварыла служанцы: «І ты трымай язык за зубамі, Валі. Дзіцяці нельга атручваць душу. Хто ведае, што яшчэ будзе».

У Эвы тады хапала часу, каб пагартаць тоўстыя дзядулевы даведнікі, бо дарослыя былі занятыя сабой. «Акрамя практыкі, я змагла ўратаваць амаль усё, — пачула яна аднойчы словы маці. — Урэшце, гэта мой пасаг».

За кароткі час мэбля з кватэры бацькоў была так-сяк размешчана ў прасторным доме старых. Усё, што раней было такое ўтульнае, зрабілася раптам чужым і халодным. Бацькавага пісьмовага стала не было, а кніжная шафа стаяла амаль пустая. Маці пасля дванаццацігадовага замужжа з зубным урачом Альбертам Леангардам вярнулася на радзіму свайго дзяцінства.

Эва памяняла школу. Дзядуля лічыў, што так лепш. Маленькі гарадок «там, у Саксоніі», быў на пяць кіламетраў далей, чым павятовы горад, але з гэтым зміраліся. Дзядулевы лясы даходзілі да самых саксонскіх граніц, а таму яго імя і там мела вагу, у той час як слава выдатнага зубнога ўрача Леангарда туды не дайшла.

Эву рэдка пыталі пра бацьку. І калі такое здаралася, яна гаварыла сур'ёзна і ціха: «Яго забралі».

Праз нейкі год маці строга сказала ёй, што на такія пытанні яна павінна адказваць: «Мае бацькі развяліся».

— Але ж маніць нельга! — горача запярэчыла яна.

Маці падкрэслена спакойна адказала:

— Гэта не мана. Твой бацька пайшоў ад нас. Ён з'ехаў у Амерыку. Ён ненавідзіць усё ў Германіі... Я думаю, што і мяне таксама.

Эва хацела спытаць: «І мяне?» Але не паспела. Маці хутка выйшла з пакоя.

Эва злучыла некалькі кропак на міліметровай паперы, атрымаўшы не вельмі крутую крывую. Яе добра завостраны, цвёрды аловак паціху рухаўся ўздоўж моцна выгнутай спінкі кароткага лякала, якое нязменна напамінала ёй той час, калі яна патаемна чэрпала веды пра сакрэты з'яўлення з забароненай кнігі. Аб тым, што ў гэты самы час па ўсёй краіне знішчалі тысячы людзей, не было напісана ў ніводнай кнізе. І як дзяўчына на свой страх і рызыку павінна была даходзіць да разгадкі сакрэтаў прыроды, так і гэтыя падзеі ўтойваліся ад яе. Сарамліва. Далікатна. У зычлівай блізарукасці.

— Крывая, здаецца, павінна быць значна больш крутой! — Эва аднойчы ўжо мела справу з вымярэннем. Нясмелая крывая ёй не падабалася.

За пісьмовым сталом насупраць Крыста Кайзер без ахвоты ўключала электрычную вылічальную машыну, якая пачынала траскатаць. Яна была ўдзячная за любую магчымасць адарвацца ад гэтых заняткаў.

— Тут ты дала маху. — Яна адкінулася да спінкі крэсла і не звяртала ўвагі на вынік, які выдала машына сваім дакладным вылічальным механізмам. Яна пазяхнула. — Доўга я гэтай сухамяціны не вытрымаю.

Эва ўжо ведала, што зараз закруціцца «пласцінка» Крысты, адно і тое з варыяцыямі. Напрыклад: падпалкоўнік Кельнер зноў дастаў французскі каньяк ці вэнджаных вугроў, таўшчынёй з руку. А госці з упраўлення па ўзбраенні галоўнага камандавання сухапутнай арміі, з якімі яна нядаўна сядзела разам у клубе казіно, ужо называлі яе «вяльможнай пані».

Эва заспяшалася праверыць маштаб каардынатаў. Шукаць памылкі было непрыемна, а ўсё ж лепш, чым слухаць балбатню Кайзеркі. Толькі спачатку ёй было цікава. Можа, восем дзён якіх. Кайзерка была шматбаковая, як мясцовая газета, і кожнаму, хто яшчэ дрэнна арыентаваўся на такім вялікім прадпрыемстве, яна была вельмі карысная.

— Я знайшла памылку. Справа толькі ў маштабе. — Эва спа-

чатку сцерла, потым зноў паставіла кропкі вымярэння і дастала доўгае лякала, якое затрымцела, як лязо касы. Цяпер лінія ішла ўгору прыгожа і няўхільна. Кропкі не рассейваліся, а верхняя была гатова ўзарваць маштаб. Яна выходзіла за надпіс над дыяграмай. A4VIP — напісала яна па распараджэнні кіраўніцы групы. Здавалася, што ўвесь завод складаецца з таямнічых радкоў літар. Эва павінна была памятаць, што яна працуе ў HVC і ўваходзіць у аддзел VK. Яна проста сцерла незразумелую назву на сваёй міліметроўцы, аднак узнавіць потым не змагла.

— Калі б ведаць, што гэта значыць, то яно так хутка не забывалася б, — сказала яна, спадзеючыся, што суседка інфармавана лепш.

Кайзерка адвярнулася ад акна, у якое яна неадрыўна глядзела. Паміж высокіх сосен можна было бачыць толькі рабочых, якія ездзілі на электракарах ці грузавіках па бетанаванай заводскай вуліцы. Людзей, якія займалі думкі Кайзера, можна было спаткаць далей, вакол казіно, ля пляцоўкі, акружанай дамамі ваеннага кіраўніцтва, канструктарскага бюро, корпуса статыстыкі і дырэкцыі. Кайзерка з нецярпеннем чакала перапынку на абед, калі за сталом побач са старшымі афіцэрамі яна пакажа сваю перавагу над іншымі дзяўчатамі. Потым, вярнуўшыся на сваё месца, яна яшчэ больш нецярпліва будзе чакаць вячэры. Часцей за ўсё яна вячэрала ў казіно, хаця праца канчалася ў пяць і большасць служачых спяшаліся ў сваё жытло.

Кайзерка ўжо два гады жыла на Востраве. Было вядома, што яна заўсёды пачынала цікавіцца тым мужчынам, які звяртаў увагу на адну з дзяўчат, на яе думку, «канкурэнтназдольную». Тады пачынаўся паядынак злосных позіркаў і з'едлівых слоў, і яна не адзін раз давала спажыву для плётак. Яна была, як афіша, але магла і памаўчаць калі трэба. Моўчкі слухаць, з тварам, на якім адбіваецца поўная перавага пры абсалютным няведанні, — гэта найвышэйшая жаночая хітрасць. Кайзерка доўгі час пасляхова карысталася гэтай хітрасцю і лічылася спачатку сярод маладых тэхнікаў адной з тых незвычайных дзяўчат, якія разам з ніштаватай знешнасцю маюць яшчэ і галаву на плячах. Толькі частая змена знаёмства выкрыла яе тактыку, і ад іроніі маладзейшых яна хавалася пад зычлівасцю старэйшых мужчын. Тут яна знаходзіла больш кіцеляў з пагонамі, якія выклікалі пачцівасць, але затое і больш пульхных жыватоў. Гэта, аднак, ураўнаважвалася прывілеямі, якія ў ходзе вайны павялічваліся вайсковым чынам і часткай якіх яна карысталася. Былая сакратарка дырэктара сярэдняй школы, яна выдатна разбіралася ў вайсковых званнях, таму яе не кранала ні пагаршэнне харчовага становішча, ні недахоп тканіны.

Дзяўчыне з такімі сувязямі было б сорамна не ўмець растлу-

мачыць закадзіраваны надпіс над дыяграмай.

— У нашых колах пра гэта гавораць абсалютна адкрыта, — сказала Крыста Кайзер. — А4 — агрэгат нумар 4, а астатняе адносіцца да сістэмы кіравання. Смешна: ніхто афіцыйна пра гэта не даведваецца, а ўсім вядома, што тут робіцца.

Эве захацелася падбухторыць яе.

— Канечне, мы ж працуем на вайну. Інакш не было б такой сакрэтнасці ва ўсім.

Кайзерка наддалася на прынаду, імкнучыся яшчэ раз паказаць сваю дасведчанасць:

— Востраў звышсакрэтны. І ты не ведаеш, што тут вырабляюць?

— Нейкія асаблівыя снарады, я так думаю.

— Снарады, для якіх не патрэбны гарматы.

— Значыць, бомбы?

Кайзерка цешылася сваім усёведаннем. Яна адмоўна махнула рукой.

— Тут распрацоўваюць нешта зусім новае...

Што менавіта, Эва не даведалася. Яе суседка раптам вельмі заспяшалася, паказваючы найвялікшую занятасць. Яе вылічальная машына застракатала, зняўшы пры гэтым папярэдні вынік, які нявыкарыстаны застаўся ў «памяці» машыны. Спрактыкаванае вуха Крысты ўлавіла стук дзвярэй з пакоя кіраўніцы групы. Калі тая ўвайшла, дзяўчаты, здавалася, былі паглыблены ў працу.

Эве было прыемна паказаць дакладна вычарчаную крывую. Ёй падабалася начальніца, матэматык Траўдэ Хёрзельман, якой было гадоў каля трыццаці. Яна была прыкладам працавітасці і прафесійнай стараннасці. Траўдэ магла на пяць хвілін прысесці на край стала, абмеркаваць са сваімі вылічальнымі самыя апошнія навіны. Потым яна знянацку рэзка абрывала балбатню. І тады ўсе ведалі, што яна замыкалася ў сваім кабінеце і наганяла тое, што, як ёй здавалася, яна за гэты час упусціла.

Траўдэ Хёрзельман увайшла, нягледзячы на сваю прысадзістую круглявасць, як заўсёды, паспешліва. Празрыстыя лісты міліметроўкі на пісьмовых сталах разляталіся ад ветру. Зубы Траўдэ зацята ўгрызаліся ў чэрствую булачку, якая да вечара застанецца яе адзіным харчам. Яна хацела пахудзець. Але злосныя языкі казалі, што за такі працяглы пост голад вымушаў яе з'ядаць да тузіна булачак або даваць сабе такую волю за вячэрай, што яе намеры давалі зусім другі вынік. Ва ўсякім разе, яна не худзела, хаця і сцвярджала гэта.

— Я занадта шыракаплечая ў твары, — гаварыла яна з зычлівай самаіроніяй. Яна была з Гамбурга і называла Эву, самую малодшую ў

групе, Лютэн (Малая).

— Як наконт першай начной змены, Малая? Толькі што званіў доктар Клемт. Сёння ўвечары пачынаецца новая серыя вымярэнняў. А4 са змененай сістэмай кіравання. Запісаць цябе?

— На аэрадынамічнай трубе?

— Так. Весці пратакол.

— Ты думаеш, я змагу?

— Навучышся. Там шмат хто можа паказаць, як і што.

— А калі?

— Сёння з 22 гадзін. Да шасці гадзін раніцы, чатыры ночы запар. Па полудні ты паедзеш дадому і прыляжаж. Але не праспі! — Яна пайшла. На рагу пісьмовага стала засталося некалькі крошак ад булкі.

— Начная змена — толькі гэтага мне не хапала. — Крыста Кайзер нацягнула на вылічальную машыну цыратавы чахол. Было без чвэрці дванаццаць. Крышку прыбрацца, памыць рукі і павольна пайсці па галоўнай вуліцы, хоць і не самай кароткай дарогай, затое там, дзе цябе могуць убачыць. Такім чынам якраз у час трапляеш у казіно.

— Мой жаніх, падпалкоўнік, паскардзіўся, калі мне нядаўна давялося ісці ў начную. Пяць начэй запар, бо ў нас здарылася аварыя і мы павінны былі наганяць тое, што ўпусціла дзённая змена. Цяпер мяне на нейкі час пакінулі ў спакоі. Дзякаваць богу! Хадзіць вечарам на працу, як які рабочы! Такое глупства! Менавіта тады, калі ў казіно так утульна!

— Дык жа цяпер вайна.

Кайзерка папраўляла перад маленькім люстэркам сваю кароткую хлапечую прычоску. Яна паціснула плячыма.

— Цешся ўдосталь вайной, мір будзе жахлівы.

Тэлефон заглушыў апошняе слова. Эва падняла трубку.

— Добры дзень, Марцін. — Яна відавочна ўзрадавалася. — Дзякуй, у мяне ўсё добра. Як там, у Каселі? Табе пашанцавала з надвор'ем? Было лётнае?.. Сёння вечарам? Не, мяне не будзе ў казіно. Начная змена. Заўтра і паслязаўтра... Так, шкада... А што гэта такое — палётнае снеданне?

Кайзерка адгукнулася, быццам пытанне задалі ёй:

— Кава, кола-шакалад, каўбаса, яйкі і цэльнае малако. Не ўпусці.

Эве перашкаджала балбатня, і яна заткнула вуха пальцам. Калі яна паклала трубку, Кайзерка стаяла ля дзвярэй.

— Табе ўсё яшчэ хочацца ў начную змену?

Эва не зірнула ў яе бок. На сасновым ствале перад акном пачаў сваю працу дзяцел. Ён бесперапынна біў вострай дзюбай па дрэве.

Відаць, у яго былі прычыны для такой стараннасці. Эва сказала:

— Трэба ж памятаць, для чаго мы тут.

Кайзерка выйшла, лаканічна прамовіўшы:

— Смачна з'есці.

Эва падумала: «Навошта?» A4VIP — невядомая велічыня. Яна забірала па восем гадзін у суткі. У барачнай установе. Гэта было не так ужо і дрэнна. Барак меў цэнтральнае ацяпленне. Магчыма, таму-сяму можна навучыцца ад практычнай Кайзеркі. Тады б засталіся нейкія чатыры гадзіны чыста працоўнага часу без начных змен. Толькі на пытанне «Навошта?» гэта не было б адказам. Тут нельга было шмат пытацца. Нават мілая Траўдэ Хёрзельман магла непрыхільна ўзняць бровы і перасцерагчы позіркам... Дзяцел бесперапынна шукаў корму... Ці атрымае Кайзерка ад свайго падпалкоўніка сёння зноў тлустага вугра?.. Марціну Улігу прыйдзецца самаму з'есці сваё палётнае снеданне, якім ён хацеў падзяліцца з ёю.

Калі струмень паветра прадзімаўся праз вымяральны ўчастак з хуткасцю ў тры разы большай, чым хуткасць гуку, крылатая страла ўся дрыжала на мацаванні ад страшэннага напору. Востры наканечнік падзяляў паток і прымушаў яго, у той час як страла ўраўнаважвалася, сіметрычна абцякаць яе гладкі корпус.

Гэта трэба было бачыць: звіліны з пераходам ад цёмна-шэрага колеру да амаль белага, патокі паветра за шклом акенца вымяральнай камеры, раздзеленыя і бачныя — усё тое, што звычайна схавана ад чалавечага вока!

Эва хутка была зачаравана рэчамі, пра якія ніколі не думала. Уважліва, як дзіця, якое ўпершыню пазнае цуд ледзяных кветак на шыбе, яна сачыла за дзейнасцю кіраўніка доследаў. Націск на кнопку — падача паветра прыпынілася, і звілісты малюнак знік. Некалькі хвілін яшчэ чуўся глухі шум ад сціснутага паветра, што выходзіла з катла, сасуда ў форме вялікай кулі, пакуль прыбор не паказаў, што ёсць вакуум для наступнага вымярэння.

— Пачатковы вугал мінус тры градусы, — скамандаваў Іміш, кіраўнік выпрабаванняў. Бертэль Дрэуз, інжынер-выпрабавальнік, адсунула ўбок двайныя шкляныя сценкі вымяральнай камеры і ўстанавіла мадэль так, каб вастрыё адхілілася дакладна на тры градусы ад гарызантальнай лініі.

І зноў: «Гатова!» — націск на кнопку — шумнае нагнятанне паветра — чароўны звілісты малюнак на матавай шыбе ўманціраванай спецыяльнай камеры з ценевым абрысам срэбнай стралы ў цэнтры — напружанае назіранне за вымяральнымі прыборамі — стрэлкі падымаюцца — дрыжаць — спыняюцца. Супраціўленне, скачок!..

Запісваць! Запісваць! Хутка, хутка, але дакладна, інакш пазней, пры апрацоўцы, кропкі рассеюцца, і ніякае лякала не зможа ўтаймаваць рассыпаных вымяральных велічынь. «Хто вёў пратакол?» — спытаюць потым. Дрэнная крывая $S^a$! Зрабіць праверку па фатаграфіях звілін... Паветра, што праганяецца, можна нават фатаграфаваць у разнастайнай шчыльнасці. Цёмнае ядро ў ім — стройны лятальны апарат, наведзены якраз на вузкую адтуліну сапла, вастрыё — у становішчы на нуль градусаў: карцінка дасканалай сіметрыі.

— Ніколі райей не мёгіа справы з тэхнікай? — спытаў Іміш навенькую, якую Траўдэ Хёрзельман упершыню запісала ў начную змену.

Эва сказала, што не мела. З тэхнікай? Амаль не. Бацька разам са сваім тэхнікам вырабляў штучныя сківіцы. Там былі срэбныя дроцікі, пласцінкі і спражкі з золата, штучныя зубы і чырвоная, падобная да дзяснаў, маса. Яна гадзілася ўсяго гэтага, хоць і не паказвала ніколі бацьку сваёй агіды. Яна больш любіла назіраць за людзьмі, якія прыходзілі да бацькі, часта з перакрыўленымі ад болю тварамі, тойсёй са страхам нават дарослыя мужчыны. Адзін нават быў ландрат і асістэнтка з'едліва назвала яго анучай. Але пасля лячэння большасць з іх смяяліся, яны пацісталі бацьку руку і дзякавалі.

А4, агрэгат у чацвёртай ступені распрацоўкі, у шмат разоў зменшаны ў аэрадынамічнай трубе, быў тэхнікай Самай сучаснай тэхнікай. На гэты апарат, здавалася, аддаў сілы ўвесь завод, тысячы людзей. Спецыялісты — вучоныя, інжынеры, рабочыя — толькі тым і займаліся, што разлічвалі, праектавалі, канструявалі, выпрабоўвалі форму яго корпуса, абсталяванне нутра, размяшчэнне стабілізатараў. Эва Леанард, якая ніколі не займалася тэхнікай, дапамагала нараджэнню гэтага «стварэння».

Чаго чакалі ад А4? Эва зірнула на Іміша. Ці адказаў бы ён на такое пытанне? Пэўна ж, не меў бы права. Тут кожны павінен ведаць менавіта столькі, колькі яму трэба для выканання сваёй невялічкай долі работы. А яе доля была вельмі нязначная. Восі каардынат, крывая, што няўхільна ідзе ўгору, адлюстроўваючы траекторыю палёту — што яшчэ? Каб зразумець гэта вялікага розуму не патрабавалася. Але вуглы абазначаліся грэчаскімі літарамі, трэба было ўмець абыходзіцца з вылічальнай машынай; трэба было ведаць велічыню «пі», сінусы і катангенсы. А4 быў патрабавальны. А4 патрабаваў ад сваіх самых дробных служкаў сярэдняй адукацыі і, прынамсі, чацвёркі па матэматыцы.

Мадэль дасталі з камеры. Трэба было ўстанавіць другое сапло. А4 павінен быў паказаць сябе пры больш высокіх хуткасцях паветра.

Эва трымала яго ў руцэ. Ён быў не даўжэйшы за вялікія наж-

ніцы для паперы, а таўшчынёй з яе руку Інжынер-выпрабавальнік сачыў, каб яна не дакраналася да крылаў стабілізатара з незвычайна тонкага металу.

— Нават пабудаваць такую мадэль — найвышэйшае дасягненне, — сказаў ён.

— Калі ж ён павінен паляцець? — адважылася спытаць Эва.

— Павінен? Яшчэ летась. Але ён не хоча зрабіць нам ласкі. У яго капрызы, — ён з усмешкай паглядзеў на яе збоку. — Капрызы, як у жанчыны.

— Але ж ён не жаночага роду, — адпарыравала яна ягоны жарт. — Агрэгат — ён.

Ён засмяяўся.

— Гэта маскіроўка. Уласна кажучы. Ён павінен быў называцца Ra замест A і быць жаночага роду. Але пра гэта — маўчак! Архісакрэтна!.. Так бывае на вайне: з дзяўчыны робяць хлопца, з дамоў — дрэвы і кусты з маскіровачнымі сеткамі і фальшывымі абазначэннямі. Ваенная хітрасць! Дык пачнём яшчэ раз — для нашай Дзівы.

Ён сеў на сваё месца, каб падрыхтаваць новае вымярэнне.

Дзіва, халодная і вастраносая, трымала ў напружанні штаб выпрабаванняў з шасці чалавек да канца змены. На досвітку на вялізнай вышыні Востраў абляцела эскадрылля англійскіх самалётаў. Грукат іх матораў перакрыў шум вакуумнага катла, які далёка ўнізе пад імі праз аднолькавыя прамежкі часу выплёўваў па некалькі кубічных метраў паветра. Ён быў падобны да вялізнага надзьмутага глобуса. Эскадрылля, не патрывожаная ні зеніткамі, ні пражэктарамі, пакінула межы Германіі. Усе ліхтары былі патушаны.

## 4
## ДОМ ЗЭЕШТЭРН

У інтэрнаце не хапала партрэта. Сцяна выглядала нейкай пустой. Штабсцальмайстар з жыллёвага ўпраўлення меў поўную рацыю. Сюды трэба было павесіць партрэт Гітлера.

Вахцёр Лабан скрывіў твар ва ўсмешцы. Дзяўчаты падзівяцца. У ніводным з сарака пакояў партрэта не было. Нават у Пюшэль і Гаўгк, якія так раз'юшваліся, калі нехта вітаўся без «хайль Гітлер».

У Пюшэль каля радыё стаяла паштоўка — фотакартка рэйхсфраўэнфюрэркі. З асабістым подпісам. Гаварылі, што Пюшэль, перш чым трапіць на Востраў, была ў штабе Шольц-Клінк... Лабан лічыў, што яна наогул не стасавалася з жанчынай на фотакартцы з вянком кос на галаве і набожным позіркам. Пюшэль магла б хутчэй трапіць

сюды з нейкага парыжскага кабарэ, калі ўсё тое праўда, што расказвае салдатня пра француженак. Вахцёр дзявочага інтэрната Дом Зээштэрн, былы вартаўнік маяка на нейкім пакінутым богам востраве ў Балтыйскім моры, хоць і не быў нідзе, акрамя гэтага маленькага куточка свету, ведаў тым не менш, што тыя, хто раніцай, днём і вечарам гаворыць «хайль Гітлер», — не заўсёды найлепшыя людзі.

Спачатку фройляйн Гаўгк верылі, што яна робіць гэта ад шчырага сэрца. Яе жаніха, які служыў ва ўпраўленні грамадзянскага флоту, інтэрніравалі ў Афганістане. Лабан слаба ўяўляў сабе, дзе гэта. Пэўна, вельмі далёка. Гэта было нядобра для такой дзяўчыны. Ці можна было папракнуць яе за тое, што яна, так доўга чакаючы, калі-нікалі пазірала на іншых мужчын? Лабан мог зразумець гэта. Раней ён быў вахцёрам у мужчынскім інтэрнаце, размешчаным на заводскай тэрыторыі недалёка ад казіно. На яго думку, там жылі толькі прыемныя людзі, якім у гэтай адасобленасці належала мець сваю дзяўчыну... Але Гаўгк была вельмі дзіўная істота. Яна збірала герояў. Вакол вялікай фотакарткі жаніха. Паштоўкі толькі з фатаграфіямі кавалераў Рыцарскага крыжа.

— Усе яны дапамогуць фюрэру выйграць вайну, — тлумачыла яна, калі ў яе пыталіся, нашто ёй гэта калекцыя. — А чым раней мы выйграем яе, тым хутчэй вызваліцца Хорст.

Хорстам звалі маладога чалавека, што быў у Афганістане. Яго фотакартка амаль зусім гублялася сярод пасыпаных срэбным дажджом ваенных герояў. Але Гаўгк усё збірала. Яна насілася пасля працы па калідорах у расшпіленым кімано, высокая, хударлявая, паважная, і трубіла змрочным голасам сваё «хайль Гітлер». Траўдэ Хёрзельман патаемна дала ёй мянушку Трагік.

Гэту Хёрзельман Лабан залічваў да найвышэйшай катэгорыі сваіх падапечных. Яна была адукаваная і мела аднолькавы чын з вучонымі і дыпламаванымі інжынерамі з мужчынскага інтэрната, дзе ён раней прадаваў. Для жанчыны гэта не абы-што! Лабан цаніў яе такую больш, чым калі б яна прыйшла сюды з вышэйшай дзяржаўнай установы, як тая Пюшэль, напрыклад. Пакой Траўдэ Хёрзельман таксама быў як карцінка. Калі госці хацелі агледзець інтэрнат, то ён ніколі не прапускаў магчымасці адчыніць дзверы сёмага пакоя. Ён мог быць упэўнены, што ў вялікай круглай вазе стаяць кветкі, нават тады, калі яны каштавалі дорага. У яе быў электрычны прайгравальнік з вялікім радыёпрыёмнікам, нітачны дыван, а на сцяне — карціна. Ружа з ападаючымі пялёсткамі, што выпала са старамоднай вазы.

Лабан мог з заплюшчанымі вачыма прайсці па ўсіх пакоях і, як паляўнічы сабака на нюх, вызначыў бы, дзе хто жыве. У гэтым ён быў

упэўнены. Марліс Хасэ кожную раніцу пражыла на адкрытай электраплітцы скібкі чорнага хлеба. Ад падгарэлых крошак уздымаліся блакітныя стужкі дыму. Халодны сігарэтны дым Ільзэ Рубышэўскай быў іншага гатунку. У малой Эдзіт Кнор, якая ела шмат тварагу, бо ад яго лепшаў колер твару, з гліняных збаноў на батарэях заўсёды пахла нечым кіславатым. І толькі калі яна чакала ў госці мужчын, збаны з тварагом знікалі. Ураджэнка Грэйофальда Хэні Розэнаў, гнуткая, як балерына, нягледзячы на свае 32 гады, аддавала перавагу зеляніне. Пах зялёнай цыбулі поўніў пакой, калі ён раніцай адмыкаў яго прыбіральшчыцы. Яна збірала шампіньёны на палянах і ела нават лісточкі дзьмухаўцоў. У нядзелю, калі ўсе любілі даўжэй паспаць, яна ўжо раненька бегла ў трэніровачным гарнітуры на пляж і рабіла там зарадку. Неўзабаве пасля гэтага ён чуў, як яна дробным балетным крокам праходзіла ў душ, і тады ён ішоў у заклад сам з сабой: будзе ці не? Але ён быў. Заўсёды. Рэзкі кароткі ўскрык нечаканасці, калі яна станавілася пад душ, які, відаць, заўсёды быў крыху халаднейшы, чым яна чакала. Хэні Розэнаў была вельмі пужлівая. Відаць, яна была і разумная. Яна магла б выкладаць матэматыку ў гімназіі — так яму аднойчы сказала Траўдэ Хёрзельман. Магчыма, яна не выкладала толькі з-за сваёй пужлівасці. Бо ў гімназістаў мелася звычка падкладаць на крэсла настаўнікам мокрыя губкі. Там бы, мусіць, гэтая Розэнаў сваім ускрыкам «ух!» хутка знішчыла ўвесь аўтарытэт. Так разважаў Лабан. Нягледзячы на павагу да адукаваных дзяўчат, да Розэнаў у яго была антыпатыя. Ён даведаўся, што мянушку яму прыдумала яна, Камарад Міргун называлі яго дзяўчаты. Быццам за тое, што ён раней працаваў вартаўніком на маяку, але ён ведаў, што мянушкай ён быў абавязаны, у першую чаргу, свайму фізічнаму дэфекту. Ён час ад часу міргаў левым вокам, так, быццам хацеў узяць нешта на мушку. Ад гэтага ўжо было не пазбавіцца, мышца скарачалася сама сабой. Яго нявыказанай помстай было тое, што ён кпліва назіраў за паводзінамі Розэнаў, думаючы: «Рабі што хочаш — усё роўна не папрыгажэеш». У матэматычкі да гэтага часу не было ў гасцях ніводнага мужчыны. Яна ні разу яшчэ не прасіла спецыяльнага дазволу на якое-небудзь святкаванне ў пакоі. Такі дазвол патрабаваўся, калі госці хацелі затрымацца пасля дзесяці гадзін вечара.

— І мужчыны будуць? — асцярожна спытаў ён у Марліс Хасэ, калі тая нядаўна аб'явіла, што будзе адзначаць дзень нараджэння. У адказ яна так развесялілася, што яму давялося доўга міргаць, перш чым ён зразумеў: да гэтай справы трэба падыходзіць неяк інакш, калі хочаш лічыцца далікатным і недакучлівым. Але ж штабсцальмайстар заўсёды патрабаваў дакладных звестак. Каб гэта залежала толькі ад

Лабана, то няхай бы дзяўчаты святкавалі кожную суботу. Бо што ім заставалася ад іх лепшых гадоў у гэтай д'ябальскай вайне? Жаніх у лагеры для інтэрніраваных у гатэнтотаў, каханы на фронце, брат або бацька, магчыма, у неграў у Афрыцы ці недзе паміж небам, зямлёй і вадой. Танцаваць нельга! Прыгожых сукенак няма! Той, хто з дому нічога не атрымліваў — а такіх была большасць, — у пірог да дня нараджэння замест тлушчу клаў абіраную бульбу і цёртую моркву, аўсяныя шматкі, сахарын і парашок, падобны да апілак. Ён павінен быў замяняць яйкі. Каля дзесяці гадзін вечара ў некаторых пакоях рабілася вельмі шумна, у іншых — вельмі ціха. Ён, Лабан, быў абавязаны прайсці па калідоры і папярэдзіць. Тым, у каго не было спецыяльнага дазволу, трэба было канчаць. У дзверы, за якімі было падазрона ціха. Ён вельмі неахвотна стукаў. Але запіс у яго журнале сведчыў, што тут у гасцях яшчэ быў мужчына, значыць — трэба было. Побач, у інтэрнаце Карал, рэжым быў больш строгі. Але дзяўчатам службы ваеннай дапамогі і патрэбна была больш цвёрдая рука. Аб гэтым клапацілася начальніца дзяўчат у сялянскіх чаравіках.

Лабан лічыў правільным, што ў Доме Зээштэрн не было начальніцы. А нашто тады ён? Ён добрасумленна клікаў усіх да тэлефона, каб не зрываліся спатканні, і ён жа штодзень выдаваў бітон малака. Дробныя непаладкі ён пераносіў моўчкі. Ён велікадушна дараваў Эдзіт Кнор, якая прымала госця, што запісаў у журнале ў калонцы, да каго ён прыйшоў: «Суп». Прайшоў нейкі час, і Лабан мусіў добра праміргаць, пакуль да яго дайшоў жарт наконт Кнор, якая любіла булён.

Ён часта абараняў свой «дзявочы пансіянат» ад кпінаў пляменніцы-Ханы. Сёння яна абяцала яму прынесці вэнджанай рыбы. Яе бацька, яго стрыечны брат Пэплаў час ад часу, атрымаўшы якую скрынку свежай рыбы ад сяброў-рыбакоў з таго берага рэчкі, тайна вэндзіў яе ў невялікай бочцы. Яго ўласны рыбацкі промысел заняпаў. Яго таксама праглынуў завод. Ён павінен быў ноччу абыходзіць з вартавымі сабакамі тэрыторыю Жахлівы абавязак! Лабан лічыў, што яго праца ў цёплым вахцёрскім пакоі Зээштэрна куды лепшая.

Хана доўга не жыла дома. У Штральзундзе і у Ростаку яна была служанкай у карабельных маклераў, потым яна недзе вучылася. Як ёй гэта ўдалося, адзін д'ябал ведае. Яна была надзелена незвычайнай энергіяй. Калі пачалася вайна, яна вярнулася. Усе здзівіліся, бо раней яна рвалася з Вострава з усёй сілы. Хану было цяжка зразумець. Яна была маўклівая і занадта сур'ёзная на свой узрост. 24 гады! Яе стараннасць прывяла яе ўжо ў аддзел кадраў.

Лабан пачуў, як яна паставіла веласіпед да сцяны дома. З балкона верхняга паверха ён крыкнуў ёй:

— Ідзі, дзяўчына, наверх, я якраз раздаю пошту.

Калі Хана паднялася. Ён стукаў у дзверы пад нумарам 37. Пісьмо палявой пошты, якое ён трымаў у руцэ, было адрасавана «фройляйн Эве Леангард». Лабан пастукаў яшчэ раз, мацней. Ён ужо бачыў раней, што новенькая бегала тут, накінуўшы на плечы чырвоны халат. Вось ён і хацеў парадаваць яе пісьмом. Ён заўсёды шкадаваў дзяўчат, якім даводзілася ісці ў начную змену. Ён ведаў, што такое начное дзяжурства. Для яго на маяку гэта азначала: цяжкі мяшок, нацягнуты на галаву ўсяму свету. Або пачуццё, што ты адзін на ўсім свеце. Неба зацягнуў. Адзінокая каморка ў вежы, над табой — манатонны шум рэфлектараў, якія круціць матор — сэрца вежы; пад табой — прыбой; вакол — вецер і кажаны. Ён, мусіць, і не здзівіўся б, каб аднойчы сонца забылася ўзысці. Такая бясконцая ноч магла быць на гэтым малюсенькім востраве, які нават не называлі востравам, а астраўком, і які на карце Германіі быў не большы за галоўку шпількі.

Ён злёгку націснуў на ручку дзвярэй пакоя 37. Хана стаяла ў яго за спінай.

— Хто тут жыве? — спытала яна.

— Фройляйн Хасэ з новенькай. — Ён даў ёй прачытаць прозвішча на пісьме.

Дзверы падаліся. Пакой быў пусты. Ён паклаў пісьмо на нізкі столік. З таго часу, як пасялілася новенькая, над ложкаім-тахтой вісела карцінка — фігура голай жанчыны на каменным цокалі. І менавіта ў гэтым пакоі часта ў гасцях былі мужчыны! Лабан паказаў на карцінку.

— Як ты знаходзіш?

Азіраючыся ў чужым пакоі крыху баязліва, Хана сказала:

— Гэта Кольбэ.

— Гэта — мастацтва? — Лабану з яе слоў пачулася адабрэнне.

— Мастацтва фатаграфіі.

Хутка аглядаючы пакой, яна пазнала маленькі нацюрморт Дзюрэра, галаву бомбергскага рыцара, і акварэльны пейзаж. Яна хутка выйшла з пакоя, хоць дзядзька хацеў бы яшчэ пагуляць у экскурсавода.

Да ваеннай казармы гэты дом быў сапраўды не падобны. Такімі рэчамі пакой можна было абставіць утульна. Нягледзячы на стандартную мэблю, у кожнага пакоя было сваё аблічча. Дзяўчаты з нумара 37 размясцілі ложак-тахту такім чынам, што атрымаўся утульны куточак, дзе можна было пасядзець. Непазбежны гаспадарчы куток з посудам і запасамі харчу быў каля водаправоднай ракавіны, аддзелены ад кутка адпачынку камодай. Хана прыпомніла сваю

вузкую каморку пад дахам бацькавай рыбацкай хаты, дзе можна было спаць — і не больш. Не дзіва, што жыхаркі гэтых інтэрнатаў хутка згадзіліся на абавязковую службу і падоўжаны працоўны дзень. Хана ведала, што гэта значыць — мець добрае жытло. У карабельнага маклера у Ростаку — гэта было яе першае рабочае месца — яна павінна была спаць у дашчанай бакоўцы ля кухні, дзе замест акна было верхняе святло ў сенцах. Гэта і было галоўнай прычынай, чаму яна хутка звольнілася. Гэтыя дзяўчаты будуць старацца тут, на заводзе. Яна, Хана, таксама добра працавала. Для яе было выключна важна прабіцца з пасады цэхавай перапісчыцы ў аддзел кадраў. Толькі такім чынам яна магла атрымаць Дан кладнае ўяўленне пра структуру завода. Д-р Бэр адразу ацаніў яе дакладнасць у працы. Заўтра яна паглядзіце дакументы новенькай, што пасялілася ў 37 пакоі.

З кухні ў калідор пацягнула чадам.

— Нешта гарыць! — Хана пабегла.

Гаршчок з падгарэлай рысавай кашай на малацэ

стаяў побач з фаеркай электрапліты. З-за спіны Лабана з'явіўся разгублены твар Эвы Леангард. Яна бездапаі можна глядзела на пахудзелы рыс, сарамліва пазіраючы на Хану, з якой не была знаёмая.

— Я толькі на пару хвілін прылегла на сонейку, сказала яна, нібы просячы прабачэння. У руках яна нерашуча трымала гаршчок.

— Выліце. Гэтага вы ўжо не будзеце есці.

Калі Эва з пустым гаршком вярнулася ў кухню, Хана была адна.

— Засталіся, значыць, без полудня.

— Ага.

— А сёння зноў начная змена... Я дастала свайму дзядзьку вэнджанай камбалы. Хочаце парачку? Яму хопіць.

Яна прамовіла гэта коратка і не вельмі пачціва, тонам, які адразу выключаў залішнія словы ўдзячнасці.

Эва збянтэжана сказала:

— Гэта вельмі міла.

Скура камбалы была, як лайка. Эва яшчэ ніколі не ела такой выдатнай вэнджанай рыбы. Яна была зусім свежая — толькі з дыму. Эва ела з вялікай асалодай, прыкусваючы сухім хлебам. Апошняя вяндлярня ўнізе, у вёсцы, не прадавала рыбы прыватным асобам. Нешта падобнае траплялася рэдка. Адна толькі Кайзерка ўмела «раскалоць» свайго падпалкоўніка на вугроў таўшчынёй з руку, бо ён забяспечваў казіно вэнджанінай.

Эва пашукала паперы на косці. Пад рукі ёй трапілася пісьмо. Яно было ад Хартмута Ведэльштэта. Яна не магла адразу распячатаваць яго, бо пальцы былі тлустыя. ёй хацелася крыху адцягнуць

чытанне. Магчыма, прычынай было нячыстае сумленне. Нават Говер здзівіўся: «У вас жа няма пярсцёнка». Відаць, Густль пахваліўся яму сваім зводніцтвам. Канечне, зводніцтва, як яшчэ назваць гэта.

— Чым раней ты зменіш сваё дзявочае прозвішча, тым лепш для цябе, — гаварыў Густль Швентмайр, яе айчым. — Як фраў Ведэльштэт ты — недатыкальная.

— Але Хартмут, — адказала яна, — ён павінен усё ведаць.

— Я скажу яму сам. Перад вашым вяселлем. Зразумела? — Так катэгарычна ён ніколі з ёю не гаварыў. Аднак потым, пераходзячы на мяккі аўстрыйскі дыялект. Ён дадаў:

— Ён утрэскаўся ў цябе. Акрамя таго. Ён мне абавязаны.

— Чым?

— Гэта мужчынская справа. Ты павінна заставацца толькі Эвай. — Яна нібы ўбачыла яго перад сабой, як ён засмяяўся са свайго жарту. — Ты ж гэта ўмееш выдатна.

Камбалу яна з'ела. Тая была вартая больш чым падзякі. Эва вынесла косці і памыла рукі. Паволі. У роздуме.

«Цяпер пісьмо», — падумала яна.

Яна выцягнулася на ложку, які скручанымі коўдрамі ля сцяны быўператвораны ў тахту. Шэрая паштовая папера шамацела. Зроблены алоўкам малюнак у левым верхнім кутку быў ёй яшчэ адным удалым сюрпрызам: два салдаты, паўголыя, палююць на клапоў каля ложкаў у казарме. «У наступным лісце я змагу прыслаць табе злоўлены сваімі рукамі соты экземпляр», — пісаў ён. Афіцэрскае жытло здавалася не вельмі камфартабельным. Настрой у яго, відаць, быў нядрэнны, хоць яго часць «усё яшчэ ў чаканні выступлення, ліхаманяць надыходзячыя падзеі. Калі ж мяне ўсё-такі пашлюць на курсы (адзін з нас, лейтэнантаў, павінен трапіць туды), тады зрабі, калі ласка, усё магчымае, каб мы яшчэ ўбачыліся. Магчыма, у Берліне. Я тайна нашу тваю фотакартку, як сцяг перад сабой...».

У Берліне... Берлін быў не вельмі далёка. Канечне, яна з'ездзіць. Было б подла — не выканаць гэтага жадання франтавіка. Толькі з-за фотакарткі і сцяга! Было так міла, калі архітэктар выказваўся паэтычна. Любое жаданне франтавіка магло быць апошнім. Праўда, пра Хартмута такое і думаць нельга было. Ён хацеў пасля вайны стаць першым архітэктарам фюрэра. Манументальныя будоўлі фюрэру! Але Хартмуту шмат чаго хацелася. Пасля паходу ў Францыю, трапіўшы ў дом яе бацькоў. Ён трыумфаваў:

— Першага мая наступнага года мы зробім парад на плошчы Адольфа Гітлера ў Лондане!

Нядаўна ён пісаў: «Крымскі паўвостраў з яго субтрапічным

кліматам хутка будзе любімым месцам у нашых турыстаў».

У аптымізме Хартмута было нешта пераможнае, што спачатку брала яе ў палон. Ён праходзіў службу ў аўтамабільных часцях. Густль Швентмайр, тады яшчэ яе свежаспечаны айчым, быў дырэктарам экспедыцыйнага аб'яднання і па службе меў справы з гарнізонам. Калі Эва ў першыя канікулы прыехала да маці з Лангенбрука, прасторны дом Швентмайраў быў як прахадны двор. У параўнанні з ім дзядулева прадпрыемства па гандлі лесам у Лангенбруку было інтэрнатам для пенсіянераў. Хартмут Ведэльштэт, унтэр-афіцэр і рэзервовы кандыдат у афіцэры, стаў самым частым госцем. Праз восем дзён пасля прыезду Эва, ідучы спаць, застала сваю зводную сястру, чатырнаццацігадовую Штэфі, усю ў слязах.

— Ён прыходзіць толькі да цябе, — румзала малая. — Раней ён так часта тут не бываў. А мяне ён наогул больш не заўважае.

Нягледзячы на гэтую рэўнасць, ад якой яна яшчэ доўга не магла пазбавіцца, Штэфі заставалася непарушная ў сваёй замілаванай прыхільнасці да старэйшай на тры гады зводнай сястры. З мацярынскай пяшчотай сталейшая Эва думала пра дачку Густля, якая засталася ў яго ад першай жонкі. Яна жыла цяпер з бацькамі ў Познані і ад працоўнай павіннасці адкруцілася «працай на ўсходзе». Канечне, гэта ўладзіў Густль. Ён ведаў усе патайныя хады і ўмеў выкарыстаць любыя дзіркі ў законе. Як заядлы «стары змагар» аўстрыйскіх нацыянал-сацыялістаў ён лічыў — на свой густ — такія-сякія меры ў «старым рэйху» занадта «прускімі». Што датычыць яго, то ён імкнуўся прывесці да аднаго свой дэвіз «жыві і давай жыць іншым» з часта процілеглымі поглядамі сваіх партыйных таварышаў. У таго-сяго, хто яго ведаў. Ён карыстаўся пэўнай свабодай дзівака, іншыя дзівіліся з яго гнуткасці і спрыту, яго ўменню выдаць чорнае за белае. Да яго паклоннікаў належаў Харпмут Ведэльштэт. Дачка другой жонкі Швентма Гіра — якія тут маглі быць пытанні? ён кахаў яе. І яны адкрыта заручацца, калі ён адслужыць свой тэрмін.

Эва ўстала, крыху здранцвелая ад ляжання. Якраз цяпер мелася спакойная хвіліна, каб адказаць на пісьмо. Той, хто піша праз палявую пошту, заўсёды чакае хуткага адказу. Але не было ахвоты. Не цяпер. Трэба было выкарыстаць надвячорак. Сонца свяціла. Паміж дзюн, пэўна ж, зацішна. Вясновы загар павінен брацца тут асабліва добра. Як цудоўна ўлегчыся там, дзе яшчэ два тыдні назад ляжаў снег. Дачнікі на ўвесь год!.. Востраў — цудоўны. Дзе тая вайна? Трэба хуценька заплюшчыць вочы — сонечнае выпрамяненне вельмі моцнае над светлым пяском — і тады знікае адчуванне напрамку.

Але гэта цягнецца толькі секунды. У левае вуха, як далёкі рык,

праз роўныя прамежкі часу ўрываецца грукат. Паветраная лінія — каля дзвюх тысяч метраў. Эва ведае гэты гук. Аэрадынамічная труба дзейнічае. Дзённая змена працуе. «Салдата можна прымусіць пачакаць, — думае яна, — калі не хочацца пісаць словы «палявая пошта» і «лейтэнант». Але рык паміж сосен — ён заглушае нават шум прыбою. Ён камандуе мной. Я не зняла гадзіннік, каб не спазніцца, хоць на руцэ і застанецца белая палоска. Я мушу своечасова прыйсці на змену. А4 — патрабавальны. Складаная істота. Кажуць, што ў японцаў ёсць аднамесныя тарпеды. Японцы настолькі не баяцца смерці, што садзяцца ў такі снарад і кіруюць на мэту ў поўнай свядомасці, што самі загінуць... Магчыма, А4 — нешта падобнае? Ці гатовы на гэта Хартмут, які хоча праявіць сябе? Або Марцін Уліг, лётчык-выпрабавальнік? Тут не спадзявайся на лаўры славы, тут чакае смерць».

Аж не верылася, як непрыемна ўрываецца ў цішыню гэты грукат аэрадынамічнай трубы, які паўтараецца і паўтараецца. Кожны раз уздрыгваюць вейкі. Ці застаўся яшчэ ў Германіі куток, дзе можна забыцца пра вайну?

## 5
## БЫЛО Б ЦУДОЎНА УСЁ НА СВЕЦЕ, КАЛІ Б КАХАННЯ НЕ БЫЛО

Эва назірала, як Марцін Уліг некалькі разоў падыходзіў да дзвярэй, мусіць, каб пагледзець, ці ела яна. Ён чакаў яе непадалёк, у чырвоным клубным пакоі. Хоць яна і ведала гэта, ёй не хацелася пакідаць невялікую кампанію, з якой яна святкавала заканчэнне серыі выпрабаванняў. Людзі ахвотна знаходзілі падставу, каб пасля працы пасядзець недзе разам — у казіно ці на прыватнай кватэры. Пастаянных кампаній не было, аддаваліся на волю выпадку. Сёння праводзілі вечар з тымі, з кім працавалі дзень, заўтра здараліся новыя людзі. Завод пракаўтнуў некалькі тысяч чалавек. Тут людзі былі згуртаваны, як каманда на караблі. Востраў быў звязаны з мацерыком толькі тонкай пупавінай, а абавязак маўчаць у размовах з недасведчанымі яшчэ узмацняў «астраўное пачуццё». Што ж заставалася? Разам працавалі, разам адпачывалі, разам сварыліся Лаялі галоўным чынам Востраў, дзе кожны, хто хоць кроплю цаніў сябе, даводзіў, што ён тут супроць волі.

— Дузэ, я заказваў «зорку Вострава», а не рыбны салат, — інжынер-выпрабавальнік выгаворваў афіцыянтцы. Накручаныя рэдкія белакурыя валасы самай маладой афіцыянткі, яе вастраносы профіль і схільнасць да стракатых блузак і хустак навялі жартаўнікоў на думку

параўнаць яе з какаду. А дасціпнік, у якога на тумбачцы ляжалі кніжкі Рынгельнаца, Рота і Эндзіката, зрабіў з гэтага «Какадузэ». Засталося, для прастаты, Дузэ. Так вось атрымалася, што самая дурная афіцыянтка у казіно насіла славутае імя вялікай італьянскай камедыйнай актрысы. Адзін з парадоксаў гэтага вострава.

Прынёсшы, як было заказана, «зорку Вострава» — смажанае яйцо на скрыліках каўбасы — Дузэ пырхнула да стала старшых афіцэраў. Там гаспадарыла адзіная жанчына — Кайзерка. Яна сапраўды гаспадарыла. З паважнай мінай яна адаслала Дузэ пагардлівым жэстам. Калі разгубленая дзяўчына з распушчаным колцам валасоў над вухам дробным крокам пабегла ад іх стала, штабсцальмайстар Фарланд, кіраўнік вытворчай чыгункі, голасна зарагатаў. Ён сядзеў каля Кайзеркі і, здавалася, быў зачараваны недасягальнасцю сваёй суседкі. Капітан Говер ;на другім канцы стала скрывіў твар. Не вялікае геройства здзекавацца з праставатай дзяўчыны... За суседнім сталом ёй знайшлі больш зычлівыя інтанацыі.

— Ты малайчына, Дузэ, што прыберагла мне порцыю судака! Але твой рахунак — няправільны.

«Доктар», мужчына гадоў трыццаці, падаў дзяўчыне грошы.

— Ну добра, лепш запісвай.

Пакуль дзяўчына чыркала ў блакноціку, Доктар ужо зноў паглыбіўся ў размову з таварышам за сталом, стрыманым пажылым прафесарам з густымі цёмнымі валасамі і чорнымі вусікамі над верхняй губой. Ён раз-поразківаў, слухаючы імклівую плынь слоў маладзейшага субяседніка, або нешта чарціў відэльцам на сурвэце, а Доктар, які еў марынаваныя слівы, забіваў свае дапаўненні відэльцам у накрухмаленае льняное палатно.

Вучоныя сядзелі за доўгім, накрытым белай сурвэтай сталом, і нікому не прыйшло б у галаву далучыцца да іх, бо кожны ведаў: гэтыя два спраўныя едакі, перабіраючы з пачатку да канца меню, выдавалі ідэі, якія заўтра або паслязаўтра могуць адкрыць новыя шляхі праграме распрацовак. Адзін — стары тэарэтык, спакойны і раздумлівы, які, як гаварылі, нярэдка спаў на паходным ложку ў сваім кабінеце, жыццё якога ўжо некалькі гадоў відавочна праходзіла ў прамежку: кабінет — казіно. Другі — зусім малады практык, якому патрабавалася больш прасторы для нараджэння ідэй і экстравагантных мэт — і для яго самалюбства.

Эва разглядала абодвух непрыкметна. Не трэба было доўга жыць на Востраве, каб даведацца, што гэтыя два розныя чалавекі былі галоўнай апорай праграмы А4. Яна была ўпэўнена, што, выпадкова падслухаўшы іх, не зразумела б ніводнага сказа з іх размовы. Хто яны

былі, гэтыя два? Вынаходнікі? Мастакі сваёй справы? Бацькі А4!

З аддаленага бакавога пакоя данеслася музыка раяля. Марліс Хасэ, якая сядзела за сталом побач з Эвай, паднялася. Яна сказала Эве:

— Доктар Бэр іграе сёння вечарам. Яму падабаецца, калі я слухаю. Пойдзем са мной. Хочаш?

Эва са шкадаваннем паціснула плячыма і глянула на дзверы ў другі пакой. Марліс зразумела. Яна, праходзячы, павітала Марціна Уліга і пайшла туды, адкуль даляталі гукі музыкі.

Марцін Уліг ведаў, што ён ніколі не навучыцца хаваць дрэнны настрой. Дзяўчына прымушала яго чакаць даўжэй, чым гэта было неабходна. У чырвоным клубным пакоі ён паспрабаваў прабавіць час, чытаючы газеты. Але яго раззлаваў напышлівы тон, якім «Дас Рэйх» паведамляла пра паветраную вайну. Газетчыкі рабілі выгляд, быццам цудадзейная зброя ўжо ў іх сейфе. Потым ён паспрабаваў пазбыцца злосці і звярнуўся да незнаёмай маладой дзяўчыны. Першае, што ён пачуў ад яе, была навіна, што серабрыстую лісіцу, якая была ў яе на касцюме, яна атрымала ад свайго брата з Нарвегіі.

Яшчэ адна прычына злавацць. Другія пасуцца на чужых пашах і збіраюць каштоўнасці Еўропы. А тут сядзіш на Востраве і ўжо год, як відаць, топчашся на месцы. Бэр, высокі, шыракаплечы, таксама прайшоў праз пакой. Ён кіўнуў яму з такой усмешкай, быццам дакладна ведаў, каго ён тут чакае. Потым Бэр схаваўся за дзвярыма, каб заняцца музыкай.

Уліг злаваўся. Злаваўся таму, што ён нічога не разумеў у музыцы. І наогул на сябе. За тое, што ён сядзеў тут і чакаў дзяўчыну, імя якой было менавіта Эва Нядаўна, капаючыся ў кнігарні. Ён знайшоў кніжку. Яна пачыналася сказам: «Было б цудоўна ўсё на свеце калі б кахання не было». Ён купіў кніжку толькі за гэты сказ... Але ж і асёл ты. Ды ў гэтым вінаватае астраўное шаленства. Зашмат бачыш вартавых, зашмат калючага дроту. А цяпер яго ўжо папярэдзілі наконт шпіёнаў. Калі б ён не садзіўся праз кожныя два-тры дні ў самалёт. Ён бы звар'яцеў тут. Трэба было неяк зноў выбрацца на паляванне. На дзікіх качак. На «мысе» ёсць зусім зацішныя месцы, балаціны з чаротам у чалавечы рост. Яшчэ лепш было б, каб можна было праехаць на лодцы пад ветразем па рачной старане. Ён нагледзеў з паветра кавалачак сушы. Якраз побач з паўвостравам, які быў запаведнікам, павінны былі гнездавацца качкі. Сэрца ўзрадавалася б у яго старога гаспадара, калі б убачыў гэту зямлю. Але той сядзеў у Гесэне і кіраваў маёнткам нейкага франкфурцкага плутакрата.

Марліс Хасэ нечакана з'явілася перад ім і сказала:

— Яна зараз прыйдзе.

І пайшла, ветліва ўсміхаючыся яму, на гукі музыкі... Гэтага яму не хапала!

— Дузэ, рахунак! — Цяпер ён не хацеў чакаць ні хвіліны больш.

— Ты ідзеш? — Эва стаяла ў дзвярах, размахвала сумачкай і з цікавасцю пазірала на чарнабурку, якая варухнулася ў крэсле за Марцінам Уліга м.

— Мы ідзём,— падкрэслена прамовіў Уліг,— калі ты не маеш нічога супраць.

— Куды?

Ён чакаў яе ля дзвярэй, пакуль яна не пайшла за ім.

— Да мяне, — адказаў ён.

Срэбныя крылы над прырэчнай далінай!.. Срэбныя крылы над морам! Срэбныя крылы над Эйфелевай вежай, над пірамідамі, над Градчанамі! Буйназерневыя павялічаныя адбіткі, у драўляных рамках. Лётчыцкія здымкі над тахтой, паліцай, пісьмовым сталом: пакой лётчыка-інжынера. Чыста. Лёгкі пах ад вадкасці для валасоў. Ложак у алькове, кафляная ніша для мыцця, і тое і другое за занавескамі, куток пад чамаданы і маленькая прыхожая з адзеннем. Зручнасці сучаснага халасцяцкага жытла.

— Уладкоўвайся. — Злосць Марціна Уліга прайшла.

Эва не садзілася. Яна з цікавасцю хадзіла — то да здымкаў, то да стракатых занавесак, то да кніжнай паліцы, на якой у рад стаяла каля трох дзесяткаў кніг.

Ён паставіў шклянкі, прынёс ручнік і бутэльку. Паказваючы на кнігі. Ён сказаў:

— Тут ты не знойдзеш нічога асаблівага.

Яна пазнала даведнікі, кнігі па тэхніцы, кароткія англійскі і іспанскі слоўнікі і некалькі раманаў, у якіх у мностве варыяцый паўтараліся палёты, воблакі, зоркі і срэбныя крылы. У латунным кубачку ляжаў блакітны значок планерыста з трыма белымі крыламі ў срэбнай аправе. З гэтым значком на пінжаку ён упершыню звярнуў яе ўвагу на сябе.

Яна ўзяла з яго рук ручнік і працерла шклянкі. Ён адкаркаваў бутэльку.

— Хочаш есці? — пытаўся ён аднача сова. — Мы маглі б зрабіць імператарскія рубцы. Тут гэта хатняе блюда. Мае суседзі па пакоі — аўстрыйцы.

— Не трэба.

Ён прыпомніў, што ў яго ёсць яшчэ пірог.

— Віно самаробнае. Пірог таксама.

Ён разлажыў перад ёй свае прысмакі.

— Толькі восем дзён назад я быў дома. Лётаў у Дармштат. Адтуль — рукой падаць.

Яны сядзелі поплеч на тахце. Чокнуліся шклянкамі. Віно было залацістае. Яго смак крыху напамінаў бардо, якому аддаваў перавагу Густль Швентмайр. Яна адкінулася. Ён клапатліва паклаў ёй пад спіну падушку. Яна ела кавалак пірага. Ён расказваў пра палёты, пра заняткі планерызмам яшчэ ў студэнцкія гады. Яго дыпломнай работай была распрацоўка новага тыпу планера. Потым ён пачаў лётаць на маторных. Іспыты адзін за адным: ад A1 да C2 — і пасведчанне на сляпыя палёты. Камандзірам палёту — мэта — ён пакуль не стаў. Толькі не ў вайсковай форме. Не! Калі ты нешта значыш, пазалота гэтая не абавязковая. Не хацелася, каб цябе вылучалі за знешнасць ці за ўзрост, хацелася — каб за майстэрства.

Гэта ёй падабалася. Ён падсунуў ёй плітку шакаладу. Гаркава-салодкі, даўно не каштаваны. Яна падзякавала позіркам. Кусала з асалодай.

— З апошняга палётнага снедання. Я зберог яго табе.

— А што азначае палётнае снеданне?

— Спецпаёк. Калі мы ляцім вышэй за сем тысяч метраў.

Сем тысяч! Яна паглядзела на яго шырокімі вачыма. Ён адмахнуўся.

— Семдзесят больш небяспечна, чым сем тысяч. Але наверсе бываюць такійскія нагрузкі, кіслародны апарат і г. д. Вось чаму. — Ён зноў напоўніў шклянкі.

— Табе падабаецца?

Ён падаў ёй шклянку ў руку, каб не вымушаць уставаць, і зноў асцярожна забраў яе. Потым схіліўся над ею, і яны пацалаваліся. Калі Эва расплюшчыла вочы, яна ўбачыла блізка перад сабой яго твар з кантаватым падбародкам, а за яго чупрынай — самалёт «юнкерс» над Эйфелевай вежай.

— Я ніколі яшчэ не лётала, — сказала яна. — Можаш сабе ўявіць?

Ён усміхнуўся. Усё яшчэ зусім блізка ля яе.

— Кам можна было, я б неадкладна ўзяў цябе з сабой. — І ён яшчэ раз пацалаваў яе.

На гэты раз яна занепакоілася і стала няўпэўнена супраціўляцца... Пра Эйфелеву вежу ёй расказваў Хартмут. Яна ўсё яшчэ не адказала на яго пісьмо...

Калі Марцін адпусціў яе, яна хуценька ўстала. Выпрасталася і паправіла валасы.

— Вар'яцкая вайна, — сказала яна. — Усё забаронена. Толькі і чуеш: пасля канчатковай перамогі. Калі тое будзе?

Ён пацiснуў плячыма. Яна здалася яму прыгнечанай, і ён спытаў:

— У цябе там ёсць хто-небудзь? На фронце?

Яма хвіліну памаўчала. Потым узняла галаву і глянула на яго.

— Я — заручаная.

Ён секунду-другую разглядаў яе з недаверам, і здавалася, што яму хочацца пасмяяцца з гэтай выдумкі. Але рот над моцным падбародкам дарэмна спрабаваў скласціся ў саркастычна-ганарыстую ўсмешку.

— Ах! — сказаў ён нарэшце.

У яе нешта замітусілася ў вачах. Відаць, ад віна.

— Ты мне не верыш?

— У цябе ж няма пярсцёнка.

— Гэта яшчэ нічога не значыць. Хартмут верыць і так, што я чакаю яго.

— Гм-м.

Яна зрабіла бездапаможны жэст, які ён не ўбачыў, бо ўжо ўстаў. Ён закурыў сігарэту.

— Яшчэ шклянку віна? — спытаў ён, не гледзячы на яе.

— Не, дзякуй. Мне здаецца, я ўжо п'яная.

— Не падобна. — ён пайшоў і ўключыў радыё. Спачатку пачуўся трэск, потым маршавая музыка. У адно імгненне яна была побач з ім, пакруціла ручку назад. Лямпачка на шкале патухла. Ён здзіўлена глядзеў на дзяўчыну зверху ўніз. Эва была на паўгалавы ніжэйшая за яго. На яе твары адлюстравалася ўсё тое, што спрадвеку застаецца загадкай для мужчын. Яе вочы гаварылі яму, што ён дурань, слон у пасуднай краме. Ён затаіў сваю бездапаможнасць, засмяяўся кпліва.

— Дык чаго ты хочаш? Нашай размове канец... У гэтай сітуацыі...

— Так, — перабіла яна яго, — у такой сітуацыі, канечне, няма размовы паміж намі. Тады... тады лепш дапамажы мне апрануць паліто.

Яе голас ужо страціў цвёрдасць. Калі ён падышоў, яна ўжо закруціла шалік. Ён накінуў на яе паліто, як накідку, правёў далонямі па яе руках, амаль прыціснуўшы іх да яе цела. Яму хацелася сказаць: «Ты не застанешся?» Але ён сказаў: — Пайшлі.

Яна нічога не адказала. Ён не ведаў, ці не лепей было б вымавіць іншае, і міжволі зноў прыпомніў першы сказ у кніжцы на яго тумбачцы:

«Было б цудоўна ўсё на свеце, калі б...» Калі яны выйшлі з дому. Ён узяў яе пад руку. Зірнуў у начное неба. Магчыма, заўтра будзе нялётнае надвор'е. Раніцай нізкі туман, дрэнная бачнасць. Але трэба будзе ляцець... Ён заснуў у гэты вечар раней, чым сам спадзяваўся.

## 6
## МУЖЧЫНЫ І ДЗЯЎЧАТЫ

— Цудоўна, што ты знайшла хвілінку для мяне, Марліс. З учарашняга дня я — саламяны ўдавец. Сёння мяне нішто не цягне дадому.

— Кэтэ паехала ў Дрэздэн?

— Паехала, з дзецьмі. У служанкі водпуск. Уся кватэра як вымерла.

Інжынер Хайнц Брэтшнайдэр сядзеў у сваім кабінеце перад стосам папер. У яго быў такі выгляд, быццам ён намерыўся працаваць да поўначы. Яго кузіна Марліс Хасэ сядзела перад ім у крэсле і курыла. Ён адчуў на сабе яе заклапочана-запытальны позірк і правёў рукой па твары.

— Ты выглядаеш змораным, Хайнц, — сказала яна. — Табе таксама трэба было паехаць, бацькі ўзрадаваліся б.

— Няма як. — ён без разбору выхапіў паперку са стоса. — Вось. Цяпер мне навесілі на шыю яшчэ і кадры. Доктар хоча, каб я асабіста рабіў яму прапановы. Яму патрэбны некалькі асабліва надзейных людзей для важнай серыі выпрабаванняў. Магчыма, ты можаш мне ў гэтым дапамагчы?

— Калі гаворка ідзе пра жанчын...

— Так, пераважна. Ты добра ведаеш фройляйн Пюшэль?

Марліс адказала, запнуўшыся:

— Не вельмі. Яна прыехала з імперскага жаночага кіраўніцтва. У палітычных адносінах яна, канечне, бездакорная. А прафесійна? Ты ведаеш, Хайнц, меркаванне партыйнага кіраўніцтва, што нацыянал-сацыялісцкая перакананасць павінна стаяць над прадукцыйнасцю, калі-нікалі праяўляецца даволі адмоўна. Вось яшчэ прапанова: вазьмі Эву Леангард.

— Тваю таварышку па пакоі?

— Так. Яна вельмі добра спраўляецца з работай і ўмее прыжыцца ў калектыве.

— Я ўжо чуў гэта ад Кламта. Яна добра працуе на аэрадынамічнай трубе... І ўсё ж не хацелася б браць яе на гэта спецыяльнае выпрабаванне. — Позірк Брэтшнайдэра блукаў з асабовых спраў на кузіну і назад. Здавалася, што яму не хочацца кранаць гэтай тэмы.

Але дапытлівы позірк Марліс не адпускаў яго.

— Я думаў, што ты ўжо ведаеш... — нарэшце вымавіў ён.

— Пра што?

— Яе бацька жыве ў Амерыцы.

— Штосьці яна намякала пра гэта. Ці гэта так дрэнна?

— Ён напалову яўрэй. Гэта відаць з яе анкеты.

Марліс патушыла сігарэту і пастаралася выглядаць не вельмі здзіўленай.

— Тады яна — яўрэйка на чвэрць. — Пасля паўзы яна працягвала: — Эва была на працоўнай павіннасці. Яна — прыстойны чалавек. Ва ўсякім разе, такая ж надзейная, як і сотні іншых.

— Усё гэта, можа быць, і так. І ўсё ж для Вострава яна — выключны выпадак пры нашых строгіх інструкцыях адбору. Не ведаю, пра што думаў капітан Говер.

— Говер знаёмы з яе айчымам. Той — выхадзец з раёна Штархемберг. Цяпер ён у Познані. Нейкая шышка пры імперскім намесніку.

Брэтшнайдэр адмахнуўся. Ён не прымаў доказаў v абарону.

— Дай мне спакою з аўстрыякамі. Яны менш за ўсё дапамогуць нам выйграць вайну. А выйграць трэба! Ужо паўсюдна адчуваюцца цяжкасці — з людзьмі і матэрыялам. Нам трэба пабудаваць завод. Нам насядаюць на пяты. Галоўнае камандаванне сухапутнай арміі і міністэрства ўзбраення. А4 павінен быць нарэшце запушчаны ў вытворчасць. Потым нам патрэбны зёніткі, каб абараняцца... Ты ведаеш, куды сёння вылецелі Доктар з генералам? У галоўную стаўку фюрэра! Выкліканы на даклад!

Марлю здзіўлена выпрасталася ў крэсле. У клопатах вытворчага кіраўніцтва яна была дасведчаная, як ніхто са служачых. Стрыечны брат уладкаваў яе на Востраў неўзабаве пасля таго, як сам замацаваўся тут. У той час яны абодва былі такія ружовыя аптымісты, што верылі: вайны можна пазбегнуць, калі добра ўзброіцца. Хайнц Брэтшнайдэр з самага пачатку давяраў ёй. Гэта было тым натуральней, што прадпісанне ахоўваць тайну патрабавала не гаварыць пра справы прадпрыемства нават у сям'і — з мужам або жонкай. Марліс вельмі добра ведала, за што ішла барацьба ўсе гэтыя гады: за прызнанне праекта А4 найважнейшай ваеннай распрацоўкай, за ўключэнне яго ў больш высокую ступень тэрміновасці. Гэта азначала: лепшае забеспячэнне матэрыяламі, больш людзей, вызваленне важных спецыялістаў для доследнай работы. Цяпер наступіў важны момант: даклад у Гітлера! Яна спытала:

— Ты сабе нічога не чакаеш ад гэтага?

Засунуўшы рукі ў кішэні. Ён хадзіў па пакоі.

— Це шмат. Апошняе рэагаванне на нашу справаздачу расчаравала нас. Або нас прымаюць усё яшчэ недастаткова сур'ёзна, або на самой справе так дрэнна з рабочай сілай. Інакш нам не пасылалі б «зебраў». Менавіта сюды!

Марліс страпянулася. Стрыечны брат палічыў, што патрэбны тлумачэнні.

— Нам прысылаюць зняволеных. Цэлы лагер. У старыя баракі ля гавані. Пад аховай эсэсаўцаў. Тузінамі, так сказаць.

Марліс абаперлася локцямі на калені і затуліла твар далонямі. Адмоўна хітаючы галавой, яна прамовіла:

— Гэта неверагодна.

Брэтшнайдэр зрабіў бездапаможны жэст.

— Часам сапраўды можна засумнявацца, ці бачыць фюрэр усю карціну. Мне здаецца, што ў яго дрэнныя дарадцы.

Ён зірнуў на гадзіннік, склаў паперы.

— У мяне ёсць білет на канцэрт у казіно. Цябе, відаць, не цікавіць наш кашэчы аркестр?

Яна адмоўна пахітала галавой і ўстала.

— Мяне гэта крыху адцягне ад усялякай лухты, а дома ж ніхто не чакае. — Ён старанна замкнуў паперы, большую частку — у сейф.

— Ты ж памятаеш, як мы тут пачыналі. Тое-сёе было тады даволі прымітыўнае і няўклюднае. Нейкі час у нас на ўсё прадпрыемства быў адзін-адзіны ножык, каб вастрыць алоўкі. Але мы адчувалі задавальненне.

Марліс здалося, што час той быў даўно. Няспешна яна ішла поплеч з ім уніз па лесвіцы. Праз якую хвіліну яна сказала, уздыхнуўшы:

— У той час вы марылі пра радыёстанцыі ў космасе. Запускі ракет на Месяц. Доктар мог па некалькі гадзін развіваць свае ідэі.

— Так, гэта адбывалася вечарамі ў сталоўцы, пакуль яшчэ не было казіно.

— Ён заразіў усіх нас сваёй апантанасцю. Я ганарылася, што маю да гэтага дачыненне.

— А сёння — ужо не?

Яна задумліва паглядзела на яго. З казіно чулася музыка. Заводскі аркестр іграў Вагнера. Марліс адказала няпэўна:

— Ідзі. Пачалося ўжо.

Калі ён узышоў на прыступкі ганка, яна села на веласіпед. Свяціў месяц. Фара не спатрэбілася...

Марліс так і не адказала на пытанне стрыечнага брата. Паволі круцячы педалі на асветленай месяцам шашы, яна спрабавала

знайсці адказ на «А сёння — ужо не?». У чым была прычына, што яе адносіны да працы на выпрабавальным прадпрыемстве змяніліся? Можа, з ростам прадпрыемства не павялічыліся яе задачы? Не сталі больш цікавыя? Змяніліся кіраўнікі, ведамі якіх яна захаплялася з самага пачатку?

Не ў гэтым была прычына.

Мэта — вось што было вырашальнае. Паступова яна зразумела, што ў назве «Ваенная доследная ўстанова» націск быў на першым слове. А з пачаткам вайны ён яшчэ больш узмацніўся. Яна з жахам бачыла, што амаль ніхто, акрамя яе, не здзівіўся гэтаму, і яна зразумела, што стваральнікі доследнай установы, Доктар і яго супрацоўнікі, якія да гэтага здаваліся ёй мірнымі касмічнымі першапраходцамі, яшчэ да вайны ведалі, чаму служыла іх праца. Яны аддалі сябе ўзбраенню ў поўнай свядомасці.

Хайнц Брэтшнайдэр сказаў, што інакш яны не маглі. Без фінансістаў яны б забуксавалі на пачатку ракетных доследаў. Але ці не ён жа гаварыў таксама, што любое вынаходства праб'е сабе дарогу, калі прыйдзе яго час?

Ці не быў прафесар найлепшым узорам вучонага, які нястомна праводзіць доследы? Ён зацікавіў касмічнымі даследаваннямі кінапрамысловасць. Яго артыкулы звярнулі на сябе ўвагу ракетных спецыялістаў усяго свету, а фантастычны праект пакарэння космасу ўцягнуў у дыскусію нават сур'ёзных вучоных. Маладзейшыя з запалам ухапіліся за яго кнігу, каб выкарыстаць яго вопыт. Як на эстафеце, яны, перахапіўшы палачку, агромністымі крокамі рванулія наперад. Яны ўхапіліся за першы шанец, які абяцаў ім славу. Яны баяліся будзённай працы і самаахвярнага існавання вучонага-даследчыка... Марыя Кюры пад павеццю ў парыжскім прыгарадзе вынайшла радый!.. Піянеры космасу гатовы былі паставіць на карту ўсе свае веды і ўменне — і не больш. Яны хацелі адкупіцца ад наканавання, што вісела над многімі вынаходнікамі. Трапіўшы ваенным на вуду, яны выбралі шлях найменшага супраціўлення.

Марліс ведала, што на пытанне стрыечнага брата яна ніколі не змагла б адказаць шчыра. Толькі адзін чалавек быў у яе жыцці, з кім яна магла размаўляць пра гэта.

— А можа, усё-такі ёсць магчымасць паведаміць салдату Аксэ, што я тут? — Голас Марліс, якая прасіла, не крануў яфрэйтара ў прахадной, ля ўваходу ў салдацкі лагер.

— Наведванні ў гэты час у лагеры забаронены, — прабубніў ён і спакойна пачаў лупіць селядца. — Акрамя таго, мне нельга адыходзіцца.

— Я і не думаю яго наведваць, — асмелілася запярэчыць Марліс. — Мне толькі трэба перадаць яму штосьці.

Раптам яфрэйтар паклаў нож на тлустую паперу, падскочыў і выцягнуўся. З лагера выходзіў оберцаль-майстар. Ён пачуў апошнія словы Марліс.

— Чаму вы не зробіце ласкі даме? — прыкрыкнуў ён на салдата. — Зараз жа пашліце па чалавека.

— Гер оберцальмайстар, у мяне няма нікога на пасылкі.

— Дык майце ласку пайсці самі.

— Але...

— Я пабуду пакуль што тут.

— Слухаю.

Калі салдат, зрабіўшыся раптам рухавым і паслухмяным, пабег да баракаў, оберцальмайстар з выклікам паглядзеў на Марліс. Позірк гаварыў: «Бачыш, як я ўмею?» Адначасова ён абцягнуў добра падагнаны вайсковы фрэнч.

— Мы ж знаёмыя, фройляйн Хасэ.

Марліс задумалася. Пастава маладога яшчэ оберцальмайстра была занадта прыкметная, паводзіны занадта самаўпэўненыя, каб яго можна было не пазнаць. Нядаўна ў салдацкай сталоўцы быў канфлікт. Жанчыны, што працавалі там, паскардзіліся ёй. У іх не было ні пакоя, каб памыцца, ні прыбіральні. У лагеры на больш як тысячу салдат гэта было невыносна. Калі яна, Марліс, занялася гэтай справай, на кухні ў сталоўцы з'явіўся оберцальмайстар Ханке і з такой натуральнасцю падтрымаў яе патрабаванні і прапановы, што яна спытала ў сябе, дзеля чаго ўвесь гэты шум. Але яна заўважыла і злосныя позіркі, якія кухонныя работніцы кідалі на гэтага чалавека. Тут адбывалася тайная барацьба паміж насмешкай і зняважай мужчыны цеснай еднасцю жанчын, чый гонар стаяў на карце, — сярод гэтых салдафонаў, што дзічэлі без дому, без культуры, без жанчын.

У час аднаго наведвання сталовай Марліс пазнаёмілася з Гербертам Аксэ. Калі яе місія ў салдацкім лагеры закончылася і яна перастала рэгулярна наведвацца туды. Ён аднойчы загаварыў з ёй на пляжы. Гэта было ў нядзелю раніцай, пляж быў бязлюдны. Яна зрабіла невялічкую прабежку і гімнастыку ў сваім старым сінім трэніровачным касцюме. Герберт Аксэ сядзеў на дзюне. Нягледзячы на вецер. Усё на ім матлялася, уся форма, якая, здавалася, нідзе не ляжала на ім як след. Але тут справа была, відаць, не ў каптэнармусе, а ў тым, што на гэтым чалавеку наогул ніякая форма не магла сядзець як след. Калі ён цяпер, у той час, як Марліс чакала яго каля прахадной салдацкага лагера, подбегам спяшаўся за яфрэйтарам, радасна

ўзбуджаны і здзіўлены, яна зноў перш-наперш заўважыла гэта матлянне і ўлавіла, з якім кплівым спачуваннем глядзеў на яго строга апрануты Ханке. Але ў таго хапіла такту развітацца з ёю раней, чым падышоў Аксэ.

Ён зрабіў гэта шматзначна-паблажліва:

— Жадаю цудоўнага вечара, фройляйн Хасэ.

З узнятай галавой, упэўнены, што добра забавіў маладую выхавацельку. Ён лёгка ўскочыў на веласіпед і паехаў, кіруючы да казіно.

Ад яго балбатні ў галаве ў Марліс нічога не засталося. Ёй было ўсё адно, што расфранчаны вайсковы чыноўнік урэшце дамогся, каб яго замянілі ў салдацкім лагеры. Цяпер ён будзе працаваць у казіно — правая рука падпалкоўніка Кельнера. Гэты чалавек, які б прывабны ён ні быў, не мог параўнацца з салдатам у выцвілай форме, у грубых ботах і з няроўнай кароткай вайсковай прычоскай. Ёй здавалася ўсё гэта страшным у Аксэ. Яна надавала выключнае значэнне добра скроеным касцюмам. Неахайная прычоска выводзіла яе з сябе. Яна лічыла вялікай трагедыяй, што Аксэ павінен быў бегаць у такім выглядзе. Ці зразумеў бы яе Хайнц, стрыечны брат, убачыўшы яе тут? Думка затрымацца каля лагера і паспрабаваць пагаварыць з Гербертам прыйшла ёй, калі яна няспешна ехала на веласіпедзе па прасёлку. Размова з Хайнцам усё яшчэ трывожыла яе. Эва была яўрэйкай. На колькі працэнтаў — не мела значэння. Вязні канцэнтрацыйнага лагера прыбывалі на Востраў... У Гітлера не хапала ўжо людзей. Тыя, хто выступаў супраць усяго, што тут рабілася, павінны былі сказаць сваё слова. Працаваць дзеля гэтага!.. Думкі Марліс замыкаліся. Упершыню яна спужалася адзіноты. Эва была на канцэрце. І не зусім дарэчы пачынаць гаворку з ёй менавіта цяпер. Але патрэбен быў чалавек. Таму яна і запынілася перад прахадной лагера.

Яны прайшлі да Зэештэрна, дзе яна пакінула веласіпед. Цяпер яны паціху ішлі па дарозе, што вяла пад аховай некалькіх радоў сосен паўз дзюны ля ўзбярэжжа — да мора. Маяк малюсенькага суседняга астраўка яшчэ не патух. Лётчыкі яшчэ не выляталі.

Герберт Аксэ быў на дванаццаць гадоў старэйшы за Марліс. Ён быў этнолаг. Этналогія не належала да тых навук, якія вызвалялі ад вайсковай службы. Выбраўшы правільны факультэт, можна было б каваць зброю, а не насіць яе. Як стрыечны брат Марліс. Але калі разважыць — і тое і другое было аднолькава дрэнна.

Герберт Аксэ так моцна паглыбіўся ў жыццё, што ўжо сам ,не ведаў, ці зладзіць з ім. Як з сямейнымі справамі, так і з вайной. Як з новым мастацтвам, так і са сваёй прафесіяй.

— Свету патрэбны новы збавіцель, — сказаў ён, — вызваліцель у

самым глыбокім значэнні гэтага слова.

Марліс цярпліва слухала яго меркаванні, якія здаваліся ёй дзіўна заблытанымі. Яны стаялі паміж соснамі, узяўшыся пад рукі, і назіралі за далёкім маяком. Аксэ, здавалася, лічыў секунды паміж успышкамі ліхтара. Ён сказаў:

— Чалавека трэба зноў вярнуць да таго, чым ён быў раней. Ён павінен прайсці шлях у сябе. З дапамогай новага мастацтва, новага выхавання, новых ведаў.

Марліс спрабавала думаць разам з ім.

— Адкуль усё гэта з'явіцца?

— Шмат што ўжо ёсць. Я прынясу табе кнігі.

Ёй захацелася дапамагчы яму, бо яна ведала, як ён пакутаваў ад свайго цяперашняга існавання. Таму яна сказала:

— Цвёрда верачы ў такое абнаўленне, ты перапрываеш і гэты час. Вайна не можа цягнуцца вечна.

— Але дастаткова доўга, каб мой брат аддаў богу душу ў Дахаў.

— Твой брат у канцэнтрацыйным лагеры?

— Ён занадта гучна прапаведваў наша вучэнне. Ён прапаведнік.

— Тут, кажуць, будуць выкарыстоўваць на работах і вязняў, — сказала яна. Адразу ж ёй захацелася забраць свае словы назад.

Ён разгублена зірнуў на яе і выцягнуў сваю руку.

— Гэта праўда?.. Тады тут нельга больш працаваць! Кожны дзень бачыць такое!

Ён прысеў на ствол дрэва.

Марліс прымасцілася каля яго. У яго быў пакутны і задумлівы выгляд. Моцна хвалюючыся. Ён нахіліўся да яе і паклаў галаву ёй на далоні. Яна пяшчотна гладзіла яго кароткія валасы. Праз нейкі час ён зноў загаварыў:

— Усе рэлігіі не маглі перашкодзіць гэтаму. Вось што жудасна. — Ён паціху ўзняў галаву. — Маяк! Ён больш не міргае.

Яны сядзелі, быццам спадзяваліся, што звышчалавечым цярпеннем змогуць прымусіць зноў заміргаць святло маяка. Два чалавекі, якія знайшлі адно аднаго ў цемры. Але яны не выкарысталі гэтай адасобленасці каб у яшчэ большым збліжэнні знайсці асалоду. Упэўненасць у сабе ў Аксэ ўжо настолькі была парушана, што ён і не падумаў будзіць у маладой жанчыне жаданні або надзеі.

— Шчыра табе дзякую, — сказаў ён, калі яны развітваліся. — Сапраўды шчыра.

Ён стаяў і глядзеў ёй услед, пакуль яна не знікла у доме. Потым ён пайшоў у лагер, праз прахадную міма яфрэйтара, які выскаляўся.

Марлю была рада, што Эвы няма дома. Паволі, механічна, яна

занялася звыклымі справамі. Яе думкі былі заняты Гербертам Аксэ, які сказаў: «Ніводная рэлігія не змагла перашкодзіць гэтаму». Што ён меў на увазе пад «гэтым»? Мусіць, не толькі вайну... Канцэнтрацыйныя лагеры. Больш таго: нацыянал-сацыялізм. Дзіўна. Ён, відаць, лічыў натуральным, што і яна — супраць гэтага.

Эва аднойчы спытала ў яе:

— Ты была ў Саюзе дзяўчат?

Герберт Аксэ нават не спытаўся ў яе пра гэта. Як быццам лічыў, што такое немагчыма.

Яна ўступіла ў 1934 годзе. Яе бацька ў той час стаў членам НСДРП. Настаўніка музыкі Хасэ, кіраўніка вядомага хору хлопчыкаў, ніхто не прымушаў рабіць такі крок. Але хор апранулі ў форму. Хлопчыкі цяпер спявалі ў карычневых кашулях. Пераўтварэнне адбылося так хутка, ледзь не паміж дзвюма рэпетыцыямі, што кіраўніку, які добра ведаў усіх у твар, здалося, што ён дырыжыруе зусім незнаёмым хорам. Ён бачыў дыяганалі партупеяў, якія, здавалася, паўтараліся бясконца: злева наверх, справа ўніз, злева наверх, справа ўніз. Ад пагона да пояса: паралелі, паралелі, зрушаныя, касыя нотныя лініі, на якіх нельга было напісаць музыку. Прайшоў нейкі час, пакуль самыя маленькія ў першым радзе, яго любімцы, сапрана з анёльскімі галасамі, зноў вярнулі яго да свядомасці. Гэтыя дзіцячыя вочы былі занадта блізка ад яго, каб іх больш чым на некалькі хвілін магла засланіць новая фаланга партупеяў. А былі вочы, якія, здавалася, прасілі з мальбой: «Не кідайце нас на волю лёсу».

Той-сёй са старэйшых яго вучняў нават выказваўся наконт гэтага, неўзабаве пасля таго як было ўзнята пытанне, хто ж цяпер будзе кіраваць хорам, перлам выхавання гітлер'югенда. Нічога не заставалася, як прышпіліць да пінжака круглы значок, калі гэтым зноў аплачвалася бацькоўства, якое пастарэламу музыканту было справай жыцця. Так думала яго жонка, і ён ківаў у знак згоды. Ён застаўся і яшчэ ў дадатак атрымаў званне. Паволі ён прывык і да партупейных дыяганаляў.

Здрадзіўшы сваім перакананням. Ён перарадзіўся. Ён не прызнаваўся ў гэтым, нават перад дачкой ён прытварыўся, што верыць у будучыню і прыстойнасць нацысцкай партыі. Ён быў стары педагог. Ці імог ён рабіць нешта процілеглае таму, чаго патрабаваў ад дачкі і вучняў: безумоўнай чысціні ў думках і справах, шчырасці перад уласным сумленнем? Яго пляменнік — Хайнц Брэтшнайдэр, студэнт апошняга курса Вышэйшай тэхнічнай школы, партайгеносэ і актывіст Студэнцкага саюза нацыянал-сацыялістаў, прыйшоўшы ў госці, радасна чокнуўся з дзядзькам за ўзнаўленне Германіі пры нацыянал-

сацыялізме, за аздараўленне свету дзякуючы германскаму духу.

Пасля гэтага вечара Марліс уступіла ў Саюз нямецкіх дзяўчат. І калі цяпер, праз восем гадоў, яна пыталася ў сябе, што паслужыла штуршком, дык не магла сказаць дакладна, чаму дзякаваць: запалу шаноўнага стрыечнага брата ці салідарнасці з бацькам. Бо, нягледзячы на яго выказванні, яна здагадвалася, што ён думае на самай справе. Яна была музыкальная, як і ён, і любіла перш за ўсё ціхія тоны. Магчыма, яна хацела пазбавіць яго няёмкасці, што ён адзін у сям'і аказаўся сярод карычневых. Ён не выказаў сваёй думкі наконт яе ўчынку. Але ён і не сварыўся ніколі, калі яна часам пазней, чым звычайна, вярталася са «службы» дадому і маці накідвалася на яе з папрокамі.

Гэтая служба паглынула яе. Яна хутка «даслужылася» да юнгмэдэльфюрэркі. Яна арганізавала групу флейтыстаў, адшукала старыя кнігі казак і развучвала імправізаваныя гульні. Яна чытала «Пісьмы фюрэрак», а час ад часу і «Дас дойчэ Мэдэль» і расказвала дзесяцічатырнаццацігадовым пра вялікае нямецкае мінулае. На свята сонцастаяння ёй даверылі несці вымпел групы. З песняй «З сівых гарадскіх муроў» яны ішлі праз горад. Узяўшыся за рукі з зухаватым фэнляйнфюрэрам, яна ўсхвалявана скакала праз святочны касцёр, і моцны поціск рукі юнака ў вельмі кароткіх скураных штанах і нацягнутых гольфах, «тампэт» і «шудэль дзі бюкс» — гэта быў для яе СНД. Сюды ж належалі і зборы. Чаго толькі не збіралі: грошы на паходны абед у нядзелю, на зімнія прылады, на дабрабыт народа. У васемнаццаць гадоў да ромба са свастыкай далучыўся большы, круглы значок. Уладальнік вайсковай эмблемы з вышытым срабрыстым арлом на карычневым фрэнчы віншаваў маладую змену партыі, якая была выхавана пад дэвізам: «Слава ўсяму, што гартуе». Дзіўна, з гэтага моманту ўсё стала сумна. Бегаць, бразгаючы ля дзвярэй скарбонкай, — для гэтага яна здавалася сабе ўжо занадта дарослай. Ды і людзі давалі ўжо не так ахвотна, як раней. Яны лаяліся, бо не хапала масла. І з Франка ў Іспаніі, здавалася, не ўсё было ў парадку. Змест казак для імправізаваных гульняў быў вычарпаны. Прапановы, што прыходзілі ад абласнога кіраўніцтва, разглядаліся крытычна. Ад курсаў пры абласной школе фюрэрак яна адмовілася пасля спрэчкі пра Рыльке з рэферэнткай па культуры, якая сцвярджала, што лірыка Бальдура Шыраха — вышэй Рылькавай. Акрамя таго, Рыльке быццам бы быў мяккацелы чалавек. Фэнляйінфюрэр са свята сонцастаяння пайшоў у маракі. «Я хачу нешта значыць, калі пачнецца сапраўдная справа», — сказаў ён. Кожны хацеў «нешта значыць», разумеючы гэта па-свойму. Адзін стаў банфюрэрам, другі нават трапіў у абласное

кіраўніцтва. Яны сталі «ордэнс'юнкерамі», яны сталі «кандыдатамі ў фюрэры», і ўсе яны верылі ў Германію, і ўсе ненавідзелі яўрэяў. Яны рыхтаваліся распаліць пажар, які ўжо не меў нічога агульнага з рамантыкай кастра на свяце сонцастаяння.

Марліс слухала на Новы год разам з бацькам у Дрэздэне Дзевятую сімфонію Бетховена і ціха плакала ад вялікага гімна радасці. Яна не ведала, ці гэтую ўзрушанасць выклікала глыбокае разуменне слоў Шылера, ці ўсведамленне блізкага развітання. Яна закончыла, вучобу ў Навучальнай установе жаночых сацыяльных прафесій і згадзілася з прапановай стрыечнага брата паехаць на Востраў. Гэта было ў 1939 годзе. Ёй толькі што споўнілася дваццаць гадоў, і яна яшчэ не адчувала, што нешта вырашальнае ў сваім жыцці зрабіла няправільна.

А цяпер, праз тры гады, Эва Леангард спытала, ці была яна ў СНД. Яна зразумела больш глыбокі сэнс гэтага пытання толькі сёння, пасля размовы са стрыечным братам. І яна зразумела яго яшчэ лепш пасля прагулкі з Гербертам Аксэ, пачуўшы яго сказ «...не маглі перашкодзіць гэтаму».

Што ж яно было такое — гэта «Гэта»?

Зборы — гэта, здавалася, была добрая справа.

Паліць кастры на свяце сонцастаяння — гэта была старая нямецкая традыцыя. Казачныя гульні, ансамблі флейтыстаў і гітарыстаў — гэта была асалода ад прыгожага. У гітлераўскіх школах таксама вучылі: Гётэ і Шылер — вялікія нямецкія паэты... Як так? Няўжо ў вялізных сусветных абдымках Шылера каляровыя расы пакідаюцца ўбаку? Або яўрэі?.. Гратэскнае ўяўленне! Тое-сёе выглядала нелагічна ў расавым вучэнні. Яго праварвалі толькі таму, што прывыклі глытаць, не пытаючыся. Японцаў прызнавалі, хоць яны і жоўтыя. Яны былі арыйцы і належалі на «вялікай восі». Затое пашыраліся чуткі, і ў пісьмах фюрэра гэта было напісана, што французы дэгенерыравалі, што палякі — бескультурныя, а чэхі — помесь народаў, якая нахабна ўціснулася на германскую зямлю. Вось тут і быў корань «Гэтага», якое гучала няпэўна. І пытанне Эвы «Ты была ў СНД?» было скіравана таксама туды. Цяпер яна ведала. Магчыма, бацьку Эвы кінулі ў канцэнтрацыйны лагер. Яна з дзесяці гадоў жыла ў дзядулі і бабулі. Марліс сарамліва спытала ў сябе, што ж магло быць на душы ў Эвы, калі тая на сваё пытанне атрымала не абцяжараны роздумам адказ: «Я была фюрэркай маладых дзяўчат. Але з часам з гэтага вырастаеш».

Што рабіць, калі пачынаеш пагарджаць сабой, думала яна, лежачы ў змроку свайго пакоя. Яна заплюшчыла вочы і ўслухалася ў сябе.

Маршам «Бадэнвайлер» заводскі аркестр закончыў свой канцэрт у вялікай кіназале. Гэтага нумара не было ў праграме. Калі яго

аб'яўлялі, Юрген Бэр адкінуўся ў крэсле, патайна ўздыхнуўшы, з нявыказаным: «А ці трэба гэта?»

Ён сядзеў за два рады перад Эвай. Яна са здзіўленнем назірала, як ён павярнуў галаву да дзвярэй, нібы правяраючы, ці можна неўпрыкмет выслізнуць з залы. Але ён сядзеў пасярод рада, таму адмовіўся ад задумы і нядбайна выцягнуўшыся ў крэсле, са скрыжаванымі рукамі, аддаўся ў палон гукам «любімага Марша фюрэра». Вытрываўшы да канца. Ён адразу ўстаў, і яму давялося праціскацца праз публіку, якая яшчэ пляскала. Відаць. Ён баяўся дабавак.

Эва апладзіравала далікатна, як і два мужчыны каля яе. Адзін быў Говер, а другі — малады капітан паветраных сіл, які сваім вайсковым званнем, відаць, быў абавязаны Рыцарскаму Крыжу з дубовым лісцем на шыі. Говер пазнаёміў іх. На канцэрце яна прыпомніла, дзе ўжо раней бачыла яго твар: у пакоі фройляйн Гаўгк. Гэта быў адзін з экземпляраў у яе калекцыі герояў.

Говер коратка паведаміў ёй, што ўладальнік дубовага лісця — удачлівы лётчык-знішчальнік, які збіў шмат варожых самалётаў і цяпер зняты з фронту. Пакуль што можна дазволіць сабе паберагчы найлепшых. Няхай цяпер яго баявы вопыт дасць новы штуршок выпрабавальнай авіяцыі. Як ён кантактаваў са сваімі цывільнымі таварышамі, Эва ўбачыла адразу, як толькі перайшлі з кіназалы ў суседняе клубнае памяшканне. Там Марцін Уліг з Водрубам, хімікам з Вены, сядзелі за вялікім круглым сталом і абмяркоўвалі нешта чыста прафесійнае. Малады каштан падрульваў да другога стала, адкуль жэстам запрашаў Эву падсесці. Аднак яна спынілася каля Уліга. Говер памахаў звыкламу да перамог капітану і, паціснуўшы плячыма — «нічога не магу зрабіць», — сеў да Уліга.

— Вы не былі на канцэрце?

— На жаль, я зусім немузыкальны.

Говер усміхнуўся.

— Тут шмат такіх. Толькі не прызнаюцца.

Эва збоку глянула на Уліга. Яна ведала: ён крыху ганарыўся тым, што не крывадушнічаў.

Я нічога ў гэтым не разумею, — сказаў ён ёй нядаўна. — Але і не прытвараюся, што люблю музыку, бо гэта лічыцца добрым тонам.

За гэту шчырасць ён падабаўся ёй. Ёй расказвалі, што ён вылятае на самыя цяжкія выпрабаванні. У думках яна часта бачыла яго перад сабой, у лётным камбінезоне, з прышпіленым парашутам, падцягнутага, сканцэнтраванага, з выстаўленым наперад энергічным падбародкам — ён маніпуляваў вышыннымі і бакавымі рулямі высока над хмарамі. Ён мала гаварыў пра гэта, але і з нямногага яна разу-

мела, што гэта — асобны свет, і даравала яму фатаграфіі на сценках пакоя: Ю-87 над Эйфелевай вежай і Хе-III над Градчанамі.

Клубны пакой хутка напоўніўся, і крэслаў стала не хапаць. Д-р Клемт, шэф аэрадынамічнай трубы, з радасцю паспяшаўся на знак Говера, які знайшоў месцы яму, яго жонцы і Брэтшнайдэру.

Эва бачыла фраў Клемт упершыню. Яна ведала: гэтай жанчыне ўжо данеслі, што яе муж закахаўся ў самую маладую тэхнічную вылічальніцу са свайго матэматычнага бюро. Позірк гэтай велічнай, стрымана паважнай бландзінкі, калі яна пачула імя Эвы, стаў халодны.

Эва адчула сябе няёмка. Вось яна, жонка шэфа: высокая, прыгожая, разумная. Яна Эве не спадабалася. Тым не менш яна нядобрым словам прыпомніла пляткарак з пасёлка. Гэта былі жанчыны, якія ў адасобленым кутку зямлі адчувалі сябе замкнёнымі ў вузкае жыццёвае кола паміж домам і дзецьмі, таму што іх мужы не мелі права падзяліцца з імі тым, што іх хвалявала: прафесіяй, доследамі, мэтай. Яны зайздросцілі жанчынам — тэхнічным супрацоўніцам — за свайго роду фамільярнае супольніцтва, якое вырастала са шматгадовага занятку адной справай.

Плёткі распусціла жонка нейкага тэрмадынаміка. Яна з мужам таксама сядзела за сталом і аж забулькатала ад шчасця, калі побач з ёю сеў герой, упрыгожаны дубовым лісцем.

Дузэ падавала «вясеннія бутэрброды». Гэта быў тварог на чорным хлебе, прыпраўлены чырвоным перцам і цыбуляй з гарнірам са свежай радыскі. Бутэрброды выглядалі апетытна і прадаваліся толькі на хлебныя картачкі. Таму блюда было вельмі хадавое, і Дузэ мусіла прызнацца, што ўсе заказы выканаць не зможа. Клемт і яго жонка аказаліся апошнімі шчаслівымі заказчыкамі «вясенняга хлеба». Перад Эвай блюда скончылася. Крыху засмучаная, яна паглядзела ўслед Дузэ, якая паспешна адыходзіла з пустым падносам.

Клемт лічыў бутэрброды на сваёй талерцы — лустачкі хлеба, парэзаныя на няроўныя трохкутнікі. Быццам рашыўшы цяжкую матэматычную задачу. Ён раптам сказаў, падсоўваючы талерку да Эвы:

— Вось, Леанцінэ, калі ўжо пра нас усё роўна гавораць, дык няхай цяпер усе бачаць, што мы любім адно аднаго... Давай падзелімся...

У цішыні агульнага ашаламлення Эва адчула, як кроў прыліла да шчок. У той жа час упэўненасць яе шэфа, які з элегантнай перавагай зрабіў ёй гэту маленькую кавалерскую паслугу, была настолькі чароўная, што яна моўчкі нахілілася да яго рукі і ротам узяла прапанаваную лусту.

Смех, што разрадзіў напружанасць, данёсся з боку таго, хто ста-

яў за сталом. Юрген Бэр падышоў і хацеў павітацца з Брэтшнайдэрам. Эва з палёгкай павярнулася, пачуўшы за спіной яго раскацісты рогат. Марцін Уліг скрывіў рот, а твар у фраў Клемт стаў, як у васковай лялькі. Аматарка плётак насупраць яе асунулася глыбока ў крэсла. Не зважаючы на ўсё гэта, д-р Клемт карміў Эву вясновымі трохкутнікамі. Па чарзе — раз сабе, раз ёй.

— Амаль рытуальнае дзейства, — сказаў Говер з усмешкай.

— Так і было, — сказаў Клемт і змёў са стала апошнія крошкі. З набліжэннем часу адыходу апошняга цягніка клубныя памяшканні пусцелі.

— Вы часта бываеце вечарамі ў казіно? — спытаў кавалер Рыцарскага Крыжа, калі яны развітваліся. Яна зрабіла няпэўны жэст. Яго густыя бровы перасмыкнуліся. Не стараўся выглядаць высакамерным. Ён быў яшчэ вельмі малады. Эва адчувала погляд маладога капітана, які з нямым пытаннем быў накіраваны на яе, калі падышла Дузэ, каб разлічыцца. Уліг апярэдзіў яе.

— Разлічваюся я.

Эва здзіўлена зірнула на яго. Гэта ішло насуперак усім звычаям казіно. Толькі тады, калі пара была ў вельмі блізкіх адносінах, плаціў мужчына. Але тады яны ўжо лічыліся заручанымі. Бакавым позіркам яна ўбачыла, што Клемт здзіўлена ўзняў бровы, а Говер усміхнуўся сам сабе.

— Табе ж не трэба на цягнік, — сказаў Уліг, выходзячы.

— Не, я на веласіпедзе.

Ён узяў яе пад руку. Яны бачылі, як апошнія, хто затрымаўся, спяшаліся да станцыі. Вельмі паволі яны спускаліся па прыступках. Праз некалькі крокаў Уліг звярнуў направа ў прыбудовы казіно. Эва спынілася. Ён ведаў — чаму. Да вялікай стаянкі веласіпедаў трэба было ісці прама. Ён ціха сказаў:

— Брэтшнайдэр якраз забірае свой веласіпед. Ты хочаш ехаць з ім?

Яна адмоўна пахітала галавой. Ён узяў яе за плечы і прыгарнуў да сябе. Месяц стаяў па другі бок казіно. Выцягнуты ў даўжыню дом кідаў шырокі цень.

— Астанься тут, — папрасіў ён шэптам. Калі яна спалохана паглядзела на яго. Ён дадаў: — Мы пойдзем да мяне. Ніводзін чалавек не ўбачыць. Заўтра раніцай, перш чым прыйдзе камендант, мы пойдзем на пляж.

Яна адмоўна пахітала галавой. Ад нечаканасці ёй нават не падумалася, што Марлю, вядома, заўважыла б, калі б яна не прыйшла начаваць. Яна толькі падумала насмешліва: «Дык вось як яно было

задумана. Аплачваецца вячэра, і тады маеш права...» Яна няўпэўнена адступіла на крок. Ён глядзеў на яе позіркам, які здаваўся ёй амаль варожым. Яго рукі асунуліся з яе плячэй.

— Ты разумееш, што робіш? — спытаў ён у яе хрыпла. — Ты абяцаеш усё, а не выконваеш нічога.

— Я — абяцаю? — Ад хвалявання яна загаварыла занадта гучна і, спужаўшыся, зноў падышла на крок да яго. Цішэй дадала: — Я нічога табе не абяцала.

Ён усё яшчэ ўтрымліваў яе позіркам, які патрабаваў адплаты.

— Ты толькі не ведаеш. Ці не хочаш ведаць. Твая пастава, твае паводзіны, твой смех — гэта адно абяцанне.

Яна ў шчырым абурэнні пахітала галавой. Ён гаварыў далей:

— Ты ж чула сёння вечарам: твая рэпутацыя не з найлепшых. Ты думаеш, гэтыя там, — ён паказаў галавой на белы будынак казіно, — і прастадушныя жанкі, якія пляткараць пра цябе, дадуць хоць ламаны грош за тваю прыстойнасць?

Яе захліснула хваля абурэння.

— Гэта ж не прычына, каб я рабіла тое, што яны пра мяне думаюць.

— Пэўна — не. Але ў цябе няма і прычыны гвалтаваць самую сябе. Сёння ты яшчэ адсоўваешся, калі я хачу сесці побач з табой на тахце. Як ты думаеш: што ўяўляюць сабе дарагія калегі, калі бачаць, як мы апошнім часам два разы на тыдзень разам ідзём пасля вячэры з казіно!

— Гэта мне ўсё роўна, — жорстка адказала Эва.

— Так — і тое, што ты давяла мяне да таго, што я ўжо не магу спакойна глядзець на голую жаночую нагу... гэта табе таксама ўсё роўна?

Яна павярнулася да яго. Варожасць у яго паглядзе пагасла. Але ён не хацеў прасіць яшчэ раз. Ён чакаў.

Яна адчувала, як моцна тахкала яе сэрца.

— Я гэтага не хацела. Але я не магу. Так — не. Пасля ўсяго, што ты мне нагаварыў.

— Тады будзе лепш, калі мы не будзем сустракацца так часта.

Праз хвіліну, на працягу якой яны чулі дыханне адно аднаго, яна няўпэўнена падала яму руку. Яны развіталіся. Яна адчула, як нешта падпірала ёй пад горла.

— Дабранач, — сказала яна аселым голасам і хутка пабегла па каменных плітах. Ён глядзеў ёй услед. Светлая постаць у шырокім цяні дома. Пазногці балюча ўпіліся яму ў далоні.

З казіно яшчэ паасобку выходзілі наведнікі, якія жылі на тэры-

торыі завода. Яны бесклапотна гучна размаўлялі. Уліг схаваўся, каб яго не бачылі.

Эва яшчэ раз перавярнулася на другі бок. Марліс у гэты час устала і апранула трэніровачны касцюм. Яна ж, мусіць, зноў заснула, бо наступнае, што яна пачула, было вяртанне Марліс. Тым часам прайшло добрых паўгадзіны: столькі займалася Марліс гімнастыкай у нядзелю. Эва пашкадавала, што яна, занадта любячы паспаць, не робіць тое самае.

Было вельмі зручна, што пляж быў перад самым домам. Яна ўздыхнула. Магчыма — калі яна болей не будзе хадзіць на спатканні суботнімі вечарамі... Смешнае супрацьпастаўленне, падумала яна. Марцін Уліг або ранішняя гімнастыка! Гэтыя велічыні, відаць, не паддаюцца параўнанню.

Марцін!.. Ён быў першы, хто спадабаўся ёй. Яна мела слабасць да звонкіх галасоў. Па тэлефоне яго голас гучаў проста чароўна!

Марліс пайшла пад душ. Эва выслізнула са спальнага касцюма. Напэўна, усе душавыя былі заняты. Значыць, спачатку пачысціць зубы. Яна стаяла голая перад ракавінай і набірала вады ў шклянку. Яна, ацэньваючы, разглядала сябе ў люстэрка... «Твая пастава, твой смех — усё абяцае». Вада, што цякла ў шклянку, пабегла праз берагі. Мокрымі растапыранымі пальцамі яна павяла па целе ад бёдраў, уверх па клубах, гладзячы збоку грудзі. Гэта было прыемна, гэта быў яе лёгкі масаж. Яе далоні запыніліся пад курганкамі грудзей, утварылі чашы, на момант, правяраючы, ахапілі акругласці і ўзняліся нарэшце, слізгаючы па плячах, шыі і галаве. Яна ўзняла рукі над сабой, пацягнулася, пастаяла, злёгку ўздрыгваючы, на дыбачках. Усё яе цела было напружана. Ёй здалося, што яна можа паляцець над зямлёй. Радуючыся, яна павярнулася да карцінкі, што вісела над яе ложкам. Яна адчула сябе роўнай скульптуры Кольб. Скрыжаваўшы рукі за галавой, падымаючы і апускаючы ногі, яна вяла маўклівы дыялог з каменнай прыгажуняй. Чаму мы імкнёмся хаваць тое, што дала нам прырода? Няўжо б ты здрадзіла сабе?.. Не... Цябе вялікі мастак змясціў на цокаль. Раздзетую. Ён ведаў, што рабіў. І ты зусім нявінная... Я шмат што хаваю... Як патрабуюць звычкі... Чаму?.; Яна закруцілася ў кашлаты халат.

Марцін ужо некалькі разоў сядзеў пад карцінкай. Ці хвалявала яна яго таксама?

Калі Эва вярнулася з-пад душа, пакой патанаў у блакітнай дымцы. Гэта было не нова — Марліс смажыла хлеб. Часцей за ўсё скібкі падгаралі, бо яна тым часам апраналася, накрывала на стол, чысціла зубы і хуценька бегала на кухню, каб наліць чаю.

— Пры смажанні ўтвараецца цукар, а яго патрабуе наш арганізм, — так Марліс звычайна тлумачыла штодзённую, крыху складаную цырымонію.

У гэту нядзельную раніцу яна была нешматслоўная. З асаблівай стараннасцю яна рыхтавала снеданне, выставіла апошні слоік з хатнім мармеладам.

Эва стаяла перад люстэркам і раздумвала, што яна можа прапанаваць ад сябе. Але не паспела дадумаць. У люстэрку яна ўбачыла Марліс. Сяброўка прытулілася ў кутку тахты, чакаючы, моўчкі і дапытліва, пільна гледзячы на Зву. Так, яна, відаць, праседзела нейкі час.

Што здарылася?

Яны снедалі. Іх ложкі стаялі пад прамым вуглом адзін да аднаго. Дзяўчаты бачылі адна адну ў паўпрофіль.

— Бяры мармелад, — частавала Марліс, падсоўваючы слоік.

Эва прыслухоўвалася да кожнага адцення яе голасу. Ёй здавалася, што так гавораць з хворым ці з блізкім нябожчыка пры пахаванні. Куточкамі вачэй яна назірала, як Марліс тайком вывучала яе твар. У яе было адчуванне, быццам яе абмацваюць. Марліс шукала прыкметы заклятай расы ў яе рысах.

Эва раптам адчула, што не можа данесці хлеб з мармеладам да рота — так дрыжалі рукі. Яна паклала яго назад на талерку, адкрыта паглядзела на Марліс і вымавіла:

— Хто табе сказаў?

Сяброўка на нейкі момант сумелася. Потым яна авалодала сабой і паклала сваю руку на левую руку Эвы.

— Што ты, Эва, — сказала яна пяшчотна.

Эва ўпарта патрабавала:

— Хто?.. Говер?

Яна прыняла руку і адсунулася да валіка тахты,
аддаляючыся ад Марліс. Яна не жадала спагады.

— Я даведалася ад свайго стрыечнага брата, Хайнца Брэтшнайдэра, — адказала Марліс. — Яму трэба было прагледзець некаторыя асабовыя справы. Ён гаварыў пра гэта зусім між іншым, сапраўды. І гэта ж зусім ні пра што не гаворыць. Інакш, урэшце, цябе б тут не было. І на працоўнай павіннасці ты таксама была.

Марліс пачала прыбіраць посуд. Здавалася, што яна хоча зняць напружанне з размовы.

— Твайму бацьку гэта, вядома, было яшчэ дрэнна. Але ж ён цяпер у бяспецы. А для цябе гэта не мае амаль ніякага значэння.

Марліс дарэмна чакала адказу. Яна ціха выйшла з пакоя.

Эва ўціснула галаву ў падушкі. Астаўшыся адна, яна кінулася на

тахту.

Марліс была малайчына. Гаворачы: «Твайму бацьку гэта было яшчэ дрэнна, а для цябе не мае амаль ніякага значэння», яна хацела суцешыць. А што сказаў Густль Швентмайр, айчым, калі яна скончыла сярэднюю школу? «Калі ты хочаш пазбегнуць лёсу свайго бацькі, ты павінна прайсці працоўную павіннасць. Хто выконвае працоўную павіннасць, носіць ганаровае адзенне працаўніка рэйха. Гэта твая рэабілітацыя. Тут я не магу табе дапамагчы. Тут ты павінна прабіцца сама».

15 хвілін у кабінеце банфюрэра, які разглядаў заявы на працоўную павіннасць, былі самыя жудасныя моманты ў яе жыцці. Стаць у рады дзяўчат працоўнага фронту было пытаннем жыцця. Некуды ж трэба было ўладкоўвацца. Пра бацьку не было ніякіх звестак ужо амаль сем гадоў. Яе асяродак утваралі дзядуля з бабуляй, браты і маці і Густль Швентмайр, цяпер нацыянал-сацыялісцкі амтсляйтэр у Познані. «Гітлер торыць свой шлях!» — такой веры трымаліся ў гэтай сям'і. І яна, Эва, не хацела заставацца ўбаку. Яна хацела вучыцца, як і яе аднакласніцы, хацела карыстацца тымі ж самымі правамі, тымі ж магчымасцямі.

Дарогу да гэтага адкрывала працоўная павіннасць.

З неспакойным сэрцам стаяла яна перед гітлер'югендфюрэрам у карычневым фрэнчы. З першай хвіліны яна зразумела, што ён не быў непрыступны. У яго быў тоўсты рабаціністы твар. Ужо з першых слоў іх размовы яна зразумела, што тут абавязкова трэба сказаць праўду. Пакуль яна расказвала пра сябе. Ён праніклiва назіраў за ёю. Аднойчы размову перапыніў нейкі фюрэр з белым шнурам, які зайшоў вельмі зухавата і з форсам. Эва падумала: цяпер усё скончана. Ён мяне адашле, знойдзе нейкую зачэпку... Банфюрэр пайшоў услед за гэтым у суседні пакой. Праз адчыненыя дзверы Эва чула яго высокі рэзкі голас. Здавалася, што ён чытаў падначаленым натацыю. У адказ чулася толькі шчоўканне абцасаў і паспешлівыя крокі.

— У абцугі трэба вас усіх! У абцугі!

З пачырванелым ад гневу тварам ён зноў з'явіўся ў дзвярах. Шырокім крокам ён прамаршыраваў да Эвы, насцярожана зірнуў на яе, відаць, заўважыўшы яе няўпэўненасць.

— Такімі мы можам быць, — сказаў ён, — і такімі. — Ён сакануў хуткім узмахам правай рукі нечакана блізка перад тварам Эвы, так што яна спужана адступіла, і засмяяўся зласліва.

— Баішся? — Яго позірк настойліва вывучаў яе твар. — Не такія ўжо мы і дрэнныя. — Ён абышоў вакол свайго пісьмовага стала і паставіў пішучую машынку на стол. Потым надрукаваў адным пальцам

дадзеныя Эвы. Прозвішча — дата нараджэння — месца нараджэння.

— Значыць, вы — яўрэйка на чвэрць! — сказаў ён, з цяжкасцю друкуючы.

Яна паглядзела на яго круглымі вачыма.

— Не, напалову. Я ж вам...

Ён перабіў яе:

— А калі я вам кажу: вы — яўрэйка на чвэрць, то значыць — на чвэрць. Зразумела?

Здавалася, што яго маленькія вочкі хочуць загіпнатызаваць яе. Толькі цяпер яна заўважыла, што ў яго быў алавяны позірк і што адным вокам ён глядзеў увесь час міма яе.

Яна моўчкі кіўнула.

Калі яна пазней расказала пра гэты выпадак Густлю Швентмайру. Ён голасна засмяяўся.

— Малыя паўтараюць свайго вялікага настаўніка, — сказаў ён і працытаваў Герынга: «Я вызначаю, хто яўрэй».

Эва дазволіла даць сабе вызначэнне. Тады — два гады назад. У анкетах яна значылася як яўрэйка на чвэрць. Дваццаць пяць працэнтаў. Гэта — не шмат! З такім працэнтам ты годная нават для працоўнай павіннасці.

Сонца павярнула і сваімі промнямі гладзіла галаву бомбергскага рыцара. Ён вісеў і ў пакоі начальніцы дзяўчат, тады яшчэ, у час працоўнай павіннасці, так сказаць — стандартны герой дзявочых начальніц. Вялікае, існа нямецкае мінулае. Князь найчысцейшай расы... Магчыма, Марліс павесіла яго не па гэтай прычыне. У яе былі кнігі па мастацтве, яна была дасведчаная ў познім барока і ў італьянскім рэнесансе. Яна старанна чытала вершы, якія ёй прыносіў салдат Аксэ. У Эвы было пачуццё, што жыць будзе лягчэй, калі Марліс даведаецца ўсё, усё, усю праўду.

## 7
## ЗАЛАТОЕ ЦЯЛЯ

Высокі Доктар побач з корпусам А4 выглядаў карлікам. «Вялізная цацка!» — падумала Траўдэ Хёрзельман, калі ўбачыла, як ён, духоўны бацька зброі будучага, усхвалявана і жвава, нібы юнак, дэманстраваў свае найноўшыя ідэі і вынікі на апараце ў натуральную велічыню.

Эліта доследнай установы сабралася ў цэху зброі. Траўдэ Хёрзельман была ўдзячная д-ру Клемту, што ён узяў яе з сабой. Насупраць яе стаяў генерал, ваенны начальнік, побач з ім — Хайнц

Брэтшнайдэр. Адным з самых цікаўных быў малады д-р Бэр, які да гэтага часу здаваўся ёй маласімпатычным.

У кампаніі цёмнавалосага прафесара-пустэльніка яна заўважыла тры незнаёмыя твары. Яна здагадалася, што старэйшы — фізік з Берлінскага інстытута імя кайзера Вільгельма, пра якога ёй ужо гаварыў д-р Клемт. На яе ціхае запытанне Клемт пацвердзіў:

— Прафесар Лёйпальд са сваім старшым асістэнтам Ціфенбахам. Трэці — тэхнік, лётчык.

Трэці спадабаўся Траўдэ найбольш. Па ім было відаць, што ён адчуваў сябе не ў сваёй талерцы паміж гэтымі магутнасцямі высокачастотнай тэхнікі, аэра- і тэрмадынамікі, металургіі, фізічнай хіміі і балістыкі. Ён далікатна адступаў назад, як толькі нехта з вучоных, жыва абменьваючыся думкамі з Прафесарам, які тлумачыў, хацеў размінуцца з ім, каб абысці дэманстрацыйны аб'ект. Ён быў такі высокі і шырокі, што, здавалася, усюды замінаў.

Траўдэ прытаілася за двума магутнымі фарфоравымі ізалятарамі. Калі лётчыка зноў адагналі з яго месца. Ён злавіў яе ўсмешлівы позірк. Яна адышла ўбок, а ён абышоў некалькі скруткаў кабеля, пакуль не аказаўся каля яе.

— У паветры, мусіць, вальней! — сказала яна замест прывітання.

Ён узрадаваўся, што яна ўжо нешта ведала пра яго. На яго вялікім кантаватым твары заблішчалі ў шырокай усмешцы здаровыя зубы.

— Вы ўсё разумееце, што яны там гавораць? — спытаў ён.

Доктар загадаў прынесці лесвіцу і стаяў на палавіне вышыні аблупленага страшыдла. Чытаючы лекцыю павышаным голасам. Ён усунуў рукі ў спляценне правадоў і выцягваў металічныя вантробы, пра ўласцівасці і функцыі якіх ён расказваў. Урач, анатам, які ведаў кожны адростак нерва ў целе пацыента!

Траўдэ Хёрзельман адказала на зададзенае пытанне няўпэўнена. Яна не хацела запалохваць лётчыка.

— Трэба паслухаць, — сказала яна.

— Вядома.

Крыху вінавата ён зноў паспрабаваў сачыць за працэсам, дзеля якога прыйшоў сюды са сваім сябрам Ціфенбахам. На паўвока ён сачыў за дзяўчынай побач, адзінай жанчынай на форуме мужчын. Яна сапраўды мела такі выгляд, быццам у гэтым тлуме лічбаў і формул адчувала сябе як дома.

Але і Траўдэ не вельмі ўважліва сачыла за справай. Здавалася, што вялізная цацка ператварылася ў Залатое цяля. Гэта быў ідал, які патрабаваў тысяч мазгоў, тысяч чалавечых сіл. Чалавечых жыццяў —

пакуль што не.

— Ад выпрабавальнага запуску ўвосень залежыць усё, — пачула яна, як генерал гаварыў гасцям з Інстытута імя кайзера Вільгельма. — Калі ён сарвецца, мы страцім усе крэдыты ва ўпраўленні па ўзбраенні і яшчэ вышэй. Мы занадта доўга займаемся эксперыментамі. Той-сёй са скептыкаў лічыць нас дурнямі, а магчыма, і горшым кім. — Генерал панізіў голас, які зазвінеў ад хвалявання. — Фюрэр выдаў загад, па якім толькі тыя праекты ўзбраення можна пачынаць, якія за шэсць месяцаў дадуць гатовую зброю.

Голасам, які сваёй страснай дзелавітасцю дзіўна адрозніваўся ад рэзкасці генерала, берлінскі прафесар уставіў:

— Тым самым ён разлічвае на хуткую ваенную перамогу.

— На хуткую канчатковую перамогу, — паправіў генерал.

Вучоны застаўся абыякавы.

— У такім выпадку, — ён узняў позірк на нерухомы каркас А4, з якога звісалі кабелі і правады, як абрэзаныя адросткі нерваў, — гэтая штука ўсё роўна запозніцца.

Юрген Бэр праціснуўся бліжэй да прафесара. Прыслухоўваючыся да слоў. Ён дарэмна шукаў у іх адцення шкадавання.

Траўдэ Хёрзельман прайшла з лётчыкам Вільфрыдам Парызіусам пяцьсот метраў да аэрадынамічнай трубы. Цяпер яна шкадавала, што ў патрэбны момант ёй не прыйшло ў галаву ніякай зачэпкі, каб запрасіць яго ў дом. Дадатковае ўнутранае абмеркаванне, якое Клемт меў звычку праводзіць у сваім кабінеце, было выключна вольнае і нязмушанае. Парызіус не быў бы перашкодай.

Прафесар Лёйпальд у машыне генерала паехаў у казіно, а Клемт узяў яго асістэнта Ціфенбаха з сабой да аэрадынамічнай трубы.

Траўдэ раней мала звяртала ўвагі на гэтага маладога чалавека. Яго засланілі ад яе паважнае рэнамэ Лёйпальда і мажное цела Парызіуса. Калі яна ўбачыла яго ў кабінеце Клемта побач са сваім цывільным шэфам, яна дала яму хуткую ацэнку: не такі спрытны, як Клемт, але больш самаўпэўнены, чым Парызіус. Яго вочы глыбока сядзяць пад прыкметна высокім лобам. Ён, відаць, з тых, каго нялёгка раскусіць... Такія не падабаліся Траўдэ. Яе прафесія прыносіла так шмат «невядомых», што ў прыватным жыцці ёй хацелася ведаць, з кім мае справу. Напрыклад — Парызіус. За кароткую дарогу, якую яны прайшлі разам. Ён так шчыра выклаў перад ёй свае думкі, што ёй здалося: яна ўжо амаль ведае яго. Ён не быў першапраходцам. Ён - быў авіяканструктарам хутчэй па натхненні, чым па адукацыі. Ён быў аматар майстраваць, дробны педант з цыркулем і рэйсшынай. Яшчэ больш ён любіў сядзець -у кабіне. Ён умеў слухаць сэрца сваёй

машыны. Ён быў першы пілот «лётаючага трохкутніка», бясхвостага самалёта. Ён быў нябесны мастак: белае на блакітным фоне. Вільфрыд Парызіус звязваў кандэнсацыя стужкі першага рэактыўнага самалёта-знішчальніка, які далі яму ў рукі, у смелыя банты. Ён лічыў, што лепш ён стане дагары нагамі, чым увесь свет. Гэта была яго любімая прымаўка. Ён заўсёды ўдала вяртаўся на зямлю, бо ля рычагоў кіравання быў не такі бездапаможны, як сярод усіх гэтых прафесараў і дактароў. «Вам можна будзе пазваніць?» — спытаў ён у Траўдэ ў канцы... Шкада, што яна не ўзяла яго сюды. А цяпер яна сядзела насупраць гэтага Ціфенбаха, які, здавалася, і не думаў, што яна жанчына. Ён забыўся прапанаваць ёй сігарэту. Ён аб'явіў, што прафесар Лёйпальд за час свайго знаходжання на Востраве хоча прачытаць нешта накшталт курса лекцый маладым вучоным, якія цікавяцца асновамі фізікі.

Клемт, засунуўшы рукі ў кішэні выдатна скроеных штаноў, бегаў туды-сюды па пакоі. Ён ківаў галавой:

— Ці ёсць у нас цяпер час на гэта? Вы ж сёння чулі: ваенныя падганяюць нас у карак. Вы знаеце, чым ужо папікнулі Доктара? Тым, што ён пагарджае ваенным заказам на карысць сваіх касмічных утопій. Што ён лепш паляцеў бы на Месяц, чым бамбіць англійскі востраў. Смешны папрок!

— Гэта было б, магчыма, больш заманліва, — суха адказаў Ціфенбах.

Клемт спыніўся і паглядзеў на маладога чалавека, які сядзеў нага за нагу ў крэсле з выглядам, быццам зрабіў нечаканае, самому дзіўнае адкрыццё. Ён сеў на край стала, скрыжаваў рукі і прамовіў з' таварыскім папярэджаннем:

— Не думайце, Ціфенбах, што мы тут сядзім у баку ад страляніны, таму што злева пачынаецца водная пустыня, а справа ад нас людзі ў рыбацкіх вёсках пры паветранай трывозе пераварочваюцца з боку на бок! За намі вельмі ўважліва сочаць! Менавіта тут!

— Я ведаю, — ціха сказаў Ціфенбах. — Наш фронт вельмі расцягнуты. Калі б Востраў не лічыўся франтам, нас, маладых людзей, бязлітасна апранулі б у салдацкую форму, як і мільёны іншых.

— Несумненна. І нас пакінуць нястрыжанымі толькі да таго часу, пакуль можна разлічваць, што ад нашых галоў можна атрымаць нешта карыснае. Для канчатковай перамогі. Так што мы не можам тут бесклапотна займацца бескарыснымі доследамі.

Ціфенбах ускінуў плечы.

— Я так не гаварыў. Тое, што хоча Лёйпальд, — свайго роду занятак у вольны час для зацікаўленых вучоных. На дабравольнай асно-

ве. Пасля работы. Шмат каму гэта спатрэбіцца пасля. Няўжо вы думаеце, што пасля вайны мы зможам сказаць сваё слова свету, калі нашы вядучыя вучоныя побач з ваеннымі задачамі не паспрабуюць расшырыць асновы навукі?

Клемт круціў у руках прэс-пап'е, мадэль крылатай бомбы. Ён сказаў самаўпэўнена:

Пасля вайны свет пазнаёміцца з нашым А4. Ён дазволіць нам сказаць сваё слова.

Ціфенбах зрабіў няўпэўнены жэст.

Вы не верыце ў наш праект? — спытаў Клемт.

— Вядома, А4 некалі паляціць. Але я сумняваюся, што ён вырашыць зыход вайны або зможа павярнуць яе, калі гэта будзе неабходна.

Клемт, мусіць, чуў такія разважанні не ўпершыню. Ён пераглянуўся з Траўдэ Хёрзельман.

— Тады нам варта было б сабраць усе свае манаткі і добраахвотна запісацца на фронт. У якасці медперсаналу ля агнямётаў, феерверкераў для малых ракет ці яшчэ каго ў гэтым родзе. — Хочаце, Ціфенбах?

— Шчыра прызнаюся — не. Я не захапляюся ваеннай гульнёй нават са спартыўнага пункту гледжання. А заграпічныя паездкі, пра якія я заўсёды марыў, я ўяўляю сабе таксама крыху інакш.

— У спальным вагане першага класа, так?

— У лёгкай байдарцы ўніз па Дунаі таксама нядрэнна. Мяне б не ўтрымала і тое, што на граніцы трэба паказваць пашпарт. Але мне бывае няёмка, калі прыйдзеш кудысьці без запрашэння.

Клемт насмешліва стукнуў па стале.

— Мне здаецца, сіла таксама нядрэнная віза. Я думаю, мы яшчэ крыху пакумекаем над нашым няўдалым дзіцем. — Ён падвёў рысу пад размовай і звярнуўся да Траўдэ Хёрзельман:

— Пан Ціфенбах падкіне нам на тым тыдні цвёрдых арэшкаў. За тое, што я расхваліў яму нашу матэматычную групу як асабліва надзейную. Некалькі пакояў, мусіць, трэба на нейкі час вызваліць для планіметравання. І на кароткі час вам трэба перадаць сваіх матэматыкаў прафесару Лёйпальду.

— Усіх трох? — спытала Траўдэ здзіўлена.

— Нам патрэбны нават чатыры, — сказаў Ціфенбах.

— Вазьміце для кантрольных вымярэнняў Леангард, — прапанаваў Клемт. — Яна справіцца.

— Мне здаецца, Эву Леангард вы абяцалі на серыю выпрабаванняў пану Брэтшнайдэру.

— Ён выбраў сабе фройляйн Кайзер. Для надзейнасці. — Звярнуўшыся да Ціфенбаха, Клемт дадаў: — Вам не перашкодзіць той факт, што ў фройляйн Леангард не хапае нейкай арыйскай бабулі?

— Ані.

— І добра. Затое яна вельмі сімпатычная.— Клемт шматзначна падміргнуў.

Траўдэ крыху скрывіла вусны.

— На тым тыдні яна на два дні едзе ў Берлін. Спадзяюся, што адно аднаму не перашкодзіць?

— Гэта абавязкова?

— Я ўжо ёй дазволіла. Яе жаніх адпраўляецца на фронт.

Клемт прысвіснуў ад некачанасці.

— Дык яна — заручаная?

## 8
## ПАМІЖ КУРФЮРСТЭНДАМ І ДОЙЧЛАНДХАЛЕ

«Фугер — Кірш — марка для знаўцаў» было напісана на рэкламным плакаце ля стойкі невялічкага рэстаранчыка. Вочы ў Эвы ўвесь час вярталіся да пары цёмна-чырвоных вішань, пры дапамозе якіх фірма Фугер хацела выклікаць у гасцей апетыт на свой лікёр, хоць яго даўно ўжо не было ў продажы. На трэцім годзе вайны ў Берліне больш не звярталі ўвагі на лепшыя маркі віна.

— Але ў мяне для паноў ёсць апрыкот. Ён таксама яшчэ даволі добры, — ветліва сказала гаспадыня сваім адзіным гасцям, маладой пары, якая, відаць, хацела пабыць адна. Так яны частаваліся ў суботу раніцай на Кнезебекіштрасэ. Гаспадыня паставіла на стол разам з дзвюма чаркамі для лікёра букет. Дзяўчына кіўнула ёй «дзякую», а лейтэнант, мусіць, не заўважыў гэтай ласкі.

На душы ў Эвы было так, быццам яна вылузалася з сябе, быццам, стоячы побач, яна бесперапынна за сабой назірае. Едучы ў Берлін, а магчыма, і яшчэ раней, адразу ж пасля пісьма Хартмута, у якім ён настойліва прасіў спаткацца ў Берліне, яна вырашыла я павінна разабрацца ў гэтым. Нельга, каб ён ішоў на фронт з няпраўдай. Мы павінны выказаць адно аднаму усе да канца.

Цяпер, седзячы насупраць яго, яна зразумела як гэта цяжка. Той, каго яна сустрэла тут, быў ёй амаль чужы. Напярэдадні вечарам яны былі ў тэатры, разам з дзядзькам Хартмута. Ішла нейкая п'еса пра Дон Жуана, жаночага спакусніка. Адна з варыяцый старой тэмы. Донна Анна на сцэне нязносна галасіла аб страчанай нявіннасці, а князь быў пакрыўджаным вылюдкам. Хартмут палічыў, што п'еса

праблематычная. Нешта ў ёй, здавалася, вельмі закранула яго.

Потым яны сядзелі ў падвальчыку на Курфюрстэндам. Рэзюме пасля паходу ў тэатр з вуснаў дзядзькі прагучала так:

— Нельга пакідаць заручаных адных.

Эва адчула агіду, што яе раўняюць з галаслівай доннай Аннай... Яна ўспомніла, як яны стаялі з Марцінам Улігам у цяні казіно. Упарта працівячыся мяшчанскай маралі дзядзькі Хартмута, яна ў гэты момант амаль шкадавала, што не паддалася тады дамаганням Марціна. Дзядзька з зычлівай дапытлівасцю назіраў за ёю праз манокль на залатым ланцужку. Яна вытрымала яго позірк і адчула пагарду да шасцідзесяцігадовага сладастрасніка, які ўжо валачэ ногі. Гэта было ўсведамленне свайго маладога жыццёвага пачуцця — эластычнага, поўнага чакання і шматабяцальнага.

Вы дабрачынныя бюргеры! Ваш гарсэт мне не падыходзіць!

Эва дзівілася з самой сябе. Шкарлупіна яе паходжання крышылася. Патрыярхальны дзядуля, лепшая школа для дзяўчат, працоўная павіннасць — усё разам прывяло да Хартмута Ведэльштэта, выхаванца строгай школы-інтэрната, сына кіраўніка абароннай эканомікі. Гэта было як у вядучым промні, падумала яна. Але цяпер — наступае пераламленне.

Словы, якія яшчэ паўгода назад траплялі б у сэрца, праходзілі цяпер міма, як датычная ля парабалы на яе міліметровай паперы. Сюды адносіліся і галашэнне донны Анны, і зычлівая годнасць дзядзькі. І Хартмутава стэрэатыпнае «Гэта ўсё мы зноў адбудуем — шмат прыгажэй», калі яна паказвала на руіны ў Берліне. І яго любімае выказванне: «У адносінах да нямецкага ўсходу ў нас цяжкі абавязак. Я шчаслівы, што еду на

Усходні фронт».

Больш яна такога не прымала. Яна не верыла, што яму невядомы страх. Страх перад боем, страх смерці. Раптам яна зразумела, што замяніла яму страх, гэта натуральнае пачуццё. Учора ў рэстаране-падвальчыку кожнага афіцэра, якіх было поўна за суседнімі сталамі. Ён ацэньваў па ваенных узнагародах. Нямецкі Залаты крыж прывёў яго ў тайнае замілаванне, Рыцарскі крыж выклікаў хваляванне. Славалюбства ўзяло яго ў палон. Звонкія бляшкі, зоркі і галуны, адзнакі сённяшняй славы і будучай улады былі яго мэтай. Толькі цяпер яна да канца зразумела сэнс таго, што ён даўно гаварыў Густлю Швентмайру, калі той атрымаў пасаду ў Познані:

— Нацыянал-сацыялізм больш не забывае сваіх старых верных слуг. Вось чаму я сцвярджаю: героі гэтай вайны заўтра будуць фюрэрамі.

Нехта ёй расказваў, што Ведэльштэт, тады яшчэ унтэр-афіцэр, муштраваў сваіх салдат у двары казармы. Пасля вайны ён будзе будаваць палацы, калі фюрэр таго захоча, манументальныя, як егіпецкія піраміды: у гонар новага фараона, на крыві і на поце рабоў. Адвечны закон казарменнага двара: устаць — легчы, устаць — легчы, кругом — марш!.. Тэма з варыяцыямі.

Ёй здавалася, што яна адчувае на сабе пакутлівы позірк Герберта Аксэ. Марліс нядаўна запрасіла яго, і яны разам частавалі яго ў сваім пакоі. Лабан некалькі разоў мусіў стукаць у дзверы. Слухаючы яго расказы, яны забыліся пра час.

А цяпер: Берлін, лейтэнант, які саромеецца, што на яго грудзях няма крыжоў, букет на стале і ўстарэлы рэкламны плакат з вішнямі. У маленькі рэстаранчык увайшоў марак і на імгненне выклікаў у ёй асацыяцыю паху салёнага марскога паветра. Пах быў выцеснены церпка салодкім міндальным водарам лікёру «апрыкот». Хартмут падаў ёй чарачку.

— За тваё шчаслівае вяртанне, — сказала яна.

— І за магчымасці! — ён стукнуў сябе па левай нагруднай кішэні, дзе пакуль што не было ніякіх узнагарод.

Радыёпрыёмнік за стойкай прыглушана перадаваў навіны вермахта: рускія злучэнні на цэнтральным участку выматаны... партызанская тэрыторыя ачышчана у паветраным баі збіты... у нямецкай бухце затоплены! Гэта былі «магчымасці» атрымання афіцэрам узнагароды. Хартмутава ўяўленне аб шчасці.

Але не, яна ўсё ж, мусіць, недаацаніла яго! У нядзельнай ранішняй цішыні маленькага рэстаранчыка раптам з явілася некалькі слоў. Яны стаялі па-вайсковаму «смірна», кінутыя маладым афіцэрам, які рыхтаваўся ажыццявіць песню сваёй маладосці і хацеў пушыць на усход, але спачатку пытаўся ў сваёй каханай, што ты думаеш пра самаахвярнасць?

Яны сядзелі насупраць, і лейтэнант круціў сурвэтку

Эва думала: «Няўжо гэта тактыка будучага героя?» Яна не ведала, што ў ёй было мацнейшае: разгубленасць, таму што ён так мала ведаў яе, ці жаданне не прымаць яго ўсур'ёз. Яна выбрала апошняе і ледзь не пакпіла з яго за няўклюднасць. Але разважыла, што праз некалькі тыдняў ён, магчыма, будзе ляжаць у акопе, а высвятленне гэтага пытання, магчыма, проста належыць да тых рэчаў, якія чалавек, адпраўляючыся на фронт, хоча пакінуць у поўным парадку: аплачаныя рахункі, закончаныя дзённікі, ясныя любоўныя адносіны. Яна сказала, гледзячы міма яго:

— Бывае, што і гэта патрэбна.

Яна з палёгкай уздыхнула, калі ён паклікаў гаспадыню, каб разлічыцца.

Эва радавалася, што на вечар была запланавана сустрэча з некалькімі знаёмымі і са зводнай сястрой Штэфі. Калі яны паціху ішлі да станцыі Цо, яна пачала расказваць пра іх. Ён прызнаўся, што яго не вельмі цікавіць кампанія, якую хацела сабраць вечарам Зігрыд Мэс, Эвіна сяброўка дзяцінства з Лангенбрука.

Зігрыд ужо больш як год жыла ў Францыі. З гэтай краінай і паняццем Парыж Хартмут звязваў уяўленне пра заняпад народа, небяспеку размнажэння і пра ўсё, што шкодна для нямецкіх узброеных сіл. Тое, што і Зігрыд трапіла ў гэтую дрыгву, досыць яскрава даказвала кватэра на Кайзерплац, якую аддаў ёй адзін сябар на час, пакуль яна будзе ў Берліне. Застаючыся сам у Парыжы. Ён паставіў умову: ёй там нельга было прымаць мужчын. Хартмут лічыў паводзіны Зігрыд недапушчальнымі і вельмі не ўхваляў, што Эва і Штэфі начавалі ў гэтай падазронай кватэры. Толькі просьбы Эвы і яе загадкавае абяцанне, што ён спаткае там старога знаёмага, схілілі яго правесці суботні вечар у гэтай — як і можна было здагадацца — стракатай кампаніі.

Ад станцыі гарадской чыгункі Дойчландхале трэба было яшчэ крыху прайсці пехатой. Потым пачыналіся баракі, наспех пабудаванае жытло вайскоўцаў.

Унтэр-афіцэр санітарнай службы Эрвін Бродэрэк дзяжурыў у нядзелю. Быў цудоўны дзень ранняга лета. У такі дзень кожны стараецца правесці некалькі гадзін у наваколлі Берліна, багатым вадой, і Бродэрэк мог разлічваць, што пацыентаў сёння не будзе. У яго вялікім пакоі ў санітарным бараку хапала месца гасцям, якіх абавязкова хацела запрасіць Зігрыд Мас.

Лейтэнант Ведэльштэт, якога прывяла з сабой Эва Леангард, спачатку павёў сябе фанабэрыста. Перакошаная лінія яго рота расслабілася толькі тады, калі з'явіўся апошні госць, старшы лейтэнант Розенталь.

Сюрпрыз удаўся. Сустрэліся два старыя таварышы, якія разам служылі ў арміі. І Эрых Розенталь, і Ведэльштэт былі сваімі людзьмі ў доме Швентмайра, калі туды на канікулы прыязджала вучаніца старэйшых класаў Эва. Эрых здзівіўся, што яны яшчэ «не рушылі з месца», нават не маюць пярсцёнкаў і г. д., пра што ён амаль з дакорам гаварыў Хартмуту.

Эва ж заўсміхалася, убачыўшы каржакаватага, прыземістага жвавага хлопца, які сваім прыходам нібы вымеў усю ўмоўнасць і напружанасць.

— Ваша выпіўка — гадзіцца, — пахваліў ён гаспадара і амаль адначасова пацалаваў Штэфі ў шчаку. Ён адзначыў, што яна ўжо далёка не тое хударлявае дзяўчо, якім была ў чатырнаццаць гадоў. Калі ён сеў побач з Эвай і хацеў абняць яе за плечы, яна са смехам стукнула яго па руцэ і ўстала. На ім былі бессаромна цесныя брыджы. Каб апраўдаць сваё бегства, яна пайшла танцаваць з Рольфам Кюперсам.

Малады юнкер-фельдфебель быў самы прыгожы мужчына на вечары. Ён выглядаў, як кінагерой, і можна было падумаць, што ён толькі што сышоў з экрана, з фільма пра каханне, расстанне і безразважнае геройства. Яго абаяльнасць была ў тым, што ён, здавалася, увесь час пытаўся: «Чаго вы, шчыра кажучы, хочаце ад мяне? Я лічу ўсіх вас вельмі сімпатычнымі». Ён ужо паўгода ведаў Штэфі Швентмайр. А яна, васемнаццацігадовая, здавалася, толькі яго і чакала. З санаторыя каля Познані яго накіравалі «ў кусты» — так ён сам называў каманду за Прэецлаў. Ён ужо меў адзнаку ранення і Жалезны крыж II. Новая адпраўка на фронт не за гарамі. Для яго гэта ўжо быў не міф, як для Ведэльштэта. Гэта была горкая непазбежнасць, якую трэба было перамагчы са спартыўным спрытам і належнай доляй удачы. А пакуль яшчэ ёсць дзяўчаты і пяшчота, то іх трэба браць, а яе аддаваць. Пацалунак – Зігрыд, блізкае-блізкае танга з Эвай, абдымкі і амаль нячутны шэпт са Штэфі. — Калі мы потым доўга не ўбачымся, Штэфі, ты год павінна насіць жалобу, перш чым пацалаваць другога.

Такія жарты з яго вуснаў выклікалі спачатку разгубленасць, потым смех. Эрых Розенталь пляскаў сябе па сцёгнах.

Пласцінка скончылася, і ні ў кога не было жадання зноў накруціць грамафон. Рольф Кюперс і Эрвін Бродэрэк крыху адасобіліся ад усіх для відавочна сур'ёзнай размовы. Эрвін, невысокі і жылісты, былы жакей, неяк упаў пры рамонтнай яздзе і стаў санітарам.

Усе чулі, як без асаблівага хвалявання Кюперс гаварыў:

— Магчыма, я пападу ў танкавую часць. Але калі яны захочуць засунуць мяне ў СС, я дам дзёру.

Бродэрэк уважліва слухаў яго. Ён задумліва ківаў галавой. Смех Эрыха Розенталя прагрымеў у пакоі.

— Кюперс, вы думаеце, што чорны мундзір вам не будзе пасаваць?

— Мне не падабаюцца чарапы, гер оберлейтэнант.

Усе былі ашаломлены, калі Хартмут Ведэльштэт цвёрдым голасам умяшаўся ў іранічную слоўную перапалку:

— А мне не падабаюцца вашы адносіны, Кюперс.

Рольф Кюперс, які спакойна стаяў побач з Бродэрэкам, здзіўлена паціснуў плячыма.

— Я маю на ўвазе вашы адносіны да справы, — раздражнёна дадаў Ведэльштэт. — Вы гаворыце так, быццам сёння, пасля амаль трох гадоў вайны, не ведаеце, што пастаўлена на карту.

— Не, не, гэта я ведаю, — сказаў Рольф Кюперс з падтэкстам. — На жаль! Дарэчы, я ўжо быў там, на перадавой.

Апошні напамін вывеў Хартмута Ведэлыптэта з сябе.

— І таму вы дазваляеце сабе чорт ведае што...

Рольф Кюперс пагардліва адвярнуўся і сказаў Бродэрэку ціха і дзёрзка:

— Не, мне павек не хацелася б бачыць гэтай дрэні.

Ведэльштэт пачуў. Яго густыя бровы, якія амаль зрасліся, утварылі прамую лінію. Здавалася. Ён зараз кінецца на Кюперса. Розенталь і Эва адначасова схапілі яго ззаду за рукі. Зігрыд, з афіцэрскай фуражкай на галаве, паспрабавала ўсадзіць яго на крэсла.

— Хлопчыкі, што вы такія няветлівыя! — Яна спрабавала сутаргавай вясёласцю выратаваць настрой.

У першыя гукі спешна пастаўленай пласцінкі ўварваўся працяглы віск сірэны. У гэты час ніхто не чакаў паветранай трывогі. Бродэрэк паглядзеў направа на двор і папрасіў патушыць святло. Зацямненне, сказаў ён, у вялікім пакоі не бездакорнае.

— Няўжо ў вас тут няма бамбасховішча? — збянтэжана спытаўся Хартмут Ведэльштэт. — Ці хоць бы акоп, каб схавацца ад асколкаў?

Зігрыд сарамліва маўчала, а Бродэрэк поціскам плячэй прасіў прабачэння.

— Мы не можам пакінуць дзяўчат адных. Афіцыйна яны наогул не павінны тут быць.

Ведэльштэт апусціўся на крэсла. Нехта выключыў святло. Бродэрэк паставіў на стол цьмяную свечку.

— Як на Новы год, — па-дзіцячы сказала Штэфі і ўмасцілася на каленях у Рольфа Каперса.

— Канечне, цудоўная забава, — пакпіў Хартмут Ведэльштэт.

Вось ён і ў пастцы. Як і трэба было чакаць, маючы справу з гэтай Зігрыд. Трэба будзе пагаварыць з Эвай, каб яна парвала з ёю дружбу. Абавязкова. Што гэта ёй за кампанія? Каханка нейкага берлінскага букмекера, які, цывільны, сядзеў цяпер у Парыжы і быў у падначаленні ва ўпаўнаважанага па аўтамабільным транспарце. Гэтыя спекулянты, гэтыя бегавыя жарабцы! Правы куток рота Ведэльштэта паехаў уверх. Як заўсёды, калі яго нешта моцна хвалявала, у

яго крывіўся рот. Ён яшчэ не меў права ўзвышацца над імі. Нават у зялёнага юнкера была нейкая перавага над ім... Але ненадоўга!.. А дзе ж Эва? Чаму яна не садзіцца каля яго? Цяпер, у змроку, калі кожны знайшоў сабе ўтульнае месца, каб з найбольшай прыемнасцю перачакаць гэты жудасны час! Трэба спадзявацца, што трухлявы барак устаіць, калі нешта здарыцца непадалёк... Ён пачаў разважаць, якія ж ваенныя аб'екты могуць быць у наваколлі Дойчландхале.

Эва не змагла сесці каля Хартмута. Яна прысела поплеч з Зігрыд і заўважыла, што Бродэрэк, недарослы жакей, прыціснуўся збоку да яе. Яна не паварухнулася і тады, калі яго рука слізнула па яе сукенцы, ад калена і вышэй. Ніводным рухам яна не адважылася падацца са зроку на святло ад свечкі, баючыся просьбы Хартмута:

— Ідзі ж сюды, Эва.

Размова вяла пераходзіла з аднаго на другое. Гэта былі толькі абрыўкі размовы, перш за ўсё паміж Зігрыд і Эрыхам Розенталем. Парыж — вось дзе прыгоды — і Італія — і Паўночная Афрыка. Трэба яшчэ заваяваць Грэцыю, пакуль не скончылася вайна. Так танна больш нікуды не трапіш.

— Анэлізэ Тоеркаўф была ў Грэцыі, — сказала Зігрыд да Эвы. — Ёй можна пазайздросціць. Падумай толькі: Афіны — акропаль — антыка! Яна, пэўна, не цэніць гэтага. — Зігрыд патэтычна ўздыхнула. — Я аддала б дзесяць год жыцця за восем дзён у Грэцыі.

Рольф Кюперс схамянуўся. Ён, мусіць, нешта хацеў сказаць, але Штэфі закрыла яму рот.

Бухнула зенітка. Зусім недалёка. Зазвінелі шыбы у бараку. Ніхто больш не размаўляў. Усе прыслухаліся. Пры першым выбуху бомбы Штэфі паспрабавала выскачыць з абдымкаў Рольфа.

— Баішся? — Засцерагаючы яе. Ён зноў прыхіліў яе галаву да сябе, калі яна, крыху сутаргава, адказала адмоўна. Часам, калі барак, нібы заранкамі, асвятляўся, Эва бачыла іх дваіх. Гэта ўжо былі не два чалавекі, а толькі адзін. Штэфі кахала. Некалькі гадоў назад яна зайздросціла Эве. Цяпер Эва зайздросціла ёй. Не за прыгожага статнага мужчыну, а толькі за тое, што Штэфі магла кахаць.

Жудасны выбух скалануў сцены.

— Лажысь! — крыкнуў Эрых Розенталь. Хартмут Ведэльштэт першы рынуўся на падлогу. Эва аказалася каля яго.

— Гэта ж вар'яцтва... у гэтай дашчанай халупе, — соп ён.

Выбухі заціхалі, аддаляліся. Калі загучаў адбой трывогі, Хартмут Ведэльштэт паспешліва паправіў рамяні, быццам больш ні на хвіліну не мог заставацца ў бараку, у гэтай пастцы. Спяшаючыся. Ён забыўся падзякаваць гаспадарам. Як дабяруцца дадому іншыя, яго не турба-

вала. Нават развітанне з Розенталем атрымалася беглым.

Цягнікі яшчэ не пачалі хадзіць. Яны з Эвай былі амаль адны на вакзале Дойчландхале. Размова пачалася яшчэ па дарозе, калі яны ішлі побач, не датыкаючыся адно да аднаго.

— Шкада,— прамовіў ён.— Сапсаваны вечар нам абаім. Ты павіяна абавязкова напісаць пра гэта свайму бацьку.

Яна ўздрыгнула, бо ў гэты момант думала пра свайго сапраўднага бацьку, і ёй спатрэбілася хвілінка, каб здагадацца, што Хартмут меў на ўвазе толькі Густля Швейнтмайра.

— Густлю? Пра што?

— Ты думаеш, што яму спадабаецца, калі яго дачка кінецца на шыю гэтаму Кюперсу. Ён жа ветраны.

— Ты так думаеш? ён хацеў стаць настаўнікам, а са школы мусіў пайсці на працоўную павіннасць. Тым часам ён быў нават банфюрэрам.

— А чаму ён не застаўся? Магчыма, яму далі б нават броню.

— Ён жа хацеў стаць настаўнікам, а не прафесійным фюрэрам гітлер'югенда. Ці настаўнікі нічога не вартыя?

— Хто чаго варты, адкладзём на потым. Пасля вайны нам давядзецца прыглядзецца больш уважліва да гэтых недаспелых выскачак.

Горыч засела ў горле Эвы. Яна хрыпла сказала:

— Тады і мяне таксама не забудзь...

— Што ты маеш на ўвазе?

— Прыглядзецца больш уважліва, вось што.

Ён спыніўся і змушана засмяяўся, сустрэўшы яе сур ёзны позірк.

— Ты ж ведаеш?.. — спытала яна няўпэўнена. Ён адмахнуўся.

— Ах, пакінь гэта. За тое, што твой стары не захацеў быць з усімі і палічыў за лепшае знікнуць, ты не адказваеш.

Вось аказваецца, як «інфармаваў» Густль Швентмайр выбранага сабе зяця!

— За гэта ён не адказвае! — сказала яна. — Ніхто не можа адказваць за тое, што ён яўрэй.

Хартмут спыніўся на вакзальнай лесвіцы. Пад імі прагрукатаў першы цягнік гарадской чыгункі. Яны не звярнулі на гэта ўвагі.

— Не,— сказаў ён, адмаўляючыся верыць. Кіўком галавы яна запэўніла яго канчаткова.

— Але ж ты была на працоўнай павіннасці.

Яна пацiснула плячыма.

— Не заўсёды ж усё выконваецца літаральна. Мне пашанцавала, што нехта паспагадаў мне.

Яго разгубленасць бянтэжыла яе, і яна заспяшалася на перон.

Ён заверыў няўпэўнена:

— Спагада! У мяне яна ёсць таксама.

Гэта гучала бездапаможна і шчыра. Яе сэрца змякчылася. Але калі яна ўлавіла яго выпрабавальны бакавы позірк, яна зноў узяла сябе ў рукі. «Цяпер ён даследуе, — падумала яна, — як Марліс, шукаючы прыкметы». Яна пабегла да цягніка, які падыходзіў. Калі б ён хацеў. Ён мог бы цяпер адстаць, нават прыстойна. Але ён прыбег. Ён праціснуўся ў яе купэ. Было дзіўна, колькі людзей ездзіла яшчэ. Затрыманыя або напалоханыя ранняй паветранай трывогай, яны спяшаліся дадому.

Эва зусім супакоілася. Дзеля гэтай размовы яна ехала ў Берлін. Цяпер, калі гэты чалавек стаяў, так блізка прыціснуты да яе, яна ведала, што заўсёды можа прачытаць на твары тое, што робіцца ў яго душы... Правы куток рота быў сутаргава скрыўлены. На крутым павароце, калі ўсё, здавалася, упадзе. Ён прытрымаў яе рукой. Гэта быў адзіны свядомы дотык за ўвесь час, пакуль яны ехалі.

— Калі ты заўтра ад'язджаеш? — спытаў ён.

— У чатырнаццаць трыццаць са Штэцінскага.

— Нумар тэлефона Зігрыд я запісаў. Ты будзеш да ад'езду ў кватэры?

— Да полудня — напэўна.

Ён кіўнуў.

— Я яшчэ пазваню.

Таўкатня аслабла. Станцыя перасадкі. Хартмуту таксама трэба было выходзіць. Ён падаў ёй руку, без слоў, панурыўшы позірк. Яна стаяла ў пярэдняй частцы вагона, прыхіліўшыся да сцяны. Яе твар быў замкнёны. У апошні момант здалося, што ён нешта хоча сказаць. Але ён толькі пакруціў галавой і прыжмурыў вочы, як чалавек, які выпіў нечага вельмі горкага. Потым ён паспешліва стаў прабівацца да выхаду праз плынь тых, хто заходзіў. Цягнік адразу рушыў. Хартмут больш не зірнуў на яе.

Зігрыд нагой пхнула дзверы ў вялікі пакой і паставіла паднос з посудам пасля снедання на нізкі круглы стол перад берлінскай печчу. Трохпакаёвую кватэру букмекера Ротхакера можна было б назваць утульнай, каб святлейшыя квадраты на шпалерах, пустыя нішы, непакрытая падлога і агаленыя вітрыны не выдавалі, што гаспадар самае каштоўнае з рухомай маёмасці звёз у бяспечнае месца, відаць, у мясцовасць, менш дасягальную для бамбёжак, чым цэнтр сталіцы рэйха.

Нягледзячы на ўсё гэта для трох дзяўчат, якія пасля доўгай ростані зноў сабраліся разам на тры дні, гэта было ідэальнае сховішча.

Зарабляючы 115 марак у месяц, на берлінскія гасцініцы можна было паглядзець толькі знадворку. Зігрыд падабалася быць велікадушнай гаспадыняй. Самай маладой, якая ўчора вечарам з цяжкім сэрцам разлучылася са сваім Рольфам, яна з мінай поўнага разумення падала снеданне ў пасцель.

Штэфі спала ў зале на тахце. Мурлыкаючы, паволі вызваляючыся з горка-салодкіх сноў, яна прыціснула падушку да сябе. Увесь свет для яе быў Рольф... У звоне посуду і гуках хуткіх крокаў Зігрыд яна праз адчыненыя дзверы пачула плёскат вады. Яна хутка апранула велікаваты на яе халат, які меў затхлы пах, бо занадта доўга правісеў у замкнёнай шафе. Зігрыд называла яго «дрэсінг-гоўн» Ротхакера.

Эва выйшла з ванны. Нягледзячы на загар яна выглядала бледнай. За снеданнем у яе быў дрэнны апетыт. Зігрыд ужо разведала тое, што ёй хацелася ведаць. Яна непахвальна сказала:

— Тое, што вы ўчора выказаліся, з аднаго боку, добра. Але парваць — справа дрэнь. Табе трэба было дзейнічаць больш дыпламатычна. Хто ведае, колькі яшчэ мужчын загнецца на вайне. Не ўсюды так утульна, як у Парыжы. Вось і добра было б мець некага ў запасе.

Дваццацідвухгадовая Зігрыд ацэньвала становішча цвяроза.

Штэфі спалохана глянула на маўклівую зводную сястру.

— Парвала з Хартмутам?

Эва знала, што Штэфі ў гэты час падумала пра Густля, свайго бацьку. Яго план рушыўся. Ён будзе злавацца, што яна дзейнічала без яго парады. Цяпер ёй было ўсё роўна. Так цягнуцца далей не магло, пасля гэтай нядзелі, якая пачалася бестактоўнасцю і ёю закончылася.

Зігрыд не хацела яшчэ здавацца.

— Магчыма. Ён яшчэ пазвоніць або прыйдзе на вакзал.

Эва зрабіла выгляд, што спадзяецца на гэта. Дзеля Штэфі. Пры гэтым яна была цалкам упэўнена, што ўчора вечарам усё скончылася. Замест пытання, дзе яе яшчэ можна знайсці. Ён з гэткім жа поспехам мог сказаць: «Вагон перапоўнены»... ці нешта гэткае ж нявіннае. Зігрыд хацелася сыграць ролю пасрэдніцы. Яна спрабавала знайсці апраўданне ўчарашнім паводзінам Хартмута, якія яна лічыла галоўнай прычынай разладу.

— Паводзіны Рольфа былі сапраўды крыху задзірлівыя. Малады афіцэр! Навошта яму выступаць супраць СС? У яго нават пастава падыходзіць для СС. Дзяўчаты, як бы ён выглядаў у чорным?

— Фанабэрыі ў Рольфа няма ніякай,— умяшалася Штэфі. Але яе твар заззяў ад пахвалы Зігрыд.

— Тваё няшчасце. У Францыі большасць афіцэраў СG маюць вагу. Ротхакер кажа, што яны занялі ўсе ключавыя пазіцыі. Як былы

штамфюрэр Рольф меў бы там шанцы. — Зігрыд узялася за сігарэты. — Што ж, кожны карыстаецца вайной як можа.

Эва глянула ўніз на тонкія, як павуціна, шаўковыя панчохі Зігрыд. Яе апанаваў неспакой. Яна раптам усвядоміла, што ёй тут не месца, у гэтай кватэры з голымі сценамі, побач са старэйшай на два гады Зігрыд, якая за чатырнаццаць месяцаў у Францыі, здавалася, набралася вопыту трыццацігадовай жанчыны.

— Такое не гавораць, — папікнула яна Зігрыд за бясчуласць.

— Ага, лепшыя людзі, такія, як на вашым Востраве, разумна трымаюць такое пры сабе, — пакпіла Зігрыд. — А можа, ты мяркуеш, што яны думаюць інакш?

Курачы сігарэту і ўсеўшыся ямчэй, яна выкладала сваю жыццёвую мудрасць перад маладзейшымі:

— Вайна мае правы і левы бок. Так заўсёды гаворыць Ротхакер. Пр авы бок — агідны, тут трэба неяк выкручвацца. Але левы бок дае ўсе шанцы. Як бы я сама выбралася з нашай нары! Бацька хацеў, каб я вучыла дзяцей. Я — настаўніца народнай школы! Вы можаце ўявіць сабе?

Эва калюча сказала:

— А вайна прывяла табе твайго магараджу!

Дзявочыя мары Зігрыд і дваістасць яе натуры знайшлі сваё ўвасабленне некалькі гадоў назад у сказе:

— Я стану або настаўніцай народнай школы, або любоўніцай магараджы.

Гэты напамін яе не крануў. Відаць, яна яшчэ патаемна насіла ў сабе магчымасць ажыццяўлення гэтых дзвюх схільнасцей, якія маглі вывесці ці на зусім будзённае, ці падштурхнуць на незвычайнае. Яна варушыла, гуляючы, кончыкамі пальцаў у ні разу не цыраваных, бездакорных шаўковых панчохах.

— Не зусім магараджу, — прызналася яна. — Ва ўсякім разе, калі ў Хопергартэне і Карлсхорсце зноў пачнуцца скачкі, Ротхакер будзе не апошні чалавек. Менш чым з трыма таталізатарамі мы і пачынаць не будзем.

Адзін з народжаных у марах Зігрыд князёў «Тысячы і адной ночы» стаў, такім чынам, сучасным багацеем. Жамчужныя каралі пад цюрбан ужо былі прызапашаны, магчыма, у валюце, у французскай тканіне і шаўковых панчохах або ў форме зліткаў золата, грошай, адкладзеных на чорны дзень, саліднай аснове французскага бюргера. Сапраўды — прывабны другі бок вайны, нягледзячы на пасівелыя і ўжо крыху парадзелыя валасы псеўдамагараджы, картачка якога стаяла на карнізе вялізнай халоднай кафельнай печы. Нават тое, што

ён быў удавец, акупілася. Для дачкі ўчастковага ляснічага з Ланген-брука сустрэча з ім стала паваротным пунктам, калі незвычайнае ўзя-ло верх над будзённым. Інтэрнацыянальнасць — супраць дома ляс-нічага.

Калі Зігрыд у семнаццаць гадоў была рэфэрэнткай друку ў СНМ, яна трымала вымову за тое, што на абмеркаванні становўча ацаніла кнігу «Андрэ і Урсула». Там расказвалася пра каханне немкі і маладога француза. Вылучаць інтэрнацыяналісцкую тэндэнцыю кнігі ў якасці становўчага крытэрый — гэта было не ў духу абласнога кіраўніцтва маладых дзяўчат. Каб рэабілітаваць сябе, Зігрыд напісала другі арты-кул аб прычынах дэгенерацыі французскай моладзі. Яна ў той час пакуль не бачыла ніводнага жывога француза. Калі яна прачытала артыкул Эве, абедзве яны згадзіліся, што гэта адна лухта. Але артыкул надрукавалі. І ўсё ж Зігрыд неўзабаве вызвалілі ад пасады. Банмедэ-льфюрэрка не магла дараваць ёй абмеркавання кнігі. З тых пор Зігрыд каменціравала нямецкароднуюстараннасць СНД словамі «Лач-лач, лугі цвітуць» і сцвярджала, што ў яе «слабасць» да Францыі.

Эва разважала далей. Пра «правы» — непрыемны бок — вайны, ад якога, як ні кажы, да Сены было пару тысяч кіламетраў, відаць, неахвотна ўспаміналі на Елісейскіх палях і ў атэлях на парыжскіх бульварах, дзе «акапаліся» служачыя вермахта.

Зазваніў тэлефон. Зігрыд шматзначна зірнула на Эву і зняла трубку. Сэрца Эвы на нейкую секунду забілася мацней. З ім нельга было справіцца.

— Штэфі, цябе, — Зігрыд махнула трубкай. Эва паціху прадыхнула. Пара было ісці на вакзал.

## 9
## БЕЛЫЯ ВЕТРАЗІ

Траўдэ Хёрзельман грызла трэцюю чэрствую булачку. Кулёк з яшчэ трыма яна палажыла ў сейф, каб не спакусіцца і не з'есці перад абедам. Гэта ж жахліва: таўсцееш нават ад яды, у якой ні тлушчу, ні навару. А ёй хацелася менавіта цяпер быць у такой форме, каб канкурыраваць з маладзейшымі супрацоўнікамі.

Званіў Вільфрыд Парызіус і пытаўся пра планы на выхадныя. На мінулым тыдні, калі ён быў у камандзіроўцы, — пра што яна не ведала — яна не спускала вачэй з тэлефона. Дома, у Зээштэрне, у прыпадках меланхоліі, за што яна кпіла з самой сябе, яна цэлымі вечарамі круціла прайгравальнік і слухала сентыментальныя шлягеры, ад банальнасці якіх так лёгка сыпаліся слёзы, калі хацелася папесціць

сваю тугу.

«...калі гаворыць сэрца: гэты ці ніхто!

А менавіта гэты быць тваім не можа...»

І вось ён усё-такі пазваніў... Павінна быць цудоўнае лета!

Размахваючы ключом ад сейфа і грызучы булачку, яна зайшла ў суседні пакой свайго бюро. Пакой быў цалкам застаўлены чарцёжнымі сталамі. Кучаравая галава матэматыка Карла Матэзі і цёмная гладкая Эвы Леангард былі схілены над імі. Абое маніпуліравалі планіметрамі на прышпіленай пергаментнай паперы. Яны моўчкі вадзілі па контурах чарцяжа дакладны прыбор з павучынымі ножкамі, які дазваляў лепка рашаць цяжкія інтэгральныя задачы нават такім дылетантам, як Эва, з дакладнасцю да міліметра.

Калі Траўдэ ўвайшла, Эва падняла вочы. Ён забалела спіна стаяць некалькі гадзін сагнуўшыся. Гэта «ганаровая праца», якую яна — адзіны нематэматык — павінна была рабіць для навуковага задання прафесара Лёйпальда, мела і ценявыя бакі. Спачатку яна узрадавалася, калі, пасля вяртання з Берліна, яе вызвалілі ад вылічальнай машыны і табліц. Яна выпрасталася.

Траўдэ прачытала яе думкі.

— Мы хутка гэта закончым, — усцешыла яна. — У выхадныя крыху зоймемся спортам — для разрадкі.

Матэзі на апошнія словы Траўдэ адрэагаваў з прыкметнай паспешлівасцю:

— Як вы наконт прагулкі пад ветразем у канцы тыдня, фройляйн Хёрзельман? — Ён скасавурыў вочы на Эву. — Мне здаецца, што ехаць удваіх са мной у фронляйн Леангард няма вялікай ахвоты.

Дзяўчаты непрыкметна абмяняліся позіркамі. Матэзі не ведаў, што яго, невысокага таўсташчокага зальцбуржца, вылічальная група называла «барочным анёлам». Дзякуючы толькі што купленай яхце ён, відаць, спадзяваўся павысіць свой аўтарытэт у жаночай часткі Вострава.

Траўдэ, якая сама думала пра планы на выхадныя, згадзілася з яго прапановай.

— Мы маглі б паехаць учатырох, на дзвюх лодках. Мне вельмі хочацца з'ездзіць у Вартэ. Па сушы трапіць туды вельмі цяжка.

— У Варта... туды адсюль за дзень ці дабярэшся, — сказаў Матэзі.

— Тады выедзем у суботу. Гаспадар пусціць пераначаваць. Цяпер жа там мала хто адпачывае.

Эва яшчэ ніколі не чула, каб яе начальніца з такім энтузіязмам строіла планы. Яна лічыла прапанову нядрэннай. У кампаніі можна

патрываць і Матэзі.

Высокі голас Хэні Розэнаў перарваў размову.

— Фройляйн Хёрзельман! Да цябе прыйшлі! — крыкнула яна цераз калідор.

Кіраўніцу групы дарма шукалі ў яе кабінеце. Матэзі, ва ўласцівай яму звыінстараннай жвавасці, злавіў Хэні на ганку.

У вузкіх дзвярах з'явіліся прафесар Лёйпальд і Ціфенбах. Матэзі, стоячы ля самых дзвярэй у сваёй наіўна-імпульсіўнай манеры адразу ж падаў прафесару руку і, заззяўшы ўвесь, з усёй сілы пацiснуў прафесараў. Матэзі ні разу не выходзіў з завода, не пажадаўшы кожнаму — на ганку, у калідоры ці ў лабараторыі — «вясёлага і здаровага адпачынку пасля працы» Па суботах ён зычыў «здаровых выхадных», яшчэ больш сардэчна. Д-р Клемт, якога Матэзі не раз ашаламляў зычлівым поціскам рукі, назваў гэту штодзённую цырымонію заканчэння працоўнага дня «развітальным парадам Матээі».

Эва стаяла каля акна, па другі бок чарцёжных сталоў. Яна прыпомніла выказванне Клемта, і яе развесяліла, з якой ветлівай сур'ёзнасцю абодва навічкі сустрэлі непасрэднасць Матэзі. Нібы каб паправіць памылку Матэзі ў выкананні фармальнасцей, яна абмежавалася стрыманым кіўком галавы здаля і зноў хуценька павярнулася да планіметра. І ўсё ж яна заўважыла іранічна -дапытлівы позірк, які кінуў у яе бок спадарожнік Лейпальда, перш чым пайсці за сваім патронам у кабінет Траўдэ Хёрзельман.

Пяшчотны звон гучаў секунды паміж сном і явай Эва не ведала, чым яго растлумачыць, пакуль не пераступіла парога, які вядзе да поўнага адчування дня Яна заміргала, пацягнулася і стукнулася левым локцем у сцяну. Звон чуўся справа... Толькі цяпер парог быў дасягнуты. Яна прыпомніла, дзе яна; крыху замілаваная, усміхнулася. Ранішні «парад» Матэзі ажыццяўляўся з дапамогай губнога гармоніка.

Выйшла ўсё вельмі смешна. Расказаць, ніхто не паверыць. Вінаватая ва ўсім была Траўдэ Хёрзельман У лодцы, якую яны ўзялі напракат, ёй абавязкова захацелася з ездзіць у Вартэ, з гэтым лётчыкам. Адправіцца учатырох на выхадныя — у гэтым не было нічога заганнага. На жаль, тая лодка стаяла на рачной прыстані, так што Траўдэ і яе партнёру больш як палавіну дарогі трэба было адолець удваіх. Яхта Матэзі «Клаус Штэртэрбекер» стаяла на якары ў бухце і да Вартэ павінна была падысці з другога боку.

Экіпаж «Штэртэрбекера» вечарам доўга чакаў лодку «Нойнаугэ», урэшце павячэраў вугром у жэле з зялёнай салатай і пачаў думаць пра начлег. У гаспадара, відаць, часта бывалі наведнікі з даследчай установы. Бо ў каго яшчэ на Востраве былі спартыўныя лодкі? І ён

дайшоў сваім розумам, чаму яны амаль заўсёды прыязджалі парамі. Ён павёў, без падміргвання і ўсялякіх фамільярнасцей, незнаёмую пару ў домік у садзе, драўляны домік на цагляным падмурку, у якім, акрамя кладоўкі і кухні пад адным дахам, быў чысты гасцявы пакой.

— Тут, — сказаў ён. — Падрыхтавана.

Эва разгубілася.

— Прыедуць яшчэ двое, — сказала яна. — Праўда, я хацела са сваёй сяброўкай...

Гаспадар паказаў на дрэвы ў садзе. Ветру зусім не было.

— Тыя яшчэ крэйсіруюць. Хто ведае, ці дабяруцца яны сюды наогул. Пакуль што кладзіцеся. Тут найлепшыя пасцелі. — З тым ён і пайшоў.

А потым пачалася камедыя, Якая так павесяліла Эву.

Матэзі, як яна загадала, прагуляўся па садзе, пакуль яна легла ў пасцель. Ён сам раздзяваўся ўпоцемку. Ложкі стаялі паасобку, паміж імі была камода. Калі Матэзі звесіўся, каб пацiснуць ёй руку і пажадаць добрай ночы, яна ледзь не ўпала з ложка. Ён перапрошваў так шматслоўна, што ёй прыйшлося супакойваць яго. А тут яшчэ аб'явілі паветраную трывогу. Гаспадар папярэдзіў іх, што ўставаць не трэба. Эва потым, мусіць, хутка заснула, бо не чула ні сірэны адбою, ні прыбыцця «Нойнаўгэ». Начлег прайшоў спакойна. Свежы ранак са светла-блакітным небам быў гэтакі ж спакойны.

Праўда, Матэзі давялося заплаціць за гэты спакой бяссонай ночкай... Эва не хацела ехаць з ім удваіх. З гэтым трэба было пагадзіцца. Але для гаспадара яны былі — пара! Яе рэакцыя на яго «дабранач», так ён вырашыў сабе, павінна была паказаць, наколькі можна наблізіцца да яе. Яе нязмушаная весялосць, якой яна адказала на яго сардэчны поціск, зусім збіла яго з панталыку. Уздыхнуўшы. Ён прыйшоў да высновы, што адну дзяўчыну зразумець цяжэй, чым усю матэматыку.

З узыходам сонца яны ўжо былі каля вады. «Нойнаўгэ», пустая і абыякавая, стаяла побач са «Штэртэрбекерам». Пакуль Матэзі ўкладваў рэчы, Эва надрапала некалькі радкоў. «Мы пакатаемся да поўдня. Мэта потым — Бодэнхаўз». Пасланне яна прымацавала да скрынкі з-пад інструментаў.

Матэзі паставіў ветразі. Як асцярожна ён выводзіў лодку і з якой стараннасцю прыгатаваў снеданне! Эва ўзяла румпель, а ён на дне лодкі распаліў прымус.

Вецер мякка гнаў лодку. Вялізная водная паверхня належала толькі ім адным. Ранішняе сонца абяцала цудоўны дзень. Эва адчувала шчаслівую ўзнёсласць, як калісьці ў дзяцінстве ў бабулі і дзядулі ў

Лангенбруку перад сенакосам. Але ўжо некалькі гадоў любое адчуванне шчасця прападала ад пакутлівай думкі, што мір існаваў толькі ўяўна. Наіўнае адчуванне, што ўсё цудоўна, ператварылася ва ўздых: «Як цудоўна магло б быць усё, калі б не вайна». Эва прыпомніла філасофію Ротхакера наконт правага і левага боку вайны. Яна падумала пра імкненне Хартмута «праявіць сябе» і пра захапленне Зігрыд Францыяй. Хто быў лепшы, хто горшы? І адкуль гэта ўсё бралася?.. Ёй, нібы з глыбіні свядомасці, прыпомнілася запыленая скрынка з кніжкамі яе дзядзькоў: «Наперад, ура!», «Горда лунае чорна-бела-чырвоны сцяг».

— Падайце, будзьце ласкавы, крыху вялікую пераборку, — скамандаваў Матэзі вельмі няпрускай мовай задумліваму рулявому. Ветразі матляліся па краях.

— Вы любіце вершы? — спытаўся ён непасрэдна, грунтоўна выціраючы посуд пасля снедання. — Пасля, калі мы ляжам пазагараць, я мог бы пачытаць вам тое-сёе.

— Вашы вершы? — Эва чула, што Матэзі піша.

— Ага.

— Тады пачытайце. Я, праўда, не спецыяліст.

Ён шматслоўна стараўся запэўніць яе, што гэта і не абавязкова. Ён хацеў толькі закрануць пачуццё. Пры гэтым загаварыў на тэму, якая відавочна вельмі хвалявала яго: вольныя рытмы, арыгінальныя вобразы — клопаты лірыка-пачаткоўца.

— Трэба ўвесь час перачытваць Гётэ, а з сучасных мне найбольш па душы Моргенштэрн. Але сур'ёзны Моргенштэрн, — падкрэсліў ён.

Унутраная кішэня яго курткі, якую ён палажыў у герметычную скрынку на карме, была туга набіта рукапісамі і тоненькімі кніжачкамі з астраўной бібліятэкі.

Лодка «Нойнаўгэ» пакінула бухту Вартэ, калі ўжо сонца стаяла даволі высока. Траўдэ Хёрзельман здрадзіла сваім жорсткім дыэтычным прынцыпам і акрамя сухой булачкі з'ела ладную порцыю вугра. Нельга было ўтрымацца ў кампаніі такога едака, як Парызіус.

Раніцай Траўдэ сорамна было сустрэцца з гаспадаром, які ўначы, калі яны падплылі ў час паветранай трывогі, каля адзінаццаці гадзін, змораныя да смерці, згрузіў іх пад павець. Брызент, разасланы на саломе, некалькі коўдраў і невялічкая лямпачка. На яе пытанне пра Эву і Матэзі ён буркнуў:

— Яны даўно ўжо спяць.

Яна спадзявалася, што ўбачыць іх пад павеццю. Парыруе яшчэ доўга потым пасмейваўся з гэтай яе наіўнасці.

Ён лепш зразумеў міну гаспадара. Але ў гэтым ён прызнаўся

Траўдэ толькі тады, калі зразумеў, што і ёй не хацелася ніякіх змен, калі яны па волі нейкай вышэйшай сілы аказаліся ўдваіх.

— Прыкурыць табе сігарэту? — Траўдэ атрымала ад свайго бацькі некалькі пачак «Ніла». Іх ужо нельга было дастаць у казіно, нават маючы найлепшыя сувязі. Яна была шчаслівая, што Парызіусу яны спадабаліся. Ён сядзеў на румпелі, а яна, прымасціўшыся ў зацішку, каля яго ног, прыпальвала сігарэту. Калі яна паднесла да яго вуснаў скрутачак з тонкім высакародным пахам. Ён дакрануўся да яе пальцаў пяшчотным пацалункам. Яны ўсміхнуліся адно аднаму.

Для яе, матэматыка, рашылася вялікае ўраўненне жыцця. Ва ўсякім разе, так здавалася ў гэты светлы бязвоблачны дзень ранняга лета.

Чым вышэй уздымалася сонца, тым больш лодак з'яўлялася перад вачамі. Яны выплывалі з розных бухт, на якія быў багаты бок Вострава, звернуты да мацерыка. Прасторы хапала ўсім. Свет здаваўся мірным. На «Фарэлі», прадаўгаватай лодцы, Ганс Ціфенбах прыкрыў вочы рукой і адшукаў ветразь «Штэртэрбекера», які накіроўваўся ў бухту.

— У іх, напэўна, ёсць запалкі, — сказаў ён буркліва, смокчучы сваю патухлую люльку.

Марцін Уліг, з румпелем і шкотам у руках, засмяяўся. Ён і не думаў паварочваць. Ён збіраўся толькі крыху змяніць курс, каб сонца больш свяціла ў твар. Ён коратка зірнуў іна чужы ветразь.

— Там сядзіць парачка. Няварта ім перашкаджаць. Але я думаў, што ў мяне на борце філосаф. У яго не павінен псавацца настрой ад некалькіх адсырэлых запалак.

— Як мне вядома, і Шапенгаўэру філасофствалася лягчэй, калі ў яго была табака, — прабурчаў Ціфенбах, робячы выгляд, што раззлаваны.

— А Фрэйду? — з іроніяй спытаў Уліг.

Той толькі адмахнуўся.

— На гэта мне ўжо даўно няма часу. Фізіка забрала мяне цалкам.

Уліг адчуў, як цячэнне націснула на руль. Калі ён адпусціць, лодку знясе на Варта. А туды яму не хацелася. Нягледзячы на тое, што вецер, здавалася, быў слабы, яму ўвесь час даводзілася раўняць, увесь час руляваць.

Яны пазнаёміліся, займаючыся планерызмам. Ганс Ціфенбах уступіў у нацыянал-сацыялісцкі лётны корпус, каб навучыцца планерызму. Марцін Уліг у той час ужо рыхтаваў на летніх канікулах вучняў класа А. Яны пасябравала — ён, студэнт Вышэйшай тэхнічнай школы, і старэйшы на два гады вучань, які прыйшоў з універсітэта. Кар'ера

планерыста Ганса Ціфенбаха закончылася разам са здачай экзамену на клас Б. Ён любіў усё паспрабаваць, каб потым адразу ж забыць. Яго шматбаковыя інтарэсы перашкаджалі яму выбраць прафесію. Ён аднойчы прызнаўся Уліґу, што хацеў бы паступіць на палову ўсіх факультэтаў універсітэта. Выбраўшы прыродазнаўчыя навукі. Ён сумаваў па філасофіі і гісторыі мастацтваў як па страчаным востраве светлай мары.

Марцін Уліг, якому авіяцыя вельмі хутка стала галоўнай мэтай і якога не мучылі ніякія сумненні, збіваючы з выбранага шляху, сачыў за развіццём старэйшага сябра, круціў галавой і ў душы крыху ім захапляўся. Ён часта браў Ганса Ціфенбаха, ураджэнца Рура, які вучыўся ў Франкфурте, на выхадныя дні да сваіх бацькоў. Абшары панскага маёнтка, дзе бацька Уліга быў інспектарам, паляванне, рыбалка на возеры — усё гэта вабіла Ціфенбаха навізной, як раней планерызм.

На апошніх курсах яго так захапіла фізіка, што ён на злом галавы памчаўся ў Берлін, каб працаваць разам з прафесарам Лёйпальдам, у якога, як яму здавалася ён найлепш зможа ажыццявіць свае планы. Некалькі тыдняў таму назад яны абодва з'явіліся на Востраве з вялікім заданнем, і Марцін Уліг не паверыў сваім вачам, калі аднойчы ў адным новым жыхары халасцяцкага інтэрната пазнаў старога сябра.

— На паварот — рэя!

Плынь, нягледзячы на ўсе манеўры, аднесла «Фарэль» занадта далёка ў бок Вартэ, і калі яны не хацелі засесці ў ціхай вадзе, то пара было павярнуць назад.

Асаблівай рысай іх дружбы заўсёды было тое, што яны абодва маглі доўга маўчаць. І калі ў пэўны момант адзін зноў пачынаў гаворку, другі адразу ж адчуваў яго думкі. Уліг быў рады, што за доўгае расстанне амаль нічога не змянілася. Ціфенбах сказаў:

— Няма цікавейшага прадмета за фізіку.

— Калі ты гэта даведаўся?

— Калі пазнаёміўся з Лёйпальдам. Мы з ім сядзім над працай аб выпраменьванні атамнага ядра.

— І якія поспехі?

— Адзін том мог бы з'явіцца ў свет ужо праз два гады, — скептычная міна і няўпэўненасць Ціфенбаха дрэнна стасаваліся з яго навіной.

— У чым жа загваздка? — спытаў Уліг.

— Ёсць людзі, якія мяркуюць, што ўвесь наш занятак — блеф.

Уліг запытальна ўскінуў бровы. Ціфенбах перастаў жаваць

люльку.

—Яны ствараюць сёння «Нямецкую фізіку». На пасяджэнні фізікаў у Зээфельдзе Лёйпальд вельмі пашкодзіў сваёй рэпутацыі, калі выступіў з меркаваннямі. Яму далі рэзкі адпор і залічылі ў разрад заклятых «сучасных фізікаў».

— Трэба спадзявацца, што ў вас там нядрэнная кампанія.

— Бачыць бог — нядрэнная. Але «германцы» задаюць тон, а нам трэба стварыць цуд, каб выправіць становішча.

— Можа, яно не такое яшчэ безнадзейнае, каб не справіцца без цудаў.

Ты яшчэ верыш у шчаслівы канец? Уліг паглядзеў міма сябра і наўмысна спыніў позірк на буі, які вынырнуў ля правага борта.

— Апошнія выпрабаванні зрушылі нас на ладны крок наперад, — сказаў ён.

— Няўжо ты папраўдзе думаеш, што выратаванне можа прыйсці з гэтага вострава? Тое, што я ўбачыў тут за тры тыдні...

— Праз год у нас будзе што прапанаваць паветраным сілам — ды і супрацьпаветранай абароне таксама процідзейныя сродкі з'явяцца не скора. Мы нашу лётаючую бомбу будзем, напрыклад, выплёўваць, як вішнёвую костачку ў суседні сад.

— А калі, на тваю думку, А4 будзе баяздольны?

Уліг пацiснуў плячыма.

— Лятучая лабараторыя! Прадмет неспакою Доктара. Хай ён сам табе раскажа.

Ён абышоў буй і паказаў на парусніk, які прычаліў да суседняга буя і калыхаўся перад імі з убаўленымі ветразямі.

— Гэта яго лодка. Канечне. Ён запрасіў некалькі чалавек і расказвае ім пра свае прыгоды ў галоўнай стаўцы фюрэра.

— Няўжо ў нядзелю ён не знайшоў больш прыемнага занятку?

— Магчыма. Ён узяў з сабой сакратарку. — Уліг ухмыльнуўся і паднёс да вачэй бінокль. — Не, не падобна, бо яны купаюцца голыя.

Говеру спатрэбілася добра напружыць мускулы каб залезці на борт лодкі. У вадзе не было ад чаго адштурхнуцца, і лодка клалася на бок, калі рослы мужчына хацеў падцягнуцца. Лягчэй было асядлаць каня!

За ім нехта лопаўся са смеху.

— Гоп-ля ў сядло, пан капітан! — Доктар, старанна працуючы нагамі, падставіў далоні Говеру пад пяткі З лодкі яму працягнуў руку Брэтшнайдэр, які манеўраваў, каб утрымаць раўнавагу. Стогнучы і хістаючыся, як п яны, голы Говер улез у лодку. Брэтшнайдэр кінуў капітану, які ўвесь дрыжаў, ручнік.

— У вас мала запасу на касцях.

— Гэта ўсё ад напружанай працы, гандляр дзяўчатамі!

Бестурботна смеючыся, шуткі і спрытны, як спартсмен, Доктар лёгка перакінуўся праз парэнчы. Ён стаяў, бліскучы ад вады, з выпуклымі грудзямі і біў па іх кулакамі, так што пырскі ляцелі.

Говер улазячы ў штаны, разглядаў яго з прыхаванай зайздросцю. Ён мусіў пракаўтнуць і наступную заўвагу гэтага маладога фарсуна.

— Радуйцеся, што скора канец гэтай рабоце, капітан.

«Табе добра гаварыць, — падумаў Говер. — Тваё рамяство ў гэтай вайне мае вялікі попыт. Для майго галава не мае вялікай цаны, для твайго — наадварот. Таму мяне можна адкамандзіраваць. Скарачэнне кіруючых штатаў! Спачатку перавод «у кусты», у раён выпрабаванняў на ўсходніх тэрыторыях. Маленькае турыстычнае падарожжа, скажаце вы, а на самай справе — вайна ў джунглях. Я ўжо ведаю, што мяне чакае».

Доктар, седзячы на скрынцы з-пад інструментаў, замахаў у бок лодкі і, вітаючы Ціфенбаха, якога пазнаў, махнуў плаўкамі.

— Сустрэнемся потым у Бодэнхаўзе, добрай — крыкнуў ён.

Ён з задавальненнем прыняў згоду і зноў загаварыў, упэўнены, што з кожным яго словам лічацца.

— Адзін з нашых найлепшых людзей, — гэты Ціфенбах. Выдатны тэарэтык. Лёйпальд называе яго сваім таленавітым вучнем. — Ён прыкрыў далоняй вочы ад сонца і паглядзеў услед лодцы. — Я лічыў яго дамаседам. А ён ужо ў лодцы. Яму тут спадабаецца яшчэ больш.

Говер у душы злаваўся. Гэты толькі прыехаў, а ужо тут думалі, як затрымаць яго. А ён, капітан Говер, мусіў пакінуць Востраў, і гэта, відаць, нікога не турбавала. Яго галава нічога не вартая, а хударлявае цела якраз падыдзе на мішэнь Івану... Усе сімпатычныя рэпкі, якіх ён нацягаў наверх у штаб, цяпер апетытна сядзелі ў стракатых сукенках у кабінетах і чарцёжных залах гэтых супергалоў. І не толькі там! Дзявочыя крокі ў доўгіх калідорах мужчынскага інтэрната няцяжка было адрозніць ад мужчынскіх... Маўр зрабіў сваё!.. Цяпер бывай, мая дарагая радзіма!.. Гэты закляты Востраў, які праклінаlі ўсе, каго прысылалі сюды працаваць, і які пакідалі, лаючы загад аб адкамандзіраванні.

— Трэба чакаць нападзення, — пачуў ён голас Брэтшнайдэра.

Доктар кіўнуў.

— Тут не дапаможа ні цар, ні бог. Калі на нас яшчэ не нападалі, дык гэта прыкмета, што нас не прымаюць усур'ёз.

— А мне думаецца, таму, што мы вельмі добра засакрэчаны.

— Былі засакрэчаны — так будзе лепш! Цяпер, калі прыйдуць зняволеныя, з сакрэтнасцю скончана.

— Трэба яшчэ больш павысіць бяспеку.

— Я за тое, каб паспяшацца. Гітлер быў у гневе, калі ён пачуў пра нашы тэрміны першага серыйнага выпуску А4.

Доктар зняў тампэн з перашыйка буя.

— Усё ясна?.. Наперад! Кірунак — Бодэнхаўз. Я хачу спытаць у Ціфенбаха, як далёка ён зайшоў у сваіх выпрабаваннях на аэрадынамічнай трубе. Заўтра апоўдні я еду ў Берлін. Тут мне не дапаможа ні цар, ні бог.

— Маладая бульба, не большая за шарыкі пінгпонга, толькі што з зямлі, абробленая шчоткай і падсмажаная ў тлушчы. З печаным вугром і салатай. Тонкія лісточкі салаты абветрываюцца ў чыстых сурвэтках і прыпраўляюцца вяршкамі з малака. Чырвонае віно, вядома, у чарках на кароткіх ножках, мае заўсёды пэўную тэмпературу. Большай асалоды вы не спазнаеце нават у найлепшым рэстаране на Курфюрстэндам і ў мірныя часы.

Усе з прыемнасцю выслухалі апісанне «фірменнага блюда Бодэнхаўза», якое Доктар зрабіў на ўзроўні навуковага даклада.

Яго падаюць, вядома, толькі сябрам і некалькім заўсёдным наведнікам, праўда, Ірэнэ? — дадаў ён і выцягнуўся ў шэзлонгу. Пераможна ўсміхаючыся. Ён глянуў на цёмнавалосую дзяўчыну, якая са спакойнай усмешкай стаяла каля яго. На ёй быў чырвоны фартух паверх шаўковай сукенкі саламянага колеру.

— Яна вывучала мастацтва ў Берліне, — шапнуў Уліг Ціфенбаху, які сядзеў побач. — Да вайны многія маладыя мастакі і студэнты на канікулах крыху зараблялі ў Бодэнхаўзе. Той-сёй з іх па магчымасці прыязджае і сёння. Фройляйн Ірэнэ тут, здаецца, жывецца лепш, чым у Берліне. Яна застаецца тут і на зіму.

Ціфенбах зразумеў, з чым было звязана гэтае «лепшае жыццё», калі ўбачыў, як прывабная дзяўчына адказала на позірк Доктара. Колькі гарэзлівай пяшчоты ўклала яна ў абсалютна будзённы адказ. Дзяўчына адказала Доктару.

— Дарма ты пра гэта. У тваіх спадарожнікаў вунь ужо слінкі цякуць. Маладой бульбы няма, нават з тэнісны шарык.

— Ах! Няўжо яшчэ зарана? — Ён прытварыўся, што здзіўлены.

— Пачатак чэрвеня — пэўна ж. Ты і сам павінен ведаць гэта. Ці ж ты не ў вёсцы вырас?

— Канечне. Я толькі забыўся. — Доктар гучна засмяяўся. — Акрамя таго, я думаў, што ў цяпліцы крыху пасадзілі — для мяне.

Ён вымавіў гэта з гарэзлівасцю вялікага спешчанага хлапца, які

можа купіць усё на свеце, маючы грошы, прывабнасць, розум. Чалавек, які валодае ўсімі каштоўнасцямі і трымае на руках усе казыры.

Ірэнэ з (Ціхім смехам пабегла праз сад. Яе добра пашытая спадніца ў складку развявалася. Доктар бегла зірнуў ёй услед, занадта бегла для такой дзяўчыны, падумаў Ціфенбах.

Брэтшнайдэр перасцерагальна кашлянуў, калі Доктар бестурботна і гучна пачаў навуковую размову з Ціфенбахам. Хоць невялікія столікі, вышыня якіх адпавядала шэзлонгам — а іх тут было настаўлена дзесяткі, — стаялі далёка адзін ад аднаго, і хоць Ірэнэ адвяла ім аддалены куток вялікага саду, нейкае спецыяльнае слова магло быць злоўлена публікай, што ў нядзелю пад вечар цягнулася сюды з суседніх пляжаў. Тады здагадкі пра тое, што робіцца на закрытай частцы Вострава, атрымалі б новую спажыву.

Ціфенбах падсунуў сваё крэсла бліжэй да Доктаравага. Ён разумеў трывогу Брэтшнайдэра. Інжынер адчуваў сваю адказнасць за тое, каб далёкія планы і ідэі Доктара ажыццяўляліся як мага лепш, як мага хутчэй і па магчымасці без перашкод. Схіліўшыся, накіраваўшы пагляд на асветленую сонцам спакойную ваду, Ціфенбах з усё большай увагай прыслухоўваўся да слоў Доктара. Прычыны аварый у час апошніх выпрабавальных стартаў былі яшчэ не высветлены. Калі А4 узняўся са стартавага стала і ўзарваўся недзе на вышыні тысячы метраў над морам, дык крыніцы памылак выявіць было, вядома, немагчыма. Як толькі ў аўтаматычным прыборы выйшла са строю толькі адна дэталька яго складанай унутранай сістэмы, не выключыўся кантакт, з'явіліся дэфекты ў вентылі, кабелі. Ён мог адхіліцца ці нават узарвацца. Кожны аддзел ведаў, чаго гэта каштавала. Тэарэтычна ўсе велічыні былі правільныя. Быў вылічаны аптымальны вінтавы момант, кропка ціску ў аэрадынамічнай трубе заставалася пастаяннай і ў звышгукавой сферы, цяга і вага апарата былі дакладна суаднесеныя, матэрыял знешняй абшыўкі вытрымліваў высокія тэмпературы, якія ўзнікалі ад паветранага трэння. Спецыялісты па кіраванні лічылі, што зрабілі ўсё магчымае. А няўдачы ішлі адна за адной. Апарат быў яшчэ занадта складаны. Няма чаго і думаць, каб неўзабаве можна было перадаць яго вайсковым часцям.

Ціфенбах гаварыў пра выпрабаванні, якія хацелі пачаць з перакісам вадароду, палівам для помпы турбіны. Доктар здзівіўся, як шмат ведаў яго новы калега ў гэтай спецыяльнай вобласці.

— Фізічнай хіміяй я цікаўлюся даўно, — сказаў Ціфенбах.

Доктар радасна глянуў на Брэтшнайдэра і Говера, быццам хацеў сказаць: «Ці не мая праўда? Вось чалавек, які нам патрэбен».

Ціфенбах перапыніў размову, калі заўважыў, што Уліг занепако-

іўся. Узняўшы вочы. Ён убачыў, што ідзе Ірэнэ. Яна прайшла міма стала і на запрашэнне Доктара: «Сюды, Ірэнэ!» з усмешкай паказала на дзяўчыну, якая ішла за ёй з падносам. На маленькіх талерачках узвышаліся тоненькія скрылікі фруктовага торта.

Ціфенбах пазнаў дзяўчыну. Ён бачыў яе ў белым халаце за чарцёжнай дошкай. «Дзяўчына, у якой не хапае арыйскай бабулі», — падумаў ён. Канечне, не вельмі прыемна, але з такой знешнасцю, як у яе, і ў эру Гітлера не ізастанешся без прыхільнікаў.

Доктар павітаў Эву без цырымоніі як старэйшы брат. Брэтшнайдэр застаўся карэктным, амаль сухім. У поціску рукі Говера крылася радаснае здзіўленне старога знаёмага. З іранічнай усмешкай, за якой хавалася ледзь стрыманае хваляванне, стаяў перад ёй Марцін Уліг.

За Эвай з'явіліся Матэзі, Траўдэ Хёрзельман і Парызіус. Матэматычка, якая аж кіпела ад радасці, знайшла крыніцу шчасця. Для яе гэта было занадта нязвыкла і хвалююча, каб утойваць радасць.

Ссунулі разам два сталы. Матэзі, разгарачаны поціскамі рук, залішне мітусіўся. Ён прынёс яшчэ адзін шэзлонг.

— Пастаўце яго, калі ласка, сюды, — крыкнуў яму Говер. — Для фройляйн Леангард.

Марцін Уліг расчаравана адсунуў крэсла, якое ён паставіў паміж сабой і сябрам.

«Капітан аказаўся лепшым арганізатарам», — падумаў Ціфенбах. Шкада. Яму хацелася даведацца, якія ў яе вочы. Пэўна, цёмныя. Для светлых яна была занадта брунетка. Яна прыехала на лодцы Матэзі. Матэзі, хадзячы вылічальнік! Гэты аўстрыяк умеў з неверагоднай хуткасцю рашаць самыя складаныя ўраўненні. Ён быў прыроджаны матэматык. Да яго стасавалася і тое, што ён выдатна іграў фугі Баха і пісаў вершы. Толькі гэта дзяўчына не стасавалася да яго. Было проста незразумела, што яна адшыла Марціна Уліга дзеля такога. А відаць жа, здарылася нешта такое.

Уліг, відаць, цяпер сам кпіў з сябе. Ціфенбах бачыў гэта па вуснах, з якімі сябар пры ўсім уменні валодаць сабой не мог справіцца.

Калі Эва села насупраць, Уліг звярнуўся да свайго суседа злева і ўцягнуў яго ў прафесійную размову.

Ціфенбах усміхнуўся сам сабе. Няўжо Уліг баяўся, што ён задасць яму непрыемнае пытанне? З таго часу, як ён тут, яны яшчэ не гаварылі пра жанчын. А чаму? Калі цябе на трэцім годзе вайны камандзіруюць на Востраў, ты не разлічваеш на тое, што знойдзеш там прыдатны клімат для такіх размоў.

Ціфенбах адлёгся. Ён з прыемнасцю адчуваў пад сабой туга напятую абшыўку шэзлонга, якая паўтарала кожны рух яго цела.

Размовы вяліся невялічкімі групкамі. На зіхатлівай паверхні вады на заднім плане адцянялася галава Эвы Леангард. Леанцінэ! Клемт першы прыдумаў ёй новае імя. Праўда, з дачкой Вольфенаў з «Бабрынага футра» Гаўптмана ў яе не было нічога агульнага. Ціфенбах бачыў яе рухомы твар у размове з Говерам, які рабіў трагічную міну. Каб выпрастаць ногі, яны сядзелі, далёка адсунуўшыся ад стала. Адлегласць здавалася яму занадта вялікай.

«А мне ўсё роўна — хай яна бачыць, што я назіраю за ёй», — падумаў ён. З радасцю ён заўважыў яе кароткі бакавы позірк, скіраваны на яго. Позірк быў спрактыкаваны, гэта трэба было прызнаць. Быццам выпадковы, быццам ненаўмысны. На малую секунду ўцёкі з-за агароджы, за якую яе зацiснула размова з Говерам, і вось яна зноў — сама ўважлівасць да яго развітальнага болю, прыпраўленага гумарам шыбеніка. «Я ўсё яшчэ не ведаю, якія ў яе вочы», — падумаў Ціфенбах і пачаў узірацца ў чарку з віном, быццам там можна было знайсці разгадку. «У брунетак амаль заўсёды цёмныя вочы». У яго быў нейкі звіх: ён увесь час вышукваў нязвыклыя камбінацыі: бландзінка — карыя вочы, брунетка — светлыя вочы. Ці: страснасць і цвярозасць, маўклівасць і тэмперамент, самабытнасць і веды адначасова.

Толькі антыподы, толькі парадоксы! Ён ніколі не знаходзіў іх. Таму без асаблівай трывогі ён набліжаўся ўжо да трыццаці.

— Будзьце здаровы! — сказала Траўдэ Хёрзельман, звяртаючыся да яго, і выпіла. Пры гэтым яна шчодра дарыла сваю добрую зычлівасць усім мужчынам. Доктар цераз яе размаўляў з Парызіуеам пра магчымасці новай канструкцыі парашута для А4, а яна ў гэты час назірала за задумлівай, маўклівай гутаркай Ціфенбаха з самім сабой.

«Наконт цябе я ўжо сёння мог бы зрабіць даволі дакладны аналітычны вывад, — думаў ён. — Ты вельмі мілая, добры таварыш, але не вельмі цікавая. Тваю рэакцыю я выдатна бачу наперад. Парызіус — ветлівы мядзведзь. Заставайся з ім! Надвор'е і яшчэ тое-сёе — вось вялікія невядомыя велічыні для яго ўзлёту. Гэтага яму дастаткова. Тут хапае казытання нерваў. Больш загадак яму не патрабуецца. Толькі меню табе трэба зрабіць крыху больш разнастайным, бо на сухіх булачках не пражыве нават закаханы лётчык».

Ціфенбах устаў... Недарэчна, што гэты хударлявы капітан з вертыкальнай складкай на лобе так завалодаў дзяўчынай-брунеткай. Відаць, яны старыя знаёмыя. Ціфенбах баяўся, каб прафесійная размова з Доктарам зноў не звалілася на яго. Ужо можна было здагадацца, што кола тэм пашыраецца. Яно ўжо перайшло з Парызіуса на Матэзі і круцілася вакол моманту інерцыі і каэфіцыента супраціўлення, якія, як паказалі апошнія вымярэнні на аэрадынамічнай трубе, яшчэ

вельмі адмоўна ўздзейнічалі на каэфіцыент пад'ёмнай сілы.

«Закажу сабе ў фройляйн Ірэнэ ў рэстаране сігарэты»,— падумаў ён.

Рэстаран быў плоскай зашклёнай будынінай са сталамі, накрытымі па-сялянску. Карнізы над лавамі ў кутках упрыгожаны керамічнымі кубкамі і талеркамі. Гаспадыня дома, светлавалосая матрона, была правобразам фрыгійкі. Яна трымалася з годнасцю, і цяжка было ўявіць сабе, што Бодэнхаўз, як казалі, да вайны быў любоўным гняздзечкам. Магчыма, такой славай ён быў абавязаны асабліваму флюіду, які быў уласцівы яму дзякуючы маладым мастакам і студэнтам і які адрозніваў яго ад іншых рэстаранаў Вострава.

У Ірэнэ была ўсмешка сфінкса, калі яна хавала чырвоны скураны кашалёк з грашыма за сігарэты пад свой фірменны фартух. Яна ахвотна паказала Ціфенбаху двор, дзе ён хацеў крыху агледзецца. Ён спадзяваўся, што яна пойдзе з ім. Калі ўсмешка на яе твары стала больш выразная. Ён зразумеў, што памыліўся. Ён на нейкі момант забыўся, што тут быў Доктар.

Ён разглядаў пабелены будынак каля вады. Пад шырокім дахам лесвіца вяла да драўлянай галерэі, адкуль можна было прайсці ў пакоі другога паверха. Уяўляючы сабе бестурботны час любоўных пар. Ён абышоў вакол веранды і зноў выйшаў на той бок, дзе былі сад і вада. На вузкай, амаль галаваломнай сцежцы, да якой былі прычалены паруснікі, стаялі два чалавекі. Гэта былі двое, якіх Ціфенбах менш за ўсё чакаў тут убачыць.

Жуючы травінку. Ён прысеў на прыбярэжную лугавіну, якая спускалася да вады. Ён бачыў абодва твары ў профіль, мог адрозніць любы іх рух і заставацца нябачным. Гэта ён любіў. Ён аналізаваў, эксперыментаваў. Яму здавалася, што ён зможа душой перажыць усё тое, пра што гаварылі яго сябар Уліг і дзяўчына.

Размова магла пачацца так:

*Ён.* Мы даўно не бачыліся.

*Яна.* Гм. (Нагой яна гуляла з непрыбітай дошкай кладкі.)

*Ён.* Ты тут з Матэзі.

*Яна* (глядзіць на яго знізу ўверх). А чаму — не? Мы цяпер працуем увесь тыдзень разам. Потым можна разам і адпачыць.

*Ён.* Ты мне сказала, што ты заручана.

*Яна.* Тое самае я сказала і Матэзі. Але ён вельмі мілы. І добра разбіраецца ў літаратуры.

*Ён.* Тут я, вядома, раўняцца не магу.

*Яна* ўсміхаецца, падбадзёрвае. Дошка зусім адстала. Ёсць небяспека, што дзяўчына спатыкнецца і ўпадзе ў ваду.

*Ён* сутаргава ўхапіўся за парэнчы, замест таго каб падтрымаць яе.

*Яна.* Затое ты ўмееш іншае.

*Ён.* Тое, што цябе не цікавіць.

*Яна.* О, чаму не. Я вельмі шкадую, што ніяк не магу ўбачыць цябе за штурвалам самалёта.

*Ён.* Гэта так важна для цябе?

*Яна.* Я не люблю, каб мяне — дзе б там ні было — пускалі толькі ў прыёмную.

*Ён.* Большасць дзяўчат сядзяць у прыёмных. Яны прыносяць карысць і нядрэнна сябе адчуваюць.

*Яна.* Я ведаю. Гэта тыя, што ганарацца, калі іх начальнік, нейкі Іа ці хто там яшчэ, кладзецца спаць з імі. Яны спадзяюцца, што ён возьме іх замуж па прычыне вайны.

Ціфенбах адкідвае травінку і папраўляе сябе… Немагчыма, каб яна сказала апошнія словы, яна замаладая для гэтага… Хоць бы дурань фон Уліг узяў яе цяпер пад руку! Ён жа бачыць, як гайдаецца дошка! Вось і яна гарэзліва гайдаецца. Такая кошка! Пры гэтым відаць, што ў яе пад кофтачкай не пуста. Яе кофта ўвабрана ў белыя льняныя шорты. Шырокі пояс штаноў упрыгожаны стракатым народным узорам. Відаць, дэталяў ад бабуліных ільняных пасажных кашуль не зусім хапіла на яе летняе адзенне. На трэцім годзе вайны дзяўчаты, якія хочуць быць прыгожа апранутымі, мусяць папаўняць свой гардэроб такімі вось штучнымі спосабамі. Ганс Ціфенбах ведае гэта… Ён прыпальвае сігарэту. Яму прыходзіць у галаву, што ад жавання травы бывае актынамікоз. Пакуль ён задзьмуў запалку, стракаты пояс з узорам знік. Дзяўчына села на кладку. І не ўпала ў ваду. А Уліг не дапамог ёй сесці. Ён усё яшчэ стаіць, сутаргава трымаючыся за парэнчы, замест таго каб сесці побач. Вось дурань! Яна боўтае нагамі ў вадзе. Вельмі прыгожымі, вельмі загарэлымі нагамі. Яны загарэлыя не толькі спераду, на голенях, але з усіх бакоў. Яна пачала прымаць сонечныя ванны, мусіць, яшчэ ў красавіку. У дзюнах ёсць цудоўныя зацішныя мясціны.

Ціфенбах курыць. Ён хоча яшчэ прасачыць за размовай. Гэта цяпер самы цікавы занятак для яго.

Яна сядзіць і размаўляе з вадой ці час ад часу паглядае на Уліга. Той з апушчанай галавой глядзіць на яе зверху ўніз.

«Але гэта нічога яшчэ не гаворыць пра суадносіны іх сіл», — думае Ціфенбах з зусім нязначнай доляй зладарства недзе на заднім плане. Тут — хутчэй наадварот. Яму прыпамінаецца, як гэта сфармуляваў мастак «Сімпліцысімуса» Олаф Гульбрансан: «І яна мела

сілу. Бо не кахала. Кахаў толькі я».

Бедны Марцін! Прабач, але я мушу яшчэ крышачку падслухаць.

*Ён.* Што будзе далей?

*Яна.* Што?.. Нічога.

*Ён.* Не боўтай нагамі. Я не магу больш глядзець.

*Яна.* Тады глядзі куды-небудзь так.

*Ён.* Калі ты будзеш і далей, так паводзіць сябе, то і другія яшчэ задумаюцца...

*Яна.* Я ж не хачу выходзіпь замуж.

*Ён.* Падумай. Ідзе вайна. Мужчын мала.

*Яна.* Дзякую. З гэтым ясна. Але гэта нічога не зменіць у маім намеры нечым стаць.

*Ён.* Ох! Чым жа?

*Яна.* Чалавекам!

Яна ўстае. Яна сапраўды прабягае міма Уліга, саскоквае з кладкі на бераг і шукае свае басаножкі

Ціфенбах тушыць сігарэту. «Глупства, — думае ён. — Яна ж, пэўна, гаварыла нешта зусім іншае Тое што я ўявіў сабе, магла б сказаць толькі дзяўчына з зялёнымі вачыма. А такіх на сто жанчын — адна»

Яна бяжыць па траве, не звяртаючы ўвагі на Уліга які пляцецца ззаду. Яе басаножкі стаяць блізка ад Ціфенбаха, як двойчы працягнуць руку. Яна здзіўлена глядзіць на яго і ўсоўвае ногі ў лёгкі абутак.

Чорт вазьмі! У яе зялёныя вочы. Зялёныя з шэрым. Ён аж палохаецца, калі бачыць гэта.

*Пакуль Белыя Ветразі стаялі ля прычала...*

...Хартмут Ведэльштэт перапраўляўся праз Дон. Міма тых населеных пунктаў, якія на геаграфічнай карце ў яго пакоі былі адзначаны шпількамі. Гатовы да вялікіх выпрабаванняў.

... эскадронны мінаносец крэйсіраваў перад марскім помнікам Лабоэ. На борце быў былы фэнляйнфюрэр, сябар Марліс з часоў СНД. Карабель выйшаў у мора, каб ніколі больш не вярнуцца.

... удава гарняка Клерэ Ціфенбах пісала ў Ізерлоне пісьмо свайму сыну Гансу, якое канчалася словамі: «Я такая шчаслівая, бо ведаю, што ты ў бяспецы».

...букмекер Ротхакер у Парыжы гаварыў па тэлефоне з парыжскім Галоўным бюро СД. Яго сяброўка Зігрыд Мэс расказала яму: у яе ёсць падазрэнне, што парыжская швачка — замаскіраваная яўрэйка.

... Хана Пэплаў, дачка рыбака з Пенэмюндэ, ездзіла на веласіпедзе, дваццаць кіламетраў туды, дваццаць — назад, каб перадаць звестку сувязному. Гэта звестка, закручаная ў пергамент, была схавана ў вэнджаным селядцы.

... Густль Швентмайр у Познані выгнаў восем польскіх сем'яў з іх кватэр, каб абсталяваць школу для памочніц вермахта. ..

... бабуля Эвы ў Лангенбружу аддала тры пакоі сям і з Дзюсельдорфа, якая з усімі пажыткамі шукала прытулку пасля бамбёжак.

... салдат Герберт Аксэ за надзейна зачыненымі вокнамі і дзвярыма цыновіцкага прыходскага дома прыслухоўваўся да слоў нямецкага паэта, які праз маскоўскае радыё звяртаўся да сумлення немцаў.

# КНІГА ДРУГАЯ

# РУХ І СУПРАЦІЎЛЕННЕ

## I
## ЯНА НЕ БАЧЫЛА ЯГО ПАКУТ

Калі Эва прыйшла на спартыўную пляцоўку, Юрген Бэр сядзеў на кукішках каля бегавой дарожкі і паглыбляў стартавыя ямкі, каб Хане Пэплаў было лепш упірацца. Нібы цярплівы трэнер. Ён выпрабоўваў глыбокі старт. Хана была нястомная.

На вялікай зялёнай цэнтральнай частцы спартыўнай пляцоўкі Эва кідала кап'ё. Пасля кожнага кідка яна падымала яго і кідала назад. Здавалася, што ёй усё роўна, колькі яно праляціць. Нібы танцуючы, яна разбягалася, потым — замах і старанна вывераны кідок. Пругкімі крокамі яна ішла ўслед за імклівым кап'ём.

Юрген паківаў галавой. Гэта была не трэніроўка, а эстэтычная гульня: гімнастыка з рэквізітам.

Яна падняла дыск, з прыемнасцю правяла рукой па яго гладкай адшліфаванай паверхні, палюбавалася, крутнула яго. Але траекторыя аказалася занадта прамой, дыск паляцеў недалёка. Бэр павольна падышоў да яе.

— Дазвольце паказаць вам размах?

Ён паказаў ёй становішча далоні, расказаў пра аптымальную вышыню ўзмаху рукі. Потым кінуў. Моцна, трэніравана.

Дыск праляцеў сваю адлегласць, як снарад.

Эва падзівілася з бездакорнай траекторыі.

— Я ніяк не даб'юся належнага вугла. Акрамя таго, у маёй руцэ замала сілы. У мяне няма штуршка.

Бэр заўсміхаўся са слоў, што ўжываліся на доследным прадпрыемстве, якія яна так спрытна ўплятала ў размову.

— Навошта вы трэніруецеся?

— Так сабе. Для забавы.

— У нас скора спартыўнае свята. Вы не хацелі б удзельнічаць? На кароткай дыстанцыі у вас павінен быць нядрэнны вынік.

— Чаму вы так думаеце?

— Гэта відаць. У вас трэніраваныя ногі. Вы лёгкая, гімнастычна падрыхтаваная. Вы ж ведаеце, што гэта значыць: малы каэфіцыент супраціўлення, нізкі момант інерцыі. — Ён вяртаў ёй назад тэхнічныя тэрміны. Нам патрэбен удзельнік, бегчы на восемдзесят метраў з бар'ерамі.

Яна прайшла з ім да бегавой дарожкі, дзе ўжо былі расстаўлены бар'еры для Ханы Пэплаў.

— Я гэтым ніколі не займалася. Але хачу паспрабаваць. Мне хочацца наогул пазнаёміцца з усімі відамі спорту.

— Зразумела. Якія ж вам яшчэ невядомыя?

— Напрыклад, язда на рэнокім коле. Язда вярхом і парусны спорт.

— Калі ва ўсіх астатніх вы ўжо паспрабавалі сябе, то гэта цудоўна.

Яны падышлі да Ханы Пэплаў. Дзяўчына прывіталася ветліва, але стрымана. Яна ахвотна паказала Эве тэхніку бегу з бар'ерамі, размах рук і становішча ног у момант штуршка.

Бэр стаяў каля першага бар'ера і чакаў скачка Эвы. Яна скокнула эластычна, без сутаргі, у належным рытме пераадолела адлегласць паміж бар'ерамі, каб перад наступнай перашкодай зноў стаць на апорную нагу.

Бэр загадаў ёй зноў вярнуцца назад. Яшчэ раз. Яшчэ. Потым разам з Ханай. У Ханы ўсё выходзіла хутчэй і лепш. Але Эва захапілася, загарэлася. Да мэты ёй не хапала ўсяго некалькі метраў. Сэрца стукала, як молат. Яна зусім знемаглася, але не здавалася. Пасля кароткага адпачынку яна пачала зноў. І трэці раз яна пайшла на спаборніцтва са сваёй трэніраванай партнёркай.

Твар Ханы памякчэў. Калі Бэр вызваўся правесці Эву да інтэрната, яна задумліва зірнула ўслед ім.

Магчыма, ёй варта было пагаварыць з Юргенам Бэрам. Спачатку, на размінцы, гэта можна было зрабіць непрыкметна. Яму б не пашкодзіла ведаць, што Эва Леангард — на чвэрць яўрэйка. Яна даведалася пра гэта з асабовай справы. Трэба было павялічыць кола супрацоўнікаў. Пачаць можна было з гэтай дзяўчыны...

Хана не была ўпэўнена, ці думаў ужо Бэр пра гэта, бо яны толькі тры месяцы працавалі разам у падпольнай групе Супраціўлення, і яе думка пра яго была двоістай. Ёй здалося, што ён — не вельмі надзейная апора, калі ёй паведамілі пра яго ў зашыфраваным пісьме з Берліна. Яна спадзявалася, што маленькі падпольны гурток, які яна стварыла на заводзе з некалькімі шафёрамі, механікамі і манцёрамі, пад кіраўніцтвам Бэра набудзе адчувальную сілу; яна думала ўжо пра лістоўкі, тайнае распаўсюджванне літаратуры і іншыя справы. Але ёй здалося, што для гэтага Бэр працаваў недастаткова мэтанакіравана. Яна яшчэ добра не ведала, чаго ён, шчыра кажучы, хацеў. Відавочна. Ён стараўся дакладна вывучыць завод. Вестка, якую яна нядаўна прынесла яму ў вэнджаным селядцы ў Цюсаў, магла мець важнае значэнне для кіраўніцтва ў Берліне. Яна павінна была змірыцца з гэтым. Было цяжка не ведаць, ці прыносіць карысць тая праца, якую робіш у пастаяннай небяспецы.

Эва павячэрала з Юргенам Бэрам у «Доме сяброў» каля дарогі на

пляж. Яна ведала, што Марліс запрасіла ў госці Герберта Аксэ і, пэўна ж, ахвотна пабыла б з ім сам-насам. Бэр з апетытам з'еў шэра-фіялетавую чырвонакачанную капусту з бульбай і соусам, які быў ёй гідкі.

Яна разглядала яго: занадта высокі атлет, амаль на дзве галавы вышэйшы за яе — і такая яда! Яна пашкадавала яго. Але ён засмяяўся: у яго дома яшчэ ёсць паўбуханкі хлеба.

Хутка яна заўважыла, што ў яго ёсць звычка крытыкаваць блізкіх. Прафесійныя якасці Траўдэ Хёрзельман ён цаніў вельмі высока. У Марліс Хасэ яго асабліва кранала чалавечнасць. З яе ж стрыечным братам, інжынерам Брэтшнайдэрам. Ён трымаўся на адлегласці. Ён лёгка, з кепікамі прайшоўся па лепшых сілах доследнай установы. Відаць. Ён не шмат чакаў ад намаганняў на Востраве.

Калі ён закрануў Доктара і генерала, Эва спыталася, пакруціўшы галавой:

— Відаць, вы наогул не ўспрымаеце нічога сур езна? Чаму вы настроены так апазіцыйна?

Ён памарудзіў з адказам.

— Мая апазіцыя — абарона.

— Ад чаго?

— Ад усяго тут. — Ён азірнуўся. — Ці не пахадзіць нам яшчэ крыху?

Яны прабраліся паміж сталамі, за якімі з сумнымі тварамі сядзелі салдаты, і выйшлі на двор. Бэр узяў свой веласіпед, і яны пайшлі па лясной дарозе на ўсход, каб не наткнуцца на забаронную зону завода.

Дарога праз дзюны была вузкая. Часта высокі мужчына павінен быў угінаць галаву, каб не зачапіцца за галіны.

Ён зноў пачаў размову.

— Вы, пэўна, лічыце мяне вартым жалю невукам і насмешнікам. — Ён коратка засмяяўся. — Разумееце, гэта — мая самаабарона. Вырас я ў доме, дзе вышэйшым законам была пачціваць да ўсяго, што створана розумам і рукамі людзей. Мой бацька — даволі вядомы хірург. Ён выкладае ў Марбургскім універсітэце. Яго цяперашняя жонка была оперная спявачка.

— Чаму вы не гаворыце: мая маці?

— Бо тады б у вас склалася няправільнае ўяўленне. З таго часу, як яна з намі, я пайшоў сваёй дарогай.

— Яна не старалася заваяваць ваш давер?

— Ані. Разрыў наступіў адразу, як толькі я пазнаёміўся з ёю ў Лейпцыгу.

— У Лейпцыгу? Я там часта бывала... Раскажыце. Што вы там

рабілі?

— Мой бацька паехаў рабіць даклад на нейкім пасяджэнні па стаматалагічнай хірургіі. Ён узяў мяне з сабой. Я атрымаў атэстат сталасці і захацеў пазнаёміцца з Германскай бібліятэкай. Акрамя таго, скляпок Аўэрбаха, Грасі-Музей, ну вы самі ведаеце, што прываблівае ў Лейпцыгу.

Я памятаю яшчэ і цяпер усе падрабязнасці. Мы жылі ў гасцініцы Гаўфэ на Росплац. Лейпцыг якраз чысціўся да прыезду фюрэра. Таму мы атрымалі горшыя пакоі, чым хацелі, і мой бацька, што было непрыемна, прыцягваў да сябе ўвагу, пратэстуючы супраць гэтага. Потым нам трэба было радавацца, што нас не выселілі. Гітлер выбраў менавіта нашу гасцініцу.

Вечарам была прэм'ера оперы ў Новым тэатры, і я ўбачыў маю будучую фраў маму ў ролі Тоскі. Раней я ніколі не бачыў яе. Я быў гатовы захапляцца ёю, хоць у той час не любіў італьянскіх опер. У антракце яна акінула мяне позіркам з галавы да ног і ў выніку не запрасіла на банкет у гонар прэм'еры. У гасцініцу я вяртаўся адзін.

І на другі дзень мне далі адчуць, што яна не ў захапленні ад такога вялікага сына. Мусіць, я ёй здаўся занадта высокім, занадта здаравенным і занадта сарамлівым. Майму бацьку было крыўдна. Ён усюды браў мяне з сабой, калі ехаў без яе, і адносіўся да мяне пасяброўску. Але ад гэтага было мала карысці, бо намер быў відавочны, ды і ад жанчыны ён дзеля мяне не адмаўляўся. Тады я ўнутрана падрыхтаваўся да «вожыкавай» самаабароны.

У стаматалагічнай клініцы я пазнаёміўся між іншым з вашым цёзкам. Мой стары запрасіў яго ў гасцініцу, бо на пасяджэнні той зрабіў на яго вельмі вялікае ўражанне. Чалавек той працаваў над новым відам рэгулявання сківіцы. Назва гучыць неяк так. А ў мяне ўсё гэта не ў парадку. Бачыце, як няроўна павырасталі зубы. Мой бацька дэманстраваў мяне як негатыўны прыклад. Але д-ра Леангарда не пусцілі нават у гасцініцу. Таму што павінен быў прыехаць фюрэр.

— Ён быў яўрэй?

— Але. Потым мы хацелі спаткацца з ім у шынку Экерлейна. Ён быў такі добры знаўца віна, як і мой бацька. Ды тут мы раптам даведаліся, што ён паехаў. Пагарда да некаторых высокіх нацыстаў у стаматалагічнай клініцы вымусіла яго зрабіць гэта.

Бацька пракаўтнуў прыкрасць. Ён не мог нічога зрабіць. Каля Новай ратушы ўжо збіраліся масы, каб шумна вітаць Гітлера, і мая будучая мачаха па тэлефоне прагудзела вушы майму бацьку, каб ён правёў яе ў гасцініцу. Ёй трэба было зблізку ўбачыць заваёўніка ўсіх

рускіх.

— А што сказаў ёй на гэта ваш бацька?

— Ён пакпіў крыху з яе і зрабіў ласку. Кавалер старой школы.

— А вы?

— Я змыўся і з Кёнігспляц назіраў за істэрычным натоўпам. «Інтымны бар», здаецца, называлася тая піўнушка на першым паверсе. Там я ўпершыню ў жыцці напіўся. Між іншым, сведкам быў нейкі японец, які, відаць, таксама не чакаў дабра чалавецтву ад восі Берлін — Рым — Токіо.

Юрген Бэр замоўк. Ён абапёрся на свой веласіпед і з няўпэўненай усмешкай паглядаў зверху на Эву.

— Чаму я вам усё гэта расказаў? — ён зноў коратка засмяяўся. Нібы кпіў з самога сябе. — Я хацеў, каб вы мяне зразумелі. Увогуле, я не вельмі люблю сямейную балбатню.

Нервовасць, з якой яна хвастала галінкай па ствале сасны. Ён палічыў за нецярплівасць.

— З асабістага выцякае ўсё астатняе, — сказала дзяўчына аселым голасам. — Калі б я тады пабачыла сама, што з маім бацькам... — Яна ўсхліпнула.

Ён запытальна паглядзеў на яе.

— Хто ваш бацька па прафесіі?

— Зубны ўрач.

— Таксама зубны ўрач?

— Не таксама! Гэта з ім вы знаёмы.

— Але той доктар Леангард быў яўрэй...

Яна адвярнулася. Ён прыхіліў веласіпед да дрэва і падышоў да яе. Яна глядзела на мора. Ён стаў у яе за спіной і дакрануўся да плячэй. Ён крыху памаўчаў і сказаў:

— Я вам так шмат расказаў. Ці не растлумачыце вы мне таксама? Я не зусім разумею. Вы ж былі на працоўным фронце.

— Была. Гэта ўжо мая «вожыкавая» самаабарона ці маскіроўка. Называйце, як хочаце.

— Што ж вы маскіруеце? Вы ж ім дапамагаеце.

У голасе было столькі горычы, што яна павярнулася да яго. Яе рухомы твар спахмурнеў ад хвалявання. Крыху пяшчотней ён спытаўся:

— Вы так добра ўмееце хаваць сваю нянавісць?

— Не нянавісць, а сябе я вымушана хаваць. Гэтым я занята па горла.

Ён не змог справіцца з кплівым смяшком, уявіўшы сабе многіх людзей, якія звычайна акружалі яе, і яму здалося, што яе словы

дрэнна стасаваліся з гэтым.

Яна здагадалася, з чаго ён кпіў, і таму зазлавалася на яго.

— Што, мне жыць манашкай? Тут гэта яшчэ больш кідалася б у вочы.

Яна ўпарта пайшла далей па дарозе і тым самым прымусіла яго зноў узяць веласіпед.

— Акрамя таго, у мяне няма ніякага жадання. Я хачу жыць, як усе. Я не хачу быць чалавекам другога гатунку. І пакуль ніхто не ведае таго, што ведаеце вы, мяне паважаюць. Гэта страшна неразумна і страшна смешна, а часам страшна агідна. Але што мне рабіць — крыкнуць гэта ім у твар? Адзін з іх, найбольшы дурань, які спакусіўся (маёй фізіяноміяй ці хто яго ведае чым, выпісаў мне нават адпускную грамату. Адпаведна ёй — я мяшанка другой ступені. Гучыць? І вось мяне прынялі на працоўны фронт, а пасля службы ваеннай дапамогі я трапіла сюды. Я буду рада, калі змагу пражыць некалькі гадоў без анкет. Людзі ў шэрай форме здаюцца тут больш лаяльнымі.

— А ваш бацька? Якую форму носіць ён? У палоску? Ці толькі зорку Давіда?

Як заклятыя ворагі, яны стаялі адзін насупраць аднаго. Лясная сцежка выходзіла на гасцінец. Яны прыцішылі крок, каб не наткнуцца на людзей, якія ішлі з заводскай чыгункі.

— Бацька нядоўга быў пад арыштам. — Голас Эвы гучаў вінавата. — Потым ён адплыў у Амерыку.

— Гэта вас супакойвае? І вы заключылі мір са сваім асяроддзем!

Яна няўпэўнена пацінула плячыма.

— Магчыма, гэта толькі перамір'е...

Ён ірвануў руль уверх і хутка зноў апусціў пярэдняе кола на зямлю, так што пругкая гумавая шына заскакала на асфальце. Яны выйшлі на прасёлак. Трэба было неяк даць выхад узбуджэнню.

— Але ж так нельга жыць! Помнячы ўсё гэта. Вы ж бачылі на свае вочы! Такія малюнкі не даюць заснуць!

— Якраз я нічога і не бачыла, нічога на сабе не адчувала. Калі нацысты разграмілі бацькаў кабінет, я была ў матчыных бацькоў. Мне было адзінаццаць. Я добра не ведала, што здарылася з бацькам, а калі пазней я зразумела, што больш ніколі не ўбачу яго, я ўсю ноч плакала. Але я ўжо прывыкла, што мы не разам.

— Які быў ваш бацька?

— Вельмі сур'ёзны і вечна заняты. За працай ён часта забываўся пра мяне. Калі практыка была закрыта, а ён усё роўна сядзеў у сваім кабінеце каля пісьмовага стала ці рабіў доследы, я часам хацела, каб ён мне тое-сёе растлумачыў. Тады ён часцей за ўсё адсылаў мяне,

абяцаючы: «Пазней, калі ты вырасцеш, я раскажу табе ўсё». Гэты сказ і цяпер гучыць у мяне ў вушах. Ён не ведаў яшчэ, як дапамагчы мне — маленькай дзяўчынцы. Але ён рана далучыў мяне да спорту. Ён хацеў, відаць, кампенсаваць тое, што я не магла ўступіць ні ў якую палітычную маладзёжную групу.

Я і цяпер добра памятаю той дзень, калі ён вярнуўся з Лейпцыга, з нарады, на якой вы бачылі яго. Ён быў яшчэ больш сур'ёзны, чым звычайна, па-сапраўднаму засмучаны. Тады ён зрабіў нешта, чаго я не зразумела: прымусіў мяне аддаць у падарунак вопратку, якую я любіла больш за ўсё. Гэта была кофтачка з чорнай шэрсці з чырвона-зялёнай палоскай вакол шыі. Так званая «берхтэсгадэнокая кофтачка». Бацька прывёз яе зімой з водпуску. Яны ў нас тады якраз увайшлі ў моду. Я была першая ўладальніца ва ўсёй школе, і гэта была «сапраўдная» кофтачка. Калі бацька вярнуўся з Лейпцыга, я мусіла падараваць яе дачцэ жанчыны, якая прыходзіла прыбіраць у нас. На вакзале бацька сустрэў цэлую калону «юнгмедэль». Яны вельмі фарсілі вымпелам і паходным багажом, і ўсе былі ў гэтых берхтэсгадэнскіх кофтачках паверх белых блузак. У апошні час кофты сталі часткай іх формы.

За кофту я два дні ненавідзела бацьку — я не разумела ўзаемасувязей, таму што ад мяне ўвесь час утойвалі тое, што навальвалася на нас. У школе мяне таксама аберагалі. Бацька быў самы вядомы зубны ўрач у горадзе.

Праз два дні пасля гэтай гісторыі з кофтай я паехала да бабулі і дзядулі, а праз восем дзён з ім здарылася тое, што здарылася.

— Вы не пачалі тады разумець яго?

— Поўнай меры няшчасця я ўсё яшчэ не разумела. Прычына была ў тым, што нашы асабістыя рэчы — мэбля, дываны, мае кніжкі і цацкі — засталіся цэлыя і пераехалі да нас. Мая маці вельмі дзелавая. Яна даказала, што кватэра належала ёй, таму што яны з бацькам падзялілі маёмасць. Акрамя таго, яна выкарыстала аўтарытэт дзеда. Яго вельмі паважалі ва ўсёй акрузе. Так што пагромшчыкам дасталіся толькі кабінет і навуковая бібліятэка.

— Гэта, відаць, найбольш балюча ўразіла вашага бацьку.

— Канечне. Але ў адзінаццаць гадоў гэта цяжка зразумець. Для мяне было шчасцем, што ўцалеў мой веласіпед і не прапалі дзіцячыя кніжкі.

— А маці?

— Мая маці, відаць, не любіла бацьку па-сапраўднаму. Мне здаецца, што гэтым замужжам яна хацела толькі выйсці ў першы рад грамадства. У малым гарадку зубны ўрач нешта значыць. Яна рабіла

ўсё так, як раіў мой дзядуля. Ён такі ж славалюбны, як і яна. Пасля катастрофы год яна заставалася ў смутку, потым бацька з Амерыкі даў згоду на развод. І калі мужчыны пачалі азірацца на мяне, яна зноў выйшла замуж.

Юрген Бэр засмяяўся жорстка і злосна.

— І вось вы — адзіная памяць ад яе няўдалага замужжа?

— Але. Напамін, якога яна не можа пазбыцца.

— Магчыма, яна вас не вельмі любіць.

— Гэта не кідаецца ў вочы, бо яна ўмее хаваць свае пачуцці.

— А яе другі муж?

— Той павінен быў дапамагчы ёй адцурацца ад мінулага. Гэта было ў яе самае важнае. Але доля віны за гэту жаніцьбу ёсць і на міне.

— Як гэта?

— Спачатку ён убачыў мяне. На спартыўнай пляцоўцы. Мне было пятнаццаць гадоў, і на спартыўным свяце я ўжо заваявала некалькі прызоў для свайго класа. Па плаванні і на кароткай дыстанцыі. Мяне разам з некалькімі дзяўчынкамі паклікалі на трыбуну, і ад крайсляйтэра я атрымала набіўны мяч для класа і граматы, медаль і ўсё такое. Я была ў чорна-белым спартыўным трыко, адзіная без нашытага значка гітлер'югенда, і таму баялася падаваць руку карычневым наверсе. Але мне здалося, што тыя нічога не заўважылі, яны, мусіць, думалі пра нешта іншае, калі аглядалі мяне з галавы да ног. Яны былі вельмі ветлівыя са мной. Недалёка ад крайсляйтэра стаяў Густль Швентмайр, мой будучы айчым. Ён быў у цывільным. Я павінна была падаць руку і яму, і ён затрымаў мяне, так што я апынулася побач з ім у час віншавання пераможцаў і пры выкананні песні гітлер'югенда. Ён так цікава размаўляў па-аўстрыйску, гэта мне спадабалася. Потым з трыбуны нас забіралі нашы родныя і настаўнікі, каб павіншаваць нас. Мая маці таксама падышла. Швентмайр адразу адрэкамендаваўся і прапанаваў адвезці яе на сваёй машыне ў гарал. Але мы прыехалі сюды на дзядулевым «опелі». Тое, што маці сама вадзіла машыну, відаць, імпанавала яму. Ва ўсякім разе. Ён запрасіў яе на вячэрняе мерапрыемства. Там быў школьны тэатр, банкет і нешта яшчэ ў гэтым родзе... Маці спачатку не хацела ісці, але потым пайшла.

— Гэты Швентмайр нічога не ведаў пра мінулае вашай маці?

— Спачатку нічога. Я ж была пераведзена ў другую школу, а тут майго бацьку ніхто не ведаў. Пазней Швентмайр, канечне, дазнаўся, і тут зноў умяшаўся дзядуля. Усё зайшло так далёка, што Швентмайру ўжо не было дарогі назад, інакш дзядуля зрабіў бы так, што ён не застаўся б у сваёй партыі. Канечне, уламаць Швентмайра было не ця-

жка, бо ён — адзін з тых аўстрыйцаў, якія прымуць з ахвотай чорнае за белае, калі гэта ім на карысць. А людзі кажуць, што маці акруціла яго.

Сцямнела. Эва пайшла павальней. Трэніроўка давала адчуваць сябе ў целе. Яны далёка адышлі ад дома Зэештэрн. Перад імі ўдалячынь бегла прасёлачная дарога.

— Можа, сядзеце? — спытаўся Юрген Бэр і паказаў на раму веласіпеда.

Яна ўмасцілася, быццам гэта было ёй так звычна. Яе думкі былі далёка. Седзячы, яна адчувала яго дыханне. Ён стараўся раўнамерна круціць педалі, каб не штурхнуць яе каленам. Гэта не зусім удавалася. Яна ж, здавалася, нічога не заўважала. Яна яшчэ не вызвалілася ад хвалі ўспамінаў, што накрыла яе з галавой.

Як было б добра, каб я мог расказаць ёй цяпер пра ўсё важнае і рашаючае ў маім жыцці, думаў Юрген Бэр. Разрыў з домам быў толькі першы крок. Самае важнае прыйшло потым.

У той час ён быў студэнтам трэцяга курса ў Гётынгене. У яго быў даволі прасторны пакой, і невялічкая група яго таварышаў па вучобе прызвычаілася кожны тыдзень збірацца да яго разам працаваць. Не абыходзілася без таго, каб іх размовы, як толькі былі падрыхтаваны заданні, не перакідваліся на праблемы палітыкі і светапоглядаў. Ён, самы малады, хутка ўбачыў, што найбольшая гармонія ў яго з Хайно, самым старэйшым хоць той прыводзіў вельмі асцярожныя аргументы, калі погляды сутыкаліся. Ён нават імкнуўся стрымліваць малодшага таварыша.

Аднойчы адзін іх таварыш, член студэнцкага саюза нацыяналсацыялістаў, гнеўна кінуў на стол лістоўку якую яму хтосьці, мусіць, ва універсітэце, падсунуў у партфель. На лістку нічога не было, акрамя вялікай свастыкі і надрукаванага подпісу пад ёй: «Той хто носіць гэты знак, жадае вайны».

У той вечар іх маленькай кампаніі папрацаваць як след не ўдалося. Члену студэнцкага саюза здалося недастаковым абурэнне таварышаў з прычыны з'яўлення лістоўкі, якая, на яго думку, была несумненным доказам «бальшавіцкай падрыўной работы» сярод студэнцтва. Асабліва энергічна ён накінуўся на Бэра, сарказм якога выводзіў яго з сябе. Яны хутка разышліся, але Хайно, які пайшоў разам з іншымі, вярнуўся. Ён моўчкі працягнуў Бэру пачак сігарэт. Бэр, у той час заядлы курэц, пачаставаўся, але замест сігарэты выцягнулася скручаная лістоўка, такая самая, як і тая, што была ў партфелі ў члена студэнцкага саюза. Яны стаялі насупраць, твар у твар. Хайно сказаў: «Цяпер ты належыш да нас, Юрген».

У тую ноч яны сядзелі побач да світання і выгаварыліся пра ўсё, што засталося нявыказаным у прысутнасці нацыста. Пасля захопу ўлады Гітлерам бацьку Хайно арыштавалі і закатавалі за тое, што ён быў камуністам і прафсаюзным актывістам. Жонцы і сыну прыйшлося перажыць вобыскі гестапа і пакуты бясконцых допытаў. Шмат чым ахвяраваўшы, дзякуючы падтрымцы аднаго з дзядзькоў, які лічыўся надзейным у палітычных адносінах, Хайно змог вучыцца на прыродазнаўчым факультэце. Зусім свядома ён стварыў сабе ва універсітэце рэпутацыю абсалютна апалітычнага чалавека. Толькі самыя блізкія сябры, якія самі займаліся нелегальнай работай, ведалі, які ўрок ён атрымаў з лёсу свайго бацькі.

Калі пасля заканчэння вучобы ён пераехаў у Берлін, Юрген Бэр, які застаўся асістэнтам у інстытуце, працягваў яго справу. Сувязь, якую ён падтрымліваў з падпольнай групай, якая зацята змагалася супраць гітлераўскага рэжыму і вайны.

Яму хацелася сказаць Эве: «Вы належыце да нас», як некалі проста вымавіў Хайно. Але пасля першай размовы, якая б важная яна ні была, гаварыць так было рана.

Адзінай светлай плямай у зацемненым пакоі быў светлавы рэфлекс на сцяне над кніжнай паліцай. Ён ішоў ад радыёпрыёмніка, вентыляцыйныя адтуліны якога, сіметрычна размешчаныя на задняй панелі, адкідалі на сцяну ўзор, падобны да фасада небаскроба. З двух ложкаў, што стаялі пад прамым вуглом, у гэта ўяўнае збудаванне ўтаропіліся дзве пары вачэй. Радыё толькі што закончыла перадаваць спецыяльны выпуск паведамленняў, паводле якога нямецкія падводныя лодкі патапілі каля англійскага берага шматтонны варожы карабель. Гукі музыкі Ліста ўзнёсла падкрэслівалі словы анёла добрых вестак, голас якога гучаў так гераічна, што загадзя адсякаў любое нясмелае пытанне пра людскія жыцці, якімі несумненна павінна была быць аплачана такая бітва.

На ложку каля акна неспакойна варочалася Марліс.

Эва ўстала.

— Не выключай радыё, — папрасіла Марлю. — Толькі прыцііш яго. Тады нам можна будзе глядзець на небаскроб, і будзе не так цёмна.

— Ты не можаш заснуць?

— Не магу.

— Герберт Аксэ доўга быў? — Зноў Эва залезла пад коўдру і спагадліва пазірала на сяброўку.

Замест адказу са змроку пачулася пытанне:

— Ты думаеш, мы справімся?

— Хто — мы?

— Нашы салдаты... супраць тых — вось пра што я.

— Здаецца, што так і будзе. Гэта — пятае спецыяльнае паведамленне за тры дні.

— Ты ведала, што ёсць людзі, якія хочуць, каб яны не справіліся?

Эва памарудзіла з адказам. Калі быць шчырай, то трэба было сказаць, што ўжо з гадзіну яна здагадвалася пра гэта. Пасля доўгага маўчання ў час іх сумеснай язды на веласіпедзе пры развітанні Юрген Бэр быццам падвёў вынік іх размовы: «Вы не бачылі пакут свайго бацькі. Гэта ваша няшчасце. Гэта такое ж няшчасце, як і тое, што большасць людзей на гэтым востраве за ўсю вайну не ўбачаць ніводнага забітага. І мільёны іншых таксама не ўбачаць. Паняцці: пакуты, боль і смерць — абстрактныя і вонкавыя. Яны кранаюць нас толькі тады, калі мы бачым разарваныя целы на мінным полі, калі мы чуем крыкі параненых у акопах ці жахаемся ад крывавых астаткаў чалавека, што вісяць на калючым дроце. «Усе памром!» — кажуць людзі. Але як яны паміраюць на вайне, настолькі бесчалавечна, што і ўявіць сабе нельга. А прапаганда стараецца, каб кожны паверыў, што яны загінулі, як Нібелунгі: прыгожа і велічна. Калі б мы выйгралі гэту вайну — чаго толькі сабе не ўявіш! — тады б зноў выпнуліся наперад усе гэтыя людзі, якія гаварылі, паціскаючы плячамі: «Вайна...», калі не хапала порцыі сігарэт, але якія вайны не бачылі». Пасля гэтых слоў Бэр зірнуў на яе, як бы з цяжкасцю стрымліваючы самога сябе і як бы спадзеючыся, што яна сама здагадаецца пра нявыказанае. Яго твар быў у змроку. І гэта было добра, а то ёй было б яшчэ больш сорамна.

Цяпер зноў са змроку пачуўся голас. Гэты голас таксама патрабаваў праўды. Незвычайна доўгае замяшанне Эвы замяніла адказ.

— Герберт Аксэ гаворыць, што свет ваюе не супраць немцаў, а супраць нацыянал-сацыялізму.

— Але ж у газетах пра гэта не пішуць.

— Я не ведаю, адкуль у яго такія звесткі. У лагеры варожыя перадачы не паслухаеш. А ён расказваў так многа, што мне рабілася жудасна. — Марліс перайшла на шэпт. — На яго думку, у Германіі ёсць толькі адзін ратунак: адрачыся ад нацыянал-сацыялізму. Інакш ён зацягне ўсіх нас у бездань. Ён гаварыў, як прарок. Мне стала жахліва. Яму трэба асцерагацца! Мой бацька лічыць, што на заводзе процьма шпікаў.

Эва ляжала сцішана. Яна здагадвалася, што за словамі Юргена Бэра хавалася нешта падобнае. Але гэта здагадка была яшчэ занадта смелая. Яна таілася ў ёй, як не ператворанае ў манеты золата, тым

часам як яна расплачвалася старой валютай.

— Цяжка зразумець, як можна не жадаць перамогі таму баку, на якім ты сам жывеш. Пры паражэнні ўсім будзе дрэнна. Нават калі вайна была памылкай, дык цяпер, праз тры гады, застаецца толькі прыкласці ўсе сілы, каб з гонарам давесці яе да канца.

— Амаль тое самае і я гаварыла яму. Я рада, што нават ты так думаеш. Бо ўрэшце, ты мела б рацыю, калі б была супраць нацыстаў. Але ў Герберта на ўсё гатовы свой адказ.

Эва сутаргава абхапіла падушку. «Нават ты», — сказала Марлю. «Менавіта вы», — падумаў Бэр. І тлумачэннем да ўсяго былі яго словы: «Вы не бачылі пакут свайго бацькі».

Юрген займаўся сваёй любімай справай: гартаў кнігі. Гартаць кнігі было для яго сёння гэткай самай асалодай, як і шмат гадоў назад, калі ён, выкарыстаўшы момант, капаўся ў бібліятэцы свайго бацькі, каб пазнаць таямніцы тых кніг, якія звычайна трымаліся пад замком. І сёння яшчэ ён любіў знаёміцца з фарматам кнігі, пераплётам, афармленнем назвы, падзелам на раздзелы, з малюнкам шрыфтоў на старонках, карацей кажучы, з аблiччам кнігі, каб потым зрабіць вывады пра яе змест. Гартаючы, прачытваючы асобныя мясціны, бегла праглядаючы раздзелы, што затрымалі ўвагу. Ён потым хутка правяраў сваю папярэднюю ацэнку, падобна да таго, як чалавека пры дапамозе пытанняў-тэстаў вымушаюць расказаць пра сябе больш, чым можна даведацца пра яго па знешніх прыкметах. Праўда, у гэтай бібліятэцы было цяжка наткнуцца на нешта нечаканае. Кнігі, што стаялі радамі на доўгіх стэлажах, мелі такую дасканалую уніформу, што адрозніваліся толькі таўшчынёй і вышынёй. Бэр канстатаваў: карычневае — усё карычневае! — і зрабіў горкі вывад: калі б каструбаватая абгортачная папера была іншага колеру, яе трэба было б перафарбаваць.

Ён паставіў назад на паліцу том, які павінен быў пераканаць чытача, што ўсе рэкі Багеміі павінны цячы ў Германію. Ён скрывіў рот. Якая «мілагучнасць»: Багемія і Маравія — у процілегласць «замежнаму» слову Чэхаславакія!

Хоць ён і не спадзяваўся, што сярод гэтай выстраенай уніформы можна знайсці нешта, што хоць бы прыблізна закранула яго так, як некалі «Жэрміналь» Заля ці яго трылогія «Лурд — Рым — Парыж». Ён усё ж час ад часу хадзіў у бібліятэку доследнай установы, у якой неназойліва гаспадарыла Ільзэ Рубышэўская і, здавалася, адносілася зычліва да сваіх пастроеных у рад падапечных.

Яна ўжо ведала пра страсць Бэра — гартаць кніжкі — і нярэдка скарачала свой абедзенны перапынак, каб зрабіць яму ласку.

Знешнасць Ільзэ Рубышэўскай можна было параўнаць з добра афармленым, не вельмі хвалюючым раманам, які, напісаны шчырай народнай мовай, то тут, то там абяцаў дасціпныя жыццёвыя мудрасці. Яе прозвішча, доўгае і багатае на зычныя гукі, ніколі на заводзе не вымаўлялася цалкам, і ўсе называлі яе Ру. Яна не крыўдзілася і, відаць, успрымала як звычайнае скарачэнне доўгай і грунтоўнай назвы кнігі, ад якой нарэшце застаецца толькі самы значны назоўнік.

Бэр «гартаў», карыстаючыся тым, што ён адзін. Ён спытаўся са свайго кутка:

— Ну, і як раман, што напісаў Гебельс?

Ру не падняла галавы ад скрынак з картачкамі. Яна суха сказала:

— Няхай ён лепей займаецца прапагандай. Гэта ў яго выходзіць лепш.

— Гэта — аб'ектыўная ацэнка ці асабістае пажаданне?

— Вядома, аб'ектыўная ацэнка. Яго ж прамовам верацъ усе, а героям яго раманаў — ніхто.

— Магчыма, першае перабольшана, апошняе ж — наадварот.

Ру кінула на яго насмешлівы позірк, засоўваючы шуфлядку з картачкамі.

— Гэта цяжка паддаецца статыстычнаму ўліку. Падпісчыкі газет «Рэйх» і «Фёлькішэр Бэобахтэр» наўрад ці захапляюцца ў вольныя гадзіны кнігамі свайго настаўніка.

З шумнай бесцырымоннасцю ў бібліятэку ўвайшоў оберцальмайстар Ханке. Ён павітаў абаіх цывільных з паблажлівай вясёласцю афіцэра ў выдатна падагнанай форме і з цудоўнай выпраўкай.

Калі ён паклаў на стол таўшчэзную кнігу, Бэр ужо быў каля яго.

— Ад падпалкоўніка Кельнера, — сказаў Ханке.

Нібы выпадкова Ру пакінула фаліянт перад Бэрам, каб ён мог прачытаць назву. «Вачыма жанчыны», модны лёгкі раман венгерскага пісьменніка, чытанка для забавы.

— Возьмеце яшчэ што-небудзь? — спыталася Ру. — На жаль, «Развеяна ветрам», якую заказваў падпалкоўнік, яшчэ на руках.

Ханке ветліва адмовіўся.

— Занадта тоўстыя, фройляйн Ру. Пакуль што! — Даверліва і іранічна ўсміхаючыся. Ён дадаў: — Шэф неўзабаве жэніцца. Так што, урэшце. Ён заняты іншым.

Бэр зрабіў яму ласку, коратка засмяяўшыся на яго намёкі. Ру расклала перад Ханке свае кніжныя скарбы і суха вымавіла:

— Значыць, Кайзерка ператвараецца ў Кельнерку.

Мужчыны засмяяліся. Прыход Ханы Пэплаў не пашкодзіў іх

вясёламу настрою. Цальмайстар адразу пазнаёміў Хану з тэмай:

— Потым фройляйн Пэплаў адпаведна зменіць яе дакументы. К. К. — ініцыялы застаюцца.

Пасля павярхоўнага прагляду прапанаваных кніг ён выбраў том Герштэкера.

Перш чым Ханке выйшаў, Бэр спытаўся ў яго, калі яму можна будзе зноў пайграць вечарам на раялі ў казіно.

— Я вам потым скажу. Яшчэ невядома, на які дзень падпалкоўнік назначыць вяселле. Будзе залежаць ад гэтага. — Ханке ўжо быў каля дзвярэй.

Але Ру зрабіла так, каб ён яшчэ пачуў яе словы:

— Вось «Міхаэль» Гебельса, пан доктар Бэр. Вы ж так даўно шукаеце яго. — Нават той, хто ўсіх>падазрае, не пачуў бы іроніі ў яе голасе.

Юрген Бэр гартаў. Хана Пэплаў шукала на паліцах вольнага доступу, павярнуўшыся да яго спіной.

— Як вам гэта падабаецца? — спыталася Ру ад свайго стала.

Бэр засмяяўся кароткім сухім смяшком, які быў знаёмы ўсім. Пры гэтым ён крыху прыўзняў галаву, як конь, які ржэ. Гэты смех мог выражаць засмучэнне, кпіны, весялосць, а часам і няўпэўненасць. Аднак адценні адрозніваліся так мала, што іх дакладна пазнавалі толькі тыя, хто яго добра ведаў.

— Паслухайце, што тут напісана! — Прыхіліўшыся спіной да высокага стэлажа. Ён пачаў чытаць радкі з рамана, якім міністр дзяржаўнай прапаганды Ёзэф Гебельс намагаўся ўнесці свой уклад у сучасную мастацкую літаратуру: -— «Духоўнага мне ўжо хапіла па горла. Інтэлект — гэта небяспека для фарміравання характару. Выхоўваць хлопцаў — вось што павінна быць задачай вышэйшай школы». Добра, праўда?

— Вельмі добра. — Хана Пэплаў павярнулася да яго. Яна не глядзела яму ў твар, а сачыла за левай рукой, засунутай у кішэнь штаноў.

— Вось вам, калі ласка, навінкі. Варта зазірнуць, — сказала Ру.

Хана зразумела гэта як запрашэнне і ўзяла кнігу няспешна, пасля таго як Бэр паклаў яе на стол. Адначасова Бэр павярнуўся да бібліятэкаркі і паказаў на вельмі тоўсты том на дальняй паліцы за бар'ерам.

— Што гэта там за біблія? Можна паглядзець?

Ру ахвотна пайшла туды, куды паказаў Бэр.

— Гэта трылогія Кольбенхеера «Парацэльсус».

— Ах, вось што, дзякуй. Гэта я чытаў. А там побач, таксама яго?

Пакуль ён займаў бібліятэкарку ў кутку сваімі няпэўнымі жаданнямі, Хана забрала з рамана Гебельса старанна складзены, густа спісаны ліст паперы. Калі ён з лёгкім шоргатам знік у кішэні яе жакета, у Бэра адразу прапала ўсякай цікавасць да збору твораў Кольбенхеера.

«Нудны наведнік», — падумала Ру.

Хана Пэплаў пайшла са сваёй экспедыцыйнай кнігай пад пахай.

## 2
## ВОСТРАЎ БЕЗ МАЯКА

Маці! Калі б ты магла цяпер убачыць свайго сына, то ты ў хрысціянскай пакоры працідзейнічала б яго фанабэрыі і сказала б: «Усе нашы веды — недасканаласць».

З пачуццём лёгкай пяшчоты Ганс Ціфенбах уявіў сабе твар маці, убачыў яе запытальныя вочы, яе бледныя, перакошаныя болем вусны, з якіх шмат гадоў назад, калі сын рашыў вывучаць фізіку, зляцела нерашучае пытанне, ці няма якой небяспекі ў гэтай прафесіі. Яе страх, што яго можа напаткаць бацькаў лёс, прабудзіў у ёй жаданне зрабіць з сына чыноўніка. Надзейнасць і бяспека дзяржаўнай установы вабілі яе больш. Прафесію настаўніка яна лічыла таксама прымальнай. Кніжкі і паперы здаваліся ёй больш бяспечнымі, чым сілы прыроды.

Яе бацька быў бібліятэкарам у Вялікагерцагскай Браўншвейгскай бібліятэцы ў Вольфенбютэлі, і за сорак гадоў службы ніводзін фаліянт не зваліўся яму на галаву. Наадварот, усведамленне таго, што рукі Лесінга датыкаліся да гэтых самых кніг, надавала яго працы, якая другарадная яна ні была б, унутранае святло, якое праяўлялася ў такой велічнай годнасці, дасягнуць якой не мог і сам дырэктар бібліятэкі. Клерэ Ціфенбах хацела такой ураўнаважанасці і сыну Гансу тым больш, што ў ёй жыў страх, каб у ім не абудзілася бацькава славалюбная і бунтарская спадчыннасць. Той быў оберштэйгерам і загінуў ад выбуху ў шахце. Гансу тады толькі што споўнілася дзесяць гадоў. Але гэтаму вялікаму няшчасцю папярэднічалі, на думку Клерэ Ціфенбах, іншыя, драбнейшыя няшчасці.

Муж, як толькі вярнуўся з французскага палону, пачаў хіліцца да рабочых, што лічыліся «чырвонымі». Хоць ён і паддаўся на просьбы жонкі і не ўступіў ні ў якую партыю, яна ведала, што ён не адну гадзіну бавіў з людзьмі, якія неслі адказнасць за беспарадкі ў Рурскай вобласці, баставалі і арганізоўвалі дэманстрацыі і выступалі ў

падтрымку чырвонай Расіі. Клерэ Ціфенбах малілася дома і ў царкве свайму богу, каб ён збярог існуючы лад. А ў гэты час яе муж быў з бунтаўшчыкамі. Гэта не ішло на карысць сям'і. Фраў Клерэ і не здагадвалася, які жахлівы шлях знойдзе бог, каб аслабіць фронт падбухторшчыкаў, аб чым яна ў яго прасіла.

Калі яна з дзесяцігадовым сынам стаяла над магілай мужа, абапіраючыся на свайго бацьку, здарылася такое, што цяжка было сабе ўявіць. На пахаванні выступілі побач з прадстаўнікамі шахты «чырвоныя». Яны называлі нябожчыка «сваім таварышам», нягледзячы на ўсе недахопы, якія яму яшчэ трэба было пераадолець, і ўсклалі на магілу вянок з чырвонай стужкай. Старога бібліятэкара з вялікагерцагскага Вольфенбютэля, які ўсё сваё жыццё прытрымліваўся нямецка-нацыяналістычных поглядаў, ледзь не хапіў удар, а слёзы, якія праліла Клерэ Ціфенбах у той дзень, былі не толькі па нябожчыку. І усё-такі перад парывам гневу бацькі, які лічыў чырвонага зяця ганебнай плямай на сваім грамадзянскім гонары, яна стала на бок таго, чаго яна ніколі не падтрымлівала пры жыцці мужа. Яна адправіла бацьку аднаго назад у Вольфенбютэль і адмовілася пераязджаць да яго з хлопчыкам, як гэта было прадугледжана раней. Так яна засталася сам-насам са сваім сумам, сваім горам. Яна выхоўвала хлопчыка, са страхам стараючыся трымаць яго далей ад любой дзейнасці, якая хоць прыблізна была падобная да палітыкі. Калі ён дастаткова вырас, каб зразумець, яна расказала яму пра лёс бацькі і нават устанавіла прычынную сувязь паміж няшчасцем у шахце і палітычнай дзейнасцю свайго мужа. Такім чынам, у вобразе бацькі хлопчык убачыў трагічнага героя, лёсу якога можна было пазбегнуць, калі жыць па правілу: не займайся палітыкай!

На канікулах у дзядулі ў Вольфенбютэлі Ганс чуў тое самае, толькі словы былі прыгажэйшыя. Стары пан карыстаўся для сваіх мэт захапленнем хлопчыка кнігамі. Ён дазваляў чытаць, колькі таму хацелася... Тут была такая процьма літаратуры, што хлопец не заўважаў, куды яго вядуць на павадку.

Калі выявілася яго прыхільнасць да прыродазнаўчых навук, дзядуля як мог падтрымаў гэту цікавасць. На яго думку, гэта было па-за ўсякай палітыкай. Бібліятэкар ад чыстага сэрца аплачваў большую частку выдаткаў за вучобу будучага фізіка. На пытанне дачкі, ці ўяўляе сабой небяспеку гэты прадмет. Ён мог з чыстым сумленнем адказаць адмоўна. Для яго, ва ўсякім разе, хімія здавалася яшчэ небяспечнай, у той час як сілы, якімі займалася фізіка — электрычнасць, рэнтгенавыя промні і іншае, — уяўляліся яму ўтаймаванымі.

Утаймаваць! — Ганс Ціфенбах сціснуў рукі глыбока ў кішэнях

сваіх шэрых штаноў і энергічна зноў адпусціў пальцы. І зноў, і зноў, хутка мяняючы: кулак — расслабленне, кулак — расслабленне. Гэта значыць: утаймаваць — вызваліць, утаймаваць — вызваліць!

Яшчэ ў хлопчыка ўвайшла ў звычку гэта работа рукі, калі яму нешта ўдавалася ці ён быў усхваляваны якім-небудзь адкрыццём. Гэта пачалося, калі яму ўпершыню пад мікраскопам адкрыўся цудоўны свет кроплі вады. Гэта паўтарылася, калі ва ўдалым доследзе механічная энергія была ператворана ў электрычную.

Пазней умовы для гэтага глыбокага ўнутранага задавальнення сталі больш строгімі, а апошні ўзлёт, які ён перажыў, адбыўся некалькі гадоў таму назад. Ён быў вынікам хвалюючага факта, што прафесару Ота Хану ўпершыню ўдалося расшчапіць ядро. Расшчапіць ядро атама ўрану. Пасля таго як Ганс Ціфенбах разам з прафесарам Лёйпальдам, праседзеўшы некалькі начэй за працай, разабраліся ў навуковых прадумовах і паказальніках, якія прывялі да вялікага здзяйснення, калі ён ужо не стаяў перад гэтым феноменам са сляпым здзіўленнем веруючага, а мог даць яму прыблізную ацэнку — у тыя дні ён адчуваў сябе падобным да Праметэя. Так, як сёння.

Пальцы расслабіліся. Вызваліць — утаймаваць! У гэтым яго задача. У такім маштабе, якога мацi ніколі не зразумела б.

Доктар шырока заўсміхаўся, калі ён паказаў яму сёння разлікі і даказаў, што памылкі, пра якія паведамілі статыкі, ліквідуюцца і аварый, якіх асцерагаюцца спецыялісты па рухавіках, не будзе. І штуршок не стане меншым. Гэта было самае важнае: сіла, дзякуючы якой А4 адрываўся ад зямлі, не павінна была зменшыцца. Пераадолець сілу прыцягнення пры вазе дванаццаць з палавінай тон — на гэта патрабавалася вялікая энергія.

Доктар ад выпрабавальнага стэнда адразу пазваніў генералу, старому скептыку.

— Ціфенбах знайшоў разгадку, генерал, — самым бадзёрым голасам паведаміў ён. Важнасць выніку для ўсяго выпрабавальнага прадпрыемства і асабліва яго становішча апраўдвалі таварыскі тон маладога вучонага ў размове з генерал-маёрам.

— Генерал святкуе дзень нараджэння жонкі ў камінным пакоі, — сказаў Доктар, паклаўшы трубку. — Мы запрошаны. Ці ёсць жаданне, пан Ціфенбах?

— Не.

— Што, замарыўся?

— Ды не. А хто там будзе яшчэ?

— Відаць, усе, хто з іканастасам на грудзях.

— Значыць, ад штабсцальмайстра і вышэй.

— Ваша праўда. Гэта не вельмі цешыць.

Яны дамовіліся не ісці. Доктар яшчэ застаўся каля выпрабавальнага стэнда, Ганс Ціфенбах у даўно нязнанай бязважкасці паволі пайшоў па бетоннай дарозе, У канцы якой, схаваны за высокімі соснамі, быў выпрабавальны стэнд 7, адна з самых важных установак завода. Патрулі праверылі ў яго заводскае пасведчанне і папрасілі паказаць каляровы жэтон, які даваў права заходзіць на строга ізаляваную тэрыторыю.

Недалёка адсюль мусіў быць пляж. У раўнамерным рытме плёскат прыбою дамешваўся ў ціхі шэпт сосен. Ганс Ціфенбах убачыў, як вакол ствала дрэва, нібы цёмна-чырвоныя языкі полымя, мільганулі пышныя хвасты дзвюх імклівых вавёрак. Як ракеты!.. Доктар меў рацыю: таму, хто хоць нядоўга пабыў на Востраве, неадступна трызніліся ракеты. Здзіўляла тое натхненне, а якім падхапіла ідэю ўся група на чале з настаўнікам — ціхім прафесарам. Пранікненне ў космас, астранаўтыка — такая была мэта. Ужо некалькі дзесяцігоддзяў маленькая групка стварала перадумовы. Яны арганізоўвалі таварыствы прыхільнікаў палётаў у космас, выдавалі часопісы, вышуквалі апекуноў і фінансістаў. Многія доследы, як з парахавымі, так і з вадкаснымі ракетамі, не ўдаліся. Мужнасць не пакідала энтузіястаў, нягледзячы ні на што. Яны ведалі, што прынцып — правільны, ведалі, што толькі ракета зможа развіць касмічныя хуткасці, неабходныя для пераадолення каляземнай атмасферы. Сорак тысяч трыста кіламетраў у гадзіну! Фантастычная лічба. Не менш фантастычна, чым намер запусціць вакол Зямлі штучныя Месяцы, пасылаць у космас лабараторыі, пракласці масты да Месяца і да планет!

Ці не былі яны ўсе летуценнікамі, хто верыў у гэта? Апантанымі дзівакамі?.. Ганс Ціфенбах прыпомніў зорную гадзіну сучаснай фізікі, расшчапленне ядра атама, і сказаў сабе, што будзе заканамерна, калі праб'е зорная гадзіна і тэхнікі. Сёння ён унёс свой маленькі ўклад у справу, якую з часам, магчыма, назавуць такой жа важнай для руху наперад, як вынаходства паравой машыны: першы палёт у космас!

Цікава, што скажа прафесар Лёйпальд пра яго поспех? Да заняткаў Доктара ён адносіўся крыху скептычна. Праз нейкіх восем дзён у Берліне адбудзецца сустрэча, будуць выпрацаваны нейкія напрамкі і дадзена ацэнка новым дасягненням у сумеснай справе, якая толькі што з'явілася на свет: «Фізіка атамнага ядра». Шкада, што яго не было тут, шаноўнага настаўніка і сябра. Сёння такі дзень, які не хацелася б канчаць у адзіноце. У камінным пакоі яму б напэўна былі радыя, але ні генералы, ні ваенныя чыноўнікі не былі яму да густу. Праўда, генералава жонка яшчэ адносна маладая і знешне пры-

емная. Трэба спадзявацца, што там ёсць прыстойнае французскае віно.

Наогул, гэтага і не хапае ў такі дзень: віна і дзяўчыны. Было б цудоўна чокнуцца з такой істотай, якая мае гэткае ж малое ўяўленне пра законы розных станаў агрэгата, як астраном пра другі бок Месяца. Юны і прыгожы рот можа гаварыць пра нязначныя рэчы... А пра што менавіта? Ён не ведае, чым займаюцца дзяўчаты на Востраве. Да гэтага часу ён бачыў іх толькі ў прыёмных: яны пісалі справаздачы, друкавалі спісы, карацей кажучы, займаліся справамі, да якіх ён сёння не хацеў бы мець ніякага дачынення. Ён пачынае гульню. Як у казцы, думае ён, дзе кароль бярэ пад заклад першае, што яму трапляецца па дарозе дадому. У яго будзе інакш, з больш зычлівым адценнем. Першую дзяўчыну, якую ён спаткае паміж ратондай і казіно, так вырашае ён, запрасіць на бутэльку віна. Напэўна ж, будзе няцяжка дзеля такога асаблівага выпадку выпрасіць у Ханке, новага загадчыка вінамі ў казіно, адну пляшку — няхай сабе і на тры гатункі горшую, чым у генерала.

Ганс Ціфенбах мінуў апошняга вартавога каля дома 4 і вароты ў ратонду.

Ён ужо здалёку ўбачыў, як з бібліятэкі выйшла Ру.

«Стой! — загадаў ён сабе. — Ці не выпусціў я з-пад увагі важную ўмову казкі? Тры — святая лічба. Значыць, я павінен выбіраць трэцюю!»

Ветліва павітаўшыся. Ён прайшоў міма бібліятэкаркі, якая зірнула на яго сур'ёзна. Каля казіно ён яшчэ раз азірнуўся і ўбачыў, як яна, старанна круцячы педалі, хутка схавалася за кустамі ратонды. Магчыма, ёй трэба было дома зацыраваць панчоху або яе чакаў цікавы раман. Ён не думаў, што вельмі ўзрадаваў бы яе сваім запрашэннем.

У клубным пакоі каля піўной залы, дзе ён спадзяваўся знайсці Ханке, сядзелі Матэзі з газетай і некалькі незнаёмых яму чалавек. У кутку канапы, адкінуўшыся, сядзела фройляйн Пюшэль, паклонніца Шольц-Клінк. Ён пазнаў яе, яшчэ не ўбачыўшы твару, па чырвоным манікюры. Яна трымала газету «Фёлькішер Бэобахтэр».

Нумар два! Цяпер ён зразумеў няпэўнасць сваёй гульні. Да гэтага часу рэальнасцю была толькі бутэлька віна, якую Ханке, падміргнуўшы, абяцаў паставіць для яго ў халадзільнік. Оберцальмайстар забяспечваў генеральскую кампанію пітвом і ўжо ведаў пра службовы поспех Ціфенбаха, з чым ён яго занадта шумна павіншаваў. Ганс Ціфенбах яшчэ раз павольна прайшоў па клубных пакоях. Ён забыўся сваю люльку ў плашчы.

Нумар тры ён сустрэў, калі вярнуўся ў гардэроб. Правільней —

адразу нумар тры і нумар чатыры.

Яны стаялі побач у праходзе паміж высокімі вешалкамі з металічных труб, дзе толькі што павесілі свае курткі. І ён убачыў іх адначасова, так што мог выбіраць. Аддаць прыз абедзвюм разам — такой думкі ў гэты момант у Ганса Ціфенбаха не з'явілася, бо чараўнік выпадак, здалося, усміхнуўся яму больш чым пяшчотна, калі ў адной з іх ён пазнаў Эву Леангард. Зеленавокая з Бодэнхаўза, тая самая, якая трызнілася Марціну Улігу. Другая была Хэні Розанаў, старанная матэматычка са штаба Хёрзельман-Матэзі.

Калі ён увайшоў у гардэроб, Эва Леангард сказала:

— Ты не магла б мне пазычыць заколку, Хэні?

— У мяне толькі шпількі, — адказала тая са шкадаваннем.

Эва падышла да люстэрка і пачала прычэсвацца. У яе былі гладкія бліскучыя валасы, якія крутой хваляй прылягалі да патыліцы і заканчваліся мяккім завітком. З правага боку каля лоба валасы былі прыхоплены простай заколкай.

— Без заколкі я прапала, — сказала яна, коратка афіцыйна павітаўшыся і не звяртаючы больш увагі на Ганса Ціфенбаха.

Хэні Розэнаў стаяла побач з Гансам Ціфенбахам.

— Яна не хоча ісці есці, бо згубіла сваю заколку, — сказала яна, нібы расказваючы нейкі дасціпны жарт.

На гэта Эва сама адказала:

— Глупства, праўда? Але я выходжу з сябе, калі валасы звісаюць на твар.

Гансу Ціфенбаху карцела сказаць, што яна і так выглядае нядрэнна, але ён рашыў, што яшчэ зарана.

— Дык ты зусім не пойдзеш есці? — спыталася Хэні.

— Можа, пазней, калі пазычу заколку. Пайду спачатку пагуляю ў настольны тэніс.

— А там вы абыходзіцеся без заколкі? — з іроніяй спытаўся Ганс Ціфенбах.

Яна ўжо была каля дзвярэй.

— Там усё роўна ўсё раскудлаціцца — і ў мяне, і ў іншых.

Нечакана хутка Ганс Ціфенбах застаўся сам-насам з Хэні Розэнаў. Ён пайшоў за ёю, думаючы пра тое, з якой ахвотай ён размаўляў бы з Эвай Леангард пра такія чароўныя дробязі, як заколкі і дзявочыя прычоскі. Або пра моду і яе талент элегантна апранацца на трэцім годзе вайны. Шкада!

Ганс Ціфенбах пачуў лёгкі гул прыбою яшчэ раз, калі перасякаў лясны пояс. Вартавыя тут больш не сустракаліся. Тэрыторыя завода была за кіламетр за яго спіной, а пляж, на ўсход адсюль, не меў

калючага дроту. Бутэлька віна ўсё яшчэ стаяла ў Ханке, у падвале казіно. Ганс Ціфенбах расцягнуў вячэру, спадзеючыся, што Эва Леангард — з заколкай ці без яе — яшчэ з'явіцца. Замест яе праз гадзіну з першага паверха прыйшла Траўдэ Хёрзельман, дзе яна гуляла ў настольны тэніс. Разгарачаная і задаволеная парнай гульнёй, яна падышла да стала Хэні Розанаў, і тут ён даведаўся, што Эва пайшла з д-рам Бэрам у сталовую, дзе, казалі, была вэнджаная рачная камбала.

Зеленавокая выслізнула ад яго. Ну што ж, скардзіцца не выпадала. Урэшце. Ён сам рашыў усё паправіць. Але ахвота да віна прапала, а ў размовах гэтай Розэнаў быў прысмак балістыкі. Гэта не падыходзіла ні да віна, ні да яго настрою.

Ён некалькі дзён ужо не быў на пляжы. Яму падабалася хадзіць у дзюнах. Ён адчуваў асалоду, калі паміж курганамі пяску адкрывалася мора.

Мора не важнічала. І гэта было добра, бо сёння ён не меў ніякай ахвоты адчуваць сябе маленькім. Першы ўдар па сваім прыўзнятым настроі ён ужо атрымаў. Яго рука даўно не забаўлялася гульнёй у сціснутую сілу. Мора было яму сёння сябрам.

Дзесяцігадовым хлопчыкам, летам пасля смерці бацькі. Ён упершыню ўбачыў мора. Нейкае дабрачыннае таварыства паслала яго ў дзіцячы дом адпачынку на Балтыцы. Вялікае ўражанне на яго зрабілі хвалі прыбою і бязмежнасць воднай паверхні. Зычлівы рыбак адвёў яго за руку, калі ён — у туфельках — занадта блізка падышоў да хваляў. Каб не змыла, сказаў мужчына. Ён жа тут на самым краі свету. Гэта паняцце «край свету» ў той час цалкам супадала з уяўленнем аб бязмежнасці вады, якое доўга ўпарта валодала яго фантазіяй, нягледзячы на школьныя веды. «Край свету» — гэта быў канец сушы, водная прастора без дарогі назад, вобраз, які можна было параўнаць з уяўленнем старажытных людзей, якім зямля бачылася ў форме талеркі, якая плавала ў сусветным акіяне пад купалам неба.

Пачаў круціцца маяк на астраўку. Далёкі астравок быў такі маленькі, што недасведчаны чалавек мог палічыць яго за брандэр. Ганс Ціфенбах прысеў. Гэта святло, што круцілася, цудоўна супакойвала. Трывожыла толькі ўсведамленне, што яно хутка пагасне.

Вечары з Гербертам Аксэ для Марліс Хасэ былі салодкай пакутай. Са спачуваннем да няшчаснага самотніка вырасла палкая зацікаўленасць у яго лёсе, а потым і неадольнае жаданне прасачыць за плынню яго думак, якія вялі ў сферы, зусім ёй невядомыя. У той час, як дзяўчаты-равесніцы люба-весела вярталіся ў дом Зээштэрн са спатканняў, яна пасля кожнай размовы з салдатам, на якога амаль

ніхто не звяртаў увагі, пакутавала ад цяжкіх думак. І, тым не менш, яна зноў і зноў аддавалася гэтым пакутам, адчуваючы і прызнаючы іх, зрэшты, за нешта наканаванае лёсам.

Ранняе змяркание падабалася ім больш за ўсё. Гадзіна, калі размываюцца контуры, калі вуха з найвялікшай гатоўнасцю ўспрымае дыханне мора, у той час як лінія раздзелу зямлі і вады пачынае знікаць з вачэй. Пясчаная вымоіна была адкрыта з боку мора, а ад усходняга ветру ахавана сасновым голлем. Марліс скрыжавала рукі пад галавой. Герберт Аксэ сядзеў, падагнуўшы калені, і сачыў за маяком.

— Я даю яму сёння найбольш адну гадзіну, — сказаў ён. — Потым ён адключыцца. Пры гэтакім небе.

— Гэта цябе так хвалюе, і ўсё роўна ты ўвесь час прыходзіш сюды і назіраеш.

— Гэта абуджае нянавісць. Лагер прытупляе.

— У цябе ж няма нянавісці да англійскіх лётчыкаў.

— Я ненавіджу тыгра, які раздражніў ільва. Табе ж

гэта вядома. А з маяком яно так: гэта для мяне параўнанне. Ці не падобна наша ўсё жыццё на востраў, на якім патушаны агні? Маякі — гэта арыенціры. Калі яны пагашаны, караблям пагражае небяспека. Гітлер здолеў ператварыць нашу краіну ў крыніцу небяспекі для ўсяго свету.

— Не гавары, калі ласка, так гучна, — папрасіла яна са страхам.

— Але арыентацыю страцілі і другія — тыя, што жывуць у краіне нянавісці. Яны аслеплі ў змроку.

— Мала знойдзецца такіх, хто прызнаецца ў гэтым.

— Але давайце зноў параўнаем доследную ўстанову Востраў з Германіяй: тут сабралася многа разумных людзей, якія працуюць дзесяць, дванаццаць і больш гадзін і не бурчаць. Шмат хто з іх працуе гэтаксама добра і з пачуццём адказнасці, як раней у сваіх інстытутах ці вышэйшых навучальных установах.

— Але ж яны і павінны так працаваць, — пакутліва сказала Марліс.

— Яны павінны, гэта праўда. А яны робяць з ахвоты. Той-сёй нават з натхненнем. Мне гэта вядома.

— Цяжка не радавацца, калі справа ўдаецца.

— Якая гэта справа! Можа, апошняя зброя, якая ўсё знішчыць, супраць якой няма абароны.

— Мой стрыечны брат Брэтшнайдэр кажа, што ад любой зброі заўсёды знаходзілі сродкі абароны.

— О калі б так было! Гэта ж бясконцая спіраль! На што чалавек траціць свой каштоўны розум, якім яго надзяліў бог? Скажы, Марліс!

— Гэта робіцца насуперак здароваму чалавечаму розуму, — ціха сказала яна. — Твая праўда. Як заўсёды. Гэта так жахліва.

— Сапраўды жахліва.

— Таму што нічога нельга змяніць.

— Неабходна абнаўленне творчага чалавека знутры.

— Як ты сабе гэта ўяўляеш, Герберт?

— Як расшырэнне Я да касмічных памераў.

Марліс маўчала. Яна слухала апошнія словы Герберта Аксэ, якія здаліся ёй вельмі важнымі, вельмі незразумелымі і вельмі значнымі. Яна ўздрыгнула, пачуўшы шум у кустах на пляжы. У прыцемку адразу нельга было пазнаць чалавека, які стаяў на дзюне ў светлым плашчы.

— Прабачце, — сказаў ён. — Я спачатку не заўважыў вас. Частку вашай размовы я міжволі падслухаў. Таму я і не пайшоў, не даўшы знадь пра сябе.

Па голасе, які гучаў крыху прыглушана, Марліс пазнала Ганса Ціфенбаха.

Салдат прымоўк. У сваёй форме Герберт Аксэ перад незнаёмымі добра апранутымі людзьмі адчуваў сябе гэтак жа няёмка, як і перад ваеннымі. Ганс Ціфенбах разрадзіў напружанне, падключыўшыся да размовы. Ён прысеў на схіле дзюны, павярнуў твар да тых дваіх.

— Тое, што вы толькі што сказалі, пан Аксэ, гучыць так, як быццам вы хадзілі ў школу да Стэфана Георге ці Гофманстала.

Аксэ зірнуў на яго са здзіўленнем. Магчыма, гэты тэхнік быў блізкі яму па духу?

— Вы сказалі вельмі шмат слушнага, — зноў загаварыў Ціфенбах, бо здавалася, што салдат сваім маўчаннем згаджаўся з ім. — Але як вы ўяўляеце сабе гэта касмічнае расшырэнне Я? Якія сілы, на вашу думку, маглі б паўплываць на гэта? Есць жа закон прыроды, што ніводная рэч не можа змяніць свайго стану без рухаючага імпульсу.

— Чалавечая душа — гэта не тая «рэч», — не пагадзіўся Аксэ.

— Я думаю, людское грамадства можна параўнаць з якім-небудзь органам. Толькі яно шмат больш складанае і дыферэнцыраванае, чым іншыя рэчы. Вось гэта і непрыемна. Таму мы ведаем, напрыклад, пра ўзаемасувязі эканамічных крызісаў і рэвалюцый менш, чым пра арбіты нябесных целаў. Нам вядома хуткасць руху электронаў. А пра час, калі вайна разаб'ецца насмерць, мы не ведаем.

— Вы займаліся палітыкай? — спытаўся ўсё яшчэ асцярожна Аксэ.

— У маёй сям'і — палітыка тое самае, што чырвоная анучa для быка. Я толькі крышку пачытаў філосафаў.

— І вы нідзе не знайшлі сілы, якая магла б змяніць чалавецтва?

— Не. А вы?

— Знайшоў. У Новым Запавеце. Ісус з Назарэта таксама быў філосаф. Нам трэба зноў прыблізіцца да яго. У вялікім чалавечым сэнсе.

Ганс Ціфенбах падхапіўся, раздражнёны.

— Гучыць гэта вельмі цудоўна. Прывабна, як любы міф. Але я не веру, што людзі пасля вайны будуць гатовы зноў кінуцца ў палон новага міфа. Міратворца, які дзейнічаў дзве тысячы гадоў назад, не падыходзіць нашаму эканамічнаму веку.

Аксэ таксама падняўся. Ён адказаў з запалам:

— Час пасля яго новага такога не парадзіў.

— Я не лічу сябе кампетэнтным, каб вышукваць геніяў духу, — больш мірна сказаў Ганс Ціфенбах. — Я дрэнна разбіраюся ў ідэалогіі і яе прароках. Мая сфера — прыродазнаўства. А яго хапае, каб запоўніць усё жыццё.

Што гэта атрымаўся за вечар! Ён шукаў зычлівай лёгкай размовы, а ўцягнуўся ў сур'ёзную дыскусію па пытаннях жыцця і сумлення.

Пачутае закранула яго мацней, чым яму хацелася. На Востраве ўсё-такі былі дзіўныя парачкі. Ва ўсякім разе, такая дзяўчына, як Марліс Хасэ, якая ў летнюю ноч у дзюнах спрабуе разабрацца ў заблытаных пропаведзях, гэта рэдкасць. Погляды салдата, у нечым разумныя, у нечым экзальтаваныя, відавочна дзейнічалі на дзяўчыну вельмі прывабліва. Чалавек, відаць, здолеў падважыць рычаг у належным месцы, і цяпер ён павольна выкарчоўваў раслінку, якую пасеялі ў ёй садаводы ў форме медэльфюрэркі. Ну і добра. Трэба спадзявацца. што яна ўспрымала новы міф, які, відаць, вёў сваё паходжанне ад антрапасофіі, даволі крытычна,

Аксэ, між іншым, прыкмеціў правільна; маяк больш не міргаў. «Пулькі» паляцелі, магчыма, на Берлін ці Штэцін. Востраў ляжаў пад дзіўным змяркальным небам летняга вечара, пасля якога на ўзбярэжжы прыходзяць светлыя ночы, калі сон бяжыць ад людзей, а кроў горача закіпае. Пляж і белыя дамы жылога пасёлка былі падобны да светлага цела, якое, прыгнуўшыся за тонкай цёмнай заслонай, спрабавала прыкрыцца, з затоеным дыханнем прыслухоўваючыся да блізкай небяспекі.

Ганс Ціфенбах ішоў па вуліцах пасёлка, у якім адзін дом быў падобны да другога. Вуліцы, магчыма, адрозніваліся. але. ў гэтым дваістым святле заўважыць гэтага нельга было.

Забрахаў сабака ў садзе за агароджай. Са змроку адчыненай тэрасы выступіла светлая постаць жанчыны,

— Ты, Райнгард? — сцішана паклікала жанчына!

Імя падказала Гансу Ціфенбаху, што ён стаяў перад домам д-ра

Клемта. Ён ужо аднойчы быў у гасцях у яго.

Ганс падышоў да агароджы.

— Добры вечар, фраў Клемт. Чакаеце мужа?

Жанчына спусцілася з тэрасы.

— Пан Ціфенбах? Што вы тут робіце ў такі час?

— Хаджу сабе.

— У такі час? Падымуць трывогу.

— Нічога не будзе...

Паўза, Завурчэў сабака.

— Мой муж у казіно, — сказала яна праз нейкі час. — Яго запрасіў генерал. А чаму вы не там?

— Генералы так, сабе не запрашаюць выпіць. Ва ўсякім разе, не мяне.

Яна засмяялася і запрасіла:

— Тады зрабіце мне кампанію, пакуль прыйдзе муж! Ён абяцаў не затрымлівацца.

Розэмары Клемт павяла госця ў залу. Тэр'ер пайшоў за імі, віляючы хвастом.

Ганс Ціфенбах азірнуўся вакол сябе. Стыльная мэбля, мяккія крэслы з падушкамі; над канапай у аднолькавых рамках цэлы шэраг самых розных засушаных траў і кветак на белай паперы пад шклом. Пакой жанчыны, якая шмат часу і старання аддае свайму жытлу. Яе сюрпрызам госцю была руская гарэлка. На бутэльцы — этыкетка з рускімі літарамі.

Яна заўважыла яго здзіўленне, калі ён чытаў этыкетку.

— Гэта — сапраўдная. З украінскага ўраджаю. — Яна наліла ў маленькія фаянсавыя кубачкі і села да яго. — Яе дастаў мой бацька. Ён адкрыў на Украіне філіял і шмат закупачных пунктаў.

Розэмары Клемт пашанцавала на бацькоў. На Магдэбургскай пладароднай раўніне бацька валодаў вялікім млыном і фабрыкай кексаў і вафляў. Яго дзелавыя сувязі даходзілі праз Англію, дзе ў яго жонкі былі сваякі, да Канады. На ўсходзе апошнім часам яны праніклі ў глыбіню Расіі. Трэба было карміць нямецкую ўсходнюю армію з рускіх свірнаў. Самая доўгая рука ў гэтым агромністым прадпрыемстве была ў цесця Клемта. Акрамя мільёнаў, яно прынесла яму тытул фюрэра абароннай эканомікі і крыж «За ваенныя заслугі».

Але пра такія банальныя справы Розэмары Клемт не гаварыла. Яна была ідэалістка. Ці трэба было ёй, займаючы такое грамадскае становішча, працаваць за плату? Пасля атрымання атэстата сталасці і заканчэння мастацка-прыкладнога вучылішча яна стала штатнай кіраўніцай СНД. Потым прайшла ідэалагічную падрыхтоўку — яна

называла гэта «рэферат ІД» — і пачала выкладаць у абласной школе ў Цюрынгіі. На яе цяперашні розум, яна занадта рана выйшла замуж — цяпер сядзела з двума малымі дзецьмі на Востраве, удалечыні ад вялікіх падзей, а яе былыя сяброўкі, якіх яна лічыла куды менш здольнымі за сябе, займаліся палітыкай без яе.

— Вы ведаеце, у мяне вялікія планы, — расказвала яна, адлёгшыся ў крэсле і склаўшы доўгія пальцы прыгожых рук так, што атрымаўся востры дашак. — Магчыма, я паехала б у Токіо. Ці, у крайнім выпадку, — у Рым.

— У якасці каго?

— У Антыкамінтэрне таксама патрэбны жанчыны! — сказала яна з выклікам. — Па дыпламатычнай лініі. У знешняй палітыцы ёсць задачы, з якімі жанчыны спраўляюцца лепш за мужчын.

— Гэта праўда. — Ганс Ціфенбах прамовіў гэта, для важкасці панізіўшы голас, і дапіў кубак да дна.

Калі б гэтая штуковіна не была такая моцная, падумаў ён, я б даўно ведаў, наколькі гэту жанчыну можна прымаць усур'ёз. Яна выглядае цудоўна са сваім вузкім тварам і валасамі пад колер саломы, скручанымі на патыліцы ў вузел. Амаль чыста нардычны фенатып.

З упэўненасцю жанчыны, якая ўсведамляе сілу сваіх чараў, яна прызналася яму, што яе кумір — амерыканскі акіянскі лётчык палкоўнік Ліндберг.

— Вось якім трэба быць: крыху спартсмен — але вельмі адважны, канечне! — крыху дыпламат, палітык, публіцыст, ну і для людзей — ніштаваты чын у якой-небудзь дзяржаўнай установе.

— Тым часам дома крадуць дзіця, — суха сказаў Ціфенбах.

Яна засмяялася, прыглушана і менавіта так, як дазваляла яе добрае выхаванне.

— Пра гэта я і не падумала. Правільна, гангстэры ўкралі яго ў Ліндбергаў.

— Толькі гэта і зрабіла яго папулярным. А так я не думаю, што ён такі ўжо цудоўны хлопец.

— Ён верыць у непераможнасць Германіі. І ён супраць рускіх.

— Ах, вось што!

— Дык гэта ж важна, праўда?

— Гм. А што ён будзе рабіць, калі ЗША ўступяць у вайну?

— Будзем спадзявацца, што яны гэтага не зробяць.

— А калі! Яны ж тады пэўна будуць ваяваць з рускімі супраць нас,

— Страшна ўявіць! Франты ў гэтай вайне праходзяць неяк нелагічна. Вы не лічыце?

— Франты заўсёды нелагічныя. Іх не павінна быць зусім.

— Вы пацыфіст?

— Крышку. Я дрэнна страляю. Я не магу прыжмурваць левае вока. — Ён паказаў. — Бачыце?

Было смешна глядзець, як ён скрывіў твар. Яна не вытрывала, засмяялася. Але хутка перастала. Потым сказала тонам дакладчыцы:

— Магчыма, вы скажаце, што вы гуманіст, як і большасць інтэлігентаў. Ніцшэ называе гэта «анучны ідэал». Вы дабрачынны па слабасці, а не па перакананні.

— Я зусім не адчуваю сябе слабым. — У Ганса Ціфенбаха з'явілася моцнае жаданне ўзяць гэту белакурую яе высокасць у абцугі рук і ног, каб яна адчула яго сілу. Але гэта не мела сэнсу. Тут занадта глыбока ўвайшоў у плоць шпрыц дурману. У Марліс Хасэ, мусіць, была зачэплена толькі скура.

Розэмары Клемт вярнулася з дзіцячага пакоя. Яе паклікаў Норберт, меншанькі.

— Уявіце сабе, Норберт адразу пачуў нязвыклы пах. — Яна адсунула ад сябе бутэльку з гарэлкай. — Мы сапраўды праяўляем нястойкасць, п'ючы пойла гэтых недачалавекаў. — Яна ўздыхнула. — Але такія мы, немцы. Мы прымаем ад фюрэра ў падарунак палову Еўропы, а калі трэба стаць за яго, нас няма,

— Я думаю, што Гітлеру няма чаго скардзіцца на недахоп прыхільнікаў. Можна яшчэ крыху «пойла»?

— Калі ласка. Фюрэр напэўна не п'е рускай гарэлкі.

— Наколькі мне вядома. Ён жыве на мінеральнай вадзе і бульбяных аладках, нявінны, як манах.

Погляд фраў Клемт нездаволена прасачыў за яго рукой, якая паднесла кубак да рота.

— Не смейцеся. Кожны вялікі павінен мець німб для шырокіх мас. Мне, між іншым, манеры Мусаліні падабаюцца больш. Той можа раптам залезці на лакаматыў. Ён выскоквае са сваёй машыны і дапамагае сялянам ставіць снапы ў мэндлікі. Так вось ён робіць.

— Значыць, вы любіце выбуховасць.

— Кожны часцей за ўсё любіць тое, чаго яму самому не хапае. Вы не заўважалі?

Ён памарудзіў.

— Пра што вы думаеце? — настойліва спыталася яна. — Я нешта вам напомніла. Скажыце мне. Што вы любіце? — Яна падсунулася са сваім крэслам бліжэй. Яе вочы ўжо не адпускалі яго.

Ён адлёўся.

— Я вас расчарую. Яшчэ студэнтам я любіў хадзіць на кірмашы і

ўсялякія зборышчы, дзе катаюцца на арэлях, сядзяць пад вялікімі шатрамі і п'юць піва.

— Я была на кастрычніцкім свяце ў Мюнхене і на свяце стралкоў у нас дома. У прыемнай кампаніі гэта можа быць даволі забаўна.

— Не, я ніколі не быў у кампаніі. Я блукаў заўсёды адзін, садзіўся ў лодку чортавага кола ці на карусель, разам з незнаёмымі закаханымі парамі, і назіраў за людзьмі і за сабой.

— Вы не маглі ні з кім сысціся? Ці не хацелі?

— Чаму не хацеў! Канечне, толькі на некалькі гадзін. Але я паводзіў сябе яшчэ больш няўклюдна, чым самы дробны прыказчык.

— Вы, мусіць, замест дзеяння разводзілі філасофію?

— Наадварот. Я пачынаў філасофнічаць пасля таго, як заўважыў, як мала я ведаў людзей. Адна дзяўчына высмеяла мяне за тое, што, танцуючы, я быў смяротна сур'ёзны. Я нават не думаў пра гэта. Аднойчы, на іпадроме, да мяне падсеў шталмайстар. Ведаеце, гэта чалавек, які, страляючы пугай, пры дапамозе верхавых трукаў і дробных двухсэнсоўнасцяў заклікае публіку на коней. Ён выдаваў сябе за мексіканца. Гэты тып убачыў мяне наскрозь, як ніхто іншы. У мяне ніколі не было лепшага за яго настаўніка. Яго баявы кліч на манежы быў — праўда, толькі пасля дзесяці вечара, калі ўспыхвалі чырвоныя лямпачкі, а ў цэнтры ўстанаўлівалі ілюмінаваны фантан — тады ён, седзячы на кані, узмахваў доўгай пугай у бок аднаго з круглых сталоў, за якімі сядзелі парачкі і юрлівыя саламяныя ўдаўцы.

— А яго баявы кліч?

— Ах, праўда. Пры гэтым ён крычаў з акцэнтам — «Больш эротыкі, панове, больш эротыкі!» У слове «эротыка» ён рабіў моцны націск на перадапошнім складзе. Гэта важна. Тым самым слова гучала надзвычайна смешна і на маё разуменне зусім неэратычна. Але ён толькі паблажліва пасмяяўся з мяне, калі я аднойчы сказаў яму пра гэта. Відаць, у яго тут быў багацейшы вопыт, а гэта быў адзін з яго трукаў.

— Вы часта хадзілі туды?

— Часта.

— Фэ.

— Чаму — фэ? Калі я раскусіў усе трукі, я адчуў сябе бліскуча. Я не адчуваў ні хвалявання, ні агіды, калі якая какотка на маіх вачах прышпільвала празрыстыя панчохі да рызінак.

Розэмары пагардліва скрывіла рот.

— Што вы тады рабілі?

— Я рашаў задачку па алгебры або займаўся іншай патрэбнай справай.

— Як? Вы там працавалі?

— Але. Я заўсёды што-небудзь браў з сабой. Што-небудзь асабліва мудрагелістае. Там мне прыходзілі найлепшыя ідэі.

— У такім асяроддзі?

— Часам да мяне прысаджвалася дзяўчына. Я заказваў нешта выпіць. Яна не гаварыла ні слова, а толькі пазірала на мяне ці забаўлялася маёй лічыльнай лінейкай. Час ад часу мы выпівалі за здароўе адно аднаго, і ў яе часам з'яўлялася жаданне, каб я паклаў руку на яе цела.

— Куды — на цела?

— На патыліцу, на руку — хоць куды, дзе было месца.

— Гэта была тая, у празрыстых панчохах?

— Я не ведаю, ці былі на ёй панчохі. Ды гэта было не важна. Яна мяне добра разумела і не перашкаджала мне. Аднойчы я прачытаў ёй доўгую лекцыю пра Фрэйда. Яна, канечне, не зразумела як след ніводнага слова, але...

— Фрэйд — яўрэй, — перабіла яго рэзка Розэмары Клемт.

— Тым не менш ён існуе.

Яна паглядзела на яго з какетлівым дакорам.

— Вы яшчэ горшы за майго мужа. Яму таксама дазволена тое, што хочацца. Вы не нацыянал-сацыяліст, праўда?

Ганс Ціфенбах узняў здзіўлены позірк. Потым ён устаў, зрабіўшыся сур'ёзным.

— Вы ўжо на дыпламатычнай службе антыкамінтэрна, фраў Клемт?

Яна не ведала, чаму ён падумаў так, і мусіла спачатку прыпомніць, што яны ўжо гаварылі пра гэта. Потым яна энергічна закруціла галавой і паспрабавала пяшчотна змусіць яго зноў сесці. Але ён не паддаўся, пайшоў хадзіць па пакоі. Ён прыпыніўся перад засушанымі травамі. Ён чуў, як за яго спіной гаварыла фраў Клемт.

— Я не тое хацела сказаць. Я толькі расчаравана, што сярод інтэлігенцыі так мала перакананых нацыянал-сацыялістаў. Многія, якіх я ведаю праз свайго мужа, — гэта ныцікі, скептыкі, а часам і цынікі. Канечне, ёсць такія, што зрадніліся з яўрэямі, а мы пра іх нічога не ведаем. Але пасля канчатковай перамогі мы будзем вымушаны будаваць вялікую Германію разам з імі. Нам патрэбны людзі, людзі, людзі! Для адной толькі Польшчы, для пратэктарата. Пра агромністыя плошчы далей на ўсход я не адважваюся і думаць. Шчасце, што нашы сярэднія слаі яшчэ не так заражаны, як верхні слой. Кіраваць будзе просты чалавек. Наш шафёр, напрыклад, слесар з-пад Гальдэнслебена, вось хто сапраўдны нацыянал-сацыяліст. Ён кіраваў усёй сваёй вёскай. На выбарах — стопрацэнтны ўдзел, і сто

працэнтаў — за Гітлера. Толькі дзякуючы яму.

— Дзе цяпер гэты чалавек?

— Канечне, на фронце. Фельдфебель. Ён падтрымлівае дух у сваіх салдат.

— Уяўляю сабе.

— Ён і сёння піша мне, як і наш былы бухгалтар, які цяпер служыць цальмайстрам у Ліцманштаце. Там патрэбны надзейныя людзі. — Гаворачы, Розэмары разгарачылася.

— Здаецца, ідзе ваш муж, — нібы між іншым сказаў Ганс Ціфенбах. Ён цалкам паглыбіўся ў будову васілька і дрыжніка.

Яна не пачула звону ключоў у прыхожай і хутка адчыніла дзверы.

Д-р Клемт успрыняў з'яўленне Ціфенбаха ў сваім доме хоць і са здзіўленнем, але з прыемнасцю. Са смехам ён разглядаў напалову асушаную бутэльку гарэлкі.

— Вельмі разумна, што вы замачылі поспех, Розэль.

— Які поспех? Мы толькі размаўлялі.

— Спадзяюся, што ты не надакучыла госцю сваімі расказамі пра СНМ. Ён рашыў для нас страшэнна важную задачу. Ён пазбавіў нас ад закавыкі, што так доўга стрымлівала нас. — Клемт наліў сабе і выпіў за здароўе госця.

Ганс Ціфенбах няўпэўнена падняў свой кубак.

— Доктар позна прыйшоў у казіно. Ён тое-сёе расказаў нам з генералам. Я думаю, што наш праект захапіў вас, дарагі Ціфенбах, як ён захапіў усіх нас. На здароўе!

Вочы Розэмары Клемт настойліва шукалі сустрэчы з. вачамі госця, У позірку былі і здзіўленне, і захапленне...

Ганс Ціфенбах не паглядзеў на яе, а толькі сказаў:

— Позна. Я хацеў бы дабрацца дадому да паветранай трывогі.

## 3
## «ДЗЯЎЧЫНА З АМСТЭРДАМА»

Мора было спакойнае, так што цені пасажыраў, якія прыхіліліся да парэнчаў бакборта, амаль не расплываліся. Нават крыж, які матляўся на шыі ў маладога лётчыка-капітана, можна было распазнаць у водным адлюстраванні.

Эва назірала за ім. Яна задумліва забаўлялася маленькім ценем пры спакойным бегу маторнай яхты.

Рыцарскі крыж! Той, хто насіў яго, быў мужны і адважны. Хартмут Ведэльштэт пайшоў на фронт, каб заваяваць яго. Яго паліла славалюбства.

У вайну крыжы раслі ўсюды. На грудзях у салдата — Жалезны крыж, на мундзіры ў афіцэра — Нямецкі крыж, на шыі ў героя — Рыцарскі крыж. Крыжы, крыжы, крыжы! Нават тылавікам быў крыж «За ваенныя заслугі». Чаму менавіта крыжы? Чаму сімвал Галгофы, знак самай нізкай знявагі, стаў знакам найвышэйшага гонару? Ці не таму, што ўсе гэтыя кавалеры крыжоў жылі з думкай пра адзін, апошні крыж, драўляны, які ператвараў сэнс усіх металічных разнавіднасцяў у абсурд?

Эва пазбягала распытваць капітана пра яго ваенныя подзвігі. Яна рабіла выгляд, што няма нічога асаблівага ў яе сустрэчы з такім бліскучым героем. Але калі над імі праляцеў самалёт, зацьміўшы на некалькі доляў секунды сонца, яна не змагла больш утрымацца ад размовы, якой ён, відаць, ужо даўно чакаў.

— Зноў крыж, — вымавіла яна здзіўлена і паказала на імклівы цень, адкінуты самалётам на ваду.

Ён са здзіўленнем глянуў на яе.

— Гэта вас пужае? Мне крыжы прыносяць шчасце. Гэта добры сімвал. Прыпомніце Чырвоны крыж, свастыку... Я заўсёды ставіў у запісной кніжцы тлусты крыж, калі мне ўдавалася збіць варожы самалёт.

— Але гэта ж магло спасцігнуць і вас.

— Угары пра гэта нельга думаць. Як на арэне. Бык нюхам чуе, калі тарана баіцца. І вораг заўважае, калі цябе агорне слабасць.

— Чаму вы сталі лётчыкам?

Ён усміхнуўся.

— Вельмі проста. Я фанатык хуткасці. З першых зберажэнняў я купіў сабе матацыкл. Я працаваў у банку. Калі прыйшоў час ісці ў армію, я знайшоў магчымасць навучыцца кіраваць самалётам — яшчэ больш прывабліва, чым гонкі на матацыкле, але аднолькава небяспечна.

— Але ж на вайне — авіяцыя ўжо не спорт.

Ён няпэўна кіўнуў галавой. Крыж матляўся ў яго на шыі.

— Я адносіўся да палётаў, як да спорту, пакуль яны не збілі майго брата. Ён упаў разам са сваёй машынай, як вогненны факел, у мора. Гэта было пад Нарвікам. Ён быў маладзейшы за мяне, і я ўгаварыў яго стаць лётчыкам. З таго часу я толькі помсціў за яго. Але мне ўжо не шанцавала. Хапіла толькі на Дубовы ліст. Потым мяне перавялі сюды.

— А як вы справіліся са сваёй помслівасцю?

— Яна жыве ўва мне. Вайна будзе яшчэ даволі доўга — у мяне яшчэ столькі магчымасці...

— Значыць, вы гэтага хочаце?

— Майго жадання тут і не патрабуецца. Нянавісць уліта ў нас, як паліва. Яна яшчэ доўга не выгарыць. Яна гоніць нас наперад.

Халодныя мурашкі пайшлі па целе Эвы, нягледзячы на цёплае сонца. «Нянавісць! — падумала яна.— Да каго і чаму? Дзе пачынаецца нянавісць? Адкуль яна ідзе? Куды яна вядзе? Нейкі англійскі лётчык збіў каштанавага брата, не ведаючы яго. Магчыма, і ён помсціў за свайго таварыша. А цяпер павінна зноў уступіць у сілу зваротная помста!

Нянавісць асобнага чалавека заключае саюз з вайной. Вока за вока. Зуб за зуб. Гэта значыць: помсціць і забіваць да (апошняга чалавека).

Эва прыпомніла, як ёй упершыню натрапілася паняцце «вайна». У Альфрэда, самага малодшага матчынага брата, сярод карцінак яго «чароўнага ліхтара» была адна, якую ён называў «вайна». Заўсёды, калі яму хацелася раззлаваць маленькую Эву. Ён устаўляў шкляны кадрык у каленкоравай рамцы ў апарат і смяяўся калі пляменніца ад страху заплюшчвала вочы і хавала твар у далонях. Яна запомніла гэта на ўсё жыццё: цёмны пакой, у ім на сцяне павялічаная прымітыўна намаляваная карцінка. Падаюць коні з людзьмі, агромністыя колы машын падмінаюць пад сябе ўсё на дарозе. Даволі доўга яна думала, што з пачаткам вайны імгненна на ўсіх наваліцца хаос. Вайна — гэта бойка, удары на ўсе бакі, жыццё без смеху, без радасці, без адпачынку і — без сну. Яна доўга не магла зразумець, як людзі могуць вынесці чатыры гады, сем гадоў, нават трыццаць гадоў вайны. Цяпер яна ведала: вайна — такі арганізм, які пажыраў і душыў, але і адпачываў, задаволена грэў спіну на сонцы, пакуль яго пашча смактала кроў. Гэта яна ведала, бо газеты часта змяшчалі некралогі, бо ў знаёмых сем'ях былі страты, бо інакш, напэўна, і не магло быць. Але яна не бачыла вайны. Тое, што яна бачыла цяпер, было нават прыемна: дзесятак людзей на шыкоўнай яхце, якая крэйсіравала на Грэйфсвальдэр Бодэн.

«Дзяўчына з Амстэрдама», казалі, належала нейкаму галандскаму плутакрату. Людзі з доследнай установы Востраў, камандзіраваныя ў Амстэрдам, «правялі аперацыю» з маторнай яхтай. Як потым ім удалося правесці трафей праз Паўночнае мора і праз канал кайзера Вільгельма, засталося строгай тайнай удзельнікаў. Ва ўсякім разе, «Дзяўчына» пакуль што стаяла ў рачным порце Вострава, і было няцяжка зняць яе з якара для нядзельнай прагулкі, бо генерал даў згоду.

Кавалер Рыцарскага крыжа, з якім Эва пазнаёмілася праз Говера, запрасіў яе на гэту прагулку. Юрген Бэр усміхнуўся, калі яна

сказала яму. Ён хацеў пайсці з ёю пакатацца на лодцы і, магчыма, зноў расказаць ёй нешта Цікавае. Нядаўна ён гаварыў пра Гегеля, цэлую гадзіну запар — яны ехалі побач на веласіпедах уздоўж Вострава. Ехаць было цяжка, бо вецер дзьмуў ім у твар, а летняя дарога была ў выбоінах. Калі яны прыпыніліся адпачыць. Ён хацеў пацалаваць яе. Яна не дазволіла, не таму што ён ёй не падабаўся, а ад нечаканасці. Юрген Бэр не ведаў пераходаў. У яе вушах яшчэ гучаў Гегель, а яна сутаргава намагалася высветліць, што такое дыялектыка. Часам з Юргенам было даволі цяжка! Але цяпер яна ахвотней сядзела б у цеснай лодцы з ім, чым стаяць тут каля парэнча на борце элегантнай «Дзяўчыны». Д-р Клемт паклікаў кавалера Рыцарскага крыжа ў салон для курэння, дзе ён сядзеў з падпалкоўнікам Кельнерам, і Эва адчула сябе забытай.

Акрамя яе, пасажыркамі на борце былі фраў Клемт і Кайзерка. Фраў Клемт спрытна яе не заўважала, а Кайзерка паспяхова практыкавалася ў звычках будучай афіцэрыхі. Каля будкі рулявога стаяла, прыхіліўшыся, незнаёмая, у чый гонар была арганізавана прагулка. На яе белым, строга пашытым ільняным фрэнчы зіхацелі некалькі медалёў і Жалезны крыж. Гэта была вядомая лётчыца-спартсменка. Яна лётала выпрабавальніцай у люфтвафэ. Эве яе твар быў знаёмы з ілюстраваных выданняў.

Лётчыца ўважліва сачыла за крывымі лініямі і «мёртвымі петлямі», якія вырабляў лятаючы трохкутнік. Вільфрыд Парызіус выпрабоўваў новы рэактыўны знішчальнік і белымі абаранкамі, шлейфамі і завітушкамі канкурыраваў з воблакамі, што плылі над востравам. А потым на некалькі хвілін другі самалёт прыцягнуў да сябе ўвагу экіпажа «Дзяўчыны». Цень вялізнага крыжа прамільгнуў на моры. Цень быў ад машыны, што на брыючым палёце праляцела над яхтай. Міжволі ўсе на палубе ўцягнулі галовы ў плечы.

— Уліг? — спыталася лётчыца.

— А хто ж яшчэ, — адказаў Ганс Ціфенбах, які сядзеў побач з фраў Клемт. — Прывітанне было адрасавана вам…

Лётчыца памахала сваёй насоўкай.

Ціфенбах убачыў, што Розэмары скрывіла рот. Магчыма, яна шкадавала, што аэрадынамікі былі не такія рызыканты, і падумала пра палкоўніка Ліндберга.

Ціфенбах з няёмкасцю прыпомніў той вечар, калі ён пад чаркай расказаў гэтай жанчыне пра сябе больш, чым звычайна. Цяпер, назіраючы. Ён быў амаль на адной адлегласці ад маладых жанчын, якія пры ўсім знешнім адрозненні здаваліся яму нечым падобнымі. Карла Вінтэр, вядомая лётчыца, Розэмары Клемт, расчараваная жонка

вучонага, і Эва Леангард, дзяўчына з крытычным бачаннем. Хоць ён яшчэ не перакінуўся ніводным словам з дзяўчынай каля парэнча. Ён здагадваўся, што яна, як і другія дзве жанчыны, патрабавала ад жыцця больш, чым сярэдняя прадстаўніца яе полу. Кожная з гэтых трох дамагалася свайго ў розных абласцях, але ўсе тры хацелі зрабіць гэта сваімі сіламі. Насупраць, недалёка ад парэнча правага борта, у масцы «гранд дамы» сядзела сапраўдная сярэдняя прадстаў. Ніца, якая за выгаднае замужжа купляла сабе зручнае жыццё: Кайзерка. Яна будзе высакамерная ўладальніца тытула, які пяройдзе ёй ад мужа. Няўмольная Крымхільда на парозе палаца.

— Пра што вы філасофнічаеце, пан Ціфенбах? — Розэмары Клемт, якая, здавалася, расслаблена і безуважна ляжала ў шэзлонгу, як драпежнік з засады, сачыла за яго блуклівым паглядам.

«У яе сапраўды талент шпіёнкі», — падумаў ён.

— Мне толькі што прыйшла ў галаву спрэчка каралеў, шаноўнейшая, — сказаў ён з ветлівай іроніяй. Яго пацешыла, што яна не знайшлася адразу, што адказаць.

Лётчыца адарвала позірк ад сталёвых нябесных птушак і даказала, што і яна жанчына. Яна зняла льняны фрэнч і дазволіла Ціфенбаху накінуць яго ёй на плечы.

— Якіх каралеў вы маеце на ўвазе? — спыталася яна.

— На гэта вам напэўна адкажа фраў Клемт, аддзел ідэалагічнай прапаганды.

Розэмары ўстала і баявіта глянула на яго. Яго здзівіла, што бландзінка так лёгка завялася.

— Вядома, адкажу.

Павярнуўшыся да недасведчанай лётчыцы-спартсменкі, яна зычліва сказала:

— Перачытайце Шылера: Марыя Сцюарт і Елізавета Англійская.

Кайзерка зрабіла важную міну і кіўнула, быццам яна хацела сказаць тое ж самае. Карла Вінтэр шчыра прызналася, што літаратура для яе — сфера далёкая.

— Ну, пэўна, калісьці мы гэта праходзілі ў школе. Але за што яны спрачаліся?

— За англійскі трон, — паблажліва сказала Розэмары Клемт.

Лётчыца бачыла, што яе рэпутацыя падае. Яна пакпіла, звярнуўшыся да Ціфенбаха:

— Англія — наш вораг. Навошта тады такія паралелі!

Яму зрабілася вельмі весела. «Аддзел ІП» даў асечку. Ён прысеў на скрынку з выратавальным кругам «Дзяўчыны з Амстэрдама», падлажыў пад сябе рукі і з задавальненнем пачаў гайдацца туды-сюды.

Унізе сядзела Розэмары Клемт. Было прыемна глядзець на яе зверху ўніз.

— Фраў Клемт памылілася, — сказаў ён. — Пад спрэчкай каралеў у літаратуры разумеюць іншы, больш даўні сюжэт.

Гонар Розэмары Клемт, здалося, распаліўся.

— У нямецкай?

— Калі хочаце — нават у германскай.

— Значыць, тады ў Эдзе.

Міжвольным рухам, нібы размова зрабілася невыноснай для яе, Эва Леангард у гэты момант адышла ад парэнча і коратка сказала:

— Не, у песні Нібелунгаў. Паміж Крымхільдай і Брунхільдай.

Эва прамовіла гэта ўпарта, як дзіця, якое прымушаюць моўчкі слухаць, як дарослыя гавораць глупства. Яна рэзка павярнулася і пайшла на пярэднюю палубу. Яе чырвоная крэп-жаржэтавая хустка зларадна развявалася за плячыма.

У цяні надбудоў на цеснаватай пярэдняй палубе стаялі тры крэслы, зробленыя з металічнай трубкі і абцягнутыя аранжавым палатном. Эва падсунула адно на сонца і села. Сталёвы каркас пружыніў. Яна падабрала белую льняную спадніцу, каб адкрыць калені.

Недзе ўнізе пад ёю працавалі машыны. Пад аднатонны шум «Дзяўчына з Амстэрдама» бегла па дробных — да смешнага — хвалях. У Паўночным моры ці ў вусці Шэльды яна, відаць, прывыкла зусім да іншага. Эва заплюшчыла вочы.

Дзень быў цудоўны, і ці варта было сапраўды злавацца, што нейкі фанабэрысты шматзнайка правяраў жанчын на тэсце. Хоць Эва не вельмі прыхільна ставілася да фраў Клемт і разгадала хітрасць Кайзеры, ёй не падабалася ў мужчын такая манера «праверак». На яе твар раптам упаў цень. Падумаўшы, што лодка змяніла курс, яна хацела перасунуць крэсла на другое месца. Тут яна заўважыла, што Ціфенбах разлёгся ў крэсле непадалёк ад яе. Не звяртаючы на яго ўвагі, яна зноў заплюшчылася і падставіла сонцу твар, рукі і ногі.

— Я вам перашкаджаю? — пачула яна яго пытанне.

— Не. Я мару.

— Добра. Давайце марыць разам.

«Яго голас гучыць крыху прыглушана, — падумала яна. — І вельмі мякка. Такому бывае цяжка камандаваць». Яна надавала вялікае значэнне галасам. Асабліва ёй падабаліся звонкія, металічна рэзкія галасы. Голас Марціна Уліга яе падкупіў адразу.

Курс усё яшчэ ляжаў на Грэйфсвальдскі востраў. Белыя кучавыя воблакі збіраліся над малюсенькім астраўком. Эва праз вузенькую шчылінку зірнула ўніз і ўбачыла выцягнутыя ногі Ціфенбаха. Ён быў

без шкарпэтак. «У яго бывае няшмат часу на загар», — падумала яна, толькі зірнуўшы на яго шчыкалаткі і белыя лыткі.

Ледзь прыкметны паварот галавы ў яго бок ён адразу заўважыў і выкарыстаў момант.

— Воблакі плывуць, — сказаў ён.

— Кучавыя, — сказала яна, не мяняючы позы.

— А не перыстыя?

— Не, кучавыя.

— Вы, мусіць, заўсёды маеце рацыю?

У яго кплівым голасе было зычлівае адценне. Эва паглядзела на яго і сустрэлася з яго позіркам. Вочы пад прыкметна шырокім лобам сядзелі глыбока ў вачніцах. Гэтыя вочы хацелі шмат бачыць, застаючыся нябачнымі.

Гэтая думка прымусіла яе запярэчыць:

— Відаць, вам не да густу, што я маю рацыю.

— Чаму? Тады б я не прыйшоў сюды пасля вашага каралеўскага адыходу.

— Вы мяне раззлавалі.

— Я не заўважыў. А чым, шчыра кажучы? Што вы падумалі пра мяне?

— Я вас параўнала з маёй бабуляй.

— Як прыемна.

Ён развесяліўся і зацікаўлена ўзняўся.

— А чаму?

— Калі бабуля Мацільда прыходзіць у госці ўпершыню, яна спачатку пераварочвае ўверх дном кубачак і правярае, ці сапраўдны фарфор. Мейсенскі — першы гатунак, розентальскі — другі.

Ганс Ціфенбах ад усяго сэрца засмяяўся.

— Вы пакрыўдзіліся на мяне за ўрок літаратуры?

— Гэта быў сапраўдны тэст. Калі б такое здарылася са мной, я б дзейнічала, як Шарлота Левенскельд.

— Як гэта вам прыйшло ў галаву?

— Вы ведаеце гэту кнігу? Яе аўтарка — Лагерлёф,

— Я вельмі рэдка чытаю раманы. Але раскажыце, што яна зрабіла. Яе таксама правяралі?

— Ага. Яе будучая свякроўка, ганарлівая фраў Обэрст. Правяралі выхаванне, паводзіны за сталом і іншае. Калі Шарлота здагадалася пра гэта, яна пры людзях за сталом высыпала поўную цукарніцу на сваё блюда з гародніны. І нагнала жаху на шаноўных гасцей.

— Можа, яна яшчэ і плямкала?

Эва не вытрывала, каб не засмяяцца з яго рэплікі.

— Хапіла і аднаго. Свякроў зразумела яе. Шарлота пасароміла іх усіх.

— Значыць, гэта вам імпануе і вы зрабілі б таксама?

— Так.

— Тады, калі ласка, рабіце.

— Цяпер? Як?

— Я вас ужо даўно правяраю тэстам, як вы гэта называеце.

— Вы — мяне?

— Канечне. З таго часу, як я сяджу каля вас. Гэта пачалося з воблакаў. Вы нават правільна ўтварылі множны лік ад слова «кумулус» (кучавое воблака).

Эва адчула, што прыцішаны голас і старанна прыхаваная пара вачэй загналі яе ў тупік. Знаходлівасць пакінула яе.

— Вы — вераломны, — ніякавата адказала яна.

Гэта не кранула яго.

— Я толькі хацеў даказаць вам, што тое, што вы называеце «тэстам», — зусім нармальна паміж людзьмі, калі яны хочуць пазнаёміцца не толькі знешне. Трэба прызнацца, што мае паводзіны на кармавой палубе былі крыху няёмкія. Спадзяюся толькі, што апраўданнем можа служыць прызнанне: я не заўсёды такі.

Яна круціла чырвоную хустку вакол выцягнутага ўказальнага пальца і сутаргава шукала адказу. Калі яна зноў накруціла спіраль. Ён злавіў вяртлявы кончык і затрымаў яго. Яна пацягнула моўчкі. Нарэшце, каб не парваць тонкую тканіну. Ён адпусціў.

— Што б зрабіла цяпер Шарлота Левенскельд? — спытаўся ён.

— Пра гэта я і Думаю ўвесь час. — Рантам яна ўстала і з выклікам паглядзела На яго. — А што мне, па-вашаму, трэба было зрабіць, каб не паддацца вашаму тэсту?

— Вам трэба было зрабіць нешта большае, чым высыпаць цукарніцу.

— Што, напрыклад? — Магчыма, чысціць пазногці...

— Вам не прыходзіць у галаву нічога лепшага?

— Я не ведаю. Калупанне ў носе, магчыма, Падышло б яшчэ лепш.

Яна весела засмяялася і падкінула ў паветра чырвоную хусціну. Адхіліўшы галаву, яна падставіла пад яе твар. Нібы ласкавае ружовае воблака закрыла ёй вочы.

— Фэ на вашы брудныя думкі! Якія, мусіць, дрэнныя кнігі вы чытаеце.

Ён скрывіўся. Яна ўбачыла гэта.

— Прызнайцеся: што вы цяпер чытаеце?

Замест адказу ён выцягнуў з кішэні чорную, зашмальцаваную, невялічкую кніжку ў мяккім пераплёце.

— Шапенгаўэр. «Пра жанчын», — прачытала Эва. — Вы што — праціўнік жанчын?

— Не непасрэдны. Але ўсё-такі трэба ведаць, што вялікія мелі супраць жаночага полу.

— Шмат чаго?

— Не так шмат, каб Стаць праціўнікам жанчын.

— А што вы чытаеце яшчэ?

— Нешта зусім дрэннае. «Шчаслівая пара Ван Цантэна»;

— Не ведаю. Што гэта?

— Дзея адбываецца ў гарачых краінах, адна экзотыка. Да таго ж — крыху апаганення расы...

Хустка ў сутаргава сціснутай руцэ Эвы ператварылася ў чырвоны шарык.

За палубнымі надбудовамі з'явіўся капітан-лётчык з Рыцарскім крыжам. Ён асцярожна балансаваў з падносам і дзвюма шклянкамі на ім.

— Рэкамендуе загадчык віннага склепа, — па-рыцарску звярнуўся ён да Эвы. — На карме можна выпіць. Гэта адзінае, што могуць прапанаваць кухня І склеп нашай шыкоўнай яхты.

Халоднае казытлівае віно з газіроўкай пілося прыемна. Капітан апусціўся ў свабоднае крэсла і з яўным задавальненнем залпам выпіў шклянку.

Эва коратка падзякавала яму. Нешта ўздрыгнула ў яе на твары, але яна пераадолела сябе і прапанавала Ціфенбаху паўшклянкі.

— Смачна. Хочаце?

— Загадчык склепа мне, пэўна, таксама адпусціў бы.

— Але вы так зручна ўселіся, што шкада ўставаць. Бярыце. З гэтага боку я не піла. — Яна павярнула шклянку. Іх пальцы дакрануліся.

— Вось цяпер у вас не той бок, — папярэдзіла яна.

— Не, той, — ціха сказаў ён і, перш чым прыкласці вусны да краю шклянкі, паслаў ёй цёплы позірк.

Кавалер Рыцарскага крыжа з нездавальненнем ёрзаў на крэсле. Ён закусіў ніжнюю губу. Якія прасветы і зоркі трэба мець на пагонах, каб гэтыя фанабэрыстыя цывільныя не адважваліся даваць табе ўрокаў! Ён быў на некалькі гадоў старэйшы за Эву і меў няшчасце быць начальнікам паўдзесятка людзей — равеснікаў Ціфенбаха. Цяжка працаваць у тылавых установах! ён пайшоў насустрач Карле Вінтэр, якая ішла па палубе з Клемтам.

Клемт быў у добрым настроі. На ім былі белыя льняныя штаны і

белая спартыўная кашуля, і ўвогуле ён выглядаў як законны гаспадар «Дзяўчыны з Амстэрдама».

Калі ён заўважыў у крэсле Ціфенбаха. Ён спыніўся.

— Карла не верыць, што Уліг вучыў вас планёрнаму спорту.

Лётчыца села на трэцяе аранжавае крэсла, якое капітан галантным жэстам падставіў ёй. Яна запытальна паглядзела на Ціфенбаха, які нязмушана сядзеў каля яе і ўсё яшчэ круціў у руках Эвіну шклянку.

— Чаму гэта так неверагодна? — спытаўся ён. — Марцін жа быў інструктарам па палётах.

— Таму што мы гаварылі пра палёты, а вы нічога пра гэта не ўпамянулі. Я думала, што вы чыста кабінетны вучоны. Чаму вы не носіце значка планерыста?

— Бо я не вельмі ганаруся поспехамі напалавіну.

— А які экзамен вы здалі?

— B.

— Ага, значыць, вам не хапае яшчэ трэцяга крыла.

Клемт гукнуў ад парэнча:

— Ёсць людзі, якім не хапае трэцяга крыла ў другім месцы, праўда, Ціфенбах? Галоўнае, у рабоце поўны парадак.

— А тут, відаць, у гэтага пана парадак несумненны! — лётчыца кіўнула Ціфенбаху, зірнуўшы на яго зацікаўлена-запытальна, як быццам толькі што пачула пра яго нешта важнае.

Неўзабаве яхта зрабіла круг вакол астраўка. Клемт і Ціфенбах стаялі, абапёршыся спінамі на парэнчы бакборта, а астатнія з правага борта ўзіраліся ў маленькі, але высокі скальны востраў.

Бінокль Клемта пераходзіў з рук у рукі. Перад імі масіўнай глыбай з'явіўся маяк.

Клемт паціху сказаў Ціфенбаху:

— Карла Вінтэр да гэтага спрабавала «раскалоць» мяне. Ёй карціць даведацца, чым мы тут займаемся.

Ціфенбаха гэта не здзівіла.

— Яна ж таксама звязана з распрацоўкай. Няўжо яна не здагадваецца?

— Нават больш, чым ёсць на самай справе. — Клемт павярнуўся да вады і прыглушыў голас: — Яна думае пра атамную бомбу.

Ціфенбах нягучна свіснуў. І павярнуўся.

— Ці разумее яна, з чым гэта звязана?

Клемт пакруціў галавой.

— Столькі людзей, будоўляў і матэрыялу на Востраве ашаламляе недасведчанага.

— Вам удалося пераканаць яе ў памылковасці падазрэнняў?

— Не. Яна падумала, што па прычыне сакрэтнасці я хачу адцягнуць яе ўвагу. Акрамя таго, яна спыталася пра вас. Яна ведае прозвішча Лёйпальда як спецыяліста па квантавай фізіцы і ў сувязі з гэтым робіць вывады пра вашу дзейнасць. Калі такая ідэя фікс засядзе ў галаве ў жанчыны, усякія контраргументы прымаюцца са спагадлівай усмешкай.

«Жаночыя галовы», якія так старанна абследавалі маленькі востраў, адразу даведаліся ад падпалкоўніка, што тут каля трынаццаці гадоў таму назад здымалі нямы фільм «Жанчына на Месяцы», фільм, які выклікаў вялікую цікавасць. Яго тэма была — палёт у космас. Ціхі прафесар, ужо тады вядомы спецыяліст па астранаўтыцы, удзельнічаў у здымках як спецыяльны кансультант.

— Невядома, ці Розэмары Клемт употай хацела прайсці калі не па слядах Ліндберга, дык хоць бы герояў фільма, ва ўсякім разе, яна злосна павярнулася да мужа, калі «Дзяўчына з Амстэрдама» і далей пайшла па прамой лініі курсам уздоўж узбярэжжа.

— Вось ужо пяць гадоў пастаянна перад тваімі вачыма астравок, гэта кропачка ў моры, і раптам пад'язджаеш на сто метраў, а ступіць нагой не маеш права.

— Нельга! Строга сакрэтна, мая дарагая, — са спагадай сказала лётчыца.

Але Розэмары не хацела слухаць ніякіх довадаў.

— З намі абыходзяцца, як з дзецьмі. Канечне, як з дзецьмі, якім даюць драбочак цукру і кажуць: на, лізні. — Гаротны позірк усхваляванай жанчыны мімалётна затрымаўся на Зве.

— У любой сакратаркі больш правоў, хто б яна ні была.

— РоЗэль, што гэта? — нервова перабіў жонку Клемт.

Яго расчараваная міна сказала астатняе. Увесь час адна і тая праблема: яна адчувала сябе выключанай з жыцця, як і большасць жанчын, што жылі са сваімі мужамі на Востраве і не мелі права ведаць, над чым тыя працуюць. Тое нязначнае, што яны выведвалі ў начным змроку сямейнай спальні ад мужоў, зняможаных ад аднеквання, не хапала для адчування далучанасці да іх свету. Такой ганарыстай жанчыне, як Розэмары Клемт, Заставаўся толькі шлях нянавісці. Гэта ўжо была нянавісць да самых дробных служачых завода, якія, працуючы машыністкамі, мелі пасведчанне на права ўваходу ў сярэдзіну храма, бо такім здаваўся цэнтр доследнай установы за казіно і адміністрацыйнымі карпусамі пад аховайляснога пояса.

«І ад такіх канфліктаў могуць развальвацца сем'і», — падумаў Ганс Ціфенбах. Мужчынам з абавязкам маўчаць, мусіць, лепш за-

ставацца адзінокімі.

Карла Вінтэр паспрабавала развеяць прыкрасць жартам. Яна падышла да Ціфенбаха і сказала падкрэслена лёгка і бадзёра з жэстам у бок Розэмары Клемт:

— Тыповы прыклад астраўной хваробы. За гэта трэба выпіць. Для прафілактыкі.

— Я думаю, тут на караблі ёсць толькі свянцонае віно.

— Кажуць! Але Клемт нядаўна даволі весела выходзіў з салона для курэння, з падпалкоўнікам. Я паспрабую ўмасліць марскую душу рулявога. Пайшлі, падвялы планерыст.

Са смехам яна пацягнула яго па палубе да сходак.

## 4
## ПАД ЗНАКАМ ВЯЛІКАЙ МЯДЗВЕДЗІЦЫ

Той, хто мог сабраць маладых незалежных жыхароў Вострава ў цёплыя дні позняй восені пасля дзесяцігадзіннага працоўнага дня на лекцыі па квантавай механіцы, павінен быў валодаць духоўнымі скарбамі і раздаваць іх.

Гэтым чараўніком быў Генрых Лёйпальд, прафесар Берлінскага інстытута фізікі імя кайзера Вільгельма, вучань Макса Планка, заснавальніка квантавай тэорыі, імя якога вымаўлялася маладой зменай прыродазнаўцаў амаль з такой самай пачцівасцю, як і імя Эйнштэйна. Свет мікрафізікі, веданне самых дробных элементаў будовы матэрыі былі для маладых матэматыкаў і інжынераў, якія, толькі-толькі атрымаўшы дыплом, былі адкамандзіраваны на Востраў, толькі пабочнай часткай іх спецыяльных ведаў. Першае ўдалае расшчапленне атамнага ядра за год да пачатку вайны і яго значэнне як рэвалюцыі ў тэхніцы было правільна ацэнена спачатку толькі вопытнымі вучонымі. І вось Ціфенбах, асістэнт Лёйпальда, да якога Клемт вясной аднёсся з недаверам, стрымаў сваё слова. Прафесар, які быў часовым госцем на Востраве, бо ён выконваў навукова-даследчае заданне для гэтай установы, чытаў цяпер лекцыі. Паслухаць прыходзіла нямала.

«Лёйпальд вялікі, а Ціфенбах — яго прарок», — цытаваў Юрген Бэр свой вольны пераклад. Пасля другой лекцыі ён праводзіў Траўдэ Хёрзельман і Хэні Розэнаў да дома Зэештэрн, а па дарозе абмяркоўваў з дзяўчатамі-матэматыкамі толькі што пачутае. Яны яшчэ стаялі на лесвіцы ў пад'ездзе, калі падышла Эва. Яна была ў чырвоным халаце, босая — сабралася купацца. Бэр употай спадзяваўся сустрэць яе тут. Эва адчула яго нецярплівую радасць і прыпынілася каля траіх, слухаючы іх размову. Ёй былі амаль зусім незразумелыя падрабяз-

насці гутаркі. Працуючы на тэхнічным прадпрыемстве, яна ўвесь час апыналася перад зачыненымі дзвярыма, як толькі спрабавала прасунуцца бліжэй да сутнасці рэчаў. Аддзелены ад нагляднасці свет лічбаў і формул, здавалася, патрабаваў нейкага іншага спосабу мыслення, чым той, які ёй быў звыклы. Нейкім чынам гэта судакраналася з мысліцельным збудаваннем Гегеля, у якое, здавалася, праткнуў Юрген Бэр. Да гэтага часу ёй удалося зразумець толькі адно: геніі ўсякіх ведаў — хай гэта прыродазнаўцы ці філосафы, — абстрагуючыся ад свайго багатага вопыту, выстаўлялі тэзісы, а астатні свет прызнаваў іх і выкарыстоўваў як будаўнічы матэрыял. Эўклід і Піфагор, дзякуючы сваім тэзісам, зацвердзіліся на дзве тысячы гадоў. Нейкаму Арыстоцелю, таксама з антычнай Грэцыі, пашанцавала вынайсці такія добрыя правілы для тэатра, што любы сучасны тэатральны дзеяч ведае іх на памяць. Шмат вялікіх розумаў мусілі прыняць удзел у збудаванні, каб свет стаў такі, які ён ёсць: складаны і просты адначасова. Супярэчнасці? Не. Дзе самы лепшы прыклад? Алфавіт. Хто яго стварыў, хто адрозніў такія неверагодна падобныя гукі, якія можа вымавіць чалавек, як «д» і «т» ці «г» і «х», а потым класіфікаваў іх як розныя літары?

Такія думкі прыходзілі Эве пасля размоў з Юргенам Бэрам. Ён быў першы чалавек, пра якога яна ведала, што з'явы жыцця ён прымаў не проста такімі, якімі яны здаваліся. Яе ж дзядуля і два дзядзькі цвяроза ацэньвалі факты і выкарыстоўвалі іх, каб ператварыць у грошы. Хто лепш умеў гэта, той лічыўся больш значным. Дзелавы поспех вызначаў чалавеку цану. Думаючы пра бацьку, Эва лічыла, што ён пайшоў на крок далей. Ён унёс значны ўклад у стаматалагічную хірургію і хацеў бескарысліва дапамагчы людзям.

Словы Юргена Бэра спачатку часта палохалі Эву. Ён сумняваўся амаль ва ўсім: што неба блакітнае, што ёсць немінуючы лёс і божая літасць. Ён нават казаў, што войны больш не патрэбны. І вось ён, як стараннны, уважлівы вучань, хадзіў на лекцыі Лёйпальда, а вяртаўся ўсхваляваны і пасвяжэлы, як пасля лазні.

— Гэты Лёйпальд — з'ява, — сказаў ён Эве. Ён праводзіў яе на пляж, калі Траўдэ Хёрзельман і Хэні Розэнаў развіталіся. Хэні неадольна вабіў пах піражкоў з яйкамі з кухоннага акна, а бурчання ў жываце Траўдэ, вынік яе сухабулачнай дыэты, ужо нельга было не пачуць.

— Я здаюся сама сабе даволі тупой, бо я так дрэнна ў гэтым разбіраюся, — сказала Эва. — Траўдэ Хёрзельман лічыць, што мне пасля вайны трэба заняцца матэматыкай.

— Не слухай яе, — сказаў Юрген Бэр, круцячы галавой. — Твае

здольнасці зусім у іншым. Пасля вайны! Гэта даволі няпэўная велічыня!

— Няхай сабе. Усё роўна нешта трэба планаваць. Жыць проста так, без мэты і планаў — жахліва.

— І не трэба. Але матэматыка і фізіка — не для цябе. Тут ты будзеш зусім не ты.

— Але Хёрзельманка вельмі задаволена мной.

Юрген Бэр засмяяўся.

— Я ведаю, што дрэнная праца супярэчыла б твайму абавязку і сумленню. Але ёсць і выродлівая форма пачуцця абавязку. Я назваў бы яе духам вернападданасці.

— У цябе вельмі мілае ўяўленне пра мяне.

— Калі б табе далі ў рукі вінтоўку і сказалі: «Страляй!», ты стрэліла б. З пачуцця абавязку, праўда?

— Не. Я магла б зрабіць усё, што хачаш, толькі не страляць у чалавека. — Эва спынілася. Яна ўжо прывыкла, што Бэр пры кожнай сустрэчы з жорсткай няўмольнасцю пераводзіў размову на далікатную тэму. Яго правакацыйныя пытанні і сцвярджэнні спачатку злавалі яе, але паступова яна пачынала разумець, што тое, што ён выказваў, бясконца круцілася ў яго галаве і прымушала яго гаварыць. Чаму менавіта ёй — гэтага яна зразумець не магла.

Ён пайшоў наперад да пясчанай вымоіны, падобнай да птушынага гнязда ў дзюне. Ён назбіраў трэсак і сасновых галінак, каб умацаваць скат вымоіны.

На моры былі моцныя хвалі, а па пляжы вецер гнаў пясок, рассыпаючы і завіхраючы яго.

Эва прысела ў вымоіне, захінуўшыся ў чырвоны халат. На пляжы было пустынна, бязлюдна. Сонца даўно ўжо не свяціла. Віхор намятаў на пясчаную паласу шматкі засохлых водарасцей. Ад іх аддзяляліся вузкія шэрыя паскі, імчаліся, падскокваючы на паверхні, пакуль не чапляліся за ножкі адзінокага, нібы згубленага, пляжнага крэсла. Эва курчылася і старалася сагрэцца сваім цяплом, але адчувала холад. Дзень адыходзіў, як і лета. А тое, што засталося, гучала ў вершах Тэадора Шторма: «І пляж сшарэў, і сінь вады...» Акрамя гэтага заставаўся адзін Юрген Бэр, які ведаў пра яе і яе сям'ю больш, чым хто іншы на Востраве. А з ім заставалася яго ўдумлівасць, яго настойлівасць.

Здавалася, што яму не холадна. Ён ляжаў на спіне, выцягнуўшыся, кпліва глядзеў на яе і адбіваў рукамі на пяску вялікія паўкругі, як гэта робяць дзеці, калі кладуцца на нетаптаны снег, каб адбіць арла.

Ён звяртаўся да дзяўчыны, што сядзела на кукішках, стараўся пераканаць яе. Усё яркае, што было на ёй, блякла ў цьмяным святле. Яму было лягчэй гаварыць, калі ён бачыў яе не зусім выразна. У ёй было занадта многа таго, што адцягвае ўвагу такога чалавека, як ён, — хоча ён таго ці не. Хана Пэплаў прызнала, што гэта яго слабасць. Магчыма, яна мела рацыю. Яна несумненна прыносіла больш карысці групе Супраціўлення. Трэба было самаахвярна аддаваць усяго сябе, калі ты вырашыў змагацца супраць вайны і фюрэра, які ўсё яшчэ меў верх.

Нядаўна Эва сказала: «У чалавека я ніколі не стрэліла б». Гэта гучала прыгожа. Але так гаварылі і іншыя. Баязлівец пужаецца аднаго гуку выстралу. Эва не была баязлівая. Ён гэта ведаў, але ён хацеў прымусіць яе думаць шырэй. У яе было чым. Яму прыйшлі ў галаву словы Парацэльсуса, якія яго бацька перафразіраваў для сябе: «Вельмі часта чалавека трэба параніць, каб вызваліць ад хваробы. Заўсёды ад большай бяды пазбаўляюцца пры дапамозе меншай».

Яна, пэўна ж, страляла б у чалавека, сказаў ён ёй упэўнена, калі б яе пераканалі, што гэта вораг.

Яна не хацела згадзіцца.

Але зарадзіць вінтоўку, каб іншы мог стрэліць, — гэта б яна зрабіла, настойваў ён. Ці пачысціць ствол, вылічыць цэль, падрыхтаваць боепрыпасы? Магчыма, нават толькі адпаліраваць прыклад, каб ён добра прылёг да пляча стралка.

Было прыемна пласт за пластам здымаць наслаенні з душы. Ён кідаў гэтыя пласты ў скрутак ценю, што, прымасціўшыся на кукішках, сядзеў за паўметра ад яго ног. Маўклівы праціўнік, які падымаў стрэлы, але не ўмеў нацягнуць лук, каб пусціць іх назад.

Юрген Бэр не адступаў... Усе дзейнічалі з пачуцця абавязку. Яны гаварылі «шайсэ», калі грузавікі загразалі на рускіх дарогах, і ўсё-такі тужыліся дух вон! — каб выцягнуць машыны і своечасова быць са сваім смертаносным грузам каля склада боепрыпасаў. Так дзейнічалі бяскрыўдныя, верныя абавязку простыя салдаты.

— Таму што так патрабуе закон, — горка кпіў Юрген Бэр.

Цёмны скрутак ціха загаварыў. Ён цытаваў з «Падручніка гісторыі гуманітарных вышэйшых навучальных устаноў»:

— «Гэй, вандроўнік, калі ты ў Спарту прыйдзеш, скажы там,

Што мы тут палеглі ўсе, як закон загадаў».

— Так, бітва пры Фермапілах, — насмешліва прамовіў Юрген Бэр. — І тады ўжо існаваў такі абавязак, такі «закон». Што ж гэта за закон, які ад сівой даўніны ўвесь час нацкоўвае людзей адзін на аднаго? Гэты «закон» пераконвае іх, што знішчаць людзей —

геройства. Забойства, самае вялікае злачынства, за якое належыць самае цяжкае пакаранне, узводзіцца ў мараль, у добрую справу! — Правай даланёй Бэр плашмя моцна стукнуў па пяску, як быццам для сілы яго думак патрабавалася адчувальнае супраціўленне.

Эва ўздыхнула.

— Я пра гэта яшчэ не задумвалася. Але ты ўжо аднойчы гаварыў нешта такое, і мне прыйшло ў галаву штосьці зусім прымітыўнае. Калі гэта глупства, ты можаш спакойна сказаць мне.

Цудоўна было слухаць, як гаварыў шэры карлік. Голас Зноў прыдаў яму свячэнне, прыдаў яму абрысы. Юргену раптам захацелася сесці каля яго. Ён падсунуўся па пяску. І цяпер, калі было выказана ўсё, што яго турбавала. Ён мог рызыкнуць і ўбачыць карліка не ў зачараваным вобразе.

Смуглявы твар у паднятым каўняры халата. Гэты каўнер, падбіты белым, быў падобны да гарнастая на пурпуровым адзенні казачнага караля.

— Я ўявіла сабе, — пачала Эва, — адзін хоча нешта мець ад другога...

— Твой прыклад павінен быць больш дакладны. Вазьмі нас дваіх. Я нешта хацеў бы мець ад цябе... А далей?

— Так, што далей? Ты мяне збіў.

— Давай разам збудуем наша параўнанне. Значыць, я патрабую ад цябе нешта, што ты не хочаш мне аддаваць. Я хачу... — Ён памарудзіў, адчуўшы на сабе запытальны позірк. Потым ён пачаў зноў. — Дапусцім, я хачу, каб ты сказала мне «я цябе люблю», а ты не хочаш гэтага гаварыць. А чаму?

— Відаць, таму, што не люблю.

— Вельмі мудра. І ўсё роўна я хачу пачуць гэта, нават больш таго: я хачу, каб ты належала мне. Я буду цябе вельмі прасіць, заклінаць цябе. Што яшчэ?

— Магчыма, падаць мне ў ногі.

— Канечне. Гэта вельмі важна — падаць на калені.

— Але гэта не дзейнічае.

Не. У нашым выпадку — не. Таму я прыбягаю да іншых сродкаў. Я дужэйшы, і я цябе прымушу.

— Гэта подла.

— У палітыцы такога слова не існуе. А мы гаворым цяпер пра палітыку.

— Значыць, ты пераможаш мяне, гэта ясна.

— У тым выпадку, калі ў цябе няма дужых саюзнікаў.

— Дапусцім, што іх у мяне няма. Ты мяне, такім чынам, перама-

гаеш і прымушаеш мяне, што я табе...

— Так. Ты вымушана, бо я так скручу табе рукі, што ты не зможаш і паварухнуцца.

— Тады я твая да скону? Не, гэта агідна. Ты не можаш сур'ёзна хацець гэтага, бо так ты нічога не выйграеш. Я ніколі не змагла б палюбіць цябе.

— А мне ўсё роўна. — Юрген спужаўся свайго рэзкага адказу. Параўнанне пагражала небяспекай пакрыўдзіць Эву як жанчыну і тым самым нанесці шкоду іх дружбе. Ён з радасцю ўзяў бы на рукі гэты камяк, варажбой ператвораны ў гарнастая, але гандола яе думак, як на падвеснай дарозе, не дасягнула яшчэ самай высокай станцыі. Спыніць — значыць наклікаць катастрофу.

— Ты павінна мяне правільна зразумець, Эва. У палітыцы пачуццё пераможанага амаль не мае значэння. Калі агрэсары захапілі ахвяру, авалодалі пераможанай краінай, то яны вельмі шмат выйгралі ў палітычным і эканамічным сэнсе, яны дасягнулі маты вайны. Пра пачуцці або думкі пераможанага народа яны пытаюцца гэтак жа мала, як і пра думкі свайго народа, якога для гэтай, мэты гоняць на поле бітвы.

— Але, — разважліва сказала Эва,— калі агрэсары нешта выйграюць на гэтым, то яны будуць так дзейнічаць увесь час, а ў людзей няма магчымасці абараніцца ад іх.

— Ты думаеш?.. Вернемся да нашага прыкладу. Калі б мне сілай удалося пакарыць цябе, ці прымірылася б ты на ўсё жыццё са сваім лёсам?

— Ніколі! — Эва ўсхвалявана паглядзела на яго позіркам, які кпіў. — Я б драпалася і...

— Вось і добра — і над гэтым варта паразважаць.

Яны яшчэ нейкі час моўчкі сядзелі побач, пакуль Бэр сілай не адагнаў ад сябе думкі. Ён спытаўся:

— Ты хочаш купацца?

— Я рашыла кожны дзень пакрыху плаваць, пакуль яшчэ не вельмі холадна.

— Хвала ўсяму, што нас гартуе, — пакпіў ён.

— Скажы гэта дзяўчыне з СНМ, а не мне.

Калі яны вылезлі з вымоіны, на іх абрынуўся вецер. Юрген лёгка абняў Эву. Яны поплеч ішлі па пяску да пляжнага крэсла. Ён адчуваў, што яна мерзне.

— Можа, не будзеш купацца?

Яна так нечакана скінула халат, што ён павіс у яго на руцэ, як скінутая скура. Яна імкліва дабегла да вады і ўжо стаяла, нацягваючы

шапачку, пасярод прыбою. Юрген Бэр паклаў халат на пляжнае крэсла і пайшоў за Эвай, пакуль хвалі не дасталі да яго скураных туфляў. Ад хваль заставалася свінцовая сырасць... Белая шапачка плавала па хвалях. Яна не вельмі далёка адплыла, але калі яна схавалася за высокай хваляй і знікла з яго вачэй. Ён ужо надумаўся распранацца, каб дапамагчы ёй. Але новая хваля на пенным хрыбце вынесла яе бліжэй да берага.

— Хопіць! — крыкнуў ён. — Ужо зусім цёмна.

— Твой вялікі брат[1] сцеражэ мяне.

Юрген Бэр прыклаў руку да вуха. Яму здалося, што ён недачуў. Яна паказала на неба. Над імі міргалі сем зорак Вялікай Мядзведзіцы... Ён ахутаў ёй плечы халатам і пачаў расціраць спіну.

— Параўнанне не новае. Але таму што я часта забываюся пра яго, яно зноў гучыць прыемна. Здымі мокрае, а то прастудзішся.

Пакуль яна, хаваючыся за пляжнае крэсла, здымала купальнік. Ён стаяў за крэслам і глядзеў на сузор'е.

— Я хацеў бы, каб стрыманасць майго вялікага цёзкі хоць крышку адбілася на мне.

— Гэта было б жахліва, — прагучала з крэсла. — Прэсныя людзі — агіда.

Ён асцярожна зазірнуў і выявіў, што гняздзечка было пустое. Басаногж яна ціхенька выбралася адтуль. Ён убачыў, як захутанае нешта бегла да дзюны, так моцна заціснуўшы полы халата, што аж спатыкалася на пяску. На самай вяршыні ён дагнаў яе.

— Заўтра я таксама іду купацца, — сказаў ён.

— Заўтра, я, магчыма, буду купацца каля астраўка, — адказала яна з ганарлівай радасцю ў голасе.

— Ага, правільна, аэрадынамічная труба прызначыла пробны запуск, — прыпомніў Бэр. — І цябе бяруць з сабой? Гэта цудоўна.

— Доктар Клемт велікадушны. Я павінна памагаць Траўдэ Хёрзельман рабіць замеры.

— Ты напэўна вернешся ў захапленні.

— У захапленні? Ад чаго?

— Пабачыш.

— Я рада, што пабуду на астраўку. Звычайных смяротных туды і блізка не пускаюць.

— Напішы пра гэта верш.

---

[1] Гульня слоў: der Bär (ням.) — мядзведзь, der Grße Bär (ням.) — Вялікая Мядзведзіца (сузор'е.)

— Як ты дадумаўся?

— Гэта табе пасуе лепш, чым матэматыка. Я ведаю.

— Нічога ты не ведаеш. Дабранач, вялікі Бэр.

Яе белы каўнер бліснуў і схаваўся ў зацемненым доме Зэештэрн.

Наверсе ў кухні нехта спяваў, шлягер. Мелодыя нібы ўдарыла Юргена Бэра. Ён незадаволена страсянуў галавой, але падхапіў яе. Грамафон круціў гэтую банальную песню, калі ён упершыню ўбачыў Эву, у красавіку на таварыскім вечары, каля бара, за якім гаспадарыла Кайзерка. Праз гэту сустрэчу ён не выканаў задання таго дня — не знайшоў Ханы Пэплаў і ўпусціў некалькі дарагіх дзён, перш чым надарылася новая магчымасць непрыкметна сустрэцца. Дзіўна, але Хана ведала пра яго нядбайнасць, яна ведала нават прычыну. Вось з таго дня яна і сумнявалася ў яго надзейнасці. Акрамя таго, Эву яна лічыла павярхоўнай, магчыма, і распуснай.

Успамін пра гэта выклікаў у Юргена Бэра ўсмешку. Ён бачыў, як Эва вынырвае з пены апошняй хвалі, халодная і жорсткая ад салёнай вады, яе тонкае цела ў цесным купальніку, гнуткае і поўнае сілы. А потым — сарамліва голая пад мяккім, шчыльна зацягнутым пурпуровым халатам... Юрген глыбока ўздыхнуў. З'явілася адчуванне, што ён мужчына, і што яму дваццаць шэсць год, і што ў ім вядзецца бясконцая барацьба паміж розумам і пачуццём, якое гулкімі ўдарамі давала знаць пра сябе, як толькі пасярод гэтай вар'яцкай вайны паказваўся хоць маленькі краёк чалавечага жыцця.

Канечне, Хана ў пэўнай меры мела рацыю, расчараваўшыся, што ён не выкарыстае лепш сваё знаёмства з Эвай. Ён яшчэ не ведаў, чаго ад яе можна чакаць, тым больш — чаго патрабаваць. Нядаўна, у нядзелю раніцай, яны паплылі на лодцы ў Фрэст, вёску на другім беразе ракі. Замест таго каб прагуляцца па вёсцы ці палюбавацца прырэчным наваколлем. Ён праседзеў увесь час на кухні ў аднаго шафёра, які часта на грузавіку будаўнічага штаба Шпера ездзіў у Берлін. Ён прапанаваў Эве тым часам папытаць у вясковых рыбакоў вэнджанай рыбы. Яна была не вельмі рада, што ён пакінуў яе адну, і вярнулася назад раней, чым яму хацелася. З уласцівай ёй уражлівасцю яна заўважыла, што шафёр і яго жонка аднесліся да яе падазрона і што з яе прыходам размовы на кухні заціхлі. Аднак пазней яна пазбягала пытацца ў яго пра гэтых людзей ці пра прычыну яго візіту. Тое, што яго пінжак прыкрываў скрутак меднага дроту, яна старанна не заўважала. Унізе па рацэ яна раптам разулася, прашлёпала па вадзе і наламала цэлы ахапак рагозу.

— Па дарозе з гавані табе будзе лепш схаваць сваю кантрабанду ў гэтым букеце. І не так кінецца ў вочы, калі мы зверху закруцім маім

купальнікам, — суха сказала яна.

Глыбока ўражаны яе натуральнай гатоўнасцю дапамагчы. Ён хацеў ужо зрабіць наступны крок і прыгарнуць яе. Як быццам баючыся гэтага, яна сказала хутка, нібы ўхіляючыся:

— Я таксама прынесла на борт трафей. У лодачнай скрынцы — два фунты рачной камбалы. Але пра гэта не гавораць. Яе трэба пакаштаваць.

Калі Эва, размахваючы мокрым купальнікам, падымалася па лесвіцы, яна пачула смех і грамафонную музыку. На верхнім паверсе гарэла святло.

Сі, сі, сі, дай ты мне адзін толькі пені,
Сі, сі, сі, я за пені песню спяю... —

прыглушана гучала ў доме.

Агульнае памяшканне было без дзвярэй, гэта было нешта накшталт рэкрэацыі ў канцы калідора. На абсталяванне не хапіла грошай. Пярэднюю сцяну нядаўна ўпрыгожылі партрэтам фюрэра. Гэта быў здымак з тыднёвай хронікі, надрукаваны ў такім грубым растры, што трэба было адысціся на пэўную адлегласць ад партрэта, каб выразна ўбачыць: Гітлер стаіць у машыне, левая рука на лабавым шкле, правая ўзнята для прывітання, і з урачыста-сур'ёзнай мінай едзе праз натоўп.

Камарад Міргун моўчкі атрымаў яго ад кіраўніцтва інтэрната і гэтак жа моўчкі павесіў. Ніводная жыхарка інтэрната не выказала нічога, акрамя шматзначнага: «Ну вось, хоць сцяна цяпер не будзе пустая». Былы вартаўнік маяка не адважваўся выказвацца. Толькі сваёй пляменніцы Хане Пэплаў сказаў, што думаў: «Хай сабе, Хана. Ён жа стаіць у машыне. Глядзі, што некалі выедзе ў акно».

Пад гэтым партрэтам Эдзіт Кнор, малышка з тварам гемы, рэпеціравала стэп — на пальцах і пятах. Скрынка грамафона, які належаў Ру, стаяла на абшытай дрэвам батарэі цэнтральнага ацяплення, а туфелькі выбівалі рытм песні. Хутка! Хутчэй! Эдзіт паспрабавала падвоіць тэмп — толькі на пальцах, на пальцах! Ад яе старанна ўкладзенай прычоскі аддзялілася пасма. Ніхто не бачыў раней гэтай стрыманай дзяўчыны такою, як цяпер. Пра яе і ведалі амаль толькі тое, што з харэаграфічнага вучылішча яе забралі на працоўную службу, потым яна прайшла праз службу ваеннай дапамогі, потым — добраахвотна запісалася на вайсковую службу, бо страціла веру ў свае артыстычныя здольнасці. Ад супоў і каш на працоўным фронце яна раздалася ўшыркі. Яна махнула на ўсё рукой і засталася на Востраве. Ру, яе суседка па пакоі, сваім грамафонам растапіла лёд. Эдзіт Кнор давала гастролі. Не хапала месцаў, і яе публіка стаяла, прыхіліўшыся

да вушакоў і сцен. Рытм быў заразлівы. Трэніраваная гімнастка Хэці Розэнаў паспрабавала паўтарыць за ёю некалькі па. Ёй удалася гэта толькі, калі яна змяніла парусінавыя туфлі на скураныя. З радасным хіхіканнем яна прымала падказкі. Калі прыйшла Эва, Траўдэ Хёрзельман якраз прынесла сваю пласцінку. «Гэта паса добль, — сказала яна. — Пад яе таксама можна».

Эдзіт Кнор спачатку засвоіла рытм, паспрабавала асцярожна, потым пачала адбіваць такт хутчэй. Яе спадніца-клёш у клетку закруцілася вакол сцёгнаў.

Рытм захапіў і Эву. Не першы раз яна спрабавала танцаваць стэп. Вядома, яна не магла спаборнічаць з Эдзіт Кнор, ды і не гэта было важна. Яна блытала калены стэпа з факстротам, полы халата віхурна разляталіся і адкрывалі голыя ногі.

Ру нястомна заводзіла грамафон. Яна радавалася, як маці, якой удалося пацешыць дачок, якім доля была злой мачыхай. Ужо з паўдзесятка дзяўчат спрабавалі стэп на паркеце. Самая нясмелая, Марліс Хасэ, апошняя далучылася да танцорак. Усе пачалі падпяваць «Серэнаду асла». Да рытмічнага постуку капытоў асла далучыўся дроб стэпа, рухаліся рукі: дзяўчаты ў доўгіх штанах, шырокіх спадніцах, шортах — а паміж імі Эва, як полымя.

Ніхто не заўважыў, як па лесвіцы падняліся фройляйн Гаўгк і фройляйн Пюшэль і сталі за гледачамі, назіраючы. Потым серэнада асла закончылася, і наступіла паўза для шчасліва знямоглых дзяўчат.

Нечакана з задніх радоў пачулася:

— Гэта нечувана. Такое апаганьванне культуры.

Пасля рэзкіх слоў настала няёмкая цішыня. Потым Траўдэ Хёрзельман засмяялася, іншыя пачалі нешта мармытаць.

— Што вы маеце на ўвазе, фройляйн Пюшэль? — спыталася Траўдэ. — Няўжо стэп такі нягодны?

— Пакіньце гэтыя танцы неграм.

— А песенька была англійская, — падтрымала сваю сяброўку фройляйн Гаўгк.

Ру зачыніла свой грамафон. Яна суха сказала:

— Добра яшчэ, што не кракавяк.

Гэта абурыла Пюшэль.

— І ўсё гэта на вачах у фюрэра. Па меншай меры — безгустоўнасць. — Яна падняла вочы на партрэт на сцяне.

— Тут танцуюць негрыцянскія танцы,— закіпела фройляйн Гаўгк, — а нашы салдаты ў гэты час ляжаць у брудзе.

— За нас усіх, — дадала фройляйн Пюшэль, перш чым павярнуцца і пайсці ў пакой. — Бедная Германія! Каб толькі хлопцы

ведалі, за каго яны прынялі на сябе ўсё гэта.

Ру са скрынкай у руцэ паслала ўслед тым дзвюм пагардлівы позірк.

— Гэта мне падабаецца! Дзе толькі не спатрэбяцца салдатыфрантавікі! — Яна кіўнула Эдзіт Кнор, якая адчувала сябе галоўнай падбухторшчыцай «апаганьвання культуры» і прыцішана стаяла, прыхіліўшыся да сцяны. Калі бібліятэкарка праходзіла каля Траўдэ Хёрзельман, яна шапнула:

— Я нікога не прасіла кідацца за мяне пад кулі. Можа, вы прасілі.

Траўдэ пакруціла галавой і жэстам паказала, што цяпер лепш памаўчаць. Усе ведалі, што Пюшэль здольная на ўсё. Зварот да партрэта фюрэра збянтэжыў нават Траўдэ. Пюшэль разнясе ўсё па заводзе. Траўдэ вырашыла абмеркаваць гэты выпадак з д-рам Клемтам. Пры пераездзе на астравок, пэўна, будзе магчымасць.

## 5
## КАРОЛЬ АСТРАЎКА

Бываюць моманты, калі сваім думкам трэба крыкнуць: «Стоп!» У душы нібы прыпыняеш крок, даючы сабе вольны час, каб да канца змераць глыбіню моманту. Часцей за ўсё гэта пачынаецца з таго, што чалавека маланкава працінае думка, як напрыклад: «Гэты момант — непаўторны! Такога ў тваім жыцці больш не будзе ніколі!» або «Тое, што ты маеш цяпер у жыцці, хацелі б мець тысячы». Пасля гэтага ўспрымальная душа гатова ўбіраць у сябе ўсё, глыбока перажываць. Думкі пранікаюць глыбей, тонкі рэгістравальны механізм мозгу працуе дакладней, чым звычайна, карацей кажучы, увесь чалавек дыхае, нюхае, чуе, бачыць, адчувае ўсімі порамі, нервамі, капілярамі. У Эвы, якая яшчэ мала чаго бачыла ў жыцці, гэты цяжкі для разумення працэс пачаўся з таго моманту, калі яна ступіла нагой на маленькі востраў, які ўсе называлі Грэйфсвальдскім астраўком. Толькі тут яна зразумела, што такое сапраўднае астраўное пачуццё. Ніякага моста не хапіла б, каб перакрыць гэту водную прастору. З аднаго боку хвалі, прыгнаныя норд-остам, біліся аб круты бераг, у той час як ля вузкага пляжа на заходнім баку, адзіным прычале вострава, яны пяшчотна накочваліся на жвір.

Адзіны селянін, які апрацоўваў некалькі моргаў прыдатнай астраўной зямлі, быў — як гаварылі — адначасова бургамістрам, гаспадаром гасцініцы, паштальёнам, тэлеграфістам, рыбаком, лоцманам і метэаролагам. Яго ўладаннямі былі: уласная гаспадарка, метэастанцыя і маяк. Бывалі халодныя зімы, калі па некалькі тыдняў ніводзін з малых прыбярэжных параходаў не мог прабіцца да астраўка. Тады падключаліся лётчыкі і скідалі з самалёта самае неабходнае для жыцця астраўной каманды.

Усё гэта Эва ў час пераезду даведалася ад Хэні Розэнаў, якая была родам з Грэйфсвальда. Яны разам сядзелі ў старой рыбацкай пасудзіне, пашарпаным кацеры, на дошках уздоўж борта. Абсталяваных месцаў. каб сядзець, не было, акрамя некалькіх скрынак і бочак каля будкі рулявога, якая ўзвышалася пасярэдзіне, як змрочная крэпасць. Параход зваўся «Пірат», і кучка людзей на ім, ар'ергард выпрабавальнай каманды з аэрадынамічнай трубы; таксама здавалася сама па сабе групай піратаў.

Такое ж падарожжа Эва ўжо зрабіла некалькі тыдняў назад пры іншых абставінах. Мяккая мэбля ў салоне для курэння на «Дзяўчыне з Амстэрдама», крэслы з металічнай трубкі, абітыя аранжавым, Рыцарскі крыж у дубовым лісці, халоднае віно з газіроўкай. «Рэкамендуе

гаспадар віннага склепа!» Эве здалося, што яна адчула на языку церпкае пітво, але гэта былі салёныя пырскі буруна, які выхліснуў пенную хвалю на палубу. Яна абтрэсла кроплі са штармоўкі. «Пірат» зарываўся носам глыбока ў ваду.

Кіраўніцтва выпрабаваннямі і большая частка каманды выехалі ў мора крыху раней на больш хуткім і камфартабельным транспарце, і калі прычаліў «Пірат», прыстасаванні для запуску былі ўжо зманціраваны. Траўдэ Хёрзельман падрыхтавала ўжо для палёту шар-пілот. Яна паклікала да сябе Эву і Хэні, якія разам ішлі з прыстані.

— Я размаўляла з доктарам Клемтам наконт учарашніх «танцулек», — сказала яна. — ён не бачыць нічога асаблівага. Мы ж былі адны, сярод сваіх.

Хэні Розэнаў з палёгкай уздыхнула. Яшчэ ніколі за трыццаць два гады свайго жыцця яна не давала падставы дрэнна гаварыць пра сябе і цяпер, нязвыклая да скандалаў, вельмі напужалася.

Будзем спадзявацца, што Пюшэль не пераверне усе дагары нагамі, — сказала Эва. Хэні са страхам зірнула на яе. — Няўжо так можна? Траўдэ таксама думала пра гэта.

— Я нават расказала Клемту падрабязнасці пра Кнор і пра Леанцінэ ў чырвоным халаце ,

— Што ён сказаў? — Страх Хэні яшчэ не прайшоў.

— Ён засмяяўся і сказаў, што гэта, мусіць, глядзелася вельмі прывабна.

Хэні здзіўлена пакруціла галавой. Яна зусім не ведала людзей.

— Які велікадушны ў нас шэф, — засмяялася Эва. Яна вырашыла, што на гэтым справе — канец

Граўдэ лічыла, што маладзейшая Эва занадта проста глядзіць на здарэнне. Турбуючыся не ў апошнюю чаргу і аб ёй, Траўдэ старалася не дапусціць плётак. Пэўна ж, на востраве есць людзі, якія ахвотна выкарыстаюць любую прычыну, каб пазбавіцца ад Эвы. Яна вырашыла пры магчымасці пагаварыць пра гэта з Марліс Хасэ. На сёння з гэтай справай было пакончана. Дзень абяцаў быць добрым

Клемт быў у добрым настроі, нецярплівы, як перад прэм’ерай, а Вільфрыд Парызіус прызнаўся ёй учора па тэлефоне, што ён прызначаны «паветраным рамізнікам», перавозіць гасцей. Таму яна затрымалася на тэрыторыі, каб не прапусціць, калі будзе прызямляцца яго “Фізельскі бусел”.

Смех д-ра Клемта вецер разносіў далёка па раўніне. Ён паціскаў рукі “піратам” і прымусіў засаромецца Матэзі, перадражніўшы яго цырымонію вітання.

Клемт пажынае плады сваёй палітыкі, падумала Траудэ. Ён

сапраўды велікадушны. Каму толькі ён не даў магчымасці прыняць удзел у гэтай маленькай экскурсіі на астравок. Тут былі механікі з майстэрні два рабочыя з доследнага цэха, памочнік з тэрмалабараторыі, амаль усе канструктары аэрадынамічнага аддзела Падміргнуўшы, ён даў ім самім права падбіраць лабарантаў і вылічальніц. Умова была толькі тая што ў кожнага павінна быць прычына, па якой можна было б апраўдаць яго ўдзел. Свайму начальніку Траўдэ на велікадушнасць адказала велікадушнасцю і для кожнай табліцы вымярэнняў прадугледзела асобную сакратарку. У яе багажы была поўная папка бланкаў табліц і дзесятак алоўкаў.

Доктар Клемт патурбаваўся і пра ежу. Пры гэтым ён адным стрэлам забіў двух зайцаў. Ён зрабіў ласку оберцальмайстру Ханке з казіно, запрасіўшы яго на экскурсію, і тым самым забяспечыў сабе надзейнага міністра харчавання.

Вось такім артыстам у жыцці трэба быць, як Клемт, падумала Траўдэ. Ён час ад часу ўводзіў яе ў сваю жыццёвую філасофію: «Калі кіруеш такім вялікім натоўпам людзей, дык спакойна жыць можна толькі тады, калі ствараеш яму, гэтаму натоўпу, па магчымасці добры настрой. Гэта не так проста пры дзесяці гадзінах працы, начных зменах і яздзе па некалькі гадзін заводскай чыгункай. Хлеба і відовішчаў ужо не хапае, каб прымусіць масы старацца з усяе сілы. Народу патрэбен свой фетыш. Такім фетышам для нашых людзей з'яўляецца А4. Яны спадзяюцца, што ён пераўзыдзе ўсе ранейшыя віды зброі. Кожны верыць і ў сваю маленькую долю славы, калі А4 урэшце вырашыць зыход вайны. Я ва ўсіх дробязях іду насустрач сваім людзям. Я гутару з імі весела, як з дзецьмі. Калі ж я бяруся за пугу, бо і гэта патрэбна, яны падскокваюць і думаюць, што гэта таксама гульня».

Размова настроіла Траўдэ Хёрзельман на вельмі глыбокі роздум, і праз нейкі час, у спакойную гадзіну пасля працы, яна знайшла магчымасць дагаварыць у яго кабінеце. Яна запярэчыла, што фетыш А4 можа зрабіць балючае ўздзеянне на супрацоўнікаў-пацыфістаў. На яго думку, праца над А4, самай вялікай справай для перамогі Айчыны, стварыла на Востраве свайго роду флюід, пазбегнуць якога не змаглі і тыя, хто спачатку супраціўляўся. Да такіх адчужаных ён далучаў Матэзі, магчыма, Розэнаў і, пэўна ж, берлінскага прафесара Лёйпальда і скептыка Ціфенбаха. Гэтага, як меркаваў Клемт, з яго фантастычнай прагай да даследаванняў, ужо цалкам захапіла прыцягальная сіла А4 як тэхніка-навуковага паказальнага аб'екта. У гэтых людзей прага да даследаванняў — іх ахілесава пята, у якую і трэба цаляць. У шырокіх мас усё роўна жыве яшчэ дзіцячая вера, якой вельмі спрытна маніпулюе Гебельс. Клемт гаварыў пра міністра

прапаганды з адценнем прызнання, калі хітры аддае належнае яшчэ хітрэйшаму.

— Народ усё яшчэ верыць у Дзеда Мароза, — гаварыў ён. — У пераносным сэнсе, вядома. Ён бачыць фюрэра, як той есць бульбяныя аладкі, запіваючы мінеральнай вадой. Як разумна! Акрамя таго. Ён спіць адзін. Фатаграфуецца з дзецьмі — з аўчаркамі. Які добры чалавек! Ніводзін рабочы, ніводзін бюргер не могуць дапусціць, каб ён зрабіў нешта дрэннае. Ён і не робіць нічога дрэннага. Ён толькі наводзіць парадак. І ўсё дрэннае ператвараецца ў добрае, калі яно ідзе на карысць нашаму народу. Толькі народ яго не цікавіць, вось у чым штука. Калі я скажу такое жонцы, яна аблае мяне, скажа, што я нікчэмны нацыянал-сацыяліст. Так, яна вымаўляе гэта слова заўсёды цалкам. Нацыянал-сацыяліст! Яна і не здагадваецца, які цудоўны нацы я ў прынцыпе. Я ж да канца разумею лінію фюрэра. Яму трэба заключыць саюз з магутнымі, калі сам ён хоча стаць магутным. Народ у нас не магутная сіла. Той партайгеноэ, які думаў, што, б'ючыся з камуністамі на сходах. Ён б'ецца за сябе і за свае інтарэсы, — дурань. Сёння ён пахаваны ў брацкай магіле ў Расіі, а яго жонка даўно спіць з іншым. Ты ведаеш, калі я зразумеў, што Гітлер змагаецца за вялікую справу? У1937 годзе, калі я з жонкай быў у гасцях у яе сваякоў у Англіі, калі я адчуў нашу палітыку па той бок граніцы, калі Чэмберлен ездзіў у Мюнхэн і Годэсберг; калі цётка маёй жонкі галасіла па сваіх акцыях, якія падалі. У англійскай каланіяльнай імперыі ўжо трашчалі швы. Калі б Гітлеру ўдалося прыбраць да рук частку расколатых каланіяльных дзяржаў. Ён быў бы вялікі чалавек, сказаў я сам сабе. Гэтая мэта апраўдвае любыя сродкі. І Гітлер дакладна ведаў у той час, куды яму трэба звярнуцца. Буйным канцэрнам не давялося шкадаваць, што яны падтрымалі яго тады. Нават мой цесць упарты немец-нацыяналіст, паслухаўся парады. Ён гандлюе збожжам і мае два філіялы на Украіне.

Клемт пасля гэтага доўгага маналога задумліва памаўчаў, перш чым выказаць сваю галоўную жыццёвую мудрасць.

— Мая жонка дзякуючы гэтаму высока ўзляцела — прызнаўся ён. — Яе бацька — найбуйнейшы падаткаплацельшчык з правінцыі Саксонія. А прамыслоўцы ўтвараюць самае цеснае кола вакол Гітлера. Сюды ж уваходзяць і высокія вайскоўцы. Мы, навукоўцы, былі спачатку не ў вялікай пашане, дзівакі ў сваіх інстытутах, збокупрыпёку ў палітыцы. З таго часу, як мы жывём на Востраве, адносіны паступова мяняюцца ў маю карысць. Гэта выводзіць Розэмары з сябе, тым больш што я не магу адкрыць ёй сакрэтаў сваіх заняткаў. Але яна ўпартая, як бацька. Я чакаю таго дня, калі змагу даказаць ёй, што

наша разумовая работа прыносіць Гітлеру больш карысці, чым усе вэксалі яе бацькі. Ды ён спрытны, гэты стары пан, гэта трэба прызнаць... Твой бацька робіць станкі, — звярнуўся ён у заключэнне да Траўдэ. — Таксама не ўпускае кан'юнктуры.

— Ён забяспечвае верфі хуткаснымі металарэзнымі станкамі, — адказала яна. — Тут у майстэрні я таксама ўжо бачыла наш фірменны знак. У Амстэрдаме і Бруселі мой бацька супрацоўнічае з канторамі збыту.

Клемт быў задаволены гэтай навіной. Абы з кім ён так шчыра не гаварыў пра свае справы. Траўдэ Хёрзельман была раўня яму. Выпадкова яны пачалі сваю працу ў выпрабавальнай установе ў адзін дзень. Яго жонка не бачыла ў Траўдэ саперніцы, і таму яны разам правялі першую навагоднюю ноч на Востраве і пабраталіся.

Такія размовы бывалі нярэдка. Яны пачыналіся з якой-небудзь службовай праблемы і пераходзілі на блізкія сферы асабістага ці палітычнага жыцця. Па дарозе дамоў у пасёлак яны знарок павольна круцілі педалі веласіпедаў, даючы сабе магчымасць закончыць размову няспешна. Траўдэ Хёрзельман менавіта гэта прызнанне Клемта здавалася асабліва важным, бо з яго яна зразумела, што яго хатнія канфлікты прычынна былі звязаны з прафесійнымі задачамі, з жыццёвай пазіцыяй наогул. Яна часта здзіўлялася, што Клемт, які так бліскуча ўмеў ладзіць з усімі супрацоўнікамі, ніяк не мог паладзіць з жонкай. Траўдэ захаплялася ім і шкадавала яго адначасова. Аднак з таго часу, як яна пазнаёмілася з Вільфрыдам Парызіусам, Клемт быў выцеснены з яе жыццёвай сферы, стаў, так сказаць, датычнай. Сёння яна радавалася разам з ім, бо сёння ён быў каралём астраўка, невялічкім уладаром, які на чале прыдворнай світы прыбыў у калонію. Яго каралева, якая ў смутку сядзела дома, неяк таямніча вельмі хутка даведаецца, як весела і велікадушна ён уладарыў, і настрой у яе наўрад ці падымецца. «Фігельскі бусел» з няўклюднымі, шырока расстаўленнымі павучынымі нагамі рыхтаваўся да пасадкі. Гэта быў адзіны тып самалёта, які мог садзіцца на астраўку, бо на бязлеснай частцы яго не хапіла б плошчы для ўзлётнай паласы. А «бусел» пасля пасадкі толькі некалькі разоў падскочыў па голай цаліне — і спыніўся.

У Траўдэ Хёрзельман шалёна забілася сэрца, калі адкрыўся люк кабіны. Адтуль выскачыў чалавек. Яна яго не пазнала, бо была крыху блізарукая і стаяла занадта далёка. Парызіус высунуўся з кабіны і гаварыў з Клемтам, які падышоў да самалёта. Ён, відаць, зноў рыхтаваўся да ўзлёту, бо Клемт адышоў. Перш чым зачыніць кабіну, пілот азірнуўся, нібы некага шукаючы. Траўдэ стаяла на высокім валуне і размахвала хусцінкай, знятай з галавы. Ён кіўнуў і памахаў

ёй. Адразу ж пасля гэтага ён распусціў шлейф у яе гонар і паляцеў на поўдзень, каб забраць яшчэ аднаго госця.

Чалавек, які першы паветраным шляхам прыбыў у дзяржаву Клемта, быў Ганс Ціфенбах. Агледзеўшыся першы раз на маленькім востраве. Ён убачыў Эву Леангард. Разам з Матэзі і Хэні Розэнаў яна абсталявала свайго роду лагер і прыціскала разасланыя табліцы каменнямі. Хэні Розэнаў бегала за табліцамі, якія па востраве ганяў вецер сілай у пяць балаў.

Усюды гуляў вецер. Нават у кароткай спартыўнай куртцы Эвы і ў пасмах валасоў, якія падалі ёй на твар, як цёмныя змейкі.

Ён з усмешкай падаў ёй руку і сказаў:

— Ну вось мы і прызямліліся.

Яна паказала на «Фізельскага бусла», што адлятаў з вуркатаннем.

— Прыбылі, праўда, раздзельным строем.

Яе нязмушаны тон развесяліў яго.

— Раздзельна ці разам — якая розніца? Без бою, ва ўсякім разе.

— І ўсё-такі мы прыехалі сюды страляць.

— А можа, пагуляць у Рабінзонаў?

Падышла Траўдэ Хёрзельман.

— Леанцінэ, мы зараз запускаем шар-пілот — сказала яна, вітаючыся з ім.

Д-р Клемт даў указанне запусціць першую серыю мадэляў адразу пасля другога прызямлення «Фізельскага бусла». Старанна ўпакаваныя мадэлі снарадаў былі дастаўлены на стартавую пляцоўку.

Ціфенбах разглядаў адпаліраваныя да бляску снарады. Трэба было знайсці такую форму, якая б сумяшчала найменшае супраціўленне з найбольшай стабільнасцю. Форму А4 змянялі па-рознаму. Мадэлі мелі розныя насы — тупыя і завостраныя. Стабілізатары былі розныя па таўшчыні і размяшчэнні, былі мадэлі з бакавымі стабілізатарамі і без іх.

Некалькі снарадаў ляжалі асобна ў скрынках з драўнянай шэрсцю. Яны выпрабоўваліся на аэрадынамічнай трубе ў якасці спецыяльнага заказу для фірмаў узбраення. «Рэхлінг» — прачытаў Ціфенбах на адной вельмі стройнай мадэлі, «Рэйнметал» — на некалькіх іншых. Значыць, буйныя канцэрны Рэйна былі партнёрамі ў аэрадынамікаў Вострава. Іх аэрадынамічная труба была месцам збору ўсіх агрэгатаў новай распрацоўкі, якія павінны былі лётаць хутчэй за гук. У распараджэнні Вострава была адзіная звышгукавая аэрадынамічная труба вялікай Германіі. Магчыма, адзіная наогул. Не дзіва, што такі славалюбны вучоны, як Клемт, пабочна займаўся прыватнымі выпрабаваннямі. Усе свае спадзяванні ён ускладаў на мадэль «велікоднае

яйцо» — названую так за яе форму, — якую ён распрацаваў з самага пачатку. Ціфенбах скептычна разглядаў мадэль з каржакаватым корпусам і тонкім, звышдаліікатным апярэннем.

«Фізельскі бусел» сеў другі раз і выпусціў самага важнага госця, героя дня — Доктара.

З месца пілота ўстаў Марцін Уліг. Калі ён зняў акуляры і шлем і надзейна зафіксаваў колы машыны, для Траўдэ Хёрзельман пагасла сонца.

Эва апошнім часам рэдка бачыла Марціна Уліга. Гаварылі, што ён увесь час у палётах — у Францыі, Італіі, Галандыі. Вечарам пасля прагулкі на «Дзяўчыне з Амстэрдама» ён чакаў у казіно Карлу Вінтэр. Лётчыца пасля маленькага марскога падарожжа вельмі ажывілася і дзяліла сваю прыхільнасць пароўну паміж Улігам і Ціфенбахам. З Улігам, здавалася, яе звязвала старая выпрабаваная дружба, у той час як Ціфенбахам, пра якога яна ведала мала, але, відаць, самае галоўнае, цікавіцца пачала толькі цяпер. За вячэрай Эва трымалася па магчымасці далей ад трыо, а іранічныя позіркі Уліга, якімі ён мераў яе праважатага, кавалера Рыцарскага крыжа, старалася, як магла, ігнараваць. Яна ведала, што афіцэр быў начальнікам Уліга і што цывільны лётчык-інжынер не прызнаваў маладога капітана, нягледзячы на ўсе ордэны, заслужыць якія ў знішчальнай авіяцыі, пэўна ж, было лягчэй, чым у выпрабавальнай, дзе ад чалавека патрабавалася больш, чым толькі адвага і вытрымка. Эва вельмі добра ведала думку Марціна Уліга... У той вечар яна хутка пайшла дамоў, афіцыйна не развітаўшыся з застоллем, на чале якога, нібы пакрыўджаная багіня, сядзела Розэмары Клемт. Эва спадзявалася, што ёй зноў пашанцуе пагаварыць з Гансам Ціфенбахам. Паміж імі заставалася штосьці недагаворанае. Але нічога не атрымалася. Лётчыцкія расказы Карлы Вінтэр зрабілі ўплыў і на яго. Седзячы каля яе. Ён піў чырвонае віно, якое выставіў Ханке ў гонар госця камінпага пакоя.

Калі Ганс Ціфенбах на вачах у Эвы літаральна зваліўся з неба, зноў ажыло пакутлівае пытанне. Але прысутнасць Марціна Уліга змяншала надзею пагаварыць з ім сам-насам. Мужчыны заспяшаліся да святая святых, да месца пуску.

Эва знайшла сабе месца ў зацішку на ўскрайку саснячку. Усюды паміж нізкімі, раскудлачанымі ветрам кустамі сядзелі на кукішках і стаялі назіральнікі. Эва пачула, як Матэзі дамаўляўся з Хэні Розэнаў, што ён будзе сачыць за вярчэннем, а яна будзе адзначаць парушэнні ў галоўнай ці хваставой частцы, калі яны будуць.

Недалёка ад Эвы сядзеў, схаваўшыся ад ветру ў пясчанай

вымоіне, пажылы салдат. Ён быў з выпрабавальнай каманды «Норд» і цяпер працаваў у майстэрні аэрадынамічнай трубы. Яфрэйтар Цобель падазваў дзяўчыну, якая пакуль што не знайшла зручнага месца, каб назіраць.

Маленькая пячора з відам на захад давала сапраўды добры прытулак ад паўднёва-ўсходняга ветру.

Чакалі пачатку прадстаўлення.

Цобель жаваў пажоўклую травінку.

Эва папярэдзіла:

— Перастаньце. Схопіце заразу — актынаміцэт

Салдат не перастаў жаваць.

— Усё роўна, ад чаго хварэць.

Эва падумала пра Герберта Аксэ, які, як і гэты салдат, жыў у барачным лагеры. Яна сказала:

— Ну, а як жывецца ў вашым лагеры? Кепска?

На яе здзіўленне, салдат адказаў:

— Не так ужо і дрэнна, пасля таго як мы пазбыліся Ханке. Таго, хто сёння — міністр забеспячэння. Сапраўдны веласіпедыст, я вам скажу: уверсе гнецца, унізе топча. Я спачатку падумаў, што доктар Клемт узяў яго сюды, таму што яму патрэбен быў добры флюгер.

Салдат быў задаволены, што Эва засмяялася з яго дасціпнага жарту. Ён гаварыў ціха, каб толькі было чуваць у маленькай пячоры.

— Калі, як я, працуеш крыху па сваёй прафесіі — а я бляхар, — то можна трываць. Ёсць ежа, курыць, а вечарам можна перакінуцца ў карты. Хто хоча, можа часам знайсці і дзяўчыну. Гамоняць найбольш пра патопленыя тоны. Цікава, на колькі працэнтаў яны прызнаюць... Але ад гэтага вам галава, напэўна ж, не баліць...

— Вам так здаецца?

— Ну, я не ведаю. — Цобель, зычліва ацэньваючы, зірнуў на яе. — Вы, напэўна, ніколі не былі знаёмыя з такімі лагерамі. Яны занадта смярдзяць вашывай хіміяй і салдацкім хлебам, праўда?

Дакор Эва палічыла несправядлівым. Але, магчыма, салдат бачыў яе разам з кавалерам Рыцарскага крыжа, які папраўдзе быў рэдкай птушкай на Востраве. Нават Уліг выказаўся, што яна дала сябе захапіць «краме з бляшкамі». Усё гэта яна не магла сказаць салдату, таму адказала:

— Я добра знаёмая з адным вашым таварышам. Яго завуць Герберт Аксэ. Ён жыве ў бараку 24 в.

Салдат працягнуў травінку між зубоў, так што яна аж зайграла.

— Я таксама там жыву, — сказаў ён. — Нейкі небарака гэты Аксэ. У 39-м ён хацеў падацца вучыцца за мора. А цяпер сядзіць у

Памераніі, злосны, як чорт, вымушаны фарбаваць дахі маскіравальнай фарбай. Дрэнна, калі ў цябе такая непрактычная прафесія. Часам нам здаецца, што ён ужо амаль звар'яцеў. Ён хоча выправіць свет сваёй рэлігіяй. А яе можа зразумець толькі той, хто вучыўся ў вышэйшай школе. Нам шкада яго, а яму ад гэтага не лягчэй. Сёння ўжо ніхто не хоча спадзявацца на той свет, тут трэба нешта рабіць, каб выкараскацца з бруду. Доктар Клемт мяркуе, што вось гэта штука, А4, дапаможа нам. Не ведаю, ці праўда, што яна разнясе Англію на шматкі...

За размовай яны не заўважылі сігналу — пачыналася першая серыя. Зусім нечакана яны заўважылі, як з сасонніку пад даволі вострым вуглом узняўся першы мініяцюрны А4. З тонкім свістам снарад прарэзаў паветра, хутка набраў вышыню і, дасягнуўшы верхняй кропкі, захістаўся, апісаў крывую і ўпаў у ваду.

— Прыемна глядзець, калі ведаеш, што з табой нічога не здарыцца, праўда? — сказаў салдат.

З прамежкамі ў некалькі хвілін па чарзе было запушчана некалькі мадэляў пад розным вуглом.

Яны ўзляталі ў блакіт — тупаносыя, з зоркападобнымі стабілізатарамі, з вібрыруючымі бакавымі крыламі. Шмат якія былі няўдалыя, хісталіся ўжо адразу пасля запуску, як п'яныя, вывальваліся з арбіты і падалі на каменне ў неглыбокай вадзе, ледзь пераляцеўшы круты бераг вострава.

Пасля таго як першае «вялікоднае яйцо» д-ра Клемта праляцела з лёгкай левай пруткай, але па стабільнай крывой, кантрольны запуск цалкам не спрацаваў. Снарад на малой вышыні захістаўся, як маятнік, туды-сюды, і здалося, што сіла яго цяжару вядзе ўпартую барацьбу з рухаючай сілай, якая ўсё яшчэ настойліва цягнула яго ў вышыню, але галоўка спатыкнулася і ўверх не пайшла. Перакручваючыся, як самалёт, што страціў кіраванне, снарад крута паляцеў уніз. Нехта крыкнуў на ўсё горла: «У сховішчы!» Снарад з трэскам упаў, адагнаны моцным усходнім ветрам усё-такі на той бок крутога схілу. Шум, падобны да ўдару па дрэве, падняў усіх на ногі.

З той самай хуткасцю, з якой настаў і разыграўся момант небяспекі, астраўляне — мужчыны і жанчыны, кіраўнікі і рабочыя — пакінулі назіральныя пункты. Яны выбягалі з кустоў, як напужаныя лясныя жыхары.

Эва і Цобель, як і ўсе астатнія, міжволі ўцягнулі галовы ў плечы, калі «вялікоднае яйцо» пачало выкідваць свае штучкі.

— Не, да Расіі ім так не дастаць, — саркастычна сказаў салдат, калі сполах ад выбуху прайшоў і ўсе пабеглі.

На палавіне дарогі Эва наткнулася на Марціна Уліга, у якога ад хуткага бегу доўгае скураное паліто хлопала па нагах.

— Небяспечна жывём, — пажартавала яна, каб толькі штосьці сказаць.

— Гэта ж табе падабаецца.

— Атрымаць жалезінай па галаве — мне абсалютна не падабаецца.

— Твая ж галава пакуль што цэлая. Ды і шкада было б.

— Няўжо цябе гэта турбуе? — Эва не глядзела на яго і не чакала адказу на сваё пытанне. Яна думала пра тыя гадзіны, калі яна ўпотай шкадавала, што ён сур'ёзна вырашыў сысці з яе дарогі. Уліга вельмі паважалі таварышы па працы. Ён шмат перажыў, ведаў, чаго хацеў, меў крытычны склад розуму. Ёй часам хацелася пагаварыць з ім, калі ён раптам з'яўляўся ў казіно пасля дальняга палёту, камандзіроўкі на Бодэнзээ ці ў Італію. Але ў адносінах з ёю ён ніколі не быў непасрэдны, за яго словамі заўсёды чулася нешта падобнае на папрок ці чаканне. Гэта яе бянтэжыла.

Яна пабегла наперадзе яго па разбітай пясчанай дарозе ўніз да маленькай прыстані, дзе стаялі караблі. Вакол змрочнага, малапрывабнага «Пірата» стоўпіліся астраўляне. «Велікоднае яйцо» трапіла ў будку рулявога і прабіла дах. Інжынер-выпрабавальнік Іміш з некалькімі памочнікамі выносілі яго. Д-р Клемт цяпер быў не магутным уладаром, а разгубленым вучоным, які пакутліва шукаў крыніцу памылак.

Оберцальмайстар Ханке густым гарохавым супам з палявой кухні напоўніў жываты і супакоіў душы. Большасць праспала абедзенны перапынак у пясчаных лагчынах паміж сасёнак ці на ўскрайку лесу, які ўкрываў паўночную частку вострава.

Рамантыкаў паклікалі лясныя няходжаныя дарогі, парослыя ягаднікам і шыпшынай. Хэні Розэнаў была ў захапленні ад багацця ажыны і шыпшыны. Яна збірала ў хустку і сумачку чырвоныя ягады шыпшыны на запас. Траўдэ Хёрзельман падхапіла яе прыклад, але толькі пасля таго, як Матэзі сказаў, што з «воўчых ягад» можна зрабіць цудоўнае салодкае віно. Ён паабяцаў узяць ёй рэцэпт у сваёй маці ў Зальцбургу.

— Тое, што атрымаецца, я назаву «Астраўная вада», — сказала яна і ўявіла ўжо сабе, як яны будуць піць віно з Парызіусам.

Эва знайшла невядомую расліну. З выцягнутага сцябла, багата парослага лісцем, звісалі накшталт «слёзак» на танюсенькіх нітачках блакітныя кветачкі. Яна была вельмі радая рэдкаму экземпляру. Яна ўдоўж і ўпоперак аблазіла гушчар, які ў яе фантазіі ператварыўся ў

лес Гензель і Грэтэль, каб потым стаць гаем, у якім Дафна, уцякаючы ад палкага бога, ператварылася ў лаўр. Ёю кіравала думка, што гэта — востраў астравоў, каля 360 дзён у годзе пустынны рай птушкам, раслінам і маленькім звяркам. Нельга толькі было прыпамінаць, што ты са світы караля Клемта, які прыехаў сюды, каб пускаць у ваду сталёвыя цацкі. Якім глупствам павінна здавацца ўсё гэта вялікім птушкам, што гнездаваліся на высокім беразе і ў густым зарасніку і ў лесе.

Толькі з іншымі мэтамі трэба было б дазваляць прыязджаць на востраў. Тут трэба было б жыць Рабінзонам, без усяго таго, што напамінае пра вайну... Зусім адной? Не, магчыма, удваіх. Пэўна ж, удваіх. Але не з любым. З Юргенам Бэрам? Не пазней чым праз дваццаць хвілін ён пачаў бы зноў гаварыць пра вайну. А Марцін Уліг? Праз гадзіну яны б паспрачаліся і разбегліся, наколькі хапіла б вострава. Матэзі захацеў бы чытаць вершы, а кавалер Рыцарскага крыжа гаварыў бы зашмат, таму што яму здавалася, што без яго размоў — сумна.

— Што б вы зрабілі з востравам, калі б ён належаў вам? — спыталася Эва ў тых, што збіралі каля яе шыпшыну. Яна лягла на ўзлеску на жывот і праз прагалы ў нізкім кустарніку глядзела на мора, на поўнач, дзе, здавалася, зямлі зусім не было.

У Траўдэ Хёрзельман ад расчаравання, што не было Парызіуса, патух рамантычны запал.

Яна лаканічна сказала:

— Калі б я была ўладальніцай, я здала б яго ў арэнду доследнай установе. На выпрабаванні.

— Значыць, так, як і цяпер? — канстатавала Хэні Розанаў. Яна стаяла пасярэдзіне калючага шыпшынніку. — А вы, Матэзі?

Зальцбургскі анёл у стылі барока перавярнуўся на спіну. Ён, як і Эва, ляжаў у вузкім, як байніца, прасвеце ў гушчары дроку і, мусіць, складаў вершы.

— Я б зрабіў з вострава вялікі сад, — сказаў ён з мяккім аўстрыйскім вымаўленнем.

— Паўночную Ізолу Бэлу? — з іроніяй спыталася Траўдэ.

Матэзі гэта не кранула.

— Калі б дазволіў клімат, я пабудаваў бы санаторый дзецям з хворымі лёгкімі. — Яго намер быў зразумелы. Ён сам перахварэў на туберкулёз.

Хэні Розанаў праз суровы клімат вострава выказалася толькі за летняе выкарыстанне. Яна пабудавала б курорт з лячэбнымі гразямі, саунай і вегетарыянскай кухняй.

— І, вядома ж, заняткі фізкультурай, мужчыны асобна, жанчыны асобна, як у Швецыі, — прапанавала яна. — Каму не падабаецца, хай не прыязджае.

— Бяру абанемент на працяглы тэрмін, — прамовіў мужчынскі голас у яе за спіной. Траўдэ засмяялася, бо пры нечаканым з'яўленні Ціфенбаха Хэні спалохалася і запішчала.

Эва паглядзела на яго.

Ён увесь быў у сасновых іголках і ў павуцінні.

— Падыдзіце, я вас прастукаю.

Ён убачыў кволую раслінку, якую яна ўсё яшчэ пяшчотна трымала ў руцэ.

— Вы знайшлі пячатку Саламона, — сказаў ён здзіўлена. — І ў такую познюю пару. Вельмі рэдка бывае. Апошні раз я бачыў яе ў Таўнусе. — Ён без ніякіх акалічнасцей прысеў каля яе, цвёрда ўпэўнены ў тым, што тут яму радыя. Ізаляванасць Вострава не дапускала ніякіх фармальнасцей, і нават здавалася, што гэта месца і гэта сустрэча былі мэтай яго блуканняў.

Эва падумала: а чаму ён не трапіў у мае астраўныя мары? Адзін ён ведаў расліну. Магчыма. Ён і птушак умее пазнаваць па галасах. З ім, пэўна ж, было б найлепш. Ён несумненна зразумеў бы цябе, калі б табе некалькі гадзін было не да размоў. Калі ён гаварыў, здавалася, што словы здабываюцца з самых глыбокіх глыбінь, і, вымаўляючы іх з няспешнай стрыманасцю. Ён ляпіў іх сваім прыцішаным голасам. Гэта было зусім не тое, што ўражвала яе раней. Пасля сустрэчы на палубе «Дзяўчыны з Амстэрдама» яна ведала, што тут, на востраве, яны не будуць ні спрачацца, ці сумаваць. Ён зноў пачне свае хітрыя тэсты, а яна абавязкова разгадае яго і прыкінецца крыху Шарлотак Левенскельд. Магчыма, яны і паспрачаюцца, але толькі каб разумова пафехтавацца. Тады непрыкметна з явіцца магчымасць спытацца ў яго, што ж там у кніжцы напісана пра апаганьванне расы.

Яна правяла суквеццем саламонавай пячаткі па руцэ.

Траўдэ Хёрзельман тым часам пазнаёміла Ціфенбаха з іх апытаннем. Эва весела звярнулася да яго:

— Што б вы зрабілі з востравам?

— Мне здаецца, я аддаў бы яго пад даследаванні.

— Значыць — пад палігон! — Эва была горка расчаравана.

— Не, нічога агульнага са стральбой. Мы занадта доўга ваюем і ўжо амаль забыліся, што слова «даследаванне» мае зусім іншы сэнс. Я мог бы назваць вам шмат доследных устаноў, для якіх ізаляванасць вострава была б ідэальнай.

Невялічкая група мужчын з Доктарам пасярэдзіне ішла па

дарозе, і Матэзі адразу ж уцягнуў іх у народнае апытанне. Доктар засмяяўся.

— Гэта вельмі проста: адсюль я б запускаў А4.

— Шкада толькі, што з таго боку Швецыя, а не Англія, — сказаў нехта з мужчын.

Оберцальмайстар пашкадаваў, што не мае сваёй ідэі. Але ён уявіў сабе, як бы на гэта пытанне адказаў Брэтшнайдэр.

— Калючы дрот вакол вострава, а яго ўвесь — пад канцэнтрацыйны лагер. Адсюль не ўцячэ ніводзін.

Слухачы без энтузіязму выслухалі гэта, і група рушыла далей. Але Ханке, якому хацелася больш дзейснай канцоўкі, павярнуўся яшчэ раз і крыкнуў на адыход:

— Мне прыйшла ідэя: што да мяне, у першую чаргу я прыбіў бы на прыстані шыльду з надпісам: «Яўрэям і цыганам уваход забаронены. За парушэнне — кара!» — Ён хуценька крутнуўся і пайшоў услед за іншымі.

У Эвы было адчуванне, быццам пад ёй разышлася скала і яна падае ў згубныя хвалі.

Адна Траўдэ адразу зразумела, што рабілася з ёю. Ганс Ціфенбах толькі праз некалькі секунд прыпомніў, убачыўшы змену ў твары Эвы, пра маленькую заўвагу, якую аднойчы зрабіў Клемт наконт паходжання Эвы. Хэні і Матэзі нічога не заўважылі.

— Безгустоўны тып, — з пагардай сказала Хэні.

Траўдэ прапанавала збірацца. Надыходзіў час зноў заняць свае месцы. Пачыналася другая серыя выпрабаванняў.

Эва была такая разбітая, што не ўстала, каб ісці з астатнімі. Ціфенбах падаў ёй руку, каб дапамагчы. Яна сутаргава трымала суквецце, кветку, якую народ назваў ад імя яўрэйскага цара Саламона, — такую рэдкую і такую прыгожую.

— Я пакажу вам дарогу праз мох, па якой я ішоў сюды, — сказаў Ганс Ціфенбах. Яго голас гучаў яшчэ больш сцішана, чым звычайна.

Эва адчула, як яго рука лёгка паціснула яе левае плячо. Ён пяшчотна накіраваў яе туды, дзе, ледзь бачная, пачыналася зарослая вузкая сцежка.

Яны павінны былі ісці адно за адным. Ён вёў яе, адной рукой адхіляючы галіны, а другую падаўшы ёй. Абое маўчалі. Як трафей, які лёгка пашкодзіць, яна ў вольнай руцэ трымала Саламонаву пячатку і закрывала яе ад пругкіх галін. Перад імі выбег фазан і схаваўся ў лістоце. Ганс Ціфенбах прыпыніўся і моўчкі паказаў на агністую пару вачэй над вострай пыскай у зелянiне брусьнічніку. Куніца маланкава знікла, як толькі ўбачыла, што яе заўважылі.

Эва магла ісці бясконца. Яна паспрабавала ўявіць сабе, што было б, калі б яны заблудзіліся і пайшлі хадзіць кругамі, а караблі з астатнімі паехалі б, не дачакаўшы іх. Нічога жахлівага не было б. Яна не пашкадавала б, бо караблі павезлі б адсюль і Ханке, цальмайстра, які быў падобны да маладога Зігфрыда і хітрэйшы за караля гунаў Этцэля... Ці ведаў што-небудзь Ціфенбах? Ці здагадаўся ён, як моцна ўдарыла яе злое слова? Яна дрэнна валодала сабой. Не першы раз пры ёй гаварыліся такія словы. Прычына таго, што сёння яны былі асабліва балючыя, — у жорсткай неадпаведнасці паміж марамі, якімі яна акружыла гэты закляты астравок, і суровай рэчаіснасцю. Гэта было як выгнанне з раю. Гэта быў канец усіх казак. Гэта была здзеклівая выдача Дафны яе ганіцелю.

Калі між дрэў зазіхацела мора, Ганс Ціфенбах прыпыніўся і прытуліў яе да сябе. Ён цалаваў яе, і яна гатова была яшчэ раз аддацца ўладзе мары. І пасля яны нічога не сказалі адно аднаму. Мост, па якім яны ішлі разам да людзей, быў са смутку незваротнай гадзіны.

## 6
## ТОЕРКАУФЫ І ХАНКЕ

Эва і Марліс, як толькі выйшлі са Свінемюндскага вакзала, адразу нырнулі ў натоўп маракоў. Матросы з цяжкімі рукзакамі за плячыма са стукатам збягалі па каменных прыступках, каб па свістку свайго старшага пастроіцца ў калону па два.

Усюды салдаты. Матросы ў сініх бесказырках, зялёна-шэрая форма берагавой артылерыі, зенітчыкі, лётчыкі, франтавікі. Між імі — дзяўчаты ў сінік касцюмах марскіх памочніц і ў шэра-сіняй форме люфтвафэ. Здавалася, увесь горад быў у вайсковай форме. Цывільныя кідаліся ў вочы.

Марліс ведала маленькі партовы гарадок яшчэ з мірнага часу, з вялікіх канікулаў, якія яна праводзіла разам з бацькамі ў Герынгсдорфе. Сёння ёй трэба было знайсці шпіталь, дзе з прастрэленай нагой ляжаў былы вучань яе бацькі і чакаў яе так, як можа чакаць франтавік, у якога ёсць блізка адзіны знаёмы чалавек.

Толькі дзякуючы выпадку з Марліс ехала Эва. Ужо даўно нейкая Анэлізэ Тоеркаўф пісала Эве, запрашаючы ў Свінемюндэ. Гэта Анэлізэ, родам з Лангенбрука, служыла памочніцай-сувязісткай у Грэцыі, а вярнуўшыся, была пераведзена ў Свінемюндэ і, відаць, шукала кантактаў з былой прыяцелькай. Эва спачатку не вельмі хацела сустракацца з ёй, але калі Марліс загаварыла пра паездку ў шпіталь, нечака-

на хутка вырашыла паехаць разам. Марліс здалося, што ў Эвы нешта не атрымалася з планамі на выхадныя дні і цяпер ёй было ўсё роўна, дзе бавіць вольны дзень.

— Прабачце, фройляйн.

На кожным рагу тут былі магчымасці тым, хто іх шукаў. Блакітныя стужкі бесказырак развяваліся на ветры, блішчалі залатыя нашыўкі на рукавах на сінім, як мора, грунце.

«...на Англію мы свой кіруем крок» — грымела песня з суседняй вуліцы. Матросы з рукзакамі за плячамі ішлі строем і з задышкай спявалі.

Марліс прыпомніўся фэнляйнфюрэр і сябар са свята сонцастаяння і танец ураджаю. Ён і яго карабель падарваліся на міне па дарозе на Англію. «Заўтра паедуць гэтыя, можа, паслязаўтра. А магчыма, праз месяц — І тады не запозняцца, бо вайна будзе працягвацца, працягвацца, працягвацца...» Са страхам яна адчула, як глыбока ў ёй пусцілі карэнне песімістычныя абвінавачвальныя думкі Герберта Аксэ. «Упадніцкім» называлі, мусіць, такі настрой. Але чаго яшчэ было чакаць ад чалавека, чый брат сядзеў у канцэнтрацыйным лагеры? Герберт аднойчы ёй расказваў, што ўсім зняволеным у канцэнтрацыйных лагерах на грудзях выпякалі лічбу, каб пры спробе ўцячы іх можна было лягчэй злавіць. Яго брат — мечаны, сказаў ён.

Марліс часам з жахам думала сабе, што і ён Герберт, носіць такую лічбу на сэрцы, бо ён быў ужо зламаны, хоць і без бізуна і камеры катаванняў, якія, як ён казаў, ёсць у нацысцкіх турмах. Катаванні ў дваццатым стагоддзі? Яна ў гэта не верыла. Яна супакойвала сябе тым, што каб нешта падобнае існавала, дык Хайнц Брэтшнайдэр, стары партыец, павінен быў бы пра гэта ведаць, а ён бы ні ў якім разе не ўдзельнічаў у такой справе. Д-р Клемт таксама быў у партыі і той-сёй яшчэ, каго яна вельмі паважала. Усе яны, калі б гэта была праўда, даўно б адвярнуліся.

У прыгнечаным настроі Марліс ішла сярод тлумнай таўхатні па цёплых вераснёвых вуліцах Свінемюндэ «У мяне якраз такі настрой, каб суцешыць параненага, — думала яна. — Я люблю душэўнага калеку а іду наведаць фізічнага. Пасля вайны будуць патрэбны урачы, толькі ўрачы і нянькі, хірургі і псіхіятры».

Яна здзівілася, калі Эва спыталася ў прахожага, куды яны ідуць. Яна няправільна павяла сваю сяброўку.

Узростам Анэлізэ Тоеркаўф была паміж Эвай і Марліс. Яна кінулася Эве на шыю, калі ўбачыла, што Эва чакае яе ў вестыбюлі інтэрната марскіх памочніц Эва не чакала такой сардэчнай сустрэчы, але яна ахвотна паддалася бадзёраму настрою Анэлізэ.

— Я сёння адна ў сваёй каморы, так што мы можам добра правесці час. А сёння вечарам... — Анэлізэ зрабіла таямнічы выгляд, не надаючы ніякага значэння таму, што дзяўчаты збіраліся вечарам вяртацца назад... Уладкавацца на начлег будзе не цяжка Шмат хто з дзяўчат выехаў на выхадны, а з камнендантам інтэрната яна дамовіцца сама, пагаворыць і пра Марліс, якую яна, пэўна ж, запрашае таксама.

Марліс адчувала сябе так, быццам яе падхапіў свежы віхор і змёў усе змрочныя думкі. Дзяўчына з карымі вачыма развесяліла яе. Яе ўпэўненасць заражала. Яна дзейнічала так, быццам у яе ў руках была ўся ўлада на караблі вайны. Не зважаючы на дзяжурную, яна ўзялася за тэлефон і пачала «дамаўляцца».

— Капітан вельмі рады, што я прывяду новых, — сказала яна, кладучы трубку.

З ціхай усмешкай на твары Марліс адправілася ў шпіталь. Магчыма, і добра, што яна сёння будзе ў такой кампаніі. Анэлізэ гаварыла пра нейкае свята на караблі. Гэта напамінала ілюмінаваны прагулачны параход, аркестр на палубе і месячную ноч. Хоць яна і ведала, што такога свята няма чаго чакаць, але ўсё-такі загадзя радавалася.

Капітан, пра якога гаварыла Анэлізэ, быў галоўным інжынерам на жылым караблі «Сан-Сальвадор», прышвартаваным каля набярэжнай Свінемюндэ. Капітанам яе сэрца быў унтэр-афіцэр пражэктарнай батарэі, і на ім былі шырокія пагоны прыбярэжнай артылерыі.

Эва паступова знаёмілася з узаемасувязямі, седзячы з Анэлізэ ў яе пакоі за чаем са свежым чорным салдацкім хлебам і мармеладам. Мармелад быў з Лангенбрука. Эва памятала кусты ў садзе Тоеркаўфаў, адкуль былі ягады. Яна заўсёды аддавала перавагу буйным чырвоным, а Анэлізэ больш любіла салодкія, як мёд, залаціста-жоўтыя. Ім у той час было па дзесяць-дванаццаць гадоў. Праз год, праўда, калі здарылася бяда з Эвіным бацькам, Анэлізэ магла гаварыць з ёю толькі праз садовую агароджу. Усе тры маладыя Тоеркаўфы былі заядлыя штурмавікі і актывісты ў гітлер'югендзе, і тое, што яны раней неахвотна трывалі, пасля «здарэння» ў акруговым горадзе, забаранілі адразу. У Лангенбруку былі людзі, якія казалі, што малойцы-Тоеркаўфы на сваім цяжкім матацыкле ў той дзень былі ў акруговым горадзе і старанна білі яўрэям вокны. Праўда, стары Тоеркаўф, які быў прыроджаным лангенбрукцам і акрамя аўтарамонтнай майстэрні меў магазін і прадаваў веласіпеды, гаварыў, што нічога гэтага не ведае. Але неўзабаве ён з'явіўся ў кегельклубе з круглым партыйным значком, людзі заўсміхаліся і засталіся пры сваёй думцы. Забабонныя

і тыя, хто верыў у суд божы на зямлі, убачылі ў няшчасці, якое потым спасцігла сям'ю Тоеркаўфаў, злавеснае пацверджанне пагалоскі. У дзікай гонцы на матацыкле загінулі два старэйшыя сыны Тоеркаўфа. Яны нібыта ездзілі ў камандзіроўку па заданні штурмавікоў. Але зноў пайшлі чуткі, што аварыі папярэднічала п'янка. Памеры і раскоша двайных хаўтураў пераўзышлі ўсё калісьці бачанае Эвай. Нацысты хавалі сваіх герояў з той пышнай урачыстасцю, якой яны не шкадавалі для «пакутнікаў, што загінулі ад рукі забойцы». Схаваўшыся за фіранкай каля акна мансарды, Эва бачыла бясконцы ланцуг дзяўчат, членаў СНМ і юнгмедэль, якія ўтварылі шпалеры. Ад хвалявання ў яе перахапіла дыханне. Тыя, каго выносілі са сцягамі і свастыкай, былі братамі Анэлізэ, а Анэлізэ заўсёды добра адносілася да яе. Прычына таго, што яны не сышліся бліжэй, была ў тым, што яна, Эва, пераехала ў другі горад і там хадзіла ў школу. Акрамя таго, Анэлізэ стала юнгмедэльфюрэркай, і з гэтым трэба было лічыцца. Нягледзячы на гарачае жаданне сябраваць з іншымі дзяўчатамі, Эва ў той час не чакала б нават ад найлепшай сяброўкі — калі б яна ў яе была, — што тая адмовіцца дзеля яе стаць фюрэркай. Фюрэрка, ішла побач з вымпелам, запявала песні, якія ўсе падхоплівалі, і гаварылі лозунгі пад майскім дрэўцам. Эва ведала, што ёй ніколі б не дазволілі, і магчыма, менавіта таму ёй так горача хацелася гэтага. Як яна магла ненавідзець Анэлізэ, якая рабіла толькі тое, што яна, Эва, сама рабіла б з захапленнем?

І вось цяпер, праз гады, яна сядзела насупраць Анэлізэ, якая тэмпераментна расказвала пра сябе. З СНМаўскіх курсаў Чырвонага Крыжа яна выйшла сястрой. У Грэцыі яна захварэла на жаўтуху, і пасля выздараўлення бацька зрабіў усё, каб вызваліць яе ад сястрынскай службы. Затое яна павінна была запісацца ў памочніцы пры штабе марфлоту і ўзрадавалася, калі ёй зноў удалося ўцячы ад свайго бурклівага старога. У Свінемюндэ яна думала застацца на нейкі час, бо тут быў «капітан» з прышвартаваным жылым караблём ды той унтэр-афіцэр, які кожны вечар агромністымі пражэктарамі маляваў чароўныя палосы на цёмным небасхіле.

Эва адкінулася плячыма да сцяны. На двух другіх ложках у пакоі стаялі падушкі ў вялікіх насыпках у белую і сінюю клетку, прыгожа ўзбітыя, з завостранымі ражкамі.

Анэлізэ ўбачыла Эвін цікаўны позірк.

— Мне тут добра, — сказала яна. — За граніцу мне ўжо не хочацца.

— Чаму?

— Мне ўвесь час было не па сабе. Чужыя людзі; чужая мова.

Ніколі не ведаеш, што ў іх у галаве. Карл-Хайнц, праўда, кажа, што можна прывыкнуць...

— Гэта унтэр-афіцэр ад пражэктараў?

— Ён. Табе павінен спадабацца. А ў цябе як? Ты нічога не расказваеш. Ты не чула лозунга: «Цешся вайной, бо мір будзе жахлівы»?

— У нас усё вельмі засакрэчана, — сказала Эва няпэўна.

— Я ўжо нешта такое чула. Але ж пра сябе ты можаш расказаць. Якія там у вас мужчыны?

— О, даволі сімпатычныя.

— Салдаты?

— Ёсць і салдаты. Але найбольш — цывільныя.

Анэлізэ патушыла сігарэту ў попельніцы. Яна заядла курыла. Здалося, нешта прыпамінала.

— Твая бабуля расказвала мне пра твае заручыны, калі я апошні раз была ў водпуску. Дзе ён? На фронце?

— Мусіць.

— Ты не ведаеш?

— Не. Я парвала.

— Дзеля другога?

— Не.

— Не, ты мне не расказвай! Сёння так ні з таго ні з сяго не парываюць.

Яна дастала фатаграфіі, здымкі свайго свінемюндскага лета: маракі і дзяўчаты ў форме, групамі, з вясёлымі тварамі. Яны жылі сваім днём.

«Што мне расказаць? — спыталася ў сябе Эва. — Як ёй апісаць дружбу з Юргенам Бэрам або мае дваістыя пачуцці да Марціна Уліга? Не гаворачы пра Ганса Ціфенбаха».

Але Эва была Эва, жанчына, і ёй таксама хацелася крышачку бліснуць. Яна расказала тое-сёе другараднае: пра прагулку на «Дзяўчыне з Амстэрдама». І Рыцарскі крыж з дубовым лісцем не забылася ўпамянуць.

У распараджэнні інжынера на «Сан-Сальвадоры» былі дзве цесныя каюты, дзе шасці чалавекам не было як развярнуцца.

— У цеснаце — не ў крыўдзе, паненкі, — жартаваў інжынер, у якога на цёмна-сіняй форме было некалькі сярэбраных нашывак. — Шчыльней, а то дзверы не зачыняцца.

Ён і сапраўды меў рацыю. Быў выкарыстаны кожны квадратны метр: пад бартавым ілюмінатарам лаўка, абабітая скурай, перад ёю прывучаны да падлогі круглы стол, нібы вынесены з піўнога бара. Шафы і шуфляды былі ў сценах, абшытыя дрэвам, ложак падвешаны,

як у спальным вагоне. Пераноснай мэблі не было.

— Я адчуваю сябе так, быццам мяне ўпусцілі ў карабок з хрушчамі, — сказала Марліс. Незвычайнае асяроддзе вельмі развесяліла яе, а нязмушанасць паводзін гаспадароў-мужчын здавалася ёй цудоўнай.

З шафы каля ложка інжынер дастаў бутэлькі. Ён падазваў Эву.

— Мы зараз зробім сапраўдны кактэйль «Манхетэн». Ці, можа, вы хочаце наш фірменны напітак «Сан-Сальвадор»? Наша вынаходства. — Дасведчанасць Эвы была абмежавана «Цюленем» і «Шведскім пуншам», за што яе спагадліва залічылі ў катэгорыю мацерыковых п'яніц. Для яе супакаення Карл-Хайнц Вінгензіфен заявіў, што яна выдатна танцуе. Месца хапала толькі адной пары, астатнія тым часам павінны былі паслухмяна сядзець на лаўцы.

Шосты, таксама малады марак з вузкімі срэбнымі нашыўкамі на плячах, іграў на гітары, іграў усё, што ад яго патрабавалі, на слых. Ён амаль не размаўляў, часта выпіваў і не ўставаў.

— Ён толькі што заручаны, — сказаў Вінгензіфен Эве, як быццам гэтым можна было растлумачыць паводзіны музыканта. З прычыны таго, што «оберміксер» разам з Анэлізэ рабіў новае пітво, Вінгензіфен, шыракаплечы берагавы артылерыст, ужо некалькі разоў запар танцаваў з Звай. На кожным кроку заўважалася, што яны на караблі. Эва даўно ўжо як след не танцавала. Вінгензіфен сапраўды быў мілы хлопец і вадзіў выдатна. Нягледзячы на цеснае памяшканне яны маглі зрабіць некалькі танцавальных фігур.

Анэлізэ збоку паглядала праз дым сваёй сігарэты. «Яна смяецца занадта голасна, — падумала Эва. — Гэта не натуральна. Яна злуецца на мяне. Гэта неразумна. Заўтра я паеду. І маленькай часцінкі Вінгензіфена не забяру з сабой. Скажу, калі ён зноў запросіць мяне на танец, што мне горача».

Крыху хістаючыся, што магло быць выклікана безупынным гайданнем карабля, са сваёй міксерні выйшаў гаспадар, таямніча трасучы пузатую бутэльку.

— Насоўваецца хмара! — крыкнула Анэлізэ, якая ішла за ім.

— Задраіць пераборкі! Свістаць усіх наверх! — скамандаваў інжынер хрыпатым голасам. — Гвозд вечара! — Ён страсянуў бутэльку.

— Не тамі душу, выпускай хутчэй свайго джына з бутэлькі, — запатрабаваў музыкант і падставіў шклянку.

Інжынер, у якога ў вачах заскакалі чарцяняты, са свістам адкаркаваў бутэльку.

— Зараз я вас пачастую каронным нумарам маёй кактэйлевай творчасці: «Смяротны выезд Марс-ля-Тур!» — Цёмна-карычневая вад-

касць палілася ў шклянкі.

Усе нерашуча пачалі каштаваць.

— Смачна, як у зубнога ўрача, — адзначыла Марліс.

— Як прасмоленая садовая агароджа, — заявіў Вінгензіфен.

— Сыграйце «Я стаю на мосце», — прапанавала Эва музыканту.

«Я крыху пад мухай», — падумала яна. І ў найлепшым настроі заспявала пад гітару:

Мы ў рад паселі, роўна, як пад шнур,
І п'ём «Смяротны выезд Марс-ля-Тур».

Астатнія падхапілі і захісталіся на пружыністай лаўцы. Эва лёгка, нібы гуляючы, выдумвала немудрагелістыя рыфмы, захапіўшы ўвагу публікі. Нарэшце Вінгензіфен пачаў выдаваць ёй першы радок для працягу:

Я б сам рыфмаваў — не выходзіць ані...

што Эва, амаль не задумваючыся, закончыла:

Відаць, вы не здатны да гэткай гульні.

Гаспадар заляпаў па сцёгнах, а Вінгензіфен усклікнуў:

— Дзе ваша шклянка, я павінен выпіць з вамі на брудэршафт.

Эва адчувала сябе лёгка, быццам больш не было нічога дрэннага. Яна адхіліла руку Вінгензіфена, якою ён, са шклянкай, хацеў чокнуцца на брудэршафт, устала і праціснулася паміж нерухомымі сталом і каленямі тых, хто сядзеў.

На маленькай пляцоўцы для танцаў яна для спробы памахала нагамі.

— Кракавяк? — спытаўся музыкант і крануў струны.

— Не, я хачу станцаваць стэп. — Эва і Марліс абмяняліся позіркам, якога ніхто не зразумеў. Тое, што ў доме Зэештэрн выклікала непрыемнасці, павінна было, пэўна, падысці тут, на борце «Сан-Сальвадора». Спачатку ногі былі цяжкаватыя, але потым яны дапасаваліся да лёгкасці ў целе, калені зрабіліся гнуткія, падэшвы самі адбівалі рытм. Тонкае цела Эвы рухалася ў рытме шлягера.

Гаспадар спрытна ўскочыў наверх на падвешаны ложак і пачаў адбіваць нагамі такт па дрэве, трымаючы ў руках бутэльку з астаткамі «Смяротнага выезду Марс-ля-Тур».

— Класна, — усміхаўся ён, гледзячы на танец зверху.

Вінгензіфен стаяў у дзвярах паміж каютамі, нічога не рабіў і нічога не гаварыў. Ён толькі глядзеў, як віхурна развявалася яе сіняя спадніца ў складку. Та-там, та-там — гітара ўжо была толькі рытмічным суправаджэннем для ног, для наскоў туфель, якія дакраналіся да падлогі, імгненна адляталі і зноў апускаліся — хвалюючая дакладная гульня. Не менш прыгожыя былі вочы дзяўчыны. Калі яна, танцуючы

перад ім, запляскала ў далоні. Ён падняў руку, якую яна ўзяла толькі за адзін пальчык. Гэта была яе кропка вярчэння, на якой яна некалькі разоў крутнулася вакол сябе пад яго рукой. Потым яна зусім нечакана закончыла крокам-выпадам, як фехтавальшчык. Та-там! Вінгензіфен схапіў яе за руку. Яна захісталася. Апошнія віткі былі занадта энергічныя.

Ёй стала вельмі горача, цесната «карабка для хрушчоў» прыгнятала яе. Яна хутка выбегла.

Марліс таксама выкарыстала момант, каб хапіць свежага паветра. Сяброўкі прыхіліліся да парэнчаў.

Вечар позняга лета ляжаў над свінемюндскай прыстанню. Цёмнымі сілуэтамі рознай формы на бледным небе выступалі меншыя ваенныя караблі.

— Я добра пад мухай, — сказала Эва.

— Я таксама. Нам нельга больш піць, а то заўтра галава будзе балець.

— Заўтра папалудні я павінна бегчы дыстанцыю з бар'ерамі. Мы спаборнічаем з грэйфсвальдскай камандай. Я паабяцала Бэру. — Эва засмяялася крыху вінавата.

— Вось нам і трэба было ехаць сёння вечарам.

— Цяпер ужо позна. Пакуль дабяромся да Цыновіца, апошні цягнік пойдзе.

Марліс пачала мерзнуць. Па вузкай лесвіцы яна спусцілася ў нутро карабля, які, непрыгодны больш для плавання, служыў маракам пастаянным жытлом.

Перш чым Эва паспела пайсці за ёю, на палубу выйшаў музыкант. Ён спыніўся на лесвіцы зусім блізка каля яе.

— Што, прагулка пры месячным ззянні? — спытаўся ён, гаворачы ў нос.

Яна пакруціла галавой.

— Ніякай рамантыкі. Тут усё змрочна.

— Тым лепш.

Ён ухапіў яе за руку. Было так цёмна, што яна не бачыла яго твару. Раптам яна адчула, што яго рука пацягнулася да блузкі. Яна не перашкаджала яму мацаць, пакуль ён не дабраўся да гузікаў і не пачаў іх паспешліва расшпільваць. Тады яна ўдарыла — і трапіла ўдала.

Ён злосна засмяяўся.

— Не круці носам, ты — жыдовачка!

Эва сутаргава ўчапілася ў парэнчы. Пад ёю ўсё паплыло —не толькі карабельныя дошкі, вакол яе стала цёмна — не толькі таму,

што была ноч. Гэта жыццё яе было такое — і ніякі самападман не мог тут дапамагчы.

Яна амаль звалілася ўніз па вузкай лесвіцы. Потым, перад дзвярыма каюты, яна ўсё зразумела: яна развярэдзіла рэўнасць Анэлізэ, і тая адной фразай знішчыла мужчынскае захапленне. «А вы ведаеце, за кім вы ўвіваецеся? — магчыма, сказала яна. — За жыдоўкай!» Анэлізэ была подлая, подлая, подлая! Яна таксама — з тых Ханке, якія ставілі б шыльды з забаронай уваходу яўрэям!

Трэба было вяртацца ў каюту. Першае, што яна ўбачыла, быў здзіўлена-пытальны позірк Марліс. Жахлівая цішыня навалілася на яе. Гаспадар няёмка круціў радыё. Уражанне было такое, быццам радасна-плескатлівая вада раптам ператварылася ў лёд.

Эва прамовіла са змушанай цвёрдасцю ў голасе:

— Марліс, я еду дамоў. Так будзе лепш.

Ніхто не сказаў ні слова. Анэлізэ курыла. Паветра было напоўнена сігарэтным дымам. Марліс здзіўлена ўстала. Крыху памарудзіўшы, яна сказала:

— Добра, я іду з табой.

Калі Вінгензіфен падаваў Эве куртку. Ён спытаўся амаль спалохана:

— А ці зможаце вы сёння вечарам дабрацца дамоў?

— Канечне, — адказала яна рэзка. — У нас ёсць па дзве нагі.

Ён моўчкі правёў іх праз канатны мосцік.

Марліс бачыла, што з Эвай здарылася нешта незвычайнае, нядобрае і што яна дзеля сяброўкі павінна была пераадолець цяжкі шлях праз ноч, бо ў Цыновіцы канчалася заводская чыгуначная лінія. Да апошняга прыпынку на Востраве, у наваколлі якога было толькі некалькі рыбацкіх вёсак, можна было дабрацца толькі па заводскай чыгунцы, якая, аднак, у такі позні час не працавала.

Ад Цыновіца ім трэба было прайсці яшчэ каля дзесяці кіламетраў пехатой. Яны ішлі па прасёлку, бо ім думалася, што там ісці будзе лягчэй, чым па беразе Шанцы сустрэць машыну былі роўныя нулю. Тут не было ні прыватных, ні службовых машын, нават кіраўніцтва завода ездзіла па чыгунцы або на веласіпедзе.

Праз паўгадзіны хады туфлі Марліс пачалі церці. Да прыгожага камбінаванага касцюма, цёмна-зялёнай спадніцы ў складку і карычневага пінжака, яна абула карычневыя спартыўныя туфлі, якія ёй у Празе купіў былы бацькаў вучань — на жаль, на нумар меншыя — каштоўнасць у век талонаў на тавар.

— Трэба іх скінуць, — нарэшце сказала яна — Ьольш трываць не магу. — Яна ўжо кульгала.

— Тады пойдзем па беразе, — прапанавала Эва.— Каля самай вады, дзе пясок цвярдзейшы.

Было не вельмі прыемна ісці праз лес удалечыні ад вёскі, за гадзіну да поўначы. Над імі шумелі дрэвы. Марліс з туфлямі ў руцэ ў цемры не бачыла карэння і сасновых галін. Босай дзяўчыне кожны крок прыносіў пакуты. Нарэшце яна адчула, што грунт памякчэў. Апошнія рады дрэў раслі на схілах дзюн, дзе дробны марскі пясок тонкім слоем пакрываў зямлю. Калі дзяўчаты выйшлі на дзюну і ўбачылі мора, яны з палёгкай уздыхнулі. Вось яна, любімая стыхія! Тут на беразе была толькі адна сцежка, якую нельга было згубіць.

Эва таксама разулася. Вада стаяла амаль нерухома. Ледзь чутна апошняя хваля плёскала аб бераг. Марліс падстаўляла разгарачаныя ногі пад прахалодныя хвалі. Эва трымалася каля яе. Яны размаўлялі, робячы доўгія паўзы, якія гнялі душу.

Здавалася, што яны тут адны на ўсім белым свеце. Гэтая светлая паласа, пачатак доўгага Вострава, не асветленая ніякім пражэктарам, была па той бок людскіх зносін, ва ўсякім разе, у гэту ноч, калі Эва Леангард, дваццацігадовая дачка зубнога ўрача-яўрэя, пачала супрацьпастаўляць любові, якая да гэтага часу ўладарыла ў яе жыцці, нянавісць.

«За лесам, — думала яна, — жывуць яны, Тоеркаўфы і Ханке, а я павінна трымацца з краю, каб не сустрэцца з імі. Я павінна ісці каля самай вады, менавіта так, каб не ўпасці ў мора, але і так, каб яны не маглі прагнаць мяне сваімі законамі і шыльдамі».

Ёй прыпомнілася казка, казка пра разумную сялянскую дачку. Бедная дзяўчына павінна была прыйсці да караля «не голая і не апранутая, не на кані і не пехатой». Яна рашыла задачу, укруціўшыся ў рыбацкую сетку і прывязаўшы сябе да хваста асла. Вось гэта было відовішча! Сялянскую дзяўчыну шчодра адарылі, бо яна зрабіла магчымым тое, што здавалася немагчымым... Ці не такая ж задача стаяла перад ёю, Эвай? Яна хацела жыць — нягледзячы на ўсякія шыльды, хацела вучыцца, нягледзячы на прыхаваны і адкрыты недавер. І кахаць яна хацела і быць каханай — насуперак тэорыі аб непаўнацэннасці яе расы. З попелу яе гонару, які з'явіўся пасля атрутнага полымя нянавісці, так неўтамавальна выбіўся агонь прагі да кахання і разумення, што аж у горле перахоплівала. За лесам жылі не толькі Ханке і Тоеркаўфы, але і Юрген Бэр, і Ціфенбах, і Траўдэ Хёрзельман, а перш за ўсіх — Марліс.

Сэрца Эвы было перапоўнена. Яна не магла хаваць у сабе тое, што гняло ўжо некалькі гадоў. Яна расказала сваёй сяброўцы ўсё пра свайго бацьку, пра «агляд» для залічэння на працоўны фронт, пра

медэльфюрэрку Анэлізэ Тоеркаўф і яе братоў.

Яны ўсё ішлі і ішлі. Шэрым і срэбным колерам без ніякай змены зіхацеў вадкі метал мора. Дзюны на ускрайку лесу здаваліся згорбленымі старымі з рэдкімі валасамі: вострагаловыя, круглагаловыя, бледныя з выцвілымі брывамі берагавой травы.

Марліс слухала моўчкі. Праз нейкі час яна спыталася:

— Раней Анэлізэ нічога такога не гаварыла пра цябе? Я маю на ўвазе — так, як сёння, пагардліва

— Не, яшчэ ніколі. Інакш я нізашто не паехала б да яе.

Нага Эвы спаткнулася. А ці праўду яна гаварыла? Шмат гадоў таму назад... яна прыпомніла раптам як тады здалося, нязначнае здарэнне з дзяцінства: «Гэта было яшчэ да бяды з бацькам. Я была якраз на велікодных канікулах у Лангенбруку ў дзядулі і бабулі. Мы часцей за усе бавілі час утрох: Анэлізэ, Зігрыд Мэс — яна цяпер у Парыжы — і я. Мы звычайна гулялі на дзядулевым дрывяным складзе, або ў Тоеркаўфаў на машынным двары, або бегалі вакол лясніцтва. Аднойчы Зігрыд, недзе лазячы, так моцна парвала панчохі, што маці прымусіла яе надзець тоўстыя шарсцяныя Зігрыд казала, што яны страшэнна кусаюцца, але яшчэ было занадта холадна, каб употайкі зняць іх зусім тады я ей сказала, што ведаю сродак, каб не надзяваць іх больш. Хай яна зробіць так, як наша служанка якая акунула мае белыя шарсцяныя святочныя панчохі у гарачы шчолак. Зразумела, што яны селі і так збіліся, што надзець іх больш нельга было. Маім сяброўкам фокус вельмі спадабаўся. Зігрыд вырашыла паспрабаваць, а Анэлізэ, нібы не маючы дачынення да гэтага, пахвалілася дома — дзеці любяць пахваліцца сваімі хітрыкамі. Для большага эфекту яна сказала сваім бацькам: «Эва заўсёды так робіць, калі не хоча надзяваць шарсцяных панчох». Я пацікавілася, а што ж на гэта адказалі бацькі, і Анэлізэ паведаміла спаўна: «Мае бацькі паглядзелі на мяне, а бацька сказаў: «Вось бачыце, гэта яўрэйскі дух сядзіць у ёй». Анэлізэ засмяялася, і мы разам з ёю. Я тады спыталася ў свайго бацькі, ці праўда, што мы яўрэі і ці вельмі дрэнна, калі ў чалавеку сядзіць яўрэйскі дух. Спачатку ён вельмі разгубіўся. Потым яго пагляд зрабіўся злосны. Ён пайшоў у свой пакой і са стукам зачыніў за сабой дзверы. У гэты дзень маці запісала мяне ў плавальную секцыю, аб чым я даўно ўжо марыла, і параіла мне старацца, каб паказаць іншым, на што я здольная... Пасля гэтага прайшло ўжо больш як дзесяць гадоў, я пра гэта амаль забылася, як забываешся — ці хочаш забыцца — пра ўсё непрыемнае». Эве прыпомнілася, што Юрген Бэр аднойчы сказаў: «Самая вялікая слабасць у людзей — іх няпамятлівасць. Вось чаму яны не вучацца на сваіх памылках, а

чалавечая гісторыя пры кожным кроку наперад робіць паўкроку назад». Паміж дрэвамі паказаліся дахі дамоў, якія стаялі абапал дарогі ў дзюнах. Металічным бляскам свяцілі сузор'і.

Вандроўніцы дабраліся да мэты.

У той самы вечар д-р Клемт выкарыстаў яснае надвор'е, каб паназіраць з балкона свайго дома за зоркамі. У яго была цэйсаўская падзорная труба, а для аматара гэта было не абы-што. На адкрытым на тры бакі балконе ён папрасіў збудаваць сабе драўляную падстаўку ў рост чалавека, так што з яе трубу можна было накіраваць і ў чацвёрты бок. Каля акуляра стаяў яго госць, Ганс Ціфенбах. Клемт запрасіў яго на сваю прыватную абсерваторыю: «Той, хто ведае самае дробнае, павінен цікавіцца і самым буйным». Ціфенбах згадзіўся з ім. Даследаванне мікракосмасу, свету атамаў і элементарных часцінак, гэтай мініяцюрнай сонечнай сістэмы, вымушала вучоных увесь час праводзіць параўнанні з працэсамі ў макракосмасе. «Фізіка ўжо даўно спаравалася з астраноміяй».

— Наадварот! — сцвярджаў Клемт. — Астраномія навука старэйшая, самая старая наогул. — Ён займаўся шчыльнасцю нерухомых зорак. — Іншыя бачаць белых мышэй, а я шукаю белых карлікаў, — казаў ён жартаўліва. Праз тэлескоп ён злавіў Сірыус і даў Ціфенбаху зірнуць на яго.

Вучоным была вядома незвычайная шчыльнасць гэтай двайной зоркі. Клемт умеў таксама вызначаць адлегласць у светлавых гадах.

Яны знайшлі туманнасць Андрамеды і гаварылі што гэта не што іншае, як скапленне сонцаў накшталт Млечнага Шляху, да якога належыць Зямля. Яны размаўлялі пра магнітныя палі, якія былі выяўлены на сонцы, і пра эліптычныя арбіты планет.

Калі ў акуляры з'явіўся Месяц, Ціфенбах сказаў:

— Аднак дзіўна: чаго мы толькі не ведаем пра найвялікшае і найменшае, а вось узаемасувязей свету у якім жывем, пазнаць не можам. Мы не можам абгрунтаваць — вайна будзе або мір, ці будзе працяглы крызіс, ці палепшыцца кан'юнктура.

Клемт узняў плечы.

— Усюды, дзе прыклаў руку чалавек, заканамернае развіццё канчаецца. З гэтай прычыны і не сыходзяцца нашы разлікі з паўсядзённай рэчаіснасцю Гэта ж зусім проста.

Ціфенбах разглядаў няроўную паверхню халоднага спадарожніка Зямлі, які быў выразна бачны яму ў акуляры.

— Выходзіць, гэта азначае: калі мы трапім на Месяц, дык заканамернасці гэтага самотнага бадзягі таксама будуць зломлены.

Клемт туды-сюды пахаджаў па балконе, рукі ў кішэнях.

— Дапусцім, што за Месяцам могуць назіраць жыхары іншай планеты. За стагоддзі іх астраномы сабралі тыя самыя звесткі пра яго, што і мы. І вось нашы астранаўты — з нашым Доктарам на чале, напрыклад — праз дваццаць гадоў «прызямляюцца» там наверсе і ствараюць умовы, каб праз некалькі гадоў пачаць там у шырокім маштабе выпрабаванні атамнай бомбы — магчыма пад кіраўніцтвам нейкага пана Ціфенбаха.

— Абарані мяне літасцівы лёс ад гэтага.

Клемт засмяяўся.

— Я скажу толькі, што гэта ў вобласці касмічных магчымасцей. Ва усякім разе, такія выпрабаванні вельмі змянілі б Месяцавы пейзаж, а магчыма, у пэўнай ступені і перабудавалі б нават яго матэрыю. Вось вам і ўмяшанне чалавека! Назіральнікам з суседніх планет гэтую нечаканую мутацыю Месяцавай паверхні было б зразумець цяжка.

Ціфенбах адышоў ад акуляра. Ён гаварыў павольна, у сваёй старанна-раздумлівай манеры:

— Я спадзяюся, што, скараючы наш спадарожнік, мы будзем больш разважлівыя. Калі б здарылася так, як вы толькі што сказалі, дык чалавек як біялагічны від — не што іншае, як касмічны воўк... Але давайце ўявім сабе, што космас населены. Сярод гэтых невядомых нам істот мы — вы, я, Доктар ці хто б там ні аказаўся ў космасе — проста «чалавецтва». І скажу вам, што голас чалавечы быў бы рэзкім дысанансам у касмічным аркестры, калі б мы паслалі яго ў космас пад агнём атамных бомбаў.

— Глупства. Лепш быць ваўком, чым ягнём. Заваяванне космасу — таксама пытанне ўлады. Ніводзін урад не даў бы на гэта ні пфенінга, калі б было не так. Даследаванне космасу лічыцца недаходным заняткам. Трэба паказаць яго смак тым, хто мае ўладу.

— І накінуць на гэтыя даследаванні ваенны шынялёў — горка сказаў Ціфенбах.

— Галоўнае камандаванне сухапутных войск і так ужо нас папракае, што праграма распрацоўкі А4 — гэта толькі шыльда, за якой мы хаваем касмічныя даследаванні.

— Значыць, недавер зверху? Вы лічыце, што не без падстаў?

— Не лічу. Мы ўсе тут ведаем, што пастаўлена на карту. Вайна ўжо даўно не турысцкі паход. На жаль, Доктар часам занадта захапляецца і пачынае развіваць свае ідэі перад людзьмі недасведчанымі, ідэі, над якімі ён працаваў з прафесарам яшчэ да вайны.

— Так. У яго бываюць фантастычныя планы.

— Яго не турбуе, якія вывады потым робяць тыя, хто слухаў.

— Магчыма, без гэтай бестурботнасці ў яго не было б і захопленасці. А яго энтузіязм нечага дыварты для такога праекта. Першы крок у космас! — Клемт прыхіліўся да парэнчы балкона. Ён іранічна вымавіў: — Вы таксама ахвотней думаеце пра касмічныя ракеты, чым пра зброю. Вось бачыце! Гэтак і можна аславіцца, што займаешся даследаваннямі дзеля саміх даследаванняў.

Ціфенбах стаў каля гаспадара.

— Будзьце да канца шчыры, д-р Клемт, у прынцыпе яно так і есць! Мы, вучоныя, зусім не імкнёмся знішчаць людзей, руйнаваць гарады. Мы выбіралі прафесію, зыходзячы зусім з іншага.

Клемт пачаў старанна размінаць сігарэту якая дрэнна цягнулася.

— Даследаванні вядуцца ад навуковай цікаўнасці так, груба кажучы. Магчыма. Але ж акрамя усяго гэтага у нас сядзіць нейкі голад улады, ці што. Гэтым тлумачыцца, па-мойму, імкненне даследчыка: жаданне спазнаць матэрыю, каб авалодаць ёю. Але гэта авалоданне у ціхай лабараторыі задавальняе толькі тады калі мы можам выкарыстаць яго для ўздзеяння на знешняе асяроддзе. Мы, фізікі, павінны ўсведамляць што трэба унесці свой рашаючы ўклад у паскарэнне зыходу барацьбы за уладу — у буйных маштабах. Наша прафесія, як ніякая іншая, вызначае будучыню мой дарагі Ціфенбах.

— Улада! Улада! Увесь час — улада! Гэта слова здаецца мне, — вельмі небяспечнае.

Клемт пакпіў:

— Нельга пазбавіцца ад рэчы, ігнаруючы паняцце. Мы усе ужо даўно ідзём па гэтай дарозе. Судэцкі крызіс, аншлюс Аўстрыі — цудоўныя спробы сілы. Цяпер на чарзе калоніі. Англія павінна стаць перад намі на калені, інакш нам не справіцца. Я два разы быў там. Пыхлівасць англічан не мае пад сабой глебы. Кампраміс Гітлера ў 1940 годзе яны адхілілі. Але ім прыйдзецца саступіць нам сваё месца ў табелі рангаў Еўропы і тут мы можам унесці сваю долю. А4 пераскочыць праз канал, я ў гэтым пераканаы.

— Магчыма. Але нам трэба спяшацца. У народзе Герынга ужо даўно перахрысцілі ў Маера. Берліну добра далі па зубах.

— Я ведаю. Аднак мэта вартая страт.

— А якою вам бачыцца мэта?

— Мы магутна раздадзімся ўшыркі. Вы памятаеце шчыльнасць Сірыуса? Мы пакуль што белы карлік Еўрапейскую геаграфічную карту даўно пара пераглядзець.

— На ўсходзе таксама?

— Там — у першую чаргу. Калі А4 будзе трымаць Заходні фронт

пад шахам, мы зможам больш войск перакінуць на Усход. Мой цесць зусім не мае намеру аддаваць назад свае філіялы ў паўднёвай Польшчы і на Украіне. З намі, немцамі, зноў пачнуць лічыцца ў свеце.

— Нас будуць баяцца.

Клемт пакпіў:

— Я ведаю: вам хочацца, каб вас любілі. Тады вам трэба стаць вандроўным прапаведнікам. Ці яшчэ лепш — ажаніцца з ягняткам.

— Гэта не выйсце, — адказаў Ціфенбах.

— Ваша праўда. Жаніцьба, напрыклад, заўсёды справа складаная. І мая вам парада: не жаніцеся, пакуль вайна. Бо цяпер усё шмат складаней.

Ціфенбах адышоў ад парэнча, каб дапамагчы Клемту скласці прыбор.

— Я і не думаю, — сказаў ён.

Пераносячы каштоўныя дэталі ў суседні цёмны пакой, яны пачулі, што ўнізе нехта іграе на піяніна.

— У маёй жонкі — госці, — сказаў Клемт. — Яна даведалася, што мачаха Бэра, былая оперная спявачка — яе знаёмая. Яны спаткаліся на курорце Бад Пірмонт. Вось яму і даводзіцца расплачвацца. — Клемт крыху скрывіў рот. — Ён цудоўна іграе на піяніна.

«Улада! — падумаў Ганс Ціфенбах. — Якое горкае паражэнне церпіш ты са сваёй уладай!»

Юрген Бэр іграў Баха... «Гучыць, як матэматыка ў гуках», — сказала нядаўна Эва Леангард, слухаючы яго. Заўвага яму спадабалася, у гэтым нешта было. Бахаўскі кантрапункт быў дакладны і ясны, як матэматычная задача, у якой мелася толькі адно рашэнне. У Баха нельга было ні выкрасліць што-небудзь, ні замазаць.

Сёння ў яго была слухачка з зусім іншымі пачуццямі. Розэмары Клемт сядзела ў крэсле каля піяніна. Калі ён закончыў, яна спыталася:

— Вы верыце ў музычны век?

Ён паёрзаў на вінтавым крэсле — хацеў упэўніцца, ці не жартуе яна. Але яна паглядзела на яго сур'ёзна і, тлумачачы, дадала:

— Вядома, толькі пасля вайны. Пра гэта піша Розенберг. У гэтым ён бачыць найлепшую магчымасць пераадолець матэрыялістычны век.

Бэр не мог справіцца са сваім звыклым кароткім смяшком. Ён пагладзіў бліскучае дрэва піяніна.

— Пасля вайны мы будзем радыя нават такому інструменту, калі ён застанецца, — з горыччу сказаў ён, — а людзям будзе напляваць на ўвесь музычны век, калі яны разбяруцца, хто вінаваты, што яны страцілі ўсё што робіць жыццё прыгожым і багатым... — Спужаў-

шыся. Ён замоўк.

«Я дазволіў сабе захапіцца, — падумаў ён. — Цяпер яна мяне раскрые».

Але Розэмары Клемт засталася зусім спакойная. Яе белакурая галава аддзялілася ад цёмнага фону крэсла.

Да гэтага часу яны гаварылі толькі пра будзённыя стравы, пра мачаху Бэра і яе тэатральную кар'еру. Фраў Клемт умела спрытна ўплесці ў размову, што яна з баранесай Круп фон Болен-Хальбах таксама пазнаёмілася ў Пірмонце, а таму што яна сама была «прыроджаная», ёй адкрылі доступ да стала гэтай княгіні нямецкай сталеліцейнай прамысловасці. Але ў гэтага высокага юнака, гэтай помесі аматара мастацтва з грубым спартсменам, такія імёны не выклікалі захаплення. Гэта Розэмары хутка заўважыла. Здавалася, што ён нават трымаўся на адлегласці ад сваёй незвычайнай мачахі. Да яго было нялёгка падступіцца. У гэты вечар яна вырашыла не спрачацца з ім і прапусціла яго дзёрзкі адказ міма вушэй. Нешта такое было ў ім, што прымушала даваць яму волі больш, чым іншым. З задавальненнем яна заўважыла, што ён занепакоіўся.

Расцягваючы кулакамі кішэні, Юрген Бэр хадзіў туды-сюды па пакоі. Увасабленне сілы! Герой, аб якім яна можа толькі марыць. Над шырокім лобам цёмныя валасы пачыналі расці па прамой лініі, утвараючы паралельную да лініі броваў. Думкі за гэтым лобам парвалі з усякімі міфамі. Розэмары няпэўна адчувала гэта. Яе лозунг, які яна запазычыла ў Мусаліні, «верыць, падначальвацца, змагацца!» яму не падыходзіў. Тут быў такі чалавек, які любіў музыку, не заварожваючыся ёю. Замест «верыць» ён паставіў бы «пазнаваць», і не менш, а калі б яна захацела яго пераканаць, што вера можа зрушыць з месца гару, то ён неаспрэчна даказаў бы ёй, што гэта зрабіць можа толькі розум. Сёння яна не хацела нават спрабаваць. Ён занадта ёй падабаўся. Яна толькі намёкам паправіла яго за песімістычныя словы, якія гучалі ерэтычна, аднак здаліся ёй не зусім зразумелымі, магчыма, таму, што яна бачыла ў ім перш-наперш мужчыну. Розэмары ўсміхнулася са сваёй слабасці.

— Мы ўсе будзем багатыя, калі выйграем вайну.

— Мы, — ён рэзка вылучыў першае слова, — не выйграем яе ніколі.

— А хто ж тады?

— Ва ўсякім разе тыя, што ляжаць там у гразі.

— Значыць, вы мяркуеце, што масы робяць гісторыю?

— Вядома.

— А генералы? А правадыры?

— Ніводзін палкаводзец не можа выйграць бой без сваіх дывізій.

— Але дывізіі без генералаў, як караблі без штурвалаў.

— Абставіны ствараюць новых правадыроў. Аднаго можна замяніць, масы — не.

— Вы выказваецеся, як бальшавік. Але для бальшавіка вы занадта інтэлігентны. Магчыма, вам хочацца згубіцца ў масе? Вам — з вашымі здольнасцямі?

Ён спыніўся пасярэдзіне сіметрычнага ўзору дывана і старанна размясціў свае вялізныя падэшвы паралельна турэцкім арабескам. Тысячы шарсцяных нітак стваралі шэдэўр з мноства ліній і кветак. «Цяпер мне варта было б памаўчаць, — падумаў ён. — Але я не магу. Проста нельга змоўчаць, калі жанчына гаворыць такое».

Ён загаварыў свядома ў лёгкім тоне.

— Чаму вы замест «масы» не скажаце «народная супольнасць»? — Выкарыстаўшы яе разгубленасць. Ён хуценька дадаў: — Я скажу вам: таму што вам робіцца боязна, калі вы так гаворыце. Гэтым самым вы паказваеце, чаго варта народная супольнасць.

— Ну добра, давайце пагаворым шчыра. Вы не першакласнік у палітыцы. Я згодна з Ніцшэ, які гаворыць, што масу пры дапамозе рэлігіі і міфаў трэба трымаць у няведанні, тады ёю лягчэй кіраваць.

Бэр жорстка засмяяўся. Яго ногі пераступілі праз граніцу арабеска.

— Цудоўна! Цяпер вам застаецца толькі выдаць мне таемны сродак, з дапамогай якога можна прымусіць непаслухмяную частку масы падначаліцца нам.

Розэмары Клемт памарудзіла. Яе пакрыўдзіў яго смех. Нарэшце яна сказала абыякава:

— Гэта не так цяжка: мешчаніну кожную нядзелю курыцу ў гаршчок, рабочаму — працу...

— Незалежна, з якой мэтай?

— Так. З тых пор, як Гітлер у самы цяжкі час крызісу паказаў сябе сапраўдным мужчынам, сацыял-дэмакраты збанкрутавалі. Апазіцыя мёртвая. Нават калі б яна не была забаронена.

Бэр уздыхнуў. Добра, што яна была ўпэўненая ў гэтым. Значыць, і яго яна не прымала ўсур'ёз.

— А як з моладдзю?

Яна іранічна ўсміхнулася.

— Тут лягчэй за ўсё. Для хлопцаў вайна — вялікая прыгода. Ужо таямнічасць падзей у Іспаніі была напоўнена рамантыкай. — Яна зноў працытавала свайго Мусаліні: — Верыць, падначальвацца, змагацца! Самы малы хлапчук бачыць сябе заўтрашнім героем. Або вы не

ведаеце, якую натхняльную сілу маюць сцяг, песня, лагерны касцёр! Для больш інтэлігентных у нас ёсць гістарычныя паралелі. Процьма прыкладаў ад Тэадорыха да Фрыдрыха Вялікага. Гісторыя чалавецтва — гэта гісторыя войнаў. Гэта разумелі нават мае дзяўчаты. Сваім апошнім павышэннем я абавязана дакладу па тэме «Рэйх». Тут можна глыбока капнуць. Аляксандр Вялікі — Карл V — Бісмарк! Не менш чым дваццаць разоў я чытала гэты даклад. І ведаеце, чаму мне спадарожнічаў поспех? Выступаючы перад дзяўчатамі — а ім было па 16—19 гадоў, — я звярталася не да іх розуму, а да пачуццяў. Так людзі лягчэй паддаюцца апрацоўцы. Над Аляксандрам Вялікім яны амаль галасілі. Гебітсфюрэр сказаў мне тады: «У цябе вучышся думаць панароднаму. А гэта — альфа і амега нашага светапогляду».

Бэр стаяў, абапёршыся на піяніна, і ўяўляў сабе жанчыну, якая ў светлай шаўковай сукенцы, распусціўшы веерам плісіраваную спадніцу, сядзела пасярод стыльнай мэблі, у цёмным суконным касцюме начальніцы СНД. Ён разглядаў яе, быццам яму неабходна было добра запомніць твар і паставу жанчыны, якая магла гаварыць так.

Перад ім сядзела жанчына з розумам на рэдкасць вострым, але гэты свой талент яна прысвяціла нядобрай справе.

Яго голас прагучаў хрыпата, бо ён намагаўся не выдаць свайго абурэння.

— Я б сфармуляваў альфу і амегу вашага светапогляду інакш. Я таксама некалі чытаў Ніцшэ. — Ён зрабіў невялічкую паўзу. — А ваш тайны прарок гаворыць вось што: «Хлусня — добра, калі яна служыць дасягненню той высокай ступені цяпла — пакуль верацъ».

Розэмары не дала больш збіць сябе з панталыку. Яна насмешліва запярэчыла:

— Ніцшэ — не прарок Гітлера.

— Афіцыйна — не. Таму што гэта раззлавала б усіх яго прыхільнікаў, якія не могуць залічыць сябе ў звышчалавекі, а пакуль ідзе вайна, яшчэ ёсць патрэба і ў добранькай казцы пра «народную супольнасць»... Што думае наконт гэтага баранеса Круп?

— Яна сцвярджае, што зусім не цікавіцца палітыкай, але я даведалася, што пасля захопу ўлады яна адразу арыізавала сваю гаспадарку — а яна не малая. Гэта прымірыла мяне з ёю. Да Герынга яна мае слабасць, бо ён дапамог ёй прыдбаць некалькі каштоўных італьянскіх карцін. У астатнім яна паводзіць сябе так, быццам такім людзям, як яна, фюрэра можа і не быць.

— Для яе ён — як дар божы.

— Мне таксама так здаецца. Я рада, што хоць тут мы сыходзімся.

— Няшмат — а ўсё ж! — суха адказаў Бэр.

З суседняга пакоя пачуўся гучны голас Клемта.

— Ідуць астраномы, — сказала жанчына ў крэсле. Рассоўныя дзверы адчыніліся, увайшлі Клемт з Ціфенбахам. Мужчыны павіталіся весела і па-таварыску. Ціфенбах прыпыніўся за некалькі крокаў да Бэра, які ў жоўтым крузе святла ад таршэра пад нізкай столлю выглядаў асабліва высокім і худым.

— Бэр, — сказаў Ціфенбах, — вы падобны да... пачакайце, зараз прыпомню.

Усе глянулі на Бэра, і ён зрабіў няпэўны жэст доўгімі рукамі.

— Прыпомніў! — Здавалася, што Ціфенбах знайшоў імя ў шуфлядах сваёй падсвядомасці. — У вас такі выгляд, быццам вы сышлі з гравюры на дрэве Мазерэля.

Бэр выпрастаўся і засмяяўся. Ціфенбах звярнуўся да: Клемта:

— Вы ведаеце серыю карцін Франса Мазерэля? Там увесь час паўтараецца адзін і той жа мужчына — для яго, відаць, проста чалавек.

Розэмары з цяжкасцю схавала расчараванне, што не можа падтрымаць размову.

— Відаць, гэта не нямецкі мастак? — спыталася яна з'едліва.

— Ён — фламандзец. На Мюнхенскай выстаўцы вы яго не знойдзеце, — амаль радасна далажыў Бэр.

Клемт быў заняты падносам са шклянкамі. Ён заўважыў, што яго раз'юшаная жонка не знаходзіць адказу. Моўчкі ўсміхаючыся. Ён абышоў усіх, частуючы моцным украінскім пітвом. З гэтым «мядзведзем» ёй, відаць, не пашанцавала, падумаў ён. У хлопца відавочны лёгкі левы ўхіл. Каб хоць не нагаварыў лішняга. Было б шкада. У ім нешта ёсць.

— За што вып'ем?

Тры мужчыны чакалі гаспадынінага тосту. Розэмары павольна паднялася з крэсла. Светлы веер яе спадніцы склаўся.

— За канчатковую перамогу, — сказала яна.

Клемт адразу адчуў стрыманасць абодвух маладых людзей.

— Лепш за што больш блізкае. Я п'ю за наступны старт А4.

— На калі ён запланаваны?

— На кастрычнік. — Клемт хуценька выпіў да дна. Ціфенбах зрабіў тое самае. Бэр, памарудзіўшы, выпіў таксама.

Розэмары ўздыхнула.

Калі Ганс Ціфенбах і Юрген Бэр каля гадзіны ночы ішлі па дарозе ў дзюнах ад Клемтаў, яны ўбачылі дзве адзінокія цёмныя постаці, што падымаліся з пляжа. Зняможана ступалі па пяску ногі, у

знясілена звіслых руках матляліся туфлі.

Ціфенбах здзіўлена спыніўся, назіраючы, як ён гэта любіў рабіць, з ценю куста ў чалавечы рост.

Бэру адна постаць здалася вельмі знаёмай. Каб не напалохаць іх. Ён стаў пасярод дарогі, чакаючы запозненых пляжніц.

І вось яны спыніліся перад ім, крыху напужаныя, але занадта змораныя, каб адклікнуцца нейкім гукам.

— Няўжо? — сказаў Бэр і ўклаў у гэта кароткае слоўца сваё здзіўленне і лёгкі заклапочаны дакор, які можа сабе дазволіць старэйшы брат з малодшай сястрой.

Калі Эва пазнала яго, яна імпульсіўна прабегла некалькі крокаў, раскінула рукі і кінулася яму на шыю. Яе лёгкія туфлі з разгону стукнуліся па яго плячах і з лёгкім шумам упалі на пясок.

У яе парывістым жэсце было нешта хвалюючае. Юрген Бэр, крануты, падхапіў дзяўчыну. Што з ёй? Зусім нядаўна, на пляжы, яна ўхілілася ад яго. Мусіць, яна прайшла вялікі шлях. У двайным сэнсе.

Марліс убачыла, павольна падыходзячы бліжэй, як Ганс Ціфенбах выйшаў з ценю. Калі Эва адступіла ад Юргена — яна толькі на секунды адчула гузікі яго грубага пінжака — і азірнулася на сяброўку, Ціфенбах стаяў побач з Марліс. Ён з'явіўся, як прывід. Эва паводзіла сабе, як дзіця, незразумела для іншых. Яна нагнулася, каб падняць туфлі, не затрымалася нават, каб абуцца, а босая пабегла па камяністай дарозе да дома Зэештэрн. Уцякачка не звярнула нават увагі на вокліч Марліс: «Эва, пачакай, пойдзем разам!» Ні разу не азірнуўшыся, яна схавалася ў цёмным доме.

Ніводзін з тых, хто застаўся, не здагадваўся, што ўвесь апошні тыдзень, да гэтага дня, яна хацела пачуць хоць слова, хоць тэлефонны званок ад Ганса Ціфенбаха. Навошта было б тады запрашэнне ў Свінемюндэ! Цяпер, калі яна вярнулася адтуль, зняважаная, як ненавісная істота. Ён з'явіўся нібы з-пад зямлі.

— Што з ёю? — спытаўся Юрген Бэр.

Ганс Ціфенбах адвярнуўся, ламаючы галінкі з кустоў. Марліс ціха сказала:

— Яе пакрыўдзіла былая сяброўка. Яна цалкам выбіта з раўнавагі.

— Скажыце, яе бацька мае якое-небудзь дачыненне да таго, што здарылася? — няўпэўнена пацікавіўся Бэр.

Марліс адразу зразумела.

— Мае. Цяпер я пайду да яе. Дабранач.

Мужчыны павольна пайшлі далей. Бэр засмяяўся з горкай насмешкай:

— Гэта — адна з ахвяр міфавай тэрапіі фраў Клемт. Раса як найбольшая каштоўнасць характару. Сапраўды варварскі фетыш.

Ціфенбах быў моцна ўражаны паводзінамі Эвы. Пасля імпульсіўных абдымкаў Бэра яна напалохана ўцякла ад яго, Ціфенбаха. Як гэта было ўзаемазвязана з сённяшняй знявагай? Ён не знайшоў адказу, толькі адно стала ясна: дзяўчына ўвесь час сустракалася яму ў сітуацыях, след ад якіх надоўга заставаўся ў яго душы. Спачатку гэта было ў Бодэнхаўзе, потым прагулка на яхце, дзень на астраўку, а цяпер казачна нечакана на начным пляжы. І разам з непаўторнасцю гэтых нязвыклых сітуацый у яго думках незабыўна жыў яе вобраз...

Юрген Бэр, здавалася, быў ёй бліжэй па духу. Каб правільна зразумець гэту дваццацігадовую Эву, трэба было адкінуць прадузятасць.

Бэру ён хацеў адказаць, што яму шкада Эвы, але не здолеў. Слова «спагада» не стасавалася да яе. Ён сказаў:

— Дзяўчына — незвычайная.

Хоць гэта і не было непасрэдным адказам на словы Бэра, але той яго зразумеў.

## 7
## ПОЗНАНЬ

Эва ехала на ўсход, у тую вобласць, якая яшчэ тры гады таму назад была аддзелена ад Германіі шлагбаумам. На палітычнай карце ў яе школьным атласе яна была на тэрыторыі, зафарбаванай цёмна-чырвонай фарбай, на якой было напісана «Польшча» і якая вельмі выразна адрознівалася ад афарбаванага ў блакітнае «Германскага рэйха». Цяпер гэту тэрыторыю называлі «Рэйхсвартэгаў».

Праз рэкі, якія перасякала Эва, за апошнія гады на машынах і па чыгунцы былі перавезены мільёны салдат, здаровых і параненых, з надзеяй і ў адчаі. Сярод іх быў і Хартмут Ведэльштэт. Эва рэдка думала пра яго. Цяпер, калі набліжалася Польшча, а яна рыхтавалася да сустрэчы з маці, айчымам і зводнай сястрой Штэфі, Хартмут падступаў да яе пагражальна блізка. Яна павінна будзе адказаць Густлю Швентмайру, бо ў сваіх кароткіх пісьмах яна настойліва абыходзіла гэта маўчаннем.

Поезд быў поўны. Эва стаяла ў праходзе сярод цывільных. Швентмайр аднойчы гаварыў, што былую правінцыю Познань трэба «германізаваць». Людзі, што ехалі, відаць, неяк былі звязаны з гэтым працэсам.

У канцы вагона скорага поезда стаяла некалькі чалавек, з арганізацыі Тота каля сваіх рукзакоў. Адзін свістаў. Эва паспрабавала

сабраць урыўкі гукаў і пазнала мелодыю «На Усход, на Усход наш паход». Яна чула гэту песню часта і ў Лангенбруку; яе спявалі школьнікі і члены гітлер'югенда. Дзядуля смяяўся з гэтых аматараў паходу на Усход. Гэта было задоўга да вайны. Цяпер яны атрымалі яе, «новую зямлю».

На вакзале ў Познані стаяла Штэфі. Прыгожая, ласкавая і - радасная, крышачку разгубленая, як заўсёды, калі яна доўга не бачыла сястры. Ішоў дождж, на вакзальнай плошчы стаялі лужыны.

— Возьмем фіякр, — прапанавала Штэфі. Пад гэтым яна разумела маленькія бразгатлівыя дрожкі. — На Швертфегерштрасэ. Едзьце каля тэатра, — сказала яна барадатаму еіваіму старому на козлах. Паляк зразумеў, і яны абедзве палезлі ў адкрытую чатырохмесную каляску.

Эва толькі раз некалькі дзён была ў Познані. Гэта было з год таму назад. Ёй прыпомніўся размяклы снег і халодная кватэра. За гэты час бацькі пераехалі.

— Цяпер у нас цудоўна, — сказала Штэфі.

Калі яны праязджалі каля тэатра, яна паведаміла што рэгулярна ходзіць з Рольфам Кюперсам на спектаклі. Ён у Познані на афіцэрскіх курсах. Вялікае шчасце для іх абаіх. Бацьку ён таксама падабаецца

Эва ведала цяпер прычыну спакойнай вясёласці што випраменьвала ўсёй істотай Штэфі. У яе значыць усе было ў парадку. Працоўнай павіннасці, якая для Эвы была з цяжкасцю адваяванай жыццёвай неабходнасцю, для Штэфі не існавала. Любая праца на польскай тэрыторыі раўнялася працы на Усходзе Швентмайр дамогся сваёй дачцэ выдатнай пасады на біржы працы. Праязджаючы міма, Штэфі паказала на вялізны адміністрацыйны будынак.

— Вось тут я працую.

— Што ты там робіш?

— Я ўпаўнаважаная па працы. Мы пастаўляем рабочую сілу.

— Куды?

— Паўсюды. Ва ўвесь рэйх.

— Няўжо тут так шмат лішніх людзей?

— Дзівачка! Я ж гавару пра палякаў.

Штэфі звярнула ўвагу Эвы на замак. Фасад хаваўся за густой рашоткай рыштаванняў. Эва прыпомніла, што бачыла ўжо гэтыя рыштаванні год таму назад.

— Замак будзе цалкам перабудаваны, — паведаміла Штэфі. — Фюрэр будзе жыць тут штогод тры-чатыры тыдні. Нешта накшталт усходняй рэзідэнцыі. Я лічу, што гэта шыкоўна. Кожны вялікі ўладар павінен мець нешта падобнае.

— Але ж не ў разгар вайны.

— Гэта павінна быць закопчана да свята перамогі. Густль кажа: свет павінен убачыць, што вайна зусім нас не аслабіла. Фрыдрых Вялікі рабіў таксама. Пасля Сямігадовай вайны ён пабудаваў вялізны палац у Патсдаме.

Яны звярнулі на Швертфегерштрасэ. Гэта была ціхая вуліца, сур'ёзныя, дыхтоўныя рады фасадаў і дагледжаныя кветнікі перад імі дыхалі высакароднай, патрыцыянскай стрыманасцю.

Калі Штэфі загадала фурману спыніцца перад светла-вохрыстым домам, на першым паверсе закалыхалася фіранка ў лоджыі. У працягнутую левую руку старога фурмана Штэфі адлічыла плату за праезд. Твар старога не паказаў ніякага пачуцця, калі ён хаваў у кішэню грошы.

Эва ўзяла чамадан. На яе забрахаў сабака. У дзвярах дома стаяла жанчына, а побач з ёю аўчарка.

— Мама! — Эва хуценька пайшла да яе, гатовая абняць.

— Заходзь спачатку, — сказала маці. — Не перад гэтымі людзьмі.

Кватэра была абстаўлена амаль пышна.

— Адкуль у вас так шмат дываноў? — спыталася Эва.

Яна прайшла па пяціпакаёвай кватэры, па добра падагнаным паркеце, па тоўстых дарожках і мяккіх дыванах.

— У першыя часы іх тут можна было купіць вельмі танна. — Густль Швенпмайр прамовіў гэта з прыхаваным гонарам уладальніка. Ён толькі прыйшоў з працы, пераапрануў карычневы форменны мундзір на цірольскую куртку у народным стылі і сядзеў, вольна адкінуўшыся ў глыбокім крэсле. Крытычна, як экзаменатар на экзамене ў артыстычным вучылішчы. Ён сачыў за паходкай і рухамі Эвы і радаваўся таму, як яна крок за крокам асвойвала новую кватэру.

Залатыя літары на вечцы раяля выдавалі польскую вытворчую фірму. За ампірнай шкляной вітрынай стаяў стары фарфор: таню-сенькія кубкі для кавы з багатай пазалотай і завіткамі, вытанчаная, вельмі стракатая мадонна і вазачкі пад кветкі на тонкіх ножках. Раней Эва ніколі не заўважала, каб маці цікавілася такімі рэчамі. На сценах віселі гравюры старой Познані. Польскія надпісы былі закрыты, часта даволі нязграбна, паспарту.

Усё; было нова для Эвы. І бухматая мяккая мэбля, і цяжкі разьбяны стол. Але не было ніводнай рэчы новай, толькі з фабрыкі, і ў Эвы з'явілася няёмкае адчуванне, быццам гэта мэбля заўсёды стаяла ў гэтых сценах і толькі змяніла гаспадароў.

— Вы ўсё атрымалі разам з кватэрай? — спыталася яна.

Швентмайр пацерабіў поўсць аўчарцы, якая ляжала каля яго на зялёным дыванку. Ён жартаўліва нагнуўся да сабакі.

— Нас прыпірае да сцяны адна вельмі цікаўная асоба, Цэзар. Трэба яе крыху адвучыць, каб шмат не пыталася, — Сабака завурчэў і ўстаў. Цяпер ён сядзеў, натапырыўшы вушы, каля гаспадара, нібы чакаў загаду. Але Швентмайр быў настроены вельмі зычліва.

Стройная чарнявая дзяўчына надзвычайна падабалася яму. Яна стала больш сур'ёзная за апошнія паўгода, да таго ж нейкая больш жывая, свядомая. Уважлівы позірк вачэй не ўпускаў нічога.

Швентмайр устаў і адчыніў бакавыя дзверы цяжкай разьбяной кніжнай шафы. У шуфлядах ён трымаў свае запасы. Добрыя сігары, каньяк, некалькі бляшаначак кансерваванага мяса, фрукты, спаржа. Некалькі кавалкаў туалетнага мыла ўзвышаліся на скрутку шарсцяной тканіны ў шуфлядзе. Да яго была прыціснуў каробка з-пад абутку. Швентмайр любіў час ад часу здзіўляць сваіх блізкіх сюрпрызамі. Ён замыкаў ад іх свае скарбы, каб пры выпадку можна было сыграць ролю велікадушнага. Тэмпераментная радасць Штэфі і прыхаванае любаванне яго арганізацыйнымі здольнасцямі з боку Люсі ўмацоўвалі ў ім пачуццё самаўпэўненасці. Сёння ён вырашыў расшчодрыцца і перад Эвай. Дзяўчына, якая так спадабалася яму пятнаццацігадовай спартсменкай у трэніровачным касцюме, з маленькімі цвёрдымі грудзьмі падлетка, атрымае цяпер касцюм па мерцы, які сціпла падкрэсліць яе формы. За час працоўнай павіннасці яна вырасла са сваіх рэчаў і насіла нават матчыны перашытыя сукенкі па прынцыпе «з дзвюх зрабі адну». Толькі дзякуючы прыгожай фігуры яна выглядала ў іх някепска. Калі Швентмайр з-пад адрэза касцюмнай матэрыі выцягнуў сінюю шэрсць у рысачку. Ён задаволена падумаў: «Не кожнаму даводзіцца апранаць трох прыгожых жанчын». Ён разраўняў тканіну і адшукаў падкладку і цырату. «З часам гэта, праўда, стала дорага. Пра Штэфі скора будзе турбавацца яе лейтэнант. Крыху настырны гэты Кюперс, але хлопец што трэба. Вайна яму яшчэ, напэўна, абломіць рогі». А Эва? Ён пераступіў, перакінуўшы тканіну праз руку, амаль урачыста праз парог сталовай.

— Ты з'явіўся і стаіш, як Дзед Мароз, — непачціва сказала Штэфі. — Калі што прынёс — садзіся, — працытавала яна дзіцячы вершык.

Швентмайр нібы не заўважыў дзёрзкасці малодшай. Ён глядзеў на Эву, якая гладзіла гальштучны шоўк.

— Не, — сказаў ён, — белая блузка будзе глядзецца лепш. Пад касцюм. — Тут ён, праўда, адчуў, што ўрачыстаць яму не вельмі пасуе, і абы-як кінуў тканіну на стол. — Падыдзі, паглядзі.

— Цудоўна, — сказала Эва, любуючыся. — Гэта мне?

Швентмайр ведаў яе манеру радавацца. Яна была менш экзальтаваная, чым Штэфі, якая выказвала пачуцці бурна. Эва прымала падарунак спакайней, але і грунтоўней.

— Я, праўда, хацеў аддаць табе матэрыю крыху пазней, але цяпер у цябе ёсць выдатная магчымасць заказаць сабе касцюм. — Яго ўсхвалявала, калі яна, дзякуючы, палажыла рукі яму на плечы, і на момант яе твар быў вельмі блізка ад яго.

— Ты добры, Густль, — сказала яна. Выцягнутымі губамі яна пацалавала яго ў шчаку.

«Яна ўжо не такая дзікунка, як была», — узрадавана падумаў ён. Ён не заўважыў, якім беглым быў яе дотык.

— Падбяры сабе фасон, які б не так хутка выйшаў з моды. Я вельмі хачу, каб у гэтым касцюме ты пайшла з Ведэльштэтам пад вянец.

У Эвы тканіна ледзь не выпала з рук. Добра яшчэ, што Штэфі якраз прымярала яе.

— Павярніся! — хутка скамандавала малодшая. Яе твар быў перад самай Эвай. Нібы заклінаючы, яна глядзела на старэйшую сястру.

«Хай сабе гаворыць», — гаварыў яе позірк. Не выдаючы сабе спешкай, Штэфі сказала:

— З гэтага трэба пашыць касцюм класічнага крою. На што іншае шкада тканіны. Войке зробіць выдатна. Заўтра пойдзем да яго.

Эва з палёгкай паехала па наезджанай дарожцы бяскрыўднай тэмы.

— У мяне ж толькі восем дзён водпуску. Ці паспее кравец пашыць так хутка?

— Калі трэба будзе, пашые і за тры дні, — сказаў Швентмайр.

— У Цыновіцы трэба чакаць тры-чатыры месяцы.

Маці ўсміхнулася з наіўнасці дваццацігадовай дачкі.

— Тут жа польскія краўцы. Гэта вельмі выгадна. Нашым - рамеснікам трэба было б павучыцца ў іх. І дзешава!

— Ну, ну, Люсі, не рабі прапагандысцкіх прамоў за палякаў! — Швентмайр заўважыў, што прапорцыі парушаюцца. Для Эвы кожнае слова тут мела значэнне. — Кроіць яны ўмеюць, — згадзіўся ён. — Да таго ж яны старанныя і недарагія, а калі прыходзім мы яны варушацца. Дык за колькі дзён загадаеце, шаноўная фройляйн, пашыць вам касцюм?

Надвор е палепшылася, але не настолькі, каб у Люсі Швентмайр з'явілася ахвота пахадзіць з дачкой па горадзе, і пакуль Штэфі была

на працы, Эва хадзіла адна.

Познань была дзіўным горадам. Дзіўным не з пункту гледжання архітэктурных асаблівасцей, а людзьмі якія жылі тут. Эва мала дзе бывала ў сваім жыцці Яна не бывала у гарадах міжнароднага значэння У Познані яна пазнаёмілася з тым, пра што толькі чула.

Нахабна і фанабэрыста паводзілі сябе афіцыйныя прадстаўнікі германскага рэйха, якія павінны былі кіраваць і шыкоўна ўпрыгожваць Познань — «вітрыну Усходу». Іх самымі прыкметнымі поспехамі былі рэканструкцыя замка і вялізная гасцініца «Остланд».

Пад сваю асаблівую апеку гэтыя высокія партыйныя і адміністрацыйныя ўстановы ўзялі ўсіх тых балтыйскіх немцаў, якія перасяліліся на захад далей ад «чырвонай пагрозы»; іх закаранелая нянавісць да рэвалюцыйнай Расіі служыла найлепшай візітнай карткай для познанскіх улад. Антыбальшавізм быў важны на вайне. Балтыйскія немцы дапамагалі распальваць яго. Яны і мелі перавагу ў атрыманні кватэр, пасад, ільгот.

Асаблівае становішча, якое абяцаў Усход, стала вялікай прынадай для тысяч сем'яў. Сярэдні гарадскі чыноўнік, які пасля года пражывання ў Познані не быў кіраўніком аддзела, а яшчэ праз год не меў тытула «ўрадавага саветніка», не зразумеў прыкмет часу. Зрабіўшы ранішнюю прагулку на кані, на службовай Машыне ехалі на працу. Восенню палявалі ў багатых лясамі наваколлях. Тэатр па якасці не ўступаў сцэнам сталіцы рэйха, а вайскоўцаў было так шмат, што палякам нічога не заставалася, як паводзіць сябе спакойна. «Вартэгаў» са сталіцай у Познані была вялізным тылам Усходу, рэзервуарам «незаменных служачых». Хто раз трапляў туды, правільна рабіў, калі ўносіў свой уклад у праслаўленне магутнасці і прыгажосці рэйха. Да «дранга нах остэн» адносіны былі пачцівыя. Бюргер далей свайго носа нічога не бачыў. Яго «фарпостам» быў камфорт.

Панурыя і горш апранутыя, чым нямецкія заваёўнікі, на вуліцы прабіраліся, туляючыся, сапраўдныя гаспадары горада. У Эвы было пачуццё, быццам палякі — парода людзей, якая на галаву ніжэйшая за яе землякоў. Сярод статных ганарыстых ваенных курсантаў усіх родаў войск, эсэсаўцаў, шыкоўных імклівых дзяўчат працоўнай павіннасці асабліва вылучаліся старыя жанчыны і мужчыны, што з падрапанымі сумкамі цярпліва стаялі ў чэргах пад магазінамі. Маладых палякаў днём на вуліцах амаль не было відаць.

Кравец Войке быў невысокага росту, гадоў пяцідзесяці, маўклівы і памяркоўны. Моўчкі ківаючы. Ён пагадзіўся, калі Штэфі паведаміла яму пра тэрміновасць заказу. Адчуванне няёмкасці падкралася да Эвы, калі яна падумала аб тым, як паляк разглядаў тканіну. Яго

позірк за беднымі акулярамі на дроціках выпрабавальна рэзка кальнуў яе.

«Ён ведае, адкуль гэта тканіна. Ён пазнаў яе», — падумала яна са страхам і адчула, як чырвань сораму залівае шыю…

Але яна не хацела больш думаць пра гэта, ёй быў патрэбен касцюм.

— Ты зверху вельмі развілася, — сказала ёй маці ўчора, калі ўбачыла сваю дачку перад люстэркам у аднабортным габардзінавым пінжаку, які разыходзіўся на грудзях. Тканіна на касцюм праглынула б усю картачку на тавары, а яшчэ ж патрэбны былі і панчохі, і бялізна. Калі што перападала дадаткова, трэба было браць. А Густль быў нядрэнны хлапец. У яго, відаць, былі свае крыніцы, дзе ён мог даставаць тканіну і прадукты, не прыносячы нікому шкоды. Эва ведала, што дзеля яе ён тое-сёе паставіў на карту. Калі б ён не быў такі заслужаны стары змагар — зямляк Гітлера, яму не далі б так высока ўзняцца. Аднойчы яна спыталася ў яго, чаму ён усё гэта робіць для яе. «Ах, ты ведаеш, — сказаў ён, — яўрэі не такія ўжо ворагі нам. Яны ўмеюць прыстасоўвацца. А змяшанне рас — яшчэ далёка не вырашаная праблема. Другая справа — камуністы! Вось хто дзяржаўны вораг нумар адзін! Іх трэба асцерэгацца».

Калі Эва прыйшла дамоў з прагулкі, яна сустрэла толькі служанку-польку Гільду. На пытанне Эвы дзяўчына коратка адказала, што шаноўная фраў пайшла да цырульніка.

Дваццаці гадовая Гільда бегла гаварыла па-нямецку. Нягледзячы на гэта з яе нельга было выцягнуць нават некалькіх сказаў. Яна сядзела на кухні і церла нейкі шэра-жоўты корань.

— Што гэта? — спыталася Эва. Ёй хацелася пагутарыць з дзяўчынай.

— Пастарнак.

— Гэта па-польску?

— Не.

— Можна чаго-небудзь выпіць?

— Можна.

Гільда прынесла бутэльку з шафы і шклянку, Эва нюхнула.

— Гэта ж алкаголь.

— Ага.

Эва са смехам адмовілася.

— За каго вы мяне прымаеце?

— Вы ж сказалі, што хочаце выпіць. Вы павінны былі сказаць: хачу піць.

— Ага! Вам вядомы такія тонкасці нашай мовы?

— Амаль усе палякі ў Познані ўмеюць гаварыць па-нямецку.

— Як вы называеце, Позэн?

— Познань.

— Познань! — Эва паспрабавала вымавіць мяккі гук «н». Назва дзякуючы «а» гучала больш звонка, чым нямецкае слова.

Імпульсіўна яна спыталася:

— У вас ёсць дома нямецка-польскі слоўнік? — Полька пазірала на яе са здзіўленнем. — Я вельмі цікаўлюся мовамі, — растлумачыла ёй Эва.

Гільда крыху ажывілася.

— Дома ў нас цяпер няма кніжак. Застаўся толькі мой польска-французскі слоўнік.

— Французскі? Вы гаворыце і па-французску?

— Я вывучала раманістыку, калі...

Эва здагадалася, што азначала запінка. Яна разгубілася і адначасова адчула, што яе моцна пацягнула да дзяўчыны.

— Вы закончылі вучобу?

— Не.

— Кім жа вы хацелі стаць?

— Настаўніцай французскай і нямецкай моў.

Эва прымоўкла. Гільда тактоўна вярнулася да просьбы Эвы.

— У вашага бацькі ёсць польскі слоўнік. Ён дасць вам яго.

— Шчыра кажучы... — Эва памарудзіла, — я не хацела б яго прасіць.

— Вы можаце лёгка дастаць самі. Ён стаіць за шклом у кніжнай шафе. Я пакажу вам.

Перад шафай у пакоі гаспадара Гільда пастукала пальцам па вялікай шыбе. З самага боку стаяў, заціснуты паміж календаром паляўнічага і даведнікам пра тутэйшых балотных і вадзяных птушак, кішэнны слоўнік.

— Вось ён.

— Дзякую. Мне трэба адразу паглядзець. Ці вы мне скажыце? Што значыць «пшэклентэ шкопы»?

Твар Гільды замкнуўся.

— Нашто вам ведаць якраз гэта?

— Я пачула сёння на вуліцы.

Званок пазбавіў Гільду ад неабходнасці адказваць. Яна хуценька выйшла з пакоя.

«Штэфін барабаншчык» — так у думках Эва называла Рольфа Кюперса. Калі яна аказалася побач з ім у фае тэатра, дзе ён чакаў дам, яна, як і тады ў Берліне, узрадавалася, убачыўшы яго прыгожы

адкрыты твар. Ён стаў больш упэўненым у сабе і рабіў выгляд, што пасміхаецца з усіх і з усяго.

Яны разам глядзелі «Дон Карласа», а потым прагульваліся ўздоўж замкавага двара.

— Сір, дайце волю думкам! — цытаваў ён з пафасам маркіза Позу, каб адразу ж перайсці на непачцівы тон падлетка-гарэзы: — Прыгожа сказаў гэты Шылер, праўда? — Ён уяўна бестурботна засмяяўся і бесцырымонна падхапіў спадарожніц пад рукі.

Эва падумала, што полька Гільда вельмі добра валодала нямецкай мовай і калі яна збіралася выкладаць яе, то, напэўна, ведала Гётэ, Шылера і яго «Дон Карласа». У тэатры, дзе ставілі Шылера, вісела шыльда з надпісам: «Палякам уваход забаронены».

— Ну што скажаш пра нашу ўсходнюю метраполію? — Рольф, падбадзёрваючы, пацiснуў Эве руку. — Шаноўнейшая, здаецца, задумалiся.

— Прыгожы горад.

— Справядліва, хоць і не нова. Як вядома, стварыць нешта прыгожае могуць толькі немцы, значыць: гэты горад такі ж нямецкі, як Берлін або Мюнхен, значыць: славянскія недачалавекі нічога тут не згубілі, значыць: мы тут паўнапраўныя гаспадары.

Штэфі незадаволена пакруціла галавой.

— Навошта гэта ўсё, Рольф?

— Дзіця маё мілае, для такіх навічкоў, як Эва, важна ведаць па меншай меры хоць бы азы таго, што мы з дня ў дзень жуем у нашым лейтэнанцкім універсітэце. Інакш на кожным кроку тут яе нешта будзе здзіўляць. Па сакрэце, — ён прыцягнуў Эву да сябе, — калі пасля курсаў мяне пашлюць адразу на перадавую, я спачатку перапраўлю Штэфі назад дамоў у рэйх.

Такога тону Эва не чакала ад Рольфа.

— Няўжо ў будучага лейтэнанта ўжо цяпер смыляць пяткі? — пакпіла яна. — А што гаворыць наконт гэтага амтсляйтэр Швентмайр? Яму ў зяці патрэбен герой, а не... — яна стала шукаць не вельмі жорсткае слова.

Штэфі лёгка ўздыхнула і звярнулася да Эвы:

— У апошні час Рольф бачыць усё ў чорным колеры, нават калі на дні бываюць тры спецыяльныя паведамленні.

Рольф прыпыніўся каля парэнчаў на мосце. Перад імі ўзвышаўся замак з рыштаваннямі на фасадзе, вялізны і таямнічы, як веліканка, якая сарамліва хавае твар за груба сатканым вэлюмам.

У маладога салдата прапала ўсякая ахвота жартаваць.

— Наконт геройства — справа такая, — сказаў ён. — Калі шалё-

ная адвага нараджае героя, тады самы подлы ўзломшчык — герой. Ён жа нечым рызыкуе, ставіць на карту волю і жыццё. Чаго вам яшчэ трэба?

— У цябе дзіўныя параўнанні. — Штэфі размова не падабалася.

Рольфу прыйшла новая думка. Ён кіўнуў на замак.

— Вы палезлі б наверх на рыштаванні, каб вам хто-небудзь загадаў? На самы верх, да балюстрады, проста так, каб паказаць, што вы гэта можаце? — Дзяўчаты адказалі адмоўна. — А калі б там наверсе бездапаможна стаяў чалавек, магчыма, дзіця, якое само не магло спусціцца ўніз, ці адважыліся б вы?

— Несумненна, — сказала Эва, не думаючы.

— Тады гэта мела б сэнс, — дадала Штэфі.

Рольф нічога не сказаў. Ён, здавалася, задумаўся. Яны павольна ішлі далей.

Праз нейкую хвіліну Штэфі сказала, скардзячыся:

— Рольф увесь час гаворыць, што барацьба нашых салдат не мае сэнсу. Нам наогул нельга было пачынаць вайну. Як быццам у гэтым нехта вінаваты! Калісьці ў школе настаўнік нам казаў, што войны з'яўляюцца заканамерна, а то людзі зазнаюцца.

— Нешта падобнае вучылі і мы, — памарудзіўшы прызналася Эва.

Жыва, але прыглушаным голасам, Рольф перабіў:

— Я вам скажу, што заканамерна: усе заваёўнікі гінуць ад сваіх заваёў. Аляксандр Вялікі, Напалеон...

— Ты звар'яцеў, Рольф... а як хто пачуе! — Штэфі, заклінаючы, прыціснула яго руку.

Але Рольф настойліва і ціха гаварыў далей:

— Іх імперыі развальваюцца, як толькі няма жалезнага кулака. Можна пагартаць кніжкі па гісторыі і з гэтага пункту гледжання. Гэта надзвычай цікава, і раптам усё прымае зусім іншы выгляд... Я нядаўна паспрабаваў уявіць сабе, што я француз, які любіць сваю зямлю, як мы сваю. Я ператварыўся ў яго і вельмі хутка пераканаўся, што толькі «нам, французам» адведзена кіруючая роля ў Еўропе. Франкская імперыя пры Карле Вялікім адзінаццаць вякоў таму назад дасягала да Эльбы. Кёльн быў у глыбіні краіны, як і Парыж, а Аахен быў яго царскай рэзідэнцыяй. Любы школьнік вучыць у школе: Карл быў фанкскім імператарам! А сёння! Сёння немцы, пра якіх у той чес і гаворкі не было, не хочуць аддаць нам нават Эльзас-Латарынгію.

— Але ж гэта ўсё вельмі памылкова, Рольф! — Штэфі ледзь не плакала.

— Канечне, гэта памылкова, гэтаксама памылкова, як наша

сцвярджэнне, што правінцыя Познань — карэнне нямецкая зямля.

Яны стаялі перад домам Швентмайра. Рольф звярнуўся да Эвы:

— Ты хоць раз бачыла палякаў зблізку, адчувала іх позіркі? Тут нешта копіцца! Гэтага нельга выгнаць ні шомпаламі, ні прыгожымі словамі. Гэта — нянавісць, якая сядзіць у тысячах душ і расце з кожным днём.

Эва слухала, і яе здзіўленне расло. Яна ведала Рольфа як бесклапотнага мілага юнака. Калі ён сутыкнуўся з Хартмутам, у яе ўпершыню з'явілася думка, што гэты былы фюрэр гітлер'югенда не так ужо слепа верыў у фюрэра, жывучы адным днём. За апошнія месяцы ён сфармаваўся яшчэ больш.

Яна ціха спыталася ў яго:

— Калі ў цябе з'явіліся такія думкі?

— Я ўжо даўно думаю пра ўсё такое. Але калі ў афіцэрскай школе мы пачалі гаварыць пра гісторыю, шмат што праяснілася. Канечне, нам падносяць гісторыю, як ім выгадна, але паралелі напрошваюцца самі. А мы, дзякаваць богу, яшчэ не ўсе ператварыліся ў пешак. Т©й, хто, як я, пабываў у акопах на пярэднім краі, бачыць, што ёсць на самай справе. Бруд і вошы, і ніякай змены, і дзень і ноч ніякага спакою, і зноў наперад: заваёўваць, заваёўваць, заваёўваць! А навошта? Каб ён мог пабудаваць сабе яшчэ адзін раскошны замак на Волзе, а таўстун мог паляваць на дзікоў у рускіх лясах?

«Ён гаворыць амаль як Юрген Бэр,— падумала Эва,—Толькі прасцей, больш па-хлапечы».

— Ты ж быў фюрэрам у гітлер'югендзе. Табе не карцела пайсці ў паход на Усход?

— Канечне, карцела. З фанфарамі і пад барабанны бой.

— Няўжо ты раззлаваўся на фюрэра, як толькі цябе паслалі на фронт?

— Не. Як толькі пахіснулася мая вера. Я лічыў яго шчырым чалавекам. Потым ён заключыў пакт аб ненападзе з Расіяй. Я гэтага не зразумеў. Навошта нам убівалі нянавісць да бальшавікоў? Потым я даў пераканаць сябе, што гэта трэба, каб жыць у міры. Я згадзіўся. Але скора, тым не менш, пачалася вайна, і дагавор быў парушаны, як яго і не было. Адзін мой дзядзька — юрыст. Вельмі карэктны стары. Ён хацеў і з мяне зрабіць юрыста. Я ўжо тады даведаўся ад яго, што дагаворы паміж людзьмі патрэбны на тое, каб падтрымліваць грамадскі парадак. Яны недатыкальныя і свяшчэнныя. А якое іх значэнне ў жыцці народаў! Кожнага, што парушае звычайны гандлёвы дагавор, мой дзядзька называў падманчшыкам. Потым ён паказаў мне яшчэ шмат тухлых яек у нашай саюзніцкай палітыцы. Калі б звычайны

чалавек так вольна абыходзіўся з дагаворамі. Ён на некалькі гадоў сеў бы за краты. Мой дзядзька казаў, што і паміж дзяржавамі цывілізаванага свету тыя самыя законы, і ўсякае парушэнне адпомсціць за сябе... Вось з чаго пачалося, і тады прыйшоў канец маёй наіўнай веры. З такім цяжарам я адправіўся на вайну супроць Расіі. А цяпер, замест таго каб верыць, я намагаюся разабрацца.— Ён падаў Эве руку.— Мне трэба ісці.

Штэфі ўжо спіной адчыняла дзверы.

— Ты нават не зайшоў да нас.

— Я якраз у тым настроі, каб спаткацца з тваім бацькам,— горка пажартаваў ён.— Дабранач, любая: — Ён абняў яе. Яна адхіліла яго, але гэта, здавалася, не засмуціла яго. Насуперак усяму ён быў у ёй упэўнены. Яна была мяккая. Яе яшчэ можна ляпіць.

Па зацемненай лесвіцы Штэфі падымалася наперадзе сястры. Яна ішла павольна, амаль цяжка. У канцы лесвіцы яна спынілася і павярнулася. Яе словы прагучалі, як просьба прабачыць:

— Рольф можа быць і іншым. У нас дома ён бывае вельмі вясёлы. Я не ведаю, што найшло на яго сёння.

— Ён шмат думае,— адказала Эва.— А гэта добра.

— Я не ведаю. Такія думкі вельмі небяспечныя. Ты толькі ўяві, што ён мае рацыю, што нам усім зноў прыйдзецца адсюль выязджаць. Пакінуць усё — кватэру, рэчы...

## 8
## «ЁНАСТАГ»

Была субота папалудні — час закрыцця ўстаноў. Перад вялікім будынкам біржы працы Эва чакала Штэфі. Яна прыйшла зарана, і цяпер трэба было пачакаць. Як і яна, каля сцяны дома чакала жанчына ў гадах, закручаная ў вялікую хустку, з хатулькам у руцэ. Яна, відаць, была вясковая. Калі жанчына на некалькі крокаў падышла да ўваходу, Эва заўважыла, што яна моцна кульгае.

«Каго яна чакае?»— падумала Эва. Тое, што яна была полька, відаць было адразу. У маці Гільды былі падобныя рысы твару. Яна пазнаёмілася з пані Дамброўскай некалькі дзён таму назад. Высокая жанчына з порыстым азызлым тварам прыйшла, каб пашыць Эве блузку. Яна шыла ў маленькім пакойчыку побач з кухняй, дзе стаяла швейная машынка і спала Эва. Незвычайна жывыя вочы на пласкаватым твары ў пажылой жанчыны стваралі рэзкі кантраст з мажнасцю цела... Такая была маці Гільды. Яна ўважліва разгледзела Эву і параіла ёй вельмі модны фасон. Яе парада сведчыла пра густ,

якога цяжка было чакаць, гледзячы на яе ўласнае паношанае адзенне.

Эва тады прысела каля яе зацыраваць панчохі. Паступова, ветліва і з чыстай душой адказаўшы на назіральныя позіркі полькі, яна пачала размову. Дакорлівы тон, які спачатку адчуваўся ў словах фраў Дамброўская пачаў знікаць, калі яна адчула спагаду ў маладой субяседніцы. На ламанай нямецкай мове яна гаварыла пра лёс сваёй сям'і ў апошнія гады.

Яе муж быў аптэкар. У іх была аптэка ў цэнтры горада. Гільда, студэнтка, якая гэтак жа захаплялася Віктарам Гюго і Анры Барбюсам, як і Лесінгам, Шылерам і Гётэ, была заручана з журналістам. Гэтыя двое маладых людзей, разумныя, адкрытыя свету, урослыя карэннем у родную зямлю, бачылі ў сувязі дзвюх традыцыйных заходніх культур шчасце сваёй краіны. Калі восенню 1939 года з агнём і мячом прыйшлі немцы, любоў маладога чалавека да багатай традыцыямі суседняй краіны перайшла ў фанатычную нянавісць. Ён зашмат дазваляў сабе, яго забралі, і з першай масавай адпраўкай ён паехаў на Усход. Аптэкара Дамброўскага забралі праз некалькі тыдняў з лабараторыі. Ён толькі і паспеў зняць белы халат. Пані Дамброўская была выселена з дома і разам з дачкой атрымала маленькі пакойчык у прыгарадзе Глогаў. Эве быў знаёмы гэты дом. Там жыў кравец Войке, на адным паверсе з імі. У кожнай кватэры сялілі па дзесятку і больш людзей.

— А за што забралі вашага мужа?— спыталася Эва з камяком у горле.— Ён жа не выступаў супроць, як Гільдзін жаніх?

— Не. Ён быў спакойны чалавек. Але яны падчысцілі амаль усю інтэлігенцыю: настаўнікаў, адвакатаў, многіх урачоў.

— Чаму?

Полька адкусіла нітку і з-за тканіны паглядзела сваімі вялікімі вачыма выпрабавальна Эве ў твар.

— Той, хто навучыўся думаць, можа стаць небяспечным. Гільда таксама зашмат думае. Мне гэта не падабаецца... Мне здаецца, што ў вас у галаве таксама Шмат думак. У наш час гэта нядобра. Цяпер застаецца Толькі спадзявацца і маліцца.

— У вас ёсць надзея, што ваш муж хутка вернецца?

— Я спадзяюся, што яго ўзяла хуткая смерць.

— Вы ўжо не верыце, што ён...?— Эва была ўзрушана: з якой вытрымкай полька несла непазбежнае! Колькі пакутных гадзін ёй гэта каштавала!

— Усе мы ведаем, што больш не ўбачым нашых блізкіх.

У Эвы не хапіла сілы спытацца, адкуль у жанчыны такая ўпэўненасць. Магчыма, гэта трываць ёй было лягчэй, чым думку, што

муж аддадзены на пакуту ворагу. Вораг! Што гэта такое? Яна сама — вораг, яна, Эва Леангард, якая лічыла, што шыльда: «Палякам забаронена» была адрасавана і ёй. Для сябе яна закрэслівала «палякі» і пісала «яўрэі». Такія шыльды майстравалі Ханке і Анэлізэ, а таксама — Хартмут Ведэльштэт і Густлевы таварышы па партыі. Усе яны былі немцы. Дамброўскія былі палякі.

«Дык хто ж мой вораг, — думала Эва, — або: чый вораг я? Магчыма, Гільды, якая маўчыць, думаючы, што я вывучаю іх мову, каб шпіёніць за яе землякамі? «Праклятыя нацысты»— вось што азначаюць тыя гнеўныя словы, якія не захацела перакладаць Гільда... Але ці не большы вораг я тым Ханке, якія адправілі б мяне ў лагер, калі б больш даведаліся пра мяне?.. Гэта як зачараванае кола, з якога няма выйсця. Пані Дамброўская мае рацыю: нельга вельмі шмат думаць... Вораг, вораг, вораг! А я не хачу быць нічыім ворагам. Я нічога нікому дрэннага не раблю, не бяру чужога. Я хачу толькі жыць. Густль гаворыць, што палякаў трымаюць у лагеры Аўшвіц. Ён гаворыць, што гэта неабходна, пакуль ідзе вайна, інакш яны могуць ударыць нашым салдатам у спіну. Магчыма, аптэкар Дамброўскі таксама там — жывы. За што яго было забіваць, аптэкара, які рыхтуе мікстуры і мазі, які карыстаецца латынню ў сваім рамястве, таксама як і аптэкар-немец, якому ні да чога больш справы няма, як толькі дапамагаць хворым?»

Эва вырашыла, што паслязаўтра, калі будзе забіраць касцюм у Войке, яна заскочыць на хвілінку да пані Дамброўскай і ўселіць у яе крышку надзеі.

Штэфі прымусіла сябе доўга чакаць. Эва ўжо больш як дзесяць разоў вымерала крокамі даўжыню вялікага дома. І полька была яшчэ тут, але тым часам яна знайшла сабе кампанію. З бакавога ўвахода выйшла шыракаклубая жанчына ў белым фартуху і ў белай поварскай шапачцы. Яна асцярожна азірнулася па баках, перш чым непрыкметна падазвала да сябе польку-сялянку. З клункам у руцэ, тая, што чакала, няёмка пакульгала да яе. Ходзячы туды-сюды, Эва пачула некалькі польскіх слоў. Як толькі яна падыходзіла, галасы заціхалі:

Эва якраз павярнула назад, калі з другога бакавога выхаду з'явілася маладая дзяўчына. На ёй было шырокае паліто, стракатая хустка і грубыя туфлі. Эва нейкі момант пастаяла перад самай дзяўчынай, якая азіралася, некага шукаючы. Яшчэ ніколі Эва не бачыла такога няўцешнага позірку. За ім хавалася душа без ніякай надзеі. Маланкава прамільгнулі ў яе памяці словы пані Дамброўская «Спадзявацца? Я спадзяюся, што яго ўзяла хуткая смерць». Так выглядала ўся надзея ў гэтых людзей.

Калі дзяўчына ўбачыла, што сялянка стаіць з паварыхай, яна павольна пайшла да іх. Яе паходка выдала ўсё. Яшчэ раней, чым яна паспела падысці, сялянка асунулася, садзячыся на свой скрутак з адзеннем, быццам ногі перасталі служыць ёй. Маладая дзяўчына і паварыха падхапілі яе і зноў паставілі на ногі. Дзяўчына пачала суцяшаць яе. Тады жанчына заплакала, яна ўсхліпвала амаль нягучна, сама сабе, з цяжкімі ўздыхамі, прыхіліўшыся спіной да сцяны і апусціўшы галаву ў завязанай хустцы.

Паварыха неспакойна паглядзела на дзверы. З галоўнага пад'езда біржы працы паасобку пачалі выходзіць служачыя, якія закончылі свой працоўны дзень: мужчыны з папкамі, дзяўчаты з сумачкамі. Паварыха, стрымана ўздыхнуўшы, хутка прытулілася шчакой да шчакі дзяўчыны, супакойваючы, пагладзіла жанчыну па рукаве і знікла ў бакавых дзвярах.

Сярод першага дзесятка тых, хто спяшаўся дадому, была Штэфі. Яна радасна замахала Эве.

— Зачакалася?— яна бадзёра падхапіла старэйшую пад руку.

Праз некалькі крокаў яны параўняліся з дзяўчынай-полькай, якая ўжо хацела ісці разам са старой жанчынай. Калі яна пачула за сваёй спіной голас Штэфі, якая размаўляла на аўстрыйскім дыялекце, яна прыпынілася і павярнулася. Яе патухлы, невыказна сумны позірк з дакорам затрымаўся на Штэфі. Тая маўчала. Яе вясёлы твар пасур'ёзнеў, на ім было лёгкае незадавальненне. Яна хацела прайсці міма, але Эва так моцна сціснула ёй руку, што аж забалела. У гэтым поціску было патрабаванне, ад якога яна не магла ўцячы.

Штэфі прыцішыла крок і павярнулася до полек.

— Гэта ваша маці?— спыталася яна ў дзяўчыны.

Маўклівыківок быў адказам. Адначасова дзяўчына адцягнула жанчыну на крок далей, каб тая, што пыталася, магла ўбачыць яе цяжкую кульгавую хаду.

Штэфі зразумела жэст. Яна, усхваляваная, закусіла ніжнюю губу. Сарамліва паціснуўшы плячыма, сказала:

— Мне вельмі шкада. Але я сапраўды нічога не магу зрабіць. Зразумейце.

Яны прайшлі каля пяцідзесяці метраў і два разы павярнулі, перш чым Эва змагла вымавіць слова. Штэфі таксама маўчала. Яна дастаткова добра ведала Эву, каб заўважыць, што тая чакае тлумачэння.

— Што здарылася з жанчынамі?— спыталася Эва.

— Гэта маці з дачкой. Яны з вёскі. Дзяўчына — яе завуць Ангела — павінна з'явіцца на зборны пункт.

— Які зборны пункт?

— Туды, дзе састаўляюць адпраўку рабочай сілы. Яе павязуць у рэйх.

— І яна заявіла пратэст?

— Ты дзівачка. Палякі не маюць права ні на якія пратэсты. Яна першая адважылася звярнуцца на біржу працы. Не магу ніяк уцяміць, як яна прабралася. Яна адразу знайшла адпаведны аддзел. Відаць, нехта знаёмы ёсць тут у яе, магчыма, качагар ці хто яшчэ. Ты нічога не заўважыла, пакуль маці чакала ўнізе?

— Не. Яна толькі кінулася мне ў вочы тым, што кульгае.

— Па гэтай прычыне дзяўчына і прыйшла. Яна кажа, што маці не можа без яе. Я дала сябе разжаліць і пайшла з дакладам да ўрадавага саветніка.

— Што ён сказаў?

— Ён вылаяў мяне за адно тое, што я наогул пусціла польку да дзвярэй. Што было б, калі б палякі ўбачылі, што ў нас ёсць слабыя месцы. Яны павінны моўчкі слухацца і нічога больш. Старая — ён меў на ўвазе маці — неяк ужо не памрэ.

— А калі памрэ — твой саветнік таксама не заплача,— дадала горка Эва.

Штэфі разгублена паглядзела на яе.

— Ну, і ён не такі. Але ў яго свае інструкцыі. Менавіта з дэпартацыямі патрабуецца асаблівая дакладнасць. Калі ён тут дасць паслабленне, яму і самому не нездаровіцца.

Эва няпэўна кіўнула. Штэфі мела рацыю. Тут кожны ўваходзіў у адзін вялізны механізм. Інструкцыі гаварылі — людзі маўчалі. Ці наадварот? Інструкцыі змаглі загаварыць, бо ўсё чалавечнае маўчала? Да трамвая, што ледзь цягнуўся, кінуўся натоўп людзей. Яны чапляліся за платформу перапоўненага прычэпа, таўхаліся і пралазілі ў сярэдзіну вагона, каб ніводзін з тых, хто чакаў, не застаўся на прыпынку. «Толькі для палякаў» было напісана на шыльдзе, умацаванай на відным месцы — у раме акна.

Без цяжкасці і таўхатні Эва і Штэфі знайшлі месцы каб сесці, у пярэднім вагоне. Яны не размаўлялі Эва глядзела ў акно. Яны ехалі праз горад, які выклікаў у яе душы дваістыя пачуцці. Ёй прыпомнілася Зігрыд, якая жыла ў Парыжы. Парыж належаў французам, а немцы яго (акупіравалі. А там — было гэтак жа, як і тут? Але ж Познань не лічылася акупіраваным горадам, Познань ужо далучылі да Вялікагерманскага рэйха. Рэканструкцыя замка, паляўнічы замак Герынга непадалёк ад возера Горка былі прыкметамі таго, што тут вырашылі застацца назаўсёды.

Колькі падзелаў Польшчы было ўжо ў гісторыі? Эва памятала гэта вельмі цьмяна, так, як ведаеш, што было некалькі Пунічных войнаў, не маючы ўжо ніякага ўяўлення пра іх сэнс і паслядоўнасць. Насупраць яе мужчына склаў аркуш газеты «Фёлькішэр Бэобахтэр» і пачаў пазіраць у вагон. На лаўцы побач сядзела маладая дзяўчына. Яна, відаць, была ў горадзе ўпершыню і ветліва спыталася ў свайго суседа, ці даедзе на гэтым трамваі да Ніжняй гары. Сусед, мужчына ў непрыкметнай шэрай тужурцы, пакруціў галавой. «Не,— сказаў ён,— другі напрамак». Ён гаварыў з цвёрдым акцэнтам, і здавалася, што знарок абыходзіцца самымі неабходнымі словамі.

Але дзяўчына, вельмі спалохаўшыся ягонай даведкі, не супакоілася.

— Як? Мне трэба ехаць назад?

— Лепш іншым маршрутам. Нумар шэсць.

— О, а дзе ж мне перасесці?

Мужчына занепакоіўся і хацеў маўклівым жэстам паслаць дзяўчыну да кандуктаркі, калі чалавек з газетай уголас закрычаў, так, каб яго пачулі ўсе пасажыры: «Тут паляк пралез». Пагрозліва і важна ён падняўся з месца, праціснуўся да чалавека ў шэрай тужурцы.

— Ты паляк, га?

Моўчкі, сціснуўшы губы, той сядзеў пад перакрыжаваным агнём позіркаў. Чалавек з газетай стаяў перад ім разгневаны, як абаронца гонару ўсёй нацыі. «Панам, мусіць, ужо не хапае спецыяльнага вагона, ці што?» Ён ухапіў паляка за рукаў і пачаў сцягваць з месца. «Дажыліся ўжо, каб сядзець з вамі на адной лаўцы!» Ён павалок ахвяру праз праход і, яшчэ больш распаляючыся ад яго маўклівасці, папхнуў да дзвярэй. «Вон, польская свіння!» Ад выспятка чалавек зляцеў з прыступкі, хістаючыся прабег па ўсёй шырыні пляцоўкі і, спатыкнуўшыся, ударыўся аб заднюю сцяну вагона.

Маладая дзяўчына, запозна ўбачыўшы, што яе бяда стала прычынай гэткага недарэчнага здарэння, цяпер хацела толькі аднаго: як мага хутчэй выскачыць з вагона. Яна баязліва адступілася ад мсціўца, які пагрозліва стаяў у дзвярах, гатовы яшчэ адным выспяткам паскорыць выхад сваёй ахвяры. Перш чым выйсці з трамвая, які пад'язджаў да прыпынку вельмі марудна, пакрыўджаны чалавек на момант спыніў свой позірк на крыўдзіцелю. Гэта быў позірк бездапаможнай істоты, якая трапіла пад воўчы закон дужэйшага.

Мужчына з газетай вярнуўся на сваё месца, горда выпрастаўшыся і з прагай пахвалы ў позірку. Аднекуль з кутка пачулася спагадлівае: «Скандал!» Але на большасці твараў не чыталася ніякага выразу. Людзі замкнуліся. Не было ніякай карысці выказваць свае

адносіны, таму людзі маўчалі.

З пагардліва апушчанымі вугалкамі рота «выканаўца» сеў на месца выпхнутага паляка. Эву душыла агіда. Штэфі глядзела на яе бездапаможна, амаль вінавата.

— Мы зараз выходзім,— сказала яна, быццам гэта магло быць суцяшэннем.

Кажуць, што бяда рэдка ходзіць адна.

Гэтым кастрычніцкім днём у Познані Эве здавалася, быццам ёю кіруе нейкая нябачная сіла, каб зноў і зноў рабіць яе сведкам чужога няшчасця. Азіраючыся пазней на той ланцужок уяўных выпадковасцей, яна назвала той дзень «Ёнастаг», кіруючыся прымхлівымі прыкметамі маракоў. Яна любіла прыдумваць назвы рэчам і з'явам, якія патрабуюць шматслоўных апісанняў.

Густаль Швентмайр хацеў пазнаёміць Эву да яе ад'езду са сваім «самым цяжкім заданнем». Як ён сказаў ва ўступе, часта было няпроста знайсці адпаведныя памяшканні для разнастайных патрэб нямецкіх устаноў. Працоўнай службе патрэбна было жытло дзяўчатам, гітлер'югенду — месца для ваенізаванага лагера. Усюды патрабавалася дапамога амтсляйтэра Швентмайра.

У апошні час СС, дзяржаўнае кіраўніцтва жанчын і бюро ўсходняй службы Розенберга пратрубілі яму вушы пра тэрміновую неабходнасць стварыць дзяржаўную школу нявест. Знайсці для яе адпаведны дом у Познані было цяжка. У горадзе было многа нямецкіх устаноў. Швентмайру давялося доўга прачэсваць прыгарады, пакуль ён знайшоў нешта, дзе можна было разгарнуцца.

Былы маёнтак, за які ён нарэшце ўхапіўся, быў заняты арганізацыяй Тота. Швентмайр хутка выведаў, што будынкі дрэнна выкарыстоўваюцца. Начальнік лагера, чалавек недалёкі, параўнаўча лёгка даў пераканаць сябе, што яго людзей лепш размясціць у доўгіх аднапавярховых гаспадарчых будынках, якія былі аддзелены паркам ад панскага дома. Былую гаспадарчую кухню абсталяваць было няцяжка. Сыраварню ператварылі ў душавую. Верхняга паверха цалкам хапала пад спальні. Пазбавіцца ад палякаў, якія яшчэ жылі наверсе, было лягчэй за ўсё. Швентмайр ганарыўся, што справіўся з гэтымі папярэднімі работамі хутка і лёгка. Людзі Тота для яго былі возчыкамі нечыстотаў рэйха. Іх падбітыя цвікамі боты ўсё роўна не падыходзілі да паркетнай падлогі маёнтка. Трэба было спадзявацца, што кіраўніцтва будучай школы нявест не будзе дакараць яго за тое, што так блізка размясціліся мужчынскія баракі. Бо гордыя сваёй расай нявесты СС, вымуштраваныя ў павазе да спадчыны продкаў, наўрад ці пачнуць шуры-муры з уладальнікамі грубых ботаў. Урэшце, яны —

будучыя маці будучых сялян-абаронцаў нямецкага Усходу, з крыві якіх трэба было выгадаваць новае чыста нямецкае племя ў гэтай правінцыі мяшанцаў. Мелася прорва дзяўчат, якія ўжо зразумелі гэту вялікую задачу. У аб'явах аб нараджэннях, змешчаных у газеце «Фёлькішэр Бэобахтэр», можна было прачытаць, што бацькі толькі што народжаных прадстаўнікоў гэтага племя — усе яны былі Зігвульфы, Рудзігеры і Гундольфы — ужо з калыскі прызначалі іх выконваць нацыяналістычную задачу — быць сялянамі-абаронцамі на нямецкім Усходзе. Так некалі немаўлят прыпісвалі да царквы.

Швентмайр ведаў усё гэта. Сам асабіста ён не знаходзіў нічога прывабнага ў такіх подзвігах і ахвярах на перспектыву. Калі іншым такое падабалася — калі ласка! Ён ставіўся да іх з павагай. Хай у нявест будзе цудоўнае жытло! Маёнтак, пабудаваны ў стылі паляўнічых хатак дваццатых гадоў, цалкам адпавядаў уяўленням аб будучых памешчыцкіх дварах на нямецкім Усходзе. У горшым выпадку ў канцы парку можна было паставіць моцную агароджу.

Было невядома, што мацней было ў гэтых Дзяўчат: тэмперамент ці мараль, што грунтавалася на прынцыпе адбору.

Швентмайр чакаў Эву і Штэфі каля пад'езда. Яго падчарка неяк пацікавілася, у чым менавіта заключаецца яго дзейнасць. Сёння яна магла сама пераканацца, што пасада ў яго адказная.

— Мне імпануе толькі тая праца, якая вядзе да хутчэйшага канца вайны,— сказала яна тады. Гэта прагучала задзірліва. Ён коратка і проста адказаў, што яго праца нацэлена на тое, каб і пасля канчатковай перамогі хапіла сілы ўтрымаць заваяваныя тэрыторыі. Вядомыя і такія пераможцы, што пускалі на вецер сваю перамогу, не ўмеючы весці пасляваенную палітыку. Гэта значыць, што трэба ўжо цяпер прывабліваць нямецкую моладзь да ўсходніх тэрыторый. Яна драла горла пра жыццёвую прастору, дык вось яна. Сяляне ў «вартэгаў» і ў генерал-губернатарстве стануць залатой жылай Еўропы.

Ён умеў гаварыць. Пасля такой прамовы Эва заўсёды замаўкала. Было ясна, што яна згаджалася, бо, зрэшты, для яе, былой работніцы працоўнай павіннасці, такія ідэі не былі новыя. Ён і сёння яшчэ ўсміхаўся сам сабе, прыпамінаючы, як яна ўладзіла справу з працоўнай павіннасцю. «Я вызначаю, хто яўрэй!» Настаўнік знайшоў сваіх тайных прыхільнікаў. Эва праб'ецца ў жыцці. Ён не баяўся. Перад яе ад'ездам ён абавязкова пагаворыць яшчэ наконт Ведэльштэта. З жаніцьбай надоўга адкладваць не выпадала. Ішла вайна. І ў горшым выпадку ўсё-такі лепш астацца ўдавой Ведэльштэт, чым незамужняй Леангард. Праўда, здавалася, што паміж закаханымі ўжо здарылася сварка, наколькі ён заўважыў.

Эва і сёння была не ў вельмі добрым настроі. Ён быў расчараваны, што яна не захаплялася і не хваліла, захлёбваючыся. Фае з камінам, з люстрай з пераплеценых аленевых рагоў, з масіўнай лесвіцай, якая на другім паверсе пераходзіла ў галерэю,— гэта было шыкоўна.

Калі яны праходзілі па асобных спальнях, дзе ў кожнай стаялі тры нерассціланыя чыстыя ложкі, чакаючы першых жыхарак, Швентмайр паспрабаваў пажартаваць:

— Сапраўдная святая келля для нявінных дзяўчатак, праўда?

Эва кіўнула. Свежатынкаваныя сцены, ложкі, пакрытыя светлым лакам, нечапаная пасцель сапраўды вымагалі такога азначэння. Неўзабаве над кожным ложкам у рамцы будзе вісець партрэт малайцаватага афіцэра з чэрапам на фуражцы і на пятліцах. А дзяўчаты будуць марыць пра сваіх герояў, будуць думаць пра каханне, а падразумяваць племянны адбор і будуць прыносіць сваіх ненароджаных сыноў у ахвяру ідалу, які прагне чалавечай крыві. Яны адракліся ад Яхве і забылі, які літасцівы быў яўрэйскі бог да Абрахама, калі той не прыняў чалавечай ахвяры Ісака. Гэтыя пасцелі нядоўга застануцца незабруджанымі. Сто недазволеных любоўных ночаў не змаглі б запаскудзіць іх горш, чым начныя думкі гэтых нявест рэйха, гэтых даўганогіх дзяўчат з моцнымі грудзьмі і шырокімі клубамі, якія ганебна ператваралі сваё цела ў посуд, куды чорныя носьбіты чаратовых сімвалаў запусцяць сваё семя.

Эва не магла б адразу адказаць, з якіх глыбокіх схованаў узышлі ў ёй такія думкі. Заўвагі Юргена Бэра, пачаткі размоў з Марліс і Аксэ, старанна адбуманае потым, пакутліва адчутае, спрэчныя пытанні з часу працоўнай павіннасці — усё сабралася, паднялося з самых глыбокіх куткоў свядомасці і ператварылася ў вобраз.

Яна прайшлася па адным пакоі. «Вось цяпер ён ужо не нечапаны, — з'едліва падумала яна. — Цяпер у ім ёсць маё дыханне. Магчыма, у сваіх марах вы адчуеце гэта. Магчыма, адзін з вашых герояў дапамог выгнаць майго бацьку!»

Каб выказаць хоць што крытычнае да гэтай халоднай раскошы, яна сказала Швентмайру:

— А чаму ўсюды пастаўлена па тры ложкі? Гэты пакой меншы, чым іншыя. Тут хапіла б і двух.

Швентмайр зрабіў самазадаволеную міну. Ён азірнуўся, каб пераканацца, што яго ніхто не чуе. Штэфі пайшла ўжо далей і аглядала душавыя і ванны.

— Дзеля маралі, — сказаў ён, падміргваючы з-пад прыстаўленай рукі.

Эва здзіўлена звяла бровы. Швентмайр сказаў шэптам:

— Каб яны не забаўляліся адна з адной.

Яна няўпэўнена глянула міма яго. Але таму што ён, здавалася, лічыў яе вельмі вопытнай, яна вырашыла не паказваць сваёй недасведчанасці.

— Сюды ж прыедуць дзяўчаты вытрыманыя,— сказала яна, каб толькі не застацца без адказу.

Ён ухмыльнуўся.

— Калі сучцы захочацца, яе не ўтрымаеш. А калі блізка няма сабакі — справа дрэнь.

З пачуццём агіды Эва хутчэй праціснулася каля яго ў дзверы фае. Яна баялася нават дакрануцца да рукава яго скуранога паліто.

Яны пайшлі праз парк і трапілі да гаспадарчых забудоў, дзе ўсталёўваліся людзі Тота. Важная ваенная дзейнасць атрада заключалася ў тым, каб пабудаваць дарогу ад паляўнічага замка на возеры Горка да Познані. Машына галоўнага паляўнічага рэйха павінна была неўзабаве лёгка імчаць па гэтай дарозе. Дзеля гэтай задачы людзі на некалькі гадоў пакідалі на волю лёсу сям'ю і дзяцей, майстэрню ці сялянскую гаспадарку. «Адзін за ўсіх, усе за аднаго!» «Адзін за ўсіх»— гэта была жонка, якая ішла за цяжкім плугам, паганяючы вала. «Усе за аднаго»— яны тут у атрадзе, тыя, хто будаваў дарогу для аднаго, галоўнага паляўнічага рэйха, якога можна было называць яшчэ і рэйхсмаршалам, не вычэрпваючы гэтым усіх яго званняў.

Некалькі тотаўцаў плявалі на свае боты, якія не хацелі адчышчацца, іншыя набівалі сеннікі і вытрасалі коўдры. Між іншым яны збоку пазіралі на групку палякаў, што ўжо гадзіны дзве сядзела каля апошніх дзвярэй. Дзве сям'і яшчэ ўчора жылі ў чатырох памяшканнях над стайняй. Сёння іх выгналі. І вось яны чакалі обэртрупфюрэра, спадзеючыся на яго літасцівасць. Яны хацелі ўладкавацца ў былых памяшканнях для кармоў побач з вазоўняй. Яны цярпліва сядзелі на бедных пажытках і чакалі. Моўчкі, заклапочана.

Калі обертрупфюрэр разам з карычневым амтсляйтэрам падышлі ад парку, тотаўцы ўжо ведалі, што ў палякаў няма ніякіх шанцаў. «Выбірайцеся адсюль», — крадком сказаў ім адзін, несучы на галаве сяннік.

Палякі павярнулі галовы да парку, і група заварушылася. Чалавек у гадах, што сядзеў на страката размаляванай драўлянай валісцы, паволі ўстаў.

Обертрупфюрэр і Швентмайр павіталі тотаўцаў узнятай рукой.

— Як справы, сябры?— бадзёра звярнуўся да прысутных обертрупфюрэр. Потым ён убачыў кучку палякаў, гэта пасіўнае чужароднае цела сярод старанных, як пчолы, тотаўцаў.

— А гэтым што тут трэба?

Адзін з яго людзей далажыў.

Паляк стаяў на заднім плане і чакаў магчымасці дапоўніць паваеннаму кароткі даклад. Але ён не паспеў, бо падышоў Швентмайр.

— З якой прычыны высяленне яшчэ не закончана?— уладна спытаў ён.— Людзей даўно трэба было размясціць.

Обертрупфюрэр зрабіў няпэўны жэст.

— Я сам не разумею.— Ён падазваў палякаў.— Чаму вы яшчэ не выбраліся?

— Нас дзве вялікія сям'і,— дакладваў павольна мужчына голасам, які зрываўся ад хвалявання.— Нас адзінаццаць чалавек, з іх чацвёра малых дзяцей. Жыць у двух малых пакоях усім разам нам будзе цесна.

— Як цесна?— запярэчыў Швентмайр.— Цяпер усім цесна.

— Наша старэйшая — цяжарная. Праз два месяцы прыбавіцца яшчэ адна душа. Няўжо ўсё гэта павінна здарыцца пры малых?— Голас мужчыны прасіў, заклінаў. За ім паднялася яго жонка, трымаючы за руку хлопчыка гадоў васьмі з запалымі вачыма.

Швентмайр сказаў незадаволена:

— Як вы ўправіцеся, гэта ваша справа. Маючы на ўсіх два пакоі, адзін вы можаце абсталяваць пад радзільню. У нас няма для вас іншага месца.

— Не, тут ёсць месца,— полька пагледзела на амтсляйтэра чорнымі пранізлівымі вачыма.— Мы ведаем на гэтым двары кожны куточак, мы тут працавалі ўсё сваё жыццё. Свірны пустыя. Яны вам непатрэбныя.

— Магчыма, яны нам яшчэ спатрэбяцца,— сказаў обертрупфюрэр.

— Могуць прыбыць новыя людзі.

— У гэтых памяшканнях замест вокнаў — дзіркі. Ніхто з вас не захоча жыць у іх,— сказаў паляк і стаў побач са сваёй жонкай. Яе вусны пачалі дрыжаць. Давала знаць хваляванне, якое накапілася за некалькі гадзін чакання.

Швентмайр злосна адвярнуўся. Ён наставіў каўнер паліто і так падфутболіў камень, што той адляцеў да сцяны дома.

— Не марудзьце больш з гэтымі людзьмі,— сказаў ён обертрупфюрэру.— Немагчыма, каб яны засталіся тут жыць. Усім комплексам цяпер распараджаецца СС.

— СС?— слова выбухнула, як граната. З языка жанчыны пытанне сарвалася, нібы прыдушаны ўскрык. Потым яна заспяшалася, ведучы за сабой хлопчыка, назад да сваёй сям'і, якая ў ліхаманкавай

паспешлівасці пачала збіраць клункі. Муж няўпэўнена пайшоў за ёю.

Швентмайр засунуў рукі ў кішэні і падышоў да палякаў... Глядзі ты. Ён і не ведаў, якую сілу мае гэта чароўнае слова! Раней ён карыстаўся іншымі сродкамі, каб дамагчыся свайго. Цяпер ён стаяў перад палякамі, у якіх так хутка адпала ахвота да пrасторных памяшканняў. Ён быў гаспадаром сітуацыі, а обертрупфюрэр меў даволі збянтэжаны выгляд. Швентмайр цешыўся ўсведамленнем сваёй перавагі. Ён умеў выкарыстоўваць дробныя перамогі, як умеў уносіць свой уклад у вялікую перамогу.

Не зніжаючы каманднага тону. Ён сказаў:

— Калі вас многа, то гэтаму ёсць рада. — Ён нацэліўся на дзяўчыну гадоў шаснаццаці.— Як наконт невялічкай мабілізацыі, кудынебудзь у рэйх?

Дзяўчына ў адказ баязліва замахала галавой і павярнулася да маці, шукаючы дапамогі. Але ганіцель не супакоіўся так хутка.

— А прозвішча сваё ты мне ўсё ж скажы.— Ён коратка крыкнуў праз плячо:— Штэфі, запішы.

У маўклівым пакутным страху дзяўчына корпалася каля старой дзіцячай каляскі, нагружанай хатнімі пажыткамі.

Становішча Швентмайра рабілася няёмкім. Ён не хацеў перад Эвай і дачкой у апошні момант адмаўляцца ад ролі джэнтльмена, якую, як яму здавалася. Ён выканаў бездакорна. Са з'едлівай усмешкай ён ішоў збоку і крыкнуў Штэфі:

— Хай яна табе скажа прозвішча.

Штэфі нерашуча падышла бліжэй. Эва, якая да гэтага часу трымалася на заднім плане, прашаптала:

— Няўжо ты можаш!

Штэфі няўпэўнена паціснула плячыма. Яна ціха сказала:

— Ім нічога не будзе. Густль толькі пужае.

— А страх, у якім потым павінны жыць людзі?

Настойлівы голас Эвы крануў Штэфі. Яна з алоўкам у руцэ падышла да дзяўчыны-палькі. Эва ішла за ёй па пятах, нібы хацела адхіліць бяду.

— Цябе завуць Наталля, праўда?— спыталася яна ўпаўголасу.

Дзяўчына здзіўлена падняла галаву і няўпэўнена сказала, што — не.

— Значыць, Наталля. А прозвішча?— Яна глядзела на вусны полькі, якія бездапаможна варушыліся, не могучы вымавіць ні слова.

— Значыць, Баронская,— сказала Штэфі ўголас і яшчэ раз прыняла здзіўленае «не» за бясспрэчнае пацвярджэнне. Яна кіўнула, укруціла стрыжань механічнага алоўка і пайшла міма палякаў.

— Не бойцеся,— шапнула Эва шаснаццігадовай дзяўчыне і пайшла за Штэфі.

Потым яны бачылі, як брылі тыя адзінаццаць чалавек, каму былая беднасць, пэўна, здавалася цяпер, калі пагражала галеча, страчаным раем.

Чужая галеча, якую ўбачыла Эва, навяла яе на думкі, што не давалі спакою. Ёй здавалася, што яна больш не зможа дыхаць у кватэры Швентмайра, і паспрабавала ўявіць сабе, што б было, калі б яна пайшла ў сям'ю да палякаў і сказала: «Я такая ж, як вы. Прыміце мяне да сябе». Яна ведала, наколькі недарэчная была гэта думка, бо такім учынкам яна б нікому не дапамагла. Але сэрца ў яе было перапоўнена абурэннем і спагадай, а мозг пусцеў ад бездапаможнасці — таму і лезлі ў галаву недарэчныя думкі. Атмасфера гэтага дома, гэтага горада прыгнятала яе. Жывучы тут, ты належыш да тых, хто выкідае палякаў з трамвая, з кватэр, з іх краіны. Востраў раптам здаўся ёй краем, дзе жывуць адны прыстойныя людзі. Там былі Юрген Бэр, Марліс і Аксэ — яны ненавідзелі вайну. І маленькі Матэзі быў такі ж самы, а магчыма, іх было яшчэ больш, шмат больш. Расхваляваўшыся, яна ўжо лічыла, што Ханке і фраў Клемт былі адзінкавымі з'явамі, якія не вельмі шмат значылі ў чыстым паветры вострава. Ёй захацелася хутчэй паехаць адсюль. Заўтра, не, найлепш — ужо сёння вечарам.

За вячэрай яна аб'явіла, што ёй трэба ехаць. Захацелі ведаць — чаму. Яна, заікаючыся, пачала прыдумваць прычыны, якія самой здаваліся неpraўдападобнымі: дослед, у якім яна вельмі хацела ўдзельнічаць, дзень нараджэння ў доме Зэештэрн... Усё гучала даволі неверагодна.

— Ты ж ведала гэта ўсё раней, — сказала маці, хітаючы галавой.

— Якія там выпрабаванні! — іранічна ўмяшаўся Швентмайр. — Дзеля іх ніводная дзяўчына не будзе перапыняць свой водпуск. Выпрабаванні — ці не з мужчынамі? — Ён дапытліва глянуў на яе.

Яна ўпарта адказала:

— А калі б і так?

— Гэта было б здорава. Другога Ведэльштэта не будзе.

— Мне ён і не патрэбны.

— Глядзі ты. Вось адкуль вецер вее. Можа, ты ўся ў золаце, ці як?

Эва пакрыўджана маўчала. Штэфі і маці прыбіралі посуд. Эва засталася са Швентмайрам сам-насам. У сваёй цірольскай тужурцы ён быў падобны да хлебасольнага гаспадара. Цэзар ляжаў на дыванку, палажыўшы галаву на лапы, і глядзеў на гаспадара аддана знізу

ўверх.

Швентмайр падышоў да століка для курэння і прыкурыў сігару.

— Не думай толькі, што цябе возьме нехта з твайго Вострава. Табе добра вядома твая радзімая пляма.

— А хто гаворыць пра замужжа? Я і не думаю.

— Гэта ты гаворыш цяпер. Праз два гады, калі маладыя ўдовы пачнуць азірацца ў бакі, шукаючы наступнага, ты загаворыш інакш. А я скажу табе: удавы з трыма дзецьмі мужчыны будуць баяцца менш, чым цябе.

Эва прытварылася абсалютна спакойнай.

— Правільна. Хартмут таксама спужаўся.

— Як? Ты яму сказала? — Шэрае колца попелу адвалілася ад сігарэты і ўпала на дыван. Сабака завурчаў і ўстаў.

Эва слаба кіўнула.

Швентмайр усунуў правую руку ў кішэнь штаноў, нібы баючыся, што яна сама, без яго намаганняў, ударыць па ўпартай, жудасна прыцягальнай дзяўчыне, якая стаяла на дыване з уяўным спакоем.

— Ці ты звар'яцела? — цяжка выдыхнуў ён.

Яна з жалем паціснула плячыма.

— Калі хочаш жыць разам усё жыццё, трэба гаварыць чыстую праўду.

— Пракляцце! — зашыпеў ён. — Ад мяне ён павінен быў даведацца, святы божа! У мяне столькі казыроў у руках, столькі казыроў! Усе яны сабраныя для цябе, дурное ты дзяўчо! Стары Ведэльштэт зрабіў гешэфт у Люксембургу. Я дапамог. Дзядзька з Груневальд стаў на ногі ў Кракаве — праз мяне, усё праз мяне! Яны ў мяне будуць як міленькія, а то я знайду на іх управу. Ёсць дастаткова сродкаў, каб падвесці пад манастыр. Яны б зрабілі мне любую ласку, павер мне. — Ён са стогнам апусціўся на крэсла каля пісьмовага стала, зняможаны чалавек, у якога праваліўся яго самы смелы план.

Эва сказала з горыччу:

— Узяць мяне замуж — ты гаворыш пра гэтую «ласку»? Вялікае дзякуй! — Яна пагардліва засмяялася. — Абдурылі б цябе, бедны Хартмут!

Швентмайр зусім не слухаў яе, а ліхаманкава думаў сваё.

— Калі ты яму сказала?

— У пачатку чэрвеня, у Берліне.

Даволі даўно ўжо. Ганьба, што не напісала нам нічога. Але думаю, што яшчэ ўсё можна ўладзіць. — Ён устаў і падышоў да яе. — Мяне добра-такі прахапіў страх. Толькі дзеля цябе я вазьму іх за гарляк, чаго ўвогуле рабіць не люблю. Ты ж мяне ведаеш: я — за

дабрачыннасць. — Здавалася, што ён знайшоў добрае выйсце, бо зноў прыкурыў забытую сігару. Эва разглядала яго так, быццам ён гаварыў на нейкай невядомай мове.

-— Уладзіць? — сказала яна здзіўлена. — Узяўшы за гарляк? Але ж я не хачу. Нічога не трэба рабіць дзеля мяне. Я радая, што так атрымалася.

Швентмайр на хвілінку разгубіўся. Але адразу яму стала ўсё зразумела. Імгненна да яго дайшоў сэнс паводзін гэтай дзяўчыны: яе ўніклівыя пытанні, яе правакацыйнае шныранне па кватэры, яе фамільярнасць з полькай-швачкай, старой Дамброўская А яе паводзіны ў школе нявест! Яе іранічная маўклівасць настолькі збіла яго з панталыку, што ён апусціўся да непрыстойных заўваг наконт эсэсаўскіх нявест. Ён быў такі добры дурань, чорт яго забяры! «Мне імпануе толькі тое, што садзейнічае хуткаму канцу вайны», — сказала тады яна. Яна хацела міру любой цаной, магчыма, нават ганебнага міру, яна, чый бацька змыўся ў Амерыку, — гэта жыдоўка!

Руку ўжо было не ўтрымаць у кішэні. Рука ўдарыла. У самы твар.

Эва пахіснулася. Не вымавіўшы ні слова, яна кінулася з пакоя.

Маці застала яе за зборамі. Яна рашыла адразу ехаць на вакзал. Штэфі сядзела каля сястры і плакала.

Маці асцярожна забрала ў яе рэчы. Яна бачыла пачырванелыя вочы, палаючыя шчокі, глыбокую бездапаможную рашучасць у вачах.

— У цябе тэмпература, — сказала яна ўпэўнена. — Прыляж. Паедзеш заўтра раніцай, калі захочаш. — Яна паслала ёй на канапе. — Трэба было спачатку пагаварыць са мной. Ты зрабіла вельмі неабдумана. Мне здавалася, што ты лепш ведаеш Густля. Ён добры, але нельга разбураць яму планы. Тут ён, як дзіця, што злуецца, калі яму раскідаць кубікі. Твая сувязь з Хартмутам Ведэльштэтам была адной з яго самых любімых ідэй.

— Я ж не шахматная фігура, якую можна соваць, як каму захочацца. — Эва сядзела, склаўшы рукі на каленях, раздражнёная і знямоглая.

— Ты яшчэ ўбачыш — лёс часам совае цябе туды, куды табе зусім не хочацца. — Маці расправіла прасціну. Яе твар быў азмрочаны трывогай. Яна ціха спыталася:

— Няўжо ты так не любіш Хартмута?

— Спачатку ён мне сапраўды падабаўся. Але праз нейкі час — яго дзіўныя пісьмы, а потым у Берліне... ах, мама!

Усхліпнуўшы, Эва кінулася маці на шыю, і ёй зноў прыпомнілася пяшчотнае слова з дзяцінства, якое яна так даўно не гаварыла. Яна адчула, што матчына рука гладзіць яе па валасах.

Маці, мала адчувальная да эмацыянальных парываў, асцярожна прыхіліла Эву да сябе.

З лёгкай падбадзёрлівай усмешкай яна падала ёй хусцінку.

— Сапраўды будзе лепш, калі ты паедзеш заўтра раніцай. — Яна ўздыхнула. — Будзем спадзявацца, што ты не пашкадуеш, што зрабіла.

З гэтых слоў Эве пачулася, што маці непакоілася за яе больш, чым паказвала. Ёй стала лягчэй.

У той час, калі поезд з Эвай перасякаў Одэр... ... польская дзяўчына Ангела ў зборным лагеры нашывала сабе на вопратку жоўты чатырохкутнік з ліловай літарай «P».

... Юрген Бэр даведаўся, калі быў у камандзіроўцы ў Берліне, што яго сябар і яшчэ некалькі таварышаў з кіраўніцтва падпольнай групы арыштаваны, а працэс будзе праводзіцца па загаду Гітлера «строга сакрэтна».

... лётчыца-выпрабавальніца Карла Вінтэр даведалася ў вярхоўным камандаванні люфтвафэ, што ў доследнай установе Востраў распрацоўваюцца не атамныя бомбы, а іншыя новыя віды зброі, на выпрабаванне якіх будзе патрэбна і яе каштоўная дапамога.

...падпалкоўнік Кельнер сказаў оберцальмайстру Ханке: «Я прадстаўлю вас да Крыжа ваенных заслуг, калі меню, якое вы мне складзяце на вяселле, будзе адпавядаць майму становішчу».

# КНІГА ТРЭЦЯЯ

# ГАДЗІНА Х

## I
## КАЧКІ І ЯБЛЫКІ

У астравоў увогуле не бывае роўных берагоў. Пясчаныя косы і балоцістыя паўастравы ўтвараюць бухты і глыбокія затокі. У параўнанні з дзікай касой мясцовасць вакол доследнай установы Востраў выглядала, як метраполія.

Ганс Ціфенбах нерухома сядзеў у высокай, у рост чалавека, траве. Яны былі з Марцінам Уліган. Ён баяўся наступіць на птушынае гняздо і парушыць спакой. Таму ён і застаўся сядзець, а Уліг пайшоў на качак адзін. У сябра ўсё роўна не было лішняй дубальтоўкі.

Ганс Ціфенбах прыпомніў дзень, калі ён упершыню адчуў радасць, узяўшы ў рукі ружжо. Гэта было ў панскіх лясах, дзе бацька Уліга быў упраўляючы. Гаспадар, офенбахскі фабрыкант-кушнер, наладжваў сваім гасцям стральбу па талерачках.

Марцін Уліг, прыязджаючы на выхадныя з Дармштата, бываў у такіх выпадках разам з бацькам. У адзін такі прыезд Ганс Ціфенбах прысутнічаў на стральбе і з вялікай цікавасцю наглядаў за палётам «глінянага голуба», дыска велічынёй з даланю, які запускаўся ў вышыню спецыяльным прыстасаваннем са схові́шча. Вартая мужчын гульня — пацэліць у дыск, які, круцячыся, ляціць з вялікай хуткасцю, і разбіць яго на кавалкі на вялікай вышыні.

Пры кожным пападанні талерачка разляталася на дробныя чарапкі.

Прапанавалі стрэліць і студэнтам. Марцін Уліг, вопытны ўжо, біў нядрэнна.

— Я — тыповы пачатковец, — сказаў Ганс Ціфенбах, узводзячы курок ружжа.

— Усе некалі былі такія, — весела адказаў фабрыкант, магутны, цяжкі мужчына, седзячы на смешным маленькім паходным крэсельны. Ён часта азіраўся, бо чакаў сына.

Калі Ганс Ціфенбах прыцэліўся другі раз, пад'ехала машына, так блізка да лясной прасекі, як можа толькі «опель-адмірал». Выйшаў сын фабрыканта: высокі, бледны, худы, з аўчаркай. У элегантным паляўнічым касцюме ён быў вельмі падобны да аперэтачнага спевака, які франтавата прыбраўся ў святочнага паляўнічага. Ён надзеў акуляры для стральбы і хацеў, як толькі старэйшыя паны адстраляліся, адразу прыступіць да справы. Яго бацька на непадробным франкфурцкім дыялекце растлумачыў яму, што Улігу па чарзе цяпер належаць шэсць стрэлаў. Гэта дамоўлена. Малады чалавек раздражнёна адказаў: «А ён наогул умее страляць?»

Ганс Ціфенбах добра памятаў, што ён сам аддаў ружжо пасля чацвёртага стрэлу. Ён неяк падстрэліў апошнія дзве талерачкі. Нецярпенне маладога дэндзі, прыблізна аднаго ўзросту з ім, збіла яму руку. Аўчарка, якая хадзіла вакол, выводзіла яго з сябе, а кплівы твар у акулярах для стральбы прыводзіў яго ў такое бяссільнае шаленства, якога ён яшчэ не ведаў. Больш за ўсё яму хацелася ўдарыць у гэты бяскроўны твар.

З усмешкай перавагі гаспадарскі сынок падышоў, злажыўся і пацэліў. Зноў злажыўся і пацэліў. Адыходзячы назад. Ён слізнуў па Гансе Ціфенбаху халодным позіркам, прыкурыў у Марціна Уліга і, свіснуўшы сабаку, пайшоў да машыны.

Здавалася, стары быў расчараваны.

— Мы думаем схадзіць яшчэ на сажалкі. Ты не пойдзеш?

Матор ужо быў заведзены.

— Не, тата. Мы згуляем партыю ў тэніс, а потым — покер.

У той вечар, калі Ганс Ціфенбах застаўся адзін у пакоі, у яго раптам з'явілася пачуццё, што бацькаў лёс — блізкі яму. Ён імгненна зразумеў тыя думкі, якія, відаць, хвалявалі бацьку ў апошнія гады. Магчыма, бацька быў сведкам многіх такіх выпадкаў, што, выстраіўшыся побач, прывялі яго да людзей, якія пазней накрылі яго труну чырвоным сцягам.

Тое, што тады здарылася з ім, Гансам Ціфенбахам, было — знешне — смешна, вядома. Нават Марцін Уліг не зразумеў яго. Але ў душы ў Ціфенбаха было, мусіць, нешта ад бацькі. Фабрыкант скураных тавараў і шахтавы акцыянер быў занадта дзелавы чалавек, каб не быць таварыскім. Сын ад нараджэння жыў у багацці і забавах. Усім, хто неяк закранаў недахопы яго хваравітага цела. Ён упарта выстаўляў сваю грамадскую перавагу. Ён нічога не ўмеў. Штодзённую задачу ён бачыў у тым, каб гартаваць цела, зберагчы яго фірме фабрыцы і шматлікім пакетам акцый. З пачаткам вайны яго багацці павялічыліся, напэўна, у два ці ў тры разы. Вайне патрэбна было шмат скураных рэчаў — ад рамянёў да планшэтак. Але ёй не спатрэбіўся сухотны юнак.

Тры стрэлы запар парушылі цішыню. Уліг знайшоў свае ахвяры. У непраходным гушчары трыснягу недалёка ад таго месца, дзе сядзеў Ціфенбах, пачуўся ўзбуджаны шум і лапатанне крылаў. Спуджаныя птушкі падняліся і паляцелі, б'ючы крыламі нізка над вадой. Паляўнічы стрэліў у чараду.

Ганс Ціфенбах пайшоў да берага, але не ўбачыў Марціна Уліга, які стаяў за паваротам. Пырхнула яшчэ адна чарада чыркоў. Зноў стрэл. Цяжкім каменем уніз паляцела невялікая шэра-карычневая

качка.

Свістам Марцін Уліг прасігналіў аб заканчэнні палявання, як і было дамоўлена.

Яны разам пачалі шукаць у трыснягу забітых птушак. Здабыча была добрая: шэсць чыркоў і тры крыжанкі. Марцін Уліг умела звязаў іх. Кожны нёс па звязцы качак, з цяжкасцю выбіраючыся з гушчару. Да маленькай бухты, дзе стаяла парусная лодка, не было пратаптанай сцежкі. Пад нагамі чмякала. Рэзка крыкнула птушка, перасцерагаючы — парушальнікі спакою яшчэ занадта блізка. Сябрам прыйшлося закасаць штаны і босымі шлёпаць па вадзе, каб зняць лодку з водмелі. Вада была такая халодная, што адымаліся ногі. Перад самай пасадкай Марцін Уліг уступіў у яміну, і вады набралася ў калашыну. Лаючыся. Ён ускочыў у лодку.

— Няма нават прыстойных ботаў!

Ганс Ціфенбах наладзіў ветразь. Ён засмяяўся, гледзячы, як Марцін Уліг, раззлаваны, асцярожна вытрасаў ваду з прамоклай калашыны.

Нямецкая моладзь павінна быць гібкая, як скура, цвёрдая, як крупаўская сталь! — насмешліва працытаваў Ганс Ціфенбах крылатыя словы, пры дапамозе якіх кожны фюрэр выціскаў са сваіх падначаленых порцыі мужнасці і фізічных поспехаў. — А ты не думаў стаць афіцэрам?

Марцін Уліг няёмка засмяяўся.

— Хацеў, па той самай прычыне, па якой «турнфатэр Ян» хацеў стаць міністрам. Той лічыў, што міністры дрэнныя і трэба папраўляць справу.

Калі яны адплылі ад цяністай бухты, вецер пагнаў іх у мора.

— Вецер змяніўся. Нам трэба крэйсіраваць. Праклятае ўзбярэжжа.

Абодва настроіліся на доўгае паляванне. У скрынцы Ганс Ціфенбах знайшоў шарсцяную анучку, якую ён падсунуў сябру пад мокрую тканіну. Лытка была халодная як лёд і пасінела.

— У цябе няма з сабой выпіць?

Ганс Ціфенбах бачыў, што сябар мерзне.

Марцін Уліг адказаў, што няма.

— Тады ты не сапраўдны паляўнічы, Марцін.

— І гэта гаворыш мне ты — а заўтра будзеш есці маіх качак.

Ганс Ціфенбах засмяяўся. З'едлівы гумар Марціна здаўся яму добрай прыкметай.

На кожным павароце яны на невялікі адрэзак пасоўваліся наперад. Сонца схавалася за трыснягом на касе. Шырокаму рукаву ракі не

было канца. Пасля кожнага завароту яны спадзяваліся выплыць на Пенемюндскі прычал.

— Дорага нам будуць каштаваць качкі, — сказаў Ганс Ціфенбах пасля доўгай паўзы. Ён задумліва паглядзеў на стракатых крыжанак.

— Што ты думаеш рабіць з імі?

— Вядома, есці. Трэба некага знайсці, хто нам прыгатуе іх.

— Аскубе, выпатрашыць, засмажыць...

— Хто зробіць гэта ўсё?

— Думаю, дзяўчаты з Зэештэрна. Леанцінэ, напрыклад, больш гаспадарлівая, чым здаецца.

— Яна паехала.

— Праўда? У цябе добрая інфармацыя. Ты ўсё ведаеш.

— Урэшце, я маю справу з аэрадынамічнай трубой.

— Ага, ага.

— А ты супраць?

— Недарэчнае пытанне. — Марцін Уліг сарваў анучку з нагі. — Кусаецца.

Нейкі час яны плылі моўчкі. Марцін Уліг увесь час карэкціраваў курс, каб прайсці як мага большы адрэзак. На лаўках ляжалі качкі. Ганс Ціфенбах зноў загаварыў пра іх:

— Дык што ж будзе з качкамі?

— Я пагавару з Ханке. Можа, іх прыгатуе кухня казіно. А мы запросім на пачастунак некалькі чалавек. Ханке і паварыха за гэта таксама прыгатуюць сабе адну.

— Толькі адну?

— Ну, хай сабе дзве, але малыя — пару чыркоў.

— Не будзь такі скупы.

Марцін Уліг застагнаў.

— Я з'ем тры, без чырвонай капусты!

— Магчыма, мы так адзначым запуск А4.

— Смешна. Яго ж зноў перанеслі.

— Пяць месяцаў назад ты быў больш аптыміст

— «Сігара» занадта капрызная. Усё лета змарнавана. Амаль кожны месяц з вялікай помпай аб'яўляўся старт дзесяткі тысяч каштуе гэта штуковіна, а што мы маем? Адна узляцела на пару кіламетраў. Відовішча было прыгожае. Але і яна потым не вытрымала як і іншыя.

— Ты цяпер лічыш, што крылатая бомба, «Кіршкерн», лепш?

— Лічу. Праўда, мы не так высока нясём сябе, як стваральнікі А4. Калі мы закінем яе на 200 кіламетраў нам будзе дастаткова, але затое «Кіршкерн» будзе раней у баявой гатоўнасці, чым «Сігара», павер мне.

— Ну добра, а праз тры месяцы англічане вынайдуць контр-зброю, бо тукавага бар'ера вам не пераадолець. 700 кіламетраў у гадзіну — большай хуткасці вам не дасягнуць. А гэта значыць, што вас можна дастаць.

— Цярпенне! Ва ўсякім разе, наша распрацоўка стаіць на больш трывалай аснове. Мы не прыхарошваем серыі доследаў, як гэта робіць Доктар са сваімі людзьмі. І алоунаму камандаванню ён перадае завышаныя лічбы, прыкрываючы свае няўдачы. — Марцін Уліг з’ед-ліва засмяяўся, калі ўбачыў недаверлівыя вочы Ганса Ціфенбаха. — Так, так. Так яно і ёсць. Дальнасць палёту, дакладнасць пападання, усё на некалькі працэнтаў завышаецца, каб пампаваць матэрыялы і грошы. Для сваіх ракет, як вядома, Доктар ідзе на ўсё дзеля магчы-масці працягваць даследаванні ён можа і наманіць поўны мех, калі на тое пойдзе.

— Або прадасца чорту. — «Сучасны доктар Фауст»,— падумаў Ганс Ціфенбах. Нядаўна з Берліна прыязджала дэлегацыя, каб вызна-чыць, якая зброя што распрацоўваецца на Востраве, мае больш шан-цаў на хутчэйшае ўжыванне. Крылатая бомба «Кіршкерн», маторны самалёт з аўтаматычным кіраваннем — сур'ёзны канкурэнт ракеты А4. Доктар у той дзень быў раз'юшаны, як тыгр. Пасля няўдач апош-ніх месяцаў толькі ад шчаслівай выпадковасці залежала, ці падпа-радкуецца ў вызначаны дзень А4 волі сваіх творцаў. Ён зрабіў ім лас-ку. Ён паляцеў так высока, што назіральнікі — аматары і паўспецыя-лісты, засталіся пад глыбокім уражаннем. Нешта магло атрымацца.

«Кіршкерн», наадварот, які ў іншыя дні паводзіў сябе надзейна, занадта рана плюхнуўся ў ваду. Яго аўтарам пашанцавала, што ў штабе назіральнікаў у якасці эксперта прысутнічала лётчыца Карла Вінтэр. Нібы ў адказ на скептычныя твары, яна сказала:

— Шаноўныя паны! Калі нават праз шэсць месяцаў праект «Кіршкерн» не будзе цалкам гатовы, усё роўна варта працаваць над ім. У ім мне бачыцца папярэднік тарпеды з чалавекам, якую ўжо так самаахвярна і мужна ўжываюць японцы.

Сем мужчын падпарадкаваліся думцы гэтай жанчыны, і абодва праекты былі прадстаўлены міністэрству як аднолькава важныя.

Было незразумела, чаму пасля афіцыйнай праверкі самай высо-кай установай зноў трэба было адкладваць запланаваны вялікі восе-ньскі запуск А4. Апошнія выпрабаванні паліва далі дрэнныя вынікі. «З-за тэхнічнага рамонту печы»— такая прычына была пададзена ў дакладзе. Доктар ведаў, што яшчэ адзін няўдалы запуск пашкодзіць усёй праграме распрацовак, і, чым рызыкаваць. Ён лепш адкладваў тэрміны.

Ужо сцямнела, калі два падарожнікі пад ветразем прыбіліся да прычалу. Як арэхавая шкарлупіна, «Фарэль» гайдалася побач з магутным корпусам «Дзяўчыны з Амстэрдама».

Паляўнічае шчасце не заўсёды ходзіць поруч з проста шчасцем.

Марцін Уліг быў раз'юшаны. Ён крычаў у тэлефонную трубку, што сам пагаворыць з падпалкоўнікам. Калі ён шпурнуў трубку на рычаг, на яго наваліўся прыступ кашлю, і ён заспяшаўся вярнуцца ў свой пакой, дзе было цяплей, чым у вахцёрскай. Ён мацней укруціў шыю шарсцяным шалікам і апусціў у ваду кіпяцільнік. Трэба зрабіць рамонкавую інгаляцыю, а то заўтра перастане варыць галава. І ўсё праз качак. Ды і тых забралі. Ханке, гэты дурань — ці такі хітрун? — так прыгожа разлажыў усю галерэю качак у халодным склепе казіно, што падпалкоўнік Кельнер, шэф казіно не мог не наткнуцца на іх пры інспекцыі запасаў віна. Нічога не было прасцей, як рэквізаваць птушак тым больш што не за гарамі было яго вяселле з Крыстай Кайзер. Для афіцэрскай святочнай вячэры — цудоўна і Падпалкоўнік Кельнер тэрмінова перадаў просьбу праз Ханке. Вядома ж — просьбу, а разам — і запрашэнне. Цудоўны абмен: дзевяць сытых качак за гонар цалаваць руку экс-Кайзерцы!

Калі ўвайшоў Ганс Ціфенбах. Ён убачыў Марціна Уліга з кіслай мінай. Сябар выцягнуў з кішэняў курткі па трохчацвяртной бутэльцы.

— У суцяшэнне Ханке шле табе каньяк. А я ў дадатак выбіў яшчэ малака. Я звару манную кашу

— Манную кашу! — пакпіў Марцін Уліг. — Манную кашу! У той час, калі ў цябе ў склепе ляжыць амаль тузін дзікіх качак. Здабытых з цяжкімі пакутамі!..

— І аплачаных катарам, — спакойна дадаў Ганс Ціфенбах. — Усе так. Але нічога не зробіш. Кельнер ужо загадаў скубці.

Раз'юшаны Марцін Уліг падняўся з тахты.

— Гэта мае качкі. Я лепш з'ем іх сырых.

Ганс Ціфенбах наліў у шклянку каньяку і падаў сябру.

— Не мае сэнсу. Нашкодзіш сабе. На свята запрошаны генерал. Ханке і Кельнер дзіка ўзрадаваліся, што меню забяспечана цяпер мясной стравай. Перш чым ты вырвеш птушак з іх кіпцюроў, яны пашлюць цябе са спецкамандай «у кусты».

— Гэта — свінства. А падстроіў, пэўна ж, Ханке.

— Вядома. За твой кошт ён выслужыўся ў начальніка.

— Як тут не выйдзеш з сябе...

— Не варта. Табе трэба было стаць афіцэрам! Магчыма, ты ўнёс бы кропельку этыкі ў гэтую касту — падсмейваўся Ганс Ціфенбах. — Што значыць маленькі фокус з качкамі ў параўнанні з тысячамі

вялікіх подласцей, якія на сумленні ў такіх людзей. Каб справа была толькі ў забітай дзічыне. — ён стаяў каля дзвярэй. Марцін Уліг, напалову супакоены, павярнуўся да яго.

— Твая філасофія пераканала мяне. Але без цябе мне зноў не будзе спакою. — Ён выліў у сябе каньяк і страсянуўся.

— Я прынясу толькі «кайзершмарэнмашыну». Я нядаўна бачыў яе ў Водрубы.

— Адтуль яе ўжо забіраў Банордэн. Ён жыве наверсе, у самым канцы злева.

«Кайзершмарэнмашынай» называлі круглую электрычную патэльню, якую ў мужчынскім інтэрнаце велікадушна пазычалі з пакоя ў пакой і якая карысталася асаблівым попытам у паўднёвых немцаў і аўстрыйцаў, аматараў мучных страў. Каму належым гэта крыху нязручная рэч, ведалі вельмі нямногія з пазычальшчыкаў. Пакарыстаўшыся, яе засоўвалі пад канапу, пакуль не з'яўляўся новы ахвотнік.

Марцін Уліг хрыпла прастагнаў сваю кашчунную застольную малітву: «Хай ім косці ў горле стануць!» Ён упэўненым позіркам выбраў на падносе добры кавалак сакавітай крыжанкі і, не саромеючыся, рашуча прапанаваў Дузэ, каб яна паклала яго яму. Непаваротлівая дзяўчына, чэрпаючы падліву, ледзь не разліла яе. Пацярпеў жа Ганс Ціфенбах, які сядзеў побач і каму — хочаш не хочаш — давялося ўзяць забракаваны Марцінам Улігам меншы кавалак.

«Буду налягаць на смажанага судака», — сумна падумаў пакрыўджаны, разглядаючы малюсенькі кавалачак на сваёй талерцы, які стаў платай за тое нялёгкае паляванне. «А пасля дэсерту я знікну, — вырашыў ён. — Ваякі ўсё роўна не вельмі намі цікавяцца».

Акрамя Уліга і Ціфенбаха, цывільнымі гасцямі былі толькі Клемт і Доктар. Ды яшчэ жанчыны. Экс-Кайзерка выбрала для гэтага застолля фраў Клемт, начальніцу дзяўчат з лагера службы ваеннай дапамогі і фройляйн Пюшэль.

Ганс Ціфенбах вельмі хутка справіўся са сваёй маленькай порцыяй. У яго быў час, каб паназіраць, як генерал, які займаў ганаровае месца паміж фраў Клемт і экс-Кайзеркай, удзячна кіўнуў оберцальмайстру Ханке, паказваючы на сваю талерку. Ханке пакланіўся, дзякуючы.

Падпалкоўнік заўважыў гэта і звярнуўся да генерала..

— Мы прыдбалі сабе цудоўнага арганізатара — сказаў ён.

— Я гэта заўважыў, — адказаў генерал і няспешна зрабіў глыток віна. — Дзікая птушка — рэдкі ласунак Ато ж тут такі ўдалы паляўнічы?

— Наколькі мне вядома, нехта з нашых маладых супрацоўнікаў.

— Кельнер запаволена дадаў: — Мне здаецца нават, што яны тут.

Ганс Ціфенбах як мага больш адлёгся ў крэсле каб ухіліцца ад позірку падпалкоўніка, які без асаблівай цікавасці аглядаў удзельнікаў застолля. Але генерал і не чакаў больш падрабязных тлумачэнняў.

Дама вечара, Крыста Кельнер, прыроджаная Кайзер, сядзела паміж мужам і генералам. Яна ведала адкуль качкі, і пасмейвалася. Яна дамаглася, чаго хацела хаця вынік і выглядаў інакш, чым яна ўяўляла яго сабе два гады назад. Яна хацела пасябраваць з колам Марціна Уліга. У яе часам выляталі з'едлівыя заўвагі пра дзяўчат, якіх яна лічыла ніжэйшымі за сябе А потым здарылася непрыемная справа з Водрубам, хімікам з Вены, які з ветлівай усмешкай спытаўся ці ў шмат якіх пакоях халасцякоў у інтэрнаце яна яшчэ не начавала.

У Уліга пра яе была тая ж думка, у гэтым не было сумнення. Яна адчувала тайнае задавальненне, што выйшла замуж за чалавека, які меў пасаду і ўладу Ён прымусіў Уліга, так сказаць, прадстаўніка таго кола якое не прыняло яе, паставіць харч на яе вясельны стол. І нават сам Уліг прыйшоў раз'юшаны. І гэта было ёй вядома. Ён прыйшоў, каб пакаштаваць сваіх качак Шчыра кажучы. Ён нейкі варты жалю, спрабавала яна пераканаць сябе. У яго суседа, Ганса Ціфенбаха, было больш вартасцей, на што ў яе, здавалася, быў асаблівы нюх. Але цяпер яна прыняла ўжо канчатковае рашэнне і калі Курт Ханке застанецца джэнтльменам і будзе маўчаць, то ў будучым ёй наўрад ці будзе чаго не хапаць. З велічнай недаступнасцю яна глядзела перад сабой, калі падышла Дузэ, каб змяніць талерку.

Муж поплеч з ёй дыхаў цяжка.

«Трэба прыглядаць, каб ён не аб'еўся, — падумала яна.—А то яму зноў будзе блага. Трэба яшчэ распытацца у штабнога ўрача наконт дыэты».

Яна заўважыла, што мясцовы ўрач, сябар яе мужа размаўляў з Клемтам. Урач меў змардавны выгляд. Вечарамі ў казіно яго часта можна было сустрэць у кампаніі маленькай Эдзіт Кнор. Ці сябраваў ён з дзяўчынай пасля выканання ёю негрыцянскіх танцаў у доме Зээштэрн, Крыста не ведала. Пюшэль расказвала ей, што там адбылася шалёная оргія. І Леангарт удзельнічала, апранутая вельмі ярка, у нешта чырвонае. На голае цела! На жаль, Хёрзельман і Хасэ з дапамогай Клемта вельмі хутка спынілі плёткі. І ў першую чаргу Банордэн, лейтэнант з прыёмнай генерала, які таксама заляцаўся да маленькай Кнор, рашуча не паверыў у плёткі.

Крыста Кельнер зведала усе на сваім вопыце. Калі б не ўмелае карыстанне гэтым вопытам, сёння яна не сядзела б на месцы гаспадыні стала.

Раптам у яе з'явілася няёмкае адчуванне, што за ей назіраюць Гэта было асабліва непрыемна, бо Курт Ханке якраз, падымаючы чарку, прыхаванай усмешкай і амаль непрыкметным жэстам быццам напомніў ей пра агульную тайну.

Глыбока схаваныя вочы Ціфенбаха глядзелі на яе, ацэньваючы. Ён усміхнуўся, нібы бачыў усе наскрозь. Крыста Кельнер вырашыла, што пазней яна завяжа з ім размову. Відаць было, што яму сумна. Магчыма, яны зрабілі памылку, што запрасілі так мала жанчын.

Пасля кавы, якую падавалі ў клубных пакоях, Кельнерка былая Кайзерка, пайшла на пошукі маладога чалавека, які сумаваў у яе кампаніі. Яна не знайшла яго ні ў камінным пакоі, ні ў чырвоным салоне. Не было і Уліга.

Ханке ўбачыў, як заклапочана яна абыходзіла пакоі. З праўдападобнай штучнай карэктнасцю ён падышоў да яе:

— Шаноўная фраў некага шукае?

З такой жа артыстычна дасканалай халоднасцю жонка падпалкоўніка глянула на цальмайстра.

— Так, шукаю. Пана Ціфенбаха ці пана Уліга.

— Паны прасілі прабачыць. У пана Уліга яшчэ не зусім прайшла прастуда, а пан Ціфенбах чакае тэрміновага тэлефоннага званка ад свайго прафесара з Берліна.

— Дзякую. — Кельнерка так нечакана абарвала сцэну, што яе велічнасць здалася Ханке непрыемна натуральнай. Звыклы да хуткай рэакцыі. Ён забраў у Дузэ, якая балансавала з трыма чаркамі лікёру, з рук паднос і спрытна прайшоў да фраў Клемт і начальніцы дзяўчат.

— Шаноўныя дамы! — Ён галантна паднёс ім чырвонае пітво. Яго галантнасць была зычліва прынята абедзвюма жанчынамі. Праўда, яго засмуціла, што фрау Клемт таксама спытала пра Ціфенбаха.

— Значыць ён пайшоў, — прамовіла яна павольна і зноў, як правяраючы, зірнула на гасцей. Яе муж сядзеў за сталом генерала, а па ажыўленых жэстах Доктара можна было зразумець, што там вялася чыста прафесійная размова. Значыць, тут жанчынам не было чаго рабіць. За суседнім столікам спакойна, ціха сам з сабою, піў штабны ўрач. Гэта азначала, што ён утрэскаўся у маленькую Кнор, якая проста пасмейвалася з яго. Кельнер, малады стары муж, ужо расчырванеўся, а штабсцальмайстар Фарланд расказваў анекдоты, з якіх, у першую чаргу, смяялася фройляйн Пюшэль.

Розэмары Клемт уздыхнула. Яна загадзя ведала як будзе праходзіць вечар. Праз нейкую гадзіну генерал весела паляпае па плячы Фарланда і скажа: «Фарланд ты прамачыў горла?» — «Так точна, гер генерал» — «Тады — «Малы хлапец каля матчыных грудзей» — «Слуха-

юся, гер генерал, «Малы хлапец». Загрыміць бас Фарланда і пакоі напоўняцца песняй Фальстафа А потым яны будуць увесь час падпойваць яго. Ён будзе спяваць усе, што запатрабуюць, і не заўважыць, як ахрыпне і як яны будуць здзекавацца з яго. Кожны раз паўтаралася адно і тое.

— Чым магу дапамагчы шаноўнай фрау? — Ханке падсунуў ёй крэсла.

«Ну і няхай, — падумала яна. — На сённяшні вечар будзе Ханке»

Выцягнутая ў даўжыню тэрыторыя Вострава за агароджай, там, дзе размясціліся выпрабавальныя стэнды, куды нельга было прайсці без спецыяльнага пропуска, рабілася ўсё больш цяжкаагляднай. Ганс Ціфенбах адзін наўрад ці знайшоў бы домік упоцемку. Добра, што ён запрасіў Марціна Уліга пайсці з ім на баль з яблычным пірагом, які арганізавала ў гэтым глухім кутку Траўдэ Хёрзельман. Дзяўчаты запрасілі некалькіх інжынераў-даследчыкаў, бо без гэтых мужчын ім ніколі б не дазволілі і нагой ступіць у святая святых установы.

— Нам варта было спачатку прапусціць па чарцы, — прабурчаў Уліг, якому здалося, што і канца не будзе гэтай дарозе з цемры.

Ціфенбах засмяяўся.

— Табе папаўся тлусты кавалак качкі. Між іншым я запасся. Замест кветак. — Ён расхіліў сваё скураное паліто. З кішэні тырчала галоўка бутэлькі — Ханке яшчэ добра адносіцца да мяне. Ён без слова даў мне што я хацеў. Гэты тып, відаць, узрадаваўся, што мы пайшлі. Ён не любіць канкурэнцыі ў справах з жанчынамі.

— Цікава ведаць, дзеля якіх дам ты зацягнуў мяне у гэтыя кусты?

— Ці не сталі табе ў горле качыныя косткі? — пакпіў Ціфенбах.

Праз дзвесце метраў пасля апошняга паста яны ледзь не мінулі домік. Голас з цемры аклікнуў іх.

— Эй! Пароль!

— Яблычны пірог! — суха адказаў Ціфенбах.

Той, хто крычаў, коратка засмяяўся. Гэта быў Юрген Бэр.

Драўляны домік быў не што іншае, як сховішча для працоўнай каманды. Тут стаяла маленькая чыгунная печ. Дроў навакол хапала. На гарачай пліце варыўся глінтвейн. Грубыя лаўкі былі засланы коўдрамі а прымітыўную вісячую лямпу дзяўчаты завесілі стракатымі хусткамі. На скрынцы, якраз пасярод памяшкання ўзвышаўся вялізны яблычны пірог. Сярод гасцей доміка не было таго, хто б не ведаў гісторыі гэтага пірага

Увайшоўшы, Ганс Ціфенбах хутка і нецярпліва агледзеў квадратны пакой. Ён знайшоў, што шукаў.

Эва вярнулася. Ён спадзяваўся на гэта, але не адважызся спытацца ў Траўдэ Хёрзельман, калі тая запрашала яго. І вось Эва стаяла перад ім і старанна памешвала пунш. Яна хацела наліць яму з чарпака.

— Дзе ваш кубак? — Спытала яна прытворна строга.

— Кубак?

— Кожны прыходзіць са сваім кубкам. Што нам цяпер рабіць?

— Пазычце мне свой. Мы ўжо раз пілі з адной шклянкі.

Пачуўшы яго намёк на паездку на «Дзяўчыне», яна адкрыта глянула на яго. Потым яна моўчкі падышла да падаконніка і ўзяла жаўтаваты фарфоравы кубак з карычневымі кропкамі.

«Ён пасуе нават да яе пуловера», — падумаў Ганс Ціфенбах з задавальненнем.

Траўдэ Хёрзельман пачала дзяліць пірог. Ён быў вынікам сумесных старанняў у самым шырокім сэнсе, непаўторны і каштоўны з-за нялёгкай дастаўкі яблыкаў.

У час камандзіроўкі ў Фрыдрыхсгафен Вільфрыд Парызіус выкарыстаў даўно наладжаныя там сувязі і дастаў у багатым садавінай Бодэнзээ дваццаць пяць кілаграмаў яблыкаў. У чэраве «хейнкеля» хапала месца, нядобра было толькі, што былі яшчэ справы ў Каселі, і там прыйшлося заначаваць. Сіноптыкі абяцалі ноччу мароз, і, калі самалёт застанецца пад адкрытым небам, дарагім яблыкам пагражала небяспека. Але маўклівы і стрыманы Парызіус, калі трэба было, мог праяўляць вялікую актыўнасць. Спасылаючыся на тое, што ён загрузіўся адчувальнымі да холаду вельмі дарагімі прыборамі, яму ўдалося пераканаць нейкага начальніка на аэрадроме, і самалёт з яблыкамі закацілі ў цёплы ангар.

Траўдэ Хёрзельман паклапацілася, каб учынак Парызіуса стаў вядомы ўсім. Смак яблычнага пірага, які і так быў рэдкасцю на бедным на садавіну і гародніну Востраве, надаў смеламу ўчынку асаблівы бляск.

Марцін Уліг жаваў і змрочна гаварыў Гансу Ціфенбаху:

— Парызіус не такі дурань, як мы. Я толькі рады, што гэтыя разумнікі не адабралі і яблыкаў. — Ён падставіў талерку пад дабаўку. Кавалкі амаль такой жа велічыні, як і ў маці дома, як ён прывык. Было дзіўна, як цудоўна ўмелі пячы дзяўчаты. Несумненна, яны з ахвотай прыгатавалі б дзікіх качак. Наступных, якіх ён упалюе. Ён не дасць вырваць у сябе з рук.

«Цюлень», нагрэтае з прыправамі белае віно, ударыў у галовы. Франц Водруба, такі наіўны з выгляду і пра якога за вочы гаварылі зусім адваротнае, паставіў на дварэ на холад бутэльку слівавіцы.

Больш за тузін чашак і кубкаў навыперадкі пацягнулася да яго. Ён адмовіўся дзяліць і перадаў гэта права Траўдэ Хёрзельман. Водруба ўзяў гітару і ў песні сцвярджаў, што не ён выдумаў прыгожых дзяўчат.

У кутку Эдзіт Кнор і апрануты ў цывільнае лейтэнант Банордэн вынайшлі нешта іншае: пацалунак нугі. За цырымоніяй з вялікай цікавасцю назірала некалькі чалавек. Гэтыя двое адначасова ўхапіліся зубамі за палачку нугі і, з асалодай ліжучы салодкае, міліметр за міліметрам набліжаліся адно да аднаго. Калі яны спаткаліся недзе на сярэдзіне — самыя пільныя назіральнікі казалі, што бачылі: Эдзіт працавала хутчэй — ва ўсякім разе, калі нуга знікла і іх вусны злучыліся, Хэні Розэнаў піснула: «Ух!» Ёй канец гульні, відаць, здаўся нечаканым.

Справа набыла паслядоўнікаў. Такім бяскрыўдным спосабам Марцін Уліг атрымаў пацалунак ад Эвы.

«Хто можа ўтрымаць цябе не цалаваць», — загрымеў грамафон.

Траўдэ Хёрзельман падпявала без слоў. Яна паклала руку на плечы свайго яблычнага рыцара і спрабавала ўявіць сабе, што б сказалі яе бацькі, калі б яна прывезла яго з сабой на каляды ў Гамбург — да маці, якая надавала вельмі вялікае значэнне свецкім фармальнасцям, і да бацькі, крыху педантычнага гандляра. «Пілот, — сказаў бы ён, — а гэта што — прафесія? Нават без прыстойнай інжынернай адукацыі?» Ёй давялося б патраціць шмат сілы, каб зрабіць па-свойму.

Ганс Ціфенбах бачыў, што Эва і Марцін танцавалі, не гаворачы адно аднаму ніводнага слова. Здавалася, што ў іх нешта не клеіцца. У Марціна быў такі твар, нібы ён імкнуўся ўтрымаць дзяўчыну любой цаной, не пытаючыся, ці добра ёй з ім.

Ганс Ціфенбах ведаў, што такі спосаб тады-сяды прыносіў яго сябру паспех у жанчын. З гэтай дзяўчынай так не выходзіла, ад чаго ён пакутаваў ужо некалькі месяцаў... Гэта здарылася ў самым пачатку яго знаходжання на Востраве, неўзабаве пасля таго дня ў Бодэнхаўзе, калі ён, Ганс Ціфенбах, быў у Марціна Уліга ў пакоі. Марцін даў яму пагартаць фотаальбом, а сам за перагародкай, у часовай кухні, замешваў цеста на пірог з яйцом. «Кайзершмарэнмашына» ўжо нагрэлася. Ганс Ціфенбах знайшоў здымкі першых сонечных ваннаў у дзюнах. На ўсіх фотакартках ён бачыў Эву Леангард. Былі тут і цудоўныя партрэты, выкананыя са стараннасцю. Дзявочы твар... нешта гаворыць смуглявая Зулейка на паўночным Востраве

Марцін тады крыкнуў са свайго камбуза.

— Табе падабаюцца? — Ён меў на ўвазе творы свайго фотамастацтва.

— Гм. Асаблівa дзяўчына.

— Якая?

— Вось табе на! То ў цюрбане, то без. То апранутая, то — не.

— Ах, вось што. — Паўза ў кутку з яечным пірагом. Можна было пачуць толькі цвірчанне тлушчу ў «кайзершмарэнмашыне».

— Нічога не выходзіць з ёю? — дапытваўся Ганс Ціфенбах.

— Яна ўжо ў моцных руках.

Ціфенбах перакінуў у роце люльку так, што яна стукнулася аб зубы — самая пэўная прыкмета, што яго нешта вельмі зацікавіла. Ён яшчэ раз агледзеў партрэты. Раптам голас Марціна Уліга з камбуза:

— Ты любіш, каб з абодвух бакоў парудзела?

Стук люлькі абарваўся. Ціфенбах разгублена спытаўся:

— У каго? У дзяўчыны?

— Канечне, у пірага.

З тых пор яны больш не гаварылі пра Эву Леангард, былі, праўда, намёкі ў парусной лодцы пасля палявання на качак.

Ганс Ціфенбах абдымаў Эву. Яны танцавалі размашысты англійскі вальс вакол астаткаў яблычнага пірага — некалькі кавалкаў, адрэзаных ад краю, засталіся на фарфоравай талерцы. Танец яны ператварылі ў практыкаванне спрыту. Яны абое смяяліся і былі радыя, што бачылі адно аднаго, у рухах і паваротах лёгка трапляючы ў такт мелодыі. Пад заключны акорд Ганс Ціфенбах абедзвюма рукамі абхапіў Эву за талію і ўскінуў яе ўгору. Яе спадніца развінулася, як звон. Яна спрытна прызямлілася на адну нагу. Потым ён павёў яе за сабой на лаўку.

— Хадзі, — сказаў ён, адкінуўшы няёмкае «вы». — Нам так ці так трэба піць з аднаго кубка.

Пакой быў невялікі. Шмат курылі, а з-за зацямнення нельга было праветрыць яго як след. Таму не кідалася ў вочы, калі хтосьці на хвілінку выходзіў, каб падыхаць свежым паветрам.

Юрген Бэр выкарыстаў гэта. Калі прыйшоў Ганс Ціфенбах, яна ўцякла ад Бэра. Яе паводзіны здзівілі яго, бо ў час начной сустрэчы на пляжы яна ўцякла ад Ціфенбаха... «З Эвай справа безнадзейная, — падумаў ён. — Спачатку яна мне расказвае пра свае познанскія перажыванні, а калі я хачу мець сваю выгоду, яна знікае». Ён глынуў астаткі слівовіцы і далучыўся да Марліс, якая здалася яму нечым занепакоенай. Ён ведаў пра яе сувязь з Гербертам Аксэ, незвычайна блытаным салдатам, якога ён у апошні час некалькі разоў сустракаў у Цыновіцы ў доме святара ў маленькім гуртку тайных слухачоў радыё.

Марліс не баялася свежага паветра і пайшла на прагулку з Юр-

генам Бэрам па тэрыторыі. Нягледзячы на цемру ён ішоў упэўнена, і яна дазволіла яму весці сябе. Ён хутка выпытаў, што яе турбавала. Яна запрасіла Герберта Аксэ на гэта імправізаванае свята, але, калі ён засумняваўся, не паўтарыла запрашэння дастаткова настойліва.

— Вы ж таксама крышку ведаеце яго, — сказала яна. — Ён увесь затарможаны. Канечне. Ён павінен быў спачатку сказаць «не». Але мне трэба было разбіць яго комплекс непаўнацэннасці. А я гэтага не зрабіла. Яму так трэба, каб яго крыху растармашылі.

— Прызнайцеся: у прынцыпе вы былі радыя, што ён адмовіўся.

— Але. Я забаялася. Я пабаялася, што ён не дапасуецца да нас. Праўду кажучы, мы — даволі выпадковая кампанія на гэтай вечарынцы. Часта мяне мучыць сумленне.

— Вы тут не адна такая. Але толькі ў нямногіх хапае сумлення, каб яно стала штуршком разумнаму дзеянню. У казіно яны п'юць. У Цыновіцы яны святкуюць прыватныя балі-маскарады. Кожны дурманіць сябе, як хто можа. Адзін напіваецца, бо мы перамагаем недастаткова хутка, другому робіцца жахліва, калі ён думае пра канец вайны, да якога павінна прывесці наша залатое цяля, А4.

Марліс зразумела, што намёк Юргена Бэра на «другога» адносіцца да Герберта Аксэ.

— Што вам вядома пра Аксэ? — здзіўлена спыталася яна.

— Я — знаўца людзей. Гэта вас не павінна непакоіць. Між іншым, мы крыху заблудзіліся. — Ён пачаў азірацца, прыглядаючыся да мясцовасці.

— Я думала, вам тут усё знаёмае.

— Не. Я тут увогуле чужы.

— Мы недзе зусім блізка ад выпрабавальнага стэнда 7. Вы чуеце гул? Рабочыя працуюць у начную змену — павінен адбыцца запуск.

Удалечыні забрахаў вартавы сабака. Марліс уздрыгнула.

— Далей ісці нельга. Каб толькі вартавы не затрымаў нас! У мяне няма спецыяльнага пропуска.

«Мой жэтон таксама не мае сілы на гэту частку мясцовасці», — падумаў Юрген Бэр.

Дзеля гэтай прагулкі ён пайшоў на свята. Яму неабходна было даведацца, як шчыльна ланцуг вартавых акружаў выпрабавальны стэнд 7, і праверыць, ці ёсць якія магчымасці прабрацца да важнай запусковай арэны без афіцыйных дакументаў. Пяцьдзесят метраў, не больш, аддзялялі іх ад выпрабавальнага стэнда. Каб не выклікаць падазрэнняў у Марліс, трэба было паварочваць назад. Ён асцярожна ўзяў яе пад руку.

— Вы думаеце, нас палічаць за шпіёнаў? Мяне — магчыма, але

вас — не, вы ж сваячка інжынера прадпрыемства.

Яна ўлавіла насмешку.

— Не жартуйце. Гэта — сур'ёзная справа. Я часта баюся. Напрыклад, за Аксэ. Ёсць людзі, якія прычыну няўдалых запускаў бачаць у сабатажы. Шукаючы вінаватых, яны ў першую чаргу хапаюцца за людзей, якія часта бурчаць. Калі яны забяруць Аксэ, нервы ў яго не вытрымаюць. Ён увесь час думае пра брата, якога кінулі ў канцэнтрацыйны лагер.

Нейкі час яны ішлі побач моўчкі. Юрген Бэр думаў пра таварышаў у заключэнні, пра Хайно і іншых з берлінскай групы, якія трапілі ў рукі гестапа і чакалі прысуду. Калі ён даведаўся пра арышты. Ён і Хана вырашылі перачакаць спачатку, каб убачыць, ці знойдзены сляды да іх фарпоста. Калі ж усё засталася спакойна, а ў персанале доследнай установы не выявілася прыкметных змен, яны зноў узяліся за працу. Яны палічылі мэтазгодным спачатку парваць усе ніці, якія вялі ў Берлін. Цяпер у іх была магчымасць дзейнічаць самастойна. Па гэтай прычыне ім тэрмінова спатрэбіліся новыя супрацоўнікі. Наконт Эвы ён пакутна змагаўся сам з сабой. Увесь час ён прыходзіў да высновы, што з-за свайго паходжання яна пад пастаяннай пагрозай. А вось з Аксэ ўсё было не так і з Марліс таксама, яна — стрыечная сястра інжынера прадпрыемства і сацыял-служачая, выпрабаваная шматгадовай працай, — была па-за ўсякімі падазрэннямі.

Ён думаў, як растлумачыць Марліс, што Аксэ абавязкова трэба даць задачу, дзеля якой варта жыць. Гэта задача павінна насіць вельмі лакальны характар. Яе трэба было рашаць адразу. Марліс, пэўна, адкажа, што ў Аксэ няма ніякай мэты ў гэтай вайне, якую ён адвяргаў. Юрген Бэр ніяк не мог прыйсці да канчатковага рашэння.

Зусім блізка наперадзе завурчаў вартавы сабака. З кустоў засвяціўся слабы прамень зацемненае ліхтарыка. Марліс, не паспеўшы навэт спалохана ўскрыкнуць, адчула, што Бэр моцна абняў яе. Ён прыхіліў яе галаву да свэйго пляча і абвіў яе рукамі.

— Смялей! Абдымайце мяне! — шаптаў ён. Марліс няўпэўнена пачала абмацваць яго куртку. Пакуль бледны прамень набліжаўся да іх. Ён ціха гаварыў:

— Пойдзем, каханая, а то астатнія пачнуць шукаць нас. — Моцна абняўшыся. Ён хацеў рушыць далей.

— Стой! — крыкнуў чалавек з ліхтарыкам.

— Слухайце, навошта так пужаць! — з дакорам прамовіў Юрген Бэр. — Няўжо не бачыце, што перашкаджаеце?

— Вельмі шкадую... Вашы пропускі. — Падышоў вартавы з сабакам на кароткім павадку.

Юрген Бэр дастаў з кішэні пропуск і жэтон.

— У дзяўчыны няма дакументаў. Кажу вам загадзя. Мы святкуем у доміку, з гасцямі. Лейтэнант Банордэн атрымаў дазвол.

— Але ж тут не домік, тут дарога вядзе да нечага зусім іншага. І ваш жэтон тут ужо не мае сілы.

Юрген Бэр змушана засмяяўся.

— Марліс, чалавек абвінавачвае нас, што мы хацелі пабыць адны. — Ён даверліва падышоў да вартавога. — Вакол доміка гуляюць і другія парачкі. Таму мы і адышліся на якую сотню метраў далей. Няўжо не разумееце?

— Я ўсё роўна мушу далажыць. Вы водзіце тут невядомую дзяўчыну.

Юрген Бэр уздыхнуў. Гэтага яшчэ не хапала: яго прозвішча ў сувязі з такой справай! Няма чаго рабіць. Ён мусіў уцягваць Марліс.

— Вы ведаеце інжынера прадпрыемства Брэтшнайдэра?

— Канечне. Тут яго ўсе ведаюць.

— Ну вось. «Невядомая дзяўчына» — яго стрыечная сястра.

Чалавек падняў ліхтарык і пасвяціў Марліс у твар.

— І праўда, наша выхавацелька! Чаму ж вы не сказалі адразу? ёй, праўда, не дазволена прагульвацца тут, але калі вам так захацелася пацалавацца... і мы ж людзі. Цяпер жа вы, пэўна, зрабілі, што хацелі. — Чалавек пайшоў, ухмыльнуўшыся. Праз дзесяць крокаў ён азірнуўся, каб пераканацца, ці сапраўды парачка рушыла да доміка.

Марліс толькі тады з палёгкай уздыхнула, калі акунулася ў цёплае паветра пракуранага пакоя. Юрген Бэр усміхаўся.

— Вы адчуваеце сябе вельмі скампраметаванай? — Яна хацела адказаць нешта вясёлае, але не змагла, бо засаромелася, што паводзіла сябе так баязліва і нязграбна. І яна падпала пад уплыў Герберта Аксэ? Яго безнадзейнае жыццё, у вечным страху, было падобнае на заразную хваробу. Яна ўжо падхапіла бацылу. Але старалася супраціўляцца. Магчыма, Юрген Бэр дапаможа ёй? Як умела і хутка ён зрэагаваў на з'яўленне вартавога. Яна раптам убачыла яго іншымі вачыма і з ціхім задавальненнем заўважыла, што парывы Эвы былі скіраваны ў другі бок.

Эва сядзела на лаўцы, вясёлая, з пачырванелымі шчокамі, і гайдала правай босай нагой.

— Туфель забраў Ганс Ціфенбах, — растлумачыла яна Марліс, — каб я не магла ўцячы. Водруба захацеў абавязкова пагутарыць з ім сам-насам. Нешта службовае. Я проста вымушана быць вернай.

— Гэта цяжка? — спыталася Марліс.

Эва гарэзліва засмяялася.

— Нават вельмі весела. Марціна Уліга даканала, калі я адмовілася пайсці з ім танцаваць. Думаю, што мяне для яго больш не існуе.

Ганс Ціфенбах і Водруба вярнуліся, і Ціфенбах з усмешкай спыніўся перад Эвай. Туфель быў у яго пад пахай.

— Добра паводзіла сябе?

— Вымушана была.

— Ну і добра. — Ён стаў на калені і абуў ёй туфель.

«Як прынц Золушцы», — падумала Марліс. Яна была радая, што сум, які прыгнятаў Эву пасля вяртання з Познані, здавалася, быў пераадолены.

## 2
## ПАЛЁТ А4

Ясным восеньскім днём усе, хто працаваў у доследнай установе, убачылі, як прадукт іх шматгадовых, больш або менш інтэнсіўных намаганняў узняўся ў іёнасферу. А4 паляцеў, упершыню так, як было разлічана, без інцыдэнтаў.

У кабінетах і майстэрнях у гэты дзень мала хто працаваў. Вялікая падзея — старт — падняла ўсіх астраўлян на ногі, і нават самую нязначную служачую хвалявала пытанне, ці ўдасца. Перад апошняй праверкай самых важных тэхнічных дэталяў апарата генерал яшчэ раз звярнуўся да штаба галоўных адказных за запуск.

— Шаноўныя паны, зыход гэтага запуску будзе мець велізарнае значэнне для лёсу ўсёй доследнай установы. Калі запуск не ўдасца, мы страцім крэдыты ва ўпраўленні па зброі — і, пэўна ж, у больш высокіх установах. Праект А4 можа не сёння-заўтра быць выкраслены са спісу відаў зброі, якія вырашаюць зыход вайны. Для нас гэта азначае: адмену самай высокай ступені тэрміновасці, страту шмат якіх пазіцый, дробязную барацьбу за кожны грам матэрыялаў. Мы яшчэ трымаем у руках усе казыры. Прыкладзіце ж і вы ўсе намаганні, каб добра падрыхтаваць надыход хвіліны ікс. На запуску будуць прысутнічаць рэйхсмаршал і яго штаб.

Пакатыя дахі майстэрняў у гэты дзень сталі жаданым месцам для назірання. Траўдэ Хёрзельман захапіла сабе такую ложу побач з Клемтам.

Эва спаткалася з Марліс і Гэрбертам Аксэ на пясчаным узгорку недалёка ад будынка аэрадынамічнай трубы. Яны былі сярод тых, хто не знайшоў сабе месца наверсе. Для салдата Аксэ вялікай удачай было ўжо, што ён у службовы час быў побач з Марліс. Ён выкарыстаў тлум гэтага дня і знайшоў яе. Пасля таго як ён адхіліў яе запрашэнне на

свята ў доміку, яны не сустракаліся. Марліс адгаворвалася па тэлефоне, што ў яе шмат работы.

Дзень пачаўся з доўгага чакання. Было халаднавата. Чакаючы, усе пераступалі з нагі на нагу, каб сагрэцца. У адной групе ішлі ў заклад.

— Гэтая штуковіна зноў не паляціць, — гаварыў адзін.

— Калі яна не ўзляціць, ты прайграў, — смяяўся інжынер-даследчык Іміш. — Толькі веруючыя душы выйграюць перамогу.

— Тады нам лепш кінуць працу ды ісці маліцца, — прапанаваў Цобель, знаёмы Эве яшчэ з астраўка, сусед Аксэ па пакоі. Для яго гэты дзень быў развітаннем з аэрадынамічнай трубой. Яго прыпісалі да другой каманды.

Марліс ведала ад Брэтшнайдэра, што было пастаўлена на карту. «У тых наверсе, на даху, мусіць, зусім іншы настрой», — падумала яна.

З размоў са стрыечным братам яна ведала пра шматбаковую і складаную падрыхтоўку, якая папярэднічала «хвіліне Х». Кіраўнік доследнага ўчастка распрацаваў дасканалую сістэму каманд і часу, дзе ўсё было разлічана на секунды. Цяпер, напэўна, інжынеры-разлікоўцы сядзелі каля прыбораў і атрымлівалі апошнія інструкцыі па тэлефоне ад кіраўніцтва запуску. На самых высокіх платформах выпрабавальных стэндаў і корпуса вымярэнняў назіральнікі наладжвалі тэлескопы. Стэнографы побач падрыхтаваліся заносіць у пратакол іх назіранні. Фатографы і кінааператары трымалі напагатове апараты, а ў бункеры перад пультамі стаялі інжынеры кіравання і стабілізацыі.

Патрабавалася распрацаваная да дробязей арганізацыя, дакладны гадзіннікавы механізм, у якім адно колца зачаплялася за другое, калі хацелі, каб запуск буйной ракеты А4 прайшоў удала, каб былі дасягнуты вышыня ўзлёту, адхіленне, расход паліва і дальнасць палёту, як было разлічана. Догляд за лятальным апаратам быў такі ж складаны, як і сам апарат. Калі б моцныя жаданні сапраўды мелі сілу, тады А4 на гэты раз мусіў бы паляцець. Але ж меліся і контржаданні. Магчыма, не ў такой вялікай колькасці душ, але, мусіць, не менш інтэнсіўныя. Думкі Герберта Аксэ яна ведала. Ілюзій больш не было: ён хацеў, каб гэта вялікая цяжкая справа не ўдалася, і ён згадзіўся б нават на бамбардзіроўку. Любы сродак быў прымальны, калі б дапамог хутчэй закончыць вайну.

«Гэта вайна — справа вялікага вар'ята, — часта гаварыў ён. — Наш народ пакутуе за комплексы выскачкі».

Пасля такіх размоў яна вярталася дадому разбітая. Штосьці ў ёй пратэставала супраць яго выказванняў.

Эва была адзіная, з кім яна адважвалася загаварыць пра гэта,

хаця б намёкамі. Але і адсюль не было ніякага праяснення. Потым яна зноў сустракалася са стрыечным братам і бачыла там фанатычнаю волю да працы і веру ў перамогу. Яна не магла забыцца і пра нецярпенне раненага са свінемюндскага шпіталя, які не хацеў пакідаць у бядзе сваіх таварышаў і палка чакаў, калі вернецца на Балтыку. Дзе здрада? Дзе вернасць? Часам ёй снілася, што яе выкрылі і за двайную гульню кінулі ў лагер. Вось чаму сустрэча з вартавым каля хаткі нагнала на яе столькі страху. Яна дайшла да таго, што не адважвалася ўжо ні спадзявацца, ні жадаць — ні перамогі, ні паражэння.

«Я горшая за ўсіх, — думала яна. — Я стаю паміж франтоў».

Іміш дастаў гадзіннік.

— Зараз павінна пачацца.

З аддаленага каманднага бункера прагучаў голас праз гучнагаварыцель:

— Ікс мінус тры... Пачатак адліку.

Іміш учапіўся сабе ў валасы. Перад кожным выпрабаваннем тое ж самае напружанне, хвіліны здаюцца бясконцымі. Чорт забяры, чаму не відаць «сігары», якая стаіць на пускавым стале з адным толькі пускавым кабелем.

— Ікс мінус два. Адлік часу. — Некалькі запозненых прыбеглі і паспешліва палезлі на пясчаны ўзгорак. Біноклі ўтаропіліся ў неба.

— Ікс мінус адзін. Адлік часу. — Людзі затрымалі дыханне. У паветра ўзняўся дымавы патрон.

— Зараз уключыцца малая ступень. — Іміша трэсла. — З сілай руху ў восем тон. Потым — галоўная ступень. Дваццаць пяць тон. Каб можна было бачыць на вялікую адлегласць! Як развіваецца адваротны штуршок... — Інжынер-даследчык замаўчаў.

Амаль бясшумна, бо гук рухавіка яшчэ не дайшоў да назіральнікаў, А4 вертыкальна ўзляцеў з лесу — металічная пачвара, вышынёй 14 метраў, з хваста якой біў шырокі доўгі вогненны шлейф. Павялічваючы хуткасць, ракета набірала вышыню. Камета, запушчаная ў атмасферу рукой чалавека!

Яна праляцела ўжо некалькі секунд, перш чым грукат, падобны на гром, даляцеў да вушэй назіральнікаў па ўсёй тэрыторыі. Чорна-белы малюнак бездакорна прапарцыянальнага ў аэрадынамічных адносінах апарата паказваў, што ён ляцеў па крутой арбіце стабільна і не круцячыся.

Тэхнікі на ўзгорку вырывалі адзін у аднаго біноклі. Хоць большасць з іх ведалі дадзеныя агрэгата з табліц і дыяграм, хоць ім было вядома, што ў камеры згарання, куды кожную секунду запампоўваецца сто дваццаць пяць літраў спірту і кіслароду, паліўныя газы

дасягаюць тэмпературы дзве тысячы восемсот градусаў па Цэльсіі, а вызваленая энергія ў канечнай фазе складае каля шасцісот пяцідзесяці тысяч конскіх сіл, шмат у каго з іх, калі яны ўбачылі гэтыя неверагодныя сілы ў дзеянні, захапіла дыханне. З сапла газавы струмень біў з хуткасцю дзве тысячы метраў у секунду. Лятальны апарат, які рабіўся з кожнай секундай усё лягчэйшым, усё павялічваў хуткасць і праз нейкія пяць секунд змяніў свой вертыкальны лёт на прадпісаную траекторыю. Здавалася, агрэгат падпарадкоўваецца нячутнаму загаду.

— Гукавая хуткасць, — аб'явіў голас праз гучнагаварыцель, а А4 ляцеў яшчэ, можа, з паўмінуты. Зноў тэхнікі затаілі дыханне. Няўжо будзе выбух? Нездарма спецыялісты гаварылі пра «гукавы бар'ер». Гэта быў уяўны бар'ер, які не пераадолела яшчэ ніводная вадкасная ракета. А А4 трымаўся сваёй раўнамернай арбіты, як быццам не было ніякага крытэрыя.

— Вось і зваліўся з сэрца, прагрукатаўшы, вялізны цяжар, — сказаў Іміш, не адымаючы ад вачэй бінокля. Ён думаў пра Клемта, пра Доктара і генерала, якія нядаўна пры наведванні аэрадынамічнай трубы ў доследным корпусе гаварылі пра цяжкія апасенні.

У біноклі ракета ўжо была толькі мігатлівай рыскай з бліскучым вогненным хвастом. Спецыялісты гаварылі пра вышыню дзесяць кіламетраў. Раптам на ясным блакітным небе паказалася крыху вызубленая белая палоска.

Бертэль Дрэўз ускрыкнула:

— Узарвецца!

Відаць, іншых таксама занепакоіла ўбачанае, бо з гучнагаварыцеля пачуўся голас, які супакойваў:

— Усё нармальна. Кандэнсатныя з'явы.

Праз хвіліну Іміш апусціў бінокль. Яго рукі нібы звяла сутарга.

— Цяпер яна недзе на вышыні каля дваццаці трох кіламетраў і ляціць у чатыры з паловай разы хутчэй за гук. Калі б тут было чуваць гук, можна было б сказаць дакладна.

Лятальны апарат ператварыўся ў кропку і знік з вачэй. Ракета, напэўна, пабіла ўжо ўсе вышынныя рэкорды. Прайшло яшчэ некалькі секунд. Потым голас аб'явіў праз гучнагаварыцель:

— Канец паліва.

Усё відовішча працягвалася з мінуту. Маленькімі групкамі гледачы пакідалі ўзгорак.

— Вышэй як на семдзесят кіламетраў не ўзляціць, — сказаў нехта з тэхнікаў.

Іміш быў настроены больш аптымістычна.

— Павінна дацягнуць да васьмідзесяці. Цяга была ў поўным парадку. — Ён штурхнуў другога пад бок. — Вось цяпер хай прыйдзе хто і скажа, што наша праца нічога не вартая, га?

Герберт Аксэ першы спусціўся з узгорка. За ім моўчкі ішла Марліс. Калі іх ужо ніхто не мог пачуць. Ён сказаў:

— Там угары лётае смерць, а тут унізе радуюцца. Цяпер у вар'ята ёсць зброя, якой ён хацеў.

Марліс, якая яшчэ не магла вызваліцца ад уплыву тэхнічнага цуду, вінавата маўчала. Яны зайшлі ў пустую яшчэ сталоўку. Нібы ў час нейкага народнага свята, усе разбрыліся па тэрыторыі і цяпер паволі вярталіся са сваіх назіральных пастоў.

— З заўтрашняга дня я ў камандзе пры заводскай чыгунцы, — расказваў Аксэ. Ён стараўся больш не гаварыць пра толькі што ўбачанае. — Менавіта мяне выбралі пісаць лозунгі на лакаматывах: «Колы круцяцца для перамогі». Смешна, праўда?

«Ён ужо не чакае ад мяне адказу, — зацята падумала Марліс. Ён жа адразу загаварыў зноў. — Чалавек, які не справіўся са сваёй бядой. Ён не справіўся і са стартам А4».

— Менэ — менэ — тэкель, — працытаваў ён. — Я прыпомніў гэта, калі ўбачыў вогненны струмень. Пасля такога пачынаеш усё разумець: забабоны старых, боязь ведзьмаў і страх перад дэманамі. Людзі, якім патрэбен такі вогненны знак іх магутнасці, пацерпяць крах.

— Калі ты ўпэўнены ў гэтым, табе трэба супакоіцца, — сказала Марліс.

— Спачатку яны зацягнуць усіх нас у хаос.

«Немагчыма нічога зрабіць з яго песімізмам, — падумала яна. — Я так часта спрабавала змагацца з ім. Мяне гэта дабівае. Я так больш не магу».

Пасярод патоку з тэрыторыі майстэрняў Эва спаткала Юргена Бэра. Убачыўшы, што яна ідзе па бакавой дарожцы ад аэрадынамічнай трубы. Ён адышоў ад групы. Яны крыху адсталі ад астатніх.

— Ну як, — спытаў ён задзірыста, — ашаломлена?

— Лічу, што гэта выдатна, — прызналася яна.

— Мы мелі гонар прысутнічаць на першым запуску вадкаснай ракеты ў іёнасферу. Сусветная прэм'ера, так сказаць. Ва ўсякім разе, тут так думаюць.

— Гэта надзвычайная падзея, праўда?

— А як жа. Вельмі мала хто спадзяваўся, што ўсё так добра скончыцца. Лятальная лабараторыя! — Ён засмяяўся. — Была даволі капрызная да гэтага часу. Але пры сённяшнім палёце яна праз пяцьшэсць мінут будзе ў Лондане. Тысячу пяцьсот метраў у секунду па

нашых падліках!

— І што цяпер будзе?

— Будуць рабіцца выпрабавальныя серыі, хутка пусцяць завод. Герынг зробіць даклад у стаўцы фюрэра. Гітлер падпіша паперку, каб доследнай установе Востраў выдавалі любыя матэрыялы, якіх яна захоча. Вышэйшая ступень тэрміновасці! Доктар атрымае ордэн, а генерал — павышэнне. А магчыма, і — не. Магчыма, з'явяцца каршуны.

— Якія каршуны?

— Зайздроснікі, якія адбіраюць здабычу. Звярні ўвагу, як яны цяпер злятаюцца, тыя, хто да гэтага часу палец аб палец не ўдарыў для праекта А4: паны з прамысловасці, з генеральнага штаба і, вядома ж, выскачкі. Цяпер ім радасць пазабаўляцца з вялізнай цацкай.

— Ах, гэта ўсё мяне не трывожыць. Няхай бы з гэтага атрымалася толькі адно: мір праз паўгода.

Ён, хітаючы галавой, паглядзеў на яе зверху ўніз. Дзіця, няўжо ты яшчэ нічога не разумееш?.. Потым яны звярнулі на сцежку да сталоўкі і далучыліся да астатніх.

У прыўзнятым настроі генерал, ціхі прафесар, Доктар і невялікі штаб самых блізкіх супрацоўнікаў пакідалі назіральны пункт. Яны праводзілі да машыны высокага госця, які быў у найлепшым настроі.

Магутная глыба гонару ў бліскучай ад ордэнаў раскошы пад шызай палярынай, знарок нядбайна трымаючы маршальскае жазло ў руцэ, шырокім крокам рухалася да машыны. Ён паблажліва ў знак згоды ківаў Доктару, які апісваў яму розныя мерапрыемствы для падвядзення вынікаў запуску А4. Зялёная вадкасць будзе адзнакай месца прываднення на моры. Парызіус ужо ўзняўся ў паветра на хуткаснай машыне. Вымяральныя прыборы зарэгістравалі апагей узлёту на вышыні дзевяноста тысяч метраў, а адлегласць вымяраецца прыблізна ў дзвесце кіламетраў. А4 вытрымаў і апошнюю цяжкую праверку: вяртанне ў атмасферу прайшло без непажаданых нечаканасцей. Запушчаны апарат перанёс тармазное ўздзеянне густых слаёў атмасферы, высокую тэмпературу знешняй абалонкі, выкліканую трэннем.

З цікавасцю спецыяліста рэйхсмаршал сачыў за дакладам стараннага маладога чалавека ў паношаным капелюшы, ссунутым амаль на патыліцу.

Нюх яму ўсё ж не здрадзіў, калі ён, насуперак думцы ўсіх скептыкаў, запыніўся на гэтым маладым энтузіясце. Ён патурбаваўся, каб гэта гарачая галава не страціла свайго запалу ад дробных падножак і зацятых наскокаў, такіх звычайных у адносінах паміж сухапутным

войскам і люфтвафэ. Бо толькі праз душэўны ўздым можна было здзейсніць тое, што ён, першы палкаводзец пасля фюрэра, убачыў сёння. Калі б не маршальскае жазло, Герынг напэўна пацёр бы рукі... Ён нацешыцца сваім дакладам у штабе фюрэра і ў Гебельса, свайго заядлага праціўніка. Гэты кінецца на здабычу і са скрыгатам зубоў будзе вымушаны прыняць ад яго, свайго асабістага ворага, тое, што так пільна яму патрэбна для справы: заспакойвальную пілюлю для народа.

З той пары, як пачасціліся паветраныя налёты на захадзе і на Берлін, народ больш не верыў прыгожым словам накшталт «Верыць, падначальвацца, змагацца». Порцыі опіуму трэба было павялічыць. Прага помсты ў тых, хто пацярпеў ад бамбёжак, павінна была атрымаць новую спажыву, гэта ўмацавала б і тыл. Надзея на адплату за пакуты ўвасабілася ў вогненнай імклівай страле, якая сёння ўпершыню ўзнялася над Балтыйскім морам. Праз дзесяць, не, магчыма, праз шэсць месяцаў, яна паляціць з галандскага ўзбярэжжа праз Ла-Манш, з пазіцый Усходняга фронту на Маскву, на Ленінград. Яна адамкне нямецкім войскам ключавую пазіцыю — Сталінград — і нафтавую вобласць на поўдні... Так, сёння быў добры дзень, цудоўны дзень!

Герынг з задавальненнем прыпомніў сваю стыхійную рэакцыю на грымучы ўзлёт вялізнай ракеты. «Такі запуск будзе галоўнай падзеяй першага партыйнага з'езда пасля вайны ў Нюрнбергу». Малады Доктар разявіў рот у шырокай усмешцы, паказаўшы зубы, калі ён, яго маршал, сказаў яму пра гэта. У хлопца былі прыгожыя зубы, рот сапраўднага драпежніка. Пасля вайны, калі яму ўжо не прыйдзецца з прычыны сакрэтнасці трымацца ў цяні. Ён стане народным героем. У яго былі ўсе дадзеныя для гэтага: малады, самаўпэўнены, не спешчаны, з найлепшай нямецкай сям'і, да таго ж — светлая галава. Настолькі светлая, што за ім трэба прыглядваць. А тое, што ён быў высокі, белакуры і з блакітнымі вачыма, можна было толькі вітаць — апошняя кропка над «і».

Усміхаючыся на ўвесь ружовы твар, рэйхсмаршал узняў жазло свайго гонару і падышоў да машыны. Тут з малайцавата падкрэсленай павагай да яго падышоў капітан і ўручыў яму тэлеграму. Маршал распячатаў яе, яшчэ стоячы перад машынай. Ружовая пераможная ўпэўненасць зляцела раптам з яго твару, як маска. Яго рысы раптам абвялі. Ён павярнуўся да эскорту.

— Аддайце загад на аэрадром: неадкладна падрыхтаваць мой самалёт на ўзлёт. — Не звяртаючы ўвагі на разгубленыя твары. Ён сеў у машыну. Нягледзячы на мажнасць, хутка і гібка ўсеўшыся. Ён кіўком падазваў генерала. Так, каб чуў толькі той. Ён коратка растлу-

мачыў прычыну нечаканага адлёту.

— Саветы спрабуюць пачаць контратаку ў раёне Сталінграда. Менавіта сёння. Гэта напамін. Нам патрэбен А4. Помніце гэта. — Дзверцы зачыніліся.

З сур'ёзным выглядам генерал-маёр прыклаў руку да фуражкі і паглядзеў услед магутнаму, які ад'язджаў і які быў усё ж не такі магутны, каб не залежаць ад яго, ракетнага генерала, якога шмат разоў агаворвалі, ці ад маладога Доктара побач з ім, у якога не было нават вайсковага звання.

Калі Лабан, камарад Міргун з дома Зээштэрн, выходзіў з хаты свайго швагра, былога рыбака, а цяперашняга заводскага ахоўніка Пэплава. Ён вельмі здзівіўся, сустрэўшы крыху няўклюднага д-ра Бэра з веласіпедам. Лабан ведаў яго па гасцяванні ў Леангард і Хасэ. Лабану не магло нават прыйсці ў галаву, што ў яго пляменніцы Ханы могуць быць нейкія варункі з гэтым маладым чалавекам. А куды яшчэ ён мог накіроўвацца? Толькі для забавы тут, паміж апошніх старых хацін былой рыбацкай вёскі, дзе вуліца канчалася пустынным вусцем ракі, пэўна ж, ніхто не катаўся.

Юрген Бэр павольна круціў педалі, як чалавек, якому і на веласіпедзе даводзіцца глыбока думаць. Ён нахіліўся нізка над рулём. Пад'ехаўшы. Ён павітаўся, як заўсёды, зычліва. Лабан, адышоўшыся, каб быць не вельмі прыкметным, прыпыніўся і азірнуўся. Бэра ўжо не было відаць. Не магло быць, каб малады чалавек так хутка схаваўся за трыснягом. Няйначай, як ён знік разам са сваім веласіпедам у адзінокім рыбацкім Доміку. Дзіва, дый годзе! Пакруціўшы галавой, стары пайшоў далей. Яму трэба было спяшацца, бо скора пачыналася яго дзяжурства «ў малодак», як з насмешкай гаварыла Хана. Ён доўга гаварыў са шваграм пра запуск А4. Нарэшце і ён тое-сёе ўбачыў, чым яны тут займаліся за агароджамі і вартавымі будкамі. Як бы патайна яны ні рабілі, а людзям вачэй не завяжаш. А што ён убачыў, тое ўбачыў. Там, дзе падала такая штуковіна, трава больш не расла. Каб толькі не атрымаўся бумеранг, які вернецца на Востраў. «Пажывём — пабачым», — загадкава прамовіў Лабан.

Пакой Ханы Пэплаў на верхнім паверсе двухпавярховага рыбацкага доміка быў доўгі, як рукаў. Дзверы былі нізкія, а акно падобнае да вока пад парослым мохам трысняговым дахам. Апусціўшы плечы, Бэр стаяў у нізкім пакоі, нібы баяўся, што, выпрастаўшыся, стукнецца галавой у столь.

— Сядай, — сказала Хана. Яна рыхтавалася распаліць агонь у маленькай чыгуннай печы. — Тады не будзе так прыкметна, што мой пакой табе не па росце.

Ён падышоў да акна. Каб зазірнуць у яго, яму давялося прыгнуцца.

— Адсюль цудоўны від! Ён кампенсуе ўсё.

— Ты заўсёды прыходзіў, як сцямнее. Цяпер бачыш, што ты ўпускаў.

Плоская, парослая трыснягом раўніна цягнулася аж да ракі. Рэшткі рыбацкай вёскі, якая доследнай установай была асуджана на смерць, ляжалі ўбаку, і, калі выглянуць, здавалася, што ты знаходзішся на самым адзінокім бязлюдным фарпосце, дзе адны вадзяныя птушкі чародамі гняздуюцца на балоцістых берагах вусця ракі. За сагнутымі ветрам соснамі-калекамі, на тым баку ракі, заходзіла сонца.

Юрген Бэр адвярнуўся ад акна і сеў у плеценае крэсла каля маленькага століка. Хана з канапы пазірала ў траскучы агонь.

— Я чакала, што ты сёння прыйдзеш, — сказала яна, не адводзячы позірку, — але не адважылася канчаткова паверыць — тады б ты мог не прыйсці. Як тут хутка робіцца цёпла... Што ты думаеш пра сённяшнія падзеі?

Юрген Бэр выцягнуў доўгія ногі.

— Мне сорамна гаварыць табе.

— Здагадваюся. Цябе ўразіла.

— Ты бачыла палёт?

— Бачыла.

— І што?

— Мне было толькі не па сабе. Я ж зусім не разбіраюся ў тэхніцы. Няўжо праўда, што гэта так важна для зыходу вайны, як яны гавораць?

— Не. Але сёння яны атрымалі псіхалагічную перамогу ў сваіх радах і па ўсёй лініі. Я заўважыў гэта па сабе. Я не справіўся са сваёй душой — душой тэхніка. Калі б не ведаў, што гэта штуковіна павінна стаць няведамай яшчэ знішчальнай зброяй, трэба было б радавацца. Гэта — першы крок да касмічнага палёту.

— Толькі спакойна. Заставайся на зямлі і саромейся. Так, саромейся як след. — Яна ўстала і падкінула дроў. — Штуковіна паляціць на Англію, на Савецкі Саюз, рынецца на гарады, будзе масава знішчаць людзей.

Яна зноў вярнулася на сваё месца, і Юрген Бэр сеў каля яе.

— Ці мне наогул не трэба было нічога гаварыць пра свае думкі?

— Так мы не дамаўляліся.

— Вось бачыш. Вельмі важна, што табе вядомыя вынікі, якія можа мець гэты ўдалы старт, яшчэ задоўга да таго, як будзе выпушчана

першая серыя А4. Герынг бачыў палёт, і прапагандысцкая машына закруціцца.

— Вось і прыйшла пара, каб мы сказалі людзям праўду. Калі, на тваю думку, мы можам пачаць перадаваць?

Ён паглядзеў на яе. У яе і сапраўды было вельмі слабое ўяўленне пра тэхніку, інакш яна не была б заўсёды такая нецярплівая, калі гаворка заходзіла пра патайны перадатчык, які ён са сваімі сябрамі хацеў устанавіць на гарышчы ў Цыновіцы. Асцярожнасць вымагала не спяшацца. Ён не адважваўся назваць ёй тэрмін. Яго давераны чалавек з транспартнага аддзела быў ужо некалькі дзён у ад'ездзе і не прывёз яшчэ патрэбных шпуль. Кожная дэталь дабывалася з цяжкасцю. Але здавалася, што будучы перадатчык — канёк Ханы. Крыху засаромеўшыся, яна дастала са скрынкі, схаванай за канапай, аркуш паперы.

— Ты павінен зразумець, — сказала яна, — я ўжо рыхтую, што мы будзем гаварыць людзям. Я... я ўжо зрабіла такія-сякія накіды.

Ён прачытаў дваццаць рукапісных радкоў. Гэта быў зварот да нямецкіх маці — дапамагчы пакласці канец масавым забойствам, растлумачыўшы сваім сынам, што яны змагаюцца за дрэнныя справы.

— Добра, што ты звяртаешся да маці, — сказаў Юрген Бэр пасля кароткага роздуму. — Але мы ім павінны спачатку сказаць, чаму гэта вайна шкодная чаму яна не можа добра скончыцца. Я думаю: пасля таго што мы ўбачылі сёння, наш перадатчык павінен атрымаць нейкую пэўную задачу. Мы павінны выкрываць перад людзьмі фальш чароўнай казкі пра зброю адплаты. Мы для гэтага падыходзім, як ніхто іншы. — Ён падхапіўся, захоплены сваёй думкай. — Тут нас ніхто не заменіць.

Хана парвала паперу на дробныя шматкі і кінула іх у печ. Яна не магла так хутка сачыць за ім. Ён паклаў ёй руку на плячо.

— Напішы ўсё нанава. Зноў звярніся да маці Яны павінны ведаць, што зброя адплаты не можа рабіць ніякіх цудаў, што яна не што іншае, як снарад вялікай дасягальнасці і з моцнай выбуховай сілай, які, магчыма, і нанясе шкоду Англіі, але не застрашыць ворагаў. Як і раней, іх сынам прыйдзецца сцякаць крывёй на франтах, а варожыя бамбардзіроўшчыкі не перастануць разбураць іх жытло. Мы павінны зняць чары з формулы Гебельса. Вось як, Хана! Знішчыць казку пра чароўную зброю! Зламаць саломінку, за якую чапляюцца спакутаваныя людзі.

Цяпер яна зразумела яго.

— Мне б хацелася як мага хутчэй сказаць гэта перад мікрафонам.

— Ты? — ён пакруціў галавой.

Дазволіць ёй выступаць было немагчыма. Яе паўночнае вымаўленне адразу б выдала яе. А потым — яна была апора іх маленькага гуртка.

— Але тое, што я ўяўляю сабе, павінна гаварыць жанчына, — настойвала яна.

— Так, так, пакуль усё будзе гатова, мы знойдзем жанчыну, якая падыдзе для гэтага.

Хана ўздыхнула.

— Мне так хочацца ўбачыць вынік нашай працы.

— Не патрабуй зашмат. Нашы паведамленні заўсёды былі надзвычай важныя для берлінскай групы.

— Можа быць. Цяпер мы самі будзем выкарыстоўваць свой матэрыял. Мне заўсёды сорамна, як мала мы можам, калі чую, што робіцца на франтах. Толькі што я слухала Маскву. Чырвоная Армія мацнее. Яна наступае.

— Нарэшце. Дзе?

— Яны сказалі — пад Сталінградам.

— Будзем спадзявацца, што гэта сур'ёзна.

— Несумненна, сур'ёзна.

— Чым ты сёння занятая, Хана? — Ён неяк нязграбна паклаў ёй руку на калена.

Яна скінула руку і ўзялася за качаргу, каб зачыніць дзверцы ў печы.

— За апошні час мне амаль нічога не ўдалося. Сувязь з вязнямі канцэнтрацыйнага лагера не наладжана. Нічога не магу зрабіць і для Марыі, якую мы хаваем у нас. Да бацькі я больш не адважваюся звяртацца.

— Ён жа не супраць нас?

— Не. Але ўдзельнічаць таксама не хоча. Ён, відаць, баіцца.

— Ён мог бы нам спатрэбіцца як ахоўнік.

Юрген Бэр задумаўся. Яму прыпомнілася, што Аксэ гаварыў у абед у сталоўцы пра каманду пры чыгунцы.

— Зняволеныя ўкладваюць шпалы, — сказаў ён сам сабе. — Я паспрабую праз салдата Аксэ звязацца з нашым чалавекам.

— Аксэ? Гэта той самы, што ўжо нейкі час у цыновіцкім гуртку?

Юрген Бэр пацвердзіў. У доме цыновіцкага святара, дзе часта збіраўся невялічкі гурток, каб тайна паслухаць замежныя перадачы, з'явіўся Герберт Аксэ, сур'ёзны, паглыблены ў сябе, староннí сярод старонніх.

— Ты тады падумаў, што на яго нельга разлічваць, — сказала

Хана.

— Трэба паспрабаваць. Ён крыху блытаны, мне здаецца, антрапосаф. Але фанатычны працiўнiк нацызму.

— Я не веру такiм людзям, у якiх не зразумееш, чаго яны хочуць.

Аксэ можна паверыць.

— Я лiчу, што наогул лепш, каб ты не хадзiў у цыновiцкi гурток. Там сабралася зашмат. Лепш час ад часу прыходзь сюды. Тут наверсе можна спакойна паслухаць, калi быць асцярожнымi.

Ён уважлiва паглядзеў на яе.

— Калi адзiн з нас пападзецца, на другога не павiнна ўпасцi нiякага падазрэння. Пра гэта ў нас дамоўлена даўно. Ваш дом занадта навiдавоку, каб нiхто не заўважыў, што я хаджу сюды рэгулярна днём. Ты ведаеш, як зiрнуў на мяне сёння твой дзядзька, калi я ехаў да цябе. — Юрген Бэр паклаў руку на спiнку канапы i крануў патылiцу Ханы.

Яна адсунулася.

— Перастань, калi ласка, а то ўсё стане яшчэ цяжэй.

Ён паважаў гэты яе тон. Ён паважаў у гэтай дваццацiгадовай дзяўчыне нешта такое, што ён, пры поўным усведамленнi сваёй мужчынскасцi, у iншых адмёў бы з усмешкай. Думаючы пра гэта. Ён спрабаваў прыйсцi да высновы: у iм так шмат павагi да дзяўчыны Ханы, што для пяшчотнай прыязнасцi, кахання цi як бы нi называлi гэта пачуццё, не заставалася месца. Ён захапляўся яе мужнасцю, яе разважлiвасцю i рашучасцю. Ён здагадваўся, як ёй было цяжка падначалiць свае пачуццi розуму, i яго кранала, якой паслядоўнай яна была i тут. Часам ён страсна жадаў яе, як цяпер, седзячы побач. Яму хацелася сказаць ёй, што некалi яны, магчыма, пашкадуюць, што скарысталi не ўсё тое, чым маглi ашчаслiвiць адно аднаго. Але гэта ўяўлялася яму як смяротны прысуд, i ён маўчаў. З яе iмем у памяцi i даручэннем сябра Хайно — падтрымлiваць яе ў рабоце на пярэднiм краi — ён прыехаў на Востраў. У Берлiне, у кiраўнiцтве групы, яму растлумачылi, што пранiкнуць ва ўнутраную структуру сакрэтнага прадпрыемства даручаецца яму.

Ён хутка зразумеў, якая цяжкая была непрыкметная праца на Востраве, дзе кiруючыя асобы былi ахоплены ракетнай лiхаманкай, а большасць супрацоўнiкаў iмкнулася пазбегнуць так званай «астраўной хваробы», жывучы вольна i падкрэслена бестурботна.

Хана хоць i не забывала свайго даручэння — умела выкарыстоўваючы веданне асабовых спраў, прыцягваць да працы новых памочнiкаў i супрацоўнiкаў — пасля некалькiх няўдалых спроб засяродзiлася на зборы i перадачы iнфармацыi. Калi ён аднойчы вярнуўся з Бер-

ліна з прапановай сабраць перадатчык, яна з радасцю ўхапілася за гэта. Здавалася, што работа з перадатчыкам будзе лягчэйшая і больш перспектыўная, чым звязанае з цяжкасцямі тайнае друкаванне дробных адозваў і лістовак, тым болей што амаль усе дэталі для перадатчыка можна было вынесці з завода.

Вестка пра арышт кіраўнікоў берлінскай групы балюча ўразіла Хану.

— Кажуць, таварышы выдатна трымаюцца на допытах. Хто яшчэ не быў камуністам, цяпер стане ім, — паведаміў Юрген Бэр з безаглядным захапленнем, пачуўшы ад фрэстэрскага шафёра больш дакладныя падрабязнасці. Нечакана для сябе яна ўбачыла, якая важная яму была гэта палітычная свядомасць. Спачатку ёй дастаткова было ведаць, што група аб'ядноўвала людзей самых розных светапоглядаў, якія працавалі на адну мэту — зламаць ваенную сілу Гітлера. І вось цяпер Хана хацела ведаць больш, і яны спрачаліся, наколькі ім дазвалялі рэдкія тайныя сустрэчы, пра палітычныя задачы і мэты групы.

Юргену Бэру нельга было і жадаць больш уважлівай слухачкі, чым гэтая простая Рыбакова дачка, былая служанка карабельнага маклера. Яна здзіўляла яго незвычайнай сур'ёзнасцю, якой яму, нягледзячы на тэарэтычную перавагу, часта не хапала. Ён павінен быў згаджацца з яе напамінамі, што трэба працаваць паслядоўна, як ужо даўно чыста інстынктыўна дзейнічала яна. Яна заўсёды была наперадзе яго.

А ці магла яна ўявіць сабе, як цяжка было на гэтым участку фронту менавіта яму, фізіку, хіміку і даследчыку? Толькі той, каму была незнаёмая апантанасць вучонага, не мог зразумець, што ён часам сам не свой выходзіў з лабараторыі з адчуваннем вялікага поспеху і што потым быў патрэбны магутны ўнутраны штуршок і надзвычайнае самавалоданне, каб на другі дзень сваімі рукамі знішчыць дасягнутае... Гэта было вельмі цяжка, і Хайно найлепш зразумеў бы яго. Ад Ханы ён не мог патрабаваць такога.

Яго думкі перабіла Хана:

— У Леангард добрае вымаўленне.

— Пры чым тут яна? — незадаволена спытаўся ён.

— Яна магла б выступіць перад мікрафонам. — Здавалася, думкі Ханы ўсё яшчэ круцяцца вакол задачы, якую трэба было вырашыць. — У яе асабовай справе зроблена адзнака. Яна павінна быць супроць нацыстаў. Але пра гэта табе, напэўна, вядома лепш, чым мне... Ты можаш схіліць яе на наш бок?

Юрген Бэр, ухіляючыся, адказаў:

— Нам патрэбны больш сталыя галасы.

Хана заўважыла яго няўпэўненасць. Яна ціха сказала:

— Ты любіш яе?

Ён уздыхнуў. Пацiснуў плячыма і коратка засмяяўся.

— Так. І ты не хочаш падводзіць яе пад небяспеку?

— Яна сапраўды зусім не падыходзіць да нашай справы. Ва ўсіх адносінах. Мае словы ёй — незразумелая кніга. У яе няма ніякага ўяўлення пра больш глыбокія палітычныя перадумовы. Чалавек толькі пачуцця. Вельмі імпульсіўная. Піша вершы.

— Дык і што ж. Я не веру, што ў галаве ў яе — пуста. Магчыма, яна тут добра ўладкавалася, таму і не задумваецца ні аб чым. Яна заўсёды там, дзе можна павесяліцца.

Юрген Бэр свіснуў праз зубы. Тут дакладная інфармацыя Ханы здалася яму крыху недарэчнай.

— Яна атрымае ад нас заданне, — коратка сказаў ён.

Познім вечарам таго ж дня, які кіраўніцтва доследнай установы Востраў спадзявалася запісаць залатымі літарамі ў аналы гэтай арганізацыі, салдат Аксэ ўвайшоў у жылы барак знясілены.

Сем таварышаў па пакоі шумна сустрэлі яго. Па іх было відаць, што спецыяльная порцыя каньяку, выдадзеная ў лагеры з нагоды ўдалага старту А4, была ўжо апрыходавана.

— Слухай, Аксэ, так было цудоўна! Выдатны таварыскі вечар! Куды ты толькі падзеўся? — яфрэйтар Цобель па-сяброўску стукнуў яго па плячы.

Нехта з'едліва буркнуў:

— Наш святы ходзіць да дзяўчат. Там замест выпіўкі частуюць смажанай бульбай. І яечняй. — Ён падмацаваў непрыстойны жарт, які потым выдаў, недвухсэнсоўным жэстам.

Аксэ скрывіў твар, быццам на яго пасыпаліся ўдары. Сведкамі хмельнага таварыскага вечара акрамя пустых бутэлек і сігарэтных пачак былі жартоўныя вершы, напісаныя друкаванымі літарамі на вялізных квадратах кардону. То тут, то там у нагах ложка вісеў вершык. Аксэ прачытаў ля свайго ложка:

АКСЭ

Мы маем бога на зямлі,
Наш бог завецца Аксэ.
Пазбавіцца тугой пятлі
Ерэтыкам не ўдасца.

Ён злосна сарваў кардонку, якая матлялася на шнурку. Моўчкі, дрыжачымі рукамі. Ён пачаў распранацца. Нешта было ў ім такое, што прымусіла астатніх прымоўкнуць. Рогат заціх.

— Хлопец, не бяры да галавы! — прамовіў нехта з ложка.

Не кажучы ні слова, нервовымі рухамі, Аксэ паслаў пасцель. Здавалася. Ён не да канца сабраўся з думкамі, бо забыўся цалкам раздзецца.

Цобель убачыў, што таварыш глядзіць у адну кропку перад сабой.

— Аксэ, ты што, ужо жартаў не разумееш? Мы ўсе сёння вечарам жартавалі.

Аксэ сутаргава кіўнуў і лёг на бок.

— Добра, добра, не лезь.

Жарт. Што гэта такое? Гэта слова было з таго свету, да якога ён больш не належаў. За дротам канцэнтрацыйнага лагера, па якім прапушчаны электрычны ток, куды яго хутка кінуць, такога слова, пэўна, няма. Ці пазналі яны яго? Бачыць — не бачылі, але веласіпед, які стаяў каля чорнага хода, напэўна, заўважылі, калі сачылі, за домам.

Іх было шасцёра, калі іх знянацку накрылі ў доме цыновіцкага святара за слуханнем лонданскага радыё. Ён быў сёмы, і калі б не быў якраз у гэты час у кухні, дзе запальваў свечку, аказаўся б у руках у малойчыку. Як і астатнія. Ён прабраўся праз падвал, знайшоў выхад і вакольнымі сцежкамі выйшаў на прасёлачную дарогу.

Дзевяць кіламетраў да лагера здаліся яму бясконцымі. Ён ехаў, і яму ўвесь час перашкаджаў, занадта доўгі шынель, а сам ён быў перапалоханы да смерці.

А тут гэтыя са сваімі жартамі! Так, сапраўды, яны называлі гэта «жартам»: «Пазбавіцца тугой пятлі ерэтыкам не ўдасца...»

Пасля ночы, поўнай жахлівых сноў, Герберт Аксэ заступіў на працу на сартавальнай станцыі заводскай чыгункі.

Яго здзівіла, якая спакойная, прахалодна-ясная раніца змяніла ўчарашні жудасны дзень. Дзень быў, Як і ўсе іншыя. Недалёка ад уваходу на завод, дзе дарога раздвойвалася. Ён прыпыніўся. Ён хацеў пагаварыць з Марліс. Устаў рана, і цяпер трэба было патрываць. Але яе неабходна было ўбачыць. І чым даўжэй ён стаяў каля бязлюднай прасёлачнай дарогі пад смешкі таварышаў, якія праходзілі на рабочыя месцы, тым мацнела ў ім думка: «Цяпер усё ў ёй! Толькі ў ёй! Усё астатняе ўжо страчана. Мне патрэбен толькі адзін чалавек. Толькі адзін!»

З'явілася Марліс! Яна смяялася, гаманіла сярод гурту веласіпедыстаў, дзе былі д-р Клемт і Траўдэ Хёрзельман. Яны злезлі з веласіпедаў, каб прад'явіць пропускі.

Тут Марліс убачыла самотніка, які чакаў. Ён стаяў і не рухаўся з месца. Ён толькі глядзеў на яе. Ён у гэты момант чакаў так, як ніколі

яшчэ не чакаў за свае трыццаць чатыры гады жыцця. І таму што ён быў так унутрана напружаны. Ён заўважыў лёгкую хвалю сарамлівасці, якая кранула яе, калі яна ўбачыла яго. Яна падняла руку і скіравала веласіпед убок толькі на такую адлегласць, каб не адарвацца ад чарады.

— Пазвані мне заўтра. — Яе цёплы голас прагучаў так, быццам яна прасіла прабачэння. Потым яна знікла за прахадной.

Аксэ сеў на веласіпед, цяжка круціў педалі. Як квасіцца ў жываце дадзены скупой рукой хлеб, так брадзілі ў яго мазгах спагадліва кінутыя словы. Здавалася, яны ўгрызаюцца ў нервовыя цэнтры і замінаюць рухацца канечнасцям... Што гэта? Няўжо ён занадта шмат чакаў ад людзей? Ці Марліс ужо даведалася пра правал гуртка падпольных радыёслухачоў? Можа, яна баялася, што разам з ім назавуць і яе імя? Хто не баіцца допытаў, турмы і канцэнтрацыйнага лагера? І ён баяўся. Але ён быў з тых людзей, якія павінны ўвесь час займацца тым, што іх мучае. Гэта была непазбежнасць, супраць якой ён быў бяссільны.

Ён пакінуў Цобелю правы бок таварнага цягніка, а сам працаваў на левым. Адсюль ён увесь час бачыў каманду зняволеных з канцэнтрацыйнага лагера, якія пад наглядам паліцэйскага ўкладвалі чыгуначныя рэйкі.

Іх было чалавек дзесяць, худых, змардаваных, у паласатым. Бусакамі яны падымалі рэйкі, а потым па камандзе страявым крокам пераносілі іх метраў на дзесяць. Пры гэтым трэба было пераступаць праз шпалы, рэйкі і стрэлкі. Паліцэйскі лаяўся, калі хто-небудзь спатыкаўся, і адразу ж падбягаў да яго.

«Хутка і я там буду», — падумаў Герберт Аксэ.

Белыя літары на чорным тэндары лакаматыва пакасіліся. Герберт Аксэ ўжо амаль не памятаў, што ён трымае пэндзаль, каб пакрыць напісаныя ўжо літары лакам. Гэтыя літары павінны ўмацаваць веру людзей у перамогу. Ён ведаў адно: для яго не будзе ніякай перамогі. І для тых у паласатым — таксама не будзе. Перамога існавала толькі для тых, хто ўчора вечарам уварваўся ў дом цыновіцкага свяшчэнніка, і для ўсіх тых, хто запускаў у неба вогненны снарад. Да іх прыбілася і Марліс. У сваім сутаргавым жаданні знайсці чалавека, якому можна даверыцца. Ён не хацеў верыць у гэта.

Амаль жывёльны рык прарэзаў паветра. Адзін зняволены, спатыкнуўшыся, упусціў бусак. У таго, што ішоў ззаду, не хапіла сілы ўтрымаць цяжар, і цяжкая чыгунная рэйка ўпала на нагу таму, хто ішоў з другога боку. Крык параненага чалавека не заціх яшчэ, як паліцэйскі ўжо накінуўся на таго, хто спатыкнуўся. Шалёнымі ўдарамі

па спіне і патыліцы паліцэйскі зваліў яго з ног. Аслаблы, да смерці перапалоханы чалавек, падаючы, да крыві разбіў сабе лоб аб шпалу. Ён застаўся ляжаць у непрытомнасці. Стогн прайшоў па радах зняволеных. Нібы не зважаючы на гэта здарэнне, што заняло ўсяго некалькі хвілін, персанал чыгункі займаўся сваімі справамі. З шыпеннем міма ехаў лакаматыў.

Герберт Аксэ ўбачыў, як да яго набліжаецца цяжкая чорная фігура. У скронях у яго застукала.

«Толькі на імгненне стаць дужым, — сказаў ён сабе, — толькі на адно маленькае імгненне. Гэта лепш, чым іншае. Чым усё іншае». Ён зрабіў некалькі няўпэўненых крокаў. Потым пабег, хістаючыся, спатыкаючыся, як звар'яцелы.

Машыніст лакаматыва не паспеў затармазіць, калі салдат з усяго разбегу з паднятымі рукамі кінуўся на рэйкі.

Тэлефонны званок пасля полудня вельмі занепакоіў Брэтшнайдэра. Не могучы пакінуць свой кабінет. Ён загадаў прыслаць да яго сведку няшчаснага выпадку, пра які толькі што паведамілі.

Сёння быў чорны дзень. З самага ранку — сакрэтнае паведамленне тайнай паліцыі, што ўчора вечарам быў затрыманы гурток падпольных радыёслухачоў у доме цыновіцкага святара. Сярод шасці арыштаваных ёсць і служачыя выпрабавальнага ўчастка. Знаёмых імён, праўда, сярод іх не было. Гэта адразу адзначыў інжынер прадпрыемства. Да гэтага часу аддзелу разведкі не ўдавалася пахваліцца больш-менш значнымі поспехамі. Цяпер ім пашанцавала. Падпольныя радыёслухачы — вядомая справа.

Цяперашняе здарэнне было загадкавым: смяротны выпадак на сартавальнай станцыі заводскай чыгункі. Самагубства, як сцвярджалася.

Аксэ! Дзе ж ён чуў ужо гэта прозвішча? Брэтшнайдэр пачаў натужліва прыпамінаць... Яго звалі Герберт. Аднекуль яму было вядома нават імя гэтага салдата. Марліс вымаўляла яго! Гэта прыйшло яму на памяць, калі ў кабінет увайшоў сведка.

Яфрэйтар Цобель, яшчэ глыбока ўзрушаны здарэннем, расказваў то заікаючыся, то паспешліва.

Амаль на адным дыханні ён закончыў свой расказ:

— Аксэ пабег праз рэйкі проста на лакаматыў. Рывок — і ён ужо быў пад ім.

Брэтшнайдэр стараўся схаваць сваё хваляванне.

— Ён, відаць, спатыкнуўся. Магчыма. Ён нешта хацеў крыкнуць машыністу.

— Не. — Яфрэйтар, насуперак сур'ёзнасці сітуацыі, усміхнуўся з

наіўнасці інжынера. — Гэта несумненна не няшчасны выпадак. Аксэ амаль не размаўляў з людзьмі. Што ў яго магло быць з тым машыністам?

— Дык што тады змусіла яго на самагубства? Зусім незразумела.

— Не так ужо і незразумела, гер інжынер. Калі дазволіце мне гаварыць шчыра...

— Выкладвайце. Вам усё роўна прыйдзецца даваць паказанні, калі дойдзе да расследавання.

— Магчыма, ніхто не зацікаўлены расследаваць да дробязей. У Аксэ брат у канцэнтрацыйным лагеры. Як толькі пачыналася гутарка пра канцэнтрацыйны лагер, на яго заўсёды было смешна глядзець. А потым ён стаў сведкам таго здарэння.

— Гм. Здарэнне з паліцэйскім трымайце лепш пры сабе. Гэта вам асабістая парада. Зразумела, што гэтага чалавека пакараюць, пра гэта я патурбуюся сам. Дайшло?

— Так точна, гер інжынер. Толькі...

— Вось што я хацеў яшчэ спытаць: вы жылі разам з Аксэ?

— Так точна, у адным пакоі.

— Учора вечарам ён быў чым-небудзь узрушаны?

— Быў. Ён прыйшоў учора дадому перад самым адбоем, прыехаў на веласіпедзе. Ён быў вельмі прыгнечаны і не хацеў ні з кім размаўляць. Праўда, учора мы крыху выпілі, а ён у гэтым ніколі не ўдзельнічаў.

Брэтшнайдэр занатаваў сабе штосьці. Ён падаў яфрэйтару руку.

— Страціць таварыша — не дробязь, — сказаў ён такім тонам, нібы выказваў спачуванне свайму блізкаму. — Паверце мне, нябожчыку будзе спакайней спацца, калі яго таварышы будуць насіць жалобу як па загінуўшым у няшчасным выпадку. Вайна патрабуе ахвяр. Салдат Аксэ таксама загінуў на службе сваёй айчыне. Пагаварыце ў гэтым духу з вашымі таварышамі.

Яфрэйтар так здзіўлена ўтаропіўся на інжынера, што той дадаў:

— Я запісаў сабе вашу часць і далажу камандзіру пра ваш узорны дух таварыскасці, гер Цобель. — Ветліва кіўнуўшы галавой. Ён адпусціў яфрэйтара. На лесвіцы яфрэйтару прыйшло ў галаву, што інжынер нават нічога не распытаў пра паліцэйскага... Цобель выдыхнуў паветра праз зубы. Хто будзе цікавіцца! А Аксэ — яму сярод іншых загінуўшых таксама прысвяцілі некралог: «За фюрэра, народ і рэйх сваё жыццё аддалі...» Каб яму стала вядома гэта. Ён бы ў магіле перавярнуўся.

## ПАМІЖ ГАДАМІ

Людзі і ў час вайны святкавалі 24 снежня, дзень, калі на зямлю прыйшло збаўленне. Сапраўдныя немцы неарыйскую мадонну з усходнім тварам ператварылі ў пані Мяцеліцу, а дзеда-мароза — у бога Сонцацарота. «Адкуль ідзе Сонцаварот», — пелі дзявочыя хоры па радыё. Замест «Яснай ночы» з'явілася «Высокая ноч ясных зорак», песня з такой халодна-бравурнай мелодыяй, што Юрген Бэр у насмешку назваў яе «Ясная ноч халодных зорак».

Радыё паведаміла, што сёлета фюрэр, як і кожны год, адмаўляецца ад асабістага святкавання каляд, а справіць калядную куццю сярод салдат на фронце ў акопе. Каго гэта магло не крануць?

На фронце «Востраў» усе былі радыя, што не прыехаў ніякі паўбог, каб сваім добрым прыкладам апалчыцца супраць запланаваных паездак дадому. Тыя, хто верыў у будучую баяздольнасць А4, былі ўпэўнены, што яе забойная сіла кампенсуе ўсе затрымкі. Значыць, можна было спакойна святкаваць каляды з сям'ёй у Штутгарце, Дармштаце або недзе яшчэ. Тыя ж, хто не верыў ва ўдачу цудадзейнай зброі, не адчувалі ніякіх дакораў сумлення ад таго, што пакідалі на волю лёсу Востраў на дзесяць дзён. Кожны стараўся выбіць як мага больш выхадных, але каб яшчэ нешта засталося і на чарговы водпуск.

Тры цягнікі, якімі можна было паехаць у Берлін і Гамбург, 23 снежня штурмаваліся адпускнікамі. Лакаматыў крактаў. Яго колы перарэзалі жыццёвыя повязі Герберта Аксэ. Але пра гэта не думалася нікому, каму пашанцавала захапіць месца ў перапоўненым вагоне чацвёртага класа. Толькі Марліс везла з сабой раскаянне. «Ты магла вырваць Герберта Аксэ з безнадзейнасці. Чаму ты не дамаглася, каб ён удзельнічаў у вашых «сустрэчах, на балі ў доміку з яблычным пірагом, на канцэртах у казіно, дзе Юрген Бэр іграў на піяніна санаты? Ён цяжка сходзіўся з людзьмі, але табе давяраў. Магчыма, пры тваёй дапамозе ён знайшоў бы агульную мову і з іншымі. Сіла, якую ты давала яму, павялічылася б у некалькі разоў і стала б яму апорай. Можа, цябе бянтэжыла яго заношаная форма? Ці ты баялася кпінаў нейкага Ханке?»

На перасадцы Марліс амаль не чула ног пад сабою. Яна ўвесь час, пакуль цягнік плёўся на малой хуткасці, адстаяла на нагах у страшэннай цеснаце. Цяпер натоўп пацягнуў яе за сабой. Яна ўбачыла, як ёй махала Траўдэ Хёрзельман, якая ўжо стаяла ў праходзе гамбургскага цягніка. Шчаслівая Траўдэ. Яна, напэўна, вернецца з пярсцёнкам на пальцы.

Ужо некалькі тыдняў Траўдэ рыхтавалася да паездкі дадому. Яна

так шчыравала, што за працай забывалася нават пра пакуты посту і задавольвалася сваёй булачнай дыэтай. Ужо некалькі тыдняў яе пакой быў падобны на майстэрню мастацкіх вырабаў. Спачатку яна рабіла іх са скуры, потым перайшла на фанеру, выпілоўвала і размалёўвала казачных персанажаў дзецям свайго брата. Нарабіўшы цацак, яна пачала пячы ў газавай печы ў тэрмалабараторыі пернікі з сіропам, яечным эрзацам і міндальным пахам, з матэматычнай дакладнасцю вылічаючы, колькі трэба дабавіць соды або паташу замест яек, якіх не было.

Гасцінцы, якімі яна хацела парадаваць сваіх блізкіх, яна насіла з сабой у чамадане. Большую частку пернікаў Парызіус атрымаў у якасці правіянту. Ён дамовіўся з Улігам ляцець на адным самалёце пад Эмдэн. Якраз днямі. Гэта было добра. Траўдэ зможа сказаць у папатрыцыянску гордым бацькоўскім доме: «Вальфрыд прыляціць на сваім Хе-III». У добрым настроі яна прысела на чамаданы. Рослага Юргена Бэра неабходнасць доўга стаяць не радавала.

— Ці не пашукаць нам месца ў другім класе?

— Нам — з нашымі заводскімі праязнымі?

— Калі праверяць, мы даплацім розніцу.

Месцы ў вагоне другога класа былі занятыя. Некалькі дзяўчат са службы ваеннай дапамогі, якія некалі з цяжкасцю вучыліся ў Траўдэ Хёрзельман абыходзіцца з вылічальнымі машынкамі і лагарыфмічнымі лінейкамі, вольна сядзелі на шэрых мяккіх сядзеннях.

Юрген Бэр ухмыльнуўся.

— Калі б вы былі ў форме, дык маглі б папрасіць дзяўчатак устаць?

Траўдэ пацiснула плячыма.

— Не варта.

Побач у першым класе два месцы былі незанятыя. Бэр паказаў на купэ ў чырвонай абіўцы.

— Нашыя.

Траўдэ засмяялася.

— Я даўно здагадвалася, што вы анархіст.

— Ну што вы? Я — нямецкі яфрэйтар у адстаўцы. З такім тытулам усе дзверы адчынены. — Ён са шматзначнай усмешкай адчыніў дзверы купэ.

Пасажыры на мяккіх сядзеннях былі занадта высакародныя, каб адказаць на іх прывітанне.

— А куды вы едзеце? — спытала Траўдэ. — Вы не з Марбурга? Там у вас нявеста?

— Мне гэта не вядома.

— Нехта мне расказваў, што вы заручаны.

— Гэта не напэўна. — Ён коратка засмяяўся.

Траўдэ паспяшалася схаваць сваю збянтэжанасць за ўсмешкай. Тое, што ёй у гэты момант здавалася здзяйсненнем, што ўяўлялася словам і абяцаннем на ўсё жыццё, у гэтага маладога чалавека са званнем доктара ў дваццаць шэсць гадоў, які, здавалася, ужо нажыў значны вопыт, лёгка адмяталася кплівым смяшком. У час гутарак з прафесарам Лёйпальдам і Ціфенбахам ён быў самы актыўны апанент. Яго навуковыя спрэчкі з Ціфенбахам прыносілі задавальненне. Заўсёды ўраўнаважаны, дасціпны і гатовы заўважыць недакладнасці. Ён у атаках меў перавагу над раздумлівым Ціфенбахам. Па Ціфенбаху было відаць, як старанна ён выбіраў са сваіх разумовых скарбаў самае неабходнае, перш чым даць адказ свайму малодшаму таварышу. Ён рабіў гэта, крыху расцягваючы словы, з пакутлівымі паўзамі, калі, здавалася, яшчэ раз правяраў, ці сапраўды правільныя фармуліроўкі ён знайшоў, каб пераканаць партнёра ў правільнасці свайго тэзіса.

«Цікавыя мужчыны, — падумала Траўдэ, — але для сямейнага жыцця занадта складаныя». Яе думкі зноў вярнуліся да Парызіуса, і там ім было спакойна і ўтульна.

— Я палячу да Эмдэна на самалёце, — сказаў па тэлефоне Ганс Ціфенбах. — Я хацеў толькі сказаць табе «бывай». Калі ты едзеш?

— Я застаюся тут, — сказала ў трубку Эва. Яе голас гучаў не вельмі цвёрда.

Ганс Ціфенбах ад нечаканасці хвіліну памаўчаў.

Потым:

— Каляды — тут?

— Я ж зусім нядаўна была ў бацькоў.

— А ты хіба не хацела паехаць да дзядулі і бабулі?

— Не зусім.

— Але ж ты застаешся на каляды зусім адна?

— Яшчэ некалькі дзяўчат застаюцца.

— Слухай, мне вельмі шкада. Што ж рабіць?

— Нічога. Добрае практыкаванне для вызвалення ад сентыментальнасці.

— Гэта гучыць не зусім пераканаўча. Хто табе сказаў такое?

— Бэр.

— Гэта да яго падобна.

— Мне здаецца. Ён мае рацыю. Я падумаю над гэтым.

— Але падумай і пра штосьці прыемнае.

— Напрыклад?

— Што можна было б адзначыць свята і потым.

— Не. Я не хачу.

— Што здарылася?

— Нічога.

— Ты выкідваеш рэчы за борт. Не спяшайся, асцярожна, Эў!.. Чаму ты не адказваеш? Эў!

— Слухаю. Лабан якраз зайшоў, таму я...

— Калі я вярнуся, ты павінна мне шмат расказаць. Тады, будзем спадзявацца, у мяне будзе больш часу, чым у апошнія месяцы. Мне так мала вядома пра цябе... Дзе ты будзеш на куццю?

— Маг чыма, у Бодэнхаўзе. Яшчэ не ведаю. Нам трэба канчаць, яшчэ двое чакаюць тэлефона.

— Да пабачэння, Эў!

Адкуль соль у марской вадзе? Адкуль соль у слязах? Яны роднасныя, гэтыя вялікія хвалі і маленькія ціхія кроплі, якія коцяцца з вока людскога. Магчыма, бурлівы шум мора — не што іншае, як усхліпы свету.

Маленькі чалавек біўся над разгадкай таямніц свету, перамагаў у сабе зародкі вершаў і змагаўся супраць пакінутасці, у якой мясціліся галасы, што хацелі выдаць гэты непагодліва-шэры дзень за прадвесніка Святой ночы. Не, гэта ноч не была падобная на святую, хутчэй на «ноч халодных зорак».

Эва злавіла на язык першыя сняжынкі. Яна засунула рукі глыбока ў кішэні і пабегла насустрач ветру. Башлык звісаў у яе за спіной. Не варта было і старацца нацягваць яго зноў. Эва падышла да самага прыбою. Яна зноў балансавала на краі свету. Яна хацела пасябраваць з морам, вялікім самотнікам. Ніводнага чалавека не было ў гэты дзень на ўзбярэжжы.

Вітаю цябе, мора! Ці ведаеш, які сёння дзень! Усе людзі называюць яго каляды. У Познані мая маці запальвае свечкі на святочнай ёлцы; у Лангенбруку гэта робіць дзядуля. У Познані думаюць: «Эвачка зараз у найлепшым настроі ў Лангенбруку». У Лангенбруку бабуля моліцца: дай божа, каб наша дзіця было благаславёна ў дзень нараджэння Хрыста... У Лангенбрук, дзе мяне чакаюць найбольш, сёння ў водпуск прыехаў старэйшы сын, мой дзядзька Эвальд. Ён вельмі доўга шукаў сабе жонку. І вось, амаль у сорак, знайшоў нарэшце. Нейкая фюрэрка з Лігніцы. Яна першы раз прыязджае ў Лангенбрук, і яе нельга палохаць. «Эвальд пісаў, што было б лепш, каб ты не прыязджала». Так напісана ў бабуліным пісьме. Магчыма, над гэтымі радкамі былі праліты слёзы. Магчыма. Але любоў маёй бабулі аказалася слабейшай за страх перад сынам і за павагу незнаёмай нявесткі. «Твой дзядуля апошнім часам вельмі нервовы. А я кожны

дзень малюся за Альфрэда». «Альфрэд — самы малодшы сын маёй бабулі. Ён у акружэнні пад Сталінградам...» «Мой дзядуля невыносны, калі злуецца. Бабуля толькі хацела намякнуць мне, што дома я не знайшла б вялікай радасці. Яна добрая жанчына. Яна лепшая за ўсіх астатніх. Наверсе ў маім пакоі стаіць вялізная пасылка ад яе. Калі яна пяшчотным слабым голасам спявае «Вось расцітае ружа», то на душу кладзецца святы спакой».

Вось ён зноў вярнуўся — сум.

Эва адскочыла ад хвалі і засмяялася сваёй субяседніцы. Смех быў жорсткі, а ручайкі, што плылі па яе твары, — салёныя.

З якой пары сталі салёнымі расталыя сняжынкі? Скажы, каб я не плакала. Мора, скажы! Ты ж адзінае, хто бачыць мяне тут. Ты не ўмееш уважліва слухаць. Ты ўвесь час умешваешся са сваёй балбатнёй. Ты ўвесь час гаворыш адно і тое. Якая ў цябе сёння танальнасць — мінор ці мажор?.. Перастань напяваць сваю вечную аднастайную песню. Так суцяшаюць дзяцей, знявераных, знямоглых. Гладзяць па галоўцы, няспынна, аднолькавым рухам, пакуль яны не супакояцца, не заснуць. А я не хачу, каб мяне суцяшалі. Я не знямоглая, не знявераная — і я ўжо не дзіця. Не пытайся, хто я. Я не хачу цябе слухаць сёння...

Эва пабегла з гэтага краю свету, быццам за ёю гналіся. У вахцёрскай дома Зээштэрн яна спаткала Ільзэ Рубышэўскую, якая толькі што паклала тэлефонную трубку.

— Значыць, не, — сказала бібліятэкарка. — Нічога не зробіш. — Яна запытальна паглядзела Эве ў твар. Яны поплеч падымаліся па лесвіцы на другі паверх.

У доме было нязвыкла ціха. Камарад Міргун замкнуў вахцёрскую, калі ўпэўніўся, што ў доме больш ніхто не чакае ні званка, ні «кавалера». Некалькіх дзяўчат запрасілі ў пасёлак за сямейны стол.

— Я — адна, — сказала Ру на лесвіцы. — Можа, прыйдзеце да мяне? У мяне нават ёсць нешта падобнае да ёлкі.

Эва напярэдадні размаўляла з Ру ў бібліятэцы. Яна хацела ўзяць нешта пачытаць на святы. На бязлюднай заводскай вуліцы яна спаткала Доктара.

— Прыходзьце на куццю да нас у Бодэнхаўз, — зычліва сказаў ён, даведаўшыся, што яна заставалася на каляды на Востраве. Ён ляцеў з генералам у Берлін і не трывожыўся аб тым, што на куццю не будзе ў сваіх бацькоў. Ён праводзіў Эву да бібліятэкі.

Ру пакінула яму кнігу. Гэта быў аб'ёмісты раман пра Лейбніца. Ён падзякаваў ёй.

— Вы цудоўная, фройляйн Ру, што не забыліся. Вы не хацелі б

пайсці да мяне ў сакратаркі?

Яна весела паглядзела на яго.

— Няўжо ваша Лімерка пакідае вас?

Доктар абапёрся на перагародку, дзе выдавалі кнігі, і паскардзіўся дзяўчатам:

— Яна на каляды выходзіць замуж за свайго Райбеле, а потым хоча працаваць толькі палову дня. Навошта мне такая сакратарка, якая пасля абеду ідзе з работы, каб гатаваць свайму мужу прысмакі... Як вам падабаецца: у жыцці Лімеркі нічога не мяняецца. Яна і дагэтуль цыравала свайму Райбеле шкарпэткі, а вечарам гатавала. Жывуць у двух пакоях, як і раней.

— Але, стаўшы фраў Райбеле, яна атрымае дазвол на скарочаны працоўны дзень.— Ру засмяялася амаль зласліва.

— О, божа мой! Што гэта за дзіўныя разлікі? Вам зразумела, Леанцінэ? — Доктар павярнуўся да Эвы. Эва падумала пра свае сумныя табліцы, пра надакучлівыя слупкі лічбаў і пра серабрыстую стралу, што некалі будзе знішчаць людзей. Яна не ведала, ці задаволілася б сама цыраваннем шкарпэтак і гатаваннем прысмакаў, але сказала:

— Я зрабіла б тое самае.

— А я — не, — адказала Ру нізкім голасам.

— Бо ў вас жаданая прафесія, — загарачылася Эва. — А робячы тое, што я, сам ператворышся ў вылічальную машыну.

Доктар дапытліва паглядзеў на дзяўчыну.

— У вас няма спецыяльнасці?

— Няма. Атэстат сталасці, а потым — працоўная павіннасць.

ён, убачыўшы яе заклапочаны твар, сякануў рукой.

— Дзяўчыне гэта не бяда. Вы выйдзеце замуж. — Ён з'едліва засмяяўся. — А потым якой жанчыне патрэбна прафесія? Потым пачынаецца эра каструль.

Халодны адказ Ру дагнаў яго ўжо каля дзвярэй.

— Калі вы думаеце, што такія ўсе, дык памыляецеся.

Ён выйшаў, недаверліва пасмейваючыся, трымаючы ў паднятай для развітання руцэ кнігу пра Лейбніца.

— Шчаслівa святкаваць, шаноўныя дамы.

Эва пайшла з пернікамі і ванільнымі булачкамі, атрыманымі з Лангенбрука, у пакой Ру. Ру прыгатавала салат з селядцом, белы хлеб, яйкі і пудзінг — яду, якую падаюць звычайна мужчынам. На фарфоравым падаграваальніку стаяў чайнік з пуншам чырвонага ціна. Пакой быў халаднаваты, бо кіраўніцтва вырашыла ў святы паэканоміць, асабліва ў інтэрнатах, дзе амаль нікога не засталося. Ру падсунула электрычны абагравальнік амаль да самай канапы.

Бібліятэкарка да апошняга часу чакала свайго заручанага. Ён быў загадчыкам гаспадаркі ў шпіталі ў Ліцманштаце. Водпуск яму абяцалі амаль на сто працэнтаў. У апошні момант яму даручылі абсталяваць дапаможны шпіталь недзе на ўсходзе. «Вайна ёсць вайна», — сказала Ру. Яна заціснула канец доўгай сігарэты ў зубах і налівала пунш.

Эва прасяклася павагай да Ру на танцах пад партрэтам Гітлера, калі яна спакойна абарвала Пюшэль і заступілася за Эдзіт Кнор. Увогуле пра Ільзэ Рубышэўскую было вядома не шмат. Яна была адна са старэйшых служачых жанчын, гаварыла коратка і бесцырымонна, што таго-сяго адпуджвала ад яе, але гэта манера вельмі стасавалася з яе доўгім і вузкім жорсткім тварам, які быў падобны на галаву пародзістага каня. Яна выдатна ўмела хаваць сваю прыроджаную кульгавасць. Эва не ведала, што яна заручаная. З фатаграфіі на кніжнай паліцы глядзеў прыгожы мужчынскі твар і весела смяяўся, паказваючы бездакорныя зубы; у яго была хвалістая прычоска. Эве ён напамінаў Ханке. Можа, пагоны цальмайстра на фатаграфіі выклікалі такое параўнанне. Фатаграфія цальмайстра ўсміхалася амаль гэтаксама шырака, як драўляная лялька-марыянетка, толькі што пафарбаваная і яшчэ не пакрытая лакам, што вісела на сцяне.

— Я не давяла да канца сваёй каляднай работы. — Ру паказала на некалькі незакончаных васковых фігурак жывёл, што ляжалі ў кошыку, і дадала са шматзначным позіркам.

— Гэтыя дробязі я пашлю ў Цюрынгію, сяброўцы. Яна даглядае некалькі дзяцей, бацькі якіх прапалі. У малых мала радасці. Таму, мне здалося, нешта трэба зрабіць.

— Яны і ў новым годзе будуць рады цацкам, — адказала Эва аселым голасам... Бацькі, якія прапалі, як яна гэта сказала. У гэты вечар Эва глыбока зірнула ў сутнасць, як ёй здалося, дзіўнага чалавека.

У Ру быў толькі бацька. Ён быў журналіст і, пакуль было магчыма, працаваў у газетах левага кірунку. Ён быў сацыял-дэмакрат. Ён не захацеў стаць нацыянал-сацыялісцкім ваенным карэспандэнтам і цяпер, незадаволены і прыдзірлівы, сядзеў ва ўпраўленні вайсковага забеспячэння каля Гановера, аддадзены сваволі цальмайстраў, якія, не саромеючыся, набівалі свае кішэні, слалі дамоў пасылкі і зараблялі Крыжы ваенных заслуг.

Ён даў сваёй дачцэ грунтоўную адукацыю, каб яна магла арыентавацца ў жыцці, хай без мужа, хай без сям'і. З парушаным бядром, з крывым тазам нельга раджаць дзяцей ды і палюбоўніка не вельмі знойдзеш. «Галоўнае, што ў мазгах не крыва»,— так меркаваў бацька Рубышэўскі, і ён зрабіў усё магчымае. Але супраць вечна

жаноцкага не мог нічога зрабіць нават баявіты журналіст. Разумная дачка растлумачыла яму, што яна хоча замуж. Супраць гэтага не магло быць ніякіх пярэчанняў, але ж няўжо абавязкова за цальмайстра, аднаго з гэтых «пустагаловых эгаістаў»! Былы «канторскі жарабок» з нейкай рэйхаўскай установы па нагляду, «недавук з шырокай пашчай», як ён казаў... Яна сказала, што ёй няма калі доўга вагацца. Не шмат ёсць мужчын, якія загадзя адмовіліся б ад дзяцей. Акрамя таго. Ён прыгожы, а ёй патрэбен муж, «з якім не сорамна было б паказацца на людзі».

З гэтага часу расчараваны бацька прысылаў ёй паштоўкі раз у тры месяцы. Калядная паштоўка прыйшла дакладна ў час, з перасцярогі — у канверце. «У апошні час у нас часта бываюць налёты. Ганoвер выглядае змрочна. Я дзялю кватэру з трыма сем'ямі. Жанчына, што пераехала нядаўна, уратавала поўны чамадан кніжак. Амаль увесь Б-к і некалькі Т. М. і Р. Р. Сапраўдны скарб!» Бацька ведаў, што дачка без асаблівых цяжкасцей расшыфруе яго шыфроўку: Бальзак, Томас Ман і Рамэн Ралан.

— Пакуль што, здаецца, за поштай не шпіёняць, — сказала Ру, — але гэта, відаць, не доўга будзе. — Яна расказала, што неўзабаве пасля смерці Герберта Аксэ ў яе распытвалі, якія кніжкі ён браў у бібліятэцы. Гэта прымусіла яе насцярожыцца. Нейкі Іміш, інжынер-выпрабавальнік на аэрадынамічнай трубе, хутка пасля гэтага прадставіўся ёй сябрам Герберта Аксэ і пачаў дапытвацца — нібы проста з сяброўскай цікавасці; — пра што ўвогуле гаварыў з ёю Аксэ. Ён жа — вялікі аматар кніг — часта бываў у бібліятэцы і заставаўся там падоўгу.

— Удалы запуск А4 прывабіў да нас шпікаў, як вогнішча ў лесе прываблівае драпежнікаў. — Ру вельмі незадаволена зморшчыла доўгі вузкі нос. — Нават носам чуеш, што клімат на Востраве вельмі змяніўся. Калі пра гэта ведаеш, тады не так небяспечна. Таму я вам і расказваю, а не каб напалохаць. — Яна адкінулася на канапе. — Але сёння давайце не думаць пра гэта.

Свечкі на галінцы ёлкі, якая ўпрыгожвала стол, клалі доўгія цені. Ру разглядвала Эву.

Дзяўчына кінулася ёй у вочы, калі прыйшла у бібліятэку і спытала кнігу пра Мазерэля. Потым яна абавязкова захацела прачытаць «Шчаслівую пару Бан Цантэна» Лаўрыдса Бруна. Аднойчы яна ўзяла «Заратустру». Бібліятэкарка перасцерагла ад нядобрага. Цяпер Эва перайшла на Германа Гесэ. Дзяўчына імкнулася да адукацыі.

— Чаму вам захацелася тады абавязкова прачытаць «Ван Цантэна»? — спытала Ру. Яны размаўлялі з вялікімі паўзамі, у час якіх

кожная паглыблялася ў свае думкі.

— Нехта мне сказаў, што там нешта ёсць пра апаганьванне расы. Мяне гэта зацікавіла.

— Белы, які кахае дзяўчыну з астравоў паўднёвага Ціхага акіяна! Ну што ж, на сённяшняе разуменне...

— Гэта Ганс Ціфенбах сказаў мне. Відаць, такая ў яго іронія.

— Ён рэкамендаваў вам і Мазерэля?

— Не. Я пачула, як ён гутарыў пра гэтага мастака з Бэрам. Я не ведала нават прозвішча. Мне такое заўсёды вельмі непрыемна.

— Вы шмат якіх прозвішчаў не ведаеце, якія варта памятаць.

— Я ведаю, што я вельмі неадукаваная.

— Толькі з аднаго боку. Але гэта не ваша віна.

— Я не ўмею думаць абстрактна. Калі часам Бэр пачынае развіваць свае ідэі...

Ру выпрасталася ў сваім кутку, каб стрэсці попел з сігарэты.

— Бэра лепш крыху пасцеражыцеся. Мне здаецца. Ён камуніст.

Эва спужалася. Як жорстка гэта прагучала. Бацька ж Ру быў сацыял-дэмакрат. Блізка да камуністаў. Для дзядулі ў Лангенбруку ўсе яны былі «чырвоныя» — і сацыялісты, і камуністы. Чаму ж такое рэзкае непрыманне? Эва не адважылася спытаць.

Свечкі дагарэлі. Чайнік з пуншам апусцеў. Дзяўчаты падабралі пад сябе ногі, палажылі наверх падушкі з канапы і ўхуталіся ў коўдру. Пальцы іх ног дакраналіся. Кожная перадавала другой хоць крышачку цяпла.

Ру шмат чытала і шмат думала. І яна нажыла вопыт за свае трыццаць два гады. У слабым святле спіралі электрарэфлектара яна гаварыла, што яна думае пра сумеснае жыццё прадстаўнікоў рознага полу. Як было ў яе самой? Яна — заручаная. Жаніх не змог прыехаць. Яе гэта так мала засмуціла, што Эва здзіўлялася.

Ру не любіла мужчын. Яна абуралася іх фанабэрыстасцю.

— Усе мужчыны думаюць, што мы, жанчыны, толькі іх і чакаем. Яны гавораць непрыстойнасці і гэтым даводзяць нас да шаленства. Шалеем — але чаму? Я не хацела б гаварыць. Вы яшчэ зусім маладая, Леанцінэ, але паверце мне, што мужчыны са сваім зазнайствам, як малпа ў клетцы. Яны даюць знак, завучы ў пасцель. Яны робяць нам ласку, абяцаючы ажаніцца. Якая літасць! А мы, дурное баб'ё, праліваем слёзы шчасця, бо менавіта нам дазволена мыць ім бялізну... Ці думалі вы калі-небудзь пра ўсё гэта? Ці не ганьба? Такая ж ганьба, як і факт, што за нашу працу плацяць менш, чым мужчынам. Цаглядзіце на фройляйн Хёрзельман. Яна такая старанная, што стала кіраўніцай групы. А Матэзі, аднабаковаму спецыялісту, плацяць больш.

Эва не ведала, ці варта прымаць Ру ўсур'ёз. Ці ж на ёй не было заручальнага пярсцёнка, знака абяцання выйсці замуж? Яна так і сказала.

Ру ўздыхнула.

— Вы маеце рацыю, не верачы мне. І ўсё-такі я гавару сур'ёзна. Я не настолькі дужая, каб заставацца адной. Мне патрэбен мужчына не для пасцелі, разумееце, зусім не для гэтага! Але я славалюбная. Я не хачу ўсё сваё жыццё бегаць занядбанай жанчынай. Наша мова разважліва ўжывае для незамужніх жанчын памяншальнае — фройляйн (жанчынка)! Ужо тут ёсць знявага. І гэта я кажу вам, вы яшчэ маладая, у вас ёсць выбар, але не запазніцеся падумаць: у нашым грамадстве толькі тая жанчына нечага вартая, якая «прыдбала» сабе мужа. Вы можаце стаць удавой ці разысціся, усё дапускаецца, толькі не «фройляйн». Тады вы — нішто, тады вам прыдумваюць журбу, нават калі вы паўнацэнны чалавек і знайшлі сваё месца ў жыцці. Урачы тлумачаць любую мігрэнь комплексам сексуальнасці. А замужнія жанчыны, якія з ночы ў ноч кладуцца ў сямейную пасцель, круцяць носам, калі вы паддасцеся свайму суму і зробіце дзіця... Так што, бачыце, у мяне няма багатага выбару. Майму бацьку мой жаніх не падабаецца. Шкада. Але калі я ўжо выйду замуж, каб пазбавіцца памяншальнай мянушкі, тады хоць за прыгожага мужчыну. Калі ласка! Тое, што ён не вельмі разумны, мне ўсё роўна. Затое я магу паказацца з ім на людзі.

Эва падцягнула ногі, нібы баючыся дакрануцца. Калі жанчыны абыякавыя да мужчын, яны шукаюць сувязі з іншымі жанчынамі. Яна гэта ведала. Ёй стала пад коўдрай не па сабе. Яна як мага больш непрыкметна перавярнулася, перамяніўшы становішча сваіх ног.

Але Ру, спакойна пускаючы ў паветра колцы дыму, гаварыла сваё. Яна была тэарэтыкам кахання. Яна лічыла, што галоўная праблема заняволення жанчыны — у яе сексуальнай залежнасці ад мужчыны. Душачы ў сабе прыродны інстынкт, яна спадзявалася вырашыць гэту праблему. Яна крытычна гаварыла пра Дростэ-Гюльсхоф, якая, застаўшыся незамужняй, паддалася позняму каханню да мужчыны, які мог бы быць яе сынам. Потым яна расказала пра Караліну Шлегель-Шэлінг і пра Рахіль Варнхаген, якія зрабілі такі моцны ўплыў на духоўную эліту свайго часу, што іх залежнасць адпала сама па сабе.

— Такія дзяўчаты, як вы, павінны ўсведамляць сваю сілу, — сказала яна. — Здаецца, вы не без таленту. Я ўжо нейкі час ведаю вас. Спачатку вы выбралі сабе Уліга. Потым я вас убачыла з героем Дубовага ліста...

Эва адмахнулася. Яе няёмкасць знікла.

— Я, відаць, стварыла сабе неблагую рэпутацыю.

— Лепш так, чым быць маленькай мышкай, як наша Эдзіт Кнор, якая кідаецца на шыю першаму лепшаму лейтэнанту і ад закаханасці дазваляе яму ставіць сябе ў непрыемнае становішча. А пры тым яна даволі прыгожая і маладая, каб неяк выкарыстаць мужчын.

— Закаханыя дрэнныя саюзнікі вам, дарагая Ру.

— Вы ж не закаханая?

— Не ведаю. Я яшчэ крыху пакарыстаюся свабодай.

— І правільна... Давай будзем гаварыць адна адной — ты.

На каляды Эва праспала позна. Батарэі ў дзесяць гадзін былі яшчэ халодныя. Яна зноў залезла пад коўдру і пачала чытаць. Каля полудня Лабан стукам падняў яе з пасцелі. З Познані прыйшла тэрміновая пасылка. Эва здагадвалася, што ў ёй было. Загорнуты ў папяросную паперу, ляжаў цёмна-сіні касцюм у рыску. Штэфі прыклала кранальнае пісьмо. Яна богам прасіла, каб Эва прыняла касцюм, хоць ён, магчыма, і напомніць ёй пра нядобры дзень. Ён удала пашыты і ёй вельмі патрэбны, а калі яна адмовіцца, карысці не будзе нікому. Ён не падыходзіць нікому ў доме, нават Гільдзе — так, гэта Штэфі дадала таксама, — а Гільда атрымае на каляды перашытае зімовае мацерына паліто, якое яшчэ амаль як новае... Маці напісала сваё каляднае віншаванне на паштоўцы. Яна ўсюды замест «я» пісала «мы», тым самым абыходзячыся без імя Швентмайра.

Эва надзела касцюм. На цудоўнай тканіне не было амаль ніводнай зморшчыны. Яна паглядзела на сябе ва ўнутраным люстэрку шафы. Яшчэ ніколі не было ў яе адзежыны, якая б сядзела так выдатна.

Яна яшчэ стаяла перад люстэркам, калі ўвайшла Ру. Любуючыся, яна падышла бліжэй. Эва павярнулася перад ёю.

— Гэта ж зроблена па мерцы, — сказала Ру і пагладзіла па доўгай, без складак спадніцы.

— А ў мяне на душы не зусім добра. Яго пашыў паляк. За жабрацкую плату.

Ру ўзняла плечы.

— Гэта не ваша віна. Абставіны так склаліся. У час вайны нехта павінен прадаваць сваю працу дзешавей, чым яна каштуе.

Ру ўспрыняла гэта як нешта само сабой зразумелае. Яна імкнулася да рэформ толькі ў вобласці жаночых правоў. Эва здзівілася, і ў яе адразу адлегла ад сэрца. Яна не магла сабе дазволіць адмовіцца ад касцюма. У яе гардэробе было амаль пуста.

Вечарам яна дапамагла Ру закончыць цацкі дзецям, бацькі якіх прапалі. Лакіруючы ўсмешлівую марыянетку, яна спыталася:

— Дзецi страцiлi сваiх бацькоў у. бамбёжках?

— Здаецца, не, — коратка адказала Ру. Кiнуўшы ўважлiвы позiрк на Эву, яна дадала пасля паўзы: — У людзей шмат гора. Часам нават лепш не ведаць яго сапраўдных прычын.

«Пра майго бацьку яна, пэўна, таксама сказала б, што ён прапаў», — падумала Эва. Але яна нiчога не сказала.

На другi дзень свята яна пераадолела страх i пайшла да мора. Яно даўно ўжо не было для яе нечым нежывым, мора было яе таварышам. Яна дрэнна разглядзела мора на куццю.

«Дзюны, якiя цалуюць вятры, Бачаць усё, ды маўчаць да пары», — падумалася ёй. Яна пайшла дадому i напiсала верш. У свой дзённiк запiсала: «У мяне ўсё расце ўпэўненасць, што мая будучая прафесiя павiнна быць неяк звязана з лiтаратурай. Ру можна пазайздросцiць. У яе закончаная адукацыя, яна займаецца любiмымi кнiгамi. А я гну горб над лiчбамi».

Вечарам яна пайшла ў кiно. Для тутэйшых жыхароў i тых, хто застаўся, iшоў фiльм пра Фрыдрыха Вялiкага: Ота Гебюр у правераны часам масцы Фрыдрыха на вайне супраць аўстрыйцаў.

Месца побач з ёй заняў Матэзi, моцна пацiснуўшы ёй руку. Амаль усе астатнiя гледачы былi жанатыя пары, таму яны пайшлi дадому разам.

Аўстрыец Матэзi глядзеў фiльм зусiм iншымi вачыма, чым Эва, якая — прымаючы логiку яго аўтараў — была на баку пераможцы, караля Фрыдрыха. Пытанне, цi не больш правоў на Сiлезiю ў аўстрыйцаў — з гiстарычнага пункту гледжання — i, такiм чынам, цi не больш справядлiвай была б iх перамога, ёй нават у галаву не прыходзiла. У той час, амаль дзвесце гадоў назад, Аўстрыя была ворагам, таму няма нiякага сумнення, што i сёння ёй жадалi паражэння, а прусаку Фрыдрыху — перамогi. На тое ты i немец.

Матэзi, якi так добра ўмеў лiчыць i так дрэнна ўмеў гаварыць, некалькiмi словамi прымусiў яе задумацца. Яна палiчыла тое, пра што расказвалася ў фiльме пра «Вялiкага караля» i яго вайну, за праўду. Ёй далi ўрок пруска-нямецкай гiсторыi. Матэзi вывучаў у школе аўстрыйскую гiсторыю, i яму былi вядомыя ахвяры, якiх патрабавала ад аўстрыйскага народа варожасць памiж Фрыдрыхам i Марыяй Тэрэзай.

Нiбы маланка працяла Эву... «Тое, што я думаю, так, як я думаю, чыстая выпадковасць, i яна ў выпадковасцi майго нараджэння i майго выхавання. Фiльм, якi я лiчу праўдзiвым, аўстрыец лiчыць фальшывым. Так, вiдаць, i ў iншых справах. Калi б я была дачка рабочага з тартака майго дзядулi, я, мусiць, глядзела б на свет iншымi вачыма».

Значыць, трэба знайсці праўду, прыўзняцца над мысленнем прусака, немца, аўстрыйца, перарасці мысленне дзяўчыны, у бацькоў якой хапала сродкаў, каб заплаціць за больш высокую адукацыю. Ці магчыма такое? Ці можна вызваліцца ад свайго акружэння? Яна падумала пра Юргена Бэра, пра Рольфа Кюперса. Рольф у Познані ўзламаў бар'ер свайго выхавання. Яму дапамог вопыт. Ён выцверазіў яго. Юрген нашмат апярэдзіў іх, але яго перавага была такая нязвыклая, што яна часта баялася задаваць пытанні, і тое-сёе заставалася незразумелым.

«Калі ты нарадзіўся на усходзе, — разважала яна далей, — дык як сапраўдны мусульманін будзеш верыць, што адзіны бог — алах». Яе першыя сумненні ў хрысціянскай рэлігіі былі звязаны з тлумачэннем, якое даваў настаўнік гісторыі ўзнікненню іслама. Пякельна мітуслівае святло пустыні, якое параджае фата-маргану, дапамагло прароку Магамету ў яго з'явах. І рашэнне аддаліцца ў пустыню настаўнік таксама вызваліў ад усялякай містыкі. «А што, — падумала тады чатырнаццацігадовая вучаніца, — калі ўзнікненне хрысціянства міала чым адрозніваецца? Хрысціянства прыйшло таксама з Усходу, яно напоўнена містыкай. Мусульмане могуць таксама лічыць яго не больш чым фікцыяй. Хто ж тады мае рацыю? На чыім баку праўда?»

Матэзі сціпла адказаў на яе сумненні:

— Праз такія пытанні народы вялі вялікія войны, бо не маглі вырашыць іх мірным шляхам.

Схілы дзюн з рэдкім сасоннікам ператварыліся ў мяккі хвалісты зімовы пейзаж. Маленькаму коніку гаспадароў Бодэнхаўза падвесілі да аброці бомку і запраглі ў трое звязаных саней. Калі незвычайная запрэжка ехала па вёсцы, людзі стаялі за фіранкамі і круцілі галовамі. Нейкі рыбак запыніўся і ўголас буркнуў:

— Фронту патрэбны сані. Мы свае здалі. А ім яны зноў не патрэбны.

Шэсць маладых людзей на запрэжцы не чулі буркатні і не бачылі позіркаў. Яны нesліся па сыпкім снезе, смяяліся, калі недарослая сасонка страсала на іх свой цяжар, і валіліся ў снег, як толькі фурман наязджаў на прысыпаны курганок і сані перакульваліся. Сонца і мароз, з'яднаўшыся, стварылі іскрыстую прыгажосць.

Такое варта было б апісаць у вершы, ды нельга: усе словы ўжо сцерліся: іскрыцца, мігцець, бліШчаць. Набліжаешся да царства снежнай каралевы. Сонечны прамень на нечапаным снежным курганку, як чароўны пацалунак у казцы, які вызваляе ад злоснай варажбы ледзянога царства.

Расчырванелы Эвін твар свяціўся.

Снежка прабіла дзірку ў бездакорным бліскучым пакрывале. Водруба не пацэліў. Ён і яго зямляк Матэзі зваліліся з апошніх санак. Снежка павінна была затрымаць Банордэна, які кіраваў канём. Перакуліўшыся набок, палягчэлыя санкі падскоквалі ззаду.

Лейтэнант з насмешкай прапеў праз плячо:

Хто ўпаў, той застаецца,
Хто на нагах, той адаб'ецца,
Шчаслівы, хто жывы...

— Спыніся ж! — папрасіла Эдзіт Кнор, якая сядзела ў яго за спіной. Ён засмяяўся і нацягнуў лейцы.

Водруба не захацеў зноў садзіцца. У яго замерзлі ногі. Ён, на заклік фюрэра, здаў не толькі свае лыжы, але і лыжныя боты. Радзіма павінна была забяспечыць фронт у барацьбе супраць «генерала Зімы». У Водрубы засталіся толькі туфлі. З мокрымі нагамі ён дробна бег каля саней.

Конь паволі ўзбіраўся на пагорак. Як толькі сані на нейкі момант прыпыняліся, палазы прымярзалі; калі сані зноў пачыналі рухацца і вяроўкі, што звязвалі іх, напіналіся, моцна кідала. Эва сядзела на другіх санях. Мужчына, які сядзеў за ёю, карыстаўся шанцам, падтрымліваючы яе, кожны раз дзвюма рукамі ўхапіцца ёй за грудзі. Эва сцягвала скураныя на ваце пальчаткі мужчыны з грудзей, але пальчаткі былі настойлівыя. Пры новым разгоне яны зноў аказваліся на тым самым месцы. Як само сабой зразумелае. Упэўненыя ў перамозе.

Пальчаткі належалі каментатару вялікагерманскага радыё, так сказаць, любімцу публікі. Ён быў у камандзіроўцы ў Прыбалтыцы, збіраў інфармацыю і там пазнаёміўся з капітанам Говерам, цяперашнім транспартным афіцэрам. Говер, атрымаўшы камандзіроўку, выбіў яшчэ пару дзён на святкаванне Новага года, якія ён і праводзіў на Востраве. Чалавеку з радыё запрашэнне Говера ў канцы ваеннакарэспандэнцкай камандзіроўкі прыйшлося да густу. Яго размясцілі ў Бодэнхаўзе. Эва прыслухалася: да яе даляцеў яго гучны, добра пастаўлены голас. За сталом ён гаварыў шмат і ажыўлена, за што Матэзі назваў яго «звышразумнікам». Калі займалі месцы на санях. Ён зрабіў такі выгляд, быццам Матэзі і Водрубу ён наогул не прымае за мужчын. Калі Банордэн паказаў Эдзіт Кнор, каб яна села за ім, чалавек з радыё сказаў:

— Значыць, садзімся парамі. Мы займаем другія санкі. — І Эва падпарадкавалася яго запрашальнаму жэсту.

Калі сонца схавалася за вяршалінамі сосен, стала холадна. Водруба падскокваў, адаграваючы ногі. Матэзі крыж-накрыж біў рукамі па грудзях.

— Самае прыемнае ў катанні на санках — радасць аказацца на цёплай печы дома.

Эва адчула, што нечы твар збоку напірае на яе башлык. Дыханне клубілася каля яго. Пальчаткі прыцiскалiся.

— Праўда, нам не холадна?

Каля кафлянай печы Бодэнхаўза сядзеў Ганс Цiфенбах. Калi прамерзлая санная каманда ўвайшла ў вялiкi жылы пакой, пачаўся эфектны парад Матэзi. У Матэзi лiтаральна ўсе рукi былi занятыя, бо, акрамя Цiфенбаха, прыбыў Доктар, Говер прачнуўся, задрамаўшы пасля абеду, Iрэнэ накрывала стол. Матэзi круцiўся, як ваўчок, апантана шукаючы новых ахвяр.

— Мы з вамi ўжо вiталiся? — Ён нiяк не мог дачакацца, калi Iрэнэ паставiць паднос. Яна ад усяго сэрца смяялася, калi ён ледзь не адарваў ёй руку.

— Мы ж сёння ўжо бачылiся за сталом. Вы... ведаеце, хто вы? Вы сапраўдны генерал Блытанiк.

Матэзi сапраўды на нейкi момант разгубiўся, а потым засмяяўся i супакоiў свае звышстаранныя рукi каля гладкiх, цудадзейна цёплых кафляў вялiзнай кантаватай печы.

Ганс Цiфенбах у першыя хвiлiны мiтуслiвай ажыўленасцi глядзеў толькi на Эву. Ён цешыўся яе здзiўленнем, радасным бляскам яе вачэй. Яна нават расчырванелася. Чорт ведае — ён прыехаў дзеля яе раней. Ён нешта нагаварыў мацi пра цяжкасць працы, якую ён пiсаў разам з Лёйпальдам. Трэба яшчэ папрацаваць над адной праблемай да сустрэчы з прафесарам. Мацi паверыла яму. Ён ехаў паўночы, каб своечасова трапiць сюды. Дзяўчына адна правяла каляды. Перад Новым годам гэта не павiнна паўтарыцца.

У Эвы ў валасах быў яшчэ снег. Кароткi завiток на лбе заiнеў.

— Добры дзень, Снежная каралева, мяне доўга не было? — Дыядэма пачала раставаць. Ён сцёр яе з валасоў.

Яна засвяцiла яму сваiмi яснымi вачыма, якiя ён аднойчы палiчыў зялёнымi.

— Што, дома не спадабалася?

— Яшчэ як, але мне трэба працаваць, каб закончыць кнiгу. Ты ж ведаеш — шэрая тэорыя.

Ёй не абавязкова было адразу ведаць, што яго прыгнала сюды. Вечар быў яшчэ наперадзе.

Паклiкала Iрэнэ. На кухнi патрабавалася дапамога. Эва заспяшалася.

У дзвярах памiж пакоямi стаяў чалавек з радыё. Ён загарадзiў ёй дарогу. Яна павiнна была папрасiцца. Яна скрывiла рот i кплiва

зыркнула ў вочы пераможцу. Ён пацiснуў плячыма i прапусцiў. Доктар сядзеў, адлёгшыся ў крэсле, i назiраў за незнаёмым. Пагаварыць пра справы, такiм чынам, было немагчыма. Няхай так. Да гэтага ён падрыхтаваў сябе. Нават з-за дзяўчат. Ва ўсякiм разе, прысутнасць чужака выключала i звычайна вельмi папулярную тэму: выпадкi, якiя нярэдка насiлi анекдатычны характар. Вось чаму гаворка пачыналася цяжка. Нарэшце, калi Говер i не паспрабаваў навесцi перакiдны мосцiк, Доктар звярнуўся да госця.

— Вы на каляды былi на фронце?

— Быў. На паўночным участку. — У радыёкарэспандэнта была з сабой невялiчкая карта. Лiнiя, якую ён паказваў, праходзiла далёка на захад ад Сталiнграда.

— Кажуць, што Гiтлер быў там у салдат. Вы не сустрэлi яго? — спытаў Матэзi.

— Не. Фронт вялiкi.

— А як настрой? — пацiкавiўся Доктар.

— Калi стала вядома, адкуль я прыехаў, мне даручылi перадаць радзiме, што фронт стаiць, як сцяна. Я буду расказваць пра гэту паездку па ўсiх радыёстанцыях. Трэба закрануць душы. Там цудоўныя хлопцы, гэтыя маладыя афiцэры. Амаль усе прайшлi суровую школу гiтлер'югенда. Яны ў большасцi выдатна падрыхтаваныя. Часам здаецца, што трапiў на вучэннi ў рэйху.

Лейтэнант Банордэн лавiў кожнае слова. Яго пастава пастатнела. Ён стаяў, як Напалеон: рука памiж гузiкамi кiцеля. На такiх трымалася надзея рэйха. Яму раптам стала сорамна, што ён стаiць каля кафлянай печы, i ён перайшоў да акна.

— Вы што-небудзь чулi больш дакладна пра становiшча пад Сталiнградам? — спытаў прыглушаны, надзвычай цывiльны голас Цiфенбаха.

Радыёкаментатар загаварыў, нiбы ставячы таго на месца:

— За нашу адважную 6-ю армiю цяпер перажывае ўся нацыя. Гэта — геральчная бiтва. Перамога ўвойдзе ў гiсторыю як другi Седан.

Цiфенбах пайшоў да дзяўчат на кухню. Эва стаяла каля плiты, што палiлася вугалем, i пякла на чыгуннай патэльнi тварожнiкi. Банордэн расхвальваў iх як чыста саксонскую страву. Рэцэпт ведала адна толькi Эва. Водруба паходжваў тут i ласаваўся. Ён парэзаў палец хлебарэзкай.

Гаспадыня прынесла чым перавязаць.

— Што ён там расказвае пра фронт? — спытаўся Водруба ў Цiфенбаха.

— Ён прапаведуе веру ў перамогу. Iншаму яго не вучылi.

Водруба ўздыхнуў.

— Варта мець толькі горла, як у яго, і табе ўжо паверыць увесь свет. — Броню з маладога хіміка знялі. «Гераічная лапа» прайшла і па Востраве, і Водруба стаў яе першай ахвярай. Ён разумеў, што на фронце ўсё ідзе не вельмі добра. Інакш яго не забіралі б адсюль.

Ён убачыў, як Доктар пайшоў праз двор. Яму хацелася спатканца з ім — нібы выпадкова. Калі хто і мог заступіцца за яго, сказаўшы, што ён патрэбен тут дык толькі гэты трыццацігадовы інжынер.

Водруба знаходзіў у Гітлера нешта вартае павагі ў процілегласць свайму земляку Матэзі, які аднойчы сказаў: «Калі яны хочуць адабраць незалежнасць у Аўстрыі, дык няхай далучаюць да Італіі. Немцы для нас занадта прусакі». І вось для Водрубы справа павярнулася сапраўды «па-пруску». Яму гэта не вельмі падабалася. Ён быў на гэтым паўночным прускім востраве усім задаволены, хоць тут і елі вельмі шмат бульбы. У бліндажах, бункерах і казармах не будзе месца яго гітары, і наўрад ці знойдзецца публіка на яго венскія анекдоты. Такім яму ўяўлялася прускае абыходжанне.

Доктар спусціўся ўніз да вады. Водруба абышоў дом з другога боку. Там не было расчышчанай сцяжынкі. Ды што там! Ён пабег. Снег абледзянеў і ламаўся, крыхкі, як шкло. Абломкі драпалі яму ногі, у туфлі яшчэ раз набралася снегу, шкарпэткі намоклі.

— Ці будзе трымаць, Водруба? — Доктар топнуў альпійскім ботам па лёдзе, як хлопчык. На вадзе быў шырокі лядовы пояс. Ужо амаль сцямнела. Толькі снег блішчаў.

— Я б не рызыкаваў.

— Героем вас не назавеш, праўда? — засмяяўся Доктар.

— Аз мяне хочуць зрабіць героя.

— Вас прызываюць?

— Паперка ўжо ў кішэні. Праз два тыдні ад'езд.

— Гэта немагчыма.

Доктар перастаў прабаваць лёд.

Водруба ўзняў плечы.

— Начальнік кадраў лічыць, што хімікаў хапае.

— Глупства. Іх ніколі не можа хапаць. Хто ж будзе выконваць ваша заданне?

— Доктар Бэр, наколькі мне вядома.

— Вось яно як.

Водруба ўзрадаваўся. Калі Доктар пачынаў размаўляць на берлінскім дыялекце, значыць, яго закранула.

— Я абмяркую гэта з Брэтшнайдэрам. Можаце мне паверыць.

Яда была прыгатавана. На грубых квадратных сталах, якія летам

стаялі ў садзе для гасцей, ляжалі абрусы ў белую і сінюю клетку. Пасярэдзіне стаялі драўляныя падсвечнікі з жоўтымі свечкамі. Апошні дзень года можна было адзначыць урачыста. Дзяўчат было мала, таму іх размеркавалі між сталамі. Не выклікала сумнення, што Ірэнэ пойдзе да стала Доктара, а Эдзіт Кнор села побач з Банордэнам. Радыёкарэспандэнт па-гаспадарску ўзяў Эву за руку і падставіў ёй крэсла. Яна села. З другога боку ад яе сядзеў Ганс Ціфенбах і ўсміхаўся.

У Бодэнхаўзе віна яшчэ хапала.

— Гэта востраў шчаслівых на няшчасным Востраве, — сказаў Доктар і падняў чарку за здароўе белакурай гаспадыні.

Яна непакоілася за свайго сына на Усходнім фронце і, здавалася, хацела сваёй дабрадзейнасцю заваяваць літасць у лёсу.

Сталы былі не багатыя, але багата застаўлены. Гаспадыня задаволена сачыла, як хутка спаражняліся талеркі. Можна было абысціся без мяса, калі была свежая вэнджаная рыба, тварог з смятанай, прыпраўлены кменам і таматным пюрэ, а салат быў прыгатаваны з любоўю. Салодкія тварожнікі з садавінай таксама падабаліся мужчынам. Доктар ужо трэці раз падкладваў іх сабе. Ён быў добры ядок. Няхай бярэ, колькі яму хочацца. Акрамя сына, не было чалавека, каму б яна пажадала больш дабра, чым яму.

Сетка сакрэтнасці была не такая густая, каб да Бодэнхаўза не дайшло, што адбылося на апошняй закінутай касе Вострава. Для ссівелай жанчыны Доктар быў бацькам вялікага цуду, які абяцаў яе сыну ратунак, яму і ўсім салдатам на фронце. Малады Доктар каваў меч Зігфрыда. Ён даўно ўжо каваў яго, ужо некалькі гадоў. Ён з самага пачатку любіў бываць у іх доме, калі шукаў сабе адпачынку і разрадкі. Ствараць цуд было, мусіць, вельмі цяжка.

Салат з фасолі, відаць, таксама быў да густу Доктару, хоць перцу было малавата. Ірэнэ з'эканоміла, бо апошнія запасы канчаліся. Калі Гільмар, сын, апошні раз быў у водпуску, маці паскардзілася, што канчаецца перац. Ён са смехам абняў яе за плечы. «Нам прыйдзецца крыху хутчэй адабраць назад калоніі, тады ў цябе зноў будуць перац і мускатныя арэхі». Яна больш нічога не сказала. Яна ж ведала, што справа ідзе пра больш важныя рэчы: пра жыццёвую прастору для народа, пра гонар Германіі, які быў заплямлены Версальскім ганебным дыктатам. Гільмар выбраў сабе кар'еру афіцэра

Яна прыслухалася. Размовы пачыналіся то за адным, то за другім сталом.

— Раней гаварылі «З богам за караля і Айчыну!» Цяпер гавораць «За фюрэра і рэйх», — разважаў радыёкаментатар сваім прыемным голасам. — Гэта азначае поўную самаахвярнасць. Асоба падначаль-

ваецца вялікай ідэі. Асобны чалавек — нічога, мэта — усё.

Без ценю іроніі, але вельмі павольна, Доктар прааналізаваў:

— Носьбіт ідэі — фюрэр, дапусцім. Мэта — рэйх Які ён будзе?

— Гэта — сур'ёзная справа. Рэйх не будзе малы. Надумайце пра антыкамінтэрнаўскі трохкутнік Берлін — Рым — Токіо. — Радыёкаментатар заўсміхаўся, як чалавек, які ведае больш, чым можа сказаць. — Вам трэба азірнуцца назад у глыбіню гісторыі...

— Давайце спакойна пабудзем у сённяшнім дні!

Свой голас падаў Ціфенбах, які вельмі вольна сядзеў у крэсле. Голас быў важкі, як свінец. Жаўранак, якога хацеў выпусціць субяседнік, трапіў у паветраную яму. — Па-першае, мне здаецца, што на лініі Берлін — Токіо знаходзіцца вельмі шмат краін, у якіх не будзе ніякага жадання далучацца да рэйха. Ні да Тэна, ні да фюрэра. Значыць, гэта мэта — утопія. Па-другое, і пра гэта я хацеў бы сказаць у першую чаргу, я не веру ў самаахвярнасць нашых афіцэраў... Пан Банордэн, вы ж прафесійны салдат! Што вырашыла выбар вашай прафесіі? Ідэйныя меркаванні?

Голас лейтэнанта Банордэна выразна адсек:

— Вядома, ідэйныя прычыны. — Не варта было даваць радыёкаментатару зачэпку. Невядома, куды заходзілі яго сувязі. У Банордэна не было асабістай зацікаўленасці ў паходзе на Усход. Ён хуценька зняў руку з пляча Эдзіт Кнор і непрыкметна адсунуў нагу, якая была ў вельмі блізкім суседстве з яе абцягнутай шаўковай панчохай лыткай— У час працоўнай павіннасці быў ацэнены мой талент арганізатара і здольнасці кіраўніка.

— Вы дужы і спрытны, вы добра ўмееце камандаваць.

Банордэну было прыемна, што ў прысутнасці Эдзіт Кнор былі адзначаны гэтыя мужчынскія якасці. Ён, седзячы, прыстукнуў абцасамі.

— Калі захочаце, я яшчэ сёлета арганізую невялічкія начныя вучэнні. — Ён жартаўліва глянуў на гадзіннік. Да поўначы заставалася дзве гадзіны.

Важкі голас Ціфенбаха адхіліў жарт.

— З такімі якасцямі вас чакае бліскучая кар'ера афіцэра.

— Хвала ўсяму, што нас гартуе, — пачулася з кутка. Фразу ўсур'ёз не прынялі, бо яна гучала па-аўстрыйску мякка.

Радыёкаментатар палічыў, што цяпер пара закрыць паветраную яму. Ён звярнуўся да Ціфенбаха:

— Значыць, вы адмаўляеце ваеннаму рамяству ва ўсякіх ідэйных матывах. Афіцэр, на вашу думку, шукае ў сваёй прафесіі спатолі прагі да ўлады? Гэта недаацэнка.

— Я нічога не прыніжаю. Ёсць шмат прычын, па якіх малады чалавек становіцца ў нашы дні прафесійным ваенным. Жаданне хутка падняцца без вялікіх намаганняў у працы хоць і не варта перайманне, але па-чалавечы зразумелае. Чаму вам хочацца затушаваць гэта? Навошта вам выстаўляць справу так, як гэта робіцца ў шлюбных аб'явах сярэдняй сямейнай газеткі: «Ідэальна мыслячы малады чалавек...» і гэтак далей? Вы прымаеце за сапраўднасць тое, што існуе толькі ў галовах дзяўчатак-падлеткаў.

Капітан Говер заёрзаў на крэсле. Ён рыхтаваўся ўключыцца ў размову. Прыйшла пара перавесці гаворку ў другое рэчышча. Але радыёкаментатар апярэдзіў яго:

— Вельмі цікава. У якой прафесіі, на вашу думку, найбольш ідэалістаў, калі не сярод афіцэраў, закліканых на абарону Айчыны?

Ціфенбах пацiснуў плячыма:

— Сярод павадыроў сляпых і санітараў, мусіць. А сярод астатніх яны пашыраны, відаць, даволі раўнамерна.

Умяшалася Ірэнэ:

— А ўрачы! Яны ж сярод першых, хто дапамагае чалавецтву.

— Я не ведаю ніводнага ўрача, які выбраў бы сваю прафесію з чыстага чалавекалюбства. Першым штуршком звычайна з'яўляецца прыродазнаўчая зацікаўленасць. Акрамя таго, урач рэдка бывае беспрацоўны А для шырокіх мас ён проста «доктар».

— А як са свяшчэннікамі? — спытаў Матэзі Ён сядзеў, выцягнуўшы шыю. Спрэчка яго вельмі зацікавіла.

— Тэалогія плаціць добрыя стыпендыі, а факультэт ніколі не перапоўнены. А ў каго ёсць талент прамоўцы праразіць на царкоўную кафедру... — Ціфенбах зрабіў прыязны жэст. — Не кожнаму шанцуе ўладкавацца на радыё. Акрамя таго, мілая сельская парафія і сёння яшчэ — маленькі патрыярхат.

На Ціфенбаха пасыпаліся воклічы.

— А што вы думаеце пра педагагічную прафесію'

— А як з даследчыкамі?

Говер з палёгкай уздыхнуў. Рызыкоўная размова ператваралася ў застольную гульню.

Яго госць пакруціў галавой. Ён нахіліўся за спіной Эвы да Ціфенбаха.

— Вы невук, пан Ціфенбах. На якім чалавечым дне вы страцілі свае ілюзіі?

Ціфенбах перакідваў губамі люльку. Ён расхваляваўся больш, чым паказваў. Ён даўно зразумеў, што перад гэтым незнаёмым чалавекам зайшоў у сваіх выказваннях занадта далёка. Але адступаць

не хацеў Дзякуючы таму, што да гаворкі падключыліся астатнія госці, спрэчка крыху змякчылася і небяспека зменшылася.

— Я — фізік, — адказаў ён на пытанне свайго праціўніка. — Тут сілу мае толькі дакладнасць. Любая тэорыя павінна быць пацверджана дакладным вымярэннем.

— Ваш светапогляд уяўляецца мне занадта вынаходлівым. Скажыце, а што штурхнула вас на выбар прафесіі? Не ідэйная мэта?

— Не. Цікаўнасць.

Бліжэй да поўначы гаворка стала аціхаць, яна вялася невялікімі групамі. Радыёкаментатар нядоўга назіраў за пышнай хваляй валасоў на галаве Эвы. Яе твар быў ва ўладзе Ціфенбаха. Радыёкаментатар падсеў да Говера і Водрубы. Ён спадзяваўся на вясёлую навагоднюю ноч і быў расчараваны.

Эва глядзела на Ціфенбаха з лёгкім папрокам

— Навошта ты так, быццам для цябе няма нічога святога? Ты ж зусім не такі. Ты неяк гаварыў мне, што твая прафесія напоўнена рамантычнымі тайнамі, яна — як экспедыцыя ў нязведаныя краіны.

Ён нахіліўся да самага яе вуха.

— Падумай пра Шарлоту Левенскельд. Часам даходзіш да той кропкі, калі проста хочацца грукнуць кулаком.

Позірк Эвы запыніўся на радыёкаментатары. Яго голас гучаў прыемна.

— Ён зноў пускае пыл у вочы, — шапнула яна.

Говер, відаць, вырашыў яшчэ ў старым годзе сур'ёзна пагаварыць з Эвай. Ён пайшоў за ёю на кухню, дзе яна накладвала пячэнне.

— Я нядаўна быў па справах у Познані, — пачаў ён. — Вашы бацькі вельмі гасцінныя.

— Так, у іх хапае месца гасцям, — нязмушана адказала Эва. Яна ведала, куды ён хіліў. Ёй нельга было адразу даваць яму адпор. Менавіта да гэтага чалавека ў яе было пачуццё, што яна абавязана яму. Дзеля яе ён тым-сім рызыкаваў.

Говер забаўляўся шчыпцамі для пячэння. Ён раскрываў і закрываў іх, нібы пашчу ненаеднага паўзуна.

— У Швентмайра псуецца настрой, калі нехта пачынае гаварыць пра вас, — сказаў ён без пераходу. — Неразумна было даводзіць яго так.

Эва вельмі ціха адказала:

— Інакш нельга было. Я мусіла разабрацца ў сабе самой.

Говер паглядзеў на яе зверху ўніз. Пра што думала гэта дзяўчына? Няўжо яна не разумела небяспекі, якая вісела над ёю ўвесь час? Швентмайр толькі цяпер сказаў яму ўсю праўду. Ён, Говер, і

пальцам не паварушыў бы, каб з самага пачатку ведаў, што яна напалову яўрэйка. Цяпер ён заграз у гэтай справе і павінен быў трымаць язык за зубамі. Яму зусім нецікава быць разжалаваным за хаўрусніцтва з яўрэямі. Ён і Швентмайра сур'ёзна папярэдзіў. Цяпер той глядзеў на свае адносіны да падчаркі намнога больш цвяроза, чым тады ў Берліне. «Яўрэйская парода выходзіць у яе наверх», — павінен быў прызнацца ён.

На шчасце, у дзяўчыны была адна добрая рыса: яна не прысмоктвалася, як клешч, да сваіх заступнікаў. З другога боку, яна не спынялася перад самаўпраўнымі ўчынкамі, якія вельмі проста маглі выклікаць непрыемнасці яе добразычліўцам. Так, яна сышла з дарогі, якую ёй велікадушна расчысціў Швентмайр, бо ёй захацелася «разабрацца ў самой сабе». Няўжо яна не здагадвалася, што пасля канчатковай перамогі нацыянал-сацыялістаў яна стане вольная, як птушка? Швентмайр, Ведэльштат, чорт ведае хто яшчэ з лішкам аплацілі б яе непрыемнасці. Чаго яна чакала ад жыцця? Яна паводзіла сябе тут у Бодэнхаўзе ў коле выбраных наведнікаў з натуральнасцю, якая межавала з нахабствам. Яна балансавала на тонкім канаце побач з прадоннем і яшчэ адважвалася заяўляць, задраўшы нос, што паветра не вельмі «чыстае».

У яго было немалое жаданне нагрубіць ёй, але ён стрымаў сябе. Яе рэакцыю нельга было ўгадаць. Будзе лепш, калі ніхто не заўважыць, што ў іх была сур'ёзная размова. Ён сказаў такім тонам, быццам камандаваў сваім фельдфебелем:

— Пакуль ідзе вайна, трэба падначальвацца. Загад заключае ў сабе і клопаты пра захаванне жыцця. Любая адасобленасць — гэта акцыя, якая можа пашкодзіць усяму цэламу. Вы адмовіліся слухацца Швентмайра. Калі-небудзь вы яшчэ пашкадуеце.

Не глянуўшы на яе. Ён вярнуўся ў пакой.

Эва стаяла перад талеркай з пячэннем і спрабавала суняць хваляванне. Яна чакала неадабрэння. Яго тон узрушыў яе. Яна ўжо добра не памятала, што ён гаварыў. Яна з усяго пачула толькі адно: людзі трэцяга гатунку не павінны набірацца нахабства, каб думаць ці нават імкнуцца заставацца прыстойнымі. Такой рэчы, як гонар, для іх не існавала.

Напружанне, якое звычайна авалодвае кампаніяй у апошнія хвіліны года, ужо адчувалася ў пакоі, калі Эва нарэшце адважылася вярнуцца туды. Ірэнэ, калі Эва праходзіла каля яе, прытрымала яе за спадніцу. Ірэнэ хацела пажартаваць наконт доўгай адсутнасці Эвы, але Эвін твар прымусіў яе прамаўчаць.

Радыёкаментатар сядзеў каля гаспадыні. Белакурая жанчына,

баючыся за сына, бачыла ў чалавеку з прыгожым голасам таго, хто ведае вялікія сусветнапалітычныя ўзаемасувязі, што дыктуюць ваенныя законы.

— Калі хочаш міру, трэба ўмець адмаўляць сабе, — ціха гаварыла гаспадыня. — Лепш жыць сціплым мірным жыццём, чым старацца вайной задаволіць усё больш высокія вымогі. — Ей прыпомніўся жарт Гільмара наконт перцу, які канчаўся. Яна была простая жанчына, і ў яе былі простыя жаданні. Але з таго яны, відаць, і пачыналіся! Вымогі былі ў мільёнаў людзей — самыя розныя, напэўна, большыя, чым у яе. А іх сума, мусіць, і была прычынай вайны. Імкненне мець усё больш, мусіць, і было тым, што называлі «недахопам жыццёвай прасторы»... Ці не было гэта ўзаемазвязана з заклікам да «незалежнасці ад замежных рынкаў»? Пэўна, пэўна, так і было: перац, французская парфума, панчохі з чыстага шоўку. Прыемна было купіць танна галандскую раннюю гародніну, і было б зусім нядрэнна, каб не трэба было высільвацца, вырошчваючы пшаніцу на гэтай пясчанай прыбярэжнай палосцы. На Украіне яна куды дзешавейшая... Ах, усё гэта вельмі прыемна. Але здабыта можа быць толькі вайной. А вайна — гэта страх, вечны страх за сына. І яна адмовіцца ад усяго, што некалі мела ці жадала, яна пахавае свае старыя вымогі разам са старым годам. Яна хоча міру ў новым годзе. Яна так і напіша Гільмару. Няхай ён адкіне свае думкі: «Як добра быць лейтэнантам. Мне так пасуе форма. Я магу загадваць...» Усё гэта пустое. Ён — яе сын. Ён чалавек і без афіцэрскай шпагі. Але ён такі ж датклівы, як і ўсякі чалавек, і граната можа забраць яго жыццё.

Радыёкаментатар перабіў думкі, што нахлынулі на жанчыну.

— Шаноўная фраў, свет яшчэ не гатовы да міру. Ён яшчэ перапоўнены запальнымі рэчывамі. Наша заслуга будзе ў абясшкоджанні яго, калі мы адбяром уладу ў сусветнага яўрэйства і знішчым бальшавізм. — Ён вымаўляў словы раздумліва і, здавалася, сам з задавальненнем прыслухоўваўся да іх. — Але не турбуйцеся. Вялікая мэта зусім блізка. У сакрэтных лабараторыях ствараецца зброя, якая прынясе нам перамогу ў апошняй бітве. Пакуты кожнай нямецкай маці будуць адпомшчаны ў тысячы разоў.

Доктар зацікаўлена перагнуўся да суседняга стала. З прытворнай наіўнай цікавасцю ён спытаўся:

— Скажыце, вам вядома што-небудзь дакладна?

Радыёкаментатар паблажліва ўсміхнуўся. Па ім любы мог здагадацца, што ён упэўнены ў сваёй дасведчанасці.

— Мая прафесія патрабуе ад мяне час ад часу пазіраць на шахматную дошку вялікай сусветнай палітыкі. Можаце быць абсалютна

ўпэўнены, што ўвесь свет затрымае дыханне, калі фюрэр пойдзе са сваіх буйных казыроў.

— Ах! Дык яны ўжо ў яго руках?

— Што за пытанне! Няўжо вы лічыце яго за хвалька?

— А чаму не выкарыстоўваюць гэтай зброі? Насельніцтва Берліна і Рэйнскай вобласці, пэўна, ужо даўно заслужыла палёгкі.

— Вы і не здагадваецеся, які фюрэр сумленны. Акрамя таго, у яго вельмі тонкае чуццё: у патрэбны момант зрабіць патрэбны крок. Відаць. Ён лічыць, што час яшчэ не настаў.

Было відаць, як цяжка стрымацца Доктару. Нават гаспадыня, якая менш за ўсіх ведала дэталі таго, што адбылося на рэчцы, убачыла пустату гэтай балбатні. Тое-сёе яна ведала пра клопаты Доктара і пра нецярплівы націск Вярхоўнага кіраўніцтва войскамі. Ці, магчыма, была яшчэ адна, больш магутная зброя?

Радыёкаментатар, заўважыўшы, што ў гэтай кампаніі апошняе слова застаецца за ім, закончыў патэтычнай сентэнцыяй:

— Заўсёды ёсць вялікія палітыкі і палкаводцы, якія робяць гісторыю. Без Напалеона сусветная гісторыя пайшла б іншым кірункам. Калі б не было Гётэ, не было б яго ўплыву на гістарычнае развіццё.

У чалавека з радыё было пачуццё часу. Яго апошнія словы супалі з першым ударам гадзінніка, які паказваў дванаццаць.

Як толькі з'явілася магчымасць, Эва і Ганс Ціфенбах выйшлі з пакоя. Яны зразумелі адно аднаго позіркамі.

На двары было холадна. Вецер прыціх. Пасля таго як замёр апошні звон з недалёкай вясковай царквы, цішыня здавалася поўнай. «Ні шолаху, ні ветру на зямлі!» У гэтых словах паэт знайшоў самае дакладнае выяўленне анямеласці, якая здаецца бясконцай. Эва прашаптала гэты радок праз воблачка свайго дыхання.

«Нічога няма цяжэй, чым зразумець чалавека», — падумаў Ганс Ціфенбах. Лягчэй разабрацца ў квантавай механіцы. Адно з другім суадносіцца, як табліца множання з інтэгральным вылічэннем.

Ён не разумеў перамены ў настроі Эвы, калі яна прыйшла з кухні. Для рашэння гэтай задачы яму не хапала пастаяннай. А што ён пра яе ведаў? Да вады вяла вузкая сцежка. Ганс Ціфенбах палажыў ёй руку на плячо і вёў, як малое дзіця, блізка перад сабою. Задумліва, нібы ў яе думках не было нічога незвычайнага, яна спыталася:

— Ты верыш, што гарбаты можа быць шчаслівы?

Ён разгубіўся. Ён не ведаў, куды яна хіліць.

— Што маеце на ўвазе?

— Ці можна жыць у гармоніі са светам, калі ў цябе горб? Вось што мне вельмі хочацца ведаць.

Ён мацней прыціснуў руку да яе пляча, спыніўся і павярнуў яе да сябе.

— Што гэта за думкі, Эў! У цябе ж няма гарба. — Ён абедзвюма рукамі ўзяўся за краі яе башлыка і прыцягнуў твар у воблачнай казачнай абалонцы да свайго. Позіркі абаіх паглыбіліся, пыталіся без слоў: «Хто ты?»

У яе было жаданне адкрыцца. Яна сабралася сказаць: «Ёсць недахопы, якія не ўбачыш адразу», але словы былі пагашаны моцным рухам, якім ён прыцягнуў яе да сябе. Яе башлык зляцеў. Пасля гэтага гаварыць не было чаго. Аднак горкія слёзы замянілі пытанне, на якое не было адказу. А потым іх твары зноў аказаліся занадта далёка адзін ад аднаго, каб можна было нешта заўважыць.

За імі зарыпеў снег, і Ганс Ціфенбах сказаў:

— Наступную навагоднюю ноч мы правядзём недзе ў гарах, дзе нас ніхто не ведае.

Эве захацелася ў гэты момант, каб у яго быў упэўнены прыгожы голас, як у радыёкаментатара, каб лягчэй верылася ў яго словы.

Ад дома ішлі Доктар з Ірэнэ. У канцы вузкай заснежанай сцежкі яны сышліся з Гансам і Эвай. Ірэнэ звяла Доктара далей ад радыёкаментатара. Мужчыны заспрачаліся, а гэта магло прывесці да непажаданых выказванняў Доктара. Каментатар сцвярджаў, што шумная прапаганда вакол зброі адплаты неабходная і апраўданая псіхалагічна. Вера ў сваю перавагу — важны фактар для маральнага стану салдата. Доктар запярэчыў — і загарачыўся, — што ёсць небяспека праваронiць момант, без якога нельга ўявіць сабе ваенную раптоўнасць.

— А што сказала на гэта моцная асоба? — з цікаўнасцю спытаўся Ганс Ціфенбах.

Доктар з'едліва засмяяўся.

— Моцная асоба. Сказана вельмі дакладна. Прапагандысцкая машына перагнала нас. Прарок, што сядзіць там, ведае лепей за нас, што адплата пераўзыдзе усе, што было раней. Ён гаворыць так, быццам салдат там ужо можна кінуць вінтоўкі і, седзячы на танках са свастыкай на сцяжках, душыць ворага гусеніцамі І ўсё праз нашу цудадзейную зброю!.. Калі я думаю пра капрызы і недахопы нашай «сігары»...

— Магчыма, яму нешта вядома пра другую распрацоўку, — сказаў Ціфенбах.

Доктар пакпіў:

— Тады гэта можа быць толькі атамная зброя. А калі б што такое было, мы даўно ўжо не бачылі б вас тут, Ціфенбах.

— Смеху варта, — сказала Ірэнэ. — Чалавек не мае ўяўлення,

перад кім выдае свае прамудрасці. — Яна ўсміхнулася Доктару з непрыхаванай гордасцю.

Доктар прасунуў сваю вольную руку пад Эвіну, што Ціфенбах зразумеў як знак замкнуць круг, узяўшы пад руку Ірэнэ. Так яны стаялі ўчатырох і прытопвалі на адным месцы, каб не замерзнуць. Цёплы пакой быў акупіраваны лжэпрарокам.

— Водруба здзіўлена лупіць вочы, як дзіця. Ён не можа ўцяміць, што мы так добра засакрэчаны. Я, праўда, чакаў, што гэты пан Разумнік хоць бы здагадаецца пра асобае становішча Вострава, — сказаў Доктар.

— Але і Говер трымаў язык за зубамі, — сказаў Ціфенбах.

— Говер... — Доктар шырока засмяяўся. — Стары «хітры венец» моўчкі сядзіць, разглядае наскі сваіх ботаў і крышыць пернік. Я нават чую, як ён пасмейваецца сам сабе. Пакуль ён быў тут, усе запускі зрываліся. Ён бачыў толькі няўдачы з А4.

— Мне шкада старой жанчыны, — сказала Ірэнэ.

Яна ловіць кожнае слова. Яна думае пра Гільмара і чакае ад вас хуткага заканчэння вайны.

— Яна толькі адна з мільёнаў, да якіх штодня звяртаецца праз мікрафон радыёкаментатар, уводзячы іх у зман, — павольна сказаў Ціфенбах. — Сілай свайго голасу.

— Мы не багі! — Доктар зразумеў словы Ірэнэ як дакор. — Магчыма, нам, сённяшнім, не хапае той універсальнасці, якую мелі старыя. Падумайце пра Лейбніца. Кім толькі ён не быў: філосаф, матэматык, тэолаг, педагог.

Эва назірала за ім. Яна таксама чытала кнігу, якую ён браў на каляды. Яе парэкамендавала Ру. Цяпер яна прыслухоўвалася, што вычытаў Доктар пра чалавека, у параўнанні з якім яна здавалася сабе малюсенькай.

— Ён пабудаваў нават першую вылічальную машыну. Малайчына!

Аднак Эва не пачула пра тытана Лейбніца нічога, што было ёй невядома.

Словы з другога боку прымусілі яе прыслухацца. Ганс Ціфенбах фармуляваў сваё дапаўненне жорстка і павольна, старанна адбіраючы думкі.

— Лейбніц ужо даўно даследаваў праблему вечнага міру для чалавека. У марах ён бачыў прымірэнне ўсіх веруючых і стварэнне царства розуму. — Ганс Ціфенбах вызваліў руку з-пад рукі Ірэнэ і правёў ёю па лобе, нібы хочучы памагчы ў цяжкай рабоце думцы. — Ён піша, што энергія людзей павінна быць адухоўлена. Сумеснае раз-

віццё народаў на навуковай аснове можа падрыхтаваць палітычны мір. Ёсць ягоныя вершы, адрасаваныя кайзеру. — Рука на лобе дапамагла. Цытата была знойдзена. Ён зноў узяў Ірэнэ пад руку і бегла прагаварыў:

Найбольшая слава табе, калі ты зямлю супакоіш,
Калі аніколі хрышчоныя людзі не будуць людзей забіваць.

Доктар не таіў свайго здзіўлення.

— Хаця раман пра Лейбніца тоўсты, каля тысячы старонак, але пра гэта там няма ні слова.

— Пакуль існуе афіцыйная думка, што на свеце зашмат запальнага рэчыва, такім вершам не будзе месца. — Ганс Ціфенбах страсянуўся ад холаду.

— Можа, пойдзем у дом? — папрасіла Ірэнэ.

Маленькая група распалася. Доктар сказаў:

— Не ведаю, чамусьці пачатак гэтага года мне не падабаецца. Адзін у доме без сумнення — Ёнас.

Эва прыпомніла словы Ру ў калядны вечар, яе боязь, што на заводзе ёсць шпікі. Ёй прыйшлі ў галаву таксама словы Бэра, якія ён сказаў пасля запуску: «Магчыма, наляцяць каршуны». Востраў выступіў з ценю. Доктар, якому так горача хацелася гэтага, мусіць, ужо разгадаў з'явы, якія спадарожнічаюць поспеху на вайне. Яны ішлі ў дом, амаль не размаўляючы.

У зацемненым пад'ездзе Ганс Ціфенбах засунуў руку ў кішэнь паліто і дастаў тонкую кніжачку.

— Я табе штосьці прынёс. Нешматслоўная кніга, а гаворыць шмат. І гаворыць істотнае. — Ён разгарнуў яе. — Маё імя было ўжо напісана. Я дапісаў тваё. А больш у кнізе слоў няма.

Эва прыняла падарунак асцярожна, быццам ён мог разбіцца. Зацемненая лямпачка дазваляла ўбачыць толькі назву. Кніга была запоўнена малюнкамі, чорна-белымі гравюрамі, на ёй быў нязвыклы надпіс. «Франс Мазерэль», — прачытала яна.

Яна адчула сябе шчаслівай. Як ён умеў выбіраць падарункі! Яна даравала яму пытанне, што засталося без адказу.

## 4
## ПАВАРОТНЫ ПУНКТ

Году яшчэ не было і месяца. Заспаны чалавек, які ўстаў з левай нагі, не мог быць больш бурклівы, чым гэты хлапчук ва ўзросце трыццаці аднаго дня. Юрген Бэр прымаў гэта спакойна. Лепш жахлівы канец, чым жах без канца.

Усе бачылі, што ў дырэкцыі выпрабавальнага ўчастка былі вялікія клопаты. Доктар, амаль заўсёды акружаны роем незнаёмых, з'яўляючыся ў казіно, не паварочваў галавы. Прамысловасць і шпікі пайшлі ў атаку. Буйныя канцэрны прыслалі сваіх прадстаўнікоў. Распрацоўка праекта А4 дасягнула кульмінацыйнага пункта. Чакалася передача ў вытворчасць, справа рабілася рэнтабельнай. Народ аплочваў цудадзейную зброю крывёю.

Юрген Бэр спрабаваў сканцэнтравацца на аналізе паліва — рабоце, якую ён павінен быў закончыць замест Водрубы. Бедалага, відаць, верыў у яе. Два тыдні назад ён з цяжкім сэрцам адправіўся на Усход. Засталіся гітара і «кайзершмарэнмашына». Пры развітанні высветлілася, што гэта папулярнае вандроўнае страшыдла належала яму. Ён велікадушна аддаў яго на карыстанне суполцы халасцякоў.

Да апошняга ён спадзяваўся, што Доктар даб'ецца, каб яму прадоўжылі броню. Але нічога не атрымалася.

Бэр з прыкрасцю сабраў паперы. Пратаколы былі няпоўныя. Відаць, Водруба быў не вельмі акуратны. Іншыя формулы цяжка было расшыфраваць.

Зазваніў тэлефон. На Бэрава здзіўленне, Водрубу патрабаваў сакратарыят Доктара. Бэр даў дзелавую даведку і выклікаў тым самым няёмкае маўчанне. Мусіць, Лімерка, якая нядаўна змяніла прозвішча на Райбеле, шэптам перадавала далей звестку пра адкамандзіраванне Водрубы на Усход, бо раптам у тэлефоне пачуўся рэзкі голас.

Трубку ўзяў Доктар. Ён быў абураны. Ад аналізу Водрубы залежала, ці дапаможа новая прапорцыя паліўнай сумесі знізіць фактар ненадзейнасці пры запуску А4. Выпрабаванні паліва трэба было закончыць да наступнага запуску, якога чакалі неўзабаве.

Голас Доктара, у якім было нешта цягучае, як цеста, стаў тонкі і рэзкі.

— Які там дурань выхапіў Водрубу пасярод работы? Гэта ж безадказна!

— Мне здаецца, што вы ведалі пра гэта, Доктар, — пачуўся спакойны, крыху здзіўлены адказ Бэра.

— Ні слова.

— А! Тады Водруба, відаць, напіўся перад Новым годам і ўявіў сабе, што...

У кабінеце дырэкцыі нехта ўдарыў сябе па лобе. Удар перарваў словы Бэра.

— Слухайце! Бэр! Правільна! Недзе між лёдам і снегам ён расказваў мне. Чорт цябе забяры! Лімерка, пішыце... — Яшчэ трымаючы трубку каля вуха, не вельмі зважаючы на новае прозвішча

сваёй сакратаркі. Ён пачаў даваць ёй распараджэнні. Потым ён зноў крыкнуў у трубку:

— Колькі вам спатрэбіцца часу, каб закончыць аналіз?

Бэр памарудзіў з адказам.

— Мне спачатку трэба як след вывучыць вынікі выпрабаванняў. Пратаколы няпоўныя.

— Водрубу трэба вярнуць. Як называецца яго каманда?

— Штандорткаманда Вестфаленгоф.

— Дзе гэта?

— Недалёка ад вайсковага палігона Грос-Борн.

— А, яны хочуць, відаць, яго спачатку крыху памуштраваць! Паслязаўтра ён будзе зноў тут — не дапаможа ні кайзер і ні бог.

Паклаўшы трубку, Юрген Бэр ціха прысвіснуў.

Цяпер у ход пойдуць тэлеграмы, каб узнавіць броню Салдату Водрубу. Будуць праведзены тэрміновыя перагаворы з Грос-Борнам. Кіраўніцтва выпрабавальнай установы выкарыстае ўвесь свой аўтарытэт, бо Доктар цяпер не супакоіцца.

Бура, якую падняў Доктар, праз два дні пранесла Юргена Бэра праз нізкае покрыва воблакаў і высадзіла яго зноў на зямлю на палявым аэрадроме далёка за рускай граніцай.

«Ю-52», прызямліўшыся, прыцягнуў да сябе ўвагу. Марцін Уліг выйшаў з кабіны.

«Гэтыя, мусіць, думаюць, што мы прывезлі поўную машыну харчу ці падмацаванне ў жывой сіле... або нешта такое!» Уліг быў усё яшчэ злосны, што яго паслалі на вялікім марудлівым «юнкерсе». Але тут сам Доктар не мог нічога змяніць, бо выпрабавальныя палёты былі важнейшыя за паскораны зварот Водрубы. З палігона Грос-Борн Водрубу ўжо даўно адправілі далей на ўсход. На перасыльных пунктах Германіі, відаць, не зацягвалі з падрыхтоўкай новых сіл для фронту. Часці на акупіраванай тэрыторыі, пакуль быў зацішак, таксама нечым трэба было займаць. Доктар патраціў амаль два Дні, каб узнавіць броню Водрубу і даведацца пра месца знаходжання часці, да якой ён быў прыпісаны. У спешцы ўдалося выпісаць толькі копію распараджэння аб звальненні; арыгінал быў высланы з генеральнага камандавання непасрэдна на часць.

— Але без Водрубы не вяртайцеся, — сказаў Доктар на развітанне і палічыў за неабходнае прыдаць Улігу Бэра для падмацавання.

— Вы ж ведаеце, што пастаўлена на карту, — Сказаў ён Бэру з перасцярогай. — Калі спатрэбіцца, проста абыдзіце таго-сяго з афіцэраў, калі яны пачнуць упірацца, што няма дакументаў.

Лёгка сказаць. Хто сам захапіўся, лёгка пераконвае іншых.

Доктар не здагадваўся, як няўдала ён выбраў Бэра.

Наземны персанал аэрадрома вельмі хутка расслабіўся, калі ўбачыў, што з машыны выйшлі два цывільныя.

— Што вы нам прывязлі? — спытаўся яфрэйтар.

— Нічога, нам трэба забраць тое-сёе, — адказаў

Уліг і паслаў Бэру косы позірк, гаворачы: «Вось табе і на».

Начальнік аэрадрома быў малады чалавек, які злаваўся, што цывільным трэба даваць машыну. Часць, якую яны шукалі, знаходзілася ў далёкай вёсцы.

— Каб вы хоць бензіну прывезлі, — гугніў ён, — тут на перадавой з палівам у нас туга. — Ён падкрэсліў «на перадавой» і з непрыхаваным неадабрэннем глянуў на цывільныя паліто гасцей. Здавалася, яго асабліва злавала шэрае, як у лётчыкаў, скуранае паліто Уліга. Ён вольна адлёгся ў крэсле, каб быў лепш бачны яго Жалезны крыж I класа.

Загрымеў палявы тэлефон на пісьмовым стале. Высакамерны капітан за некалькі секунд скіс. Ёе павольна ўстаў з крэсла, слухаючы паведамленне, якое, відаць, яго вельмі ўзрушыла. Яго вольная рука нервова тыцкалася па стале. Здавалася, што ён пачынае збіраць пісьмовыя прылады, як перад паспешлівымі ўцёкамі. Потым ён утаймаваў неспакойную руку. Кладучы трубку. Ён беглым позіркам акінуў абодвух наведнікаў, гледзячы на іх амаль з нянавісцю, і выклікаў ад'ютанта. Ён узяў фуражку і на хаду аддаў ад'ютанту кароткі загад. Потым знік, моўчкі казырнуўшы.

Крыху пазней Уліг і Бэр сядзелі ў маленькім аўтамабілі з брызентавым верхам, куды холад пранікаў праз усе шчыліны. На дарогах быў галалёд. Маленькі, пераабсталяваны пад ваенныя патрэбы «фольксваген», на які добранадзейны нямецкі бюргер ахвяраваў апошнія грошы, прабіраўся па замерзлай каляіне рускіх прасёлкаў.

— Вы бачылі начальнікаў твар? — ціха звярнуўся Уліг да Бэра. — Відаць. Ён атрымаў нярадасныя весткі.

Бэр кіўнуў. Ён паспрабаваў загаварыць з шафёрам. Дарога была доўгая, і сяржант, здавалася, не падзяляў антыпатыі свайго начальніка да цывільных.

— Па ўсім відаць, што набліжаецца крах, — сказаў ён. — Шмат тут не даведаешся. Мы абавязаны трымаць машыны ў парадку і быць заўсёды ў гатоўнасці. Мы мусім расхлёбваць кашу, заваранную наверсе. Магчыма, нас яшчэ кінуць пад Сталінград.

— Скора, відаць, будзе позна, — сказаў Бэр.

Яны ехалі па зруйнаваных вёсках. Шафёр даў газу і памчаў міма руін.

— Партызаны, — сказаў ён, выскачыўшы зноў на адкрытае месца. — Цяжка сабе нават уявіць, чым рызыкуюць рускія. Так шмат заложнікаў можа быць забіта.

Галава Уліга рэзка павярнулася. Ён паспрабаваў глянуць праз замёрзлае бакавое шкло.

— Якія заложнікі? — рэзка спытаўся ён. Прагучала так, нібы ён падлавіў сяржанта на нечым неверагодным.

Але той спакойна адказаў:

— Хто б ні трапіў у рукі: жанчыны, старыя. За аднаго немца забіваюць трох ці чатырох рускіх — у залежнасці ад абставін.

Уліг сціснуў вусны і глянуў на Бэра. Той сядзеў у кутку і не варухнуў ніводным мускулам. Яго твар навучыўся хаваць думкі.

За лесам яны звярнулі з дарогі. Адзінокі двор, нешта накшталт хутара, стаяў перад імі.

— У які ўзвод вам? — спытаўся сяржант.

Гэтага не ведалі ні Уліг, ні Бэр. На камандзіроўцы яны запісалі толькі нумар роты.

— Я так і думаў, — сказаў сяржант. — На хутары штаб роты. Тут вы можаце атрымаць даведку.

Фальварак, кучка будынкаў з цагляным комінам пасярэдзіне, які напалову разваліўся, на белай раўніне здаваўся кулаком з выстаўленым указальным пальцам. З разгону салдат заруляваў машыну ў прасторны двор.

— Тут даволі спакойна, — буркнуў ён здзіўлена і, каб упэўніцца, глянуў праз ветравое шкло.

Бэр і Уліг, узрадаваўшыся, што можна размяць ногі, выйшлі з машыны. Свежыя сляды машын перарэзалі яго ўдоўж і ўпоперак, але ні машыны, ні чалавечай душы не было відаць. Сяржант высунуўся з машыны.

— Зматаліся. Відаць, зусім нядаўна. — Ён паказаў на свежыя сляды. — Калі вы хочаце яшчэ крыху размяцца, то ідзіце за мной, міма цагельні. Тады мне не трэба будзе разварочвацца.

Ён даў газу і паехаў наўпрост, паміж цагельняй і хлявом. Хлопцы заспяшаліся за ім. Яны не забыліся напаміну пра партызан. Ніхто і не падумаў даць ім зброю на гэту экскурсію.

Марцін Уліг першы завярнуў за вугал цагельні. Ён разгублена спыніўся. Сігарэта, якую ён трымаў у руцэ, упала ў снег.

Пад сцяной цагельні ляжалі людзі, скарчанелыя на холадзе. Мёртвыя. Пяць рускіх: тры жанчыны, адзін стары і дзіця. Яны ляжалі побач, тварамі ў снег. Дзіця сагнула паднятыя ўверх рукі, нібы абдымаючы белую прастору. Мужчына, стары барадаты селянін, сядзеў

між імі, прамы, як свечка, галава адвалілася назад, вочы і рот былі шырока адкрыты. Сярод тых, што ляжалі. Ён, здавалася, узняўся, каб паскардзіцца небу на несправядлівасць. Пры расправе ён, відаць, адзін толькі абсунуўся па сцяне і, седзячы, застыў да холадзе.

Марцін Уліг сціснуў зубы. Яго магутная ніжняя сківіца захадзіла. Ён стаяў перад гэтай жахлівай выстаўкай трупаў і думаў: «Чатырох за аднаго!» А тут нават было пяць. Дзіця, відаць, не захацела расстацца з маці. Што там дзіця! Магчыма, нейкую гадзіну назад нямецкія аўтаматы былі накіраваны на пяцёх. След грузавіка, які, відаць, прывёз іх сюды, яшчэ быў зусім свежы. Калі б зямля не была такая прамёрзлая, яны б ужо ляжалі ў яме, дзе бралі жвір, і ён бы прайшоў бестурботна, нічога не здагадваючыся. Ён павярнуўся да Бэра. Той стаяў у яго за спіной з непранікальным позіркам. Уліга гэта раззлавала.

— Прэч адсюль, — сказаў ён і заспяшаўся па машынным следзе.

Зрабіўшы некалькі паспешлівых крокаў, калі забітых ужо не было відаць. Ён павярнуўся да Бэра. Той павольна ішоў за ім, як чалавек, што каля свежай магілы сябра ў маўклівым роздуме затрымаўся на хвіліну больш, чым астатняя жалобная працэсія. Уліг падумаў: «Ці гэтага чалавека нішто не кранае, ці ён ведаў пра ўсё».

— Ці не вар'яцтва гэта? — усхвалявана спытаўся ён.

Бэр нават не кіўнуў.

— Сляды нямецкай вышэйшай расы. Але гэта толькі маленькая часцінка ўсяго вялікага вар'яцтва.

Уліг быў занадта ўзрушаны, каб зразумець увесь сэнс слоў Бэра.

— Я звар'яцеў бы, калі б мне давялося ўдзельнічаць у гэтым, — сказаў ён і хутка пашыбаваў да машыны.

— А мы ж удзельнічаем, — сказаў Бэр.

Уліг нервова соўгаў туды-сюды ніжняй сківіцай.

— Ёсць, мусіць, розніца.

— Не вельмі вялікая. Неабавязкова забіць некага сваімі рукамі. На вайне ёсць тыя, хто загадвае, і хто выконвае загады — і ўсё. Тыя, што загадалі вось гэта, самі рук не забрудзілі. — Бэр нахіліўся да Уліга і прашаптаў: — А хто з часам возьме на сябе адказнасць за А4? Салдаты, што на пазіцыі пацягнуць за рычаг, ці мы?

Уліг справіўся з хваляваннем. Яны набліжаліся да машыны. Ён стрымана сказаў:

— Па сутнасці, мы ўсе выканаўцы загадаў. Аж да самага Доктара.

— Так, — горка сказаў Бэр. — Мы далёка зайшлі. Мы лёкаі з замашкамі графаў і звычкамі катавых памагатых.

Калі яны падышлі, сяржант корпаўся ў радыятары. Ён быў збян-

тэжаны і прасіў прабачэння, што паказаў панам выхад каля цагельні.

— Такое ўбачыць не вельмі прыемна, — сказаў ён. — Але рускія абыходзяцца з нашымі не лепш. Палонных яны не бяруць наогул. Так гаворыць наш начальнік. Кулю ў патыліцу — і гатова. — Ён націснуў на старцёр. Матор яшчэ не астыў і адразу завёўся.

— Гэтага ніхто не можа даказаць, — прамовіў Бэр са свайго кутка. Салдат адкінуў галаву назад.

— Нам лепш гэтых доказаў не мець. А калі ўжо каму будзе нявыкрутка, дык лепш самому кулю ў лоб.

— Напэўна, яшчэ задумаўся б.

— Столькі гонару, як у нашага начальніка, ёсць і ў мяне, хоць наш брат не так шмат гаворыць.

«Вось адкуль вецер, — падумаў Бэр. — Начальнік аэрадрома добра спраўляецца са сваёй справай — наганяць страху».

Бэр злавіў перасцерагальны позірк Уліга і вырашыў памаўчаць.

У наступнай вёсцы размяшчаўся штаб роты. Камандзіра роты не было, і іх прадставілі намесніку. Гэта быў вельмі нізкарослы лейтэнант у акулярах. Свае фізічныя недахопы ён кампенсаваў рэзкім тонам. Салдаты забягалі, ляскалі абцасамі і рабілі малайцаватыя павароты. У гэтым штабе панавала паспешлівасць, нервознасць.

Малы лейтэнант зрабіў выгляд, быццам гэтыя два наведнікі адарвалі яго ад вельмі важных спраў. Ён пазбягаў глядзець на Бэра, які стаяў перад ім, як бацька перад дзіцем.

Уліг паведаміў, што яны па даручэнні ўпраўлення па ўзбраенні павінны забраць назад чалавека, якому тэрмінова трэба прадоўжыць броню. На жаль, той-сёй запазніўся своечасова зрабіць неабходныя захады.

Хацелі назад забраць чалавека! Вось як! Для распрацоўкі самай высокай ступені тэрміновасці! Ну што ж, калі ёсць загад, гэта, відаць, мае сваё апраўданне. Што, урэшце, значыў адзін чалавек у роце на вайне? На аднаго менш на акопы або на догляд за машынамі. Трэба спадзявацца, што ён не акажацца менавіта аўтаслесарам. Без іх цяжка. Але не, гэты быў усяго толькі хімік, і яго звалі Водруба. Лейтэнант даведаўся яго прозвішча толькі тады, калі перад ім ляглі дакументы. Ён здзіўлена ўзняў позірк і ўпершыню як след паглядзеў на сваіх наведнікаў. Потым ён ускочыў.

— Тут я нічога не магу зрабіць, — сказаў ён. — Вам трэба пачакаць, пакуль прыедзе камандзір роты.

Уліг і Бэр, пакінутыя адны, здзіўлена паглядзелі адзін на аднаго. Бэр скрывіўся.

— Трапілі ў лапы. Даюць адчуць, што мы ў ваенных.

Затрымка раздражняла Уліга.

— Лейтэнант быў памяркоўны, пакуль не ўбачыў прозвішча Водрубы. Калі ён толькі даведаецца, што галоўнай паперы яшчэ няма, тады ўсё прапала.

Хутчэй, чым яны чакалі, з'явіўся камандзір роты. Бэр праз акно ўбачыў, як той ішоў у дом.

— Тэльгейм, — сказаў ён і пагайдаўся на пятках.

— Як гэта? — Уліг стаяў у глыбіні пакоя каля вялікай варыстай печы.

— Рука на перавязі і гонар у грудзях.

— Але, на жаль, тут не камедыя. Я песіміст.

Прайшоў яшчэ нейкі час, пакуль маленькі лейтэнант інфарміраваў камандзіра роты пра жаданне дзвюх цывільных асоб. Потым дзверы рэзка адчыніліся, і абодвух малайцавата запрасілі да старшага лейтэнанта.

«Вузкая галава, амаль зрослыя бровы, бязлітасны твар славалюбу», — вызначыў Бэр. Жалезны крыж II быў адзінай узнагародай. Параненая рука наўрад ці вынік бою.

Старшы лейтэнант быў аднаго росту з Уліґам. Ён глянуў на наведнікаў з дрэнна прыхаванай цікаўнасцю. Калі ён гаварыў, яго рот крыху крывіўся. Правы куток рота зрушваўся наверх. Гэта надавала твару саркастычны выраз. Не робячы ніякага афіцыйнага ўступу. Ён сказаў:

— Вы гаворыце — броня салдата Водрубы пацвярджаецца ўпраўленнем вайсковага ўзбраення? А дзе прадпісанне галоўнага камандавання? Я тут бачу толькі даведку аб тэрміновасці выпрабавальнай установы Востраў, а яна мне не ўказ.

— Тут ёсць таксама тэлеграма галоўнага камандавання, — сказаў Уліг.

— Тэлеграма без службовай пячаткі не мае сілы дакумента.

Уліг растлумачыў, што дакумент ужо высланы, а самалёт чакае на аэрадроме. Ні з таго ні з сяго выпрабавальная ўстанова не паслала б самалёта па аднаго чалавека.

Старшы лейтэнант шматзначна глянуў на свайго намесніка.

— Калі б мы так шчодра палілі свой бензін, нам прыйшлося б машыны штурхаць на фронт.

Маленькі лейтэнант згодна кіўнуў.

Уліг хацеў рэзка запярэчыць, але Бэр апярэдзіў яго. Ён нібы падтрымаў тон афіцэра.

— Вось гэтаму мы і хочам перашкодзіць. Недахоп паліва! Ад чаго ж гэта залежыць? Ад таго, што нашай хімічнай прамысловасці не

хапае спецыялістаў. Водруба выдатны хімік. Я працаваў разам з ім.

Старшы лейтэнант змераў высокага цывільнага пагардлівым позіркам. Тонам чалавека, які ведае больш, чым гаворыць. Ён адказаў:

— Выпрабавальная ўстанова Востраў — не гідравальны завод. Так што не вельмі старайцеся са сваімі тлумачэннямі.

Цяпер раззлаваўся Уліг.

— Вы, афіцэр, добра ведаеце, што мы не можам даваць больш падрабязную інфармацыю пра выпрабавальную ўстанову. Але адно ясна: Водруба займаецца там такой справай, якая больш важная для зыходу вайны, чым калі ён тут будзе мыць машыны і шараваць падлогу.

«Ці страляць заложнікаў», — хацелася дадаць Бэру.

Афіцэр узняўся над сваім пісьмовым сталом. Правы куток рота ад абурэння папоўз яшчэ вышэй. Ён не знаходзіў слоў.

— Дарагія паны, здаецца, вы не ведаеце, у якім сур'ёзным становішчы мы апынуліся цяпер, інакш бы вы не гаварылі так зняважліва пра службу простага салдата. Якія-небудзь дваццаць чатыры гадзіны назад тысячы нямецкіх салдат і афіцэраў трапілі ў рукі рускіх.

У памяшканні стала ціха. Уліг і Бэр паглядзелі адзін на аднаго. Яны абодва здагадаліся: Сталінград паў. 6-я армія здалася. Шырокія грудзі Бэра ўзняліся і апусціліся ад глыбокага ўздыху. Невядома было, ці гэта ўздых гора, ці палёгкі.

Голас старшага лейтэнанта парушыў цішыню.

— Цяпер вам зразумела, чаму я не магу ўступіць нават аднаго чалавека? — Ён зрабіў маленькаму лейтэнанту знак разабрацца з гэтымі дваімі. Для яго ўсё было вырашана. Ён прымусіў замоўкнуць пасланцаў важкасцю страшэннай звесткі.

Марцін Уліг не мог мірыцца з такім рашэннем. У хваляванні ён мераў пакой ад акна да печы. З Бэрам яны падзялілі яго лётчыцкі шакалад. Яны з'елі яго з хлебам. Нікому і ў галаву не прыйшло прапанаваць ім цёплай ежы.

— Як гэта ні дрэнна гучыць, — сказаў Уліг, — але справы такія: для старшага лейтэнанта страчаны Сталінград толькі адгаворка, каб затрымаць Водрубу. І ўсё гэта — дрэнь, акт чыстага самаўпраўства. Мы не павінны здавацца.

Яны хвілінку параіліся. Потым зноў з'явіліся ў прыёмнай ад'ютанта.

— Як надакучлівыя просьбіты, — ціха сказаў Бэр, — якіх гоняць, а яны лезуць зноў. — Ён пагардліва ўздыхнуў. — Чаго толькі не зробіш для Айчыны!

Старшы лейтэнант больш не жадаў гаварыць з імі. Яны дамаглі-

ся толькі таго, што іх прыняў маленькі лейтэнант. Ён сядзеў за сваім пісьмовым сталом. Дзякуючы непрапарцыянальна доўгай верхняй палавіне цела. Ён здаваўся веліканам. На тых, хто ўваходзіў. Ён амаль не звяртаў увагі і слухаў Уліга.

Марцін Уліг без натугі мог прыдаць свайму голасу рэзкі тон загаду, які нязменна ўздзейнічаў на вайскоўцаў, дзяўчат-падлеткаў і ўсялякіх лёкайскіх душ.

Лейтэнант сапраўды ўжо пасля першай фразы ўзняў галаву ад вайсковых прадпісанняў, якія ён гартаў.

— Па нашых пасведчаннях вы бачылі, што мы, хоць і ў цывільным, — таксама прадстаўнікі ваеннай установы. Мы, зразумела, абавязаны далажыць нашаму начальніку, як мы дзейнічалі ў справе Водрубы...

— Калі ласка, далажыце свайму оберштабсцальмайстру пра сумненні нашага камандзіра, — кпліва сказаў лейтэнант.

— Оберштабсцальмайстар? — Бэр коратка засмяяўся. — Канечне. Ён падпісаў дакумент выпрабавальнай установы.

— Як кіраўнік аддзела кадраў! — рэзка сказаў Уліг. — Мы абодва нясём адказнасць перад нашым непасрэдным начальнікам, генералмаёрам, гер лейтэнант. — Уліг зноў пачаў хутка гаварыць. Ён бачыў, што выбраў правільную тактыку, бо вайсковыя прадпісанні былі адкладзены ўбок. — Мы павінны зрабіць усё, каб да канца выканаць даручэнне. Злучыце нас, калі ласка, з больш высокім камандаваннем.

Лейтэнант паспрабаваў утрымаць сваю перавагу^

— Я не думаю, што батальён па вашай вуснай тэлефоннай інфармацыі прыме рашэнне. — Ён устаў і раптам зноў аказаўся вельмі маленькім.

— Калі на тое пойдзе, мы даляцім да штаба батальёна, — сказаў Бэр, не міргнуўшы вокам. Ён дакладна ведаў, што «юнкерс» найпазней заўтра раніцай павінен зноў быць у распараджэнні выпрабавальнай установы і што яны і так ужо спазніліся. Ён і ўяўлення не меў, на якой адлегласці размяшчаўся штаб батальёна.

Ён дамогся, чаго хацеў. Лейтэнант павярнуўся да дзвярэй.

— Я загадаю наладзіць сувязь.

Зноў Бэр і Уліг чакалі ў пустым памяшканні і лічылі крокі паміж акном і печчу.

— Нешта сувязь зацягваецца, — пакпіў Уліг, калі прайшлі першыя пятнаццаць хвілін. Ён штохвіліны заводзіў свой гадзіннік. Яшчэ праз пятнаццаць хвілін у дзверы пастукалі. Прыйшоў сяржант люфтвафэ, каб папярэдзіць, што яго час на зыходзе. Загад на паездку, які быў падпісаны начальнікам аэрадрома, быў абмежаваны ў часе.

Уліг унутрана застагнаў. Ён уявіў сабе, што сказаў бы шафёр, калі б давялося ехаць яшчэ пяцьдзесят ці больш кіламетраў да штаба батальёна. Бэр намагаўся прыдумаць фармулёўку, якая б не сапсавала шафёру настрою, адначасова пакінуўшы яго ў няведанні аб пачатку і мэце наступнай паездкі. Тут яго ўвагу захапілі падзеі на вуліцы.

— Хвілінку, — сказаў ён і падышоў бліжэй да акна. Ён убачыў нешта, што цяжка назваць незвычайным. Салдат у поўнай амуніцыі, з рэчмяшком, спяшаўся подбегам па шырокай вясковай вуліцы да штаба.

— Вось ён, — сказаў Бэр і коратка засмяяўся. — Гатовы да ад'езду.

Уліг з палёгкай прадыхнуў. Ён радасна паляпаў сяржанта па плячы.

— На каня, дарагі. Мы гатовыя!

Франц Водруба якраз дабег да дома, калі Уліг выйшаў з дзвярэй. Салдат спыніў свой паспешлівы марш і строга па-вайсковаму павітаў яго. Калі ж ён потым заўважыў Бэра, які, выходзячы, быў вымушаны прыгнуцца ў дзвярах, яго твар прасвятлеў. І ўсё ж ён стаяў моўчкі, на пачцівай адлегласці. Двух тыдняў вайсковай службы хапіла, каб паказаць гэтаму бестурботнаму венцу, якая бездань раздзяляе салдата і нармальнага чалавека.

— Прашу ў машыну, гер Водруба, — запрасіў Уліг.

— Прашу прабачыць, хвілінку яшчэ, мне трэба атрымаць у канцылярыі свае паперы. — Водруба паспешліва праціскаўся са сваім багатым багажом праз вузкія дзверы.

А потым яны паехалі. Ніхто з іх трох больш не бачыў камандзіра роты. У апошні момант, калі нага сяржанта люфтвафэ ўжо націскала на газ, у дзвярах з'явіўся маленькі лейтэнант. Па яго жэстах можна было здагадацца: ён вельмі шкадуе, што спазніўся. Абы-як казырнуўшы. Ён развітаўся.

Водруба дакладваў: старшы лейтэнант Ведэльштэт — гэта камандзір роты з рукой на перавязі, што, між іншым, не ад кулявой раны, а вынік узорна выкананых аперацый па ачыстцы некалькіх вёсак, за што ён і атрымаў Жалезны крыж — значыць, гэты Ведэльштэт, як толькі даведаўся, што Водруба працаваў у выпрабавальнай установе Востраў, адразу ж неміласэрна ўз'еўся на яго. Ён далучыў яго да самых грубых салдафонаў і адразу прыпісаў у выканаўчую каманду. Гэта было жахліва.

Ведэльштэт! Юрген Бэр прыслухаўся. Прозвішча ён ужо чуў ад Эвы. Цяпер ён ужо не памятаў, у якой сувязі. Ён вырашыў расказаць

ёй пры сустрэчы.

Водруба сядзеў перад ім. Па-вайсковаму пастрыжаны. Ён здаваўся незнаёмым... «Наш трафей! — падумаў ён. — Я дапамог на аднаго чалавека аслабіць фронт. А цяпер я вязу яго на другі ўчастак, дзе ён прынясе ў дзесяць разоў больш карысці вайне. Я ў сярэдзіне цэнтрабежнага механізма. Тыя, што выжылі пад Сталінградам, адваяваліся. Трэба спадзявацца, з усімі вынікамі. А Хайно не дажыў да гэтага...» Калі Бэр бесклапотна жартаваў з Траўдэ Хёрзельман, едучы ў поездзе на каляды, сябра павесілі. Нават кулі пашкадавалі!

Ён цясней захутаўся ў паліто, і яму прыпомнілася, як ён нядаўна сказаў Хане Пэплаў: «Калі не будзе Водрубы, у мяне будзе адносная свабода дзеянняў. Я падкіну ім загадак у іх паліўную сумесь». І вось ён вязе яго назад.

— Капітуляцыя нашых герояў пад Сталінградам — гэта паклёп. Яны загінулі са славай. Інакш і быць не можа.

Гэтыя словы прамовіла 3 лютага Розэмары Клемт. У яе былі госці. За чайным сталом стыльнага пакоя сядзелі Траўдэ Хёрзельман, Крыст Кельнер і дзявочая оберфюрэрка, кіраўніца інтэрната «Карале». Розэмары была разборлівая, калі яна — два разы ў год — запрашала гасцей на чай. На гэты раз вестка пра няшчасце, якую яна пачула з дзённых паведамленняў, сапсавала ёй дзень. Але яна падумала, што нядрэнна адразу займець слухачоў для сваіх здагадак і меркаванняў. Крыста Кельнер, свежаспечаная падпалкоўнічыха, моўчкі падтаквала ўсяму, што б яна ні гаварыла. Гэта фраў Клемт ведала. Дзявочая фюрэрка, якая ў курсе палітычных падзей ад неабходнасці рабіць самой агляд газет ці патрабаваць яго ад дзяўчат, здавалася ёй добрым дадаткам. Расчараванне прынесла сёння Траўдэ Хёрзельман. Мала таго што яна заручылася з лётчыкам-выпрабавальнікам, «адзіночкам», яна, здавалася, страціла і перакананасць. Кіруючыся фактам, што яе брат сядзеў у акопах пад Харкавам, яна стала разважаць, а што б было, каб брат быў не пад Харкавам, а пад Сталінградам?

— Гібель, са славай ці без славы, азначае смерць, — сказала яна, — гэта значыць, канец без ніякіх надзей. Мой брат вельмі хоча жыць. У яго сям'я, трое дзяцей. Я б з удзячнасцю прыняла хоць маленькую іскарку надзеі. Праз капітуляцыю ці як інакш — мне ўсё роўна.

Розэмары Клемт з пагардай адказала:

— Лепш страціць чалавека са славай, чым бачыць яго бясслаўнае вяртанне.

— І ў мяне такая самая думка, — сказала Кельнерка і падліла сабе ў чай каньяку. Яна прынесла яго з сабой як гасцінец. Каньяк быў са склепа казіно.

Відаць было, што Траўдэ Хёрзельман непакоілі сумненні. З каляд яна не толькі цешылася шчасцем, што яна нявеста Парызіуса, — яна падзяляла і яго клопаты. А ў яго, чалавека са здаровым чалавечым розумам, іх было нямала. Траўдэ пакруціла галавой.

— Гэта была авантура — так далёка заходзіць у глыбіню Расіі. Напалеон ужо скруціў сабе там карак. Я не ведаю, ці такая ўжо вялікая слава — памерці за памылку.

Дзявочая фюрэрка абцягнула сваю бурачнага колеру спадніцу і са здзіўленнем глянула на фраў Клемт. Чаму гаспадыня не пратэстуе? Гэта ж быў адкрыты выклік! Розэмары заўважыла позірк і кпліва ўсміхнулася. Яна ведала, як праходзілі агляды газет і абмеркаванні палітычнага становішча. Дзявочая фюрэрка прывыкла да паслухмяных пераказаў сваімі дзяўчатамі газет і радыёпаведамленняў. Ёй здавалася, што іншых думак і быць не можа ў галовах дзяўчат.

Але ўсё было не так проста. Доктар Клемт жыў сярод складаных людзей. Розэмары варта толькі было прыпомніць Ціфенбаха і Бэра. З пачаткам вайны шмат хто перастаў верыць у Гітлера. Былі сумненні, шматлікія «калі» і «але». Розэмары Клемт ведала пра гэта. Яна пагарджала малаверамі, але лічылася з імі. Яна зусім спакойна сказала Траўдэ Хёрзельман:

— Калі ты лічыш памылкай тактыку масіраваных наступленняў на Усходнім фронце, тады ты адмаўляеш нашаму фюрэру ў здольнасці быць вярхоўным палкаводцам.

Траўдэ спужалася. Як толькі з'яўлялася слова «фюрэр», маглі быць непрыемнасці. Ёй прыпомнілася справа з партрэтам Гітлера ў доме Зэештэрн. Яна пачала адступаць.

— Я нічога не разумею ў стратэгіі. Я толькі падумала, што шмат тысяч людзей зрабіліся ахвярамі, а прычыны не разумею. Мы ж ніколі не зможам утрымаць гэтыя ўсходнія тэрыторыі.

— Вы, відаць, малавата займаліся нацыянал-сацыялісцкай ідэалогіяй? — з насмешкай спыталася фюрэрка.

— Так, я вывучала матэматыку.

— Вось чаму, відаць, вам і не адкрыўся яшчэ глыбокі сэнс гэтай вайны. Менавіта мы павінны абараніць імперыю белых народаў ад рэвалюцыі каляровых.

Траўдэ здзівіла павучанне фюрэркі. Што гэта магло азначаць? Ні ў Сталінградзе, ні ў Варшаве не было каляровага насельніцтва. Але недзе нешта падобнае яна ўжо чула. З цяжкасцю яна прыпомніла размову паміж д-рам Клемтам і Брэтшнайдэрам. Брэтшнайдэр гаварыў тады пра «азіяцкую пагрозу». Да азіяцкіх народаў ён далучаў і Расію. У «жоўтай небяспецы» ролю адыгрывалі акрамя таго вялізны Кітай і

Японія, хоць яна і была саюзніцай рэйха. Але Гітлер трымаўся сваіх дагавораў толькі да таго часу, пакуль яны былі карысныя яму. Танны экспарт з каляровых краін, да якіх трэба было далучыць і Паўднёвую Афрыку, быў галоўнай прычынай «азіяцкай пагрозы». Нешта падобнае, пэўна, мела на ўвазе і дзявочая фюрэрка, хоць, калі б у яе спыталіся, яна пачала б гаварыць прыгожыя словы пра расу і перавагі нардычнай крыві. Але такое Траўдэ ўжо разумела і бачыла ідэалістычнае покрыва. Пасля паражэння пад Сталінградам трэба было крыху лепш працерці вочы. Тады з'яўлялася жорсткае ўсведамленне, што вялізная бойня вялася за сусветныя рынкі; Яна была дачка буйнога дзялка. Яна ведала, што такое «рынкі»: збыт! Збыт і велізарныя прыбыткі. Валоданне і магчымасць збыту нафты, пшаніцы, хімічных рэчываў, руды, вугалю. Вось за што паміралі яны ў Сталінградзе, пад Масквой і на Доне! Яна загадзя ведала, што адказалі б на гэта фюрэрка і Розэмары Клемт: «Наша краіна занадта малая. Мы народ без прасторы. Версальскі дыктат адабраў у нас жыццёвыя крыніцы». Але ж усё гэта была няпраўда! Яе бацька вырабляў машыны. Ён быў добры гаспадар і без маніі велічы. Ён аднойчы сказаў, што Германія з даўніх часоў мае магчымасць пакрываць увоз жыццёва важных тавараў вывазам якасных гатовых вырабаў. Навошта тады вайна? Гульня ў косці за валоданне светам? Крывавая гульня! Сэрца ў яе забілася мацней, бо ў яе было каго страціць.

Яна вельмі любіла Вільфрыда Парызіуса.

Зусім здалёку яна пачула голас Розэмары Клемт:

— Сталінградская бітва — толькі маленькі эпізод на нашым вялікім шляху. Яна дасць свой плён. Напэўна! Нашы адважныя ўзброеныя сілы будуць дзейнічаць яшчэ больш рашуча, яшчэ цясней згуртуюцца вакол фюрэра. — Хоць Розэмары панізіла голас, амаль настолькі, што здавалася, быццам яна выдае тайну, наступныя словы Траўдэ пачула да жахлівасці выразна:— І на Востраве людзі возьмуць сябе ў рукі. Германія — як непахісны Зігфрыд. Сталінград — гэта было слабое месца, непрыкрытае плячо. Але дайце толькі закончыць А4. Ён зробіць нас непераможнымі. — Розэмары са злараднасцю заўважыла перасцерагальны позірк Траўдэ. — Мы ж сярод сваіх, — сказала яна проста.

Яна знарок вырашыла ашаламіць гасцей. Няхай усе ўбачаць, што яна не проста недасведчаная жонка. Невядомае яна дадумвала. Яна не заўважыла, што якраз гэтае дадумванне выклікала абурэнне Траўдэ.

Прыйшлі дзеці Клемтаў, каб сказаць дабранач. У сямігадовай Вініфрэд былі разумныя жывыя бацькавы вочы. Чатырохгадовы Норберт быў холадна стрыманы, як маці, і ўжо амаль пазбавіўся рыс ма-

лога дзіцяці. Траўдэ праводзіла служанку ў дзіцячы пакой. Просьба Вініфрэд, каб яна ўлажыла яе ў пасцель, была Траўдэ найлепшай прычынай перарваць непрыемную размову.

На лесвіцы, калі маці ўжо не магла ўбачыць, Вініфрэд папрасілася на гершкі. Норберт стаяў, чакаючы. Ён не дазволіў шаснаццацігадовай служанцы нават дакрануцца да сябе. Дзяўчына з Саксоніі адчувала сябе ў доме вельмі няўпэўнена. Мыючы Норберту твар у ванне, яна ўзяла не тую мачалку. Малы вырваў яе ў дзяўчыны з рук і шпурнуў у выкладзеную кафлямі сцяну. «Гэта ж для нізу! Калом табе не ўбіць!» — крычаў ён.

Дарослае выслоўе гучала з вуснаў дзіцяці смешна. Траўдэ міжволі засмяялася. А дзяўчына закусіла губы і пачырванела.

— Ты пойдзеш летам зноў з намі на пляж? — спыталася Вініфрэд, калі Траўдэ ўкладвала яе.

— А табе хацелася б?

— Хацелася б. Але мама кажа, што ў цябе цяпер няма на нас часу, бо ў цябе жаніх.

Траўдэ дала ёй пстрычку па носе і паабяцала хадзіць з ёю на пляж у тыя дні, калі ў жаніха будуць палёты.

«Каб у мяне былі дзеці!» — падумала Траўдэ, павольна спускаючыся па лесвіцы. Але ёй не давялося дадумаць сваю думку да канца, бо прыйшоў падпалкоўнік Кельнер і прывёў з сабой оберцальмайстра Ханке.

Прыход Ханке зрабіў у кампаніі за чаем невялічкую рэвалюцыю. Дзявочая фюрэрка з усёй відавочнасцю мела права лічыць, што ён прыйшоў дзеля яе, але ні Розэмары Клемт, ні Крыста Кельнер не былі схільныя аддаваць ёй прыгожага мужчыну. Ён сядзеў між імі ў крэсле, якое да гэтага займала Траўдэ.

Падпалкоўнік яшчэ стаяў у кабінеце Клемта і не выклікаў цікавасці.

— Шаноўныя дамы! — Ханке гаварыў сур'ёзна, адпаведна сітуацыі; тым не менш, па ім было відаць, што прыём яму падабаўся. — Сённяшнія абставіны паставяць перад намі яшчэ большыя задачы. Справы... а ў першую чаргу — паводзіны. «Вернасць — адзнака гонару», так мы павінны жыць і па гэтым прынцыпе ацэньваць сваіх супрацоўнікаў. Я ўпэўнены, што планы вялікага контрудару ўжо даўно падрыхтаваны ў штабе фюрэра. Ну, а што мы можам зрабіць, што? — Ён зірнуў на тры бакі, каб задаволіць усіх сваіх слухачак. Траўдэ сядзела на заднім плане ля піяніна і не была ўдастоена позірку. А вось фюрэрка трапіла яму на вока. Яна жыва запэўніла:

— За сваіх дзяўчат даю галаву на адсячэнне... за асобнымі

выключэннямі.

— Ад выключэнняў трэба пазбаўляцца. Востраў — не месца для ненадзейных элементаў, — сказаў оберцальмайстар, як быццам у яго ў кішэні ўжо ляжаў загад на правядзенне чысткі.

— Праўду кажучы, ёсць толькі адна, за каго я не магу паручыцца, — паспяшалася дадаць фюрэрка. — Яна ўжо не жыве ў інтэрнаце.

Розэмары Клемт высока ўзняла бровы. Нечакана ў пакоі загучалі высокія ноты. Траўдэ Хёрзельман дакранулася да клавішаў піяніна. Яна папрасіла прабачэння і сама здзівілася, як гэта атрымалася.

Клемт з падпалкоўнікам выйшлі з суседняга пакоя.

Іх прывабілі нечаканыя гукі. Размова прыняла Іншы кірунак. Траўдэ з палёгкай уздыхнула.

Пакой Ганса Ціфенбаха быў без ніякіх украс, як прытулак на ноч падарожніка, які толькі зняў сваю паклажу і не хоча нічога абсталёўваць надаўжэй. На стале не было абруса, на сценах не віселі карціны. Падсвечнік, выкаваны нейкім кавалём, з тоўстай свечкай і абажурам з жоўтага пергаменту — вось што прыдавала гэтаму вайсковаму жытлу — ды яшчэ стосы кніг на пісьмовым стале — нейкую адметную рысу. Падсвечнік стаяў там усяго некалькі гадзін. Калі гаварыць шчыра, святло прыйшло ў гэты пакой разам з Эвай Леангард. Так з усмешкай сказаў Ганс Ціфенбах, калі яна паставіла яму на стол падсвечнік — падарунак на дзень яго нараджэння, які быў так азмрочаны ў 1943 годзе.

Яны сядзелі ўтраіх пры свечцы: Эва, Ганс Ціфенбах і яго настаўнік, прафесар Генрых Лёйпальд. У яго гонар Ціфенбах папрасіў Эву пабыць на гэты дзень гаспадыняй.

Яна раней не была ў яго. Яе цікавіў прафесар Лёйпальд, які заўсёды нядоўга гастраляваў на Востраве і пра якога яна ведала, што ён іграў значную ролю ў жыцці Ганса Ціфенбаха. Цяпер гэты дзень быў азмрочаны вялікім ценем, і гэты цень вызначаў думкі і размовы. Ганс Ціфенбах аднойчы сказаў ёй, што ён давярае Лёйпальду, як роднаму бацьку. Яна з радасцю адчувала, што таксама ўвайшла ў кола давераных. У іх выказваннях не было асцярогі і стрыманасці. Гаварылі пра тое, што хвалявала. Маленькі пакой стаў ціхім прыстанішчам тром сябрам.

Ганс Ціфенбах гаварыў запаволена, і ў яго голасе гучалі злосць і горыч.

— Найгоршае ў нацыянал-сацыялізме — страшэнная фанабэрыя, якая і прывяла да Сталінграда. Гэта ж вар'яцтва — залезці так далёка. У Гітлера няма ні меры, ні мэты.

Лёйпальд даў Гансу Ціфенбаху спакойна выгаварыцца. Потым

ён пачакаў, пакуль Эва зноў нальe яму шклянку віна. Ён падзякаваў ёй ветлівым кіўком галавы, адпіў са шклянкі і пачаў гаварыць, сплёўшы рукі на калене:

— Тое, што вы называеце фанабэрыяй — вы маеце на ўвазе прэтэнзіі на кіруючую ролю нацыстаў — гэта не што іншае, як апошнія сутаргі перад сконам.

Эве яго словы былі нечаканасцю. Яна імпульсіўна спыталася:

— Перад чыім сконам? Трэцяга рэйха? Ён жа яшчэ зусім малады.

— Я маю на ўвазе наш свет. Буржуазную эру ці называйце, як хочаце. Гісторыкі ў будучым знойдуць назву. Сёння я яшчэ не ведаю. Знаю толькі, што эканамічны крызіс парадзіў Гітлера і падрыхтаваў душы для месіі. Тапельцу і саломінка здаецца бервяном. Нават дэмакратычна настроеныя колы гэты чалавек схіліў на свой бок. Яны зміры́ліся з пагромамі і прынцыпамі фюрэра, бо ён прапаведуе антыбальшавізм. Прадпрымальнікі баяліся камуністычнага ўплыву, як халеры, і калі яны заўважылі, што гэты ўплыў усё мацнее сярод рабочых, яны сказалі сабе: «Тут можа дапамагчы толькі бізун», — і фінансавалі Гітлера.

— Значыць, у Гітлеры вы не бачыце выключны феномен? — з лёгкім сумненнем спытаўся Ганс Ціфенбах.

— Не. Для мяне ён — увасабленне падзення нашага грамадства. Падзенне было непазбежнае. Форму нашага адступлення вызначае яно, гэта правільна. А яна даволі жахлівая.

— Значыць, фюрэр — гэта правадыр, якога вядуць! З таго, што вы сказалі, можна зразумець: вы наогул не верыце, што асобы робяць гісторыю.

— Асобная істота, індывідуум, вылучаецца з масы, калі прыходзіць яе час. Гэта — заканамернасць. Русо і Вальтэр духоўна падрыхтавалі Французскую рэвалюцыю. Але не выпадкова. Буржуазная рэвалюцыя ўжо лунала ў паветры. Ідэі спелі паступова, і, выйшаўшы з народа, яны зноў вярнуліся назад і сталі запальным рэчывам. Становішча большасці вызначае ход гісторыі.

З усё большым хваляваннем Эва слухала размову мужчын. Тут быў адказ на мноства пытанняў. Ганс Ціфенбах глыбока задумаўся, а яна звярнулася да прафесара:

— Нядаўна я пачула нешта, што мяне вельмі зацікавіла. Адзін чалавек сказаў, што паэты і мысліцелі не могуць уплываць на сусветную гісторыю. Уплыў робяць толькі палітыкі і палкаводцы. Калі б не было Напалеона — так сцвярджаў той чалавек, — сусветная гісторыя прыняла б іншы кірунак. Але калі б не было Гётэ гэта для

гісторыі было б усё роўна.

— Чаму вас гэта так зацікавіла, фройляйн Эва?

— Таму, што я не згадзілася з такой думкай, але не ведала, як запярэчыць. Цяпер бы я ўжо ведала, што адказаць.

— У таго чалавека, відаць, вельмі павярхоўныя ўяўленні. Да сусветнага становішча належыць і духоўны клімат, а на яго Гётэ зрабіў у Еўропе вельмі вялікі ўплыў. Калі хочаце, я прывяду вам больш разумны прыклад. Што б значыў Калумб без вучэння пра шарападобную форму Зямлі? Анаксімандр і Піфагор, філосафы і матэматыкі пакінулі сляды, па якіх пайшоў практык Калумб.

Эва бачыла, што яе думкі пацвярджаюцца. Тым, што яна магла з асалодай пабыць крыху побач з Лёйпальдам, яна была абавязана, пэўна, у першую чаргу, свайму сябру — «вялікаму Бэру». Ён яе падрыхтаваў. Яна не сядзела моўчкі, як Кельнерка, стараючыся са страхам прыхаваць сваё няведанне. Яна зразумела, што веды павышаюць пачуццё адказнасці.

Ганса Ціфенбаха таксама глыбока закранула тлумачэнне гісторыі прафесарам. Ён усхвалявана хадзіў па пакоі.

— Жахлівае становішча! Мы ўжо амаль не рухаемся! Няўжо нам трэба спыніцца, таптацца на месцы і трапіць у лапы гестапа?

— Гэта кожны павінен вырашаць са сваім сумленнем. Пасля нарады фізікаў у Зээфельдзе я ведаю толькі адно: Гітлер не атрымае атамнай бомбы. Нямногія, хто здольны стварыць яе, разважліва займаюцца другараднымі справамі. З абрыўкаў фраз, з паўнамёкаў мы зразумелі адзін аднаго. Гітлер спалохаўся, што на распрацоўку атамнай зброі спатрэбіцца некалькі гадоў. Яму здаецца, што за такі час перамога будзе ў яго кішэні. У гэтым выпадку яго манія велічы вельмі адпавядае нашым жаданням. У мяне камень упаў з сэрца. Атамная бомба ў руках Гітлера зганьбіла б наш народ.

— А як жа А4? — з выклікам спытаўся Ганс Ціфенбах.

— А, гэта народжанае ў пакутах Доктарава дзіця!

Адна ластаўка не робіць вясны, а адзін удалы запуск не паспяховая серыя. Ён сабраў некалькі соцень вучоных і некалькі тысяч іншых людзей і вызваліў іх ад неабходнасці ісці на смерць.

Ганса Ціфенбаха адказ не задаволіў. Яму прыпомніўся радыёкаментатар.

— Адно тое, што А4 існуе, — ужо небяспека. У псіхалагічным сэнсе. Ёю карыстаецца прапагандысцкая машына. Спекулююць чалавечымі надзеямі. Людзей заклікаюць цярпліва чакаць, спадзявацца на цудадзейную зброю. Магчыма, і тыя, што трапілі ў акружэнне пад Сталінградам, да канца верылі ў прарыў, спадзяваліся на дапамогу

цудадзейнай зброі. Ці не аднолькава дрэнна — што ўдзельнічаць у гэтым падмане, што ствараць зброю? Шкодзіць ёй або спрыяць — што больш чалавечна? Пан прафесар, мы ў жудасным тупіку.

Прафесар здаваўся спакойным.

— Нам гэта стала вядома не толькі сёння, дарагі Ціфенбах.

— Вы маеце рацыю. — Ганс Ціфенбах перастаў нервова паходжваць. — Між іншым, я дрэнны гаспадар. Прабачце.

— Нам абодвум трэба прасіць прабачэння ў гэтай маладой дамы, што мы ўвесь час прагаварылі пра палітыку, — прыязна сказаў прафесар.

Ганс Ціфенбах спыніўся перад Эвай і схіліўся да яе.

— Не трэба, прафесар. Гэтая дзяўчына — чалавек! Яна ў гэтай навуцы разбіраецца лепш за мяне.

— Тады, відаць, яна разбіраецца ў многіх навуках, бо тое, што яна напякла, вельмі смачнае.

Агарак свечкі быў меркай часу вечара. Абодва мужчыны паклалі рукі на нізкую спінку канапы за галавой Эвы і сядзелі, павярнуўшыся да яе. Дзяўчына нібы звязвала іх. Слоў было няшмат, але яны гучалі важка. Эва таксама час ад часу ўстаўляла свае заўвагі.

— Той-сёй сядзіць каля радыё і падлічвае страчаны танаж і самалёты. Яны думаюць, што канец вайны — арыфметычная задачка.

Лёйпальд павярнуў галаву і ўзняў бровы.

— Гэта не так проста, хоць колькасць войскаў вялікіх дзяржаў і вядомая. Але ж работа ідзе. А там, дзе нястача, ахвяры прыносіць народ.

— Кажуць, што першая сусветная вайна каштавала трыццаць пяць працэнтаў сусветнага багацця, — сказаў Ганс Ціфенбах. — Калі лічыць толькі непасрэдныя страты. Падумаць толькі: трыццаць пяць працэнтаў багаццяў усяго свету!

— Гэта вайна абыдзецца яшчэ даражэй, шмат даражэй, — сказаў Лёйпальд. — Не ўлічваючы нават А4.

«Калі ж трэба будзе падводзіць вынікі, — падумала Эва, — гэтыя жудасныя вынікі, дзе людзі ператвараюцца ў лічбы, у лічбы страт, такія мнагазначныя, што, каб скласці іх, патрэбна вылічальная машына! Колькі чалавек было ў арміі? Колькі засталося ад яе, калі яна капітулявала? Альфрэд, самы малодшы мацерын брат, быў у Сталінградзе». Яна думала пра яго, ёй здавалася, што яна бачыла перад сабой карцінку чароўнага ліхтара. Яна дала новую назву карціны: Сталінград.

## СОНЦА І БУРА

У Эвы былі сінякі пад вачыма. Шмат начэй запар шум аэрадынамічнай трубы, слупкі лічбаў, дзесятковыя велічыні, пратаколы з бясконцымі нулямі перад маленькімі лічбамі ў канцы пасля коскі.

Цяжка было ўявіць сабе, што нешта залежала ад таго, тры ці чатыры паказвае манометр.

Яшчэ ніколі працэс вымярэння не праходзіў так строга. Доктар Клемт цяпер сам прысутнічаў да паўночы. Ён бегаў увесь час паміж сваім кабінетам і памяшканнем, дзе праводзіліся доследы. Яго праект «велікоднае яйцо» вісеў у вымяральнай камеры. Серабрыстая, з надзьмутым корпусам мадэль падвяргалася напору паветраных патокаў. Закругленая ў носе амаль паўшарам, яна прымушала закручвацца патокі, якія добра былі відаць.

Доктар Клемт пасля кожнай серыі вымярэнняў амаль выхопліваў з рук у вымяральшчыкаў лісткі пратаколаў. Потым паўгадзіны ён сядзеў у ціхім кабінеце і працаваў з вылічальнай машынай. Здавалася. Ён не ведаў зморы, хоць павінен быў хадзіць на працу і днём. Рашаўся лёс яго тварэння. Яму патрэбна было апошняе пацвярджэнне.

— Ён паказвае нам прыклад, як трэба аддавацца вайне, — з насмешкай сказаў кіраўнік доследаў Іміш, калі Клемт зноў знік з жмутом пратаколаў. — Днём ён паддасць жару Хёрзельман з яе штабам, каб хутчэй давалі аналіз. Яшчэ паўгода такой спешкі, і мы гатовыя — у дом вар'ятаў. Пайшло! — Ён націснуў на кнопку, заслонка адчынілася, паветра пад ціскам хлынула ў вымяральную камеру ў тры з паловай разы хутчэй за гук, пад дырыжорствам і кіраўніцтвам сапла, дзвюх магутных шчок, выгіны якіх вылічаліся складанымі матэматычнымі спосабамі.

— Я ўжо думаю крывымі і лічбамі, — сказала Эва ў канцы серыі доследаў, звяртаючыся да Траўдэ Хёрзельман.

Траўдэ засмяялася.

— Усё пройдзе. Матэматык павінен мець нейкі іншы занятак. Большасць маіх калег займаюцца музыкай. Я, на жаль, недастаткова музыкальная. Затое я крыху майструю. Калі я раблю казачнага героя ў дзіцячы пакой сваім пляменніцам, я забываю квадратуру круга і ўсю Эўклідаву геаметрыю. Паглядзі на круглую спіну пацукалова. Тут я думаю толькі пра казку, больш ні пра што... І ты дзейнічай таксама, малая, ідзі дадому і напішы верш.

Эва пачырванела. Пасля таго як яна ў размове з Матэзі нешта ўпамянула пра літаратурныя спробы, гэта стала вядома ў матэма-

тычным бюро. Нягледзячы на ўгаворы Матэзі, яна не адважвалася іх паказаць. Толькі перад Марліс аднойчы адкрыла сакрэт сваёй душы, вечарам, у цішыні іх пакоя. Яе пяром вадзілі сум, мары і няспраўджаныя надзеі. І перш за ўсё здзіўленне ад паступовага знаёмства з чалавекам, якога звалі Эва... Я існую! Я пачынаю адкрываць сябе. Час прыйшоў. Потым — будзе позна. Паход у Паўночную Афрыку прайграны. У Італіі браджэнне. Паветраныя налёты ўзмацняюцца. Я павінна ведаць, з кім я маю справу, перш чым мяне захопіць. Я вырываю з душы вершы і зноў хаваю іх у сабе. Я вучуся з куды большым стараннем, чым вучыла ў школе Шылераву «Заруку». Я не ведаю лепшага занятку для сябе ў гэты час, як паспрабаваць стаць чалавекам. Юрген Бэр кажа, што гэтага мала. Мне вельмі шкада, але на большае я не здольная. Тое, чаго ён дамагаецца, не па мне. Мне хочацца жыць, хочацца ўцалець — хочацца да канца стаць чалавекам. Гэта ж так цудоўна...

Часам бывае такое адчуванне, нібы мары спраўдзіліся.

Сёння я мару душою злавіла —
Яркую, нібы пагодлівы дзень...—

нараджаліся ў Эвы радкі. Яна яшчэ як след не выспалася. Раніцай у доме Зээштэрн шумелі прыбіральшчыцы. Яна загарала пад майскім сонцам у дзюнах, але заснуць там таксама не ўдалося. Пасля абеду ў суботу на пляжы рабілася так людна, што нават у самай далёкай пясчанай вымоіне нельга было зусім раздзецца.

Эва якраз у час прыйшла ў інтэрнат, каб пачуць ад Лабана, што званіў Ганс Ціфенбах. Значыць. Ён вярнуўся! Пасля шасці тыдняў камандзіроўкі ў Італію.

Калі ён пазваніў яшчэ раз, яна пастаралася, каб голас гучаў не вельмі ўзрушана, каб не выдаваў яе радасці. Ён прыехаў напярэдадні і на нядзелю заказаў лодку «Фарэль», якая належала доследнай установе. Ён нават не пытаўся, ці згодна яна; яму здавалася натуральным, што яна едзе з ім. Ёй хацелася б крыху паўпірацца, сказаць, што з некім ужо дамовілася на нядзелю, але нічога не атрымалася, яна толькі сказала: «Добра. Я вельмі рада».

Яна падумала пра Траўдэ Хёрзельман, з якой сама смяялася з год назад, калі тая не магла справіцца са сваёй радасцю. Спаць больш не хацелася. Яна зноў узялася за верш пра мару.

Хадзіўшы за ёю, я ногі адбіла, І вось яна, мара, — перада мной.

Мара — матылёк, сказала яна сабе. Калі да яе дакранешся, яна загіне. Яна адсунула ад сябе сшытак у цыратовай вокладцы. Вершы наводзілі на меланхолію. Яны пачыналі жыць самастойна.

Сочыцца попел праз вялыя пальцы, Мяшаецца з пылам і чорнай

зямлёй.

Яна загарнула сшытак. Схавала яго.

У нядзелю раніцай яны плылі пад ветразем. Ганс Ціфенбах з лодкі паказаў Эве месца, дзе яны восенню з Марцінам Улігам палявалі на качак. Яму ў памяці была яшчэ кожная дэталь, і ён засмяяўся. Тады, праз некалькі дзён пасля палявання, Кельнер спраўляў вяселле, а ў іх было «свята яблычнага пірага» ў доміку.

— Гэта і быў пачатак.

— Пачатак чаго? — спыталася Эва.

— Наш пачатак. З таго часу мы пачалі гаварыць адно аднаму «ты». Мне здаецца, без асаблівай афіцыйнасці.

Яна кіўнула.

— Ты піў з майго кубка. — Яна глядзела міма яго.

За ім стаяла сонца. Ён сядзеў на скрынцы, трымаючы за фок-шкот у руцэ. Яе цёмная галава паднялася на фоне белага ветразя. Яна задумліва прамовіла сама сабе:

Не пачынай увосень спраў —
Дарма, павер...

— Што ты маеш на ўвазе?

Вецер пранёс яе шэпт каля яго.
Дзе тая зелень росных траў?
Хто летні ўбор з лясоў забраў?
Гніюць цяпер.

— Ты складаеш вершы? — Віхор данёс да яго рыфму. Яна, гледзячы на яго, міргала на сонца. Раззлаваўшыся на нясціпласць свайго сэрца, якое так цяжка было ўтаймаваць, яна рэзка адказала:

— Не, я малюю. — Здавалася, яго постаць расплываецца ў сонечным марыве светлай майскай раніцы. Эва забаўлялася гэтай карцінай. Яна прыжмурвала вочы, пакідаючы толькі маленькую шчылінку. «Размытасць, — думала яна. — Я бачу паветра. Твае контуры расплываюцца. А цяпер я цябе збіраю зноў у адно. Я нанава малюю цябе. Я малюю цябе, якім бы хацела бачыць. А цяпер — такі, як ёсць. — Яна міргала, каб пазбавіцца мігатлівага вобраза ў вачах. — Вось, я нават не зманіла!»

Яна бачыла яго. Ён вёў лодку. Ён быў добра загарэлы. Каўнерык белай кашулі ляжаў на цёмна-чырвоным пуловеры з шырокім выразам. Здавалася. Ён вельмі спакойны. Позірк яго блукаў па нізкіх берагах ракі, якая тут была шырокая. Рака адкрывалася мору. Хвалі мацнелі і рыхтаваліся да вялікага з'яднання са сваімі дужэйшымі сёстрамі.

Ганс расказаў ёй, што на гэту нядзелю лодку хацеў заказаць

Ханке. Ён спазніўся на чвэрць гадзіны. Цальмайстар вельмі настойліва прасіў уступіць яму: яму так важна, менавіта ў гэту нядзелю!.. Ціфенбах прыпомніў кельнераўскае вяселле і абыякава адказаў: «Мне таксама вельмі важна менавіта ў гэту нядзелю. Тым больш што я шэсць тыдняў качаўся ў белым пыле, які мала чым адрозніваецца ад сахарскага». Раз'юшаны цальмайстар адступіўся.

— Мяне б не здзівіла, калі б ён падпілаваў галоўную мачту, — са смехам сказаў Ганс Ціфенбах Эве.

Ёй было цікава, з кім жа Ханке так хацелася абавязкова ў гэты дзень пакатацца пад ветразем. Траўдэ Хёрзельман расказала ёй пра чай у фраў Клемт. Няўжо з дзявочай фюрэркай? У той, вядома, не кожная нядзеля вольная. Наступную здагадку Эва прагнала так хутка, як яна з'явілася: фраў Клемт? Яна сёння засталася адна. Муж быў на аэрадынамічнай трубе, каб асабіста ўбачыць заканчэнне серыі вымярэнняў.

Калі Ганс Ціфенбах павярнуў руль, каб пад ветразем ісці ўздоўж узбярэжжа, падзьмуў мацерыковы вецер і моцна пагнаў лодку. Ціфенбах арыентаваўся па руінах былога маяка, што ўзвышаўся над вадой, як мёртвая каменная глыба. Эва спадзявалася, што Ганс праедзе міма. Больш як год назад яна была там з Марцінам Уліґам. Трэба было добра ўмець манеўраваць, каб падысці да яго. Яна тады была ў захапленні ад яго вытрымкі і з усяе сілы дапамагала яму хутчэй прайсці рыфы. Потым яны ўзлезлі на маяк. Вертыкальная пажарная лесвіца вяла на галерэю, адкуль адкрываўся шырокі далягляд, ёй тады здалося, што яна лезе ўверх па фабрычным коміне. Наверсе Марцін Уліг з усмешкай абняў яе. Ён хацеў праверыць яе мужнасць. Яна злавалася і старалася адбіцца ад вар'яцкай думкі, што вузел, якім лодка была прывязана да ніжняй прыступкі, развяжацца і пустую лодку хвалі панясуць у мора. А яны ўдваіх застануцца наверсе, за шмат кіламетраў ад сушы, на прадзіманай вятрамі галерэі каменнай глыбіні, дзе нават чайкі не гнездаваліся. У параўнанні з ёю негасцінны Востраў здаваўся раем. Яна развязала з валасоў стракатую атласную стужку, і валасы рассыпаліся, развяваліся над чыгунным парапетам. Вецер падхапіў стужку і панёс, то ўздымаючы, то апускаючы, у мора. Марцін Уліг стаяў безуважна.

— Гэта мая ахвяра, — сказала яна. — Давай сваю.

Але ён думаў пра іншае. Ён засмяяўся і кінуў спаленую запалку. Сёння вежа была з левага борта.

— Куды мы плывём? — спыталася Эва.

— Не пытайся ў мяне. Спытайся лепш у ветру.

Адказ узрадаваў Эву. Ён здаўся ёй паэтычным і няпэўным.

Больш не было каменнай глыбы, якую лізалі хвалі. Усе хвалі аб'ядналіся, каб гнаць наперад лодку. Эва думала: учора мне не было куды падзецца ад сваіх лічбаў і дыяграм, а сёння ўсё наадварот.

«Сёння я мару душою злавіла!.. Трэба трымаць сябе ў руках! Трымаць! Для гэтага лепш за ўсё заставацца дзелавой».

Яна далёка нахілілася за борт. Лодка наўскасяк рэзала хвалі. Здавалася, яна пераскоквае з хвалі на хвалю.

— Крыху «фірэн»! — крыкнула яна.

— Што значыць — фірэн? — спакойна спытаўся Ганс.

— Паслабіць шкот.

— Ага. — Ён паслухаўся яе парады. Лодка зноў пайшла спакайней, хоць не страціла хуткасці.

— Дзякую, кэп, — сказаў ён з ледзь прыкметнай пакорлівай усмешкай. — Ты бачыш, і ў плаванні пад ветразем мне не хапае трэцяга крыла.

Яна ведала, пра што ён гаварыў. Усюды, так яму здавалася, яму не хапала нечага да завершанасці, да дасканаласці. Лётны значок з двума крыламі яна аднойчы бачыла ў яго партманэ. Ён ніколі не прышпільваў яго. Ад прафесара Лёйпальда ёй было вядома, што яшчэ перад днём нараджэння Ганс атрымаў тытул доктара. Пра гэта ён нават не заікнуўся. Зрэдчас гаварыў толькі пра працу, якую ён пісаў разам з Лёйпальдам. Ён лічыў яе сваім пробным каменем. Вялікі экзамен на трэцяе крыло!

Лёгкі брыз гнаў іх наперад. Уся прастора належала толькі ім, і яны не азіраліся назад на вусце ракі і на Востраў. Ветразі былі напоўнены ветрам. Сонечны шар паволі ўзбіраўся ўверх па блакітным купале і хацеў грэць, але вецер, што гудзеў у вантах, кпіў з яго.

— Прысядзь у лодку, — сказаў Ганс. — Тут можна прымаць сонечныя ванны. — Ён палажыў да яе ног халат і куртку, запрашаючы сесці на скрутак.

Эва адарвалася ад борта. Заціснуўшы фок-шкот нагамі, яна зняла пуловер і блузку. У зацішку хапала аднаго купальніка.

Ён ведаў, як яна любіла сонца.

— Можаш здымаць усё, гэтыя палоскі таксама. — Ён дакрануўся да завязкі купальніка на спіне. — Тут цябе ніхто не ўбачыць.

— Ніхто? А ты?

— Толькі нагнуўшыся. Але ж мне нельга нахіляцца, я рулюю.

Яна засмяялася.

— Правільна. Рулюй і глядзі ўгору, каб край ветразя не аслаб.— Палоска ўпала, і яна спакойна абаперлася загарэлай спіной аб яго ногі. Яе галава ледзь уздымалася над яго каленямі. Яна адкінула яе

назад, зажмурылася і падставіла твар сонцу.

Ён са свайго высокага сядзення глядзеў уніз на яе. Яе цела мела амаль раўнамерны карычневы колер. Скура пад ліфчыкам была крыху больш матавая, чым плечы і рукі. Ён усміхнуўся.

Казалі, што каля Бансіна ёсць купальня, дзе можна купацца голым. Тое месца называлі «шведскім пляжам». Ён весела спытаўся:

— Ці не пераехаў летась шведскі пляж у ваколіцы дома Зэештэрн?

— Чаму? — спыталася яна, не паварочваючы галавы.

— Таму што ты такая ўся загарэлая.

Яна зірнула на яго збоку.

— А як гэта ты ўбачыў? Табе ж нельга нахіляцца паперад.

— Трэба было. Твая віна. Краі фока аслаблі.

— Трэба было сказаць мне.

— Не атрымалася. Я зноў забыў тое слова.

— Фірэн?

— Вось, правільна.

Яна весела засмяялася.

— Грубы падман. Калі нешта аслабляецца, трэба падцягнуць.

Ён таксама засмяяўся.

— Я буду браць у цябе ўрокі. Ці дазволена добраму рулявому браць у адну руку руль і вялікі шкот?

— Думаецца, не. — Яна зноў заплюшчыла вочы

— Шкада, — сказаў ён. — Мне трэба было вызваліць адну руку.

— Што б ты ёю зрабіў?

— Я б паклаў яе на тваё плячо.

— Чаму якраз на плячо?

— Яно такое круглае і такое загарэлае.

Эва адхіліла галаву ўбок і падняла левае плячо да шчакі, нібы хацела ўпэўніцца, што ён кажа праўду. Яго левая рука прасунулася паміж шчакой і плячом. Дужыя, жылістыя пальцы ўладна абхапілі сустаў з матава-карычневай скурай.

Эва здзівілася.

— Як у цябе аказалася свабодная рука?

— Я замацаваў шкот.

— Геніяльна.

— Геніяльна будзе толькі тады, калі мы не саб'ёмся з курсу.

— Можна спадзявацца?

— Калі не наваліцца шквал.

— Ты павінен у час папярэдзіць мяне, калі пакажацца Руген, каб я паспела адзецца.

— Яшчэ ёсць час. Каля гадзіны. Уладкоўвайся ямчэй.

Яна заёрзала на куртцы, неспакойна мацала яе.

— Тут нешта колецца. Што ў цябе ў кішэні цвёрдае?

Ён разгубіўся... і пачаў смяяцца.

— А чорт! Дай сюды.

Пакуль ён лазіў у кішэнь, яна займалася фокам і ветразем. Вецер халадзіў ёй плечы і грудзі. Перад імі з'явілася роўная стужка зямлі. Вялікі востраў Руген выстаўляў насустрач ім самы дальні выступ свайго багатага бухтамі ўзбярэжжа.

У ветру, што гудзеў у вантах, з'явіўся сапернік. Новыя гукі плылі з кармы. Няўжо Ганс Ціфенбах іграў на флейце? Эва азірнулася.

— Сапраўдная мелодыя з гэтага не атрымаецца, — сказаў, просячы прабачэння, рулявы. — Паспрабуй ты. Я прывёз табе гэтую рэч з Італіі.

— А потым забыў у куртцы. — Яна забрала ў яго з рук інструмент. — Каб я добра села на яго. Ён зламаўся б напалам.

— Я ведаў, што ты не зробіш гэтага. — Ён выкарыстаў момант, калі яна ямчэй усаджвалася каля яго, каб пацалаваць яе ў патыліцу. Яна адказала яму няўдалай ігрой на флейце.

Гэты гліняны інструмент называўся акарына. Ён быў з кулак, падобны на птушку, у ім было некалькі дзірачак. Эве было прыемна знаходзіць трохгуччы, выдзімаць гукі, ствараць гармонію. У гэты час яна ўяўляла сабе пастушкоў з паўднёвай краіны: смуглявых чарнавокіх хлопчыкаў, як на карцінах Мурыльо.

Левай рукой Ганс Ціфенбах гладзіў ёй валасы, якія кудлаціў вецер. Душа ў Эвы спявала.

У гасцініцы маленькага курортнага пасёлка Цісаў можна было пад'есці не так добра, як у Бодэнхаўзе, але танней, чым у Цыновіцы. Потым яны, узяўшыся за рукі, пайшлі па галоўнай вуліцы пасёлка. Дзесьці далёка засталіся пыл Кампаны, шум аэрадынамічнай трубы і доўгія працоўныя ночы.

Паўночны пляж у гэтыя першыя гадзіны папалудні быў бязлюдны. Вясковыя дзеці больш любілі забаўляцца на другім баку, дзе адпачывала некалькі рыбацкіх лодак, сушыліся сеткі і рыбацкае начынне і гайдалася, прышвартаваная, парусная лодка. Пясок быў цёплы, а рэдкі лясок затрымліваў вецер.

Ганс Ціфенбах сцягнуў праз галаву пуловер і кашулю. Эва ўжо ляжала на пяску, падлажыўшы замест падушкі яго плашч. Яна шырока раскінула рукі.

— Увесь пляж — твой.

— Гэта занадта танна. — Ён падышоў да яе, апусціўся на зямлю

і лёг пад прамым вуглом да яе. Галаву ён палажыў на яе цёплы жывот.

Яна выцягнула рукі, прыціснуўшы да цела.

— Цяпер мы — Т.

— Як зразумець?

— Мы цяпер вялікае Т.

Ён засмяяўся.

— Вельмі добра.

— Калі ты пасунешся ніжэй, да маіх ног, атрымаецца Л — пачатковая літара майго прозвішча.

— Да тваіх ног? Гэта можна. Але я магу пасунуцца і да тваёй галавы.

Хуткімі рухамі ён перамясціўся і скоса падміргнуў ёй.

— ёсць яшчэ якія прапановы наконт жывых карцінак?

Здалося, яна ўсур'ёз успрыняла гульню.

— Для іншых літар нам спатрэбіўся б трэці.

Ён пакпіў:

— Дурны я — не запрасіў Ханке.

Яна са смехам адкацілася ад яго. Яна ляжала на жываце і насыпала вакол сябе пясок. Потым суцішылася

Ён сказаў, нібы спрабуючы пайсці па слядах яе думак:

— Мы сапраўдныя астраўныя людзі. Ты заўважыла? — Ён не спяшаўся зноў прыблізіцца да яе пела. Замест гэтага ён набліжаўся да яе думак. — Я ніколі не забуду таго дня на астраўку. Але і ў Бодэнхаўзе і усюды, дзе б мы ні сустракаліся, пануе астраўная атмасфера. «Дзяўчына з Амстэрдама» таксама была плывучым востравам.

— А сёння мы пераехалі з аднаго вострава на другі, — сказала Эва. — Гэта ж нейкі астраўны комплекс

Ён кіўнуў.

— Востраў — гэта ізаляцыя, адасобленасць. У маім жыцці такое здаралася і раней. Я хадзіў на кірмашы і народныя гулянні, каб вырвацца з ізаляцыі і пагаварыць з людзьмі.

Эва падсунулася да яго. Яна ціха сказала:

— Тады не было нікога паказаць табе шлях.

— Я рана страціў бацьку. Для хлопчыка гэта дрэнна.

— Для дзяўчынкі таксама.

Яго рука знайшла яе і дакранулася вышэй локця.

— Ты маеш рацыю.

Яна адчула поціск.

— Ты што-небудзь ведаеш... пра майго бацьку?

Ён кіўнуў.

Яна доўга няўпэўнена маўчала. Ёй здавалася, што ён, пэўна,

адчувае стук яе сэрца. Нарэшце яна сказала:

— Мне нашмат цяжэй, чым ты ўяўляеш з расказаў Клемта ці Брэтшнайдэра.

Яго рука апусцілася. Ён сеў. Ёй было боязна глянуць на яго. Слёзы душылі яе. Чаму сярод шматлікіх астравоў на зямлі не было ніводнага толькі для яе? Вострава без пытанняў і без страху! Яна хацела зірнуць на сляпучае сонца, каб была прычына для слёз, якіх ужо было не стрымаць. Але і сонца абхітрыла яе і схавалася за воблака, першае ў гэты блакітны дзень. Адразу на пляжы пахаладала. Эва ўздрыгнула. Яна хуценька ўстала і пабегла да вады. Гэта супярэчыла ўсякай логіцы, бо тут было яшчэ свяжэй. Але ў яе не было часу на роздум. Ёй трэба было нешта рабіць. Яна не хацела бачыць, як ён сядзіць побач з ёю, напужаны, страшэнна ўзрушаны, засаромлены. Ёй было холадна, а яна стаяла і паласкала ногі.

Тут каля яе са свістам праляцеў пляскі камень, дакрануўся да вады, падскочыў тры разы, перш чым патануць: хлапечы спрыт, які заўсёды радасна здзіўляў яе і якому яна не навучылася. Узяўшы пад руку, яе пяшчотна вывелі з мокрай халадэчы.

Сонца абтрэсла з сябе воблака. Ганс Ціфенбах павёў яе за сабой, моцна прытуліўшы, як быццам хацеў сагрэць сваім целам. Дрыжыкі прайшлі.

— Я здагадваўся, што ты нешта носіш у душы, — сказаў ён. — Але ж ты ведала, што я захапляюся Эйнштэйнам і Фрэйдай і мастаком Ліберманам. Чаму ты мне даўно не расказала ўсяго? Ты ёсць ты — і такая ты мне падабаешся. Раса — не фетыш.

Яна напружана глядзела перад сабой. Ёй ужо не было холадна, але яшчэ не верылася. Ганс не кінуў бы яе на волю лёсу. Пэўна ж, не. Ён — не Ведэльштэт. Але ці нельга захапляцца Эйнштейнам і ўсё роўна баяцца? Яны павярнулі назад, каб не вельмі далёка адыходзіцца ад таго месца, дзе сядзелі.

— Чаму ты захапляешся гэтымі трыма?

— Бо яны незвычайныя. Кожны па-свойму.

— Якіх людзей, што знаёмыя і мне, ты лічыш незвычайнымі?

Ён крыху падумаў.

— Не шмат каго. Прафесара Лёйпальда, Доктара... — Заўважыўшы, як напружана яна чакае. Ён адмовіўся ад сур'ёзнага тону. — Магчыма, тваю сяброўку Марліс таксама.

— Чаму?

— Бо яна, нягледзячы на пасаду, не дзелавая і не ўладалюбная. Адну з гэтых заган мае большасць прадстаўнікоў яе прафесіі.

— А фраў Клемт?

— Яна даволі разумная, але без арыгінальнасці і дасціпнасці. Значыць, нічога асаблівага.

— А што ты думаеш пра Бэра?

Ён падміргнуў ёй.

— Пэўна, не так узнёсла, як ты. Праўда, у яго ёсць незвычайныя рысы... Але паслухай! З кожнага пытання ты робіш цэлы шэраг пытанняў. Як лоўкі рэпарцёр Чалавек гэтага не заўважае і хуценька адказвае. Так было і на астраўку. У цябе талент журналісткі.

— Магчыма, я яшчэ стану журналісткай.

— Лепш не трэба. Тады ў цябе выцягнецца нос, бо ты яго ўсюды будзеш соваць.

— Толькі ў незвычайнае, — весела адказала яна.

Ён прытуліў яе.

— Ты — цудоўная. Хадзі, пацалуй мяне.

Яна ведала, што гэта толькі кропелька шчасця, якое адкрывалася перад ёю. Але яна прагна хапалася за яго. «Сёння я мару душою злавіла...» Яна хацела вычарпаць яго, пакуль яно не ператварылася ў попел. Яна хацела ўзбагаціцца гэтай кропелькай.

Вецер дзьмуў з мацерыка, і яны позна ўбачылі хмары, якія доўга збіраліся за лесам, а іх першыя прадвеснікі, што засцілі сонца, спачатку не палохалі. Калі пляжнікі адчулі, што вецер значна пасвяжэў, а неба зацягнулася хмарамі, яны, не дамаўляючыся, схапілі рэчы і напрасткі пабеглі да рыбацкага ўзбярэжжа.

«Фарэль», выцягнутая на цвёрды пясок, хісталася і гайдалася пад ударамі хваль. Вада паднялася, вецер дзьмуў у бухту. Эва ведала, што гэта азначала: плысці на лодцы наўскасяк ветру, увесь час воддаль ад берага, робячы вялікі крук, таму што дакладна па ветры не пойдзеш, і нарэшце доўга манеўраваць, каб увайсці насупраць ветру ў вусце ракі.

Над сушай хмары ўсё згушчаліся. Ішла навальніца. Некалькі рыбакоў з люлькамі ў зубах сачылі за падрыхтоўкай аматараў ветразей.

— Можа разгуляцца, — перасцярог адзін. — Можа, лепш застаньцеся? — Ён трымаў канец каната, каб кінуць яго ў лодку, калі яна будзе гатова адплыць.

— Нічога не зробіш, нам трэба вяртацца, — крыкнуў Ціфенбах. Ён моўчкі хутка працаваў, а Эва дапамагала яму, стоячы ў хісткай лодцы. Эва выцягнула са скрынкі засаленую куртку і запакавала ў скрынку ўсё, што ім не было патрэбна. Куртку яна кінула Гансу, які ўстанаўліваў руль.

— Апрані.

— Не. Апрані сама.
— Табе за рулём яна больш патрэбна. На мне штармоўка.
З лапатлівым шумам ветразь узняўся на мачце. Вецер адразу напоўніў яго. Рыбак кінуў канец.
— Шчаслівага плавання! — крыкнуў ён і паскроб патыліцу.
Лодка ўдала выйшла з бухты. Выявілася, што Ганс Ціфенбах, хоць і не ведаў дакладнай марской тэрміналогіі, аказаўся разважлівым рулявым. Эва адчула гэта адразу, і яго ўпэўненасць перадалася і ёй.
Хвалі ў бухце былі свойскія ў параўнанні з тымі, што іх чакалі ў Грэйфсвальдскім узбярэжжы. Яны накочваліся спераду наўскасяк, каранаваныя пенай, імкнучыся перакуліць маленькую адкрытую лодку. За бортам бясконца шумела, сыпала пырскамі, біла хвалямі. Эва сядзела каля правага борта, моцна нахіліўшыся над ім. Тое, што яна раніцай рабіла ад узрушанасці, цяпер стала пільнай патрэбай. Яна нагамі ўчапілася за скрынку, а ўсім тулавам аж да сцёгнаў звесілася за борт, пераважваючы ўсім сваім целам. Левы борт нахіліўся так нізка, што хвалі перакочваліся праз яго. Пырскі палівалі Эву шчодрымі струменямі. Па яе твары сцякала вада.
— Не мае сэнсу. Трэба вяртацца. — Ганс Ціфенбах, яшчэ адносна сухі, цяпер ужо не мог перадаць ёй куртку ці неяк інакш аблегчыць яе становішча. Ён ні на імгненне не мог выпусціць з рук руля. Праваронiш момант — і лодка перакуліцца. Эва ляжала амаль гарызантальна, падобная да цела, што плыве ў паветры, дакранаючыся да апоры толькі дзвюма кропкамі. Дарэмна яна спрабавала ўхіліцца ад новага фантану пырскаў.
— Ты не можаш крыху зменшыць напор ветру? спыталася яна.
— Мы ўжо намнога адхіліліся ад курсу. Тое, што мы страцім цяпер, нам прыйдзецца вяртаць перад вусцем за кошт крэйсіравання. Тады гэта можа зацягнуцца на некалькі гадзін.
— Тады хай так і будзе. Я вытрываю.
— Не падманвай сябе. Самае горшае будзе перад уваходам у вусце ракі. Гэта такое сапло, што ўвесь час будзе старацца выплюнуць нас.
— Магчыма, вецер крыху сцішыцца. Пакуль мы дабяромся туды, пройдуць гадзіны.
— Перад бурай ён яшчэ больш разгуляецца.
Над сушай, да якой было некалькі кіламетраў, бліснула першая маланка. Адначасова нос лодкі глыбока нырнуў у хвалі, і наступны вал так нахлынуў на яе, што пырскі намачылі фок-парус, пракаціліся па мачце і магутным струменем акацілі Эву.

— Не! — закрычаў Ганс, нібы спыняючы водную агрэсію. — Хопіць ужо. Мы вяртаемся!

Рукі ў Эвы пачырванелі і так здранцвелі, што яна з вялікай цяжкасцю трымала канаты. Валасы пасмамі звісалі з галавы, а апошні шквал наліў ёй вады за каўнер штармоўкі. Гайдаючыся на хвалях, лодка, здавалася, стаяла на адным месцы. З'яўлялася маладушная думка, што так будзе некалькі гадзін, без аніякай магчымасці перавесці дыханне. Эва ведала гэта. І ўсё роўна яна крыкнула:

— Нам трэба здаць лодку. Не звяртай на мяне ўвагі.

Ганс не адрэгаваў на яе словы. Ён цяпер думаў, як павярнуць назад.

— Разварочваемся!

Нос лодкі павярнуўся супраць ветру, а потым, ад моцнага штуршка вяслом, павярнуўся яшчэ. З трэскам перакінуўся вялікі парус. Эва паслухмяна цягнула за фок-шкот, які, мокры і цвёрды, уразаўся ў рукі. Лодка, як жывёліна, з палёгкай уздыхнула. Здавалася, яна сышла з камяністай горнай сцежкі на роўную дарогу. З падскокам яна бегла наперадзе хваляў, давала сябе дагнаць, нібы жартам усаджвалася ім на плечы і ехала так далей. Стыхія цяпер была яе саюзніцай.

Гансу Ціфенбаху ўдалося адной рукой выцягнуць куртку з непрамакальнай скрынкі. І цяпер яму нельга было ні на адну секунду пакінуць свой пост. Трэба было прычаліць да берага, пакуль не пачалася навальніца. Маланкі бліскалі ўсё часцей.

— Накінь куртку! — крыкнуў ён Эве, якая, скурчыўшыся, сядзела на борце.

— Праз дваццаць хвілін мы будзем на месцы.

«На месцы! Тое і яно, што — не». Перад імі зноў ляжаў Руген, пад шэрым небам, а тры чвэрці гадзіны найвышэйшай напругі і зацятай барацьбы прапалі дарма. Эва не адчула палёгкі ад таго, што была вызвалена ад барацьбы. Няўжо Ганс Ціфенбах спужаўся? Яна глянула на яго. Яго твар усё яшчэ быў напяты. Ён вырашыў падысці да паўночнага ўзбярэжжа, бо там прычаліць было лягчэй. Ён хацеў апярэдзіць буру.

«А што рабіў бы на яго месцы Марцін?» — разважала Эва. На пакінутым маяку ён патрабаваў ад яе мужнасці, калі лез перад ёю па вузкіх прыступках высока над вадой. Яна ў той час не прызналася б, што баіцца, каб раптам не закружылася галава. «Не азірайся!» — крыкнуў ён.

Ганс Ціфенбах быў не такі. Ён азірнуўся і ўбачыў, што Руген быў яшчэ блізка, што варта вярнуцца. «А як на вайне? — спытала яна ў

сябе. — Салдат не можа вярнуцца. Ён павінен трымацца, што б ні здарылася».

Пытанне настолькі закранула яе, што яна пачала гаворку на гэту тэму, калі яны сядзелі пад парусінай, хаваючыся ад ліўня. Яны ледзь-ледзь дабраліся да паўночнага ўзбярэжжа і паспелі нацягнуць тэнт ад дажджу. Сагнуўшыся, яны сядзелі побач пад мокрым брызентам.

— Чаму ты вярнуўся?

— Было б вар'яцтва — на такой маленькай лодцы.

— Салдату ж нельга варочацца, калі ў яго загад.

— Гэту прагулку мы загадалі самі сабе і самі ж адмянілі загад.

— Не. Загад у нас ад выпрабавальнай установы. Лодку трэба вярнуць сёння, а заўтра раніцай з'явіцца на працу.

— Ты разважаеш вельмі грунтоўна, Эў. Але толькі дрэнны камандзір імкнецца выканаць загад любой цаной. Выдаткі і мэта павінны ўраўнаважвацца, інакш сіла загаду і салдацкая паслухмянасць страцяць усякі сэнс. Трэба заўсёды добра ўзважыць, што ты хочаш атрымаць і якая за гэта цана. Мне здалося, што мы плацім занадта дорага за своечасовы прыход на працу.

— Мы б справіліся.

— Магчыма, мы не перавярнуліся б уверх дном, калі б былі ўважлівыя. Але за гэта ты заплаціла б поўнай стратай сілы ды яшчэ і захварэла б.

— А што цяпер?

— Знойдзецца начлег у гасцініцы, адтуль мы пазвонім інжынеру на працу. А заўтра раніцай, будзем спадзявацца, усё зменіцца. Зводка надвор'я — нядрэнная. Мы адплывём, як толькі развіднее.

Эва ўздыхнула з насмешкай.

— Вось табе помста Ханке.

Ганс ад усёй душы засмяяўся.

— Замест таго каб падпілаваць мачту. Ён напусціў на нас святога Пятра.

Дождж пацішэў, і яны пабеглі ў вёску. Калі дабраліся да гасцініцы, узнялася бура.

Гаспадар накрыў новым гасцям маленькі стол белым абрусам. Заўсёдныя наведнікі з вёскі прывыклі ўжо да драўляных стальніц ды і вячэраць не хацелі. Яны сядзелі за півам ці за чаркай гарэлкі і гаварылі пра вайну. Стары на канцы доўгай лавы каля сцяны пад нізкімі вокнамі, відаць, жыў у гэтым доме. Гаспадар паставіў яму сціплую вячэру і сказаў:

— Ну, кусай, бацька.

Стары еў смажаную бульбу, а астатнія дымілі люлькамі і слухалі

ваенныя паведамленні. І стары ўцяміў, што хвалявала ўсіх. Калі адгучалі заключныя фанфары, яго зарослы падбародак пачаў круціцца туды-сюды. Стары пасунуўся на лаўцы, каб яго маглі пачуць за суседнім сталом, і даверліва, голасна, як усе глухія, спытаў:

— Дык скажы ты мне, Вілем, а што гэта за такія «цізаны»?

Рыбак здзіўлена глянуў на яго.

— Цізаны?

Стары кіўнуў і паказаў нажом на радыё. Там адгучалі апошнія гукі лістаўскага прэлюда.

— Вось яны толькі што гаварылі.

Рыбак ухмыльнуўся і дастаў люльку з рота, каб старому было лепш чуваць.

— Партызаны, мусіць?

Стары абурана паглядзеў на яго.

— Пара цізанаў? Не, не, Вілем, дзесяткі цізанаў, дзесяткі, кажу табе! А не пара. І гаварыць не сталі б па радыё.

Рыбак падцягнуў старога за рукаў да сябе і пачаў яму нешта тлумачыць.

Эва, якая адна сядзела за накрытым сталом, заўважыла, што акрамя яе ў карчме жанчын не было. Але неўзабаве з'явілася яшчэ адна. З кухні выйшла дзяўчына. Яна стала за стойкай і дапамагала гаспадару. Той, відаць, нешта шапнуў ёй, бо яна лёгка кіўнула. Палошчучы шклянкі, яна кідала асцярожныя позіркі на Эву. Эва гэта адчувала, але старалася не глядзець туды. Яна рабіла выгляд, што вывучае паперку з раскладам цягнікоў, хоць добра ведала, што яна даўно ўжо спазнілася на апошні цягнік у Штральзундзе. Дзяўчына налівала піва, а гаспадар у гэты час знік за дзвярыма. Яна рабіла гэта спакойна, без усмешкі на светлым твары, абрамленым гладкімі цёмнымі валасамі, раздзеленымі строгім праборам. Ніхто з мужчын не звяртаў на яе ўвагі, хоць яна была вельмі сімпатычная. Потым вярнуўся гаспадар разам з Гансам Ціфенбахам. Гаспадар адмахнуўся ад госцевай падзякі.

— Добра, добра.

Уздыхнуўшы з палёгкай, Ганс падсеў да Эвы.

— Нялёгка дазваніцца. Гаспадары вельмі гасцінныя. Яны дапамаглі.

— Ты пагаварыў з дзяжурным інжынерам?

— Пагаварыў. — Ганс глядзеў на Эву з ціхай усмешкай. — Гэта якраз аказаўся Бэр.

— Ах! — вырвалася ў яе. — Што ён сказаў?

— Пасмяяўся з нашага «няшчасця».

— Пэўна ж, з іроніяй.

— Не ведаю. Дрэнна было чуваць. Ён скажа Траўдэ Хёрзельман, што ты прыйдзеш толькі ў абед.

— Мы ж дабяромся раней.

— Магчыма. Але ж табе трэба будзе хоць заскочыць у Зээштэрн і пераадзецца.

Супраць гэтага сказаць не было чаго. Ганс даў ёй свой пуловер з вельмі шырокай гарлавінай. Яна скінула і прамоклую блузку, таму вопратка на ёй выглядала б вельмі беднай, калі б не стракатая, завязаная збоку хустка, якая надала непрыгожаму мужчынскаму пуловеру нечакана жаноцкае хараство. Ганс дакрануўся да кончыка хусткі.

— Як прыгожа! Адкуль яна ў цябе?

Яна зрабіла таямнічы выгляд.

— Начаравала.

І тут ён здагадаўся. Ён дэманстратыўна прытуліў далоні да грудзей.

— Гэта ж тая маленькая стужка, што была лішняй табе сёння раніцай!

Яна кіўнула, і тут яны абое засмяяліся. Ён узяў яе далоню ў сваю.

— Лічу, што мне вельмі пашанцавала — пацярпець караблекрушэнне.

— Не накліч яшчэ раз помсты Ханке.

— Ты верыш у забабоны?

— Мы ж — бадзягі. А гэта адно з адным звязана. Я нават ведаю, што нас вярнула.

— Гэта ўжо цікава. — Ён ямчэй усеўся, нібы чакаючы расказу.

— Акарына.

— Што? Маленькая штучка?

— Мы, пэўна, згубілі яе на паўночным пляжы, калі спехам збіраліся.

— Калі табе гэта так важна, мы потым можам яшчэ прагуляцца. На дварэ святлее.

Гаспадар прынёс вячэру: яечню, кавалак вэнджанага вугра і салат з капусты.

— Нам шанцуе! — сказаў Ганс Ціфенбах з падзякай.

Гаспадара гэта парадавала. Ён на хвілінку запыніўся і сказаў, што на выхадныя дні сюды часта прыязджаюць маладыя пары. З аэрадрома Гэрц сюды больш за ўсё прыязджаюць афіцэры ў цывільным, каб пабыць адзін-два дні з фройляйн нявестай. Часцяком гэта — развітальныя сустрэчы, бо хто ведае, колькі іх не вернецца з баявых палётаў. Так, вайна — справа дрэнная! Але ён не будзе псаваць панам

апетыту. З тым ён і адкланяўся.

Эва стала сур'ёзная. У Ганса ж, наадварот, не было ніякага жадання паддавацца гаспадароваму настрою. Цяпер, калі надвор'е зноў раз'яснілася, а доследная ўстанова інфармавана. Ён хацеў нацешыцца гэтым нечакана падараваным ім вечарам. Гэта быў падарунак. Ніводзін чалавек у доме, у вёсцы не ведаў іх. Ні ён, ні Эва, напэўна, больш ніколі не вернуцца сюды. Было поўнае астраўное пачуццё. Яму хацелася, каб яна адчувала тое ж самае. Пасля размовы пад брызентам яму было вядома, што душа яе была ў пастаяннай працы і што маленькія прычыны выклікалі ў яе вялікія пытанні.

— Зрабі ласку, пачысці мне вугра. З рыбай я заўсёды адчуваю сябе няёмка.

Калі яна ўзяла яго прыбор, каб выканаць просьбу. Ён ціха дадаў:

— Няхай тутэйшыя не ламаюць сабе галаву, хто мы такія.

Яна зморшчыла лоб. Неўпрыкмет абвёўшы позіркам пакой, яна заўважыла, што сапраўды шмат пар вачэй глядзелі на іх стол.

Яна іраічна спыталася:

— Што гэта — знак асаблівай блізкасці, калі я разбяру табе вугра?

— Мне здаецца — так. Тады па меншай меры — заручаныя, калі не маладыя.

— А! Як тыя, што прыязджаюць з Гарца.

— Менавіта. А я не мог бы быць такім самым лейтэнантам? Думаю, у жанчын яны яшчэ ў добрай цане.

— У шмат якіх. Але ты не з той катэгорыі.

— Гэта мяне балюча раніць. А чаму?

— Тады б ты сёння не павярнуў назад.

Ён паклаў відэлец, бразнуўшы.

— Д'ябал яго забяры! Ты мне ніяк не можаш дараваць.

— Наадварот. Я доўга думала. Да сённяшняга дня я лічыла, што гэта гонар — абавязкова давесці да канца пачатае. Любой цаной. Я думала, што гэта і ёсць мужнасць. А мне заўсёды хацелася быць мужнай.

— Бывае, што мужнасць патрэбна, каб прызнаць сваю памылку.

Яна кіўнула.

— Гэта я сёння зразумела. Бывае, той-сёй разыгрывае з сябе мужнага, баючыся выдаць сваю слабасць, калі прызнае памылку. Гэта самая высокая ступень баязлівасці.

— Твая логіка ашаламляе, дзяўчына.

— Праз матэматыку лягчэй за ўсё дайсці да высноў, ты не думаеш? Калі пачатак рашэння задачы няправільны, дапамагчы

можа толькі адно: пачаць яшчэ раз спачатку.

— Тут не дапаможа ні цар і ні бог! — працытаваў Ганс любімае выслоўе Доктара. — Ты маеш рацыю. Мы сёння недааценілі велічыні. — Ён на хвілінку задумаўся. — Між іншым, гэта галоўная дурасць каштуе чалавецтву незлічоных ахвяр. Вайна — найлепшы прыклад.

Эве прыпомнілася, што і Юрген Бэр гаварыў пра велічыні, якія нельга недаацэньваць: «Тым, хто бурна радаваўся перамозе над Польшчай, можна яшчэ дараваць, бо шчаслівы той, хто слабы душой. Той, хто лічыў паветраную вайну супраць Англіі непазбежнай, проста не ўмее разлічваць. Але той, хто вітаў нападзенне на Савецкі Саюз, быў поўны вар'ят, калі глядзець цвяроза. Не гаворачы ўжо пра чалавечнасць».

Яна адчула, што думкі Ганса Ціфенбаха ідуць у тым жа кірунку.

Перш чым зусім схавацца, сонца яшчэ раз, міргнуўшы, зірнула з-за хмары, якая цяпер нявінна і вольна разлеглася на гарызонце.

Калі Эва і Ганс выйшлі з дому, гаспадар стаяў у дзвярах. Здавалася. Ён чакаў іх і звярнуўся з просьбай. Ці не маглі б паны ўзяць з сабой у лодку дзяўчыну, спытаўся ён. Гаворка ідзе пра Марыю, далёкую сваячку, якая толькі што памагала яму ў карчме. У яе ў лагеры ненаглядны. А расклад цягнікоў на Узедом такі нязручны, што і ехаць не варта, тым больш што ён не можа адпусціць яе з працы больш чым на адзін дзень. Калі яны выедуць заўтра раненька, яна зможа некалькі гадзін пабыць са сваім каханым. Ён — каптэнармус і, пэўна, знойдзе гадзінку для яе. А вярнуцца яна можа потым вячэрнім цягніком.

Ганс Ціфенбах не бачыў прычыны адмовіць ветліваму гаспадару. Перш чым адказаць. Ён паглядзеў на Эву. Яна згодна кіўнула. Ён іншага і не чакаў.

Гаспадар удзячна пакланіўся і, хочучы зрабіць ім ласку, паказаў кароткую дарогу паміж садамі і лугамі да паўночнага пляжа.

Пляж быў роўны, як ток. Калі б не Эва, якая добра запомніла месца, акарыны не знайшлі б. Круглая флейта была прысыпана пяском і ўзвышалася маленькім грудком, вышынёй з перакуленай сподак.

Эва вытрасла з яе пясок.

— Маленькай флейце ўжо дасталося, — вінавата сказала яна.

— Няўжо гэтая штучка табе такая дарагая? — спытаўся ён, усміхаючыся.

Яна не падняла на яго вачэй, а нібы між іншым сказала:

— Мне падумалася, што нешта ж ты меў на ўвазе, купляючы яе.

— Вядома.

— Мусіць, гэта — галоўнае ў падарунку. Няважна, залаты ён ці гліняны.

Ён падышоў да яе, паклаў абедзве рукі ёй на плечы і, крыху нахіліўшыся, прыцiснуўся лобам да яе.

— Божа мой, дзяўчына! Якая асалода не толькі быць закінутым з. табой на востраў, але і падараваць табе што-небудзь! Якія ў цябе ёсць яшчэ заганы?

— Ты гэта лічыш заганным?

— Пэўна. Бо спакушаць — самае высокае мастацтва.

— У мяне няма намеру неяк спакушаць цябе.

— Але ж ты спакушаеш бесперапынна.

— Спакушаю... на што?

— Няўжо трэба гаварыць? Мне так не хочацца вымаўляць гэта слова.

— Баішся, што яно затрэцца?

— Прыблізна так.

— Я вызваляю цябе ад адказу.

Ён абвіў рукамі яе шыю і прагна шукаў яе вусны. Ён трымаў яе ў абдымках, нібы хацеў удвая адплаціць, што яна адмовілася пачуць слова, якога так чакае кожная дзяўчына.

Узяўшыся пад рукі, яны пайшлі да «Фарэлі», якая адзінока, з голай мачтай, мякка гайдалася ў змроку на слабых хвалях прыбою. На моры і знаку не засталося ад сённяшняга хвалявання.

Ганс сцягнуў парусіну. Яны разам устанавілі лодку наўскасяк. Вада з булькатаннем набіралася ў яе.

— Калі мы пачнём вычэрпваць заўтра раніцай, мы страцім не менш як паўгадзіны.

— Давай зробім цяпер, — прапанавала Эва.

У лодцы яны знайшлі як на смех малую кансервавую бляшанку. Яна прыпомніла, што калі яны ішлі кароткай дарогай, дык міналі звалку. На пясчаным адхоне ў канцы вёскі яна, пэўна, знойдзе большую пасудзіну.

Ён засумняваўся.

— Ужо занадта цёмна.

Але яна ўжо пабегла.

Звалка была ў пустынным месцы. Асабліва непрыемна там у прыцемку. Здавалася, такое месца для вечаровых спатканняў маладых людзей не падыходзіць яшчэ больш, чым царкоўны двор.

Эва якраз падымала бляшанку, калі ўбачыла, што да яе ішлі два чалавекі. Яны, відаць, толькі што спаткаліся, бо малады чалавек павітаў дзяўчыну, у якой цёмная хусціна была завязана пад бараду. Яны

абое прайшлі міма агідных адкідаў і пайшлі паміж дзюнаў, як па парку.

Эвы не было відаць з-за ламанай дзіцячай каляскі. Каб не спужаць закаханых, яна рашыла ціхенька падацца адсюль. Але яе затрымаў голас дзяўчыны. Хоць тая гаварыла ціха, паспешлівыя і ўсхваляваныя словы даляцелі да Эвы:

— Ютро покажэм тым пшэклентым гітлеровцом, жэ з намі нема жартув.

Ад, нечаканасці Эве нічога не падумалася, яна толькі ўспомніла імя: Гільда! Гэта была мова Гільды, дзяўчыны-полькі з Познані. Потым яна прыпомніла слоўнік з шафы Швентмайра, якім яна, на жаль, вельмі мала карысталася, каб зразумець сэнс гэтых слоў. Але «пшэклентэ» — праклятыя, гэта яна яшчэ помніла. І слова «гітлеровцы» мела толькі адзін пераклад.

Падслухоўваць было няёмка. Пара, відаць, адчувала сябе ў гэтым брыдкім месцы надзейна. Эва стукнула пагнутай бляшанкай па дзіцячай калясцы. Ціхая размова адразу абарвалася, а дзяўчына нагнулася, быццам нешта шукаючы. Мужчына адвярнуўся ў другі бок і пачаў выцягваць з кучы часткі веласіпеднай рамы. Эва была вымушана прайсці паміж імі. Яна ўбачыла дзяўчыну зблізку. У яе быў прыкметны светлы твар. Дзяўчына з карчмы! Эва спужалася, яшчэ не ўсвядоміўшы гэтага. Светлы твар з шырокім бліскучым лобам пад цёмнымі валасамі — гэта была не сваячка гаспадара, яна была полька. У полькі не можа быць каханага ў салдацкім лагеры. Тады што ёй там трэба? З прыстані яна бескантрольна трапляла ў першы ахоўны пояс вакол доследнай установы. Па сушы б ёй гэта не ўдалося ніяк. А што ёй там рабіць? На завод яна адтуль пранікнуць таксама не магла, калі ў яе не было памочнікаў. Гаспадар, відаць, вельмі хацеў пераправіць яе туды. Эва з Гансам пасмяяліся тады з пачцівага паклону.

Полька! Як Гільда, як дзяўчына, што на познаньскай біржы працы malілася, просячы літасці, каб яе не адпраўлялі на працу ў Германію ад маці-калекі. «А хто ты?» — гучала ў душы Эвы, пакуль яна павольна ішла назад на пляж. Ты належыш таксама да тых, каго хочуць ператварыць у людское смецце. «Вялікі Бэр», тваё сумленне, аднойчы сказаў, што чалавеку ніколі нельга адмаўляць быць сабой. Ён тады меў на ўвазе многіх салдат, якія, апрануўшы шынель, закрэслілі ў сабе чалавека. А ты, Эва, ты ўжо раз адмовіла чалавечаму ў сабе і тым самым адмовіла тым, да каго ты павінна была б належаць. «Калі я вам кажу, што вы яўрэйка на чвэрць, значыць, так яно і ёсць!» І ты згадзілася з прысудам банфюрэра, прыняла яго, як падарунак. «Сапраўды, сапраўды, я гавару табе: і певень не прапяе, як ты тройчы ад-

рачэшся ад мяне». Каму адрасаваны гэтыя словы Ісуса? Юду Іскарыётў? Пятру?

Хто яна? Што сабой уяўляе? Яна стаяла на дзюне.

Унізе каля вады працаваў цень. Ёй раптам вельмі захацелася пабыць з ім, адчуць, што ён не толькі прывід. Яна заспяшалася праз шырокі пляж.

«Я ж баюся, — падумала яна, — па-сапраўднаму баюся! Мне хочацца пасядзець з ім у светлым пакоі».

— Ты хацела, каб у пакоі было светла, — ціха сказаў ён.

— Калі ласка, толькі начнік, — папрасіла яна.

У гэтым пакоі на другім паверсе гасцініцы не было нічога, што варта было б выстаўляць на яркае святло. Ложак, крэсла, шафа і камода пад бялізну былі нязграбныя і пабітыя шашалем. Дыванок перад ложкам, плоскі і стаптаны, здавалася, хацеў зліцца з дошкамі падлогі. Раскошай пакоя быў таз, вялізнае фарфаровае карыта, край якога выходзіў за граніцы вузкага стала для мыцця. Унутраная паверхня была размаляваная вялізнымі фантастычнымі кветкамі, якія, відаць, павіяны былі ствараць уражанне, што гэта — вадзяныя ліяны.

Перад гэтым фарфаровым возерам стаяла Эва. Стаяла, як яе прамаці з райскага саду. Стаяла і мыла. Мыла вялікую белую прасціну. Яна ўвесь час акунала яе ў таз адным і тым жа месцам і церла пляму. Яна церла старанна. О, як прыкра!

Ну вось, яна амаль знікла, тая пляма. Кроў раствараецца ў халоднай вадзе. У Эвы палягчэла на душы. Яна круціла і церла мокрае месца з такім стараннем, якое не магло не кранууць.

Ён падышоў да яе ззаду і прыціснуўся падбародкам да пляча. Яго рукі пяшчотна дакрануліся знізу да яе грудзей. Ён ціха сказаў:

— Ты так стараешся, быццам хочаш змыць ганьбу.

Яна апусціла рукі.

Ён забраў у яе прасціну і абы-як кінуў на крэсла. Потым. Ён павярнуў яе да сябе і пачаў гладзіць збоку па сцёгнах, быццам хацеў абвесці контуры яе цела. Пад яе здзіўленым поглядам яму было цяжка знайсці словы. Яго рукі ўзняліся зноў уверх да пахаў.

— Ты — самая вялікая нечаканасць майго жыцця Калі я прасіў дазволу прыйсці да цябе, ты не задумваючыся дазволіла, з пачуццём перавагі...

У яе ў вачах загарэліся агеньчыкі. Раптам яна зразумела, што ён раней лічыў яе павярхоўнай. Ціха і сумна яна сказала:

— Як мала мы ўсё ж ведаем адно аднаго. Для мяне сёння гэта ўсё было вялікім адзінствам: паездка ў буру, незнаёмая гасцініца,

прагулка па паўночным пляжы... і ты. Я ведала пра гэта. Навошта мне было працівіцца. Так захацела акарына.

Ён абняў яе, вінавата ўсміхаючыся. Ён узяў яе на рукі і панёс на ложак. Яго твар быў над самым яе тварам. Вочы ў абодвух былі, як вандроўнікі па дарогах закаханасці, дзе трэба было толькі глыбей вывучыць мясцовасць.

Эва доўга не рухалася. Потым ён захапіў яе рот, горача і нечакана. Яна спрабавала абараняцца, уступіла, аслабла. Калі ён адпусціў яе, яна ўстала і адкінула галаву яму на грудзі. Цёмныя валасы рассыпаліся па ім, як бліскучы веер. Тонкая, закручаная на канцы пасмачка кончыкам дакранулася да яго грудзей і саслізнула. Пяшчотнай рукой ён вярнуў яе назад, цёплае, мяккае, амаль самастойнае цельца, птушаня, якое заблудзілася.

Наколькі можна злучыцца ў адно? Наколькі цела разнявольвае дух? Эве здавалася, што разам са стукам яго сэрца, якое так шчасліва-блізка білася каля яе, яна чуе лёгкія крокі. Яны пранікалі праз столь пакоя, застаючыся непазнанымі. У гэты позні час яны так мала прызначаліся чужым вушам, як і словы:

— Ютро покажэм тым пшэклентым гітлеровцом...

Эва ўстала, непрыкметна прыслухоўваючыся, што

робіцца наверсе, дзе чалавек рыхтаваўся ў цяжкую дарогу, да цяжкага лёсу. А ў тым, што Марыя са светлым тварам павінна выканаць нейкае заданне, не было ніякага сумнення.

Калі Эва перад самым сном яшчэ раз выйшла на двор, бо гэта сельская гасцініца была з усімі сельскімі прыбудовамі, яна яшчэ раз спаткала дзяўчыну каля дзвярэй чорнага ходу. Марыя хутка збіла цёмную хустку на патыліцу, нібы яна баялася, што па хустцы яе пазнаюць. У старанна зацемненых варотах свяціўся яе твар — абрамленне двух запытальных вачэй. Гэта было праніклівае, амаль упартае пытанне. Гэта быў позірк, гатовы адказаць пагардай, калі адказ будзе неспрыяльны. Эва хрыпата прамовіла: «Дабранач. Да заўтра!»

Адказ полькі дагнаў яе ўжо на лесвіцы. Ён прагучаў, як падзяка за падарунак.

«Магчыма, заўтра мяне чакае адплата за гэтую гадзіну», — думала Эва. За жывой сцяной білася сэрца чалавека, за тынкаванай столлю тупалі крокі. Раўнамерны стук пад яе рукой нічога не гаварыў, ці будзе гатова гэта сэрца плаціць за ўсё разам з ёй... Яна глянула на Ганса Ціфенбаха з балючым пачуццём, калі ён сказаў, што шкада: яны паплывуць не адны. Няўжо на свеце няма нічога, каб і думкі з'яднала ў адну? Нават самая таямнічая блізкасць не дасягала гэтага! Імпульсіўным рухам Эва нацягнула на сябе коўдру, прыкрываючы ніз

і грудзі.

— Табе холадна. — Ён заклапочана пагладзіў ёй плячо. — Будзем спаць.

Па-ранішняму свежае мора выглядала так, быццам яно і ведаць не ведала пра бурныя шквалы і небяспечныя валы, у якіх жыла змрочная пагроза спрасаваных дажджавых хмар, нічога не ведала пра бяссілле пакінутай на волю лёсу паруснай лодкі, калі на моры бушавала бура. Раніцай гэтага панядзелка пеністыя кароны былі не чым іншым, як толькі какетлівай акрасай хваль, не чым іншым, як воблачнай завесай неба.

Лодка рухалася наперад. У цяні паміж мачтай і фокпарусам сядзела Марыя. Яна села па напрамку руху, а галаву прыхіліла да мачты. Калені абхапіла рукамі, і можна было падумаць, што спіць. Раніцай яна першая прыйшла на бераг і дзейнічала спрытна, дапамагаючы рыхтаваць лодку да адплыцця. Без страху пайшла ў халодную ваду, разам з Ціфенбахам выцягнула нос лодкі з пяску, куды яго засмактала.

— Фройляйн ужо можа садзіцца, — сказала яна. — У мяне хопіць сілы.

З падаткнутай спадніцай яна падышла да борта, калі лодка ўжо была на плыву. Эва дапамагла ёй залезці, і на нейкі момант яны аказаліся вельмі блізка.

— Дзякуй, — проста сказала Марыя.

Калі яна села, Ганс Ціфенбах нешта прыпомніў.

— Ваш дакумент, канечне ж, пры вас, — сказаў ён. — На прыстані часам правяраюць.

Марыя, здавалася, старанна складвала сваю куртку. Яна не падняла вачэй і адказала невыразна.

Эву нібы працяло токам. Было б лепш, каб Ганс Ціфенбах не пачынаў гаворкі з дзяўчынай. У некаторых словах у яе быў прыкметны акцэнт.

— Яна вельмі замарылася, — ціха сказала Эва, нібы прабачаючы дзяўчыне за яе маўклівасць.

Гансу Ціфенбаху толькі і трэба было, каб пасажырка паводзіла сябе стрымана. Яго левая нага з лёгкім поціскам дакранулася да правай нагі Эвы: патаемны знак даверлівасці ў прысутнасці трэцяга. Гаварыць было яшчэ рана. Дзень павольна ішоў наперад, сонца падымалася вышэй.

Праязджаючы міма, Ганс люлькай паказаў на закінуты маяк.

— Каменнай глыбе не страшныя ні бура, ні непагода. Яе б не кранула, калі б мы ўчора перакуліліся на гэтым месцы. Зробленае

чалавекам часта мацнейшае за самога чалавека.

Цяпер быў бачны светлы твар Марыі. Яна выпрасталася і пачала азірацца, нібы арыентуючыся. Эва крыху падсунулася да яе. Яна сказала з уяўнай лёгкасцю:

— На прыстані вы нас не чакайце. Нам трэба будзе яшчэ справіцца з лодкай, ветразем і іншым. А вам трэба паспець. Да лагера тры чвэрці гадзіны хады. Трымайцеся правага боку, ускрай старой рыбацкай вёскі. За ёй пачынаецца бетонка. Не даходзячы да галоўнага прапускнога пункта, звярніце направа, вам жа на завод не трэба. — Яна цвёрда паглядзела на дзяўчыну, якая ўважліва слухала. Эва спадзявалася, што яна зразумее і нявыказанае. У рыбацкім пасёлку праверкі не будзе. Эва не адважылася спытацца, ці ведае яна там дарогу. Магчыма, дзяўчына ішла не ў лагер, але для арыентацыі тлумачэнне будзе ёй карысным. Яна спадзявалася на гэта.

Калі яны ўжо былі на рацэ, самалёт Хейнкеля працягнуў над імі хвост, яшчэ раз на брыючым палёце вярнуўся назад і, пралятаючы, на секунду забраў у іх вецер з ветразяў. Вялікі ветразь аслаб, і калі Марыя, нягледзячы на перасцерагальны вокліч Ціфенбаха, не паспела адхіліць галаву, атрымала непрыемны ўдар.

— Гэта быў Марцін! — лаяўся Ганс Ціфенбах услед машыне. — Цудоўны прыём! Нашы прыгоды, відаць, ужо ажыўлена абмяркоўваюцца.

Марыя прыклала руку да лоба, бо ён балеў. Яна сутаргава ўсміхалася.

— Добра прыцісніце, — спагадна параіла Эва і падала ёй мокрую анучку. — А то будзе сіняк.

— Вечарам я раскажу яму, што ён нарабіў, — сказаў Ганс Ціфенбах.

Марыя адмоўна махнула рукой.

— Не, не. Не мае значэння. Ужо не баліць. — Яна адняла руку ад лоба і пачала займацца сваёй вялікай сумкай. Праз хвілінку — яна, відаць, як след падумала — сказала, не падымаючы вачэй:

— Будзе лепш, калі мала хто будзе ведаць, што вы прывезлі мяне. Не для мяне — для майго жаніха. Сёння — працоўны дзень. Таму дзяўчыне нельганазаляць вочы, прыехаўшы да каханага. — Для дасведчаных вушэй Эвы гэтыя фразы здаліся завучанымі. Але Марыя прыдала ім адценне гарэзлівасці, што развесяліла Ганса Ціфенбаха.

— Можаце не хваляваცца, фройляйн Марыя. Калі хто і зайздросціць вашаму спатканню, дык гэта мы. — Ён сустрэўся з позіркам Эвы, які ўжо быў скіраваны на Востраў, дзе іх чакалі развітанне і будні. Здавалася, што яна нецярпліва чакае гэтага. Сёння

раніцай ён не зразумеў яе. Яна ўхілялася ад любых намёкаў на тое, што здарылася ноччу. Пасля ціхай стрыманай пяшчоты за снеданнем у маўклівай карчме цяпер яму гэта было незразумела. Няўжо яна саромелася Марыі, якая і сама ехала на любоўнае спатканне?

Дзяўчыне пайшлі на карысць тлумачэнні Эвы. Як толькі яны прышвартаваліся на прыстані, Марыя паднялася на сходні, азірнулася і, убачыўшы справа некалькі домікаў, крытых трыснягом, відаць, засталася задаволенай. Коратка і сардэчна падзякаваўшы, яна хутка развіталася і знікла за баракамі лодачнай станцыі.

— Смешная дзяўчына! — Ганс Ціфенбах паглядзеў ёй услед. — Сёння раніцай, калі адплывалі, яна так старанна дапамагала, а цяпер не пачакала нават, пакуль мы спусцім парус.

— Ты ж сам гаварыў, што разумееш яе, — адказала Эва. — Вось чаму такое нецярпенне. Магчыма, яна ўжо даўно не бачыла свайго каханага.

— А тут мы пасадзілі ёй сіняк. Ну ж, дам я гэтаму Марціну!

— Лепш не трэба, — папрасіла Эва. — Сапраўды не варта нікому ведаць, што мы некага сюды завезлі.

— Завезлі — гэта добра, — сказаў ён. — Гучыць даволі таямніча. Але ты маеш рацыю: гэта нядзеля з усім, што з ёй звязана, наша самае патаемнае, што больш нікога не датычыць, праўда?

Яна ўкленчыла перад скрынкай і падала яму на палубу дажджавік.

— Праўда, Ганс.

Гэтыя два словы кранулі яго. Гэта зноў быў той тон, якога яму не хапала ў час іх вяртання.

## 6
## ЗМЕНЫ

Шэрыя і карычневыя формы па колькасці былі прыкладна роўныя ў канферэнц-зале дырэкцыі. Тым не менш карычневая група была дужэйшая, бо на чале яе стаяў міністр узбраення і забеспячэння.

— Панове, фюрэру прыснілася, што А4 ніколі не даляціць да Англіі.

Гэтай чароўнай формулай, па прымітыўнасці даведзенай да ідэалу, карычневыя пасланцы з Берліна ўшчэнт разбівалі ўсе дзелавыя доказы даследчыкаў і тэхнікаў доследнай установы.

— Калі нам, аднак, удалося зацікавіць вярхоўнае кіраўніцтва НСДРП, дык гэта — не дробязь. Такім чынам, мы ўзялі на сябе пэўныя абавязацельствы. Нам неабходна мець гарантыю, што неадкладна па-

чнецца выраб зброі. Татальна выкарыстаўшы ўсе наяўныя сілы, неабходна перадаць адпаведныя ўчасткі доследнага завода серыйнаму заводу.

Дакладчык міністра быў спрактыкаваны прамоўца. У яго вуснах нават сон гучаў як сур'ёзны аргумент.

«Гэта гебельсаўская школа, як і ў радыёкаментатара», — падумаў Ціфенбах. Ён сядзеў паміж Клемтам і Брэтшнайдэрам, наўскасяк ад Доктара. Ён ніколі не бачыў Доктара такім узрушаным. Яшчэ пазаўчора на папярэднім абмеркаванні з супрацоўнікамі той гаварыў: «Нам удалося пазбегнуць, каб нас не праглынула прамысловасць. У цяперашнім становішчы адміністрацыя па ўзбраенні мне здаецца больш спрыяльным фактарам, чым савет па нагляду якога-небудзь акцыянернага таварыства. Цяпер неабходна трымацца, цесна згуртаваўшыся, каб не дапусціць ніякай апекі над сабой». Яшчэ некалькі сказаў дадаў генерал, які загаварыў пра шматгадовае брацтва па зброі паміж даследчыкамі па ракетах і адміністрацый па ўзбраенні. Доследную ўстанову нельга ператвараць у акцыянернае таварыства, як нельга полк салдат падпарадкаваць цывільнай установе. І вось цяпер, праз два дні, яны сядзелі за тым самым сталом, і Доктар нібыта спакойна слухаў, як забівалі клін у штаб даследчыкаў, якія паддаліся ракетнай ліхаманцы, а той-сёй з іх пацiху адганяў ад сябе маральныя сумненні праз тое, што быў захоплены ўрачыстым настроем, які заўсёды з'яўляецца вынікам тэхнічнага подзвігу.

Міністр прынёс з сабой гатовыя планы. Але ён быў не настолькі неразумны, каб навязваць іх галоўнаму інжынеру, у геніяльнасці якога былі пераканы рэйхсмаршал і рэйхсфюрэр СС. Дакладчык міністра спакойна спытаўся, на плечы якіх супрацоўнікаў Доктар мяркуе ўскласці адказнасць за гарантыі, якіх патрабуе НСДРП. Бо ён сам, Доктар, наўрад ці зможа ў будучым пры складанай сістэме трымаць у полі зроку завод.

Пытанне прыгнятала сваім цяжарам.

Генерал думаў пра братэрства па зброі і чакаў.

Брэтшнайдэр, выпрабаваны ў шматгадовай працы, чакаў.

Доктар маўчаў.

Дакладчык паглядзеў на свайго міністра і атрымаў ад яго знак.

Выбар быў зроблены.

— Доктар уцягнуў галаву ў плечы і здаўся, — расказваў Ціфенбах Улігу, калі той спаткаў яго ў казіно пытаннем пра навіны. — Кожны кіраўнік аддзела атрымае наглядчыка, што будзе сядзець у яго перад носам, а над усім навісне цэнь шэфа.

— А што на гэта гаворыць генерал?

— Ён пераварвае злосць. Толькі ён адзін і спрабаваў адвесці бяду. Ён паведаміў пра мае перагаворы з Экенерам у Фрыдрыхсгафене і хваліў спрыт і кемлівасць цяперашняга кіраўніцтва. Ідэя пазычыць у Экенера мантажныя цэхі хоць і не вялікае вынаходніцтва, але каб выйграць час, пакуль будзе гатовы серыйны завод, трэба прызнацца, мае пэўнае значэнне.

— Берлінцы не пайшлі на гэта?

— Відаць, не захацелі. Яны адразу спасаліся на балючы пункт.

«Кіршкерн»? — спытаўся Уліг надзвычай узрушана.

— Так. Фактычна даказана, што вы адну штуку няпланава закінулі суседу ў сад.

— Штуковіна вырвалася ад нас, стала самастойнай.

— Самае непрыемнае, што людзі бачылі, як крылатая бомба прызямлілася ў Барнгольме і бясследна знікла. Лічаць, што людзі з дацкай апазіцыі ўкралі яе.

Уліг абапёрся на стойку і нервова забарабаніў па нікеліраванай паверхні. Можна было правесці дзесяць паспяховых серый, і нікому да гэтага не было б справы; але як толькі здарылася няўдача, адразу ж яны з'явіліся і разыгралі гэты козыр у сваёй вялікай гульні. Вядома, гэта быў фатальны выпадак з «Кіршкернам». Сапсавалася сістэма кіравання. Карла Вінтэр цяпер зноў будзе выступаць за бомбу з чалавекам-пілотам. Магчыма, цяпер да яе прыслухаюцца. Усё роўна ўсё рабілася, каб ператрэсці доследную ўстанову і пасварыць людзей. Кожны баяўся разявіць рот перад сваім самым блізкім супрацоўнікам. Самая соль у тым, што СС рашыла ўзяць на сябе ахову ўстановы. Гэта азначала: яшчэ адзін ахоўны пояс, яшчэ больш калючага дроту. А за ім — СД. Генерал нічога не мог зрабіць. Гімлер аказаўся дужэйшы за армію і люфтвафэ. Доктар сёння здаўся. Каб атрымаць маральную і матэрыяльную падтрымку міністра. Ён ахвяраваў даверам сваіх самых блізкіх супрацоўнікаў.

Уліг акінуў сябе позіркам. Ужо тры дні ён насіў форму люфтвафэ з аранжавымі пятліцамі і срэбнымі шнуркамі на плячы. Ён таксама тым-сім ахвяраваў: сваёй гордай перавагай над вайскоўцамі, якія, на яго думку, ад прафесійнай недасведчанасці ганяліся за значкамі і званнямі. Цяпер яны захамуталі і яго, лётчыка-выпрабавальніка і дыпламаванага інжынера. Тылавы раён Востраў стаў фронтам, вось што гэта значыла. Больш не было лётчыкаў у цывільным. Яны вызначылі яму пасаду і месца не па прынцыпе «што ты можаш», а «колькі табе год» — «па мордзе». Яго вайсковы начальнік, кавалер Дубовых лісцяў, павіншаваў яго і самазадаволена ўхмыльнуўся. У іх цяпер было аднолькавае вайсковае званне, і як адзін не прызнаваў у другім

салдата, так гэты не прызнаваў у ім тэхніка.

Ахвяраванне — справа непрыемная. Але так ці інакш — усё ішло наперакасяк. Пасля Сталінграда ці нават з таго часу, як ён убачыў пяць забітых рускіх на снезе, так здавалася Уліґу. 10 ліпеня ў Еўропе высадзіліся амерыканцы. Першы апорны пункт — Сіцылія. Пад Курскам у бой пушчаны славутыя «тыгры», і ўсё роўна іх хутка адкінулі назад.

Праўду кажучы, наўрад ці можна было папракнуць Доктара за тое, што ён хапаўся за любую падтрымку, дзе толькі было можна, бо наверсе ў апошні час амаль усе яго супрацоўнікі страцілі давер. Не толькі «Кіршкерн» выслізнуў, тут дапамаглі і зняволеныя канцэнтрацыйнага лагера. Брэтшнайдэру хапіла з імі непрыемнасцей. Клемт усё яшчэ скакаў на сваім любімым каньку — з неастылай яшчэ новай распрацоўкай, «велікодным яйцом». Яму, Уліґу, даручылі першае выпрабаванне. Ён праверыў як след усе параметры паветранай тарпеды, якую трэба было запускаць з самалёта, і вярнуў яе для паўторнага выпрабавання. Клемт кісла адрэагаваў на гэта, але не мог абвергнуць прэтэнзій. І вось ён упёр выпрабаванне Парызіусу. «Я папярэдзіў Вільфрыда», — падумаў Уліґ. Але Клемт умеў угаварыць. Парызіус быў дабрадушны і паверыў у сваю лётчыцкую ўдачу. Калі заўтра будзе яснае надвор'е. Ён падымецца ў паветра з неправераным да канца «велікодным яйцом» на самалёце.

Карла Вінтэр першая выйшла з афіцэрскай сталовай, дзе адбыўся абед для гасцей. Ей захацелася выкурыць сігарэту ў кампаніі Уліга. Яна ўзрадавалася, убачыўшы за сталом каля стойкі і Ціфенбаха.

— Чаму вы не абедалі з намі, Ціфенбах? Самыя важныя перагаворы пачаліся тут. Як звычайна: паміж супам і рыбай.

— І да чаго дагаварыліся?

— Не будзьце такім скептыкам. Лепш закажыце бутэльку віна, вып'ем за ваша прызначэнне. Вы — новы сувязны з верфямі Цэпелін.

— Ці не вам я абавязаны гэтым гонарам?

— Я прапанавала вас.

Чаму вы думаеце, што мяне гэтае прызначэнне ўзрадуе?

— Я ведаю, што тут ад вас мала карысці. — Карла падсунулася бліжэй і зашаптала па-сяброўску даверліва. — Бо вы тут не працуеце над атамнай бомбай. Да таго ж вы адчуваеце сябе ў Памераніі кепска. — Яна засмяялася з упэўненасцю ў перамозе. — Марцін будзе часта прыязджаць да нас у Фрыдрыхсгафен у госці.

Уліґ прыслухаўся.

— Ты таксама адпраўляешся на Бодэнзэе?

— Так, мой дарагі. Я паспрабую знайсці мужных хлопцаў, якія

здолеюць лепш выдрэсіраваць упарты «Кіршкерн», чым ты.

— Ты звар'яцела, Карла, — Уліг правёў рукой па драўлянай стальніцы, нібы выціраючы. — Зусім звар'яцела. Пасылаць людзей на верную пагібель!

— Яны аддадуць сябе ў ахвяру за жыццё мільёнаў.

— Калі мы вымушаны карыстацца такімі сродкамі, тады наш славуты ваенны патэнцыял нічога не варты, а мы, канструктары, — прапашчы народ. Ганс, прынясі мне двайную порцыю гарэлкі! — крыкнуў ён Ціфенбаху, які пайшоў да Ханке за стойку.

Ціфенбах вымушаны быў чакаць, пакуль Ханке знойдзе на яго час. Брэтшнайдэр, відаць, выбіраў віно гасцям. Ён зрабіў некалькі проб і нарэшце спыніўся на гатунку, які, калі меркаваць па яго міне, быў кіслы, як воцат.

Калі Брэтшнайдэр пайшоў, Ханке пакпіў:

— Яму і ад партвейну кісла. Тры беглыя арыштанты з канцлагера абышліся яму дорага.

— Збеглі! Уявіць сабе нельга, як ім удалося! — сказаў Ціфенбах.

Ханке заціснуў бутэльку, з якой афіцыянт не мог дастаць корак, паміж ног. Хітра паглядаючы на Ціфенбаха. Ён сказаў:

— Ёсць падазрэнні, што не абышлося без староннія памочнікаў з гэтага боку.

— Не паверу. Хто можа прабрацца праз наш ахоўны пояс?

— Па вадзе не вельмі цяжка. На прыстані нікога не правяраюць. — Корак рассыпаўся на драбкі. Са стараннай асцярожнасцю Ханке спрабаваў выратаваць віно.

— Што вы маеце на ўвазе? — спытаўся адчужана Ціфенбах.

— У нядзелю нехта робіць невялічкую прагулку, выязджае адсюль удваіх, а вяртаецца назад утраіх. — Ханке з віном у руцэ, якое ўжо не гадзілася гасцям, крутнуўся і схаваўся ў кухні.

У Ганса Ціфенбаха на душы было так, быццам цальмайстар гакнуў яму бутэлькай па галаве. Ён пачаў прыпамінаць: апошнія паўгадзіны вяртання з Ругена... чужая дзяўчына... «Будзе лепш, калі мала хто будзе ведаць, што вы прывезлі мяне... Не для мяне — для жаніха...», а потым Эва: «Не варта нікому ведаць, што мы некага сюды завезлі...» Так, няўжо яна звар'яцела?

Маленькая непрыкметная Эдзіт Кнор раптам стала цэнтрам увагі дома Зээштэрн. Траўдэ Хёрзельман, Ру і Марліс Хасэ сядзелі каля яе ложка. Каля акна стаяла Эва Леангард.

Былая навучэнка харэаграфічнага вучылішча з тварам гемы ўжо восем дзён не хадзіла на працу, не маючы бюлетэня. Нарэшце, пасля кароткага тэлефоннага званка выхавацелькі, штабны ўрач сам наве-

даў хворую, якая да гэтага часу ўпарта адмаўлялася пайсці на прыём у медпункт. Так і здарылася, што штабны ўрач, саракапяцігадовы ўдавец і цярплівы спаборнік за каханне сімпатычнай маладой танцоўшчыцы, пры аглядзе вызначыў, што яна цяжарная.

Эдзіт Кнор адчувала сябе самай няшчаснай істотай на зямлі. Лейтэнант Банордэн змыўся. Дзесяць дзён назад ён упакаваў свае рэчы. Перавод у Данцыг. Надаваўшы бадзёрых абяцанняў. Ён паехаў. О, як ён саромеўся! А як ён любіў паказвацца з ёю на людзях і з якой зларадцай усмешкай праводзіў яе каля стала вышэйшых афіцэраў, дзе сядзеў штабны ўрач. «Стары казёл», — называў ён яго часам. І Эдзіт дазваляла яму такое, яна аслепла ад шчасця, яна прыняла фанабэрыю яго дваццацігадовага ўзросту за мужчынскую надзейнасць.

Эва бачыла, як яна сядзела ў ложку з замкнутым заплаканым тварам. Яе валасы, заўсёды акуратна зачасаныя назад і старанна ўкладзеныя, цяпер звісалі, распушчаныя, на плечы.

«Вяртаючыся з Ругена, — разважала Эва, — я падумала: магчыма, у мяне будзе дзіця!» Змірыцца з такой думкай усур'ёз было нялёгка. Ёй прыпомніліся раманы, дзе дзяўчаты, калі яны кахалі, былі вельмі высакародныя. Яны адракаліся ад блізкіх і ад усяго свету. Нават калі абставіны патрабавалі, каб каханы пакідаў іх, яны паказвалі, што не панесці ў сабе плод кахання — вялікая страта... Не, тут Эва сябе не падманвала. Яна не хацела дзіцяці. Дзевяць месяцаў ці больш не мець магчымасці вольна рухацца. Вязаць тапачкі, сядзець з выпучаным жыватом у крэсле, калі другія на спартыўнай пляцоўцы, катаюцца на веласіпедах, на лодках, купаюцца! Ды і потым з дзіцем... вайна! Без прытулку і надзеі. Ці не стаць спачатку самой чалавекам? Ах, ніводзін мужчына не разумее гэтага. Ні Банордэн, які хуценька пераведся, каб пазбегнуць адказнасці, ні Ганс Ціфенбах, які ў заўсёдных навуковых камандзіроўках матляўся паміж Фрыдрыхсгафенам, Берлінам і Востравам. Эва прыпомніла калядную размову з Ру і ўбачыла твар бібліятэкаркі, які цяпер, здавалася, гаварыў: «Я ведала, што так будзе».

Калі Эдзіт крыху супакоілася, Ру шчыра сказала, што думала. Яна ўжо тады бачыла Банордэна наскрозь, калі ён, новенькі на Востраве, знаёміўся з ёй у бібліятэцы. Ён першы склад свайго прозвішча знарок вымаўляў так, што яго можна было зразумець як «фон». Яго схільнасць пускаць пыл у вочы даходзіла да смешнага.

— Я своечасова перасцерагала вас ад яго, Эдзіт, — па-дзелавому сказала Ру.

Эдзіт Кнор паглядала на сваіх наведніц амаль варожа.

— Вам добра гаварыць. У вас ёсць прафесія.

— Што гэта яшчэ значыць? — спыталася Траўдэ Хёрзельман.

— Мяне прагналі з вучылішча. Я ўжо не магу танцаваць. Гэта было вырашана, калі я прыбыла сюды. Тады я паставіла сабе задачу — знайсці мужа. Мне нават думаць было агідна, што ўсё жыццё мне прыйдзецца счытваць паказчыкі манометра. Я зусім не разбіраюся ў лагарыфмах і каранях. Я не магу ўявіць сабе момант інерцыі, не ўцямлю, як вывесці формулу. Я працую, як машына. Я доўга не вытрываю. Таму я не бачыла іншага выйсця. Але вы, вядома, не зразумееце...

Марліс адчувала сваю адказнасць за лёс Эдзіт Кнор. Яна раз ад разу ўсё больш разумела, як мала карысці прыносіць яе грамадская дзейнасць. Там, дзе не было асновы для здаровага развіцця, усякае выхаванне заставалася справай, не даведзенай да канца. Яе сацыяльная дзейнасць была толькі падачкай, якую дзяржава давала людзям, зрабіўшы іх жабракамі. Бедная Эдзіт Кнор. Страх перад невядомай будучыняй загнаў яе ў абдымкі да ветрагона.

Ру некалькі разоў прайшла па пакоі, задумлівая, амаль у забыцці. Потым яна рэзка спынілася перад ложкам Эдзіт.

— Я ўсынаўлю ваша дзіця, як выйду замуж, — суха сказала яна. — І я патрабую ад вас, каб вы рабілі ўсё магчымае для малога. Ешце як след, каб у вас нарадзілася дужае дзіця. І выкіньце лейтэнанта з галавы, каб яно не вельмі было падобнае да яго. Калі будзе хлопчык... але з гэтым можна яшчэ пачакаць.

Яна пачала смяяцца, бо злавіла сябе на тым, што гаварыла ўсё без разбору, што думала. Ру не ведала ў сабе раней такіх парываў. Ненароджанае дзіця пранікла ў яе думкі і стварыла цуд.

Эдзіт павісла ў яе на шыі.

— Ах, Ру, вы — цудоўная. Я баялася вашых кпінаў, а якраз вы аблегчылі мне душу.

З-за дзвярэй пачуўся голас Хэні Розэнаў. Шукалі Эву. Да яе прыйшлі.

Эва, узрушаная лёсам Эдзіт Кнор, стаяла перад Гансам Ціфенбахам, які яшчэ ніколі не прыходзіў да яе без папярэджання. Ён адразу адчуў, што нешта незвычайнае ўсхвалявала яе.

— У Эдзіт Кнор будзе дзіця, — сказала яна на яго пытанне, паспешліва, без пераходу.

— Ах!

— А Банордэн пакінуў яе.

— Гм-м.

— Ты, відаць, лічыш, што гэта нармальна? — яго няпэўныя

адказы раззлавалі яе.

— Ні ў якім разе. Але ёсць людзі, ад якіх іншага і чакаць нельга.

— Як ты лёгка пра гэта гаворыш! Магчыма гэта тыпова мужчынская рыса характару — рабіць так.

— Што ты гаворыш. Для такога маладога пеўніка як Банордэн, вядома, вельмі непрыемна трапіць у такое становішча.

— Непрыемна! Ну добра. А тое, што па яго віне дзяўчыне, можа, нават пагражае небяспека, гэта відаць, не мае значэння?

Ганс Ціфенбах стараўся не заразіцца ад Эвы яе ўзрушанасцю. У любы іншы час яго зацікавіў бы лёс Эдзіт Кнор і ён пагаварыў бы пра яе з Эвай больш і грунтоўней, але цяпер яго хвалявала рэпліка Ханке.

— Ёсць дзяўчаты, якія самі лезуць у небяспеку.

Яна глянула на яго, нічога не разумеючы. Ён загаварыў павольна, падкрэсліваючы важкасць сказанага:

— Дзяўчыну завозяць на Востраў у забаронную зону; а гэта дзяўчына дапамагае ўцякаць палітычным зняволеным. Як ты думаеш, што будзе ўкрывальнікам, калі будзе даказаны іх саўдзел?

Эва дапытліва паглядзела на яго.

— Ты ведала, каго мы бяром у лодку? — спытаўся ён і адразу прачытаў адказ у яе вачах. — Чаму ты нічога не сказала мне?

— Я баялася, што ты не возьмеш яе. Ты ж, праўда, не ўзяў бы?

Ён памарудзіў.

— Яна полька, — упарта сказала Эва.

— Дзеля каго ты рызыкуеш? — ён стукнуў сябе па лобе. — Дзеля каго — я пытаюся!

Яна паціснула плячыма, разгубілася, убачыўшы яго хваляванне.

— Пра гэта я не пыталася. Я толькі бачыла, што чалавеку трэба выканаць заданне. А ў Познані я бачыла, як абыходзяцца з палякамі. Я хацела нешта паправіць перад гэтай Марыяй.

Той, хто сёння паддаецца парывам добрага сэрца, хутчэй трапляе за краты, чым нягоднікі.

Яна пакутліва глядзела ўбок, быццам ужо прымірылася з гэтай думкай. Ён імпульсіўна абняў яе за плечы і прытуліў. Голас яго настойліва захрыпеў.

— Эў! Мне вельмі боязна за цябе. Падумай толькі, калі такі чалавек, як Ханке, мае хоць маленькае падазрэнне супроць цябе, тады хопіць і паловы таго, што адзначана ў тваёй асабовай справе, каб... Эў, гэта было б жахліва!

У яе перахапіла дыханне. Вусны задрыжалі. Яна яшчэ ніколі не бачыла яго такім узрушаным, такім усхваляваным.

— Але ж супраць свайго сумлення нічога не зробіш...

Ён абхапіў яе рукамі і пачаў шаптаць на вуха:

— Я не хачу страціць цябе, ці чуеш! Нам трэба застацца. Табе і мне. Мы будзем жыць разам — пасля вайны. Ты павінна зберагчы сябе. Ты мне абяцаеш?

Слёзы пацяклі ў яе па твары. Ён адчуў іх у сябе на скроні.

— Табе ж таксама гэтага хочацца, ці не так? — Ён вызваліў яе твар і пачаў гладзіць па валасах. — Ты мне абяцаеш. Інакш я не магу спакойна паехаць адсюль.

— Куды?

— Мяне пасылаюць у Фрыдрыхсгафен. Я змагу прыязджаць сюды толькі час ад часу на некалькі дзён, як камандзіровачны, так сказаць.

— Як Доктар адпускае цябе?

— Гэта ў яго інтарэсах. У мяне ж тут няма сталых заняткаў.

— Не, ёсць. — Яна палка ахапіла яго галаву і пачала цалаваць у лоб, вочы, шчокі, падбародак.

Ён з палёгкай уздыхнуў.

— Ёсць занятак, з табой. Дзякаваць богу, што хоць табе я яшчэ патрэбен. Але яны з гэтым не лічацца.

— Табе ж хочацца паехаць адсюль, праўда? Усе яны ганяць Востраў! Ты не дазволіў мне павесіць табе ў пакой карціну. Ты не захацеў, каб на стале быў абрус. Востраў для цябе толькі перавалачная станцыя.

— Нельга ствараць сабе дом, пакуль ідзе вайна. Гэта не па мне. Я не хачу, каб набіралася больш рэчаў, чым умесціцца ў мой чамадан.

Яна заціхла і зняла яго рукі са сваіх плячэй. Ён жа хацеў, каб яны былі вольныя — рукі! І Банордэн, пэўна, не хацеў ускладаць сабе на плечы яшчэ цяжар таму ён і пакінуў Эдзіт. Цяжар перашкаджаў на вайне дратавацца лягчэй было з вольнымі рукамі. Дзіця таксама перашкаджала. Любіць каго-небудзь — таксама перашкаджала. Усё перашкаджала, што магло пашкодзіць выратаванню сваёй шкуры. Якія ўбогія сталі людзі, якія ўбогія!

Яна схавала ўсхліпы і жальбу за гаспадарчымі клопатамі. Ён павінен запомніць яе весялейшай Яна не хацела абцяжарваць яму нават думкі.

## 7
## УЦЁКІ

Мусаліні зверглі і арыштавалі. Эве і Марліс навіну прынёс Юрген Бэр. Яны вячэралі ў казіно, і тут было не месца выказваць свае думкі

пра гэта.

Утраіх яны паціху пабрылі абходнымі сцежкамі да інтэрната. На бетонцы ў гэты час руху амаль не было. Юрген Бэр са сваім веласіпедам ішоў паміж дзяўчат. Ён быў ва ўзнёслым настроі. «Павязка слугі», значыцца, аказалася слабейшай за свастыку. Італьянцы аказаліся больш нецярплівыя, чым немцы. Да д'ябла! Каб знайшоўся такі чалавек, у якога хапіла б сілы распаліць агонь бунтарства на поўдні так, каб яго языкі перакінуліся праз граніцы! Падпольны перадатчык у Цыновіцы два тыдні назад першы раз выйшаў у эфір. Ён будзе рабіць усё магчымае, каб данесці да людзей праўду пра вайну, пра іх веру ў цудадзейную зброю. Зварот Ханы Пэплаў да маці салдатаў быў перапрацаваны. Выступіць з ім — першае заданне Марліс Хасэ. Смерць Герберта Аксэ падштурхнула дзяўчыну да актыўнага супрацоўлення. Дзякуючы сваёй пасадзе яна сустракалася з многімі людзьмі. Гэта было добра, але і небяспечна. Цяпер трэба было дзейнічаць яшчэ больш асцярожна. Па ўсім было відаць, што СС вырашыла падключыцца да аховы завода. Армію ўжо папракалі, што яе сетка недастаткова густая. Уцёкі зняволеных з канцлагера, пэўна, нарабілі шмат шуму.

Юрген Бэр не падумаў, што на гэтай дарозе яны могуць спаткаць зняволеных, інакш ён пайшоў бы другой дарогай. Шэрая калона ішла ім насустрач ад устаноўкі 02, дзе выраблаўся вадкі кісларод для печы А4. Той-сёй з мужчын падняў твар на траіх маладых людзей. Эва, здавалася, вывучала кожны твар, а Марліс стаяла панурая, не адважвалася павярнуцца.

— Тры ўцяклі, — сказаў Бэр. Ён паглядзеў услед групе, не хаваючы сваёй радасці. Марліс ціха сказала:

— Колькі мужнасці трэба на гэта. І колькі сілы.

— Без дапамогі такое тут нікому не ўдасца. — Юрген Бэр глянуў зверху на Эву. Яна пазбягала глядзець на яго.

Пасля ад'езду Ціфенбаха яна ўхілялася ад сустрэч з Юргенам Бэрам, быццам тым самым яна магла зменшыць небяспеку, ад якой яе перасцерагаў Ганс. Тое, што Марліс, здавалася, ужо некалькі месяцаў іграла ролю ў жыцці Юргена, спачатку непрыемна ўразіла Эву, а абыякавасць, з якой яна ўспрыняла гэта знешне, не лёгка давалася ёй. Марліс замаўкала, калі Эва пачынала размову на гэту тэму. Але сяброўка, здаралася, блытала імёны Бэра і Аксэ. Сустрэча са зняволенымі, відаць, моцна ўсхвалявала яе.

— Часам у мяне з'яўляецца жаданне захапіць уладу, — гаварыла Марліс. — Тады я вызваліла б усіх гэтых бедалаг.

— Ты гэтага не зрабіла б, — упэўнена сказаў Юрген Бэр.

Абедзве дзяўчыны паглядзелі на яго з неадабрэннем Эва сказала:

— Чаму — не? І я б выпусціла вязняў.

— Не так усё проста. Дапусцім, вы ўзялі ўладу ў нашай дзяржаве і паспрабавалі кіраваць ёй з самымі шчырымі намерамі. У вас усё роўна не было б волі. Вы аказаліся б нявольніцамі сістэмы. А зняволеныя — ворагі гэтай сістэмы. Яны адразу выступілі б супраць вас, хоць бы вы і вызвалілі іх.

— Незразумела, ды і ўсё, — сказала Эва.

— Дык што ж трэба рабіць, каб можна было вызваліць іх?

— Ліквідаваць сістэму. Вашы добрыя сэрцы плюс улада не могуць уратаваць нас ад бездані. Трэба карчаваць карэнне.

— Ты думаеш, што ўжо нехта ўзяўся за абцугі — спыталася Эва.

— Спадзяюся, — падкрэслена выразна прамовіў Юрген Бэр.

Яны зноў выйшлі на больш ажыўленую дарогу і на нейкі час прымоўклі. Недалёка ад лагера ім сустрэлася адкрытая службовая машына. Яна ехала вельмі хутка. І усё-такі Эва пязнала Траўдэ Хёрзельман. Па ўсёй верагоднасці здарылася нешта. У маўклівай задумлівасці яны дайшлі да дома Зэештэрн. У доме баязлівым шэптам ад аднаго да другога перадавалася жудасная вестка: Вільфрыд Парызіус пацярпеў катастрофу.

Вільфрыд Парызіус загінуў. Траўдэ Хёзельман ледзьве перанесла цяжкі нервовы крызіс. Гаварылі, што фраў Клемт самаахвярна даглядала яе ў сваім доме з Марліс Хасэ. Лётчык стаў ахвярай сваёй небяспечнай прафесіі — сумны няшчасны выпадак пры першым выпрабаванні паветранай тарпеды «велікоднае яйцо».

Твар Хайнца Брэтшнайдэра апаў.

— Мы ўвайшлі ў паласу няўдач, — сказаў ён. — Гэта — як прамень пражэктара. Трапіўшы ў яго, не выскачыш ні ў які бок. Трэба ісці з ім да канца.

Яго кузіна Марліс Хасэ сядзела насупраць у яго кабінеце. Яна даўно не была тут. Апошні раз яна сядзела тут, калі Герберт Аксэ знайшоў сабе смерць. Яна добра ведала, што гэта — самагубства, бо яна знайшла тады Цобеля, яго таварыша. Яна не паверыла ніводнаму слову стрыечнага брата пра няшчасны выпадак і з пагардай адносілася да яго за грубую хлусню. Некралог па Аксэ ў рубрыцы загінуўшых здаўся ёй знявагай.

Цяпер яны загубілі Парызіуса. Інакш, чым Аксэ, але таксама іх метадам. Уліг, таварыш Парызіуса, міжвольна працадзіў праз зубы тое, што было яму вядома. Яму забаранялі гаварыць, калі ён стукнуў кулаком па стале і абвінаваціў Клемта ў безадказнай легкадумнасці.

Марліс ужо не была той мяккай, легкавернай выхавацелькай,

якой яна пачынала сваю кар'еру. Карыстаючыся даверам жанчын, яна даведалася і пра тое, што не было прызначана для вачэй і вушэй шырокіх мас.

Брэтшнайдэр ужо даўно заўважыў перамены, якія адбыліся з Марліс. Яна ад'язджала да бацькоў і па традыцыі прыйшла да яго развітацца. Яму было цяжка зноў пачынаць непрыемную ёй справу, але гэта быў яго абавязак. Ён вымушаны быў звярнуць яе ўвагу на небяспеку, якая магла пагражаць ёй ад таго, што яна жыла разам з Леангард. Як выхавацельцы ёй трэба было паклапаціцца і пра сваю палітычную рэпутацыю. Нельга было заставацца жыць у адным пакоі з дзяўчынай, за якой хочаш не хочаш неўзабаве будзе ўстаноўлены нагляд. Фраў Клемт з размовы з Траўдэ даведалася, што Леангард спазнілася пасля выхадных. Хітры Ханке адразу зрабіў з гэтага свае вывады, бо гэта быў адзіны выпадак, калі лодку прыняў не сам вартаўнік лодачнай станцыі. А неўзабаве пасля гэтага ўцяклі зняволеныя. Брэтшнайдэру каштвала вялікіх намаганняў паведаміць усё гэта стрыечнай сястры.

Марліс выслухала спакойна, а потым з пагардай сказала:

— Калі б ты быў не мой стрыечны брат, я не стала б з табой размаўляць. Ціфенбах і Эва былі на Ругене. Гэта праўда. І яна вярнулася назад вельмі шчаслівая. Чаму ж вы адпусцілі Ціфенбаха, не спытаўшыся ў яго, ці прывёз ён каго?

— Такое пытанне не мае сэнсу. У нас няма намеру злавацьЦіфенбаха. Ён — велічыня і хутка, магчыма, будзе вельмі карысны нам.

— Так, а малой вылічальнікі не шкада.

— Ты ведаеш, хто яна такая. Мы не можам давяраць бясконца, ты гэта добра ведаеш. З ёй нічога не здарыцца, калі доказаў не будзе. Але калі ўжо зайшло так далёка, табе нельга жыць з ёю разам. А можа, ты возьмешся сама сачыць за ёю?

— Барані бог. Я на гэта не здатная.

— Я раблю табе прапанову. Мы чакаем Карлу Вінтэр. Яна згадзілася на першым часе замяніць Парызіуса. ёй патрэбны добры асобны пакой. Вось і будзе прычына перавесці некалькіх чалавек у вашым доме. Калі ты спрытна правернеш усё гэта, Леангард ні аб чым не здагадаецца.

Брэтшнайдэр быў рады, не сустрэўшы больш супраціўлення. Толькі адну ўмову паставіла кузіна — адкласці ўсё да яе вяртання з водпуска.

Марліс знайшла Эву і Эдзіт Кнор на пляжы. Яны хадзілі наведаць Траўдэ Хёрзельман у кампаніі дзяцей Клемта. Траўдэ хацела на другі дзень вярнуцца ў дом Зэештэрн.

Яна паспакайнела, а летні загар прыкрыў глыбіню вочных ямін. Але ў куточках вачэй з'явіліся балючыя зморшчыны, вейкі часта міргалі, а сутаргава сціснуты рот рабіў яе падобным да чалавека, які вымушаны бесперапынна глядзець на яркае святло.

Ніхто не перадаў Траўдэ слоў, якія Уліг, не стрымаўшыся, сказаў д-ру Клемту. Яна была надзвычай удзячная сям'і Клемтаў. Сямігадовая Вініфрэд была асабліва адданая ёй, і калі пяшчотна абдымала яе, ёй заўсёды даводзілася перажываць боль страты. Парызіус хацеў мець шмат дзяцей. У першую чаргу — маленькіх дзяўчатак. Навошта абавязкова гэтыя «крывыя хлопцы», якімі так ганарыліся бацькі! Ён, вялікі дужы хлопец, хацеў мець ласкавых дзяўчат. А ўсе яго жаданні сталі яе жаданнямі. І вось цяпер, калі яго больш няма, не было і ніякіх жаданняў, была толькі страшэнная пустата.

Эва і Эдзіт Кнор засыпалі Віні аж па шыю пяском. Яна гарэзліва ўвесь час варушыла маленькімі пальчыкамі ног, так што будаўнікі ніяк не маглі закончыць сваю работу. Чатырохгадовы Норберт захацеў, каб потым з ім зрабілі тое самае, і Марліс хапіла працы, калі яна далучылася да іх.

Добра, што рукі будуць занятыя, калі яна будзе гаварыць Эве, што ёй трэба было сказаць. Яна назірала за Эвай, якая падтрымлівала Эдзіт, гуляючы з пясочкам.

— Хадзі сюды, дапамажы мне, — крыкнула Марліс сяброўцы. — Норберт хоча, каб і яго засыпалі.

— Да барады, як Віні, — нецярпліва патрабаваў малы.

Эва, смеючыся, змяніла будаўнічую пляцоўку. Яна пачала прыгаршчамі насыпаць пясок за спіной Норберта. Марліс была побач.

— Ты ў добрых адносінах з Эдзіт Кнор, — пачала яна няпэўна.

— Яна мілая. Мне здаецца, што цяпер ёй патрэбна падтрымка.

— Так. А як бы ты аднеслася да таго, каб жыць разам з ёю? — У Эвы пясок пасыпаўся з рук.

Сяброўка паспешліва гаварыла:

— Толькі на пару месяцаў, пакуль яна не паедзе. — Марліс не заўважала, што рабілі рукі, так пранікліва свідраваў яе позірк Эвы.

Норберт лаяўся:

— Ты ж зноў ссыпаеш з мяне пясок. Я хачу, каб мяне закапалі раней, чым Віні.

— Справа, шчыра кажучы, вось у чым, — працягвала Марліс, адначасова стараючыся выканаць пажаданні Норберта, — нам трэба вызваліць для Карлы Вінтэр асобны пакой. Тут гаворка можа ісці толькі пра вуглавы пакой Хэні Розэнаў. Але я не магу перавесці Хэні да Эдзіт. Ты ж ведаеш яе з вечным «хух» і яе дзівацтвамі. Яна не

вельмі спачувае Эдзіт.

— А ты хочаш жыць з Хэні?

— Прыйдзецца. Магчыма, толькі часова. Вінтэр жа, пэўна, не будзе тут вечна.

Эва, нічога не бачачы, глядзела на пясок. Няўжо і для Марліс яна стала цяжарам, ад якога лепш пазбавіцца, каб вызваліць рукі? Няўжо ва ўсім доме Зээштэрн не было іншай магчымасці ўладкавацца з пакоямі? Але няхай Марліс, ад якой у яе не было амаль ніякіх сакрэтаў, якой яна паказвала свае вершы і якая адна толькі ведала, як яна сумавала па Гансу Ціфенбаху, не баіцца, што яна будзе навязвацца. Яна не хоча быць цяжарам нікому, нікому!

— Пагавары з Эдзіт, — суха сказала яна. — Мне ўсё роўна.

— Няма спеху. Калі я вярнуся з водпуска, мы гэта ўладзім, — сказала Марліс праз сілу.

Юрген Бэр у той вечар прыйшоў без веласіпеда. Гэта было яшчэ больш дзіўна, чым факт, што ён ціха пастукаў у дзверы да Эвы, калі ўжо зусім сцямнела. Яна ўжо рыхтавалася спаць і падумала, што гэта Лабан папярэджвае пра дрэннае зацямненне. — Яна рабіла яго не так старанна, як Марліс, часта забываючыся зацягнуць верхнія краі чорных штораў.

Юрген Бэр хуценька праціснуўся ў пакой. Ён яшчэ, як заўсёды, спрабаваў жартаваць. Але ён змяніўся. Эва гэта адразу заўважыла.

— Цябе камарад Міргун прапусціў яшчэ?

— Я падабраў момант, калі яго не было ў пакоі. Мяне ніхто не бачыў, калі я прайшоў. Можна мне пабыць у цябе пару гадзін?

Пару гадзін! У дзесяць мужчынам ужо нельга было заставацца ў доме, заставалася менш гадзіны. Распарадак дома быў яму вядомы. Значыць, нешта здарылася, калі траціў сілу любы распарадак. Раптам яна здагадалася: яму пагражала небяспека! Ёй не спатрэбілася доўга распытваць. У іх размовах былі забароненыя думкі — гэта яна ведала даўно. Ён уваходзіў у цыновіцкі гурток, некалькі членаў якога ўжо былі арыштаваны, — яна была амаль упэўнена. Яна ведала, чаму пазбягала яго з тых пор, як Ганс стаяў у гэтым пакоі і гаварыў пра сумесную будучыню. Яна змірылася з тым, што пры сустрэчах Юрген Бэр вітаўся з ёй, кпліва ўсміхаючыся, і што ён у апошні раз запрашаў Марліс пакатацца на веласіпедах або на лодцы. І вось ён стаяў тут, на тым самым месцы, дзе з месяц назад стаяў Ганс. У яе было пачуццё, быццам яна зноў бярэ на борт дзяўчыну са светлым тварам. Але інакш яна не магла.

— Калі Лабан цябе не бачыў, тады ты ў надзейным месцы, — ціха сказала яна. — Што здарылася? Яны ўжо шукаюць цябе?

З палёгкай уздыхнуўшы, Юрген Бэр прысеў Толькі цяпер Эва ўбачыла, як ён хваляваўся.

— Мяне папярэдзілі. Было б самагубствам, калі б я цяпер вярнуўся ў свой пакой.

— Дзе ты быў да гэтага часу?

— У нас ёсць сховішча. У кустах каля дарогі. Там я атрымаў звестку. Заставацца там было небяспечна. Магчыма, яны вышлюць патруль для прачэсвання. Я падумаў сабе: калі ў доме ўсе заснуць, ты правядзеш мяне ў падвал, дзе веласіпеды.

— Не, гэта не гадзіцца. Гэта — мышалоўка. Лабан адмыкае толькі ў шэсць гадзін раніцы. А праз вокны не выйдзеш. На іх краты.

— Чорт! Што ж рабіць?

— Трэба пакуль што заставацца тут.

— А ты ведаеш, як табе небяспечна?

— Паспрабуем зрабіць так, каб ніхто нічога не заўважыў. Ты вылезеш раненька праз акно на першым паверсе.

Эва ўзяла ручнік.

— Я пайду ў ванну. Ты можаш памыцца тут. Потым табе трэба нечага з'есці. Замкніся за мной і сядзі ціха, калі хто будзе стукаць. Я толькі націсну на клямку, калі вярнуся.

— Дзякуй, Эва, — прашаптаў ён, выпускаючы яе.

Лабан шаркаў па калідоры, у адны дзверы ён пастукаў і сказаў з ветлівай настойлівасцю:

— Ужо дзесяць. Пану трэба ісці. — За дзвярыма гучна засмяяліся.

— Добра, добра, — адказаў бестурботны голас.

Эва ў халаце, з ручнікам на руцэ, прайшла міма
вахцёра ў свой пакой. Яна ветліва пажадала яму добрай ночы.

Бэр скінуў куртку і разуўся.

— Можаш класціся ў пасцель Марліс, — сказала яна.

Ён адмовіўся, калі яна хацела паслаць.

— Не трэба! Я прылягу так, наверх. Я не буду спаць. Мне нельга прапусціць час.

Яна намазала яму тоўстыя лусты шмальцам.

— Можна адну палажыць у кішэнь?

— Не, гэтыя з'еш цяпер. У мяне ёсць яшчэ крыху ліvернай каўбасы.

— Тады ў цябе нічога не застанецца на заўтра.

— З голаду неяк не памру.

Ён з'еў яшчэ штучнага мёду і астатак пірага. Яна моўчкі сядзела, захінуўшыся ў чырвоны халат. Ён прыпомніў, як яна здалася яму

шэрым карлікам, у той халодны вечар на пляжы. З таго часу прайшоў ужо амаль год. «Я люблю цябе», — вымушаў ён сказаць яе тады, але гэта была толькі гульня: гульня-ўрок, над чым ёй трэба было задумацца. А яго гульня ўсхвалявала, і з таго часу ён вырашыў не ўключаць яе ў групу. Хана Пэплаў хутка зразумела, што ён вырашыў трымаць Эву ўбаку. Але яе ўчынкі і памкненні залежалі не толькі ад яго. Яна перавезла польку Марыю, і ўцёкі траіх зняволеных удаліся. Больш у яго не было да каго пайсці.

Яго папярэдзіла Ру.

Апоўдні бібліятэкарка панесла Доктару ў мужчынскі інтэрнат кнігі па спецыяльнасці і ўбачыла, што вахцёр вельмі разгублены. У яе закралася падазрэнне, і, непрыкметна абышоўшы ўвесь інтэрнат, яна заўважыла, што Бэраў пакой быў перавернуты дагары. Папярэджанне ён ужо атрымаў тры дні назад ад Ханы Пэплаў. Новыя супрацоўнікі, што сядзелі, ў аддзеле Брэтшнайдэра, запатрабавалі асабовыя справы ўсіх кіраўнікоў службаў і вучоных. Гэта вельмі занепакоіла Хану. Ужо некалькі месяцаў, з таго часу як прыехалі з Берліна новыя людзі, у доследнай установе было неспакойна. Прычына, мусіць, была і ў палітычных няўдачах: крызіс у Італіі, паражэнні на Усходнім фронце, высадка амерыканцаў у Еўропе. А на Востраве: уцёкі зняволеных, няўдалы запуск «Кіршкерна», гібель Парызіуса. Панавала нервовасць, і ўсюды мроілася здрада. Той факт, што Бэру на апошнія доследы з палівам спатрэбілася больш часу, чым раней, і што ў самай цяжкай серыі выпрабаванняў была знойдзена памылка, якую ён прапусціў, спадзеючыся на няўважлівасць Водрубы, — усё гэта разам з недаверам, які цягнуўся за ім з універсітэта, мусіць, выклікала падазрэнне да яго. Перадатчыка не знайшлі. Пра гэта яму яшчэ паспелі паведаміць.

Добра было, што сховішча ў соснах на сур'ёзны выпадак — справа вырашаная. Фрэстэрскі шафёр быў інфармаваны. Ён не пакіне яго на волю лёсу.

Юрген Бэр адчуў, як паслабела яго ўнутранае напружанне. Ён назіраў за Эвай, якая ціхенька хадзіла туды-сюды і нарэшце лягла на ложак у халаце.

— Ты не хочаш спаць? — спытаўся ён.

— Не. Не магу.

— Каб пагаварыць, ты занадта далёка ад мяне. Нам трэба шаптаць. Калі ласка, ляж каля мяне... Калі ласка.

Яна павагалася і села да яго на пасцель. Ён падсунуў ёй падушку.

— Мне толькі хочацца, каб побач быў чалавек, больш нічога. Ты

не разумееш? Сёння ў сасонніку я здаваўся сабе зверам, на якога палююць. А гэта ж толькі пачатак. — Яе насцярожанасць знікла. Яна стала такая ж непатрэбная, як і распарадак дня ў доме, устаноўлены вайсковай адміністрацыяй.

— Як ты думаеш жыць цяпер? — спыталася яна.

— У мяне ёсць некалькі адрасоў. Самы блізкі — каля Штэціна. На першым часе мне трэба схавацца, жыць падпольна.

— А гэта магчыма?

— Шмат хто ўжо жыве так. Ты і не здагадваешся.

— Я сапраўды не здагадваюся. Ты так шмат прыклаў намаганняў, але я аказалася нягодным аб'ектам, праўда?

Ён пакруціў галавой, дзіўна ўсміхаючыся.

— Я ведаю, — хутка сказала яна. — Я разумею, якой нянавісці варта гэта ўсё: вайна, усюдная хлусня, пахвальба вялікай Германіяй і шуміха вакол герояў. Я ведаю, што я павінна ненавідзець такіх, як Ханке, напрыклад, а магчыма, і Брэтшнайдэра. Але я не магу. Нядаўна Ханке так весела расказваў нешта ў казіно, што мне падумалася: ён даволі мілы. А мне хочацца ацэньваць людзей, якія яны ёсць на самай справе, а не па тым, як яны ставяцца да мяне. Ты гэта разумееш? Мне хочацца быць аб'ектыўнай.

— Аб'ектыўнай можна быць толькі тады, калі навучышся адрозніваць хлусню ад праўды.

— Гэтага я, мусіць, яшчэ не ўмею.

— Не ўмееш. Але ты ўжо на правільным шляху.

— А як я даведаюся, што навучылася?

— Калі табе да канца стане ясна, што на гэтай вайне ваююць не за нашу справу. Калі ты зразумееш, што дэзерцір на гэтай вайне — не здраднік або баязлівец. І той, хто аказвае супраціўленне, таксама не такі. І я таксама. А больш табе ведаць не трэба! Тое, што ты робіш сёння, — вельмі шмат. Для цябе гэта — вялікая нагрузка. Толькі адно пастарайся зразумець: гэта вайна ідзе не за інтарэсы Германіі. «Бязродныя» не мы, на якіх палююць; бязродныя — яны, самі паляўнічыя, якія толькі і гавораць пра Радзіму. Яны выстаўляюць сябе ўзнаўляльнікамі нацыі, а самі — яе магільшчыкі. Платныя магільшчыкі! Запомні гэта як след! Яшчэ выявіцца, хто былі іх гаспадары, калі будуць падводзіцца вынікі, пасля вайны. Потым будуць здзіўляцца, што засталося і што загінула. Жылыя кварталы лётчыкі разбураюць дашчэнту, а вялізныя міжнародныя заводы яны ашчаджаюць. Гэта мусіў прызнаць нават Клемт. Мы аднойчы гаварылі пра гэта. Вялікія гандляры нажываюцца на вайне, ходзяць у царкву і фінансуюць Гітлера. Нічога не зробіш, дзяўчына, трэба вучыцца ненавідзець... Пра

што ты думаеш? — Ён аблакаціўся і загледзеўся на яе спакойны твар.

— Шмат пра што. Пра Антыгену, якая не ўмела ненавідзець, але была вялікая ў каханні. І пра Іфігенію.

— Гётэ?

— Так... Ён гаворыць нам пра голас праўды: «Яго чуе кожны, народжаны пад любым н.ебам, каму крыніца жыцця чыста і бесперашкодна ўліваецца ў грудзі»:

Бэр уздыхнуў.

— Мне хочацца, каб мы дажылі да таго часу, калі можна будзе запрасіць у сваё жыццё Гётэ. Але стары, пэўна, раззлуецца на нас. Мы дапускаем, каб у Франкфурт бурылі дом, дзе ён нарадзіўся. Лепш бы нам спаткацца з табой па-гётэўску. Ён умеў жыць — любіць. Але час супраць нас, і я назаляю табе праблемамі і філасофіяй. Я адпусціў цябе да іншых з тым, чаго патрабавала тваё сэрца. Ці не так?

— Не, Юрген. Мне не хочацца бачыць цябе іншым. Нам з табой заўсёды было добра. Я не ведаю, што б са мной сталася без цябе.

— У цябе цудоўны талент — некалькімі простымі сказамі зрабіць прыемнае. Пазней ты павінна выкарыстаць гэта. Ты яшчэ пішаш?

— Я прасіла Марліс не расказваць пра гэта. Глупства ўсё. Імпульсіўна. Нічога не прадумана.

— Ну і нічога. Ты яшчэ ў самым пачатку. Трэба пашукаць людзей, якія могуць даць табе параду.

— Марліс умее даць правільную ацэнку. Але цяпер я ўжо ёй нічога не пачытаю.

— Вы пасварыліся? — Эва расказала, як расчаравала яе сяброўка. — Відаць, Брэтшнайдэр даў ёй перцу, і яна здалася.

Юрген Бэр зноў задумліва прылёг. Праз якую хвіліну ён сказаў:

— Значыць, яна табе не расказала?

— Яна атрымала заданне — ад вас.

— Не! — Юрген Бэр кіўнуў. — Я загадаў ёй нідзе не прагаварыцца. Яна павінна заставацца надзейнай кузінай Брэтшнайдэра, выхавацелькай, перад якой цягнуцца ў струнку вахцёры. Яна змаладушнічала, ты маеш рацыю, але яна ведала чаму.

— Тады я была несправядлівая з ёю. Мне вельмі шкада. Калі яна ад'язджала, я аднеслася да яе даволі не па-людску.

— Яна табе даруе.

— Добра. Няма лепшага чалавека за яе, праўда?

Юрген Бэр паглядзеў на гадзіннік.

— Не заўважаць, што ў цябе ўсю ноч гарыць святло? Пайшла трэцяя гадзіна. Дом як вымер.

Эва ўстала і павярнула ручку радыёпрыёмніка. Лямпа шкалы за-

свяцілася матавым святлом праз сетку задняй сценкі. Яна выключыла настольную лямпу.

— Колькі яшчэ часу?

— Добрая гадзіна.

— І для сям'і ты прападзеш без вестак.

— Так.

— І для заручанай?

— Адкуль ты ведаеш?

— У самым пачатку ты аднойчы гаварыў пра заручэнне. Але мне здалося, што не зусім сур'ёзна. Таму я ніколі і не пыталася. Яна вельмі будзе перажываць за цябе?

— Увогуле не будзе.

— У вас не склаліся адносіны?

— Я, відаць, мнагавата патрабаваў ад яе. У калядны водпуск я два дні быў у Гюрставе, перш чым трапіць дадому.

— А што ты рабіў у Гюрставе?

— Трэба было забраць малюнак.

— Два дні.

— Яшчэ трэба было заняцца спадчынай Барлаха. Часу было мала.

— Хто гэта — Барлах?

— Яго няма. Ён быў. Адзін з сапраўдных вялікіх. Скульптар, мастак, паэт. Потым, калі «тысяча год» пройдзе, ты пазнаёмішся з усім, што ён стварыў.

— Тады я буду зусім старэнькая. Барлах належыць да перараджэнцаў?

— Ён мае гонар быць сярод іх. Яго сябры ў Гюстраве берагуць яго творы. Мой бацька быў знаёмы з ім. Мне трэба было перадаць графічны малюнак.

— Ён падобны да Мазерэля?

— Не, не такі. Але такі ж велічна зямны.

— Тады твая нявеста павінна была б зразумець цябе.

— Давай лепш больш не будзем гаварыць пра гэта. Каго няма, той не можа мець і нявесты. Ты ж таксама не хочаш, каб я ўпамінаў нейкага Ведэльштэта.

— З тым, хто расстрэльвае заложнікаў, я не хачу мець ніякіх спраў.

— Ты можаш дастаць да лямпы? Мне трэба паглядзець на гадзіннік.

Яна націснула на кнопку.

— Колькі яшчэ часу?

— Паўгадзіны.

Яна зноў патушыла святло.

— Ікс мінус трыццаць. Час ідзе.

— Для большасці людзей аднойчы настае гадзіна ікс. Што ты скажаш, калі нехта заўважыў, што ўсю ноч у цябе прабыў мужчына?

— Я скажу тое, што напрошваецца само.

Ён прасунуў галаву паміж падушкай і яе шыяй і вуснамі пачаў шукаць цела паміж пасмамі валасоў. Потым ён паспешна ўстаў.

— Ікс мінус пяць. Я вазьму туфлі ў руку.

— Добра, — прашаптала яна. — Не будзем уключаць святла. Вось бутэрброды.

— Дзякую.

— Што я магу зрабіць для цябе яшчэ?

— Зачыніць за мной акно.

— Больш нічога?

— Гэта вельмі шмат.

— Не, мала.

У матавым святле ад радыёпрыёмніка яго галава здавалася асабліва цёмнай, а фігура надзвычай высокай. Яму цяжка застацца непрыкметным, падумала яна, прыцягваючы яго галаву да сваіх вуснаў. Ён прыняў яе пацалунак з такім палам, быццам хацеў вырваць у лёсу задатак на шчасце.

Эва правяла высокага юнака праз цёмны калідор уніз па лесвіцы. Фае з зашклёным балкончыкам размяшчалася пасярэдзіне дома. Пакой Лабана ў самым канцы калідора быў на такой адлегласці, што ён пачуць нічога не мог.

Папяровае зацямненне зашамацела крыху, калі Эва асцярожна адсунула яго ўбок. Світала. На гарызонце над морам з'явіўся ружаваты водсвет. Сонца заяўляла аб сабе.

Бэр ускочыў на падаконнік, пагледзеў уніз. Саскочыць яму не цяжка. Эва падганяла. Яна пачула ў туалеце насупраць шум вады. Створка акна была вельмі вузкая, яго пінжак зачапіўся за зашчапку. Пакуль яна яго адчапляла, у яе за спіной пачуўся прыглушаны, але вельмі тонкі воклік. Юрген Бэр саскочыў.

Эва хуценька павярнулася.

Спужаная Хэні Розэнаў, ухутаўшыся ў халат, стаяла ля дзвярэй туалета і, утаропіўшыся, глядзела на Эву, якая па-змоўніцку прыклала палец да рота. Потым яна ўбачыла, як Эва падала ў акно пару мужчынскіх туфель. Дробненькімі крокамі Хэні заспяшалася па калідоры назад у свой пакой і замкнулася. Божа мой, на што толькі не здатныя маладзейшыя, пакуль ты спіш! Зразумела, Эдзіт Кнор такім

жа чынам нажыла сабе дзіця... Хэні больш не магла заснуць. Не, гэта ўжо занадта. Яна ніколі б не падумала, што Леанцінэ зойдзе так далёка.

На золку, першыя грузавікі «Будаўнічага штаба Шпэр» пакідалі стаянку доследнай установы. Яны сустракаліся з дзяжурнымі начнога патруля, што вярталіся дадому, на галоўным прапускным пункце, дзе вартавы, правяраючы дакументы, пуцявыя лісты, выконваў свой абавязак, хоць шафёры і вартавыя добра ведалі адзін аднаго. Дзве машыны праехалі. Каля трэцяй вартавы здзівіўся.

— Ты зноў вярнуўся з Фрэста? Ты ж толькі ўчора раніцай перасек канал з дальняга рэйса?

— Трэба было замяніць. — Шафёраў голас гучаў хрыпата і рэзка. — Мой зменшчык захварэў. Свінства! Але што зробіш?

— Начаваў на брандвахце, ці што?

— Гм. Для мяне ж у гэты час ніхто не пусціць параход.

— Ну, тады шчасліва, — падбадзёрваючы, кіўнуў вартавы і аддаў паперы ў машыну. — Да Прэнцлаў не так далёка.

Чалавек за рулём коратка развітаўся і націснуў на газ.

«Цяпер пачынаецца самае галоўнае», — падумаў ён. Добра, што тыя дзве машыны ўжо ад'ехаліся. Д-р Бэр не будзе такі неасцярожны, каб, пачуўшы гул грузавіка, выйсці на дарогу і размахваць рукой.

Непадалёк за станцыяй заводскай чыгункі Карлсхаген — так было дамоўлена. Ён, шафёр з Фрэста, нямала здзівіўся, калі ўчора вечарам Хана прыслала яму сігнал трывогі.

Яе бацька, стары Пэплаў, які ўжо даўно стараўся абыходзіць яго, сам прынёс вестку. Па ім было відаць, што гэта далося яму нялёгка. Відаць, дачка сумела пераканаць яго, што тут на карту пастаўлена жыццё. Да гэтага часу рыбак асцярожна трымаўся ў баку ад усіх спраў. Але на гэту паездку ў яго было алібі. Урэшце, ніхто не мог папракнуць яго за тое, што ён у час невялічкай вячэрняй прагулкі на старой рыбацкай лодцы наведаў сваю пляменніцу, жонку фрэстэрскага карчмара, якая ляжала пасля родаў. Ён адзін быў у чоўне — на гэта ў яго былі сведкі.

Хана Пэплаў заўсёды вельмі дэталёва абдумвала ўсё, што рабіла, і нават не магло быць сумнення, што яна прыдумала, як паведаміць Бэру, дзе чакаць грузавіка.

Станцыя Карлсхаген!

Шафёр скінуў газ і насуперак правілам выехаў далёка на левы бок дарогі. Рэдкі сасоннік даходзіў аж да прыдарожнай канавы. Адсюль павінен быў выйсці Бэр, бо з другога боку былі рэйкі, а за імі адкрытае поле.

Шафёр спыніўся і падняў капот. Заўсёды трэба мець зачэпку для прыпынку, хоць у гэты час наўрад ці маглі з'явіцца якія прахожыя. Нягледзячы на стому ад апошняй паездкі, у якой ён быў тры дні, што адчувалася ва ўсім целе. Ён быў вельмі пільны і востра сачыў за сасоннікам. Дрэвы шумелі. Астатняе ўсё было ціха.

Даволі доўга ён корпаўся з гаечнымі ключамі і абцугамі ў машыне. Чаму не ішоў Бэр? Чорт ведае як светла ўжо!

Шафёр паглядзеў на гадзіннік. Ён ужо спазняўся на пятнаццаць хвілін. Што здарылася? Няўжо яго злавілі?

Чалавек каля паднятага капота занепакоіўся. З кожнай хвілінай стаяць і чакаць тут рабілася небяспечней. Хутка з доследнай установы павінна выйсці наступная група машын. На гэтай вузкай частцы Вострава мелася толькі адна дарога для машын. Усе праязджалі тут. Акрамя таго, хутка на ранішнюю змену прыедзе персанал заводскай чыгункі.

У бездапаможным роздуме, чым бы яшчэ прыкрыць сваю затрымку. Ён абышоў вакол машыны.., і спужаўся.

Па той бок дарогі, на скрыжаванні, дзе была дарога да мужчынскага інтэрната, стаяў чалавек. Стаяў, відавочна змораны і бесклапотны, прыхіліўшыся да тэлеграфнага слупа. У яго быў такі выгляд, быццам ён, ноччу ішоў па дарогах, якія не правяраюцца, а цяпер чакае першага цягніка, каб трапіць на працу.

Такі ў яго быў выгляд! Але ў сапраўднасці ўсё магло быць зусім інакш. Колькі прастаяў ужо там гэты хлопец, магчыма, скоса назіраючы за ім? Чалавек з Фрэста навучыўся быць асцярожным. З абыякавым выглядам ён закрыў капот, знарок нагрымеў інструментам і ўсеўся на шафёрскае крэсла. «Трэба абавязкова ехаць», — падумаў ён.

Перад ім на некалькі кіламетраў ляжала роўная стужка шашы. Ужо было даволі светла, каб можна было разгледзець яго. Ён не заўважыў і маленькага знака, які б гаварыў аб блізкай прысутнасці Бэра. Сцяўшы вусны. Ён націснуў на стартэр. Злавілі, падумаў ён, магчыма, выдалі шпікі. Навошта тады гэта праклятая паездка? Ён сутаргава змагаўся са свінцовай зморай, якая навалілася на яго.

Доўгія ногі Юргена Бэра ступалі так шырока, як толькі маглі, па ўзлеску на пясчанай узгоркавай мясцовасці. Ён бег, скакаў, спатыкаўся, зноў падхопліваўся. Дыханне стала цяжкім. «Дыхаць! — загадваў ён сабе. — Дыхаць! Мне трэба пераадолець гэтую прамую, пакуль машына скранецца з месца. Толькі за паваротам я магу паказацца. Да гэтага шафёр можа мяне ўбачыць каля тэлеграфнага слупа ў Карлсхагене. Таварышу ні ў якім разе нельга яшчэ раз спыняцца перад паваротам». — Юрген Бэр спаткнуўся, падскочыў.

Праклятыя ямы былі нібы пасткі. Але ён не адважваўся выбегчы на дарогу. Ужо было занадта светла. Яшчэ дзвесце метраў. Па бегавой дарожцы — некалькі секунд, а па перасечанай мясцовасці — пакуты.

Яго напятыя органы пачуццяў прыслухоўваліся да кожнага шуму. Ці завёў таварыш матор? Не дзіва. Ён жа, напэўна, убачыў нямую фігуру ля тэлеграфнага слупа і зразумеў, што ў гэтым месцы ён не можа сесці ў машыну. Ужо два грузавікі з шумам прамчаліся міма. Але ж не магло быць, каб ён, даўні таварыш па барацьбе, праехаў з хуткасцю шэсцьдзесят кіламетраў, нікольки не пачакаўшы.

А калі так? Калі незнаёмая постаць на скрыжаванні так збіла яго з панталыку, што ён не адважыўся спыніцца? Ды яшчэ, калі ўслед за ім імчала другая машына? Юрген Бэр ліхаманкава думаў. Перш чым ён пехатой дабярэцца да Вольгасцкага парома, дарогі запоўняцца людзьмі. А палове восьмай — пачатак працы. У самым лепшым выпадку, — калі напярэдадні яшчэ не пачаўся вышук, бо вобыск яго пакоя наўрад ці даў нешта падазронае, — у пачатку працы абавязкова адкрыецца яго знікненне. Тады ён страціў каштоўныя гадзіны, а яго шанцы бесперашкодна вырвацца з непасрэднага акружэння Вострава будуць роўныя нулю.

Яго шанцы былі і так малыя — ён гэта ведаў. Але яны здаліся яму непараўнальна вялікімі перад фактам, што яму давядзецца без ніякай дапамогі, разлічваючы толькі на свае ногі, уцякаць з Вострава, дзе зямля цяпер гарэла ў яго пад нагамі.

Нарэшце ён мінуў паварот. Агледзецца на дарозе ён спачатку не адважыўся. Ён спыніўся, знямажаны, пераскочыў, нязвыкла для сябе цяжка, праз прыдарожную канаву і схаваўся за кустом.

Тут ён пачуў шум матора. На імгненне ў яго было такое адчуванне, што сэрца вырываецца ў яго з грудзей. Прычына — бег па перасечанай мясцовасці, нервовае напружанне, страта апошняй надзеі. Ён яшчэ не бачыў грузавіка, які набліжаўся, але чуў, што ён едзе на хуткасці.

«Ён ужо мяне не чакае!» — мільганула думка ў галаве Юргена Бэра. Ці і цяпер гэта не наш таварыш? Мне нельга паказвацца.

Рука Юргена Бэра абхапіла маладую, у калена, сасонку на краі дарогі.

Шум матора набліжаўся. Машына пачала паварочваць. Знак! Мазгі Бэра напружана працавалі. Я павінен даць знак.

Паспешлівым рыўком ён вырваў з рыхлай пясчанай зямлі маладую сасонку і кінуў яе, нягледзячы на раптоўную слабасць, трэніраваным прыёмам праз шашу ў той самы момант, калі грузавік з павароту зноў выйшаў на прамую. Адразу ж Юрген зноў схаваўся за

куст, гатовы падацца далей у лес, калі незнаёмы шафёр пачне шукаць парушальніка.

Пад віск тармазоў грузавік наехаў на траскучыя галінкі загубленага дрэўца. Потым ён спыніўся, левыя дзверцы кабіны імкліва адчыніліся.

— Друг, Бэр!

Хрыплаваты голас даляцеў да ўцекача каля абочыны дарогі і кампенсаваў усю няўпэўненасць і напружанне апошніх гадзін.

— Таварыш!

## 8
## КАЛЯ ГАНЕБНАГА СЛУПА

Хэні Розэнаў не пакрыўдзілася на Эву, што праз яе недаспала, а яе маральнае абурэнне перакрывалася сімпатыяй, якую яна адчувала да маладой супрацоўніцы. Вось чаму яна была так непрыемна ўражана, калі фройляйн Гаўгк на другі дзень з'явілася да яе ў службовы кабінет і паведаміла, што яна заявіла пра здарэнне мінулай ночы.

Пакой фройляйн Гаўгк быў побач з фае, а яна хоць і была калекцыянеркай герояў, але не гераіня, таму рэзкі вокліч Хэні Розэнаў падняў яе з пасцелі. Яна пачула шум недалёка ад акна і ціхенька прабралася, каб дзеля бяспекі зачыніць толькі прыкрытую створку акна. Тут яна ў світальным змроку ўбачыла, як з акна эркера высунулася рука з парай мужчынскіх туфель. Яна пазнала цёмныя валасы Эвы Леангард і белы каўнер яе халата. Высокі хлопец, які ўцякаў шырокімі скачкамі, быў д-р Бэр.

Фройляйн Гаўгк была абурана. Так маральна апусціцца! Спачатку Кнор, цяпер Леангард: якраз тыя, хто выконваў негрыцянскія танцы перад фюрэрам. Тады ніхто не прыслухаўся да яе і фройляйн Пюшэль. І вось дом апаганены. Фройляйн Гаўгк патрабавала расследавання гэтай справы, а фройляйн Розэнаў выступіць сведкай.

Хэні адчувала сябе няшчаснай. Яна не была незычлівай і вырашыла пайсці насустрач нямой просьбе Эвы — маўчаць. Але фройляйн Гаўгк не ўступала. Напужаная і не ведаючы, што рабіць, Хэні пабегла да Траўдэ Хёрзельман.

Кіраўніца групы ўжо не была такая рухавая, як раней, калі яна, жуючы булачку, магла раптам з'явіцца то ў адным, то ў другім кабінеце сваіх вылічальнік Тыя, хто прыходзіў да яе, адчынялі дзверы няўпэўнена, асцярожна пастукаўшыся. Кожны лічыў абавязкам папрасіць прабачэння, што прыйшоў з простым пытаннем і адрываў

Траўдэ ад думак. Таму і Хэні Розэнаў пачала неяк нясмела. Калі яна адчула зацікаўленасць сваёй начальніцы-равесніцы, яна пачала расказваць хутчэй і жывей.

— Гэта быў доктар Бэр?

— Гаўгк гаворыць. Я так хутка не паспела пазнаць яго. Ён ужо сядзеў на падаконніку знадворку.

— Дрэнна. Бэр знік.

Хэні, спужаўшыся, рукой закрыла рот, каб хоць цяпер задушыць свой воклiч здзіўлення.

— Як так? Знік, проста ўцёк?

— Так. Уцёк.

— Але чаму?

— Адкуль я ведаю. — Траўдэ пацiснула плячыма. Яна яшчэ больш прыплюшчыла вочы. Нямоглая безуцешнасць была адбіта на яе твары.

— Не дай Гаўгк заблытаць сябе, Хэні. Я пагавару з д-рам Клемтам.

Траўдэ Хёрзельман здзівілася сама з сябе, з якой энергіяй яна ўзялася за справу Эвы Леангард. Яна ніколі не была змагаркай, але цяпер была растрывожана. Яна пачула, як Матэзі прагаварыўся, што «велікоднае яйцо» не было гатова да выпрабаванняў. Славалюбства Клемта і націск зверху з патрабаваннем хутчэй стварыць цуд-зброю былі прычынай смерці Парызіуса. Уліг быў разумнейшы. Магчыма. Ён папярэджваў і Парызіуса. Але хто мог што зрабіць з гэтай помессю ўпартасці і наіўнай веры ў лётчыцкае шчасце, што жыла ў Парызіусе? Яны раздушылі яго. Яны раздушылі Аксэ. Бэр выслізнуў з іх рук. Цяпер чарга Эвы Леангард!

Яшчэ ніколі Траўдэ так горача і ўпэўнена не звярталася да старога сябра і начальніка. Клемт бегаў па пакоі, засунуўшы рукі ў кішэні. Траўдэ доўга і ўсхвалявана гаварыла. Цяпер яна з нецярпеннем чакала яго адказу.

Ён пацiснуў плячыма, без адабрэння, незадаволена.

— Ты сама гаварыла з Леанцінэ?

— Гаварыла.

— І яна сцвярджае, што нічога не ведала, што Бэр шукаў бяспечнага месца, бо быў пад падазрэннем.

— Не. Не ведала.

— І ты верыш?

— А чаму не паверыць? У жыцці Эвы мужчыны адыгрываюць вялікую ролю. Ты і сам пасмейваўся з яе «папулярнасці». Не без пачцівасці, між іншым. А палітыка яе не турбавала. Займацца

палітыкай было б неразумна ў яе становішчы.

— Я думаў, што яна ўжо спынілася на Ціфенбаху. Але яна, відаць, усё ж вельмі павярхоўная.

— Што датычыць мужчын, ты, пэўна, маеш рацыю. А так — яна малайчына, і яе варта падтрымаць.

— Не ўсё залежыць ад нашай добрай волі, Траўдэ. Хутка тут будзе наладжана строгая служба контрразведкі. Праз некалькі тыдняў мы будзем сядзець за ахоўным поясам СС. Ты ведаеш, хто хоча пагаварыць са мной наконт Леангард? Гер Хапке.

— Ханке з казіно?

— Ён. Мой лепшы сябар. Яго таленты, відаць, не абмежаваныя адным казіно. — Клемт гаварыў з горкай іроніяй.

Ён павінен быў мірыцца з тым, што яго жонка часам, калі славалюбная прага да працы адрывала яго ад сям'і, знаходзіла суцяшэнне ў кампаніі прыгожага цальмайстра. Такія ж чуткі даходзілі да яго і пра Крысту Кельнер, што яго не вельмі здзіўляла, калі ён думаў пра пяцідзесяцігадовага астматыка Кельнера. Наўрад ці можна было паверыць, што дзявочая фюрэрка, якую часта бачылі ў грамадскіх месцах разам з Ханке, лёгка мірылася з гэтым. Значыць, гэты тып быў вельмі спрытны. Балючы ўдар Клемту быў нанесены самой жонкай: у прыпадку дзікага раздражэння яна дала яму падставу паверыць, што і яна паддалася чарам элегантнага цальмайстра. Прысутнасць у доме Траўдэ Хёрзельман апошні час крыху скрашвала іх сямейнае жыццё. Цяпер Розэмары паехала да бацькоў і ўзяла з сабой Норберта. А што будзе потым, нельга было прадбачыць. Думка, што яго стрыманая, гордая сваім розумам жонка ела з таго стала, на які мелі права і іншыя жанчыны, здавалася Клемту абсурднай і агіднай. Яму было не так крыўдна за яе ўчынак, як за выбар.

І вось гэты чалавек з дзявочай фюрэркай з'явіўся на афіцыйнае абмеркаванне ўчынку Эвы Леангард. Агідная сітуацыя!

— Ханке — самы вялікі нягоднік на Востраве, — сказала Траўдэ. Яна ведала пра напружаныя адносіны ў сям'і Клемтаў і вырашыла выкарыстаць гэта.

— Тым горш, калі малойчык возьмецца за нас.

Нерашучасць Клемта раззлавала Траўдэ. Яна падышла зусім блізка да яго. Здавалася, што ў голасе, які яна з цяжкасцю прыглушала, чуўся стук яе сэрца.

— Кажу табе, Рэйнгольд, калі ты будзеш поўзаць перад гэтым нягоднікам, нашай дружбе — канец. Я не магу назваць сябрам таго, кім я пагарджаю. Тады я таксама скажу, што ведаю. Тады будзем расследаваць не толькі справу Леангард, але і Парызіуса. А гэта будзе

больш сур'ёзна, можаш мне паверыць. Я — пацярпелая, і мне няма чаго траціць, бо я ўжо — нішто, нішто, нішто, абсалютнае нішто, пасля таго як вы паслалі яго на смерць.

Траўдэ не валодала сабой.

Клемт дакрануўся да яе пляча і падвёў да крэсла.

— Табе варта было б яшчэ тыдзень-другі адпачыць,. Траўдэ. Табе бачацца прывіды.

— Не, гэта праўда, усё — праўда. Я маўчу толькі дзеля цябе і толькі таму, што Вільфрыд не ўваскрэсне ад ніякіх скаргаў і ніякіх пакаянняў. — Рэзкім жэстам яна адсунула прэс-пап'е — маленькую мадэль бомбы «велікоднае яйцо», падарунак на дзень нараджэння начальніку аддзела, зроблены ў майстэрні аэрадынамічнай трубы. — Як я ненавіджу гэту штуковіну. Я не магу яе бачыць.

Клемт стараўся заставацца спакойным. Ён тактоўна паклаў сваю папку на перакуленую мадэль бомбы. Ён нерашуча пачаў пасля кароткага роздуму:

— Ты думаеш, што мы можам паслаць Леанцінэ ў Адлерсгоф? Замест Розэнаў? Тым самым яна, перш-наперш, будзе выведзена з поля зроку Ханке. Мы выйграем час і, калі будзе трэба, зможам знайсці сабе саюзнікаў.

— У Адлерсгофе трэба толькі праводзіць вымярэнні. З гэтым Эва справіцца. Яна працуе хутчэй за Розэнаў.

Клемт падаў Траўдэ правую руку.

— Мір?

Яна паглядзела на яго і падала яму руку, без поціску.

— Яшчэ адно, — дадаў ён, памарудзіўшы. — Трымай сваю спагаду да Леангард пры сабе. І на аэрадынамічнай трубе не гавары пра гэта, напрыклад, з Імішам або яшчэ з кім.

На душы ў Эвы было так, быццам яна голая стаіць перад Ханке і Клемтам. Адначасова яна ведала, што гэтая галізна — яе адзіны ратунак. Яна не магла ахінуцца нават рыбацкай сеткай, як тая разумная сялянская дачка. Яна была ўпэўнена, што Ханке не пасаромеўся б распытаць яе пра падрабязнасці ночы з «каханым» Бэрам, як ён гаварыў, каб тут не былі фюрэрка і Траўдэ Хёрзельман. А так яму прыходзілася абмяжоўвацца з'едлівымі намёкамі і пытаннем у шматлікіх варыянтах: «Як даўно ў вас адносіны з Бэрам?», «Вы ўжо і раней пакідалі яго ў сябе нанач?» А потым самае горшае: «А выхадны на Ругене? Там жа ў вас быў другі, ці не так?»

«Гэта помста Ханке, — падумала Эва. — Яна куды страшнейшая, чым мы думалі». Калі б Ганс Ціфенбах быў тут, яму, напэўна, падрабязна распісалі б здарэнне. Што б ён сказаў? «Мы ж хочам

застацца, ты і я». Каб застацца, яна вымушана стаяць каля ганебнага слупа. Ці даражыў бы ён цяпер гэтым «ты і я»? Ці мела для яго значэнне, што ён быў першы, каму яна аддала сябе?

Разгубленая і прыніжаная, дваццацігадовая дзяўчына стаяла ў вялікім, высланым дыванамі памяшканні, дзе на масіўным стале стаяла бліскучая мадэль паветранай тарпеды. Раптам Эва ўбачыла, што д-р Клемт непрыкметным рухам пераставіў прэс-пап'е на другое месца і накідаў на яго папер.

«Яму трэба нешта схаваць», — падумала яна.

Ва ўсіх было што хаваць, і ў гэтага Ханке, які ашуквае Клемта з яго жонкай! Эва выпрасталася. Яна была Эва — Шарлота Левенскельд! Што вам трэба? Ваш ганебны слуп не забрудзіць мяне!

Спакой ахапіў яе, калі Ханке, звяртаючыся да Клемта, сказаў:

— Для плавання пад ветразем яна падчапіла сабе гера Ціфенбаха. Прагулку ні за што нельга было адкласці. — Ён шматзначна ўхмыльнуўся.

Яна не зводзіла з Ханке вачэй. «Цяпер, — падумала яна, — цяпер я павінна нанесці свой удар!»

Цвёрдым голасам, з напружанай пагардай, яна прамовіла:

— Так, і ўявіце сабе, гер оберцальмайстар, такая потым няўдача: гер Ціфенбах аказаўся не ў форме! І мне не засталося нічога іншага, як залезці ў пасцель да гаспадара.

Удар трапіў у самы раз. На нейкі момант у пакоі ўсталявалася жудасная цішыня. Фюрэрка ад сораму амаль залезла ў каўнер сваёй курткі. Клемт, які пасля першай разгубленасці ледзь стрымліваў смех, пераглянуўся з Траўдэ. Ханке не ведаў, як сябе паводзіць. У яго хапіла розуму зразумець, што дзяўчына лёгка разрэзала занадта туга нацягнутую цеціву лука. Гэту смуглявую голай рукой не возьмеш. Нічога палітычнага ёй не прышыеш. Падазрэнне наконт паездкі на Руген Ціфенбах ужо, на жаль, развеяў. А што было з Бэрам? Даволі цёмная справа. Дзяўчына, відавочна, вельмі пачуццёвая. Дарэчы, апетытная бабка. Затое фюрэрка была няўклюдная і недалёкая. Ён яе яшчэ возьме, смуглявую. Так ці інакш. Пры яе тэмпераменце магчымасць надарыцца. Наладзіць нагляд! Зразумела, сачыць за поштай! А цяпер — не ўдарыць тварам у гразь!

— Улічваючы справядлівае абурэнне фройляйн Гаўгк, трэба выселіць фройляйн Леангард з дома Зэештэрн, — рэзка сказаў ён, а дзявочая фюрэрка падцвердзіла, што Леангард уяўляе сабой у маральных адносінах сур'ёзную небяспеку для дзяўчат у інтэрнаце.

Ёй даецца магчымасць пашукаць сабе пакой у прыватным доме ў пасёлку, і неадкладна.

Траўдэ хацела дабіцца адтэрміноўкі,

— Паслязаўтра яна едзе ў камандзіроўку ў Берлін.

— Пашліце яе цяпер пашукаць пакой, каб заўтра магла пераехаць.

Ханке развітаўся і пайшоў. Ён не мог дазволіць, каб яму сапсавалі эфектнасць яго адыходу.

Эва да вечара абегала амаль увесь пасёлак. Маладыя жонкі тэхнікаў і вучоных, якія жылі ў прыгожых прыватных доміках, адносіліся да пытання пра мэбляваны пакой з непрыхаваным недаверам. А навошта тады на дзюне інтэрнаты для незамужніх? Дзяўчатам там добра. Добраахвотна яшчэ ніхто не пакідаў інтэрната. Дык што здарылася?

Жанчыны ці з падазрэннем, ці з прыхаванай цікаўнасцю разглядалі загарэлую дзяўчыну ў белай ільняной спадніцы і гаварылі «не». Схаваўшыся за фіранку, яны з задавальненнем бачылі, што прасіцелька гэтаксама хутка выходзіла і з суседняга дома.

Эва замарылася, яна была разбітая, калі зноў вярнулася ў дом Зэештэрн. Яна замкнулася ў сваім пакоі і не стала гатаваць вячэру, каб ні з кім не сустракацца ў кухні. Яна баялася зларадства Гаўгк і Пюшэль, як і спагады астатніх. Ёй не хапала Марліс. Вядома, тая б нешта парадзіла. Яна была знаёмая са шмат якімі сем'ямі, і яе ўсюды паважалі. Потым ёй падумалася, як нечакана лёгка вырашылася яе праблема. Брэтшнайдэр будзе задаволены дый Марліс, пэўна, таксама. Магчыма, цяпер ёй не спатрэбіцца жыць разам з дзікаватай Хэні Розэнаў. Але яшчэ нічога не было ясна.

Эва склала рукі пад галавой: так ёй быў лепш відаць адбітак небаскроба ад радыёпрыёмніка. Адзінае асвятленне, якое было пазаўчора ноччу! Дзе цяпер Юрген? Ён сказаў ёй, што ніяк не зможа паведаміць пра сябе. Можа, усё прайшло ўдала, раз ёй даводзіцца цяпер расплачвацца за яго. Высяленне з інтэрната — яшчэ недарагая плата. Яна ведала гэта і не хацела здавацца. Заўтра апоўдні яна зноў пойдзе на пошукі. Можа, у Цыновіцы знайсці пакой будзе лягчэй.

Раніцай, рана-раненька, у дзверы да Эвы пастукалі, і Лабан прасунуў у шчыліну паперку.

Перадалі, — буркнуў ён за дзвярыма і хуценька пашоргаў прэч.

Стары вартавы маяка у апошнія дні паглядаў на Эву з дакорам. Якраз тыя, хто яму падабаўся, злоўжывалі яго даверам і дабратой. Ён атрымаў ад начальніка жыллёвага ўпраўлення добры наганяй за тое, што Бэру ўдалося пранікнуць у дом. Эва разумела яго незадавальненне і цяпер здзівілася, што ён згадзіўся перадаць ёй запіску ад нейкага пасланца. На паперцы было толькі некалькі слоў. «Наконт

пакоя зайсці Пенемюндэ, пасёлак № 7».

Подпісу не было.

Калі, выходзячы з дома, яна сустрэла Лабана і спыталася, хто перадаў запіску. Ён толькі пацiснуў плячыма.

— Яна раптам з'явілася тут. — Але позірк, якім ён зірнуў на яе, выдаў яго. У ім не было злосці, хутчэй — недаверлівае здзіўленне і прыхаваная просьба прабачыць.

Эва дала знак Траўдэ Хёрзельман. Яна яшчэ да камандзіроўкі праехала па бетонцы на веласіпедзе, аж да апошніх дамоў былой рыбацкай вёскі. Пажылая жанчына перад домам нумар сем мыла бялізну. Яна кіўнула, калі Эва растлумачыла ёй сваю справу, выцерла рукі аб фартух і паднялася разам з ёю па вузкай лесвіцы рыбацкай хаты. Пакой быў падобны да вузкага рукава, з вельмі сціплай мэбляй, але від з нізкага акна на прырэчны пейзаж тое-сёе кампенсаваў.

— Калі можна пераехаць? — спыталася Эва.

Жанчына здзівілася.

— Хана гаварыла, што вам трэба пераехаць сёння. Я ўжо ўсё прыбрала.

Эва не выдала, што названае імя ёй — нечаканасць. Яна не ведала ніякай Ханы. А можа? Юрген называў фройляйн Пэплаў, якая працавала ў аддзеле кадраў, Ханай, тады яшчэ, на спартыўнай пляцоўцы. Пляменніца Лабана! Кола замкнулася. Значыць, яна была не такая ўжо адзінокая.

Усведамленне гэтага аблегчыла ёй развітанне з домам Зэештэрн. Яна пазбаўлялася шмат якіх зручнасцей. Печ заменіць цэнтральнае ацяпленне, ролю ванны возьмуць на сябе ночвы на хісткіх падстаўках. Да пляжа цяпер амаль гадзіна хады, калі пехатой. Шум мора зменіцца на больш тонкі спеў, які будзе далятаць з трысняговых і чаротавых зараснікаў, калі ў іх будзе гуляць вецер. Часам будуць чуцца рэзкія крыкі балотных і вадзяных птушак.

Эва перабралася, пакуль жыхаркі дома былі на працы. Лабан пазіраў зычліва і, грузячы чамаданы на трохкалёсны вазок, суцяшаў:

— Месца для вашага шэзлонга ўсё роўна ёсць на балконе. І я некалі выберуся да вас у госці. — Адзін ён памахаў ёй на развітанне.

## 9
## БУМЕРАНГ

Аэрадынамічная труба германскай доследнай установы ў Берлін-Адлерсгофе мела іншыя памеры, чым у доследнай установе Востраў. Тут вымяральнай камерай служыла памяшканне, у якім ва ўвесь рост

маглі стаяць мужчыны. Профілі самалётаў у натуральную велічыню віселі пад струменем, часткі стабілізатараў, насавы балкончык у разрэзе — усё ў натуральную велічыню.

Эва падумала, што доследная ўстанова Востраў перадала сюды дэталі А4 для выпрабаванняў у аэрадынамічнай трубе. Надпісы на пратаколах, якія паклалі ёй на стол на аналіз, не былі зашыфраваныя больш, чым звычайна. Лабаранты ў Адлерсгофе, відаць, павінны былі быць перакананыя, што займаюцца аэрадынамічнымі вымярэннямі звычайнай авіяцыйнай бомбы.

Калі малады інжынер, у чый аддзел была залічана Эва, дазволіў ёй адным вокам зірнуць у вымяральную камеру. Ён спытаўся ў яе:

— А як вы праводзіце вымярэнні на Востраве? У звышгукавым і дагукавым дыяпазоне?

Эва паціснула плячыма.

— Вы не скажаце, якому тыпу самалёта належыць гэты профіль крыла?

Пасля эпізода з Ханке ў мазгу ў Эвы нібы пачаў працаваць нейкі папераджальны цэнтр.

«Увага, не даць прычыны для падазрэння! За мной сочаць!» Кароткая заўвага Траўдэ Хёрзельман зрабіла яе яшчэ больш пільнай. Магчыма, Ханке паслаў пісьмо нават у Адлерсгоф. Яна была гатовая да ўсяго.

Інжынер нявінна засмяяўся.

— Вы ўмееце берагчы сакрэты лепш за сваіх інжынераў. Між іншым — у бліжэйшыя дні мы чакаем аднаго з іх. Ён прывязе вам новае заданне.

Было вызначана, што Эва прабудзе ў Адлерсгофе дзесяць дзён. Ёй трэба было спяшацца, каб справіцца з аналізам пратаколаў вымярэнняў. Вылічальнай машыны ёй не далі, прыйшлося пераключыцца на вылічальную лінейку. І Траўдэ Хёрзельман не было блізка, каб звярнуцца без ніякіх цырымоній. Маладыя дзяўчаты, якія сядзелі ў адной з ёю лабараторыі, фанабэрыліся. Яны ж былі берлінкі, а новенькая прыехала з нейкага памеранскага вострава. Эва не спрабавала сысціся з імі. Інжынер рэгулярна браў яе з сабой у сталовую, на што лабаранткі іранічна ўсміхаліся. Ён быў шваб і сваімі манерамі напамінаў Эве Рольфа Кюперса.

Яна ўжо адбыла шэсць працоўных дзён і сядзела са швабам за ядой, калі да іх стала падышоў чалавек. Гэта быў Марцін Уліг. Эва зачырванелася ад нечаканасці і радасці. Нарэшце хоць адзін свой чалавек.

Марціна Уліга адлергофскія аэрадынамікі ведалі. Ён пайшоў са

швабам спачатку па доследным прадпрыемстве, потым заглянуў у лабараторыю, меў выгляд вельмі занятага чалавека і не глядзеў на Эву. Але ў канцы дня ён, нібы выпадкова, аказаўся каля галоўнага выхаду, дзе размаўляў з некалькімі мужчынамі. Ён падышоў да яе, як нічога ніякага.

— Дзе ты тут жывеш? — спытаўся ён, калі яны ішлі да трамвая.

— У Вільмерсдорфе.

— Я сёння застаюся тут, трэба дачакацца прыбора. Можна нешта прыдумаць. Ці ты сёння занятая?

— Нічога не прыдумаеш. З дзевяці да дзесяці заўсёды налёты.

— Але ж дзе-небудзь павячэраць можна.

— Можна, чаму не.

У Эвы зноў з'явілася прыемнае адчуванне лёгкай перавагі. Так адчуваеш сябе ў час бегу з бар'ерамі. Праціўнік насядае табе на пяты. Ведаеш, што ад яго нельга адчапіцца, але ж і ведаеш, што кожны бар'ер патрабуе ад яго вялікага напружання, у той час як ты сама бярэш іх лёгка.

«Ён занадта старанна выпроствае плечы», — думала яна, ідучы побач. Да таго ж — новенькая, з іголачкі, форма. Гэта выглядала крыху вычварна. Паношанае скуранoе паліто, яго другая скура, было больш яму да твару.

Яна прапанавала невялічкі рэстаран на рагу Кайзерплац, што быў толькі за некалькі хвілін хады ад кватэры Ротхакера, у якой яна жыла адна, карыстаючыся гасціннасцю Зігрыд. Эва баялася вялікіх бункераў і бамбасховішчаў у гандлёвым цэнтры. Пасля таго як яна пабачыла, як пасля кінахронікі публіку разводзілі па бамбасховішчах па ўсёй вуліцы, яна пераняла звычку большасці берлінцаў — чакаць з дзевяці гадзін паветранай трывогі, як звычайнага канца працоўнага дня.

— Берлінцам цяпер цяжка, — сказала Эва, калі яны ўжо сядзелі на зашклёнай верандзе рэстарана. — У мой першы прыезд паветраныя трывогі не ўспрымаліся так сур'ёзна, як цяпер.

— Калі гэта было?

— Летась у маі.

Яна злавіла позірк Марціна Уліга і раптам зразумела, што ён нічога не забыў. Яе словы «я заручаная» і яго «тады будзе лепш, калі мы будзем сустракацца не так часта» былі сказаны яшчэ перад яе апошняй паездкай у Берлін. Потым яна «канчаткова разабралася» з Хартмутам Ведэльштэтам, і былі гадзіны, калі яна хацела, каб яе першы прыход у пакой з лётчыцкімі здымкамі на сценах прайшоў інакш. Але цяпер з гэтым пакончана. Гэты чалавек з упартым падбародкам

раўніва настойваў бы, каб яна трымалася далей ад такіх людзей, як Юрген Бэр. Яна не магла ўявіць сабе апошні год без Юргена Бэра. І ўсё роўна прыемна было сядзець цяпер побач з Марцінам Улігам і гаварыць з ім пра ўсякія нявінныя рэчы. Бо гэта ж было нявінна, калі ён гаварыў, што пасля вайны паляціць вакол свету на спартыўным самалёце Клемта.

Марцін Уліг не верыў у гэта сам і кпіў з сябе, бо ён усё шукаў сабе будучую спадарожніцу. У Эве ён бачыў усе важныя для яго кампаненты, надзіва поўна і дасканала з'яднаныя, аднак ён не падумаў як след, што гэтыя кампаненты былі ў цане і ў іншых, хто не марыў пра кругасветнае падарожжа, а ён, нягледзячы на добры пачатак, нарэшце пацярпеў з ёю даволі горкую няўдачу. Праўда, яму здавалася, што Эвін поспех у мужчын не ішоў ёй на карысць. За паўтара года яна памяняла шмат кавалераў. Апошні выпадак з Бэрам быў проста непрыстойны. Яго знікненне нарабіла шмат шуму. Імёны абаіх былі ва ўсіх на языках. Чаму ён уцёк, ніхто не ведаў. Да Марціна Уліга дайшлі чуткі, што ў пакоі быў вобыск, які нічога не даў. Ва ўсякім разе, былі падставы для падазрэння, і Бэр не захацеў падвяргацца допытам, без якіх, несумненна, не абышлося б.

З некаторага часу контрразведчыкі, здавалася, хацелі даказаць, што яны не дарма атрымліваюць грошы. Гэта пачалося пасля трагічнай смерці салдата Аксэ. Тайныя меркаванні пра самагубства абвяргаліся пэўнымі людзьмі так зацята, што гэта стала кідацца ў вочы, і нарэшце людзі перасталі гаварыць пра гэта ў сталовай і казіно.

Пасля ўцёкаў з канцлагера гэтыя настроі яшчэ больш узмацніліся. Сюды ж дадалося напружанае палітычнае і ваеннае становішча. Марцін Уліг прыпомніў размову з бортрадыстам, якую ён нарэшце закончыў з'едлівай фразай: «Магчыма, вы яшчэ скажаце, што я пераправіў уцекачоў у небяспечнае месца на сваім Хе-111!»

Вакол былі слухачы. Эва павінна была ўлічваць, што праз Бэра яе занеслі ў чорныя спісы абвера. Ці разумела яна, што гэта значыць? Здавалася, яна жыве адным днём! Шкада яе!

Яны стаялі перад яе домам. Калі кельнер у рэстаране апусціў зацямненне і закрыў ім від на акаймаваны зялёнымі кустамі Кайзерплац, яны адчулі безуцешнасць маленькага рэстарана і пайшлі.

— Горад без агнёў прыгнятае, — сказала яна.

Нейкі мужчына паспешліва перайшоў праз вуліцу.

Ён крыкнуў на верхні паверх дома, што хутка пачнецца трывога.

Эва нерашуча паглядзела на Марціна Уліга.

— Сёння прылятаюць раней, чым звычайна.

Па прывычцы яны паглядзелі на неба. Над доўгім чатырохкутнікам гарадской вуліцы бачыўся вузкі, слаба асветлены зоркамі кавалачак неба.

— Да Тэмпельгофа я ўжо, відаць, не паспею дайсці, — сказаў ён.

— Бамбасховішча ў доме вялікае.

— Добра, тады я застануся. Можа, нам яшчэ дадуць перакурыць нашы англійскія калегі. На якім паверсе ты жывеш?

— На чацвёртым.

— Здаецца, у Берліне ўсе жывуць на чацвёртым паверсе. Жудасна. Дык наперад у бой.

— Мне здаецца, што гэта прыемна. Ніжэй бы я задыхнулася. — Яна адамкнула дзверы кватэры.

— Праўда? — сказаў ён з намёкам. — Ты была б, пэўна, выдатная лётчыцкая жонка.

— Не, — сказала яна нечакана сур'ёзна. — На гэта я занадта баязлівая.

— Чаго ты баішся?

— Не чаго — а за каго? За мужа, вядома. Калі некага любіш, тады жахліва ўвесь час ведаць, што яму пагражае небяспека.

— Ты тэарэтызуеш.

— Як гэта?

— Ты ніколі не будзеш баяцца, бо ты любіш розумам. А страх ідзе ад сэрца.

Яна ўключыла бра, якое асвятліла толькі частку вялізнага пакоя Ротхакераў. Марцін Уліг стаяў яшчэ ў неасветленым месцы. Надзвычай кранутая, яна глядзела на яго. Неразумна было менавіта цяпер закранаць такую далікатную тэму. Які ў яго намер? У яе было непрыемнае адчуванне, што яе сапернік па бегу з бар'ерамі перагнаў яе і пачаў браць бар'еры з большым запалам, у той час як сіла пакідала яе. Яна падышла да століка для курэння, знайшла попельніцу і запалкі. Час толькі на перакур! За гэты час яна павінна ўзяць цяжкі бар'ер, не паказваючы сваёй няўпэўненасці. Яна сказала насмешліва:

— Ты нешта прыпісваеш мне беспадстаўна. Варта задумацца. Калі ты маеш рацыю...

— Не трэба. Ты добра ведаеш, што я маю рацыю. — Ён павольна падышоў да яе, абмінаючы крэслы, таршэры і столікі застаўленага мэбляй раскошнага пакоя.

— Але, магчыма, з цябе варта было б узяць прыклад: пачуцці за борт — бяры, што можна.

— Што ты гаворыш? Я не разумею ніводнага слова.

Ён з выклікам засмяяўся.

— Ты разумная дзяўчына. Ты хутчэй за нашага брата зразумела, што вайна будзе зацятая і жорсткая. Ты хутка разабралася, што не варта нічога зберагаць на будучае, збіраць грошы, ашчаджаць пачуцці. Кругасветнае падарожжа на ўласным самалёце — якое глупства, праўда? Трэба жыць сённяшнім днём. Хуткія абароты ў дзелавым жыцці. Усюды транзітныя зносіны: у гарадах, на аэрадромах, у бамбасховішчах. Сёння нехта змагаецца ў Афрыцы, а паслязаўтра ён загіне ў Расіі. Ты маеш рацыю: заўтра нас нічога не чакае. Давайце ж карыстацца, чым можна, сёння.

Ён схапіў яе за правае запясце, нечакана і ўчэпіста. Яна рванулася назад, калі абцугі ўжо замкнуліся. Тады яна замахнулася левай і ўдарыла яго ў твар.

Ён адразу выпусціў яе. Праз секунду разгубленага маўчання ён холадна сказаў:

— Калі ты абыходзішся так з кожным, хто гаворыць табе праўду, ты пачуеш мала шчырых слоў. — Ён павярнуўся да дзвярэй, і яна не стала яго затрымліваць.

Яна ўсё яшчэ стаяла на тым самым месцы, калі завыла сірэна. Эва ўздрыгнула. Ён, напэўна, не паспеў далёка адысціся. Яна выбегла на лесвічную пляцоўку. Стукалі дзверы, усюды быў чуваць трывожны тупат. Яна не адважылася паклікаць.

«Ён зрабіў подла», — падумала яна. І ўсё ж такі яна баялася, каб з ім чаго не здарылася.

Калі яна з чамаданчыкам у руцэ сышла ў бамбасховішча. Ён стаяў каля ўваходу ў тамбур. Паціснуў плячыма.

— Патруль проціпаветранай аховы не выпусціў мяне. Шкада.

Яна не выдала сваёй палёгкі, а халаднавата сказала:

— На нейкі час нам трэба ўладкавацца. — І пайшла перад ім далей у падвал.

Ён не ведаў, ці спадзявалася яна, што ён пойдзе за ёю. У жанчыны, што працісквалася каля яго з клункамі. Ён забраў з рук дарожную сумку.

— Калі ласка, у той куток, — скамандавала яна яму. Калі ён паставіў багаж, гупнуў глухі выбух.

Патруль зачыніў дзверы ў падвал.

— Накацілася першая хваля, — сказаў ён

Грукат больш не пераставаў. Жанчына села на лаўку, адсунуўшы нешта. Уліг не паглядзеў у той бок Эва пайшла далей. Падвал быў вялікі. У праходзе ў другое памяшканне стаяла сястра Чырвонага Крыжа з санітарнай сумкай праз плячо. Яна стаяла, адкінуўшы галаву

назад, утаропіўшыся вачыма ў столь. Здавалася, яна ціха моліцца.

«Калі б яе цяпер забілі, — падумаў Марцін Уліг — яна прыняла б такую паставу, як рускі селянін на снезе». Ён не дадумаў сваёй думкі да канца. Жудасны выбух скалануў сцены. Са столі пасыпаўся тынк. За другім ударам грому пагасла электрычнае святло. Заплакала ўголас нечае дзіця. Закрычалі жанчыны.

«Дзе Эва? — падумаў Марцін Уліг. — Дзе яна? Я пакрыўдзіў яе. Жах, калі што здарыцца. Быць так блізка і...»

Калі загарэлася некалькі свечак. Ён прабраўся навобмацак у другое памяшканне. Ён прабіраўся ад лаўкі да лаўкі, пры матавым святле шукаючы Эву. Людзі ў хвіліну страху схавалі твары. Сляпыя цёмныя істоты сядзелі каля сцен.

Толькі ў трэцім памяшканні ён знайшоў Эву. Ён прыгнуўся ў праходзе, бо яшчэ адзін выбух страсянуў сцены і столь. Эва адразу заўважыла яго, нібы ўжо даўно глядзела на дзверы. Яна махнула яму. На руках яна трымала дзіця гадоў чатырох, якое, пусціўшы з рота слінку, з пабялелым, як воск, тварам бяздумна ўтаропілася перад сабой. На вачах у Эвы былі слёзы.

— Ці не жахліва? У малой пры налётах пачынаюцца сутаргі. — Яна пасунулася ўбок, каб Марцін Уліг мог прысесці.

— Чаму з дзецьмі не эвакуіраваліся? — ціха спытаўся ён.

— Жанчына хацела дачакацца мужа. Яму ўжо некалькі месяцаў назад абяцалі водпуск. Потым яна ўзяла ўсё на сябе. А цяпер ужо страціла надзею. Заўтра паедзе ў Мекленбург.

Новы ўдар, і зноў грукат. Дзіця заенчыла, хліпаючы. Заплаканая маці забрала яго ў Эвы.

— А заўтра глядзіце, каб паехалі, фраў Кёніг, — прамовіў бурклівы жаночы голас з паўзмроку.

Маці сказала з плачам:

— Я ж хацела сустрэць яшчэ раз свайго мужа дома, хоць апошні раз. Ён так даражыў домам, сваімі калекцыямі і кнігамі.

— Дзіця важней, — строга сказаў голас. — Яно ж нешта страціць на ўсё жыццё.

— Быццам усе мы не трацім нешта на ўсё жыццё, калі кожную ноч сядзім тут, як пацукі, — сказаў рэзкі жаночы голас. Апошнія словы былі прыдушаны рукою, якой, відаць, нехта заціснуў ёй рот.

Эва сядзела са сціснутымі вуснамі, адкінуўшы назад галаву.

«І яна сядзіць, як рускі на снезе», — прамільгнула думка ў Марціна Уліга. Ён правёў рукой сабе па лобе.

Няўжо ён ужо дайшоў да таго, што не можа бачыць чалавека з адкінутым тварам? Прыпомніўся другі дзень пасля Сталінграда, пасля

паваротнага пункта. Гэтага нельга забыць. Нічога нельга забыць. Усё страціла свой звыклы парадак, усё пераблыталася, вайна і жыццё. Забіваюць без нянавісці, крыўдзяць, любячы.

Эва не пярэчыла яму, калі ён пачаў выціраць слёзы ў яе са шчок. Ён зазначыў сабе, дзівячыся, як мала ў такім становішчы трэба было, каб адчуваць нешта, недалёкае ад пачуцця шчасця: яе сарамлівую ўсмешку, калі яна шукала насоўку, яе імпульсіўны жэст, якім яна ўхапілася за яго руку, калі выбух зноў страсянуў столь і сцены і прымусіў людзей падхапіцца з лавак і ўпасці на калені. Вялізныя кавалкі тынку і друз пасыпаліся зверху, грукаталі камяні, трашчалі асколкі. Спалоханыя людзі ляжалі, курчыліся, сядзелі на падлозе, аглушана прыслухоўваліся да сябе яшчэ доўга пасля таго, як прайшла хваля выбухаў, нібы дзівячыся, што засталіся жыць.

Марцін Уліг абхапіў Эву рукою, яны прыселі, амаль леглі, цесна прытуліўшыся, паміж дзвюма паваленымі лаўкамі.

Ён дапамог ёй устаць.

— Я вельмі неасцярожна схапіў цябе, — сказаў ён. — Табе забалела?

— Глупства. І гаварыць няма чаго. Важна, што жывыя.

Праз сукно кіцеля ён адчуў моцны поціск яе пальцаў на сваёй руцэ. Ён узяў яе за руку. Відаць, праўду кажуць, што сумесная небяспека збліжае людзей. Але цяпер не час гаварыць пра гэта. Прынеслі святло. Патруль паклікаў мужчын на дапамогу. Трэба было расчысціць праход да суседняга дома, разбуранага прамым пападаннем. Уваход у суседні падвал засыпала.

Марцін Уліг адклікнуўся. Далі адбой трывогі. Ён застаўся працаваць. Эва дапамагла жанчыне з хворым дзіцем вынесці наверх пажыткі.

Лесвічная клетка была засыпана друзам і бітым шклом, у паветры стаяў пыл. Вялікі жылы дом насупраць ляжаў у руінах, у другім не было верхняга паверха. Суседні дом быў разбомблены напалову. Здавалася яго адсеклі вялізнай гільяцінай ад рада дамоў. Не было больш і веранды маленькага рэстарана на рагу.

— Фугасныя бомбы? — спытаўся Марцін Уліг.

— Ага. На гэтай вуліцы, відаць, не засталося ніводнай цэлай шыбы.

— А людзі?

— Не ведаю. Яны толькі цяпер вылазяць з падвалаў.

Ён глыбока ўздыхнуў і выцер пот з лоба. Застаўся шэры след ад пылу.

Носячы ў сабе вобразы поля бою, цяжка было засяродзіцца на

формулах, сэнс якіх быў незразумелы, і на лічбах, якія ўвасабляліся толькі ў каардынатах міліметровай паперы. Раніца бязлітасна паказала памеры разбурэнняў у Вільмерсдорфскім жылым раёне.

Эва аддала пакоі Ротхакеравай кватэры бяздомным. Зігрыд Мэс і Ротхакер, калі б яны прыехалі з Парыжа, мусілі б прымірыцца, што ім засталася толькі вялікая зала. Эва сядзела паміж патрэсканымі сценамі і забітымі кардонам вокнамі. Адчыняючы акно, яна зірнула ў пустыя вачніцы каменнага мерцвяка.

Дзве сям'і жылі ў суседніх пакоях. Яны шмат і голасна размаўлялі і спрачаліся за чаргу на кухні. Яны радаваліся, што яшчэ раз уцалелі, бралі даведкі на атрыманне тавараў і ішлі ў магазін. Яны пабачылі шмат разбурэнняў.

Эва лічыла дні да ад'езду. Усё было лепш — сціплы пакой у хаце каля трыснягу, халодная вада, што падавалася помпай, нават твары Ханке і Гаўгк, якіх яна сустракала ў казіно, — усё было лепш, чым тут: руіны, забітыя вокны, штодзённы страх, што будзе яшчэ горш. Як толькі трывалі ўсё гэта людзі — тыднямі, месяцамі?

У Ванзэе, дзе дамы стаялі радзей, у садах, жылося пакуль што крыху спакайней. Праз два дні пасля бамбёжкі Эва пазваніла прафесару Лёйпальду. «Калі будзеце ў Берліне, дайце мне знак пра сябе», — сказаў ён тады, у лютым. І яна сапраўды дала знак пра сябе праз шэсць месяцаў, баючыся, што ён ужо не прыпомніць яе. Калі яна назвала сябе, здалося. Ён узрадаваўся. «Добра, што пазванілі, — сказаў ён па тэлефоне. — У мяне ёсць важныя навіны». Ён заінтрыгаваў яе.

Пасля працы яна паехала. Ён жыў у прыватным доме ў Банзэе, побач са сваёй установай, якая была падначалена вярхоўнаму камандаванню ваенна-марскога флоту. Ветлівая пажылая жанчына, якую называлі фраў Обэрст, была гаспадыняй дома і прыгатавала прафесару і госці на тэрасе стол з яблыкаў і пудзінгу. Эва даўно ўжо не каштавала такой смакаты.

Вокны тут яшчэ былі не заклееныя. Свяціла сонца. Яно было нізка, але яшчэ грэла. З прысадаў блішчалі зоркі вяргіняў. Сад расцвітаў жоўтым і фіялетавым колерамі. Эва адчула сябе амаль шчаслівай.

— Ціфенбах званіў пазаўчора, — сказаў прафесар, — ад яго я даведаўся, што вы тут. Ён на Востраве, а заўтра раніцай вылятае ў Берлін. Ён прасіў перадаць вам прывітанне і сказаць пра яго прыезд. Вы не рады?

— Вельмі. Праўда, мне лепш было б пагаварыць з ім на Востраве. У Берліне цяпер жахліва.

— Прыходзьце сюды. Яшчэ можна пазагараць на пляжы,

праўда? — Ён частаваў яе пірагом, гасцінна, настойліва.

Яна падзякавала.

Значыць, Ганс Ціфенбах ужо два дні на Востраве. Не пазней як учора яму стала вядома, што яе выселілі з дома Зэештэрн. Марцін Уліг пакрыўдзіў яе некалькі дзён назад. Яна даравала яму. Яна была вышэй за гэта. Ён ёй падабаўся, але яна яго не кахала. Калі б яе пакрыўдзіў Ганс, яна не змагла б дараваць. Як жа гэта атрымлівалася: няўжо да людзей, якіх любіш, адносішся больш строга, чым да іншых? Іх хочаш бачыць больш дасканалымі, чым іншых, больш вялікімі, незаганнымі. Вось у чым справа.

У яе з'явіўся страх. Спакуса шчасця прайшла.

Яна расказвала пра першы налёт, які ёй давялося перажыць. Яна зусім не адчувала сябе гераіняй і не магла зразумець людзей, якія страцілі дом, усё, што мелі, а цяпер раўніва збіралі талоны на тавары і задумваліся пра свой лёс не больш, чым раней. Яны ўспрымалі гэта, як хваробы, што навальваюцца на сям'ю. Талоны на тавары былі як рэцэпты ўрача. Хоць тое, што на іх атрымаеш, і не вылечвае хваробу, але аблягчае яе і дапамагае выжыць.

Прафесар сказаў:

— Звычайныя людзі ўспрымаюць вайну як фатальную сілу. Веруючыя бачаць у ёй кару боскую, эканамісты тлумачаць яе як натуральны сродак змяшчэння патэнцыялу існуючых тавараў спажывання і стварэння рынкаў збыту іх цяперашняй прадукцыі.

— А што думае пра вайну інтэлігенцыя?

— Большасць аддаецца волі лёсу, памарыўшы ў студэнцкія гады пра свабоду і роўнасць і не знайшоўшы ў жыццёвай барацьбе ні таго, ні другога. Яны капітулююць перад сумніцельнымі ісцінамі, якія падносяцца падручнікамі гісторыі, згодна з якімі вайна — маці ўсяго існага. З часоў Геракліта. Калі фальшывую выснову прапаведаць і практыкаваць тысячы гадоў, яна, нарэшце, трапляе ў пантэон класічных ісцін. Яе аб'яўляюць свяшчэннай традыцыяй. Светлая галава, як, напрыклад, Лесінг, не пабаяўся крытыкаваць навуковыя палажэнні Арыстоцеля, а тэзіс Геракліта па сённяшні дзень забівае галовы вучоных-гуманістаў. Карацей кажучы, тэолагам нічога не значыць блаславіць зброю, а ўрачы хуценька зашыюць параненых, каб тыя зноў паспяшаліся на поле бітвы. Вы ж ведаеце Доктара! Геніяльны хлопец: прыродазнавец, інжынер і выдатны арганізатар адначасова, велікадушны, неардынарны, апантаны ідэяй асвоіць чалавецтву міжпланетныя прасторы. Ён не спыняецца перад выкарыстаннем вайны на карысць сваім касмічным планам. Выстрал за канал — для яго толькі пачатак. Ваенная машына фінансуе яго генеральную рэпетыцыю.

Ён самы таленавіты і самы дзейсны фантаст, якога я ведаю (большасць фізікаў крыху фантазёры), але ён і самы скрупулёзны, сучасны Макіявелі. Ён красамоўна дакажа любому і пасля вайны, што не мог не ствараць ракет. Для яго мэта апраўдвае любыя сродкі. Яго дзеянні не паддаюцца кантролю ніякай іншай мараллю.

Сонца схавалася за дрэвы, вяргіні пабляклі. Эва бачыла толькі вуглаватую галаву маленькага прысадзістага прафесара побач з сабой. Ён вельмі шмат ведаў і гаварыў з ёю, як з роўняй. Яна ганарылася гэтым.

— А што ж вучоныя, якія не прымірыліся? — спыталася яна.

Гэта яму было нечакана.

— Вы распытваеце вельмі метадычна. Вы вучыліся?

— Не. Калі я пачынала жыць, прыйшла вайна.

— Трэба будзе паспрабаваць вучыцца. Вам падабаецца прыродазнаўства?

— Да яго ў мяне няма здольнасцей. Шкада! У ім мяне прываблівае, што любую тэорыю можна пацвердзіць эксперыментам. Гэта мне часта даводзіў Ганс Ціфенбах. Але яшчэ больш мне падабаецца другі бок: вучэнне пра людзей, тлумачэнне гісторыі і падобных рэчаў. Якраз таму, што іх нельга выявіць праз формулы і разлікі.

— Значыць, вам больш хочацца займацца людзьмі,
чым рэчамі?

— Так.

— Ну, і тут ёсць пэўныя формулы і правілы. Марксісты тут — самыя паслядоўныя. Марксістамі з'яўляюцца між іншым, большасць вучоных, якія не прымірыліся. Вам жа хацелася ведаць. Я знаёмы з даволі разумнымі людзьмі, якія сцвярджаюць, што вучэнне Маркса — аснова асноў гуманітарных навук. Але гэта вы, калі ласка, трымайце лепш пры сабе.

Фраў Обэрст прайшла праз сад. Яна нарэзала вяргіняў у пакой прафесару.

— Такі вялікі букет? — сказаў ён. — Я аддзялю крыху фройляйн Леангард.

Эва паставіла пышныя чырванавата-жоўтыя зоркі ў бухматую ротхакераўскую вазу. Пакой з забітымі кардонам вокнамі пасвятлеў. «Калі прыйдзе Ганс, — падумала яна, — будзе не так безуцешна.»

У гэты вечар была толькі папераджальная трывога, а потым па радыё аб'явілі, што самалёты павярнулі на поўнач. Берлін пражыў спакойную ноч.

У гэты вечар Марліс Хасэ позна выйшла з казіно. Ёй было важна, каб яе ўбачылі як мага больш людзей. Ёй трэба было мець

алібі. Яна тысячу разоў паклялася б, што з сямі гадзін чытала газету ў суседнім пакоі.

Няпроста было звыкнуцца з думкай, што з сённяшняга дня яна жыве двайным жыццём. Не толькі ў думках, што непрыкметна здарылася з ёю даўно, але і ў дзеяннях. Яна першы раз выступіла праз цыновіцкі перадатчык, які паспеў устанавіць Юрген Бэр яшчэ да свайго знікнення. Калі яна гаварыла на гарышчы, баючыся і хвалюючыся, ёй прыйшла думка, што Бэр недзе ў сховішчы, магчыма, чуе яе. Гэта прыдало ёй упэўненасці. Тады, каля выпрабавальнага стэнда, яна ўбачыла, як ён умеў выйсці з небяспечнага становішча. Дрыжанне ў яе голасе выклікала ў яго насмешку. Ёй удалося справіцца з хваляваннем.

Потым, пасля паспешнага вяртання на веласіпедзе, яна спаткала ў казіно стрыечнага брата. У Брэтшнайдэра закончылася доўгая нарада з Клемтам і Доктарам.

Уліг і Ціфенбах таксама прысутнічалі. Ціфенбах, праходзячы каля яе, коратка павітаўся. Ён здаўся ёй задумлівым, узрушаным. Ёй хацелася пагаварыць з ім бо яна здагадвалася, што ўчынак Эвы яму паднеслі як жудасную скандальную гісторыю. Яна хацела даць яму знак. Але не атрымалася. Раніцай ён павінен быў ляцець з генералам у Берлін. Магчыма, там ён сустрэнецца з Эвай. Яна хацела сваёй сяброўцы гэтай сустрэчы.

Яна думала пра Эву з вялікай цеплынёй. Яна адна магла правільна вытлумачыць сапраўдную прычыну высялення Эвы з Зээштэрна. Вельмі цяжка было маўчаць, асабліва перад Траўдэ Хёрзельман, якая цярпліва моршчыла лоб, перад наіўна здзіўленай Хэні Розэнаў і вясёлым іранічным Клемтам — так аднесліся да справы Эвы ў колах, якія спачувалі ёй. Эве з гэтай пары трэба быць асцярожнай удвая. Яшчэ адно падазрэнне будзе пагібельным. Ханке, відаць, не спускае з яе вачэй.

Па дарозе з казіно дадому ў Марліс знайшоўся праважаты. Марцін Уліг быў на вячэрняй прагулцы. Марліс здзівілася, як хутка ён перавёў размову на Эву Магчыма, яго мучылі дакоры сумлення за тое, што ён пакрыўдзіў Эву, з якой бачыўся ў Берліне. Ва ўсякім разе, Марліс здагадалася пра гэта з яго слоў. З другога боку. Ён, вядомы Марцін Уліг, добра адчувае, што ён неабыякавы да Эвы. Ён трывожыцца за яе. Апошнія здарэнні з Бэрам і Ціфенбахам... карацей кажучы, яна пачынае распыляцца, што балюча яму, бо ён заўсёды з павагай адносіўся да яе. Ён спадзяецца, што Марліс неяк падзейнічае на сяброўку.

Марліс заўважыла, як цяжка яму давалася размова але ён не

бачыў іншага выйсця. Дзіўна: усе чакалі палёгкі пасля споведзі ў яе. Яна згадзілася з Марцінам Улігам, што Эва вельмі ўражлівая.

— Але яна ніколі не паддаецца на знешнія эфекты, — дадала Марліс. — Яе цікавяць людзі.

«Эве варта было б сур'ёзней паставіцца да прыхільнасці Уліга, — падумала яна. — Ён хоць і не займальны — не Ціфенбах і не Бэр, — але ён шчыры хлопец, які крануты да глыбіні душы. Ён не прынёс бы Эве неспакойных гадзін чакання і дарэмных надзей».

Поціскам рукі яна развіталася з ім на дарозе праз пляж.

— Я пагавару з Эвай, як толькі яна вернецца. Цяпер вяртайцеся, была папераджальная трывога.

— Гэта важна толькі ў Берліне, — сказаў ён.

— Усё роўна ідзіце. Мне вельмі хочацца мець дах над галавой, калі равуць сірэны.

Першыя бомбы ўпалі ў той самы час, калі завылі сірэны проціпаветранай абароны. Улігу здалося, што ён бачыў яшчэ, як за вуглом матлянулася светлая спадніца Марліс, так хутка пайшло адно за другім. Ён пабег, кінуўся ў прыдарожную канаву. Вакол яго стала светла, як днём. Ён ужо зразумеў, што яму нельга заставацца без сховішча. У тым напрамку, куды ён поўз, грымела, грукала, ламалася. Паветраная хваля зноў адкінула яго назад, ледзь не парваўшы яму барабанныя перапонкі. Перакошаны ў твары, хістаючыся ад напружання. Ён дабраўся да шчыліны прымітыўнага сховішча з драўлянымі падпоркамі, аднаго з тых, якія былі выкапаны на свабодных мясцінах, як краціныя норы, бо пад дамамі ў пасёлку не было масіўных падвалаў.

«Вось ён — бумеранг», — падумаў Лабан, былы вартаўнік маяка. Ён заганяў тых, хто спазніўся, у сховішча ў доме Зэештэрн — частку памяшкання для веласіпедаў у падвале. Марліс Хасэ памагла яму падтрымаць Эдзіт Кнор, якая ад хвалявання спаткнулася на лесвіцы і вывіхнула нагу. Яны стаялі між веласіпедаў, калі фугасная бомба знесла частку дома.

Хэні Розэнаў не змагла нават ускрыкнуць. Яна бачыла, як рушыліся сцены і апоры. Там, дзе толькі што стаялі Марліс, Лабан і Эдзіт, з'явілася вялікая куча абломкаў, ахутаная хмарай пылу.

— Дапамажыце! Іх трэба адкапаць! — Гэта быў голас Ру.

## 10
## ЭХ, ГЕНЕРАЛ!

Генералава форма была заляпана брудам, твар яго запылены, падбародак зарос шчэццю, пад вачамі — цёмныя кругі. Ён недзе знайшоў веласіпед, з коламі і педалямі, якія яшчэ круціліся. На гэтым транспарце, што за некалькі гадзін стаў рэдкасцю. Ён спрабаваў прабіць сабе дарогу ад доследнай установы да пасёлка, каб пры святле бязлітаснай раніцы сваімі вачыма ўбачыць памеры разбурэнняў.

Карціна была жахлівая. Калі б ён нават быў толькі старым салдатам, сэрца б яго зайшлося. А ён жа быў больш чым салдат. Ён быў яшчэ інжынер. Ён быў апантаны ракетнай ідэяй, магчыма, не менш, чым Доктар, і, у ваенных адносінах, нават больш паслядоўны ў дасягненні мэты, чым малады фантазёр.

Яго завод! Калі ноччу ў час налёту ён прыбег да выпрабавальных стэндаў у лабараторыі, у новы мантажны цэх. Ён яшчэ змог разам з двума вартавымі звычайным вогнетушыцелем «мінімаксам» патушыць пажар у адной з маленькіх майстэрняў. Яго ахапіў шал. У сляпой, бяссільнай злосці яму хацелася застрэліцца. Іх знайшлі! Нягледзячы на маскіроўку, на ўсю сакрэтнасць! І ворагі нанеслі ўдар. З усёй сілы.

Але нешта спыніла генерала. Ён не думаў пра раскаянне. Тым не менш было нешта такое, што не пакідала яго, куды б ён ні павярнуўся.

— Эх, генерал, а ў цябе якія былі намеры? А ты чым хацеў страляць — шакаладнымі цукеркамі? Няўжо яны там, на вялікім востраве, што называецца Англія, павінны былі чакаць, пакуль ім пачне салютаваць малы Востраў? Вам дзіўна, што знайшлі? Бо вас шукалі! Самі падалі знак, вашы так званыя героі, якія балбочуць пра помсту, як поп пра бога.

Генерал крактаў. Ён не мог прабрацца праз узараную бомбамі вуліцу. Яшчэ не даехаўшы да лагера. Ён кінуў веласіпед. У барачным лагеры некалькі жылых будынкаў рухнулі, як карабкі з-пад запалак. Каля ўваходу ў лагер на голай зямлі ляжалі забітыя. Салдаты ў няпоўнай форме клалі параненых на адкрыты бразгатлівы грузавік. Генерал ведаў: не было ні санітарных, ні легкавых машын, амаль ніводнай спраўнай грузавой. Машыны былі разбіты ці, у лепшым выпадку, стаялі на з'едзеных агнём пакрышках.

Генерал не ведаў па прозвішчы ніводнага салдата з лагера. Гэта былі каманды яго ракетнай дывізіі. Яны лічыліся франтавой часцю, таму можна было зміры́цца з тым, што нейкая колькасць іх загінула.

Генерал пайшоў далей. Салдаты за цяжкай працай амаль не звярталі на яго ніякай увагі.

— Эх генерал! Паслухай! Іх — не нейкая колькасць, падлічыць тут не хапае цэлай роты. Усё гэта былі малыя колцы якія круціліся, каб твая машына ішла. Ты гэта ўбачыш, генерал! Механізм пачне скрыгатаць, колцы перастануць чапляцца адно за адно. Там, дзе не хапае роты, утвараецца на фронце слабае месца, агаляецца фланг, на карысць ворагу, генерал!

За спіной, вяртаючы яго з задумення, генералу пачуўся вельмі рэальны голас лейтэнанта, які лаяўся:

— Няўжо няма талковага аўтаслесара! Трэба ж неяк завесці гэту ламачыну!

— Эх генерал, ты чуеш, як вішчыць механізм! Генерал супакоіў абрыдлага перасцерагальніка, які неадступна хадзіў за ім па пятах. Ваенная акруга, міністэрства ўзбраення і забеспячэння павіны будуць даць людзей. Пару тысяч палякаў ці французаў, лепш выкарыстоўваць вязняў канцлагераў, падцягнуць шталагі! Ён падасць свае прапановы міністэству і галоўнакамандуючаму рэзерваў. Яшчэ ёсць шмат магчымасцей шляхам перагрупоўкі сіл даць людзей на Востраў. На любым участку фронту можа здарыцца, што пасля бою войскі трэба папаўняць.

Так, пасля бою! Галоўнае поле бою яшчэ чакае генерала. Пасёлак: вуліцы з белымі дамамі, якія без карысці прымасціліся паміж высокімі соснамі. Ужо некалькі гадзін як не было мірных прыватных дамоў. У садах якіх раслі здаровыя дзеці, дзе знаходзілі адпачынак вучоныя пасля напружанай творчай працы, на іх, відавочна, скінута процьма бомбаў. Цэлыя вуліцы ляжалі ў руінах, шмат якія дамы яшчэ гарэлі. Сасновая галіна, што загарэлася ад агню з дома, праляцела ўніз, як вялізная вогненная птушка. Іскры пасыпаліся аж да ног генерала.

Паводле паведамлення, сярод ахвяр былі два вядучыя вучоныя. Магчыма, зацягнутае абмеркаванне напярэдадні ўратавала жыццё яшчэ некалькім чалавекам. Клемт і Брэтшнайдэр былі разам з ім у шчыліне доследнай установы.

Завалы рабіліся ўсё вышэйшыя, чым далей ён ішоў у пасёлак. Атрады па расчыстцы вызвалялі вуліцы для праезду грузавікоў, якім трэба было прабрацца са Свінемюндэ і Грэйфсвальда, каб вывезці забітых і параненых.

Генерал спаткаў штабсцальмайстра Фарланда, начальніка заводскай чыгункі, спевака з казіно. Фарланд так тупа ўтаропіўся ў свайго высокага начальніка які спытаўся ці можа быць выкарыстана чыгунка для транспарціроўкі раненых, быццам ад яго патрабавалі

выканаць песню пра «Малога хлапца».

— Лінія ў некалькіх месцах пашкоджана і ніводнага годнага лакаматыва. — Яго адказ гучаў так, нібы на самой справе ён гаварыў: чаго тут яшчэ хацець? Ратуйся хто можа. Якому нягодніку дзякаваць, што не пабудавалі ніводнага сховішча? Гэтыя шчыліны — не схова. Яны сталі брацкімі магіламі Яму самому пашчасціла, што запасны выхад са сховішча не засыпала. Ён там сядзеў з сям'ёй. — Жонка Брэтшнайдэра цяжка паранена, — сказаў ён. Малая дачка Клемта забіта. У дзявочых інтэрнатах наверсе, на дзюне, жах што робіцца.

Генерала зноў ахапіла бяссільная злосць. Забітыя дзеці, жанчыны! Жылы пасёлак знесены. Ён падвергся масіраванаму налёту, нібы крэпасць! Гэта — подла. Гэта — псіхалагічная вайна. Страты выводзілі яго з сябе. Хоць самыя важныя людзі ўцалелі, ды засталася паніка, трывога, якая спапяляла ўсе надзеі.

Генерал дабраўся да дзюны. Дом Зээштэрн дагараў. Каля дарогі былі разасланы кавалкі брызенту пад якімі няроўнымі контурамі ўздымаліся чалавечыя целы. Генерал адвярнуўся.

— Колькі забітых? — спытаўся ён у лейтэнанта пажарнай каманды. Той не па статуту пацiснуў плячыма.

— Знаходзяць яшчэ. Іх вымывае мора.

— Мора? — не паверыў генерал. — Як дзяўчаты трапілі ў мора?

Сапраўды, некалькі чалавек выцягвалі з вады мерцвякоў. Маладых дзяўчат. Жыхарак дзявочых інтэрнатаў.

— Яны ператварыліся ў факелы і не ведалі, як уратавацца ад фосфару. Вось і беглі ў ваду. Але нават мора гарэла, а лётчыкі расстрэльвалі іх на брыючым палёце, — далажыў лейтэнант.

Генерал адпусціў афіцэра. Было горш, чым ён меркаваў гадзіну назад... шмат горш!

— Эх, генерал! — даносіліся кпіны аднекуль з шуму аўса на беразе. — А які намер быў у цябе? Ці Лондан не адкрыты горад? Ці там не жывуць жанчыны і дзеці? Няўжо ваш А4 быў нацэлены толькі на ваенныя заводы? Хто вераломны, хто? Гэты новы снарад налятае нячутна, хутчэй за гук, пра яго не можа папярэдзіць ніякая трывога. Ён нечакана з'яўляецца з вышыні, і супраць яго бяссільная любая абарона... Эх, генерал!

Генерал стаяў на дзюне. Перад імі былі складзены у рад адна каля адной дзяўчаты, факелы, патушаныя морам; за ім зеўраў разбураны дом, курыўся пасёлак з разбуранымі дамамі і сховішчамі. Справа ад яго ляжалі казармы, дзе жылі дзяўчаты-зенітчыцы, будаўнічыя атрады і лагер замежных рабочых. І гэта было яшчэ не ўсё.

— Эх, генерал!

Генерал крутнуўся на абцасах. Яго рука зрабіла жэст, нібы адмятала прэч перашкоду.

— Працягваць працу! — раўнуў ён незразумелае для пажарных і атрадаў, што разбіралі завалы. А потым яшчэ раз: — Працягваць працу!

Амаль у гэты ж час звесткі пра катастрофу, што абрынулася на Востраў, пранiклі ў берлінскія ўстановы, якія ўскосна ці непасрэдна мелі зносіны з доследнай установай. Прафесар Лёйпальд пазваніў Эве ў Адлерсгоф.

— Кідайце працу і выязджайце, — крыкнуў ён. — Вы патрэбны там. Кажуць, страты вельмі вялікія.

Эва прамармытала падзяку і словы развітання. Ад жаху ў яе амаль адняло мову. Калі праз некалькі гадзін яна сядзела ў цягніку, на яе з усёй сілы абрынуліся ўяўныя малюнкі. Яна прыпомніла ўсіх, з кім была знаёмая ў доследнай установе, думкі яе ўвесь час вярталіся да тых, за каго яна баялася найбольш.

Калі за Духеравам пераехалі мост, доўгую руку, якую суша падавала Востраву, пачаў адчувацца беспарадак новай сітуацыі. У каго не было дакументаў аб прыналежнасці да завода, далей не пускалі. Забаронную зону расшырылі да Козерава.

Са Свінемюндэ поезд, які значыўся ў раскладзе, не ішоў. Тут кішэла салдатамі, афіцэрамі, санітарамі, якія бегалі, нібы атрымалі трывожны загадкавы загад. Па дарозе ў вакзальную камендатуру Эва спаткала штабнога ўрача. Яго смуглы зморшчаны твар здаваўся ўзрушаным і змораным бяссонніцай. Ён прапанаваў ёй паехаць з ім.

Амаль усё задняе сядзенне машыны было заложана перавязачным матэрыялам і лякарствамі. Шафёр накінуў маскіровачны брызент на гару скрынак з чырвоным крыжам. Эва ледзь памесцілася на сядзенні. Урач сеў каля шафёра.

— Я спачатку спынюся ў Цыновіцы каля рэзервовага шпіталя, — сказаў ён. — Вы можаце павітацца там са сваімі знаёмымі.

Эвіна рука сутаргава ўхапілася за спінку пярэдняга сядзення. Урач павярнуўся да яе.

— Ах, вось што. Вы ж не ведаеце падрабязнасцей. Дома Зэештэрн больш няма. Фройляйн Хасэ і... так і фройляйн Кнор — забітыя. Стары Лабан таксама.

Эва моўчкі сядзела, скурчыўшыся каля гары скрынак. Яна плакала без слёз. Яна больш не адважвалася пытацца.

У Цыновіцы ў былой сталовай летняга пансіяната сярод лёгка параненых яна сустрэла Траўдэ Хёрзельман і Ру. Траўдэ абняла Эву за шыю адной рукой другая была ў гіпсе.

— Гэта было жахліва. Марліс і Эдзіт Кнор! Эдзіт яшчэ вечарам была такая вясёлая. Штабны ўрач хацеў адвезці яе ў добры радзільны дом, дзе яна спакойна радзіла б... — Траўдэ заходзілася ў плачы. Яна гаварыла шэптам: — І маленькая Віні загінула, задыхнулася і згарэла, разам з дзяўчатамі. Доктар Клемт быў на заводзе. А яго жонка паехала з Норбертам... — У Траўдэ не было сілы гаварыць.

Ру ўбачыла позірк Эвы, у якім усё яшчэ было страшнае пытанне.

— Мы яшчэ не ўсё ведаем, — сказала яна. — Але кажуць, што заводскі бункер уцалеў.

Штабны ўрач махнуў ёй.

— Пойдзем ці спачатку зойдзеце на кватэру?

— Я іду з вамі. Я хачу дапамагаць. Скажыце мне, што трэба рабіць.

— У вас жа няма медыцынскай падрыхтоўкі.

— Не, але я, пэўна, змагу даглядаць хворых.

— Заўтра павінна быць папаўненне персаналу. Вы зможаце займацца нечым іншым, бо вы ведаеце тутэйшых людзей і абставіны — значыць, будзьце ўважлівыя, я вазьму вас з сабой на нараду пры генерале. Калі вы не вельмі разгубіліся, звярніце ўвагу на патрэбы жанчын, якія працуюць тут. Будзе праводзіцца дэцэнтралізацыя. Будуць такія-сякія цяжкасці. Дапамажыце здаровым. Ім гэта таксама патрэбна.

Эва была толькі адна жанчына на нарадзе якую кожны дзень склікаў генерал. Дакладвалі афіцэры і асобныя кіраўнікі пра зробленае за дзень, пра расчыстку завалаў, забеспячэнне параненых і работу транспарту. Потым зачытваўся загад пра задачы на наступны дзень.

Эва сядзела каля задняй сцяны вялікага пакоя для нарад. Калі генерал убачыў, як яна сядзела ў сваёй светлай ільняной спадніцы сярод афіцэраў, якія за ноч сталі франтавікамі. Ён усміхнуўся.

Яна заставалася сур'ёзная, і ён спытаўся ў яе ці гатова яна ўзяць на сябе функцыі выхавацелькі У першую чаргу трэба было арганізаваць жытло дзяўчатам і жанчынам. На гэта добра падышлі б курорты на ўсход ад Козерава з іх вялікімі пансіянатамі.

Эва згадзілася.

Хата каля трыснягоў стаяла без даху. Эва спынілася перад ёю у вечаровым змроку і не ведала, куды ёй падацца. Эва прайшла ўсе пакоі, дзверы не зачыняліся Дом быў пусты, нібы з яго ўсё вынеслі.

Ад суседняй хаты, якая была менш пашкоджана нехта ішоў да яе. Гэта была Хана Пэплаў.

— Я так і думала, што вы сёння вернецеся — сказала яна. —

Вашыя рэчы — у нас. Веласіпед таксама Вашы гаспадары перабраліся на лодцы у Фрэст і жывуць у сваякоў. Кожны стараецца падацца як мага далей ад доследнай установы. Чакаюць новых налётаў.

— А вы ж засталіся!

— Засталася. Не так лёгка пакінуць родны дах. Вы ж бачыце. Ён уцалеў. Калі хочаце, можаце пабыць у нас. Раскладушка есць.

Эва пайшла да Пэплавых. Калі паставілі раскладушку, вузкі пакой пад дахам аказаўся забітым дарэшты. Эва расказала, якое даручэнне ёй даў генерал

— Як лічаце, ці правільна, што я згадзілася?

— Правільна. Вы замяніце сваю сяброўку Марліс Хасэ. Вы можаце шмат зрабіць. Цяпер пакуль будзе вельмі цяжка. Дзяўчатам далёка ездзіць.

— На заводзе зноў працуюць?

— Прыбіраюць, наводзяць парадак зносяць у кучы, што ўцалела, рамантуюць. У архівее таксама быў пажар. — Хана ўважліва паглядзела на Эву. — Магчыма, і ваша асабовая справа згарэла.

Эва імгнення зразумела намёк.

— Згарэла?

— Яшчэ не ведаю. Але гэта можна зрабіць.

— А што тады?

— Вам трэба будзе даць такія-сякія звесткі для новай асабовай справы. Аўтабіяграфію, у галоўных рысах...

— Метрыку?

— Не, сёння з дакументамі цяжка. Вы ж былі на працоўнай павіннасці, так? Гэтага дастаткова.

Эвіна раскладушка стаяла пад маленькім акенцам з цудоўным відам. Ужо было цёмна. Трыснягі шапталі.

— Хана, — сказала яна праз нейкую хвіліну. — Папраўдзе, вы ведаеце пра мяне ўсё?

— Я думаю, усё, што мне трэба ведаць.

— Я пра вас не ведаю амаль нічога. Юрген Бэр быў негаваркі. Але я крыху здагадваюся.

— Не абавязкова ўсё ведаць. Вы і так нам добра дапамаглі, бо правільна адчувалі.

— Усё было выпадкова. Мне проста не хапае вашай мужнасці.

— Не прыбядняйцеся так. Вы паказалі сваю мужнасць, не ўсведамляючы яе, калі спатрэбілася. А ваша сяброўка Марліс дзейнічала свядома. Вы цяпер на прадпрыемстве яе пераемніца...

— Толькі пакуль усталюецца належны парадак. У намесніцы Марліс нервовы шок.

— Магчыма, вы потым возьмеце на сябе задачу Марліс — у нас.
— Я не ведаю. Магчыма.
— Яшчэ ёсць час. Нам трэба быць цяпер вельмі асцярожнымі. Пасля ўцёкаў Юргена Бэра хадзіла шмат чутак Прыведзена ў дзеянне машына абвера. Са шматлікіх новых людзей, што з'явіліся тут, той-сёй можа аказацца небяспечным. Было б не дзіўна, калі б цяпер, карыстаючыся момантам, пазбавіліся ад ненадзейных. — Праз нейкі час яна ціха сказала: — А мы давайце не будзем паказвацца разам на вочы. Вы разумееце? І пакуль раз'ясніцца пытанне з жытлом, пашукайце сабе пакой.
Эва зразумела.
Яна доўга не магла заснуць. Дзень закончыўся, а яна нічога не даведалася пра Ганса Ціфенбаха. Тыя нямногія, у каго яна змагла спытацца, не бачылі яго Пра Марціна Уліга таксама ніхто нічога дакладнага не ведаў. Гаварылі, быццам ён быў лёгка паранены. Распытваючыся, яна даведалася, што Матэзі загінуў
Яна чула пра жывыя факелы, пра жыўцом пахаваных, забітых, згарэлых, патанулых, застрэленых. Яны памерлі рознымі смерцямі — Марліс, Лабан, Матэзі, маленькая Вінфрыд і Эдзіт, у якой не паспела нарадзіцца дзіця, і шмат іншых.
Эва паспрабавала прывесці свае думкі ў парадак. Яна не змагла прыпомніць, што яна апошні раз сказала Марліс. Вядома, гэта былі невясёлыя словы, бо крыўда, што Марліс адмовілася ад яе, была занадта горкая А цяпер ужо нічога не паправіш, страчанага не вернеш

## 11
## ПОМСТА ХАНКЕ

І ў самай вялікай неразбярысе часам выпадак бывае сілай, якая даводзіць усё да ладу. Эва званіла па тэлефоне з цэнтральнага прапускнога пункта. На заводзе працавала толькі некалькі нумароў. Яна хацела спытацца пра час ад'езду машыны, якая павінна ўзяць яе транспартны аддзел паслаў яе ў пастаянную службу хуткай дапамогі пры генерале.
Голас дзяжурнага хуткай дапамогі здаўся ёй знаёмым. Гэта быў чалавек з манерай гаварыць павольна і задумліва. Эва, занепакоіўшыся, хацела сфармуляваць свае пытанне крыху рэзка. Яна памаўчала і спыталася нерашуча, з недаверам:
— Хто гэта, калі ласка?
— Дзяжурны хуткай дапамогі.
— Добра, добра, але хто?

— Ціфенбах.

— Я... Я — Леангард. — Вакол стаялі вартавыя таму яна назвала толькі прозвішча.

Сведчаннем найбольшай нечаканасці пры размове па тэлефоне найчасцей бывае маўчанне. Эва ліхаманкава чакала адказу.

Ён думаў, што яна яшчэ ў Берліне... Ці здаровы?.. Здаровы. Так, на заводзе ўсё абышлося параўнаўча шчасліва. Ён усю ноч дзяжурыў і вельмі замарыўся. Ці не магла б яна вечарам прыйсці ў Бодэнхауз, яго памясцілі часова там недалёка ў вёсцы... Так, яна прыйдзе.

Ён быў жывы, здаровы, хацеў пагаварыць з ёю. Яшчэ не ўсе мары ператварыліся ў попел.

У машыне, якая вазіла Эву па Востраве акрамя Ханке, у якога на пагонах з нядаўняга часу былі дзве зоркі і якому было прысвоена званне штабсцальмаістра, сядзелі Карла Вінтэр і лысы оберштабсштэндант з чэрапам рымляніна.

Ханке і намёкам не выдаў задач сваей паездкі. Каля варотаў курорта Бансін, які трэба было агледзець. Ён выйшаў з Карлай Вінтэр.

Оберштабсінтэндант сярод вялікіх будынкаў пансіяната адразу знайшоў патрэбны. Не ўсе падыходзілі пад жытло. Набліжалася восень. Шмат якія дамы не ацяпляліся.

Далікатныя гаспадыні моршчылі лбы і тлумачылі, што на верандах зімой холадна, хоць ваўкоў ганяй, што вокны зачыняюцца дрэнна, а комін не дазваляе устанавіць дадатковыя печы. Ім здавалася, што утульная зіма, якая прыйдзе пасля фінансава прыбытковага лета, будзе парушана, калі тут надоўга паселяць дзяўчат-салдатаў Яны супраціўляліся, уздыхалі і нарэшце уступалі, каб іх летнія раскошныя палацы з ільвамі абапал ганкаў з фае упрыгожанымі калонамі, усе іх пакоі, пакрытыя лакам ружовага ці зялёнага колеру, від на мора з якіх курортнікамі першага класа аплачваўся звонкай манетай, каб уся гэта краса, разам са сталом, з верандай і вялікай кухняй у падвальным памяшканні, была аддадзена пад жытло чарцёжніцам і машыністкам, якія настолькі яшчэ не ўмелі паводзіць сябе у жыцці, што ім патрабавалася выхавацелька.

Эву злавала крыўлянне курортных дам. Гэтыя жанчыны, якія яшчэ нічым не дапамаглі, якія назіралі жудасную вогненную навальніцу бомбавай ночы з бяспечнай адлегласці і па-фарысейску маліліся: «Дзякуй табе, божа, што не караеш нас...» — гэтыя гаспадыні, хто яшчэ нічога не страціў, глядзелі з пагардай на войска дзяўчат, якія, добраахвотна ці не, былі, жылі тут, уцалелі на гэты раз, якім патрэбна было жытло, дах, чатыры сцяны, карацей кажучы, дом, бо цяпер яны былі толькі лісцем на ветры.

Эва палка выступала за інтарэсы дзяўчат. Яна з палёгкай уздыхала, калі ўдавалася адваяваць яшчэ адзін дом.

Дом Штранддорн на Бергштрасэ ёй асабліва спадабаўся. Дом быў пабудаваны па самым новым архітэктурным праекце і абыходзіўся без пышнай плюшавай мэблі, як у большасці такіх дамоў. У ім былі ўтульная сталовая, добрыя санітарныя ўмовы і пакоі з ацяпленнем. Акрамя таго, вокны ад мора былі падвойныя — рэдкасць у такіх летніх дамах. Але гаспадыня Штранддорна асабліва ўпарцілася. Хоць яна і зразумела даўно, што дом усё роўна забяруць — оберштабс-інтэндант зрабіў ёй некалькі іранічных намёкаў,— яна ўмела зацягвала заключэнне кантракту. Эва з Лысым вырашылі вярнуцца да яе яшчэ раз.

— Штранддорн — агідная расліна, абляпіха, — сказаў інтэндант, выходзячы разам з Эвай. — Жанчына не адкруціцца. Але мне хацелася зрабіць усё дабром. Лепш для дзяўчат, якія тут пасяляцца. З раздражнёным драконам не вельмі прыемна жыць пад адным дахам.

Эва кіўнула.

— Гэты дом вельмі важны. Побач два, у якіх такія паскудныя месцы агульнага карыстання. Трэба было б урэгуляваць такім чынам, каб вялікае памяшканне ў Штранддорне было час ад часу даступна і дзяўчатам з суседніх дамоў.

Інтэндант усміхнуўся.

— Ваша дальнабачнасць вартая гэткай жа пахвалы як і настойлівасць. Але давайце пра гэтыя планы лепш сёння нічога не гаварыць гаспадыні Штранддорна

Яны спаткалі Карлу Вінтэр, у якой былі нейкія справы у пасёлку. У многіх курортных дамах былі абсталяваны запасныя кабінеты; чарцёжнікі пачалі працаваць там. Карла вырашыла затрымацца тут. Яна баялася што пасля вялікага шоку на рэарганізацыю завода патраціцца замнога часу. Важныя сілы распыляліся на дзяжурства каля тэлефонаў, на набыццё новага інвентару. Шмат хто пры гэтым выпускаў з поля зроку вялікую мэту. Карла Вінтэр адносіла сябе да тых, хто здольны, нягледзячы на хаос, падняць на Востраве бадзёры настрой.

— Калі дзяўчаты будуць мець прыстойныя жыллёвыя ўмовы, яны будуць добра працаваць, — сказала яна і пахваліла Эву, якой Лысы галантна прыпісаў поспех. Карла далучылася да іх, і яны пайшлі ў Штранддорн, каб закончыць апошнія фармальнасці.

Гаспадыня не адразу выйшла да іх. Нарэшце яна спусцілася па лесвіцы, пазіраючы на гэтых траіх паважна, з высока ўзнятай галавой. Яны чакалі ў фае. Яе суправаджаў Ханке.

— Мне вельмі шкада, — сказала яна, — мой дом толькі што гер

Ханке заняў для афіцэраў.

У Эвы ў грудзях узнялася хваля гневу, калі яна ўбачыла на твары ў жанчыны салодзенькую ўсмешку.

Позіркі Ханке і Лысага спатkaліся. Інтэндант суха сказаў:

— Вы памыляецеся, шаноўная, мы яго ўжо забраніравалі. — Ён павярнуўся да Ханке. — Вам вядома, што мне даручылі займацца пытаннямі размяшчэння. Увогуле!

— Цывільнага персаналу, гер оберштабсінтэндант. Мяне паслаў генерал асабіста, — сказаў Ханке.

— Я не сумняваюся ў вашым паўнамоцтве. Але несумненна і тое, што мы былі тут больш як гадзіну назад і вялі перагаворы з гаспадыняй дома.

— Перагаворы вялі, але ні аб чым цвёрда не дамовіліся.

— Што значыць — весці перагаворы, вам вядома. Але тым часам вы прачасалі пасёлак, пачынаючы з палаца, і не знайшлі нічога вартага. Не, гер штабсцальмайстар, так справа не пойдзе.

Гаспадыня Дорна стаяла расчырванелая і ад усёй душы хацела, каб перамог высокі статны мужчына, які паабяцаў ёй афіцэраў, а не лысы і дзяўчына, якія хацелі падсяліць ёй неадукаваных дзяўчат, напіхаўшы іх па тры-чатыры ў пакой. Штабсцальмайстар меў рацыю, калі гаварыў, што ва ўсёй акрузе няма такога дома, дзе сталовая так пасавала б пад афіцэрскае казіно, як памяшканне ў Штранддорне. Яна, падміргнуўшы, паказала яму таксама ўтульную распівачную ў падвальным паверсе. Тут паны маглі б зусім спакойна перачакаць нават паветраную трывогу, пры той умове, што да горшага не дойдзе! Хто яшчэ мог пахваліцца такім? Бары афіцэры сабе таксама набудуць, у гэтым гаспадыня Дорна не сумнявалася. Яна была асабіста знаёмая з герам падпалкоўнікам Кельнерам і не раз, калі ён час ад часу бываў тут са сваёй маладой жонкай, выказвала яму сваё захапленне яго арганізатарскім талентам. Такім чынам, у яе тут быў бы самы поўны парадак. Але, на жаль, гэта цёмнавалосая дзяўчына ўткнула свае тры грошы. Абуральна, як яна выступала перад цальмайстрам з дзвюма зоркамі на пагонах.

— Я прашу падумаць пра адно, — сказала Эва. — Абодва суседнія дамы каля Штранддорна будуць заселены жанчынамі — служачымі і работніцамі — па пяцьдзесят чалавек у кожным. На абодва дамы можа быць прызначана, па ўсёй верагоднасці, толькі адна выхавацелька. Ва ўсіх дамах па некалькі выхадаў: падвал, гаспадарчы выхад, тэрасы і падобнае. Значыць, трымаць усё ў полі зроку вельмі цяжка. А чым абернецца тое, што паміж імі будзе афіцэрскі дом?

Чым больш гаварыла Эва, тым больш крывіўся твар у Ханке. Потым ён засмяяўся.

Оберштабсінтэндант зрабіў незадаволены жэст.

— Прабачце, што я смяюся, — сказаў Ханке зласліва. — Але ж гэта смеху варта, што менавіта фройляйн Леангард турбуецца за мараль жаночага персаналу. Фройляйн Леангард я б, вядома, не параіў сяліцца "ў доме на Бергштрасэ.

Лысы нервова соўгаў крэсла, за спінку якога трымаўся.

— Гер штабсцальмайстар, — сказаў ён з асцярожным неадабрэннем. Потым ён павярнуўся да гаспадыні. — Заўтра вы пачуеце наша канчатковае рашэнне. На дом накладваецца арышт.

Гаспадыня Дорна зрабіла пакрыўджаную міну і кінула на Эву спапяляльны позірк.

У машыне панавала маўчанне. Яно прыгнятала як задушлівая спёка, што яшчэ з раніцы накапілася ў закрытай машыне. Карла Вінтэр папрасіла высадзіць яе на паўдарозе, у Цэмпіне. Яна сказала, што яе чакаюць У Бодэнхаўзе.

Эва ахвотна пайшла б з ёю, але яе чакала яшчэ адна нарада ў генерала, пакута, якой яна баялася

Лысы заўважыў яе трывогу.

— Дазвольце дакладваць мне, — сказаў ён — Вы будзеце толькі сведка.

Пакой ля нарад быў  такі запоўнены, што многім мужчынам прыйшлося стаяць. Першы, каго ўбачыла Эва, быў Марцін Уліг. Ён стаяў, абапёршыся аб сцяну, і аж уздрыгнуў, убачыўшы яе ў дзвярах

Лысы адразу распарадзіўся прынесці Эве крэсла. Яна вымушана была сесці і здалёку кіўнула Марціну Улігу. На руках, вакол падбародка і на левай шчацэ ў яго былі пластыры.

Людзі бясконца хадзілі туды-сюды. Той, хто далажыў і атрымаў дырэктывы, выходзіў, каб не траціць часу. Трэба было хутка перавесці цэлыя аддзелы і цэхі. Тое, што заставалася тут, трэба было размясціць на магчыма большай адлегласці адно ад аднаго, каб пры налётах, калі яны будуць, было меней страт. Падрыхтоўка да засялення канфіскаванага жытла і вырашэнне транспартнай праблемы ўсё яшчэ заставаліся самымі пільнымі задачамі.

Генерал непрыкметна ўсміхнуўся з гарачнасці лысага оберштабсінтэнданта, які з дапамогай гэтай абаяльнай Леангард стараўся размясціць жаночы персанал так, каб яны жылі зручна і па магчымасці кампактна. Яго аргументы — пераканаўчыя. Ні кіраўніцтва ваеннай акругі, ні вярхоўнае камандаванне сухапутных войск не мелі ў запасе выхавацелек для інтэрнатаў. Страты сярод дзяўчат былі

кампенсаваны вельмі маладой зменай. Нельга было дапускаць даволі вольны рэжым, які быў раней у інтэрнатах. Семнаццаці-, васемнаццацігадовых работніц можна было атрымаць толькі па мабілізацыі, а старэйшых кадраў амаль не было. Такім чынам! Ён глянуў на Ханке, які сёння са сваім спецзаданнем залез у парафію Лысага. Гэтага, вядома, ад яго не патрабавалі. Афіцэрам знойдзецца іншы аб'ект.

Ханке прывёў з сабой дзявочую фюрэрку, кіраўніцу разбуранага дома Карал, з якой ён нядаўна заручыўся. Таму, хто хоць трохі ведаў людзей — а генералу здавалася, што такія веды ў яго былі, — было зразумела, што яе прысутнасць служыла ўмацаванню яго пазіцый. Тут, відаць, было прымяшана яшчэ нешта, калі ён выступаў так настойліва. Магчыма, саперніцтва жанчын? Ханке — жаночы герой. Генерал чуў, што цальмайстар нават з фраў Клемт... але на гэта лепш не звяртаць увагі.

Ён быў выдатны арганізатар і цяпер даказаў сваю дзелавітасць.

Маленькая Леангард здалася яму, генералу, напярэдадні, калі яна з'явілася ў светлай чыстай кофтачцы побач са штабным урачом, пасланніцай з іншага свету. Не дзіва, што яна падабалася маладым хлопцам і жыла пры гэтым крыху вольна. Але ў Ханке найменш прычын хваляваца. Каб зберагчы свой гонар. Ён цяпер выступаў за тое, каб адправіць у Штранддорн дзяўчат службы ваеннай дапамогі. Але тут яго паўнамоцтвы не мелі сілы. Генерал палічыў, што пара вынесці свой прысуд: тры суседнія дамы на Бергштрасэ перадаюцца цывільнаму персаналу. Прычына: эканомія падрыхтаваных выхавацелек, сумесная кухня і г. д. і да т. п.

Ханке закусіў вусны. Генерал сказаў свае слова і перайшоў да наступнага пытання.

Калі Эва пакідала нараду, паміж крэсламі стаў праціскацца Марцін Уліг. Ён дагнаў яе каля будынка штаба, і яны разам пайшлі ў сталовую ў бараку. Ён гаварыў пра гадзіну перад палётам, расказваў, што ён быў апошні, хто гаварыў з Марліс. Налёт у Берліне — дробязь у параўнанні з тым, што навалілася на Вострав. Самае горшае — недахоп сховішчаў.

— Я правяду цябе дадому, — сказаў ён, заўважыўшы, што яна робіцца ўсё больш маўклівая. — Я выдатна разумею цябе. Сапраўднае сяброўства — рэдкасць. Цяжка, калі яго траціш.

У Эвы не хапіла сілы сказаць яму, што яе чакаюць яшчэ ў Бодэнхаўзе. Ды і позна ўжо было. Службовыя машыны, якія б маглі падвезці яе, пасля нарады ў генерала адразу раз'ехаліся. Рабочыя цягнікі таксама пайшлі. На тэрыторыі завода стала жахліва ціха. Нават казіно страціла сваю прываблівую сілу. Толькі пажарныя патрулі

хадзілі, бязгучна, незадаволена, чакаючы канца бясконцай ночы.

Так атрымалася, што Ханке і Лысы, якія жылі ў Цыновіцы, па дарозе дамоў зноў апынуліся ў адной машыне. Цяпер сведак не было.

Лысы пасмяяўся:

— Што, камарад, пакрыўдзіўся за паражэнне?

Ханке выкінуў свой самы вялікі козыр.

— Вы выстаўляеце сябе не ў найлепшым святле, гер оберштабсінтэндант — даруйце, што дазваляю сабе сказаць вам гэта, — калі карыстаецеся аргументамі яўрэйскай мяшанкі.

— Не гаварыце глупства. Тады б дзяўчына не была на Востраве.

— Яўрэйка на чвэрць! Праз службу ваеннай дапамогі якраз была магчымасць трапіць сюды. Ды яшчэ крыху пратэкцыі: у свой час капітан Говер, пазней — д-р Клемт. Заўсёды тое-сёе можна ўладзіць, а адпаведнай інструкцыі і да сённяшняга дня яшчэ няма.

— Адкуль у вас такія мудрыя звесткі?

— Выхавацелька прызналася. Мая дакладная дала свае плады: звальняюць усіх ненадзейных элементаў! А вы іншай думкі, гер оберштабсінтэндант?

— Калі такія справы, вядома, не.

Ханке апусціў куточкі вуснаў. З пераможанага ён ператварыўся ў пераможцу.

Калі службовая машына Доктара спынілася перад Бодэнхаўзам, Ганс Ціфенбах спадзяваўся, што Эва выйдзе з задніх дзвярэй. Ён не ведаў, сумаваць яму ці радавацца, што Доктар прыехаў адзін.

Ён быў у нейкім дзіўным настроі. Цэлы дзень мітусня. То жаданне, то наадварот. Калі раніцай Эва так нечакана загаварыла па тэлефоне, яго запрашэнне прыйсці вечарам у Бодэнхаўз было першым імпульсіўным парывам. Потым нахлынулі сумненні. Яму заўсёды былі непрыемныя размовы на інтымныя тэмы.

Знікненне Бэра было загадкай. Эва вельмі далёка зайшла, калі яна ведала і дапамагала яму ўцячы. Але ж, пэўна, яна ведала, напэўна. Яму нават хацелася, каб яна ведала! І ўсё-такі, форма гэтай дапамогі — тут яна зрабіла памылку. Тут канчалася ўсякая велікадушнасць. Ты ж жывеш у грамадстве. Дзяўчына ў дваццаць адзін год, трацячы рэпутацыю, траціць нешта незваротнае.

Ён быў упэўнены, што яна кахае яго. Дык ці падумала яна пра яго тады, калі Бэр прыйшоў да яе?

Тут ён сілай спыніў свае думкі і сам пачаў прамову ў абарону Эвы. Ён прыпомніў Руген, вясковую гасцініцу. Ці не памыліўся ён ужо раз у ёй?

Да яго далучыўся Водруба. Зычлівы венец спахмурнеў. Яго сяб-

роўка загінула. Яе абстралялі з самалёта, калі яна хацела ў моры патушыць фосфарны агонь.

— Як мала мы карысталіся адведзенымі нам гадзінамі, — сказаў ён прыгнечана. — Часам мы сварыліся і, каб укалоць адно аднаго, садзіліся ў казіно за розныя сталы. Я хацеў ажаніцца з ёю. Яна доўга не верыла мне. Яна называла мяне «венскім хітруном». Толькі пасля таго, як яна прачытала ў пісьме ад маёй маці, што я пісаў пра яе менавіта так, як пішуць дамоў, калі хочуць сур'ёзна звязаць свой лёс з дзяўчынай, лёд рушыў. Да таго часу яна не дазваляла мне дакрануцца.

Думкі не давалі Гансу Ціфенбаху спакою. Магчыма, уяўленне Водрубы аб прыстойнасці патыхала затхлым старым домам, але глыбіня яго жалобы надавала святое адценне ўсяму, што ён гаварыў пра нябожчыцу дзяўчыну. І несумненна ён меў рацыю, што сёння нельга ведаць, ці навярстаеш заўтра адкладзеную сёння сустрэчу. Яму вельмі хацелася, каб Эва прыйшла.

У Бодэнхаўзе гаварылі пра лёс Клемтаў. Фраў Клемт, якая з Норбертам, малодшанькім, затрымалася ў бацькоў пад Магдэбургам, прыехала адразу пасля налёту. Незадаволенасць мужам, чыя апантанасць у даследаваннях кінула яе ў абдымкі Ханке, цяпер ператварылася ў сляпую нянавісць, калі яна ўбачыла мёртвую Вініфрэд. Здавалася, яна ставіць мужу ў віну, што ён жывы. Ён не ўбярог дзіця. Яго зноў не было дома... Усе яго ранейшыя папрокі нічога не значылі ў параўнанні з тым, чым цяпер яна дакарала яго. Яна была жанчына эфектных жэстаў. Яна дазволіла б вырваць кавалак мяса са свайго цела, калі б так можна было ператварыць асабістае паражэнне ў перамогу. Яна ненавідзела. Яна ненавідзела мужа. Яна ненавідзела Ханке, які баязліва пакінуў яе ў бядзе. Яна ненавідзела англічан, амерыканцаў, якія забілі яе дзіця. Яна ненавідзела рускіх, якія хацелі разбурыць бацькаў гешэфт на Украіне і ў Польшчы. Яна ненавідзела ўсёй душой. Яна паехала зноў у Магдэбург, ведаючы, што там доўга не прабудзе. Ёй патрэбны былі задачы, якія адпавядалі б яе магчымасцям, задачы, ад якіх яе ўтрымліваў Клемт.

Ганс Ціфенбах бачыў перад сабою белакурую жанчыну, насмешлівую, славалюбную, прагную да жыцця. Ёй хутка перабаліць смерць дзяўчынкі, магчыма, хутчэй, чым Клемту, які мучыў сябе папрокамі, якому страта жонкі стала цяжкім ударам. Яго дом зруйнаваны. У яго не было нічога, куды б ён мог вярнуць яе. Трагедыя сям'і завяршылася... Ціфенбах успомніў, як Клемт неяк у размове даў яму зразумець, што на вайне пры яго занятку лепш заставацца халасцяком. Ці змяніў ён сваё перакананне? Відаць, вельмі жахліва — застацца вось так, з пустымі рукамі. Але толькі той, хто нешта меў,

мог страціць. Няўжо сапраўды лепш заставацца вандроўнікам, у якога ўсё багацце ў чамадане, а думкі — толькі ў працы?

Прыйшла Карла Вінтэр і прынесла вестку пра Эву. Яна расказала пра размову з гаспадыняй Дорна. Энергічныя дзеянні Эвы ў інтарэсах жаночага персаналу імпанавалі ёй, але толькі. Нешта, асветленае двайным святлом, што прамільгнула ў вачах у Эвы, калі гаварыў Ханке, зацікавіла яе па-сапраўднаму. Карле абавязкова хацелася ведаць больш.

Ганс Ціфенбах рэзка ўстаў з-за стала. Такая размова была яму невыносная. Ён адчуў, што Ірэнэ, добры дух дому, паглядзела яму ўслед са спачуваннем. Зразумела, яна ведала ад Доктара пра ўсё, што здарылася. Яна магла б расказаць гэта лётчыцы.

Ён крыху прайшоў уздоўж вады, але толькі датуль, пакуль быў відаць дом. Каб яна прыйшла! Ён хацеў пагаварыць з ёю, перш чым яна зойдзе ў дом.

Ханке зганьбіў яе. Яна была па-за законам, яна вымушана была мірыцца з ганьбай, калі не хацела стаць здрадніцай. Няўжо яна не ведала, які далікатны ён быў у інтымных справах? Магчыма, гэта — адна з яго найвялікшых слабасцей. Яшчэ вучнем старэйшых класаў ён не танцаваў на школьных святах, калі там быў нехта з сям'і. Было б пакутай, калі б маці ўбачыла, што ён паглядае на якую-небудзь дзяўчыну. Там, за сталом, яму трэба было абяззброіць Карлу Вінтэр, калі яна пачала распытваць пра той скандальны выпадак. Магчыма, высыпаць цукарніцу — як Шарлота Левенскельд! Часам ён бываў здольны і на такое. Але калі закранулі самае патаемнае. Ён не змог. А Эва ўвайшла ў яго самае патаемнае, у гэтым ён пераконваўся тым больш, чым мацней яна вымушала яго сумнявацца і абурацца. Ён трапіў у сур'ёзнае становішча, у чым ён упершыню прызнаўся сам сабе. Магчыма, лепш, каб яна сёння не прыйшла! Спачатку яму трэба было навесці парадак у думках.

Забраць бы Эву адгэтуль! Можа, і праўда, што аэрадынамічную трубу будуць некуды пераводзіць, далей ад вялікага прадпрыемства! Ён вырашыў пагаварыць пра гэта з Клемтам. Калі Доктар вылазіў з машыны, Ціфенбах зноў быў каля дома.

— Падрыхтуйцеся ў дарогу, заўтра вы вылятаеце ў Фрыдрыхсгафен! — крыкнуў яму Доктар. Потым, стоячы побач, прамовіў з усмешкай: — Я б з радасцю прывёз Леанцінэ, але я яе больш не бачыў. Яна пакінула нараду, як толькі яе справа была вырашана. Уліг пайшоў следам. — Ён заўсміхаўся, як чалавек, які не ведае няўдач. Пасля доўгага працоўнага дня ён усё яшчэ пругкай хадой пайшоў да Ірэнэ, якая выйшла з дому.

— Мне хочацца перад вячэрай яшчэ крыху пакатацца пад ветразем, — сказаў ён. — Пайшлі хутчэй, пакуль нас не бачаць. У папцы ёсць блакнот для стэнаграфавання. Мне трэба прадыктаваць табе яшчэ некалькі пісьмаў. А потым мы пакупаемся.

Яны ўцяклі крадком, як дзеці.

«Які шчаслівы ў Доктара характар», — падумаў Ганс Ціфенбах, уздыхаючы. Едучы ў блакітнай «Татры». Ён, напэўна, моршчыў лоб, круціў сабе галаву над планамі і табліцамі і не скупіўся на моцныя выразы. За адну секунду ён умеў пераключыцца. Наступная гадзіна належала адной Ірэнэ. Нейкая нязначная стэнаграма была толькі зачэпкай, каб забраць яе з-пад нагляду гаспадыні Бодэнхаўза. Для яго ва ўсім свеце была толькі адна сапраўдная праблема: ракеты.

Ганс Ціфенбах паволі ішоў да вёскі.

«Я нават не ведаю, дзе Эва цяпер жыве», — раптам прыйшло яму ў галаву.

Раніцай з кабінета Лысага Эва ўбачыла, што з машыны, якая прыпынілася перад будынкам штаба, выйшаў Ганс Ціфенбах. За ім выйшла Карла Вінтэр. Калі яны схаваліся ў будынку штаба, шафёр пачаў перастаўляць чамаданы на заднім сядзенні. Там былі светлы плашч Ціфенбаха і яго папка.

Эва не магла ўседзець у кабінеце. Яна ўзяла пад паху нейкую папку з паперамі і пачала хадзіць туды-сюды па калідоры. Праз некалькі хвілін з кабінета генерала выйшлі тыя, каго яна чакала, у суправаджэнні некалькіх вайскоўцаў, з якімі Карла Вінтэр ажыўлена размаўляла. Яна, не перарываючы размовы, на хаду кіўнула Эве. Эва спынілася ўбаку.

Ганс Ціфенбах падышоў да яе.

— Я зноў лячу ў Фрыдрыхсгафен, — сказаў ён з жалем.

Яна кіўнула. Атрымалася менавіта тое, чаго яна баялася. Учарашні вечар нельга было навярстаць. Ёй хацелася сказаць яму, што вечар быў прысвечаны памяці Марліс. Але яна адчула скосы позірк Карлы Вінтэр, якая азірнулася каля дзвярэй, а ў Гансе Ціфенбаху адчула нешта адчужанае, ледзь прыкметную няёмкасць, нешта накшталт нецярпення.

— Несумненна, я хутка вярнуся, — сказаў ён.

— Надвор'е спрыяе твайму палёту, — з натугай вымавіла яна нарэшце.

— Карле Вінтэр можна даверыцца і ў навальніцу. — Ён няўпэўнена ўсміхнуўся. — Мяне чакаюць. Да пабачэння.

Каля дзвярэй ён кіўнуў ёй яшчэ раз і пайшоў.

Вечарам, калі ў Эвы ўсё валілася з рук, калі яна адчувала, што

Лысы прымаў яе прапановы холадна і адсылаў пры любой магчымасці да сваіх падначаленых, — вечарам Хана Пэплаў сказала ёй, што яна атрымала заданне тэрмінова закрыць асабовую справу Эвы.

— Закрыць? Што гэта значыць?

— Тое, што цябе пераводзяць.

— Пераводзяць?.. Ах, вось што — пераводзіцца ў іншае месца аэрадынамічная труба?

— Не, з гэтым ніяк не звязана. Нехта хоча пазбавіцца ад цябе.

— А куды яны мяне пераводзяць?

Хана з жалем паглядзела на сваю новую сяброўку. Яна сама не ведала. Але яна ведала: дабра не чакай.

Вечарам гэтага дня...

...штабсцальмайстар Ханке расказваў сваёй нявесце, што ён дабіўся пераводу Эвы Леангард на ваенны завод у Мекленбург.

... Юрген Бэр, які хаваўся ў сям'і сельскага рабочага ў даліне Одэра, даведаўся пра моцны налёт на Востраў.

... Хільмар, сын гаспадыні Бодэнхаўза, трапіў у савецкі палон.

... Розэмары Клемт узнавіла сувязі з тымі коламі, якія калісьці засведчылі, што ў яе можна навучыцца «народнаму мысленню».

... Штэфі Швентмайр пакінула бацькоўскі дом у Познані, каб жыць з Рольфам Кюперсам. Першым месцам жыхарства была Прага.

... настаўнік Хасэ, шматпакутны бацька Марліс, са злосцю парваў на дробныя шматкі суцяшальнае пісьмо свайго пляменніка Брэтшнайдэра. У ім гаварылася, што смерць Марліс — нешта святое, бо яна «стала ўгнаеннем для вялікай справы».

... радыёкаментатар, былы госць Бодэнхаўза, добра пастаўленым голасам гаварыў па ўсіх нямецкіх радыёстанцыях і заклікаў нямецкі народ да стойкасці пад лозунгам: «Расплата набліжаецца!»

# КНІГА ЧАЦВЁРТАЯ

# ПЕКЛА

## I
## САЛДАТЫ БЕЗ ФОРМЫ

Калі б паспрабаваць упісаць сваё жыццё ў сістэму каардынатаў, гэта выглядала б прыблізна так: лінія абсцыс, па гарызанталі, паказвае час, у месяцах; вертыкальная, ардыната, якая заходзіць у адмоўнае поле настолькі ж, наколькі і ў дадатнае, будзе мець абазначэнне, для якога няма адзінкі вымярэння: вопыт! Суму рухаў розуму, пачуцця і сэрца нельга змераць ні ў міліметрах іртутнага слупка, ні якой-небудзь іншай звычнай для лабараторыі адзінкай.

У Эвы быў вельмі няпэўны маштаб, які яна прыдумала сабе, калі восенню багатага на падзеі сорак трэцяга года паспрабавала разабрацца ў мінулых месяцах жыцця. Крывыя і лічбы, звычайна такія агідныя, цяпер аказаліся ўпарадкавальнай сілай. Яна любіла дакладнасць крывых, старанна праведзеных чорнай тушшу на празрыстай міліметровай паперы, з таго дня, як больш не была з імі звязана. Лёс аднёсся да яе з зычлівай іроніяй. Нібы ў кампенсацыю. Ён на ваенным заводзе даў ёй у рукі чорную фарбу, пэндзаль і шаблоны, і яна зноў магла быць дакладнай. Апранутая ў шэры, як вайсковы шынель, халат, яна сядзела ў вялізным цэху і рабіла надпісы на скрынках. Яна прыціскала да грубага дрэва шаблоны і замалёўвала іх. Лічбы, якія гаварылі пра калібр, зашыфраваныя назвы таго, што ў скрынцы, для расшыфроўкі толькі тымі, хто насіў зброю. «Не кідаць!» Унізе — чэрап... «Асцярожна, выбуховай — гэта былі папярэджанні. Яна неўзабаве перастала лічыць, колькі разоў на дні пісала адно і тое. У першыя дні атрымлівалася не вельмі добра. Тоўсты пэндзаль — не рэйсфедэр, а негабляванае дрэва — не тушанепрамакальная папера. Чорная фарба расцякалася. Літары выходзілі з кутасамі. Цяпер яна ўжо навучылася, як мачаць пэндзаль і як яго абціраць аб край банкі.

Салдат, які вёў нагляд у цэху, быў задаволены ёю. Вечарам у яе балелі спіна і ногі. Часам яна спадзявалася, што паступленне новых скрынак спыніцца і заўтра цэх будзе пусты. Але такога не здаралася. Заўсёды за ноч гатовыя скрынкі знікалі — з'яўляліся доўгія рады новых, якія чакалі нумарацыі і перасцерагальных слоў.

У першыя дні Эва хадзіла паміж нізкіх, выцягнутых заводскіх баракаў, як на экскурсіі. Яна з асалодай брыла па заблытаных дарожках, радавалася, што лес быў высечаны мала, і думала, што зімой гэта ўсё будзе выглядаць вельмі таямніча. Яна забывалася, што адпаведна з планамі павінна застацца працаваць тут і наступныя зімы.

Спачатку яна адчувала пэўную цікавасць, як некалькі месяцаў назад, калі яе паслалі ў Адлерсгоф. Гэта быў толькі пераход. Потым,

калі на Востраве ўсё ўсталёўвалася на новы лад, — яшчэ адзін пераход. Ваенны завод мог стаць новым пераходам! Яна, праўда, не ведала, да чаго, куды ён павінен быў прывесці; але яна лічыла, што ні ў якім разе не зможа доўга жыць так, як тут жылі дзяўчаты.

Жаночы лагер размяшчаўся за пятнаццаць хвілін хады ад завода. Ён быў падобны на лагер на Востраве. Дзяўчаты жылі ў драўляных бараках, толькі сталовая з кухняй былі ў большым цагляным будынку. Лагер абнесены высокай агароджай. Выйсці можна толькі праз прахадную.

Эва жыла разам з чатырма дзяўчатамі ў адным пакоі — Дорай, Гердай, Эльфрыдай і Інгай. Як і на працоўнай павіннасці, яна спачатку шмат думала і прыглядалася. Але ёй ужо было не васемнаццаць, як тады, а работніцы былі таксама не дзяўчаты з працоўнай павіннасці. Самай маладой было васемнаццаць, самай старэйшай — дваццаць тры гады.

Эва ляжала на ложку, каб супакоіць боль усярэдзіне, калі яе суседка па ложку Дора, з якой яны засталіся ў пакоі, параіла:

— Замыкай тумбачку. Інга крадзе.

Інга была самая маладая, танклявая, сарамлівая дзяўчына, касавокая. Эва не магла зразумець, пра што ёй гаварыла Дора.

— Навошта ёй красці?

— З нуды. Не ведае, чым заняцца, прывыкла да ласункаў. Штучны мёд сама хутка з'ядае, тады пайшла па тумбачках. Інга прайшла ўжо амаль усе пакоі. Цяпер начальніца лагера падкінула яе нам. Я павінна наглядаць за ёй. На касавокую не глядзіць ніводзін мужчына. Вось яно чаму.

Вывад здзівіў Эву. Яна назірала за Дорай, якая апранула цесную кофтачку, пачысціла пазногці, прычасалася і падфарбавала вусны. Яна павячэрала хутчэй за ўсіх і цяпер рыхтавалася да спаткання. Эва зразумела: Дора не нудзілася.

Выходзячы, яна сказала:

— Мая табе парада: прыдбай сабе таксама каго-небудзь. Інакш загнешся тут.

Эву хутка пачалі лічыць задавакай, бо вечарамі яна не ішла разам на праменады, як тут было заведзена, каб «прыдбаць сабе каго-небудзь». Нарэшце яна проці волі заявіла, што яна заручаная.

Павага да яе адразу вырасла. Але цяпер ім хацелася паглядзець фотакарткі, ім рупіла ведаць, хто ён, здзіўляліся, што Эва не павесіла картачку над ложкам. Яны пачалі сачыць за поштай і хутка заўважылі, што пісьмаў не было. Іх павага перайшла ў пагарду. Новенькая хлусіла. Магчыма, і астатняе было хлуснёй: што яна працавала ў

сапраўдным канструктарскім бюро, што ёй не падыходзілі кнігі, якія выдавала начальніца лагера, а тым больш — зачытаныя з дзяўчацкіх шуфляд, і што яна размаўляла з сапраўдным генералам. Цяпер яна ўбіла сабе ў галаву зрабіць з Інгі сумленную дзяўчыну. Гэта не ўдалося начальніцы лагера за год, а яна была сапраўды строгая.

Эва адчувала недавер дзяўчат і пакутавала. Спачатку яна падумала, што можна жыць па старой завядзёнцы: самой па сабе, заглыбіўшыся ў думкі, ствараючы вершы. Марліс, якая заўсёды бачыла па ёй, што ёй хочацца пабыць адной, знарок ішла на прагулку або заставалася ў казіно... Ах, Марліс!

Эва жыла мінулым. Яна нешта пакінула на Востраве. Яе жыццё ішло, але механічна, душа заставалася на месцы. Так, яна легкадумна страціла давер чатырох дзяўчат, а заўважыла гэта вельмі позна.

Ужо ў лістападзе яна зразумела гэта і сказала сабе, што так далей нельга. У яе дзяжурства дзяўчаты знарок накідвалі на падлогу крошак і паперак. Яны хавалі дровы, і Эве даводзілася прыносіць кош — лішні. Калі ж потым яна ўкладвала дровы ў акуратны касцёр, яны выцягвалі схаваныя палены і са смехам кідалі іх на зложаныя, так што касцёр развальваўся.

Па суботах, калі выходзіць можна было да адзінаццаці гадзін, яны забаўляліся тым, што да позняй ночы расказвалі адна адной пра свае прыгоды. Далікатнасць «манюкі», якая падхоплівалася сонная і накрывалася коўдрай з галавой, каб нічога не чуць, весяліла іх.

Дыяграма Эвы, крывая вопыту, зняможана паўзла каля нулявой адзнакі. Да гэтага часу яна жыла, быццам нечага чакала. Яна не ведала чаго. У канцы лістапада, калі дні сталі самыя непагодлівыя, яна вырашыла, што неразумна чакаць змен. Трэба дзейнічаць самой.

Штуршок дало Штэфіна пісьмо.

Зводная сястра пісала з Прагі, куды яна паехала за Рольфам Кюперсам супраць волі Швентмайра: «Я бяру прыклад з цябе — кірую сваім жыццём сама». Эва, прачытаўшы гэтыя радкі, горка ўсміхнулася. Калі б Штэфі ўбачыла яе цяпер: Эву, якая церпіць балючае паражэнне ад зласлівасці некалькіх равесніц і спадзяецца на цуд.

Яна сабралася і пайшла да начальніцы лагера.

— Вы павінны нешта зрабіць, — сказала яна. — Нешта такое, што б запоўніла вольны час дзяўчат. Яны сядзяць вечарамі, варожаць на картах, чытаюць бульварныя раманы і гавораць непрыстойнасці.

Начальніца ўважлівым позіркам змерала Эву з галавы да ног. Яе звалі Эльзбет Шлегель — маленькая рухавая асоба ў мужчынскіх ботах. На галаве хустка, завязаная цюрбанам. Пад ім бледны плоскі твар здаваўся маленькім. Яна сказала з выклікам:

— Грубы тон у абыходжанні — яшчэ не непрыстойнасць. Я ўжо чула, што ты ў нас крыху далікатная. Скажы дзяўчатам, няхай прыходзяць і бяруць кніжкі, колькі ім хочацца. — Яна дэманстратыўна адчыніла шафу, напалову застаўленую кнігамі. Па свабодных месцах між імі можна было меркаваць, што на руках было толькі некалькі экзэмпляраў. У ніжніх шуфлядах ляжалі музычныя інструменты. На некаторых кнігах Эва прачытала назвы, з якіх Юрген Бэр саркастычна пасмяяўся б.

Начальніца гаварыла далей:

— Скора прыедзе ансамбль з шэфскай часці. Будзе вялікі канцэрт. Дзяўчатам ёсць чым заняцца. Акрамя таго, яны тут — каб працаваць. Ім трэба ў час ісці спаць. Што я хацела яшчэ сказаць... Інга зноў украла?

— Не, — сказала Эва, хоць і ведала, што мармеладу ў яе паменшала. Яна знарок некалькі дзён пакідала сваю тумбачку незамкнёнай. Але з Інгай яна разбярэцца сама. — У вас у шафе — музычныя інструменты, — сказала яна, памарудзіўшы. — Яны — вашы?

— Лагерныя. Ты ўмееш іграць?

Начальніца называла ўсіх лагерніц без выключэння з першага дня на «ты».

— На жаль, не, — сказала Эва, — але мне вельмі хацелася б навучыцца іграць на гітары.

— Сярод старэйшых у нас адна ўмее. Спытайся ў яе, можа, навучыць. Вальбурга Фраер, барак дзесяць.

— А гітару мне таксама можна будзе ўзяць у вас?

— Можна на некалькі гадзін пад распіску.

Начальніца глядзела на Эву, круцячы галавой. Як яна трапіла сюды! Правяраючы тумбачкі, Эльзбет Шлегель знайшла ў шуфлядцы смешную круглую штуковіну з гліны, з дзірачкамі і муштуком, як у флейты. А яшчэ некалькі кніг з назвамі, якіх не знойдзеш у лагернай бібліятэцы. Але самае дзіўнае — папка з чырвонай скуры, на замочку, набітая паперамі. Новенькая была служачая, гэта вынікала з яе асабовай справы, між іншым, вельмі тоненькай. Значыць, яе, відаць, пакаралі. Ёй толькі не варта так вытыркацца, магчыма, яна трапіла сюды таксама за нейкую непрыстойнасць.

Эльзбет Шлегель вырашыла не аслабляць свайго суверэннага становішча начальніцы лагера і не прымаць ніякіх прапаноў ці ініцыятыў падазронай новенькай, якая б разумная ды адукаваная яна ні была.

Вальбурга, ці Бургль, як яе называлі, жыла ў пакоі на траіх. Эва ўвайшла, калі Бургль сядзела на ложку і іграла на гітары. Адна з яе

таварышак нацягвала шнур каля печкі, каб пасушыць панчохі. Яна падпявала ёй песню пра трох цыганоў Ленаў.

Эва здзівілася. Значыць, і ў бараках была гармонія. Яна думала, што адчужанасцю, пагружанасцю ў самую сябе ёй найлепей удасца справіцца з асяроддзем, дзе ёй было няўтульна. Яна пераканалася, што яе таварышкі па пакоі жывуць у іншым свеце, чым яна, і перанесла гэтае перакананне і на астатніх жыхарак лагера. Завітаўшы да Бургль Фраер, яна ўбачыла, што памылялася.

Бургль была з прырэйнскай вобласці. У яе былі цёмныя насмешлівыя вочы, над якімі навісалі цяжкія вейкі, калі яна глядзела на рукі, што ігралі на гітары. Цёмна-русыя, даволі доўгія валасы былі зачэсаны назад і закручаны на патыліцы. Яе прыкметна выпуклы, высокі, амаль мужчынскі лоб быў дзякуючы гэтаму цалкам адкрыты. Рукі, якімі яна моцна трымала грыф гітары, былі жоўтыя і падрапаныя. Эва адразу здагадалася: яна працавала там, дзе больш за ўсё было небяспечна для здароўя і непрыемна, дзе дзяўчаты ў калодках і скураных фартухах стаялі ўвесь час у сырасці, дзе ядавітыя вадкасці ўвесь час заражалі паветра кіслотнай парай. Дзяўчаты гэты цэх называлі «атрутная яма». Рукі ў Бургль былі ўжо раз'едзены кіслотамі, якімі апрацоўвалі дэталі. Нягледзячы на гэта, яна здавалася спакойнай, ураўнаважанай, амаль задаволенай. Яна адразу згадзілася навучыць Эву асноўным прыёмам ігры на гітары.

— Мае суседкі не будуць перашкаджаць. Ты можаш прыходзіць сюды, — сказала яна.

Эва ўзрадавалася.

— У маім пакоі нельга. Нас пяцёра, і ўвесь час шумна.

Бургль паглядзела на яе пранікліва.

— Ты не прывыкла?

— Не. Ды мне яшчэ не пашанцавала. Дзяўчаты ў маім пакоі — дзікая мешаніна. Адна крадзе, у другой хлеб у тумбачцы так зацвіце, што смярдзіць на ўвесь пакой. Яшчэ дзве кожны вечар у паходзе, каханкаў мяняюць кожны тыдзень. Толькі што скажы, як пачынаюць абражаць.

— Значыць, кажаш не тое, што трэба. Намі ўволю камандуюць на заводзе. Пасля працы нікому ўжо не хочацца каманд. Я ведаю малую касавокую Інгу. Яна нейкі час працавала са мной у атрутнай яме. Яна не дрэнная. Ёю проста ніхто як след не займаўся.

Заўвагу Бургль Эва палічыла крыху самаўпэўненай.

— А чаму начальніца не аддала яе пад тваю апеку? Дора, папраўдзе, на гэта не здатная.

Бургль кінула на Эву ацэньваючы позірк, не спяшаючыся

адказваць. Яны засталіся ўдзвюх у пакоі. Пальцы Бургль перабіралі струны, але не ігралі.

— Я — не кампанія дзяўчатам, якіх трэба вярнуць з крывой дарожкі. У маіх дакументах тое-сёе значыцца. Вось чаму яны і закінулі мяне ў атрутную яму.

Эва, не падумаўшы, ляпнула:

— Але ж ты не крадзеш!

Бургль вымушана ўсміхнулася.

— Я пакахала француза, ваеннапалоннага. Ён працаваў у нас. Бацьку майго забралі на вайну, мы з маці засталіся адны. У нас ёсць луг і вялікі сад. Мой бацька — будаўнік. Калі маці заўважыла, што ў нас з Андрэ нешта пачалося, яна адправіла мяне да цёткі ў Меклен-бург, на некалькі тыдняў. Я не павінна была больш бачыць Андрэ, а яна вырашыла за гэты час памяняць яго ў лагеры. Але нашы суседзі ўжо нешта пранюхалі і данеслі каму трэба. Выклікалі маці, яна ўсё абвяргала, Андрэ таксама. Кіраўнік ашалеў, не дамогшыся свайго. Доказаў у яго не было. Андрэ яны адправілі ў іншы лагер, а мне маці забараніла вяртацца. У вёсцы яна сказала, што я знайшла сабе добрае месца. А я ж сядзела ў цёткі і не магла тыдні, месяцы біць лынды. Мяне адразу мабілізавалі ваенны завод, як толькі я пачала шукаць працу. А ў паліцэйскай даведцы, якую яны запатрабавалі з дому, было напісана: «Пад падазрэннем, зносіны з чужаземцамі...» і г. д. Вось бачыш, хто я такая.

Эва доўга не магла нічога вымавіць. Нарэшце яна ціха спыталася:

— Ты ўсё яшчэ кахаеш Андрэ?

— Як і ўпачатку.

— Тады ты не зрабіла нічога дрэннага. Каханне ніколі не бывае дрэнным.

— Буду спадзявацца, што ён дажыве да канца вайны. Тады я яго знайду. Нават калі да Праванса давядзецца ісці пехатой! Там яго дом. Ён — металург.

— Ты ўпэўнена, што падабаешся яму?

Бургль здзіўлена глянула на Эву.

— Падабаюся? Ён мяне кахае. Я чула гэта ад яго сотні разоў, нават на дзвюх мовах!

— Такое слова сціраецца і траціць каштоўнасць, калі яго ўжываць занадта часта.

— Смешная ты. Хто табе нагаварыў такога?

Твар у Эвы гаварыў пра нязгоду. Бургль па ёй убачыла, што яна не хоча адказваць, таму сказала сама:

— Да таго ж у нас усё было не так. Нам увесь час пагражала небяспека. У такім становішчы словамі і пачуццямі не гуляюць.

З гэтага дня Эва кожную раніцу чакала Бургль каля прахадной, каб разам ісці на завод. Вечарамі яна рэгулярна хадзіла ў пакой да Бургль. Начальніца лагера выдала ёй гітару на неабмежаваны тэрмін, калі Эва паабяцала, што на свята разам з Бургль падыграе калядныя песні. Эва хутка зразумела тэхніку ігры на струнным інструменце. Першымі песнямі, якія яна пачала іграць, былі «Сонцаварот» і «Высокая ноч ясных зор». Яны былі ў першую чаргу ўключаны ў праграму свята. Эве прыпомніліся кпіны Юргена Бэра з халоднай мелодыі, і ёй вельмі захацелася даведацца, дзе ён цяпер.

Яны рэдка заставаліся з Бургль адны. Але калі сведкаў не было, яны вельмі хутка пакідалі музыку і пачыналі абменьвацца думкамі. На трэці вечар Эва ўпершыню загаварыла пра Ганса Ціфенбаха, а праз некалькі дзён яна расказала пра свайго бацьку. Так іх таварыскасць перайшла ў сяброўства. Лёгкая стрыманасць, якою Бургль сустрэла прыхільнасць на два гады маладзейшай, адукаванай дзяўчыны з заможнай сям'і, не вытрымала яе шчырасці. Яны былі ў адной плоскасці, у іх не было чаго траціць, акрамя жыцця і кахання.

Эва аджыла. Бургль па-свойму ацэньвала людзей. Яна хутка выявіла, што Эва сама легкадумна страціла давер таварышак па пакоі, імкнучыся жыць адасоблена. Яна бязлітасна выкрыла гэту памылку. Засаромленая, Эва прыпомніла, як аднойчы сказала прафесару Лёйпальду, што вывучаць людзей ёй цікавей, чым займацца прыродазнаўствам.

Бургль прапанавала перанесці адзін з урокаў музыкі ў пакой Эвы. Для жыхарак пакоя было поўнай нечаканасцю, што Эва, якая толькі што пайшла з гітарай, вярнулася так скора, — і Эва ўбачыла тое-сёе не вельмі прыемнае. Інга якраз рыхтавалася да выхаду. Яна скінула сваё будзённае і ўціснула тонкую талію ў шырокі чорны замшавы пояс на замку-маланцы. Гэта быў Эвін пояс. Яна нядаўна шукала яго, і Інга так старанна дапамагала ёй, што Эве нават сорамна было западозрыць яе. Захопленая знянацку, яна засаромелася, але з наіўным нахабствам пачала даводзіць, што цяпер толькі знайшла згублены пояс за тумбачкай і хацела прымерыць. Потым яна выслізнула за дзверы, не звярнуўшы ўвагі на словы Бургль, што яна можа застацца і паслухаць музыку.

«Вось табе маеш», — гаварыў Эвін скосы позірк. Бургль не адказала. Яна настройвала гітару.

Дора рэзка адчыніла дзверы.

— А, сёння ў нас кашэчы канцэрт, — сказала яна з'едліва. —

Добра, што ў мяне свае планы.

Яна прычасалася і хутка зноў знікла.

За ёй заспяшалася і яе сяброўка Герда. Чацвёртая альфрыда, прыйшла потым. Яна на нейкі час засталася у пакоі, ціхенька пасядзела на сваёй пасцелі падстрыгла пазногці. Час ад часу яна крадком пазірала на гэтых дзвюх.

Бургль злавіла адзін такі позірк.

— Мы яшчэ неважнецкія музыканты, — сказала яна нібы просячы прабачэння. — Але навучымся. Ты любіш слухаць музыку?

— Люблю, — адказала Эльфрыда. — А ці ўмееце вы іграць добрыя шлягеры?

Бургль засмяялася.

— Чаму не? — І яна зайграла нешта пра блакітную месячную ноч і залатыя зоркі.

Эльфрыда ад душы пачала падпяваць. Потым яна пачала заказваць то адно, то другое. Бургль ахвотна выконвала канцэрт па заяўках. Эва сядзела побач Яна яшчэ не так добра валодала інструментам, каб іграць разам. Калі Бургль развітвалася, Эве не трэба было пытацца, чаму Эльфрыдзіны заяўкі вызначылі праграму усяго вечара. Дзяўчына за музыкай забылася, што хацела некуды ісці. А гэтыя выхады для большасці дзяўчат былі не што іншае, як бязмэтнае снойданне паляванне на артылерыйскіх тэхнікаў, якія жылі ў бараках на тэрыторыі завода і якраз міналі жаночы лагер вяртаючыся з вясковых шынкоў ці едучы на веласіпедах з Гюстрава. Эва потым, лежачы ўжо ў пасцелі і добра ўкутаўшыся перад сном у коўдру, чула, як Эльфрыда шаптала дзяўчатам, калі яны вярнуліся дадому: «гэта Фраер умее іграць амаль усе шлягеры».

Другі раз яны зноў нечакана завіталі ў пакой, дзе жылі пяцёра. Дзяўчаты ўсе былі дома, сядзелі вакол вялікага няўклюднага стала на высокіх ножках і шылі. І эта была карціна ўзорнай стараннасці. Незразумела толькі, чаму Дора паспрабавала непрыкметна схаваць раскроеную тканіну, калі адчыніліся дзверы. З відавочнай палёгкай убачыўшы, што яны не з кіраўніцтва, Дора зноў дастала кавалак тканіны і адважна сказала:

— Калі вы нас не заложыце, дык можаце застацца і крыху пайграць.

Бургль дэманстратыўна паглядзела ў другі бок.

— Я нават ведаць не хачу, што вы робіце. Мы нічога не бачылі, так, Эва?

Эва хуценька ацаніла сітуацыю. Дзяўчаты пакроілі шэрую старую вайсковую коўдру, што вельмі моцна пахла парашком ад вошай,

і цяпер шылі з яе доўгія шаравары. Дзве былі занятыя калашынамі, Герда кроіла пояс і кішэні, Інга прашывала ўнутраны край бакавога шліца. Гэта была калектыўная праца ў самым высакародным сэнсе! Эва прыпомніла, як Дора нядаўна скардзілася: яе старое трыко знасілася ў лахмоціну, на новае картачкі няма, а яе заяву на талон не прынялі. Яна працавала, як і Эва, у вялізным цэху, дзе дзверы амаль не зачыняліся, і баялася холаду.

Калі потым Эва праводзіла Бургль да барака, яна сказала:

— Нядрэнна прыдумана — з коўдрай! Край з уватканымі надпісамі яны хітра абрэзалі.

— Хай сабе! — неахвотна адказала Бургль. — Тое, што мы вымушаны вырабляць гранаты, — таксама нядрэнна прыдумана. Рабіць прымушаюць нас тыя, хто забараніў мне кахаць Андрэ. Каб мне было па сіле, я зрабіла б не тое — не толькі парэзала б коўдру. Напрыклад, насыпала б мармеладу ў бомбу замест пораху!

— Есць такія людзі. Яны супрацiўляюцца тайна.

— Я такога ніводнага не ведаю. Але чула ўжо пра іх. Калі яны пападаюцца, іх кідаюць у канцлагеры. На гэта ў мяне не хапіла б мужнасці. Але я і не хацела б, каб наш вясковы нацыст і ўсе гэтыя людзі выйгралі вайну, бо яны супроць Андрэ. Яны забаранілі б мне знайсці яго. Але я нічога не магу зрабіць. Няхай дзяўчаты рэжуць коўдры, на якіх напісана «ўласнасць вермахта», і дастаюць сабе новыя. Можа, калі нам не будзе чым накрывацца, ім прыйдзецца канчаць вайну. Не смейся, гэта здаецца глупствам, але я сказала так толькі для параўнання.

— Ты верыш, што перамагае толькі дабро?

Бургль кіўнула слаба, безнадзейна, няўпэўненая ў сабе.

— Тады б жыццё было, як казка, — з сумненнем сказала Эва.

## 2
## ВЯЛІКІ СПАДЧЫННЫ ГЕРЦАГ

Снежань пачаўся з халадоў і ветру. На працу Эва апранала два пуловеры, адзін на адзін, пасля таго як аднойчы вечарам ніяк не магла сагрэцца — ні гарачым чаем, ні распаленай печкай. Яна нават адмовілася ад сустрэчы з Бургль і адразу пасля вячэры лягла ў пасцель, у лыжных штанах і шарсцяных шкарпэтках Але прастуда ўжо засела ў ёй, гланды павялічыліся. Герда далажыла начальніцы лагера.

Грубыя боты Эльзбет Шлегель неўзабаве затупалі у калідоры барака. Яна прыхапіла з сабой медыцынскую сястру.

Эва, захутаўшы шыю, стаяла каля распаленай пліты і піла чай. Начальніца падазрона паглядзела на яе Праз два дні — свята.

— Ты зможаш іграць? — спыталася яна.

— Думаю, што змагу, — сказала Эва. — Я ж на працу хаджу.

— Тэмпературы няма, — сказала сястра. Яна дастала з сумкі некалькі таблетак і шкляначку з цёмнымі крышталямі. — Палашчыце як след.

Каля дзвярэй Эльзбет Шлегель яшчэ раз павярнулася. Звыклым кароткім упэўненым тонам яна сказала:

— Калі ты не зможаш іграць, гітару аддадзім некаму так. Гэта — лагерная маёмасць. Не гадзіцца, каб ёй карыстаўся толькі адзін.

— Я абавязкова выступлю, — з цяжкасцю прамовіла Эва. Яна зусім ахрыпла.

На другі вечар, калі яны з Бургль праводзілі апошнюю рэпетыцыю, у яе была тэмпература. Бургль убачыла па ёй.

— Табе трэба ў пасцель.

— Не раней чым заўтра вечарам, — сказала Эва — Калі я не сыграю, Шлегель забярэ ў мяне гітару.

— Каб зноў палажыць пад замок! — Бургль злосна засмяялася.

Яны хутка закончылі.

— Я глытаю таблеткі, — супакоіла Эва сваю ўстрывожаную сяброўку на развітанне.

Свята для Эвы было пакутай. Яна сядзела ля раяля У вялікай сталовай, наперадзе, каля самай сцэны, упрыгожанай ёлкамі. Наперадзе сядзелі госці. Начальніца лагера, упершыню без цюрбана і ботаў, з тонкімі рэдкімі валасамі, старанна закручанымі ў локаны — прычоскай яна напомніла Эве пра Дузэ — выконвала ролю гаспадыні. Справа ад яе сядзеў дырэктар завода, падпалкоўнік, якога ў лагеры называлі Доўгі Ручнік. Кантаватая, нібы прыплюснутая галава з маленькім носам на вельмі высокім худым целе. Цальмайстры і тэхнікі ў розных вайсковых званнях былі тут, прысутнічалі таксама начальнікі дзяўчат і жыллёвае кіраўніцтва. Каля раяля сядзеў старшы тэхнік.

Яго галава тырчала перад самай Эвай. Коратка падстрыжаныя валасы ўпарта імкнуліся ўверх, нібы хацелі вырвацца з прычоскі, старанна зачасанай на прабор.

Як авёс на дзюне!.. У Эвы было адчуванне, што сёння яна можа думаць толькі пра непрыемнае... Шчыра кажучы, каля раяля павінен быў сядзець Бэр... Чаму яго няма?

А, правільна. Ён жа трываць не мог песню пра ноч з халоднымі зоркамі.

Бургль штурхнула яе ў бок.

— Нумар тры, — сказала яна. — Соль-мажор.

Трэба было іграць. Пальцы ў Эвы ацяжэлі, як змораныя пасля вандроўкі ногі. Калі «нумар тры» закончыцца, яны змогуць перадыхнуць, пакуль Бургль не шапне «нумар чатыры», а аўсяная галава не дасць пачатковы акорд.

Выступала Эльзбет Шлегель. Яна нешта гаварыла пра пятыя ваенныя каляды і пра год выпрабаванняў. «Можна палажыцца на нас», — таксама сустракалася ў прамове. Калі яна села, устаў Доўгі Ручнік. Але не, нешта было не так. Ён устаў няправільна... Ён стаяў... Эва адчула, што гітара вывалілася ў яе з рук, ёй здалося, што яе ўдарылі, і больш яна ўжо нічога не памятала.

Калі яна зноў ачуняла, яна ўжо ляжала ў бараку для хворых, на паходным ложку. У галаве шумела. Медсястра сядзела каля яе і мерала пульс.

— У вас усё-такі паднялася тэмпература.

— Мне баліць галава, — ціха сказала Эва. Ёй было цяжка размаўляць, у горле стаяў камяк.

— І не дзіва. Вы ўпалі з крэсла. Шчасце яшчэ, што не стукнуліся галавой аб раяль.

Эва нічога не памятала.

— Але перад гэтым я іграла на гітары!

— Ага, гэта здарылася ў сярэдзіне праграмы. Перад прамовай дырэктара. Усе вельмі напалохаліся, а фройляйн Шлегель было вельмі непрыемна.

— Я не вінаватая. Дзе Бургль Фраер?

— Праграма яшчэ не закончылася. Ёй трэба яшчэ іграць.

Бургль прыходзіла кожны дзень, хоць у першыя дні ёй нельга было падыходзіць да хворай, у якой была ангіна. Эвін ложак быў з краю ў радзе з шасці ложкаў, і калі небяспека заражэння прайшла, яны маглі пагаварыць, не баючыся, што іх пачуюць

Набліжаліся каляды. Эве трэба было паехаць у Лангенбрук. Бабуля напісала поўнае журбы пісьмо і без жалю паведаміла, што яе новая нявестка паедзе да сваіх бацькоў. Вельмі нерашуча Эва паабяцала. А цяпер не было сумненняў, што яна застанецца. Урач сказаў ей, што, калі яна захоча, яе можна выпісаць да свята, але ехаць нікуды не раіць. Бургль вельмі засмуцілася. Яе запрасіла цётка, і пакідаць сяброўку адну ёй здавалася здрадай.

Іх размову перарвалі. Падлога зарыпела пад ботамі начальніцы лагера. Разам з медсястрой і маладой дагледжанай жанчынай у карычневай футравай куртцы з папкай пад пахай яна адразу павярнула да Эвінага ложка.

Бургль устала — хутчэй ад нечаканасці, чым з павагі.

— Сакратарка Доўгага Ручніка, — растлумачыла яна Эве.

Эльзбет стала ў нагах у Эвы, шырока расставіла рукі, абапіраючыся на спінку ложка, і паглядзела на Эву з такой непрыкметнай цікавасцю, што хворая аж зачырванелася.

Эве зрабілася непрыемна горача і захацелася адкінуць коўдру.

— Гэта яна, — сказала начальніца, не гледзячы на сваю суправаджаючую.

Эва з цяжкасцю вытрымала пранізлівы позірк Яна ведала, што адразу пасля таго здарэння начальніца канфіскавала гітару, а на пытанне Бургль адказала, што інструмент паламаўся. Што яна ўжо пранюхала пра яе? Няўжо рука Ханке дастала яе і тут? Няўжо раскрылі Ханіну падробку ў асабовай справе?

Дырэктарава сакратарка дастала з папкі лісток з друкаваным тэкстам. Яна падышла бліжэй да ложка і прыязна спыталася:

— Вы ведаеце доктара Ціфенбаха?

Эве здалося, што яна недачула. Яна ўстала, здзіўленая нечаканасцю, устрывожаная.

— Што з ім? — спыталася яна.

Сакратарка заставалася прыязна-дзелавой:

— Хвалявацца няма прычыны. Калі вы ведаеце яго, вам, напэўна, вядома, дзе ён працуе.

— У Фрыдрыхсгафене.

Сакратарка павярнулася да начальніцы лагера з трыумфам у вачах.

— Значыць, мы на правільнай дарозе. — Потым яна сказала, зноў звяртаючыся да Эвы: — Тэлефонная размова заказаная панам Ціфенбахам з Фрыдрыхгасфена, памылкова была пераключана на Гера падпалкоўніка. Праўда раней у нас не было ніколі, каб заказы на такой вялікай адлегласці прызначаліся нашым вольнанаёмным. Да таго ж — службовы заказ. Дык вось, пан Ціфенбах гаварыў з самім дырэктарам, прасіў вам водпуск. Вы тут толькі некалькі месяцаў і не маеце права яшчэ, але дырэктар даў вам тры дні, плюс навагодні дзень Вось дакументальная адзнака, што размова адбылася. Будзем спадзявацца, што да таго часу вы паправіцеся. Усяго добрага, фройляйн Леангард.

У час усёй гэтай прамовы Эва адчувала на сабе позірк круглых плоскіх вачэй начальніцы лагера. Мацней за нечаканую радасць яе трывожыла думка: зараз яна скажа :«Я прызначыла Леангард дзяжурнай па лагеры, ёй трэба застацца». Эва заплюшчыла вочы. Ёй больш не пад сілу выносіць падсцерагальны позірк Эльзбет Шлегель. Яна

развіталася з наведніцамі, падзякавала той, што прынесла звестку. Па рыпенні ложка яна здагадалася, што начальніца лагера прыняла цяжар свайго цела з біла ложка. Калі яны выходзілі, яна напаўголасу сказала сваёй спадарожніцы:

— Датэрміновага водпуску яна не заслужыла. Шкада, што тую размову не падключылі да мяне. Яна засмяялася, нібы ўдала пажартавала. Эва забылася, што за яе ложкам стаіць Бургль. Яна яшчэ ляжала з заплюшчанымі вачыма, калі Бургль палажыла ёй руку на плячо.

— Ты плачаш? Няўжо ты не радая?

Эва вярнулася назад адтуль, куды яе занеслі думкі Яна пабывала на Востраве, на астраўку, на Ругене у Бодэнхаузе — на ўсіх іх астравах, пра якія яна ў апошнія месяцы увесь час гаварыла сабе, што яны патанулі як Вінета, горад на дне мора. І вось Ганс Ціфенбах даў ёй знак з нейкага берага, у нейкі дзень, калі ён спахапіўся, успомніў пра яе і даў ёй парадавацца. Ён даў знак, ён зрабіў выбар. Ён. Ён. Ён — мужчына! «Ці гэта не ганебна?» — пыталася некалі Ру.

«Які мы нікчэмны пол!»

Рука Бургль сціснула яе пальцы.

— Ты ўсё-такі радая. Гэта ад нечаканасці. Табе трэба хутчэй папраўляцца. Чым табе дапамагчы?

— Дзякуй, Бургль. Мне спачатку трэба дачакацца тэлеграмы, — сказала Эва.

Гасцініца пад назвай «У Вялікага спадчыннага герцага» ў маленькім гарадку — заўсёды на першым плане. Адпаведна — і плата за нумар. Работніцы ваеннага завода такая плата здаецца страшэнна вялікай і прыгнятае, калі частку трэба аддаваць у аванс. Яе дакументы, у якіх значыцца прапіска ваеннага завода размешчанага недалёка ад горада, здаюцца адміністратару недастаткова надзейнымі. Абодва заказаныя нумары вядома, забраніраваны, але адзін — двухмесны і, зразумела, даражэйшы. Можа, пані адмовіцца ад аднамеснага? Не?.. Значыць, тады, калі ласка, пажадана атрымаць плату.

Наверсе, у цесным аднамесным нумары Эва пералічыла грошы. Лепш яна аддасць свой апошні грош, чым будзе чакаць Ганса Ціфенбаха ў двухмесным нумары А калі ён не прыедзе? Ці хопіць ёй грошай? Два дні больш яна тут не застанецца. Тады ён зусім не прыедзе, тады яна патрабуе ад яго зашмат.

Калі на каляды прыйшла яго тэлеграма, што ён чакае яе 29-га ў Браўнлагэ ў Гарцы, яна яшчэ лячылася у лагернага ўрача. 27-га ён прызнаў яе ўмоўна здаровай. Яна расказала, якія ў яе планы, абяцала сцерагчыся. Было падобна, што ён ахвотна саступіў бы, але па загаду

зверху прытрымліваўся строгасці. «Хай ваш сябар прыедзе сюды», — параіў ён.

У канцылярыі кіраўніцтва лагера Эльзбет Шлегель спачатку запатрабавала даведку ўрача. Яна была задаволена.

— Толькі што з пасцелі, і ўжо амаль кругасветнае падарожжа, — сказала яна. — Нішто сабе. Столькі часу вы ляжыце пластом, а хто зробіць вашу работу? У нас татальная вайна, заўважце сабе. На музыку і любоўныя шашні ў нас часу, лічыце, няма. — Яна звярталася да Эвы ў множным ліку, нібы ёй трэба было адпусціць у водпуск жыхарак усяго пакоя. Яна выпісала адпускны дакумент толькі для тэрыторыі раёна Гюстраў. Падсоўваючы яго Эве, яна з'едліва сказала: — Што у вашым пакоі парэзалі коўдру, ты, вядома, таксама не бачыла, га? Герда пашыла з яе сабе штаны. Кіраўніцтва завода ў такіх пытаннях датклівае. Вы горшыя за палякаў.

Эва разумела, што супраць рашэння Шлегель нічога не зробіш. Яна некалькі хвілін падумала, ці не пайсці да падпалкоўніка, ці не паскардзіцца яму, але тады начальніца лагера нахабна выкарыстае супраць яе справу з коўдрай, закляймуе яе як укрывальніцу, і зычлівасць, якую цяпер відавочна праяўляў дырэктар завода, будзе страчана. Адразу пасля наведання сакратаркі ёй паведамілі, што яе пераводзяць у іншы цэх, у памяшканне, дзе можна сядзець і якое добра зачыняецца. Не было іншага выйсця, як даць Гансу Ціфенбаху тэлеграму, што яна праз нездароўе не можа ехаць далёка і будзе чакаць яго ў Гюстраве.

Яна ўсё абмеркавала з Бургль, а Бургль папрасіла Кетэ тэлефаністку з вузла сувязі завода, заказаць нумар у гасцініцы. Кетэ сама была з Гюстрава і ведала там хады.

— Гаворка можа ісці толькі пра першы атэль, — сказала Бургль і старанна прасачыла, каб заказ быў зроблены.

«Нібы сабе самой і Андрэ», — падумала узрушаная Эва

З таго часу, як спатканне з Гансам Ціфенбахам аказалася пад пагрозай, Эва адчула, як яна яго хоча. Шлегель паставіла перад ёй перашкоду. Яна зайздросціла таму, чаго, відаць, не мела сама.

Бургль спрабавала ўтаймаваць Эвін гнеў.

— Вось тут ты і праверыш яго. Калі ён сапраўды кахае цябе. Ён праедзе і яшчэ дзвесце кіламетраў, — гаварыла яна.

І вось яна наступіла, гэта праверка! Было 29-га і яна, Эва, мела ў сваім распараджэнні два нумары ў гасцініцы з цэнтральным ацяпленнем, водаправодам і белым тэлефонам, як у кіно.

Яна хадзіла па пакоі, уключыла святло над люстэркам, каля ложка, каля канапы, не ведала, чым заняцца. Яна чакала. Наступны

цягнік, на якім ён мог прыехаць прыходзіў праз дзве гадзіны. Яна вырашыла прайсціся па горадзе, хоць і быў туман. Можа, у Браўнлагэ было сушэй, і горнае паветра пайшло б ёй на здароўе з яе хворым горлам. Ці прыедзе? Яна хуценька прайшла міма гасцінічнага рэстарана. Калі ён да вячэры не прыедзе, яна будзе вымушана пайсці сюды як бы ні пакутліва ей гэта было. Ёй здавалася, што ўсе бачаць як яна яго чакае.

На вячэру яна заказала «залацістыя грэнкі» — скрылькі белага хлеба ў цесце, падсмажаныя на патэльні, пасыпаныя цукрам і карыцай. Талоны на мяса яна зберагала. А раптам ён яшчэ прыедзе! Заўтра раніцай яна здасць пакоі.Трэба спадзявацца, што гасцініца не запатрабуе даплаты за тры дні.

Да наступнага цягніка яна ўжо не пойдзе. Занадта жахліва — чакаць. Усе цягнікі спазняліся, а з апошняга выйшаў лейтэнант, які працаваў у ахове прадпрыемства і часта прыходзіў у цэх. Ён з ухмылкай прайшоў міма яе. З работніцай завода не віталіся, яна ведала і на тэрыторыі завода адносілася да гэтага абыякава. На вакзале гэта непачцівасць закранула яе.

«Каб толькі ніхто не ўбачыў, як я яго тут чакаю»,

падумала яна і паспрабавала з абыякавым тварам паглыбіцца ў газету. «Гэта ганебна», — сказала Ру. У «Фелькішэр Бэобахтэр» яна прачытала: яшчэ нічога не значыць, што рускія дайшлі да сваёй заходняй граніцы. У новым годзе за іх наступленне будзе адпомшчана з неверагоднай жорсткасцю. Сапраўды ганебна, які нікчэмны народ — не, род, сказала яна, гэтая Ру. Музыка, што гучала з радыё, не дазваляла як след засяродзіцца. А колькі кіламетраў ад рускай граніцы да Познані? Што, цікава, сказаў бы на гэта Швентмайр? А4 павінен быў ўратаваць яго даходныя месцы на нямецкім усходзе. «Фелькішэр Бэобахтэр» абяцаў, што цудадзейная зброя будзе ўведзена ў дзеянне ў самы блізкі час. Надзвычай ганебна. Народ чакае. Чакаць — ганебна, чаканне нервуе, яно робіць чалавека хворым. Яе паклікалі да тэлефона. Яна занадта паспешліва адклала газету. Газета ўпала пад стол, і кельнер, кінуўшы незадаволены позірк, падняў яе.

«Трэба добра даць яму на чай», — падумала яна. Калі яна вярнулася, расчараваная, страціўшы надзею, яна забылася пра гэта.

Званіла Бургль. Яна хацела ведаць, ці прыехаў ён. Эва не падумала, што пазваніць Бургль прымусіла сяброўская спагада. Яна адказала даволі рэзка і палажыла трубку. А потым пашкадавала. Пакутуючы душой, яна зазначыла, што ў яе з'явілася яшчэ адна прычына для незадаволенасці. Яна вырашыла прылегчы, каб адчуць асалоду ад мяккай гасцінічнай пасцелі.

«Трэба карыстацца, за што заплачана», — падумала яна і ўключыла ў пакоі ўсе лямпы. Потым яна паставіла туфлі каля дзвярэй, паклала туалетныя рэчы на шкляной палічцы. Яна ўсё рабіла са свядомай асалодай. Адначасова думала: ён не прыедзе. Не. Ён не прыедзе. Я ведаю. Ён цвёрда вырашыў пакатацца на лыжах. Напэўна, у Гарцы снег... «Было б цудоўна, каб яна была тут, — недзе думае ён, — з ёю можна паразмаўляць». Але навошта яна яму, калі яна нездаровая і сядзіць у Гюстраве? Гюстраў ляжыць ніжэй узроўню мора, там ідзе дождж, як у іншых мясцінах снег. Я не расчараваная, не, зусім не. Я цябе праверыла, Ганс, і ты не прайшоў праверкі. Ты ашукаўся, а не я. Я гуляю ў Шарлоту Левенскельд, так, так, адна, без цябе. Некваліфікаваная работніца ваеннага завода ў «Вялікім спадчынным герцагу», першым атэлі горада, з белым пакаёвым тэлефонам. Шкада, што мне не прыйдзецца ім пакарыстацца, бо твой двухмесны нумар пусты! А не, я ўсё ж пакарыстаюся ім!

— Прышліце мне пакаёўку, мне трэба прыняць ванну.

Яна нават папытала таблеткі для ванны, хвою, падвойную порцыю. Пакаёўка прынесла, што было, стараючыся паказаць сябе стараннай, паслухмянай.'Госці з прэтэнзіямі плацяць добрыя чаявыя! Потым яна ўбачыла ручнік жыхаркі. Эва кінула яго на табурэтку ў ваннай. Кароткі шырокі ручнік, каляны, шараваты, з незмываемымі друкаванымі літарамі ў верхнім кутку: скарочаная назва ваеннага завода. Пакаёўка з пагардай скрывіла твар і пайшла. Таблеткі для ванны пакаціліся амаль пад ногі Эве.

Яна ўбачыла здрадлівую бірку і ўжо ледзь не раззлавалася. Але потым прымусіла сябе засмяяцца, так гучна, каб магла пачуць дзяўчына. Відаць, і туфлі ў яе заўтра раніцай будуць непачышчаныя. Нічога! Дзяўчына не ведала Шарлоты Левенскельд.

Эва купалася з задавальненнем. Вада была празрыста-зялёная, на жаль, не вельмі цёплая, але гэта ад недахопу вугалю. Купацца ў ванне — раскоша для пятага года вайны.

Калі б ён прыйшоў цяпер, думала яна, спрабуючы намыліць пену з глінянага мыла, тады ён застаў бы раскошную істоту, у ванне, напоўненай зеленню. Смешна, хоць плач. Не, я ж хацела смяяцца. Давай: ха-ха-ха! Але ён не прыйдзе. Ён, напэўна, катаецца на лыжах. Як называюцца горы вакол Браўнлагэ? Бромберг, Брокер У Бургль у тумбачцы быў стары атлас — яна час ад часу разглядала на ім Францыю. Яны разам вывучалі і мясцовасць вакол Браўнлагэ... ох, гэта ўжо было свінства! Гэта Шлегель, каб ёй...!

Белы тэлефон зазвінеў уночы, нерашуча, быццам просячы прабачэння за тое, што непакоіць. Эва прачнулася, ёй здалося, што яна

сасніла. Але тэлефон зазвінеў зноў. Калі і цяпер не ён, тады канец усёй маёй гульні. Тады ўжо мне не дапаможа ніякае прыстаўляйце, тады не дапаможа і думка пра Ру, тады я так зараву, што паплыве мой ложак.

Яна падняла трубку і пачула яго голас. Ён гучаў здалёку і вельмі ціха, хоць Ганс ужо быў у гасцініцы, па ніжнім паверсе, у прасторным двухмесным пакоі.

Ён папрасіў прабачэння, што позна трывожыць, але парцье сказаў яму, што яна ўвесь дзень чакала. Таму яму хочацца сказаць ёй хаця б «добры вечар». Яе тэлеграму яму прыслалі ўжо ў Браўнлагэ. Ён паехаў туды на дзень раней, вось чаму ён спазніўся. Ды і паязды ходзяць няважна. Ён вельмі змарыўся. Тады — да заўтра! Марудлівы голас змоўк.

Ён быў тут! Магчыма, крокаў за дваццаць ад яе! Яна магла захутацца ў свой халат і пайсці да яго. У калідорах, пэўна, ціха. Але ён не сказаў «прыходзь», ні слова пра пусты ложак побач. «Тады — да заўтра!» Пэўна ж. Ён быў непаголены, брудны, яму давялося стаяць у цягніку.

Яна лягла, абняла падушку. Ён прыехаў, а астатняе не мела значэння.

У наступныя дні ўсё займела значэнне, кожная хвіліна, кожны жэст, кожнае слова.

— Я налью кавы.

— Не, дазволь зрабіць гэта мне. Калі ласка, намаж мне булачку. Два кавалачкі масла на адну лустачку, на другую — мармеладу.

Кельнер усміхаўся, адміністратар быў надзвычай ветлівы. «Фёлькішэр Бэобахтэр» на драўлянай скрэпцы вісеў нечапаны. Голас, які даляцеў да яе ўночы праз белы тэлефон, змяніў Эве свет.

Тэлефон! Яна падышла і папрасіла зрязаць яе з ваенным заводам. Ёй трэба было папрасіць прабачэння ў Бургль і паведаміць ёй.

— Ты пагаварыла са сваёй сяброўкай? — спытаўся Ганс Ціфенбах, калі яна вярнулася да стала снедаць.

— Не, толькі сказала на тэлефоннай станцыі. У атрутнай яме няма тэлефона.

— Яна — работніца?

— Як і я.

— Ты працуеш не ў бюро?

— І не блізка.

Эве амаль смешна зрабілася з яго здзіўленага твару.

— Я сяджу ў цэху і падпісваю скрынкі. Але ўлічваючы, што я некалі была вылічальнай ці, хутчэй, што ў мяне ёсць такі аўтарытэтны

сябар, як ты, шэф звярнуў на мяне ўвагу, і цяпер мне дазволена ўзважваць порах, з дакладнасцю да міліграма, і насыпаць яго ў шаўковыя мяшэчкі.

— Ты смяешся. Але ж табе не лёгка.

— Я смяюся, бо не ведала, што ў цябе няма ўяўлення, чым я займаюся. Калі нейкі Ханке карае пераводам, дык нельга спадзявацца, што трапіш ва ўтульнае крэсла ў нейкай установе.

Ён хацеў паспачуваць ёй, глядзеў на яе рукі, якія патрэскаліся ад холаду і пашарэлі ад фарбаў і шкіпінару. Яна запярэчыла:

— За апошнія месяцы я шмат чаму навучылася. У адной з маіх дзіцячых кніжак было напісана пра гераіню, што сусветная вайна ачысціла яе характар ад апошніх шлакаў. Ведаеш, што гэта значыць? Ашуканства, чыстая хлусня. Вайна робіць людзей горшымі, а не лепшымі. Кожнаму хочацца ўрваць яшчэ кавалачак жыцця. «Яны пазабіваюць нам усіх мужчын, — гавораць дзяўчаты, з якімі я жыву, — каб выйсці замуж, ніводнага не застанецца». У гэтым іх пераконваюць салдаты і тэхнікі, каб зрабіць іх больш даступнымі. Мне непрыемна гаварыць пра гэта. Скажы мне, ты вельмі шкадуеш, што не змог пабыць у Браўнлагэ?

Ён прыпальваў люльку і не глядзеў на Эву, пакуль яна гаварыла. Цяпер ён павярнуўся да яе.

— Я хацеў стрымаць слова, таму і прапанаваў Браўнлагэ. Навагоднюю ноч — ты ж памятаеш — мы хацелі правесці ў гарах, дзе нас ніхто не ведае. Мне хацелася ўбачыць цябе на лыжах, але цяпер, пасля хваробы, табе гэта было б цяжка. Я рады, што мне перасьалі тэлеграму. Вядома, і ў Гюстраве цудоўна. Пайшлі, пазнаёмімся з ім?

Хай сабе нехта будзе казаць, што Гюстраў у апошнія гады вайны не быў прыдатным для спаткання месцам. Вось сабор і ціхая вулачка, якая адыходзіць ад галоўнай вуліцы і бяжыць вакол яго; шырокі зялёны пояс з заапаркам пасярэдзіне горада, чыстага і неразбуранага. Каля рынка рэстаран з паўцыркульнымі арачнымі дзвярыма і паркетнымі нішамі, у якіх можна было адасобіцца ад суматохі. Яны елі бульбяныя аладкі з брусніцамі, добра выкачанымі ў цукры, і спыталіся ў гаспадара, які абслугоўваў іх ветліва і міла, ці можна ў навагоднюю ноч разлічваць на пару бутэлек віна.

Потым яны ішлі міма антыкварнага магазіна, праз вітрыны якога можна было зазірнуць у яго глыбіню. Раптам Эва адчула, што яе ўзялі за руку і мякка падштурхнулі ў магазін. Калі яны выйшлі адтуль, у яе была скандынаўская бас-лютня.

У «Вялікім спадчынным герцагу» яны падрабязна абследавалі інструмент — вялізнае страшыдла. Гэтая лютня была з пачарнелага ад

старасці дрэва, упрыгожаная разьбой. Самай незвычайнай часткай быў грыф. Над галоўкай ён двойчы загінаўся, пераходзячы ў яшчэ адну галоўку, на якой было замацавана пяць струн, якія адыходзілі ад грыфа такім чынам, што сутыкаліся на ніжніх мацаваннях са звычайнымі струнамі лютні.

Эва, якая прывыкла да лёгкай гітары з плоскай асновай, даволі нерашуча стаяла перад пузатым страшыдлам з прэтэнцыёзнай назвай. Ганс яе падбадзёрыў. Ён выцягнуўшыся ляжаў на канапе.

— Для твайго супакаення: пад фальшывую музыку я засынаю ўсё роўна. Ты можаш спакойна праверыць гэты арган.

Калі не звяртаць увагі на скандынаўскія дапаможныя струны, на ёй можна іграць, як на звычайнай гітары, рашыла Эва. А рэзананс — цудоўны.

— Задаволена? — спытаўся ён з канапы.

— Вядома! Трэба яшчэ аддзякаваць як след. Яна ж страшэнна дарагая, праўда?

— Ды няўжо ж. Аднамесны пакой мы маглі б для эканоміі здаць. Але ж шаноўнейшая не хочуць.

— Не.

— Значыць, усё-такі ёсць залежнасць ад таго, што падумаюць людзі?

Яна памарудзіла. Падышла да яго, села і пакруціла галавой.

— Толькі з-за белага тэлефона. Мы б не маглі ім карыстацца.

Ён засмяяўся, прыхіліў яе галаву, каб атрымаць падзяку, і спытаўся:

— Што ты сёння вечарам скажаш у трубку?

— Я пачакаю, што скажаш ты. Або я спытаюся: сёння пан зноў смяротна змораны?

— На апошняе нахабства я, зразумела, нічога не адкажу, а пяшчотна і ціха і ўсё-такі настойліва, каб ты ні ў якім разе не магла адказаць адмоўна, спытаюся: ты прыйдзеш? Ці мне прыйсці? А што ты адкажаш на гэта?

— А вось гэтага я табе не скажу. Інакш знікне самае цікавае — нечаканасць, і тады нам тэлефон не спатрэбіцца.

Са смехам яе вусны прынеслі яму чаканую падзяку.

— Між іншым, гэта ўжо другі музычны інструмент, які ты дорыш мне, — сказала яна пасля таго, як падзякавала паасобку за кожную струну, за кожную аздобу і за скандынаўскі грыф. Яе вусны гарэлі, валасы разляцеліся.

— Акарына жывая яшчэ? — спытаўся ён.

Яна кіўнула, ціха лежачы каля яго. Усё яшчэ жыло ў ёй, усё, што

яны перажылі разам, кожная фаза. А цяпер прыйшла пара высветліць нявыказанае.

Ён адчуў, што яна чакае. Ён пачаў расказваць пра сваю працу, пра агульных знаёмых. Яму патрэбен быў нейкі разгон.

У Фрыдрыхсгафене ён быў усяго толькі адукаваным арганізатарам. У яго ўвесь час здараліся непаразуменні з кіраўніком прадпрыемства, якога яму падсунулі з міністэрства ўзбраення і забеспячэння і які толькі тое і ведаў пра А4 — а больш і ведаць не хацеў, — што ён як мага хутчэй павінен быць пушчаны ў дзеянне. Апошнія наступленні рускіх знервавалі Берлін. Цуд-вучань, так называў Ганс Ціфенбах свайго начальніка, пасля кожнай паездкі ў Берлін вяртаецца вельмі ўзбуджаны. Для яго застаецца загадкай, як Доктар увогуле трывае гэту спешку, якая пануе ўжо некалькі гадоў і дзейнічае найбольш на яго. Пасля налёту, калі на Востраве з'явілася вельмі многа новых людзей, стала асабліва невыносна. Да ўсіх няўдач у распрацоўцы зброі і да звычайных цяжкасцей на пачатку вытворчасці новай прадукцыі цяпер прыбавіўся недахоп сыравіны, які з кожным месяцам адчуваецца ўсё больш і больш. Доследны завод на Востраве цяпер сваю задачу бачыць у тым, каб як-небудзь зберагчы матэрыялы. Найлепш было б замяніць сталёвы корпус агрэгата на жалезабетонны, як гэта прапанаваў адзін спецыяліст па статыцы, але гэта значыла б заняцца зусім новай галіной распрацовак, пачаць новыя, бясконцыя серыі выпрабаванняў. Каб увесці ў зман варожую разведку, выпрабавальныя запускі пераведзены ў Хадэлагер, палігон СС у Польшчы. Няўдачы пры запусках у апошні час пачасціліся. Хоць цяпер ужо запускі робяць не на мора, а на сушу — зразумела, дзе мала населеных пунктаў — вельмі цяжка дакапацца да прычын памылак. Зыходзячы з гэтага, здаецца авантурызмам, што праграму, якая прадугледжвае выпуск трохсот баявых А4 у месяц, хочуць выканаць любой цаной. І ніхто не цікавіцца цяжкасцямі. Цяпер выяўляецца, як канчаткова закабаліў сябе Доктар. Ён расказваў, што Карла Вінтэр усё яшчэ на сваім любімым каньку. Нельга ні грама пускаць на вецер з таго матэрыялу, што адпускаўся. Самай надзейнай гарантыяй будзе тарпеда, якой кіруе чалавек, чалавек-бомба, якая не праміне мэты. Цяпер трэба знайсці людзей, якія не баяцца пайсці на смерць. Яна плануе стварыць зондэркаманды, падрыхтоўкай якіх зоймецца сама.

— Значыць, чалавекам даражаць менш, чым матэрыялам, — сказала Эва, уздрыгнуўшы.

— Так. Практыка вайны так ці інакш падводзіць да гэтага. Але, дзіўна, пакуль у салдата ёсць хоць самая малая надзея выжыць. Ён

хапаецца за яе. Людзі, якія сядзяць у танках і павінны ўкліньвацца ў варожы фронт, цепляць маленькую іскрынку надзеі — уцалець. У іх больш нічога няма, акрамя гэтай маленькай іскрынкі. Любому салдату, свядома або несвядома, яна — самая важная, самая недатыкальная частка паходнай амуніцыі. Яна — гэта тое таксама, чым вайна сцвярджае сябе. Не кожная ж куля трапляе! Тоненькая нітачка суцяшэння. Але як толькі яе не будзе, як толькі маленькая іскрынка надзеі знікне з салдацкай амуніцыі — тады ўсё! Такі кароткі крок. Кожны лётчык-знішчальнік ведае: расслабся толькі на секунду і — канец. Але ён можа шмат зрабіць, каб адцягнуць гэты канец, магчыма, нават пазбегнуць яго. Чалавек на тарпедзе мае толькі адзін шанец: прадаць сваё жыццё як мага даражэй, гэта значыць, як мага больш пацягнуць за сабой у небыццё, іншымі словамі — дакладна трапіць у цэль. Карла Вінтэр сцвярджае, што тут пачынаецца гераізм. Яна прыдумала азначэнне — «смерць, напоўненая сэнсам». Гэткім чынам яна хоча навербаваць смертнікаў.

Эва ўявіла сабе невысокую жанчыну з кароткай прычоскай і энергічнымі, крыху вуглаватымі рухамі.

— А чаму не лётаць жанчыне, — адказала яна аднойчы Ханке ў прысутнасці Эвы, — мы можам закапацца носам, які не слабейшы за ваш, і ў нас ёсць дзве нагі, каб зноў падняцца, як і мужчыны. Вось тут, — яна пастукала сябе па лобе, — у нас яшчэ варыць, і ў адчувальнасці вы наўрад ці можаце адмовіць нам, жанчынам. А калі вам, мужчынам, не захочацца глядзець на нас, бо ў нас з'явіцца некалькі шрамаў ці падрамантаваны нос, тады нам не застаецца нічога іншага, як сесці ў новую машыну і зноў падняцца ў неба.

Вось так яна размаўляла і знаходзіла вялікае адабрэнне. У Эвы таксама. Карла Вінтэр пераадолела тое, чым Ру пагарджала ў сабе самой і ў многіх іншых жанчынах. Ёй не трэба было гаварыць: «Гэта абражае. Які мы нікчэмны пол!» Але куды вяло яе самасільнае вызваленне? Ці яна хацела быць цвярдзейшай за мужчын? Адважнейшай? Бязлітаснейшай?

Эва сказала:

— А што, па праўдзе кажучы, уяўляе сабой Карла? Чаму яна такая? Чым яна кіруецца? У што яна верыць?

— Па яе словах, яна верыць у Германію.

— У якую Германію?

— Такога пытання для яе не існуе. Магчыма, яна бачыць гэты комплекс нават геаграфічна, з пункту гледжання лётчыка. Ёй патрэбна столькі і столькі гадзін, каб перасячы Германію, што ляжыць пад ёю.

— Што ж гэта за любоў да Айчыны! З птушынага пункту гледжання.

— Не гавары так. Перспектыва захапляе. Ніколі не адчуеш большай цягі да прагулкі ў лесе, да зялёных лугоў, да халоднай ручаёвай вады і да белага доміка каля мора, чым плывучы на вышыні дзвюх тысяч метраў, калі ўсё гэта бачыш пад сабою. Ты бачыш усю разнастайнасць навакольнага свету, і гэта табе імпануе. А ты ляціш далей, і ведаеш, што ўжо ніколі больш не вернешся туды. Большасць лётчыкаў у нейкім патаемным куточку свайго сэрца — рамантыкі. Карла Вінтэр таксама. Яе цвёрдасць — ад некампенсаванага пачуцця да краіны, па даручэнні якой яна лётае, якую яна мерыць удоўж і ўпоперак, якую хацела б бачыць прасторнай і вялікай і якую яна, папраўдзе, ведае толькі па аэрадромах.

— Значыць, лёс яе — век сумаваць, ты так лічыш?

— Так. Табе не варта ёй зайздросціць.

— І ўсё ж. Яна мае магчымасць працаваць разам з табой.

— Што ёй з таго. Часам мы сядзім разам у казіно, і я забываюся даць ёй прыкурыць. Яна аднойчы ўжо пыталася, ці не магу я быць іншым.

— Ніхто яе не кахае?

— Я думаю, што ніхто.

— Але ты ў захапленні ад яе.

Ганс паглядзеў на Эву, якая ляжала побач з Ім, злажыўшы рукі пад галавой.

— Часам захапляюся, але гэта — далёка ад кахання.

— Цяпер ты... вымавіў слова! — Яна падхапілася.

— Толькі абстрактна. — Ён узяў яе за руку і хацеў прыцягнуць да сябе. — Ты так яго чакаеш?

— Не, ніколечкі. — Яна вырвалася і ўскочыла на ногі. Падхапіла лютню, узяла некалькі акордаў.

— Што табе сыграць?

Ён абапёрся на высокую спінку канапы і пачаў разглядаць яе. У яго прыплюшчаных вачах іскрылася захапленне ёю. Эва падумала і зайграла. Яна глядзела на яго, пытаючыся, ці ведае ён мелодыю.

Ён з жалем пацiснуў плячыма. «Яна пахудзела, — падумаў ён, — яна худая і бледная. Як жа мне перавесці яе адсюль у іншае месца?»

Яна пачала ціхенька спяваць, выводзячы незнаёмую яму мелодыю. Яна спявала на паўднёванямецкім дыялекце і радавалася, што ён нічога не разумеў.

Што ты, каханы мой, павінен знаць...

Ён наведаў супрацоўнікаў аэрадынамічнай трубы ў верхнеба-

варскай вёсцы. У маленькім рэстаранчыку з арачнымі дзвярыма Ганс Ціфенбах расказваў пра гэта сваё наведванне. Замест Матэзі і Эдзіт Кнор прыйшлі новыя, Траўдэ Хёрзельман усё такая ж сур'ёзная, аднак яе вельмі часта бачаць з Клемтам, які цяпер жыве халасцяком. Хэні Розэнаў зрабілася крыху жаласлівай. Ёй не хапала паўночнагерманскай раўніны, перадгор'е Альпаў гняло яе. Яна нясмела спыталася ў яго пра Эву.

— Мне было вельмі сорамна, што я не ведаў, як адказаць, — прызнаўся ён.

Эва насмешліва скрывіла рот.

— Ці не гэта і было прычынай, што ты пазваніў на завод?

— Не. Я пазваніў бы ўсё роўна. Новы год — ты ж ведаеш. Для мяне было цвёрда вырашана.

— Значыць, ты трымаеш слова. Але ты яго рэдка даеш. А што далей, цябе мала непакоіць.

Ён паглядзеў на яе знізу ўверх.

— Табе, відаць, вядомыя ўсе мае слабасці! Але каб мяне мала што непакоіла — гэта зусім не так. Я адвучыў сябе ад асабістых жаданняў. Імя гэтага жадання было Эў, і яму быў прызначаны тэрмін — Новы год. Да таго часу я хацеў закончыць з Лёйпальдам рукапіс. Але гэта не зусім атрымалася. Нам не далі такіх-сякіх важных дакументаў.

— Значыць, ты ўсё яшчэ дамагаешся трэцяга крыла?

Ён усміхнуўся, узрадаваны.

— А ты не забыла.

— Я нічога не забываю. Таму я і не вельмі веру, пра што ты толькі што гаварыў — пра асабістыя пажаданні. Была яшчэ і іншая прычына, чаму ты не даваў знаку пра сябе. На Востраве ў нас не было магчымасці пагаварыць пра гэта. Ты ведаеш, якая ў іх там думка пра мяне. Аднойчы я вымушана была нават даць аплявуху. Непрыемна было ўсё гэта слухаць, я ведаю, але я не каюся. Я не каюся таксама, што дапамагла Бэру ўцячы... — Яна, спужаўшыся, замоўкла. Яна яшчэ ніколі не гаварыла пра гэта.

Ён задумліва паглядзеў на яе, кіўнуў, нібы атрымаў пацвярджэнне нечаму.

— Я ведаў, што так яно і было. Але па гэтай прычыне я і не мог заступацца за цябе. І ... я павінен сказаць табе: мяне абурыла, як мала ты цэніш дадзенае абяцанне.

— Я табе нічога не абяцала.

— Але я прашу, Эва, раз я да цябе прыязджаю...

— Так, я стала крыху сентыментальная, я вельмі радая тваёй

спагадзе. Але абяцаць — нічога! — Яна пачала гаварыць ціха, настойліва. — Ты кажаш, што пэўныя словы трэба берагчы, бо яны сціраюцца. Твая праўда. Па гэтай жа прычыне я і не раскідваюся абяцаннямі.

Ён кашлянуў, паспрабаваў жартаваць.

— У цябе звычка біць другога ягонай зброяй. Ва ўсякім разе, табе вядома мая марудлівасць. Мне быў патрэбен нейкі час, каб пераварыць усё гэта: ты зноў паставіла на карту нашу будучыню дзеля гэтага Бэра. Гэта пакрыўдзіла мяне.

— У яго, магчыма, на карту было пастаўлена жыццё.

— А ў цябе? Табе проста зноў пашанцавала, а то ты не сядзела б тут!

Ён адлёгся на драўлянай лаўцы пад акном, якая займала ўсю нішу.

Яны былі воддаль адно ад аднаго, і ён разглядаў яе, хітаючы галавой, з цікаўнасцю, нібы бачыў яе ўпершыню.

— Што з вас, дзяўчат, зрабіла вайна! Ты такая жаданая каханка, табе вядома гэта? Вельмі жаданая! Калі ты застанешся такой самай жонкай, з мяне будзе вельмі дрэнны фізік.

— А трэцяе крыло?

— Я, відаць, яго ніколі не атрымаю.

— О божа, ты ж бы мне гэтага не даравў.

— З цяжкасцю дараваў бы.

— Тады мне трэба пастарацца не быць такой жаданай. Не ведаю, ці спраўлюся.

— З гэтага часу я пачну больш сачыць за табой.

— Ах! — Яна засмяялася з яго. — Як ты збіраешся рабіць гэта?

— Мы маглі б ажаніцца, напрыклад.

Яна бачыла, як сур'ёзна ён прамовіў гэта. Яе весялосць прапала. Вось яно і прыйшло, тое, чаго чакаюць усе дзяўчаты; тое, што пераконвае іх: мужчын прываблівае ў іх не толькі забава. Вось яно, тое, што ім трэба, каб знайсці апору, заваяваць павагу. Як хутка змяніў свой тон персанал у «Вялікім спадчынным герцагу», як толькі прыехаў Ганс! І вось ён рабіў высакародны жэст, імкнучыся падняць наверх работніцу ваеннага завода. А потым ён вернецца ў Фрыдрыхсгафен, і Карла Вінтэр міла пасмяецца з яго. На Востраве заўсміхаюцца, даведаўшыся. Ён будзе ўсё заўважаць, усё адчуваць і насіць усё ў сабе. Пагарда іншых паралізуе яго. Яго прафесія... трэцяе крыло... не, так не гадзілася, гэта вельмі залежала ад таго, што падумаюць іншыя. Яна павінна выкручвацца сама. І яна так хацела. Гледзячы перад сабой на драўляную стальніцу, яна ціха пакруціла галавой.

— Давай пачакаем, пакуль я змагу даказаць усім, што ты бярэш замуж не пустышку.

— Якое глупства, каму што да гэтага?

— О не, гэта мае вялікае значэнне. А потым, ты ж ведаеш, для шлюбу патрэбны дакументы. Тады б выплыла наверх уся гэта гісторыя з працоўнай павіннасцю. Я зноў бы аказалася «мяшанкай першай ступені». Не ведаю, ці добра гэта.

— З апошнім довадам я мушу згадзіцца.

— Вось бачыш. Між іншым: я адчуваю сябе і так ужо даволі надзейнай тваёй жонкай. — Ён адказаў ёй цёплым поціскам рукі, які азначаў больш, чым словы.

Надышлі апошнія гадзіны года. Яны ў той самай нішы пілі кіслае чырвонае віно. Яны гаварылі пра тое, што прынясе новы год. Ганс Ціфенбах пераходзіў ад надзеі да скепсісу: ці варта чакаць ад А4 паляпшэння ваеннага становішча?

— Прайграная вайна — нешта накшталт пажару, калі не заключаны страхавы дагавор, — сказаў ён. — Рабі што хочаш, нельга жадаць толькі паражэння.

— Ты пад уплывам Карлы Вінтэр, — сказала Эва.

— Мы вырашылі больш не ўпамінаць яе, — сказаў ён.

Яны пайшлі праз ноч напрасткі ў гасцініцу.

«Новы год, — падумала Эва. — Магчыма. Ён падобны да лятучага анёла Барлаха». Яна бачыла фатаграфію помніка загінуўшым, які настолькі адрозніваўся ад усіх вядомых ёй помнікаў і які нацысты вывезлі з Гюстрава, назваўшы яго «дэградацыяй». Вядома. Ён не быў падобны да анёла шчасця, гэта не быў пасланец, які нёс вестку пра прасвятленне.

Калі яна першы раз хадзіла па горадзе, знаёмячыся з ім, яна прыпомніла расказ Бэра і знайшла дом, у якім жылі сябры памерлага мастака. Прозвішча Бэра стала ёй нібы пропускам сюды. Яна хацела папрасіць Ганса пайсці туды яшчэ раз з ёю, каб замацаваць ўражанне. Але яна не адважылася загаварыць пра гэта. Яна не хацела ўпамінаць Бэра і баялася, што Ганс адмовіцца, як баялася яго «не», беручы на борт польку.

Год, напэўна, будзе падобны да Барлахавага анёла: сур'ёзны, трывожны.

Яна не магла забыць гэтага пакутлівага каменнага твару, гэтых нямых, прыціснутых да грудзей рук, гэтай простай, без украсаў вопраткі, з якой выглядалі худыя, па-зямному грубыя ногі. Яна прымусіла сябе не думаць пра яго. Яна не хацела зварочваць на тыя шляхі, не ведаючы, ці пойдзе за ёй Ганс.

Адзін толькі дзень яшчэ разам! Яна хацела быць з ім, не траціць ніводнай хвіліны...

Калі Ганс надзеў ёй на руку тоненькі залаты бранзалет, яе быццам токам ударыла. Ці не было ў анёла на назе ланцуга? Ці гэта напомніла ёй пра жалезны ланцуг, які не даваў яму паляцець? У Марліс быў таксама такі ланцужок, у Марліс, якая цяпер ужо была сярод тых, па кім сумаваў анёл. Жалоба расла з кожным годам. Эва пакруціла бранзалет, падзякавала яму, шчаслівая, адчула яго блізкасць, калі позіркам сваіх глыбока запалых вачэй ён спытаўся ў яе, ці радая яна.

У ім не было анёла. Але яна сама была ў ім. Гэтага мала?

Ён сказаў:

— Табе вельмі хочацца пачуць?

Яна зразумела яго адразу. Кіўнула ледзь бачна.

— Я вельмі люблю цябе, — сказаў ён.

## 3
## ШТАБНАЯ ПАМОЧНІЦА

У Эвы было ўражанне, што яна прыехала ў Штэцін толькі для таго, каб адседжвацца ў бамбасховішчах. Мекленбургскі ваенны завод быў узорам спакою ў параўнанні з нервовай напружанасцю горада на Одэры, які ўвесь час бамбілі.

Яна дакладна не ведала, каму была абавязана гэтым пераводам. Ці магло быць, што імя Ганса Ціфенбаха аказалася дастаткова ўплывовым, каб схіліць падпалкоўніка, нягледзячы на пратэсты начальніцы лагера, паслаць менавіта яе, Эву Леангард, на курсы штабных памочніц для кіраўніцтва ваеннай акругі? Яна ведала, што Ганс Ціфенбах ужо з Фрыдрыхсгафема ветліва і карэктна падзякаваў падпалкоўніку за яго гатоўнасць пайсці насустрач. Ад тэлефаністкі Кетэ яна даведалася яшчэ, што, калі адміністрацыя завода запатрабавала кандыдатуры для адпраўкі на курсы, Эльзбет Шлегель зрабіла заяву, што такіх няма. Але ў падпалкоўніка, відаць, нешта засталося ў памяці ад яго размовы з д-рам Ціфенбахам, і тая размова, здавалася, была не без значэння. Дырэктар завода выклікаў да сябе дзяўчыну. Яны паразмаўлялі, афіцэр і работніца. Эва ўспрыняла яго зычлівасць як нешта натуральнае ў дачыненні да яе. Ён адзначыў гэта спачатку, паморшчыўшы лоб, і ўсё ж абмежаваў сваю высакамернасць мінімальнымі велічынямі.

Ён спытаўся, ці няма ў яе жадання стаць штабной памочніцай для кіраўніцтва сухапутных войск. Ваенная акруга якраз арганізуе

курсы. А потым будзе прызначэнне ў розныя вайсковыя часці ваеннай акругі на змену прыгодным для фронту мужчынам, якія ўсё яшчэ адседжваюцца ў кабінетах. Ці лічыць яна сябе прыгоднай? Па-нямецку ж пісаць яна, пэўна, умее. Яе непачцівая ўсмешка прымусіла яго зазірнуць у асабовую справу… Ну што ж, сярэдняя адукацыя, праца ў павіннасці, усе дадзеныя ёсць. Ну, а пярэчанняў, пэўна, не будзе.

Не, Эва не адмаўлялася. Яна вырашыла выкарыстаць шанец, які адчыняў ёй вароты лагера. Яна здыме шэры халат, які насіла ўжо сем месяцаў, без шкадавання. І ўсё-такі яна нешта пакідала тут: Бургль.

Ганс Ціфенбах спытаўся, калі яна расказала яму пра яе, ці не знайшла яна ў Бургль другую Марліс. «Не, — адказала яна, — другой Марліс не будзе. Бургль ёсць Бургль. Але гэта — не менш».

Ёй было балюча пакідаць Бургль менавіта цяпер. Побач з жаночым лагерам быў абсталяваны лагер для іншаземных работніц. На заводзе ялы працавалі на такіх месцах, дзе за імі было лёгка назіраць. Некалькі іх было і на брудным рабочым месцы Бургль. Бургль чула, як яны гаварылі адна з адной па-французску. Гэта кожны дзень напамінала ёй пра горкую страту і невядомы лёс Андрэ. Яна не адважвалася загаварыць з кім-небудзь з іх, але папрасіла Эву павучыць яе крыху французскай мове. Іх падпольныя заняткі сягнулі не вельмі далёка — яе паслалі ў Штэцін. «Магчыма, мяне пашлюць штабной памочніцай зноў на гэты завод», — сказала Эва пры развітанні на вакзале.

Бургль не падтрымала гэтага зычлівага супакаення. «Я жадаю табе лепшай долі, чым лагер з аховай і агароджай».

Кожны тыдзень Бургль пісала Эве. Яна пісала свае пісьмы прыгожымі, амаль па-мастакоўску закручанымі, старанна выведзенымі літарамі. Час ад часу ў іх пракідвалася французскае слова, нібы патайны знак і напамін, што яна нічога не забыла. Яна спадзявалася, што яе сяброўка адчувае сябе ў Штэціне шчаслівай. Эва не выдавала ёй сваіх сумненняў, ад якіх пакутавала.

На што яна пайшла, прымаючы прапанову падпалкоўніка? Няўжо на Востраве не пераканалася, наколькі яна залежыць ад настрою начальства? Незычлівасці аднаго з іх хапіла, каб яна аказалася ў небяспецы і страху. Яна напомніла сабе яшчэ раз, што ніколі не была такой спакойнай, як гэтыя паўгода на заводзе. Яна дайшла да самай нізкай кропкі. Яна была «ў лагеры». У ім яшчэ не было калючага дроту, але гэта была ступенька да яго. Яна была часткай ваеннага завода, нецікавая для любога ўпаўнаважанага. Прыдзіркі начальніц лагераў вычэрпваліся дробязямі. Цяпер яна зноў выходзіла на волю, вылучалася, падвяргала сябе крытычнаму разгляду. Яе дакументы не

выклікалі падазрэнняў, доследная ўстанова Востраў знаходзілася на тэрыторыі ваеннай акругі, кіраўніцтва якой размяшчалася ў Штэціне. Магчыма, там былі людзі, якія ведалі пра яе больш, чым сведчылі дакументы.

Задумваючыся над усім гэтым, яна амаль рашалася адмовіцца ад сваёй згоды ісці на курсы. Але потым яна аказвалася зноў на ложку ў сваім пакоі на пяцярык. Пахла цвілым хлебам, які заўсёды плеснеў у тумбачцы ў Герды. Яна бачыла засаромлена скошаны позірк Інгі, а ў яе ў вушах гучалі Дорыны словы, якія былі, відаць, сказаны жартам, але аддавалі вельмі горкай праўдай: «Як толькі ты паедзеш, мы звалім усё на цябе, з коўдрай, што пайшла на штаны астатнім...» Не, заставацца было нельга! Яна ўгаварыла сябе наблізіцца на крок да Ганса Ціфенбаха. Ён будзе рады, калі даведаецца, што яна зноў сядзіць у крэсле служачай. І яна пасяшалася паведаміць яму новы адрас.

Курсы штабных памочніц былі размешчаны ў школе маладых штабных памочніц, паўгадавы тэрмін падрыхтоўкі якіх якраз толькі што закончыўся. Школа была на ціхай вулачцы, амаль у цэнтры горада, цесна ўкліненая ў густы рад дамоў. Стары дом з шырокімі варотамі для ўезду і аднапавярховымі прыдворнымі забудовамі некалі, відаць, быў заезным домам, дзе можна было распрэгчы каней. Пакоі былі высокія, голыя і няўтульныя. Спальня, зала з двухпавярховымі ложкамі, была запоўнена толькі напалавіну. Пасля паветранай трывогі, каля адзінаццаці гадзін вечара, загадчыца інтэрната, фраў Вольф, пры зацемненым ліхтарыку прывяла ў спальню апошнюю курсантку. Яна прыехала са спазненнем і атрымала ніжні ложак, насупраць Эвы. Калі раніцай знялі зацямняльныя шторы і дзяўчаты пачалі вылазіць з-пад коўдраў, Эва пазнала тую, што спазнілася. Гэта была Ільзэ Рубышэўская, бібліятэкарка з Вострава.

— Ру! — Воклiч Эвы не мог бы прагучаць больш радасна, калі б яна раптам сустрэла даўно згубленую сяброўку.

Ру таксама ўзрадавалася. Шырокі рот на доўгім конскім твары расцягнуўся ва ўсмешку.

Яна сказала, што бібліятэкаркі на Востраве больш непатрэбныя. Яна вырашыла, што для яе лепш перакваліфікавацца на кабінетную служачую, пасля таго як ёй прыслалі невядома што за чалавека, каб той дапамог ёй у рэарганізацыі бібліятэкі. Усюды падазравалі здраду. Раптам адпалі многія прычыны атрымаць броню. Процьма новых людзей, якія па высокай пратэкцыі папрыязджалі з берлінскіх устаноў, шмат і важна гаварылі, а ў некаторых ужо было што сказаць больш, чым у генерала. Каля варотаў завода цяпер стаялі дадатковыя

вартавыя з СС. Доктар бегае бурклівы і нервовы, калі бывае наогул. Зіма была дрэнная, у першую чаргу для жанчын, якія цяпер паасобку жывуць у розных курортах і дабіраюцца да працы гадзінамі. Яны проста не выходзяць на працу, прытвараюцца хворымі, страшэнна мерзнуць у вялікіх адкрытых летніх вілах, а выхавацелька, якая змяніла Марліс, розуму не дабярэ, як ёй разам з камендантамі інтэрнатаў справіцца з гэтай упартай зграяй. На Востраве пануе бясконцая дробязная вайна. Ру палічыла за лепшае своечасова пакінуць яго.

Эва падумала пра Хану Пэплаў. Як ёй, пэўна, цяжка цяпер. Відаць, усюды былі шпікі. Яны маглі быць і сярод курсантак. Трэба быць асцярожнай.

Трыццаць дзяўчат сабралася з ваеннай акругі, з часцей, санітарных падраздзяленняў, са складаў, установ забеспячэння. Былі вольнанаёмныя, той-сёй умеў друкаваць на машынцы. Пасля курсаў яны чакалі павышэння па службе.

На адкрыцці штабсінтэндант, якога прадставілі як кіруючага афіцэра ад ваеннай акругі, члена НС, звярнуўся да курсантак, якія радамі сядзелі ў сталовай, як у тэатры, і чакалі, што будзе, з моцнымі словамі:

— Памятайце адно! — Так ён пачынаў кожны трэці сказ. — Памятайце адно! Пасля курсаў вас залічаць у армію. Вы будзеце, так сказаць, поплеч з намі, з тымі, хто носіць ганаровую форму нацыі, змагацца. — Ён дзвюма рукамі дэманстратыўна ўдарыў па гэтай ганаровай форме, так што зазвінеў Крыж ваенных заслуг другой ступені.— Мы, старыя страевікі, гаворым вам: калі ласка ў нашы рады! Але памятайце адно: вы далучаецеся да нас у час найцяжэйшых выпрабаванняў. Гонар салдата — ваш гонар. Дысцыпліна нашага гордага вермахта — ваша дысцыпліна. Мараль фюрэра і вышэйшых начальнікаў, якая — узор для ўсіх нас, — гэта і ваша мараль. Яна зарука нашых будучых перамог. Памятайце адно: ваша задача не менш чым — садзейнічаць перамозе ў апошняй бітве. — Ён пайшоў, сур'ёзны, велічны, пад відавочным уражаннем ад Самоса сябе.

Штабсцальмайстар Панцгаф быў прадстаўлены як кіраўнік курсаў. Некаторыя дзяўчаты, якія ўжо, седзячы ў вайсковых канцылярыях, мелі доступ да перапіскі кіраўніцтва ваеннай акругі, ведалі яго прозвішча з цыркуляраў і распараджэнняў аддзела па кадрах. Аўтар размашыстага, крута загнутага ўніз подпісу стаяў цяпер перад імі, блізарукі ўладальнік такога носа, што цяжка было сабе ўявіць, каб гэты выдатны орган выконваў толькі адну функцыю — нюхаць. Калі паглядзець збоку, гэта быў магутны гарбаты трохкутнік, з загнутым уніз кончыкам. Калі, гаворачы, Панцгаф ківаў галавой, пазіраючы то

ўлева, то ўправа, здавалася, што нос дзяўбе паветра, як дзюба птушкі. Ру сядзела каля Эвы, трымаючы на каленях блакнот для стэнаграфіі, і рабіла нататкі. «Дзяцел» напісала яна з краю і падсунула блакнот Эве.

За птушынай галавой, якая, нястомна дзеўбучы, знаёміла прысутных з вучэбным планам, напышліва гайдаючыся з боку на бок, стаяў патрон будучых штабных памочніц, інтэндант у пагонах маёра. У яго быў занадта малы рот, якому не прыдавалі важнасці і акуратныя вусікі. Кароткі тоўсты шрам на шчацэ, здавалася, павінен быў сціпла сведчыць пра тое, што гэта быў чалавек, які ў цывільным жыцці меў акадэмічныя званні. Оберштабсінтэндант Німц не быў з ліку «старых страевікоў». Са стэрэатыпнай усмешкай на твары, якая павінна была відавочна выяўляць зычлівую перавагу. Ён сачыў за цырымоніяй. Ён выйшаў апошні, зрабіў жэст, які быў вельмі падобны да кавалерскага паклону, і мяккім голасам даў стартавы сігнал. Курсы адкрыліся.

Калі потым настаў перапынак на полудзень, Ру кінулася на ложак і закурыла. Яна пачала крытыкаваць «мопсаў» з іх «ганаровай формай», на якой яшчэ не было ніводнай плямы ад акопнага бруду. Эва суха прамовіла:

— Ты ж хочаш выйсці замуж за такога!

Ру растапырыла пальцы.

— Няўжо не заўважаеш? Я больш не нашу пярсцёнка.

— Ты парвала з ім?

— Толькі хачу. Ён пакуль не ведае. У яго цяпер шуры-муры з медсястрой. Але ён не здагадваецца, што мне вядома. Я чакаю толькі выпадку. Я прыхільніца драматычных канцовак.

— Як ты гаворыш пра гэта? Цябе не хвалюе?

— Ужо перагарэла. Я спачатку ашалела, магу табе прызнацца. Пра што ты цяпер думаеш? — Ру патушыла сігарэту і павярнулася да Эвы, якая сядзела на краі ложка, склаўшы рукі на каленях, і, здавалася, забылася, што яна атрымала пісьмо, якое якраз хацела прачытаць. — Скажы, пра што ты думаеш?

— Ах, ні пра што.

— Думаеш, я не бачу. Ты думаеш: Ру — асцярожная сцерва. І вось яе разлікі не спраўдзіліся. Гэта — пакаранне. Так? Не бойся, прызнавайся. Ты маеш рацыю. — Яна хрыпла засмяялася. — Заўсёды атрымліваецца наадварот, што б ні рабіў — ці адпаведна з розумам, ці з пачуццём. Урэшце, усё гэта — толькі інстынкт самазахавання. Вось чаму ты пакінула завод, а я — Востраў. Але цяпер мы трапілі ў жорны... У мяне ўсё пачалося тады, калі я назвала свайго бацьку бесталковым сацыялістам. Тады я адраклася ад таго лепшага, што ён

узгадаваў ува мне. Мой інстынкт самазахавання параіў мне ўдзельнічаць у гэтай бруднай справе. У цябе, відаць, таксама быў нейкі пачатак, бо і ты ж не падтрымліваеш таго, што прапаведуюць! Цяпер нас ірве за лыткі, як сабака, хлусня. Яна гоніць нас, і мы павінны скакаць. Інстынкт самазахавання! Заўтра, магчыма, Дзяцел запатрабуе ад нас напісаць сачыненне пра боскую місію фюрэра? Ты адмовішся? Не. Інакш табе — канец. Значыць, інстынкт самазахавання. Ты нешта напляцеш пра аплот немцаў і пра генатып выбранай расы. Мой бацька называе гэта «пусціць туману».

— Я цябе не разумею. Якое дачыненне мае гэта ўсё да тваіх заручын? — Эве здалося, што яна сядзіць у чыстцы.

— Гэта мае нейкія адносіны да таго, што ты думаеш пра мяне. Тое, чым мы займаемся тут, — ты і я (ты была сяброўкай Бэра, больш я нічога не ведаю пра цябе, але і гэтага дастаткова), значыць, усё гэта: прыклад фюрэра, салдацкі гонар і да таго падобнае, хто ведае, што будзе яшчэ — удзельнічаць ва ўсім гэтым гэтаксама непрыстойна, як і пайсці ў пасцель з мужчынам, якога не кахаеш. А цяпер судзі сама. Ці спачатку прачытай пісьмо.

— Ру, у цябе моцны характар!

— Дзякуй богу, інакш я даўно павесілася б!

Пісьмо было ад Штэфі. Яна віншавала Эву, што яна вырвалася з ваеннага завода. І ў яе намеціліся перамены. Пасля таго як чэхі выразна паказалі сваю нянавісць да нямецкага рэжыму, застрэліўшы нацысцкага намесніка Гейдрыха, Рольф Кюперс прыкладаў намаганні, каб вывезці яе з Прагі. Цяпер іх чакаў перавод у Дрэздэн. Яны ўжо нанялі два маленькія пакоі, якія будуць іх першай кватэрай, калі яны неўзабаве пажэняцца. Рольфу яшчэ трэба закончыць курсы ў Штэціне. Прайсці нейкую спецпадрыхтоўку. Яна спадзяецца, што Эва спаткаецца з ім. Ён зрабіўся такі сур'ёзны, яму тэрмінова нешта трэба, што б яго падбадзёрыла. Пра Познань яна ўпамянула толькі, што бацькі ў асноўным зноў памірыліся, што, аднак, Густль, яе бацька, відаць, моцнаператамляецца і зрабіўся вельмі нервовы, што можна зразумець са сціплых вестак адтуль. «Ад Штэціна да Дрэздэна зусім недалёка, — пісала Штэфі. — Можа, ты прыедзеш да нас на вяселле?»

— Што, — сказала Ру, — з Вострава?

— Не, з Востравам у мяне няма сувязей, — адказала Эва.

Кожны раз, калі д-р Клемт прыязджаў у камандзіроўку на Востраў. Ён зноў радаваўся, што неўзабаве пасля налёту перавёў аэрадынамічную трубу ў адасобленую верхнебаварскую вёску і такім чынам сам аказаўся па-за сварамі за ўладу, якія ўсё больш разгараліся ў кіраўніцтве доследнай установы.

З болем у сэрцы Клемт быў вымушаны адкласці свой праект «велікоднае яйцо», бо неўзабаве пасля ўдалага запуску А4 і дэманстрацыі дакументальнага фільма пра гэту падзею ў штаб-кватэры фюрэра Доктар святкаваў перамогу. Усе сілы трэба было засяродзіць на адной праграме.

Налёт на Востраў стаў у жыцці Клемта вялікім няшчасцем. За некалькі дзён ён страціў сваіх дзяцей, жонку і веру ў свае творчыя сілы. Прайшлі месяцы пасля гэтых чорных дзён, і ён са сваёй высокай вежы пачаў абыякава глядзець на тых, хто яшчэ славалюбна песціў планы і тросся за вынікі паспяховай працы. Ён пачаў разумець ціхага прафесара, гэтага славутага і за мяжой старога спецыяліста ракетных даследаванняў, які нядаўна, змірыўшыся з лёсам, пакінуў Востраў, таму што яго, на чыіх даследаваннях грунтаваліся поспехі маладых, адштурхнулі ўбок і пачалі нагружаць пабочнымі заданнямі. У бойку за ўладу — так разглядаў сваю даследніцкую дзейнасць ён яшчэ зусім нядаўна — нельга было ўступаць з падрэзанымі крыламі.

У што вылiваліся гэтыя бойкі, можна было ўбачыць на прыкладзе Доктара. Яшчэ пазаўчора Клемт доўга гутарыў з ім, абменьваючыся думкамі. Учора раніцай ён загадкава знік, і амаль у той самы час у Берхтэсгадэн на злом галавы выклікалі генерала, які знаходзіўся ў Швеце.

Усялякія чуткі папаўзлі па доследнай установе. Аддзел галоўнага інжынера быў падобны на патрывожаны рой. Тэлефоны гудзелі і звінелі амаль без перапынку. Але якія можна было даваць даведкі, калі ніхто сам нічога дакладна не ведаў?

Кола вайскоўцаў, што задавала тон у казіно, лічыла, што за ўсім гэтым стаяла СС. Але многімі гэта абвяргалася як неверагоднае, бо Доктар сам займаў высокую пасаду ў СС.

Брэтшнайдэр, які з усёй сілы стараўся не траціць сувязі хаця б з генералам, выходзіў з сябе, што забралі Доктара.

«Яго абурэнне натуральнае», — думаў Клемт і адмаўляўся ад свайго падазрэння, што тут не абышлося без Брэтшнайдэра, у якога былі вялікія разыходжанні з Доктарам.

Нарэшце па тэлеграфе прыйшла звестка з Берліна ад генерала.

— Генерал вядзе перагаворы з вярхамі, — стрымана заявіў Брэтшнайдэр. — Трэба пачакаць, чаго ён даб'ецца.

Як на тое, Клемту зноў трапіўся стары вораг Ханке. Зухаваты штабсцальмайстар хацеў пагаварыць з Брэтшнайдэрам. Яго нахабства абяззбройвала, і Клемт забыўся, што хацеў выйсці з кабінета.

Ханке, здавалася, прынёс надзвычайныя весткі. Ён пакпіў:

— Дайшло ўжо да таго, што ў доследнай установе гавораць пра

расхлябанасць вайскоўцаў і супрацьпастаўляюць парадак у СС. Вось да чаго давяла наша лаяльнасць да цывільных вольнанаёмных.

— Гэта зразумела, — рэзка сказаў Брэтшнайдэр. — У вас ёсць яшчэ значныя весткі?

Ханке скрывіў рот.

— Магчыма, вам самім хацелася б, гер Брэтшнайдэр, трапіць у кіраўніцтва СС? Вам, відаць, не вельмі важна, хто стаіць каля варот завода — вартавыя ў шэрай ці ў чорнай форме.

Брэтшнайдэр пабялеў і не знайшоў, што сказаць. Клемт не стрымаўся.

— Што вы сабе думаеце, гер Ханке, гэта — абраза!

Ханке гэта не кранула.

— Чаго вы так хвалюецеся, панове? Я цалкам згодзен з СС. Калі ў Доктара сапраўды не было намеру ствараць ракетную зброю...

— Калі ён гаварыў гэта? — спытаўся Брэтшнайдэр, які тым часам ужо крыху ўзяў сябе ў рукі.

— Вам гэта навіна? — пакпіў Ханке, павысіўшы голас. — Яго мэтай былі толькі палёты ў космас, так перадаюць яго словы. Значыць, калі ласка, у такім разе мы сапраўды дапусцілі расхлябанасць, — ён ляпнуў рукой па сваім шэрым мундзіры, — калі мы раней не ўбачылі гэтага. — Ён абапёрся на падаконнік, расставіў ногі. — Калі б мы з самага пачатку ўзялі такі тэмп, як новыя, што прыбылі з Берліна з начальнікам галіны, тады, магчыма... — ён з выклікам паглядзеў на Клемта, — тады, магчыма, і з праекта «велікоднае яйцо» атрымалася б нешта вартае.

Клемт цяжка дыхаў. Ён устаў, на хаду выкінуў сігарэту ў попельніцу на пісьмовым стале і сказаў Брэтшнайдэру:

— Пазваніце мне, калі тут зноў будзе спакойна. — З гэтымі словамі ён выйшаў з пакоя.

«Ператварылі Востраў у свінарнік, — падумаў ён. — Гэты Ханке! Каб толькі ведаць, хто кіруе гэтым тыпам! Крыху спартсмен, крыху дыпламат, крыху палітык, а звонку — афіцыйная пасада. Чый жа гэта быў ідэал?» — Ён на хвілінку спыніўся, закрыў вочы рукой.

Брэтшнайдэр падняўся з-за стала, прамы, з прыгорбленымі плячыма. Цяпер гэты тып нібы прырос да таго месца, дзе стаяла Марліс, калі яна была тут апошні раз. Яна таксама не любіла Ханке. Паласа няўдач так і не скончылася.

— Так абыходзіцца з вучоным такой велічыні, як Доктар, — подла, — сказаў ён. — Гэта мая прынцыповая думка, незалежна ад любой палітыкі. А людзі, якія падазраюць яго, павінны спачатку даказаць, ці зрабілі яны для вайны столькі, колькі ён.

Ханке аж выцягнуўся.

— Не ўсе доказы такія прадметныя, як А4. Але ў гэтай сувязі вас павінна зацікавіць, гер Брэтшнайдэр, што мы... — ён зноў ляпнуў сябе па мундзіры, — так точна — мы раскрылі ў Цыновіцы на гарышчы патайны перадатчык.

Галава Брэтшнайдэра рванулася ўгару. Ханке цешыўся, як гэта падзейнічала.

— Сляды вядуць да вядомага доктара Бэра. Вы ж помніце? Верагодна, перадатчык працуе ўжо больш як паўгода. — Ханке ўзняў падбародак. Яму няцяжка было глядзець зверху ўніз на меншага ростам Брэтшнайдэра. — Што вы на гэта скажаце? Мы таксама можам тое-сёе даказаць, калі будзе трэба.

Дэманструючы ўсю пагарду, на якую толькі быў здольны. Ён горда пайшоў з кабінета.

— Шаноўныя дамы, уявіце сабе, што я генерал! — У Дзятла было нават пачуццё гумару. За шкельцамі акуляраў забегалі зайчыкі. Ён прыняў падкрэслена велічную позу а-ля Напалеон.

Курсанткам быў даспадобы перапынак у занятках, на якіх Панцгаф расказваў ім пра важнасць статута сухапутных войскаў. Яны праходзілі правілы паводзін з вышэйшымі афіцэрамі. Прамудрасці пятліц, зорак і чырвоных лампасаў.

— Вядома, калі я ўваходжу ў пакой, вы павінны ўстаць, — павучаў Панцгаф.

Ру не пагаджалася.

— Але ж мы — жанчыны.

— Не. Цяпер вы салдаты. Ясна!

Дзяцел загаварыў рэзка і змяніў напалеонаўскую позу. Рубышэўская заўсёды адразу пачынала ўпарціцца, ёй нельга даваць зачэпкі. Ён зноў перайшоў да вучэбнага матэрыялу.

— Генерал-фельдмаршал Гіндэнбург, пераможца Таненберга, вышэй за ўсякую літаратуру ставіў афіцэрскі статут прускага войска.

— І Біблію, — вырвалася ў Эвы. Яна ведала пра багатыя інтарэсы нябожчыка асілка з расказаў Бэра.

Панцгаф быццам не пачуў заўвагі. Ён не хацеў рабіць вымову сваёй лепшай навучэнцы. Яна занадта шмат часу праводзіла з Рубышэўскай. Гэта паправім пасля курсаў. У яго былі такія-сякія планы. Нельга выпускаць з поля зроку разумную, энергічную дзяўчыну, якая ледзь не закісла на ваенным заводзе. Трэба будзе ў бліжэйшыя дні пагаварыць пра яе з Німцам. Шэсць тыдняў курсаў хутка праляцяць.

Панцгаф меў звычку палуднаваць разам з дзяўчатамі. У абавязкі

загадчыцы інтэрната ўваходзіла прыгатаваць разам з кухонным персаналам полудзень так, каб роўна ў дванаццаць гадзін, пасля апошніх ранішніх заняткаў, порцыі можна было атрымаць у акне раздачы. Чаму сёння затрымка? Паварыха пацiснула плячыма. Не яе віна. Загадчыца інтэрната запозна выдала мяса.

Панцгаф прайшоў праз сталовую. Дзяжурныя дзяўчаты, чакаючы, стаялі, астатнія праходжваліся перад домам, радаваліся перапынку, дыхалі свежым паветрам. Панцгаф шукаў загадчыцу. Яго Дзятлава дзюба гнеўна ківалася. Гэта фраў Вольф нікуды не гадзілася! Занадта вялая для школы памочніц, проста занадта старая. Яе трэба проста замяніць маладой дзяўчынай. Тады наогул можна было б... Панцгаф увайшоў, не чакаючы адказу на свой стук, у маленькі кабінецік загадчыцы, які аднaчасова быў яе кватэрай і спальняй.

Калі зайшоў начальнік, фраў Вольф, крыху распаўнелая жанчына гадоў сарака пяці, устала, усведамляючы сваю віну. На стале перад ёю былі раскладзены фатаграфіі і пісьмы. Яе круглы твар, на якім ужо з'явіліся сляды старэння, быў яшчэ мокры ад слёз. Панцгаф убачыў яе разгублены позірк, бяздумна разяўлены рот — і раззлаваўся. Жанчына на такой пасадзе расседжваецца тут замест таго, каб быць на сваім месцы і паклапаціцца, каб усё рабілася своечасова.

— Чаму сёння не гатова ежа? — коратка спытаўся ён, з неадабрэннем пазіраючы на пісьмы і фатаграфіі.

— Мой сын загінуў, — адказала жанчына няўпэўненым голасам, — мой старэйшы.

— Ах. Вельмі шкада. Я вам спачуваю, фрау Вольф. Дзе гэта здарылася?

— У Італіі. — Яна асунулася на крэсла і пачала шукаць насоўку.

— Цяжка, калі спасцігае такое гора. Але ж у вас ёсць яшчэ адзін сын, праўда?

— Так. Ён ляжыць паранены ў Бад Шандаў. Я хацела б з'ездзіць да яго. Калі ласка, дайце мне водпуск.

— Але, фрау Вольф, пра што вы гаворыце? Цяпер, пасярод курсаў?

— Калі б мне трэба было пахаваць свайго хлопчыка, калі б у мяне наогул была такая магчымасць, тады б вы мусілі пусціць мяне.

— Гэта іншая справа.

— Для мяне тое ж самае, гер штабсцальмайстар. Апошнюю гадзіну я правяла за тым, каб з'яднаць душы маіх хлопчыкаў у адным целе. Разумееце, у целе жывога! Цяпер мне трэба пабачыць яго. Я павінна дакрануцца да яго, пераканацца, што ён яшчэ ёсць у мяне. Інакш я не змагу жыць. — Яе словы, заглушаныя ўнутраным плачам,

перайшлі ў рыданне.

Панцгаф, расставіўшы ногі, стаяў каля акна. Выбухі пачуццяў ён ненавідзеў амаль гэтаксама, як і непунктуальнасць.

Ён убачыў, як пад'ехаў цяжкі матацыкл з каляскай. За рулём сядзеў лейтэнант-сувязіст, у калясцы — оберлейтэнант. Яны, магчыма, прыехалі, каб абмеркаваць з ім тэму заняткаў «Перадача звестак». У вучэбным плане ён прадугледзеў лекцыю. Штабная памочніца па меншай меры павінна ведаць, як прымяняецца і абслугоўваецца палявы тэлефон і тэлеграф у вайсковых службах. Гэта была яго ідэя, і Німц, як і ў большасці выпадкаў, даручыў яму паклапаціцца пра неабходных людзей са спецчасці. Яго здзівіла, што яны ўжо прыехалі самі. Ён чакаў тэлефоннага званка.

Фраў Вольф нясмела пазвала яго, калі ён ужо стаяў у дзвярах. Яе голас благаў з надзеяй.

— У вас ёсць намесніца? — спытаўся ён.

Яна пакруціла галавой. Яе позірк быў такі безуцешны, што нават ён гэта заўважыў.

— Ну, паглядзім, — сказаў ён. — Падайце заяву на водпуск.

Красавіцкае сонца ўжо прыгравала. Дзяўчаты прыхіліліся да сцен і грэліся. Калі пад'ехаў матацыкл, іх увагу прыцягнулі два афіцэры. Адны толькі непрыкметна заміргалі, другія з яўнай цікавасцю павярнулі галовы да тых, што прыехалі. Гэта нарэшце былі не цальмайстры, не служачыя, адразу відаць было. Асабліва прыгожы быў вадзіцель. Оберлейтэнант у калясцы быў старэйшы, таўсцейшы. Для дваццаці дзяўчат гэтыя два былі нібы героі спектакля. Скураныя сядзенні элегантна пружынілі пад імі.

Каля варот стаяла Ру, скрыжаваўшы рукі, і, не саромеючыся, разглядала абодвух. Оберлейтэнант не змог так прайсці міма яе, казырнуў.

— Прабачце. Гэта школа штабных памочніц?

— Так. Вы некага шукаеце? Маладыя штабныя памочніцы, — яна з іроніяй падкрэсліла слова «маладыя», — ужо пры справе. Мы — курс старэйшага калібра.

Оберлейтэнант засмяяўся, спрабуючы прадставіцца.

Яна перабіла яго:

— Я не кіраўніца. Але магу правесці.

— Гэта не абавязкова. Шчыра кажучы, мы шукаем толькі фройляйн Леангард.

Ру здзівілася ад нечаканасці.

— Эву?

— Так. — Цяпер ажывіўся і лейтэнант, які трымаўся на заднім

плане. — Значыць, яна тут.

Ру ад задавальнення паказала свае вялікія зубы.

— Вы, мусіць, дзевер? Я паклічу яе. Яна дзяжурная.

Калі яна вярнулася са здзіўленай Эвай, Панцгаф якраз вітаў афіцэраў.

— Я думаю, што ў вас ужо ёсць прадуманыя прапановы, панове, — сказаў цальмайстар і намерыўся весці іх у вучэбны клас. — Тут мы зможам усё абмеркаваць.

Оберлейтэнант убачыў, што за яго спіной каля пад'езда тоўпяцца дзяўчаты, перад якімі ён толькі што так смела і малайцавата красаваўся. Ён не змог прызнацца, што не ведае, пра што гаворка. Паціснуўшы плячыма. Ён прыняў запрашэнне Панцгафа. Калі ён азірнуўся на свайго спадарожніка, той ухмыльнуўся і сказаў: Я да гэтага не маю ніякіх адносін. Я пачакаю тут. — ён убачыў Ру, а за ёю Эвін твар. Оберлейтэнант толькі паспеў злосна азірнуцца, як за ім зачыніліся дзверы.

Твар у Эвы ажывіўся.

— Рольф, — радасна прамовіла яна. Яны паціснулі адно аднаму рукі.

— Жаніх маёй зводнай сястры, — сказала яна Ру. — Значыць, як бы дзевер. Але сур'ёзна.

— Абсалютна сур'ёзна, шаноўная фройляйн, — пацвердзіў Рольф Кюперс.

— Як выключэнне, сыдзе.

Ру пайшла, усміхаючыся. Каля дзвярэй у вучэбнае памяшканне яна сказала:

— А тут усярэдзіне яшчэ адзін дзевер.

Эва запытальна паглядзела на Рольфа.

— Оберлейтэнант Розенталь, мой настаўнік.

— Эрых Розенталь?

— Ён. Мы пазналі адзін аднаго. Ён вельмі добра паставіўся да мяне. Потым я сказаў яму, што ты тут. Ён адразу заспяшаўся наведаць цябе. Цяпер яго падхапіў ваш стары. Тут у вас павінна адбыцца нейкая лекцыя. Ён падумаў, што мы дзеля яе і прыехалі. А Розенталь не мае ніякага ўяўлення.

Яны разгаварыліся пра Штэфі, пра Познань. Вакол іх увесь час снавалі людзі. Рольф спытаўся:

— Мы можам спаткацца вечарам? Тут не пагаворыш. — Эва падумала: «Штэфі мае рацыю. Ён пасур'ёзнеў, стаў амаль змрочны. Я наўрад ці змагу падбадзёрыць яго, менавіта я!» Але яна згадзілася.

Панцгаф вярнуўся разам з Розенталем, абодва страявым крокам,

у найлепшай згодзе.

— Розенталь — неверагодна спрытны, — ціха сказаў Рольф Эве.

Панцгаф сказаў:

— Перадайце свайму камандзіру, што я лічу вашу прапанову выдатнай і чакаю яго афіцыйнай згоды.

Розенталь па-вайсковаму выцягнуўся, падзякаваў за давер і тут жа заўсміхаўся Эве. Панцгаф пераводзіў позірк з аднаго на другога.

— А, вы знаёмыя.

Афіцэры развіталіся. Цальмайстар застаўся стаяць, збіты з панталыку, глядзеў услед гэтым двум, якіх Эва Леангард самым натуральным чынам праводзіла да варот.

Ру падышла да яго ззаду.

— Гер цальмайстар, ежа гатова. У фройляйн Леангард яшчэ госці. Я думаю, мы не будзем чакаць *яе.

— Вы тут распараджаецеся ці я?

— Фраў Вольф папрасіла мяне замяніць яе сёння. Адпаведна распарадку я сёння гаспадыня. Калі ласка, заходзьце.

Дзяцел злосна патупаў у сталовую. Чаму б не паставіць справу так, каб у жанчын былі такія ж парадкі, як у салдат-мужчын? У іх госці! Яны распараджаюцца, калі садзіцца за стол!.. Мне трэба набрацца больш рашучасці, а то яны скора сядуць мне на галаву.

Яны спаткаліся на рагу, дзе некалі стаяў вялікі кінатэатр, зусім нядаўна, калі раны, нанесеныя гораду, былі яшчэ настолькі нязначныя, што іх можна было прыхаваць. Усе салдаты сустракаліся тут з дзяўчатамі ці пахаджвалі, каб пазнаёміцца з якой.

— Усё перапоўнена, няма куды пайсці, — сказаў Рольф. — Давай пойдзем да бастыёна.

Эве гэта спадабалася. Тады ў Познані яны размаўлялі таксама ідучы. Гаварылі пра важнае і патаемнае, пра што нельга было ведаць іншым.

Рольф расказаў, што ў Дрэздэне, калі яны са Штэфі шукалі кватэру. Ён дамовіўся сустрэцца са сваім дзядзькам Філіпам. Штэфі яму вельмі спадабалася, што ўзрадавала Рольфа, бо яго бацькі і слухаць не хацелі пра яе. Яны былі невысокай думкі пра аўстрыйцаў, яны дакаралі Штэфі за тое, што яна пабегла за ім, перабралася ў Прагу, дзе ён у той час добра ўладкаваўся.

— Але ж мы адно — Штэфі і я, — сказаў Рольф. — Яна з таго часу пасталела, не дае больш Швентмайру абражаць сябе. Мне цяпер толькі трэба пастарацца, каб мы абое перажылі ўсё гэта. Мне здаецца, гэта — найцяжэй.

— Ты думаеш, што блізка канец, Рольф?

— Проста ён павінен прыйсці. Няма ніякай надзеі. У нас няма больш сілы.

— Як ты думаеш — калі?

— Да зімы — самае позняе. Думаю да таго часу вытрымаць.

— Што ты маеш на ўвазе? Ты хворы?

— Пакуль што не. Але, відаць, захварэю. — Ён пачаў смяяцца, спачатку ціха, хіхікаючы сам сабе, потым мацней, крэшчэнда, пераменлівым тонам.

Эве стала непрыемна.

— Ты смяешся. Я Ў гэтым не бачу нічога смешнага.

Ён раптам перастаў.

— Не, я таксама не бачу, — сказаў ён з едліва-сур'ёзна. — Вось чаму я і смяюся. Проста больш нічога не застаецца рабіць, акрамя чагосьці зусім вар'яцкага, калі ўсё ведаеш, усё пабачыў. Усё! Рускую зіму пры адступленні. Усе геройскія смерці, што не былі геройскімі, усе ахвяры, што не мелі ніякага сэнсу, бо тая Германія, за якую мы павінны ваяваць, з самага пачатку — хімерная недарэчнасць. Але пра такія высокія рэчы сёння ўжо больш ніхто не думае. Сёння ўжо — не. Руская зіма! Эва, гэта была рэчаіснасць, чатыры, пяць, шэсць месяцаў. На ўроку гісторыі вучаць: «Агнём I вострай пікай іх цар пабіў вялікі». Але ж іх не бачыш, не адчуваеш таго, што адчувалі яны. Імператар уратаваўся, уцёк на санях назад у Францыю, а астатнія? Пешыя? Эва! Холадна, холадна, холадна! Трэба справіць патрэбу. Занадта холадна. Нельга расшпіліць гузік, нельга выцерці нос. Цягаеш сваё цела, як агідны цяжкі мяшок. Ператвараешся ў смярдзючую клейкую масу, у жывёліну, у кавалак бруду.

Эва не перабівала яго абвінаваўчай прамовы. Падбадзёрваць не варта было. Яны разам глядзелі на павольную плынь Одэра. Яна нічога не магла зрабіць для яго.

— Цяпер яны паслалі мяне зноў на спецкурсы. Але што яны думаюць рабіць з намі, відаць, і самі не ведаюць. Мусіць, пакуль што няма дырэктыў. Сярод нас яны пускаюць чуткі пра выкарыстанне зброі адплаты. Калі і праўда — без мяне! Для мяне людская бойня скончылася. Ледзь не пяць гадоў адмучыўся. Я вымушаны быў біцца, вымушаны, інакш загінуў бы сам. Але цяпер — канец,— Ён стукнуў кулаком па жалезных парэнчах, паглядзеў на дзяўчыну пранікліва, нібы хацеў пераканацца, ці зразумела яна яго. Ён скрывіў усмешкай рот.

— Калі ласка! Не смейся больш!— Гэта прагучала, як мальба.

— Скора з гэтым ужо не справішся,— сказаў ён.

Яны пайшлі. Некалькі разоў было падобна, што ён хоча ёй нешта

сказаць, стрымлівае сябе, зноў пра нешта думае, гаворыць нешта нязначнае, недагаворвае, смяецца з самога сябе.

«Ён пакутуе,— падумала Эва,— Нешта яго мучае. Успаміны, страх перад будучыняй. Гэта, мусіць, нядобра — усё разам узятае. А гэты смех! Жахліва».

Нарэшце ён сказаў:

— Штэфі, напэўна, была б радая адкрыць некаму душу. Я гавару пра тое, калі яна будзе ў Дрэздэне, а я дзе-небудзь так. Ты, можа, з'ездзіла б да яе.

— Абавязкова, Рольф. Абавязкова, я табе абяцаю.

— Яна вельмі любіць цябе. Між іншым, я таксама.

Ён гаварыў так сур'ёзна, што Эва вымушана была прыкрыцца жартам.

— Тады я магу быць у вас сведкай пры вянчанні.

— Ах так,— ён правёў рукой па лобе, прыпамінаючы.— Вяселле... жаніцьба! Я не спяшаўся з гэтым, бо ўвесь час думаў, што Штэфі будзе яшчэ цяжэй, калі са мной нешта здарыцца. Як ты лічыш?

— Усё роўна, Рольф. Гэта заўсёды аднолькава цяжка. Тут вырашае сіла кахання. Калі я афіцыйна замужам, я магу разлічваць на спагаду. Калі ніхто не ведае пра маю прыхільнасць, я застаюся адна. Вось адзіная розніца. Старэйшы сын нашай загадчыцы інтэрната нядаўна загінуў. Яна была сама не свая, але наша спагада прынесла ёй палёгку.

— Чаму ты не выходзіш замуж, Эва?

— Мне гэта вельмі складана.

Я ведаю. Табе трэба быць вельмі асцярожнай. Ты малайчына, каб ты ведала. Мне хацелася б яшчэ раз спаткацца з Ведэльштэтам, але там, у брудзе на пярэднім краі. Ён не трапіўся мне. З ім я б не стрымаўся.

— Нехта сустракаў яго. На паўночным участку. Ён загадаў расстраляць рускіх цывільных.

— Гэта да яго падобна. Што скажуць пра нас, калі спытаюць пасля вайны, што мы рабілі?— Ён паглядзеў на свае рукі,— Забівалі, буду вымушаны сказаць я. Гэта да вас падобна, адкажуць мне. Знішчыць гэтага. Кавалак бруду, камяк нянавісці, у лепшым выпадку — дурань, якога спакусілі і зганьбілі, як пан сваю служанку. Так будуць судзіць, Эва!.. І калі спатрэбяцца людзі, пры дапамозе якіх захочуць аднавіць нашу разбураную ненавісную радзіму, тады будуць шукаць днём з агнём і глядзець паверх нас. Што з табой, Эва? Ах, так, перасцярога, справа звычайная. Што з намі яшчэ можа здарыцца?

Развітваючыся з ёю перад школай. Ён ціха засмяяўся. Яна ўз-

дрыгнула. Ён трымаў яе за руку і заўважыў гэта. Ён узяў сябе ў рукі.

— Напішы Штэфі, што нам сёння было вельмі весела,— горка сказаў ён.

Ён пайшоў, не папрасіўшы сустрэцца яшчэ раз. Яна на момант спынілася ў варотах, паглядзела яму ўслед. Ён ішоў каля самай сцяны дома, павольна, як чалавек без мэты. На вуліцы было вельмі ціха. Яна пачула, што ён смяяўся. Ужо мінуўшы тры дамы. Ёй стала жахліва, і яна ўвайшла ў дом.

Некаторыя дзяўчаты насілі свае чамаданы ў падвал. Эва ўбачыла, што Ру, апранутая, сядзела на ложку. Яна на шматкі рвала пісьмо.

— Як я скажу пра гэта свайму дзіцяці! Толькі напішу некалькі радкоў — усё мне здаецца вельмі няскладна.

Яна старанна сабрала шматкі паперы.

— Ну, а як там з прыгожым лейтэнантам? Ты павітала яго ад мяне? Дзяўчаты, якая пекната гэты хлопец! Мусіць, на яго азіраўся ўвесь Штэцін. Толькі занадта сур'ёзны на свой узрост. Хацелася б убачыць яго ўсмешку.

Ру здзівілася, што Эва забілася ў свой куток. У пакоі гарэла толькі дзяжурнае святло. Толькі калі завыла сірэна і ўсе дзяўчаты заспяшаліся ў бамбасховішча, Эва ціха заплакала.

Марцін Уліг добра памятаў той дзень, калі ён прывёз Водрубу. Гэта было ўжо год з лішнім таму назад. Сёння яму трэба было прывезці больш каштоўны трафей: Доктара. Яны сапраўды на некалькі дзён арыштавалі яго, магчыма, каб паказаць, хто яны такія.

Даваць шыкоўныя абяцанні ў штаб-кватэры фюрэра, паказваць фільмы пра ўдалыя выпрабаванні, а потым, пасля прызначанага тэрміну — ніякіх сур'ёзных вынікаў. Магчыма, такое ўражанне зрабіў Доктар на скептыкаў у вярхоўным кіраўніцтве сухапутных войскаў. Улігу хацелася ведаць, няўжо ў СС нарадзіўся недавер, як той-сёй думаў. Інцыдэнт атрымаў амаль гратэскную афарбоўку, бо ў Доктара ў самога было эсэсаўскае афіцэрскае званне. Цяпер ён сядзеў з адсутным позіркам і перажываў сваю крыўду. Калі б гэтай затрымкай ён быў абавязаны нейкаму непаразуменню, злосць яго была б зразумелая. Страчаныя дні, непатрэбнае хваляванне, паралізуючы страх у выпрабавальнай установе. Калі ж за гэтым крыецца нешта большае, як пра гэта з насмешкай усім расказваў Ханке, тады перад ім было пастаўлена пытанне: што здарылася? Вы занадта марудна зрушваецеся з месца. У чым загваздка? Калі хто і быў здольны на такі блеф, дык толькі сам Доктар. Ён мог асляплядьна гаварыць пра складанасці, якіх можна чакаць пры любым запуску. Сярод пяцідзесяці тысяч розных дэталяў, з якіх быў зманціраваны А4, не было ніводнай,

без якой можна было абысціся. Відаць, на гэты раз ён не зрабіў вялікага ўражання сваімі вывадкамі.

Уліг збоку назіраў за пасажырам. Пакуль што не было сказана ніводнага слова. Ні пра надвор'е нават, ні пра вышынямер, які пачаў плаваць, калі падняліся вышэй за дзве тысячы метраў. Гэта было незвычайна нават для лётчыка, а для Доктара — асабліва, бо ён у час любой камандзіроўкі разглядваў самалёт як частку пенемюндскай тэрыторыі і адразу ж знаходзіў тэмы, каб атрымаць багатую інфармацыю, перш чым ступіць на зямлю Вострава. Сёння пытанняў не было. Ён сядзеў, падняўшы плечы, схаваўшыся ў скуранoе паліто, як у футарал. Яны праляцелі над прыодэрскай нізінай. Зараз удалечыні павінен быў паказацца Востраў. Уліг звярнуў яго ўвагу на гэта. Доктар кіўнуў, не адрываючы позірку ад уяўнай кропкі, якую ён, здавалася, знайшоў недзе, нягледзячы на бясконцую змену блакіту і воблакаў, зноў моўчкі. Паступова гэтая маўклівая задумлівасць пачала раздражняць лётчыка. Яго падмывала зрабіць некалькі з'едлівых намёкаў. Але пры ўсёй лаяльнасці Доктара да сваіх супрацоўнікаў ён прытрымліваўся пэўных граніц. Гэта прынесла яму, бліскучаму кампаньёну, які то бесцырымонна парушаў умоўнасці, то строга прытрымліваўся належнага этыкету, рэпутацыю геніяльнага чалавека. Уліг паглядзеў у той бок, дзе сядзеў Доктар. Шырокія сківіцы ў яго хадзілі, як жорны. Тут не паможа ні цар і ні бог! Уліг насмешліва працытаваў у думках яго выслоўе. «Касмічны Калумб» атрымаў урок, як трэба ўвачавідкі даказваць сваю вернасць фюрэру. Ракеты на Англію! Ён авансам атрымаў званне — і грошы, і тысячы пар працоўных рук. Час прыспешваў.

Шырокія сківіцы ўсё яшчэ малолі — злосць, гнеў. Але пастава ўжо стала больш актыўнай. Ён сядзеў, прыгнуўшыся наперад, у галаве ўжо складаліся планы. Я ім яшчэ пакажу! Аднойчы я пераступлю праз усіх іх, без слова! Яго шырокі падбародак... форма СС — ён яе часам пры важных акалічнасцях надзяваў... Перад вачыма Уліга паўстала сцэна, якую ён ніяк не мог забыць, хоць і стараўся.

Дзяўчыну — мала старэйшую за Эву — выштурхнулі нагамі з кабінета і груба кінулі ў адкрытую машыну. Яе схапілі, пранёсся шэпт, спачувальны і нясмелы. Схапілі і Доктара, які цяпер, здавалася, спрабаваў узвесці над сабой новы німб — німб трагічнага героя.

А што было сапраўднай трагедыяй? У Уліга не выходзіла з галавы дзяўчына. У яе, пэўна, на карту было пастаўлена нешта большае, чым славалюбства і інтрыгі. І вось таму, што справа ішла пра большае — магчыма, пра перакананні — яе штурхалі і білі нагамі, і ніводзін генерал не адважыўся б заступіцца за яе.

Уліґу здалося, што ён недачуў. Яго пасажыр прамовіў першае слова. Гэта была лаянка. Доктар заўважыў яго здзіўленне і пакпіў:

— Вы пачулі правільна.— Здавалася. Ён узяў сябе ў рукі,— Што чуваць на Востраве?

— Нічога асаблівага. Процьма ўсякіх чутак. Сцвярджаюць, што ў Цыновіцы знайшлі патайны перадатчык. Ханке пахваляецца гэтым. На самай справе яго засекла служба пеленгацыі і падслухоўвання. Але дзяўчыну, якая нібыта была звязана з гэтым. Ён схапіў сам.

— Хто гэта?

— Фройляйн Пэплаў, з аддзела кадраў. Вельмі спакойная дзяўчына. Учора яе забралі.

— Адны прыходзяць, другія знікаюць! Якая сонечная ў нас маладосць!

— Магчыма, і так!— змрочна адказаў Уліг. Адначасова ён падумаў, што ёсць вялікая розніца паміж прыходам і знікненнем. Пэплаў была ў руках гестапа. Адтуль яна ўжо не вернецца.

Эва, здаецца, ведала яе лепш. У Штэціне ў яго якраз знайшоўся вольны час, каб пазваніць ёй з аэрадрома. Было няёмка, што яны не маглі сказаць адно аднаму нічога радаснага — гаварылі толькі пра навіны з Вострава. Прычына, што яна так падазрона замоўкла пры вестцы пра Хану Пэплаў, магла быць і ў тым, што ён так нязграбна выказаўся. Ён упамянуў пра Ханке, а Эвін жа перавод таксама не абышоўся без яго. У гэтых адносінах Доктар меў рацыю, усё было менавіта так, як вынікала з яго лаянкі. «Дзярмо»,— прамармытаў Марцін Уліг і пайшоў на пасадку. Заўтра ён зноў падымецца ў неба, паслязаўтра, кожны дзень, як будзе загадана. Аднойчы ад некага ён пачуў ерась пра тых, хто аддае загады і пра тых, хто павінен іх выконваць. Пра гэта гаварыў Бэр, тады ў Расіі. Магчыма. Ён меў рацыю. Але за тое, што ён меў рацыю. Ён цяпер, мусіць, ужо недзе за калючым дротам... Не, усё глупства. Лепш даваць час ад часу разрадку моцным словам — і ляцець далей, заўтра, як і заўсёды, і дапамагаць даводзіць да баявога ладу «Кіршкерн». Доктар прытрымліваецца такой самай думкі, а ён — адзін з самых светлых розумаў пад сонцам.

«Вось ён, бярыце яго, вашага галоўнага астранаўта»,— падумаў Марцін Уліг, калі самалёт каціўся па ўзлётнай паласе і да яго бег аэрадромны персанал.

Пад канец курсаў нават самая някемлівая штабная памочніца ўмела ўжо афарміць пісьмо — «адносна», «спасылаючыся», рымская лічба, злучок, арабскі нумар, дата, подпіс.

Панцгафу, праўда, не ўдалося ўвесці іх у літаратурную прыга-

жосць вайсковых распараджэнннняў. Ва ўсякім разе, большасць гэтых будучых штабных памочніц, відаць, зразумела неабходнасць важных дакументаў і была дастаткова падрыхтаваная, каб аддаць усю сваю сілу множанню, распаўсюджванню, перасылцы і аналізу іх. За некалькі дзён да выпуску дзяўчатам паведамілі, куды яны будуць прызначаны. Усе чакалі з нецярпеннем. Ці блізка да перадавой? У месцаў прызначэння былі памеранскія назвы. Не так страшна, як здавалася.

Ру накіроўвалі ў Кольберг, у санітарны парк ваеннай акругі. Эву выклікалі ў апошнюю чаргу. Оберштабсінтэндант Німц рассеўся за пісьмовым сталом. Яго маленькага рота пад вусамі амаль не было відаць. Панцгаф сядзеў збоку, нага на нагу. Ён быў задаволены — дрэсіроўка закончылася. Левая нага гайдалася. Падабенства да дзятла не кідалася ў вочы, бо ён трымаў галаву прама і быў надзвычай ветлівы. Німц гаварыў таксама вельмі ветліва. Нават не відаць было, як рухаліся яго вусны.

Эва вельмі здзівілася і не паверыла сваім вушам, калі пачула, што ёй прыпала пакуль што замяняць фраў Вольф, якая пасля такога ўдару, што падрыхтаваў ёй лес, перанесла нервовае ўзрушэнне і пакуль што не можа вярнуцца. Праз дзесяць дзён пачынаюць працу новыя курсы, Эве дастаткова часу, каб азнаёміцца з тэхнічным бокам справы, з кіраўніцтвам кухні, пральні, вядзеннем асабовых спраў, распарадкам і г. д. З боку ваеннай акругі ёй будзе аказвацца магчымая падтрымка; у бліжэйшыя дні яна будзе прадстаўлена камандуючаму генералу і генералу-інтэнданту. Штабсцальмайстар Панцгаф прапанаваў яе, зыходзячы з прынцыпу, што моладдзю павінна кіраваць моладзь і таму што ён заўважыў: яна валодае несумненным талентам абыходжання з людзьмі. Прыцягваў да сябе ўвагу давер, з якім адносіліся да яе курсанткі.

— А такія людзі нам патрэбны!

Оберштабсінтэндант устаў. Панцгаф выцягнуўся, і Эва паспяшалася зрабіць тое ж самае. Німц абышоў вакол пісьмовага стала і падаў ёй руку.

— Я віншую вас, штабная памочніца Леангард. Вы можаце разглядаць гэта прызначэнне як узнагароду.

Эва дазволіла сабе запярэчыць. У яе няма вопыту, яна яшчэ ніколі не займала кіруючай пасады. Мужчыны заўсміхаліся. Яе сціпласць гаворыць на яе карысць, сказаў Панцгаф, а з усімі цяжкасцямі, якія ёй сустрэнуцца, хай яна прыходзіць да яго.

У дзень заканчэння адбыўся ўрачысты банкет з удзелам усіх настаўнікаў. Эву пасадзілі на ганаровае месца, справа ад старшага па званні, оберштабсінтэнданта. Яна ўжо лічылася прадстаўніцай курсаў

Ру не было. Напярэдадні ёй перадалі па тэлефоне, што яе жаніх з цяжкім раненнем дастаўлены ў шпіталь у Фюрстэнбергу. Магчыма, яго адправяць далей. Курсы былі закончаны, і яе адразу адпусцілі з'ездзіць.

Эва акінула вокам застолле. Дваццаць восем дзяўчат, з якімі яна правучылася шэсць тыдняў, былі ў цудоўным настроі. Яны частавалі сваіх настаўнікаў, цальмайстраў і інтэндантаў, салатай і кампотам. Дзяцел, падмаслены, адлёгся ў крэсле, кіруючы афіцэр паказаў сябе бліскучым кампаньёнам. Нядаўна ён тлумачыў ім у сваёй лекцыі, што захоп улады Гітлерам ужо таму з'яўляецца гістарычна вялікай падзеяй, што ён — першая сапраўдная рэвалюцыя ў Германіі. Лістапад 1918 года быў толькі бунт. Дзяўчаты праглынулі гэта, як глыталі ўсе астатнія прамудрасці. Ру зноў нешта малявала на палях, а потым густа крэсліла.

Эва адчувала нешта падобнае да гонару, што выпускное свята прайшло так добра. Раніцай яшчэ яна перанесла свае рэчы ў пакой загадчыцы. Колькі ўжо часу прайшло, як у яе не было сваіх чатырох сцен?

У яе сумачцы ляжала вялікая звязка ключоў. Шафы з бялізнай, прадуктовыя склады і аптэка былі пад яе кантролем. Яна была гаспадыня. Гучала нядрэнна. На ёй ляжалі абавязкі, адказнасць. Толькі нельга было думаць ні пра што іншае. «Сапраўды, сапраўды, я кажу табе...» Ёй трэба было аставацца на заводзе, маленькім звяном у ланцугу, пылінкай. Але гэта было няёмка і непрыемна, калі Ганс Цыфенбах змагаўся за трэцяе крыло і захапляўся жанчынай узору Карлы Вінтэр. Марцін Уліг таксама настойліва працаваў і дамогся мэты. Акрамя звязкі ключоў у сумачцы ў яе было яшчэ пісьмо. Яно прыйшло з Вострава ад Марціна Уліга. «Я мушу табе напісаць,— было ў ім,— таму што справа зроблена. Глянь у газету і ты ўбачыш, што мы сапраўды заплюнулі нашу «вішнёвую костачку» ў суседаў сад».

Эва чытала пра гэта. Пачалася даўно нашумелая хвалёная адплата. Афіцыйная назва лятаючай бомбы была «Фаў-1».

«Зроблена!» Гэта быў адзін бок справы. Юрген Бэр, які быў вымушаны хавацца, Хана Пэплаў, якую кінулі ў канцлагер,— гэта быў другі бок.

Каля яе засмяяўся Німц. У яго быў высокі, бляючы смех. Эва ўздрыгнула, міжволі прыпомніўшы Рольфа Кюперса. Як ён разглядаў свае рукі! «Нас спытаюць, што мы рабілі, калі закончыцца вайна...»

## 4
## У ЗВАННІ АФІЦЭРА

Што найлепшае ў жыцці і што найцяжэйшае ў жыцці?

На душы ў Эвы было так, нібы кароткае спатканне з Гансам Ціфенбахам складалася толькі з гэтых двух пытанняў.

Ён тэлеграфаваў ёй, што па дарозе ва Усходнюю Прусію заедзе ў Штэцін. Яна ўпрыгожыла няўтульныя залы кветкамі і паказала яму школу штабных памочніц Потым яна папрасіла згатаваць каву. Пасля налёту ў яе засталося пяцьдзесят грамаў кавы ў зернях. Паварыха прынесла кавалак пірага, які застаўся ад нядзелі. Эва аддавала распараджэнні персаналу ўпэўнена, ветліва, нібы даўно ўжо звыклася з гэтым. Звязка ключоў як упрыгожанне, ляжала на пісьмовым стале паміж тэлефонам і партатыўнай пішучай машынкай.

Ганс Ціфенбах сядзеў у адзіным крэсле ў яе цесным кабінеце, паглядаў вакол сябе, назіраў за тым, як яна шчыравала. Прыйшла курсантка, папрасіла лякарства ад галавы, убачыла госця, зірнула з прыхаванай цікаўнасцю і, папрасіўшы прабачэння, выйшла. Відаць, яна разнесла навіну па ўсім доме, бо больш ім ужо ніхто не

перашкаджаў.

— Цяпер у цябе ёсць абавязкі. Я рады за цябе,— сказаў ён і папрасіў, каб яна села побач.

Яна падсунула сваё крэсла ад пісьмовага стала так, каб каленямі адчуваць адно аднаго.

— .Могуць зайсці,— сказала яна.

— Вядома, ты ж на службе,— Ён усміхнуўся, прыцягнуў яе да сябе, яны пацалаваліся. Ён памацаў, ці ёсць бранзалет на яе левай руцэ.

Яна дазволіла толькі палажыць даланю на яе руку. Ён палічыў, што гэта ўжо занадта карэктна. Яна заўважыла, што ён і раней ужо мог паехаць праз Штэцін ці знайсці іншы шлях да кароткай сустрэчы. Ён не зразумеў яе папроку. Некалькі месяцаў ён праседзеў, як прыкаваны, у самай паўднёвай Германіі. На паўдарозе яны спаткаліся з прафесарам Лёйпальдам, каб закончыць сумесную працу. Восенню яна павінна нарэшце выйсці ў свет. Для яго час праляцеў вельмі хутка. У Цэнтральнай Германіі ліхаманкава працуюць над першымі серыямі А4. Пройдзе, можа, яшчэ некалькі тыдняў, і пачнецца іх ужыванне. Цяпер яму трэба ва Усходнюю Прусію, пра сваё заданне, вядома. Ён не мае права гаварыць. Але ён можа супакоіць яе. Ён дасць там толькі кансультацыю і неўзабаве зноў заедзе ў Штэцін. Куды яго закінуць потым. Ён, праўда, і сам яшчэ не ведае. Высадка

англа-амерыканцаў пабурыла такія-сякія планы. Добра, што станцыі запуску А4 — рухомыя.

— Значыць, цяпер ты верыш, што А4 вырашыць лес вайны?— спыталася яна ў яго.

— Усе мы спадзяёмся. Мы павінны спадзявацца. Гэта, мусіць, апошні шанец.— Ён аблакаціўся на шырока расстаўленыя калені, нагнуўся наперад і гаварыў ціха, нібы сам сабе. Яму кінулася ў вочы, што яна нічога не адказвае. Калі ён падняў вочы, яна глядзела ў акно, вочы яе былі шырока расплюшчаныя, як бывае, калі чалавек хоча стрымаць слёзы. Ён правёў рукой сабе па лобе, дарэмна спрабуючы надаць свайму голасу ўпэўненасці.

— Ты павінна зразумець, Эў. Чалавек некалькі гадоў працаваў над заданнем. Ён не хоча, каб усё пайшло на вецер. Я не такі чалавек, як той Штаўфенберг, які хацеў 20 ліпеня забіць Гітлера. Такое не стасуецца з маімі пачуццямі. Падумай, чаго ты дамагаешся.

Яна зноў авалодала сабой.

— Значыць, ты думаеш, што трэба сабраць усе сілы, каб усё-такі выйграць вайну?

— Па меншай меры, хоць бы звесці ўнічыю. Паражэння нельга нават уявіць сабе. Тады ўсім нам — канец.

— А калі пераможам, тады канец — толькі мне і падобным да мяне.

— Эў! Ты ведаеш, што я не люблю гаварыць пра свае заслугі. Але потым, пасля вайны, я ўсё-такі загаварыў бы. І я хацеў бы паглядзець на таго, хто аспрэчыць тваё права жыць разам са мной — у Германіі! Жыць, дзе і як нам падабаецца!

Яна кіўнула адсутна.

— Ты аднойчы сказаў, што самае цудоўнае ў жыцці — мець вялікую задачу. Я заўсёды задумвалася над тым, а што самае цяжкае ў жыцці. Цяпер я ведаю: адрозніць праўду ад хлусні.

Ён разгубіўся, страсянуў галавой, а потым, падумаўшы, згадзіўся з ёю.

Неўзабаве пасля гэтага яна развіталася з ім каля варот. На вакзал яна правесці яго не магла. Курсанткі хадзілі туды-сюды па калідоры, відавочна чакаючы яе, каб спытацца пра нешта ці папрасіць чаго. Эва развіталася з Гансам з трывогай у сэрцы.

«Карла Вінтэр,— падумала яна,— уплыў Карлы Вінтэр зрабіў яго такім. Ён, мусіць, не кахаў яе, не, не кахаў, але яна мела над ім уладу, таму што яна — асоба». Яна, Эва Леангард, таксама хацела стаць асобай. Таму яна аказалася тут, таму яна і дазволіла вылучыць сябе з безыменнай масы. Панцгаф сказаў, што яна цяпер у афіцэрскім

званні. Але шлях аказаўся няправільны, усё было не так, Ру мела рацыю. Праўда была ў тым, што вельмі цяжка адрозніць сапраўднае ад несапраўднага. Юрген Бэр быў бы расчараваны, калі б ён яе ўбачыў цяпер. Магчыма. Ён хаваецца недзе недалёка ад Штэціна. Магчыма. Ён бліжэй да яе, чым яна думае!

Ру працавала цяпер у санітарным парку ў Кольбергу стэнаграфісткай у галоўнага аптэкара і адчувала сябе няшчаснай. Не ад працы, а праз свайго жаніха, з якім у душы парвала ўжо некалькі месяцаў назад. Вяртаючыся з Фюрстэнберга, дзе ён яшчэ ляжаў у шпіталі, яна заўсёды прыпынялася ў Штэціне. Аднойчы Эва ўпершыню ўбачыла, што Ру плача. Гэта быў бязгучны плач, які стаяў у нерухомых вачах.

— Я была б самая апошняя дзеўка, калі б не пайшла цяпер за яго замуж,— сказала яна.— Яго твару вельмі дасталася. Менавіта твару. Хірургі хочуць зрабіць яму новы нос. Яны гавораць пра гэта, быццам варта толькі ўзяць кавалак гліны, і гатова. Але я ведаю, што гэта значыць. Я даведалася. Яны прымацуюць яму руку да шчакі, каб мяса з рукі прырасло да твару, таму што ўсюды толькі дзіркі, дзіркі, дзіркі. А з тылу яны, магчыма, возьмуць мяса на нос.— Яе строгі буйны твар сцяўся.— Эва! Ці ж не жахліва? Чалавек без твару! У мяне будзе муж, у якога ўжо няма твару. Якраз у мяне! Я зноў пачынаю верыць у справядлівую кару. Яна не даравала мне маёй пыхі, майго зазнайства.— Потым яна раптам спыніла самабічаванне.— Яго палюбоўніца, медсястра, вядома, пакінула яго на волю лёсу. Мне не хацелася б ведаць, як часта яна клялася яму ў каханні і якой пераможнай яна адчувала сябе, бо была маладзейшая за мяне і са здаровым сцягном! Яе цяпер ніхто не папракне. А ў мяне, у мяне ж яго пярсцёнак, я ўзяла на сябе абавязак. Я не ведаю, ці змагу. Не, я не ведаю.

Эва разам са сваім цяжарам несла цяжар іншых праз дні гэтай позняй восені, над якімі, здавалася, лунаў анёл няшчасця з пакутным позіркам, нібы імкнучыся адпомсціць той зямлі, адкуль яго прагналі.

Штэфі, якая працавала ў нейкай установе ў Дрэздэне, напісала ёй пра сваю тайну, якая пужала, хоць магла б быць шчасцем. Яна чакае дзіця. Сама яна не была ні разгубленая, ні напужаная, толькі расчараваная тым, што Рольфу не дазволілі пасля штэцінскіх курсаў прыехаць да яе. Шлюбныя паперы былі падрыхтаваны, але яго адправілі паспешна з сакрэтным заданнем і новым нумарам палявой пошты. Пасля таго як стала вядома пра ад'езд, яму не далі нават звальнення ў горад. Штэфі вельмі шкадавала, што Эва не магла ёй нічога паведаміць пра Рольфа. Яна спадзявалася знайсці тлумачэнне тых загадак, якія яна знаходзіла ў яго апошніх лістах. Нягледзячы на

ўсё яна старалася не траціць добрага настрою. Яна радавалася ўважлівасці, з якой ён знайшоў у Дрэздэне ўтульную, сціплую маленькую кватэру ў доміку сярод вялізнага саду, сярод зеляніны. «Дрэздэн — цудоўны,— пісала яна,— Я пехатой хаджу на Брульскую тэрасу. Жывеш у горадзе, а ўсё роўна сярод зеляніны. Калі ў Штэціне будзе небяспечна, тады твой дом — у мяне. Магчыма, рускія дойдуць да Одэра, але да Эльбы ім не дабрацца».

Дзе Рольф? Пытанне вельмі хвалявала Эву. Калі пазваніў Эрых Розенталь і запрасіў яе на суботні вечар, яна разлічвала даведацца больш дакладна.

— Акрамя вас я запрасіў яшчэ некага,— сказаў ён,— некага знаёмага вам.

Яна насцярожылася.

— Рольфа Кюперса?

Ён засмяяўся.

— Не. Ён не прыйдзе. У яго невялічкая затрымка. Не, я нічога не скажу.

Часць сувязістаў, у якой служыў Розенталь, была размешчана ў былым загарадным рэстаране пад Штэцінам. У садзе, падобным на парк, які пераходзіў у парослыя лесам пагоркі, стаяў дамок. Оберлейтэнант Розенталь, практычны і вынаходлівы,ператварыў яго ў даволі ўтульную халасцяцкую кватэру. Галоўны будынак стаў цесным для афіцэраў. Салдацкія баракі цягнуліся каля ўзгорка. Вышэй казармаў былі буйныя падраздзяленні зенітчыкаў і пражэктарыстаў. Але яны не перашкодзілі таму, што трэцяя частка горада ляжала ў руінах. Гэтага нельга было схаваць і малайцаватымі паводзінамі оберлейтэнанта Розенталя, які ляжаў у раскладным крэсле і якому прыслужваў рускі ваеннапалонны.

Ён абыходзіўся з невысокім рускім паблажліва, называў яго Іванам. Прыблізна так, як гаспадар у добрым настроі цярэбіць сабаку загрывак, калі ён паслухмяны. Ваеннапалонны, невысокі, плячысты хлопец і моўчкі паставіў пад водаправодны струмень тры бутэлькі віна. Палажыў на стол штопар і пайшоў дадзвярэй.

— Іван!— паклікаў яго Розенталь,— Калі цёмна, то зачыніць акаініцы. Добра зачыніць, ты чуеш? А то прыляцець лётчыкі і зрабіць бумбум,— Сваю прымітыўную гаворку ён падмацоўваў адпаведнымі жэстамі.

Рускі стрымана кіўнуў, паглядзеў на дзяўчыну і выйшаў.

Эва хадзіла па пакоі. Памяшканне, якое разам з закуточкам для прыгатавання ежы і маленькім калідорам займала ўвесь дамок, было абсталявана накшталт хаткі паляўнічага: разьбяныя драўляныя свяці-

льні на сценах, палічка з кнігамі пра паляванне, сабак і коней, мураваны камін.

— Усё зрабіў сам,— горда сказаў Розенталь — Разам з Іванам,— дадаў ён.

Пакой выглядаў так, быццам прызначаўся пад жытло на доўгі час. Здавалася, што гаспадар адмовіўся ад неўладкаванасці, з якой звязваюць салдацкае жыццё. Эва спыталася, як ён умудрыўся так трывала асесці ў Штэціне.

Ён засмяяўся, выціраючы шклянкі.

— Трэба ўмець зрабіць сябе крышачку незаменным. Я афіцэр ЗіП, гэта значыць, нясу адказнасць за зброю і прылады. Але я пытаюся: у чым у вас ёсць патрэба? Што вам дастаць? Мэблю для вашай школы штабных памочніц? Дзічыну на святочны стол? Натуральнае футра на паліто?— Ён гучна засмяяўся, калі яна ад нечаканасці села на лаўку,— У Германіі яшчэ ўсяго хапае. Мы яшчэ не такія бедныя,— У сваіх да бляску наглянцаваных ботах ён малайцавата падышоў да пісьмовага

стала і высунуў шуфляду.

— Вось,— абыякавым жэстам ён кінуў на стол вязку куніцавых шкурак. — Будзе цудоўная гаржэтка. Калі б выйшлі замуж за майго сябра Ведэльштэта, я паднёс бы вам нешта падобнае ў падарунак на вяселле — Ён паглядзеў на яе. Яе рука няўпэўнена пагладзіла мяккае футра, твар не выказаў нічога. Ён дабрадушна сказаў:— Але вы можаце атрымаць іх і так. Аб цане можна дамовіцца.

Цяпер яна з насмешкай глянула на яго.

— Дзякую. Такія рэчы мне не падабаюцца. Футра носяць, каб было цёпла. Такога пышнага лахмоцця я не нашу.

— Як хочаце.— Ён махнуў вязкай у паветры і падкрэслена неахайна зноў запхнуў іх у шуфляду.— Магчыма, гэта вам будзе больш да густу. — Ён паспрабаваў адкаркаваць бутэльку белага бардо. Гэта атрымалася не адразу. Ён заціснуў бутэльку ў скураных ляжках. Корак быў цвёрды, штопар малы, а ў стройнага афіцэра не хапала сілы.

Эва засмяялася з дзіцячай зларадласцю, убачыўшы, як ён раздражнёна шукае, чым адкаркаваць. Але не дапамаглі ні штык, ні паляўнічы нож. Тады ён з размаху шпурнуў бутэльку аб кафляную печ. Зазвінелі асколкі, пырснула залацістае віно, пацякло па кафлях на падлогу.

Эве стала вельмі няёмка. Яна ўжо даўно не піла добрага віна. Ужо шмат гадоў яно было рэдкасцю і каштавала дорага.

Розенталь баявым крокам падышоў да дзвярэй і крыкнуў:

— Іван! Выцерці! Сабраць асколкі! Хутка!

Салодкі вінны дух запоўніў пакой. Амаль бясшумна ўваўшоў малады рускі. Відаць. Ён прывык да такіх раптоўных загадаў. На яго лобе з'явілася крутая складка незадавальнення, калі ён убачыў пабітую бутэльку. Пакуль ён вымятаў і выціраў, знадворку пачуліся галасы. Розенталь сустракаў свайго другога госця. Не Рольфа Кюперса — Анэлізэ Тоеркаўф.

— Вы знаёмыя, праўда?— Ён паглядаў то на адну, то на другую, упэўніўся, што сюрпрыз удаўся, хоць радасці, якой ён чакаў, не было.

Абедзве стаялі, як да зямлі прырасслі. На твары ў Эвы на некалькі секунд адбілася інстыктыўнае незадавальненне. Марская памочніца першая вымучыла ўсмешку.

Розенталь сеў на край пісьмовага стала і паляпаў сябе па сцёгнах.

— Вось вы дзве з адной вёскі, дзве красуні — я думаў, што вы кінецеся абдымацца, сустрэўшыся тут на чужыне! Вы пасварыліся? Пра гэта мне оберпамочніца Тоеркаўф нічога не расказвала. Яна толькі пела дыфірамбы нейкай Эве Леангард.

Анэлізэ зачырванелася, падышла на некалькі крокаў бліжэй да Эвы і падала ёй руку.

Эва прыняла.

— Ты павінна была расказаць яму ўсё,— сказала яна.

— Навошта! Гэта ж няважна. Я тады проста страшэнна зараўнавала. Вось у мяне і выскачыла.

— Не, важна. Вы ж, оберлейтэнант, таксама ведаеце, што ўва мне цячэ яўрэйская кроў.

Розенталь заціснуў у каленях другую бутэльку. Ён круціў штопар.

— А, правільна, я ледзь не забыўся. Ведэльштэт мне некалі пісаў. Чаму ён парваў. Я тут не бачу трагедыі, мне падабаюцца пікантныя рэчы. Павярніся бокам, Эва. Няўжо прыкметна?.. Ну, ну, не прымай так блізка да сэрца.

На гэты раз корак паддаўся.

Розенталь наліў у шклянкі.

— Мая гаспадарка толькі за дваццаць кіламетраў ад вашага Лангенбрука. Пасля вайны я прыму вас там не так, як у гэтай цеснай халупіне.

— А чым вы займаецеся ў цывільным жыцці? У вас ёсць гешэфт?— спыталася Анэлізэ.

— Ёсць, але без прылаўка. Я выдаю напракат тоўстыя «Берты», паравыя каткі, для дарожнага будаўніцтва. А для зарадкі ў мяне яшчэ ёсць ферма нутрый. Месца ў двары хапае.

— Значыць, мы ў вас будзем святкаваць перамогу, калі бомба не

трапіць у ваш вінны склеп.

— У мой дом яна не пацэліць. Ён убаку. У мяне ў склепе ёсць старыя віны. Было б свінствам, каб наша свята было сапсавана толькі тым, што ў некага не хапае таленту перамагчы.

Анэлізэ жарт здаўся грубаватым.

— Вам добра гаварыць. Вы тут седзіце ў цяпле,— Яна агледзела пакой. — Мой жаніх пад Рыгай. Там — не так. — Яна звярнулася да Эвы. — На каляды я заручылася з Карл-Хайнцам Вінгензіфенам. Мы ездзілі ў Штольп да яго бацькоў. Мой стары — упарты і хоча спачатку пазнаёміцца з ім, а то мы б ужо ажаніліся. — Яна павярнулася да Розенталя. — Вы падорыце нам на вяселле бутэлечку з вашых старых вінаў.

Ён пажартаваў:

— Пачакайце толькі, хай скончыцца вайна, тады перад намі адчыняцца ўсе скляпы Еўропы.

— Вы, відаць, не верыце, што мы пераможам,— упарта сказала яна.— Афіцэры заўсёды першыя трацяць мужнасць пры першых жа контрударах. У нашай установе — таксама.

— Як гэта? Ёсць прыкметныя поспехі. Гэтымі днямі не стала Тэльмана. Ужо на аднаго ворага менш.

— З гэтага нельга смяяцца,— сказала Эва, якая ціхенька сядзела ў кутку.— Напэўна. Ён вельмі пакутаваў у канцлагеры.

Анэлізэ паглядзела на яе збоку.

— На фронце таксама пакутуюць. Пра гэта нельга думаць. Трэба рабіць сваю справу, каб выстаяць. Выйграць вайну нерваў, як сказаў Гебельс.

— Нервы без танкаў таксама не шмат значаць,— выказаў думку Розенталь.

— У нас ёсць танкі... і лётчыкі...

— Але няма бензіну!

— Не раскатвайцеся на сваіх машынах, тады і бензіну хопіць. А «Фаў-1»? Яе не збівае ніякая зенітка!

— Англічане ў апошні час запускаюць загараджальныя балоны з сеткамі, у якіх бомбы заблытваюцца. Не недаацэньвайце і нашых ворагаў, фройляйн оберпамочніца.

— Не недаацэньвайце нашага кіраўніцтва, гер оберлейтэнант! Наша магчымасць адплаты не вычэрпваецца адной «Фаў-1». Галоўнае яшчэ наперадзе.

— Пара б ужо ўжыць.

Фюрэр заўсёды рабіў тое, што трэба ў патрэбны час. Паверце мне, рыхтуецца магутны ўдар.

— Было б нядрэнна, калі б мы змаглі выйграць гэтую вялікую гульню! — Відаць, Розенталю хацелася закончыць размову. Ён дастаў яшчэ бутэльку, хітравата звярнуўся да Анэлізэ: — Нягледзячы на ўсё, я параіў бы вам выпіць з вашай сяброўкай за прымірэнне, калі вы яе пакрыўдзілі.

Эва стаяла каля пісьмовага стала і гартала кнігу па арніталогіі.

Анэлізэ паглядзела на яе непрыязна.

— Мы даўно памірыліся.

Ён павялічыў гучнасць радыё.

— Зрабіце гэта як трэба, афіцыйна. Я таксама міруся са сваім Іванам. Урэшце — ніколі нельга ведаць!— Смеючыся занадта гучна. Ён сказаў:— За здароўе дам!

Яны выпілі ўтраіх.

Эва не ўсё змагла зразумець, але міміка гэтых дваіх выдала ей усе астатняе. Яна падумала: якою нікчэмнаю я стала, о, якой вартай жалю!

Анэлізэ пагардліва сказала Розенталю:

— Вы — нягоднік...— і адразу ж згладзіла сур'ёзнасць свайго папроку,— Але ваша віно выдатнае. У вас есць яшчэ віно?

Розенталь дастаў бутэльку.

— Лавіце!— Ён кінуў ёй, і Анэлізэ спрытна злавіла.

Іван зачыніў аканіцы.

— Мне трэба ісці,— сказала Эва.

— Потым пойдзем разам,— сказала Анэлізэ,— Да трамвая нам па дарозе.

— Мне трэба да пачатку паветранай трывогі быць дома.

— Фройляйн Леангард — загадчыца інтэрната школы маладых памочніц штаба,— растлумачыў Розенталь.

— Толькі выконваю абавязкі,— падкрэсліла Эва.

— О-ля-ля!— Анэлізэ здзіўлена ўзняла бровы.— Цяпер я маўчу. Можна цябе калі-небудзь наведаць?

Эва назвала адрас.

— Я вас падвязу,— падрадзіўся Розенталь.

— Вы, мусіць, бывалі там ужо не раз?

— На жаль, не. Там такі бранявік, у якога жалезны парадак. Калектыў жа школы — непаўналетні, і загадчыца таксама павязана зарукай нявіннасці.

Эва развіталася з усмешкай. Розенталевы заўвагі пра Панцгафа сапраўды былі трапныя.

— Прыязджайце разам з Анэлізэ, тады ён нічога не скажа.

Штабцальмайстар Панцгаф зноў быў занадта ўрачысты, калі

паведамляў Эве, што яна прызначана камісарам інтэрната. Фраў Вольф звольнілася, яна застаецца ў родных мясцінах. Яна б ніколі не стала загадчыцай, калі б не пратэкцыя зверху. Ён, Панцгаф, ненавідзіць усялякія пратэкцыі. Кожны павінен займаць тую пасаду, на якую здольны. Ён — стары салдат, гэта значыць, прайшоў суровую школу, быў заўсёды сумленны, увесь час ішоў наперад, згодна з загадам; ніякіх хітрыкаў, ніякіх выбрыкаў. Быць простым салдатам — вось мэта ўсяго яго жыцця.

Ён прынёс бутэльку чырвонага віна. Яна ўваходзіла ў апошнюю норму выдачы афіцэрам і служачым у казіно. Эва заўважыла сабе, што законная крыніца была куды кіслейшая, чым незаконная ў Розенталя.

Панцгаф заўсёды пасля полудня прыходзіў у школу. Калі б ён прыходзіў вечарам, пачаліся б размовы. А сярод белага дня ён, намеснік упаўнаважанага па справах, мог, вядома, весці перагаворы з загадчыцай і кропельку выпіць у маленькім кабінеце. У гэты час штабныя памочніцы праходзілі практыку на розных ваенных прадпрыемствах горада. Заняткі праводзіліся толькі да полудня.

Бутэлька, відаць, у норме была не адна, бо цальмайстар прыйшоў ужо гаварлівы. Пасля таго як патэтычна аб'явіў ёй аб прызначэнні. Ён пацалаваў ёй руку. Яна адчула, як кончык яго магутнага носа-трохкутніка дакрануўся да яе рукі. Яшчэ большую непрыемнасць яна адчула, калі ён, выпростваючыся, пранікліва глянуў на яе.

Яна запрасіла яго сесці. Ён па-бацькоўску абняў яе за плячо.

— Нічога, я ж тут як дома.

Ён спытаўся, ці можа яна каго паслаць па сігарэты. Калі яна адказала адмоўна. Ён дастаў з кішэні поўны пачак. Ён, здавалася, зусім не думаў, што гэта здзівіць яе. Нешта яго займала.

Ён пачаў выкладваць свае планы. Перш чым яе канчаткова прызначаць на пасаду, ёй трэба прайсці падрыхтоўку. Оберштабсінтэндант Німц ужо ўключыў яе ў спіс. «Нямецкі рабочы фронт» праводзіць такія курсы ў сваіх школах. Эве трэба быць гатовай, што ў самы блізкі час яе пашлюць на чатырнаццаць дзён.

Размаўляючы. Ён за два заходы апаражніў шклянку, кожны раз патрабуючы чокнуцца, і пры гэтым спрабаваў пагладзіць яе руку мезенцам. Ён засмяяўся, калі ўбачыў яе абыякавасць, і сказаў:

— Кажуць, што раней вы не былі такая далікатная.

— Што вы маеце на ўвазе?— Эва адчула, як моцна забілася ў яе сэрца.

Ён спакойна праціраў акуляры.

— Востраў адносіцца, як вядома, да ваеннай акругі II. Кажуць,

што вы там добра папрацавалі. «Фаў-2» ужо ляціць. Гэта мужчынская работа. Але,— ён са шматзначнай усмешкай падняў чарку за яе здароўе,— вы таксама, як маглі, унеслі, пэўна, сваю долю.

Эва ліхаманкава думала. З кім ён размаўляў? Хто яму расказаў пра яе? Што ён ведаў?

Апошні глыток ён дапіў занадта паспешліва. Яго пачаў біць кашаль. Яна стаяла, не ведаючы, што рабіць.

— Прынесці вам што-небудзь закусіць?— спыталася яна, каб толькі схаваць сваю нерашучасць і, магчыма, знайсці прычыну выйсці з пакоя. Ён кіўнуў, яшчэ душачыся кашлем.

— Было б нядрэнна штосьці ўкусіць пасля чырвонага віна.

Яна ўзяла ключы і выбегла, паспешліва, з палёгкай. Інстынктыўна яна спынілася каля ізалятара для хворых і зазірнула туды. Тэа Панкнін, васемнаццігадовая дзяўчына са Шверына, ляжала ў пасцелі і вязала.

— Калі вы неўзабаве нешта пачуеце, Тэа, я буду ў падвале,— сказала Эва і зноў ціха зачыніла дзверы.

Яна заспяшалася ў падвал, выхапіла з прадуктовай шафы каўбасы і масла і ўжо паднялася да паловы лесвіцы, як спаткалася з Панцгафам. Шырока расставіўшы ногі, цяжка ступаючы. Ён спускаўся ўніз.

— Пакажыце мне яшчэ раз запасы. Вы можаце адразу сказаць міне, чаго не хапае.

Ён мякка павярнуў яе назад, і яна вымушана была пайсці наперадзе яго.

У падвале яна пачала дзелавіта корпацца ў шафах з марляй, расказвала, што астаткі бручкі зусім здзеравянелі і што паварыха скардзілася на пратухлыя крупы і сырую муку. У падвале было вельмі ціха, і яна раптам заўважыла, што ён стаяў у яе за спіной. Вось ужо яна адчула і дотык яго рукі, якая абмацвала яе сцягно. Яна чула яго дыханне.

— Не гавары пра крупы ды бручку,— хрыпла прамовіў ён,— я вар'яцею па табе; я, як дурань, спускаюся за табой у падвал, каб сказаць табе пра гэта.

У паўзмроку Эва бачыла шкельцы яго акуляраў, нос, які вытыркаўся, нібы фарпост. «Калі я цяпер удару, усё будзе скончана»,— падумала яна.

Яна зрабіла хуткі жэст і адштурхнула ад сябе яго руку.

— Гер штабсцальмайстар, вы памятаеце, што гаварылі мне, калі я пачынала працу ў школе? «Трымайце школу ў чысціні!»— Яна выцягнулася перад ім і сутаргава паказала жартаўлівую сур'ёзнасць:— Я

так і раблю!

— Тады скажы мне, дзе мы можам сустрэцца.

— Вы — мой начальнік. Вы хочаце правераць мяне?

Ён на нейкі момант сумеўся, потым яму здалося, што ён разгадаў яе тактыку.

— Ты цудоўная дзяўчына, проста цудоўная.— Ён забраў у яе талерку з каўбасой, якой яна старалася засланіцца. Яна ўвінулася ад яго і пакінула стаяць з талеркай. Калі ўзляцела на прыступкі, пачула яго за сваёй спіной.

Тэа Панкнін высунула галаву з дзвярэй ізалятара. Ліхаманкава думаючы, Эва спынілася на самай верхняй прыступны лесвіцы. Яе секундную няўпэўненасць Панцгаф залічыў на сваю карысць. Ён абхапіў яе ззаду за талію і, упэўнены ў перамозе, хацеў перанесці праз высокі парог. Калі яна пачала вырывацца. Ён хацеў сказаць нешта, але словы заселі ў горле, бо ў дзвярах стаяла Тэа Панкнін, маладая курсантка невялікага розуму. Яна стаяла, закруціўшыся ў халат, абкруціўшы шыю шарсцяным шалікам, і, утаропіўшыся, нічога не разумеючы, глядзела на яго, свайго настаўніка і начальніка.

Эва выпівала з агідай рэшткі са шклянак, якія яна выносіла з ізалятара. Ёй хацелася захварэць! Яна садзілася знарок блізка каля Тэа Панкнін, якая яшчэ не паправілася ад ангіны. Яна глыбока ўдыхала, каб наглытацца бацыл. Чаму менавіта цяпер яе гланды не рэагавалі — звычайна ж яны былі такія адчувальныя! Калі яна цяпер не захварэе, то на тым тыдні будзе вымушана ехаць у Цюрынгію і вучыцца на курсах. На гэта ёй патрэбна было яшчэ некалькі дакументаў і тлумачэнняў, прыроўненых да прысягі. Працоўны фронт і гітлер'югенд цікавіліся, чаму да працоўнай павіннасці яна не ўваходзіла ні ў якую арганізацыю і г. д. Яна павінна была мець рэкамендацыю адтуль, калі хацела кіраваць, моладдзю,— яна ж гэтым, мусіць, займалася.

Пра ўсё гэта ёй паведаміў не хто іншы, як Панцгаф. Пры гэтым ён паходжваў па пакоі, суровы, важны, у ботах. Цяпер ён пазбягаў наведваць яе ў кабінеце. Здавалася, яму вельмі прыемна гаварыць ёй пра рэчы, якія непакоілі яе. Ён заўважыў, хоць і стараўся не паказваць гэтага, што ехаць на курсы яна не хацела.

— Я распараджуся выпісаць вам вайсковы праязны, білет у другі клас, як і належыць афіцэру,— сказаў ён зычлівай насмешкай.— Хай хоць паездка прынясе вам задавальненне. Ваша намесніца прыбывае ў панядзелак.

Эва, знясіленая і бездапаможная, брыла праз цёплы, восеньскі дзень.

«Калі ў суботу Ру не прывязе мне хінінавага прэпарату, тады — усё,— думала яна.— Тады давядзецца выліць сабе на ногі вар».

Вечарам, пасля глыбокага роздуму, ёй ужо снілася, што яна на курсах, фраў Клемт чытае лекцыю на тэму «Нацыянал-сацыялізм — першая сапраўдная рэвалюцыя ў гісторыі Германіі». Усе апладзіравалі, і толькі яна, Эва, не магла паварушыць рукой. Фраў Клемт заўважыла гэта і падышла да яе, з бізуном у руцэ.

Эва доўга думала, каму б яна магла даверыцца. Розенталь, напэўна, дастаў бы ёй сродак, каб падняць тэмпературу. Але яна пабаялася аказацца ў залежнасці менавіта ад яго, для каго ўменне жыць заключалася ва ўменні гандляваць. Яна не вельмі добра зразумела, што ён меў на ўвазе, калі гаварыў «аб цане можна дамовіцца».

Яна падумала і пра Анэлізэ Тоеркаўф, якая калісьці была медсястрой. Аднойчы ў суботу яна прыязджала з Розенталем, як і абяцала. Эва паказала ёй школу. Анэлізэ выказала захапленне, тое-сёе пакрытыкавала і шчыра прызналася, што яна не ўзялася б кіраваць такім домам і трымаць у руках сорак дзяўчат.

Паміж ёю і Анэлізэ існавала прытоеная напружанасць, пра якую Эва не магла сказаць, у чым яна выяўлялася. Але яна была. Нянавісць, якую яна адчула пасля свінемюндскага свята, прайшла. Анэлізэ была парывістая, імпульсіўная, але яна не магла пайсці і сказаць: «Вы паставілі яўрэйку начальніцай». Хоць яна ўсё яшчэ верыла ў фюрэра, у яго непераможнасць і шчырасць. Ці ўсё-такі Анэлізэ здольная на такое? Пайсці, заявіць на яе, калі б яна, напрыклад, заўважыла, што Эва сімулюе хваробу, каб не ехаць на фашысцкія курсы? Не, Анэлізэ давяраць нельга, значыць, заставаўся толькі гаршчок з вадой, калі з Ру нічога на атрымаецца.

Калі жанчына выбрала сабе мужа, каб «з ім не сорамна было паказацца на людзі», а вайна потым робіць з яго калеку, ад чыйго твару жахаюцца дзеці, дык патрэбна вялікая душа, каб вынесці такі цяжар.

У Ру яе не было. Яна палка пратэставала супраць самавольства лёсу, які цальмайстра — падумаць толькі: цальмайстра! — пры эвакуацыі шпіталя, якім ён кіраваў, зрабіў ахвярай недарэчнай партызанскай гранаты.

Калі яна ехала з Фюрстэнберга праз Штэцін у Кольберг, яна, як звычайна, на дзве гадзіны заскочыла да Эвы. І захварэла ад агіды і страху.

— Каб хоць я яго кахала!— гаварыла яна — Але ж і да гэтага ён быў мне абыякавы. Ты ж ведаеш. Нам не было пра што гаварыць. А я не сястра міласэрнасці. Са мной гутарыў галоўны ўрач. Ён сказаў,

што я цяпер найлепшае лякарства хвораму, толькі нельга паказваць, што я баюся, калі здымуць павязкі. Я вельмі старалася, але ён усё роўна заўважыў, што ў мяне на душы. Ён заўсёды заўважаў гэта, як і тое, што я прыязджаю толькі па абавязку. Учора ён спачатку не хацеў падаваць мне рукі. Гэта было жудасна. І што мне цяпер рабіць?

Вядома, яна забылася пра хінін. Хто мог яе папракнуць за гэта? Па дарозе да трамвая яна сказала:

— Вайна ўжо доўга не працягнецца. Яшчэ нядаўна я гаварыла, што тады я ўздыхну з палёгкай, што б ні здарылася. А цяпер я баюся. Чалавек без твару!

Эва не забылася пра сухі плач, з якім Ру, якая баялася выяўляць пачуцці, пайшла ад яе.

У ёй сабралася ўсё: плач Ру, арышт Ханы Пэплау, жудасны смех Рольфа, сутаргавая храбрасць Штэфі, якая ў апошніх пісьмах пісала, што Рольфа павінны змясціць у нейкую установу, у яго здалі нервы. Ён не зусім у сваім розуме. Ён безупынна смяецца.

«Добра, што Штэфі не чула, як ён смяецца,— падумала Эва,— Добра для дзіцяці. Яго смех... магчыма, што ён прытварыўся». Але адначасова ён прыпамінаўся ёй такім натуральным, такім жудасна натуральным...

Ёй не хацелася больш думаць. З рашучасцю яна пабегла на кухню. У паварыхі на агні стаяў вялізны гаршчок, у якім плавала агароднiна. За ім стаяў кацёл з вадой на чай. Толькі крыху пасунуць. Напэўна, ніхто

не заўважыць.

— Фройляйн Леангард!— Паварыха паспяшалася падхапіць,— Госпадзі божа! Што вы робіце?— Яна трымала гаршчок з варам, які вось-вось мог зваліцца з пліты, без кухоннай анучы, адным штуршком адсунула яго назад. Разлітая гарачая вада зашыпела на пліце.

Эва задушыла ў сабе стогн. Вельмі балела, але яна ведала, што гэтага было мала. Паварыха падскочыла занадта хутка. Папала толькі на адну нагу, Панцгаф усё роўна пашле яе на курсы, хоць, можа, са спазненнем на дні два. «Сцісну́ць зубы,— скажа ён,— адступаць перад болем — не па-салдацку».

Тэа Панкнін памазала і забінтавала апараную нагу.

— А заўтра раніцай пазваніце ўрачу,— сказала яна,— а калі пачнецца паветраная трывога, мы зойдзем па вас.

Эва засталася адна ў пакоі. Да гарачай каўбасы з гароднiны, якую прынесла паварыха, яна не дакранулася.

«Усё было дарма,— падумала яна,— усё дарма. Я дзейнічала занадта нерашуча. Я баязлівая. Я баюся самага малога болю. Другі раз

і спрабаваць нельга, гэта кінецца ў вочы».

У гэту ноч ад школы маладых штабных памочніц засталіся руіны. Эва сядзела са сваімі дзяўчатамі ў сховішчы. З абваранай нагой яна цяпер здавалася сабе больш бездапаможнай, чым калі-небудзь раней. Грукат і трэск над імі быў неверагодны, дзяўчаты плакалі і крычалі, шукаючы ратунку адна ля адной, як кураняты, напуджаныя лісам.

Эва падумала: «Ру мае рацыю, існуе ўраўнаважвальная справядлівасць. Дзяўчаты не ведаюць, што сярод іх ёсць Ёнас. Гэта — я. Так жыць, як я, нельга. Гэта выклік лёсу. Калі я перажыву гэту ноч, я раніцай пайду да Панцгафа і скажу яму ўсё».

Эва перажыла ноч з усімі сваімі дзяўчатамі.

Калі жыхары вылезлі пасля адбою са сховішча, дамы былі падобныя да вялізных факелаў. Полымя асвятляла ноч, свяціла выратавальным камандам, якія нікога ўжо ўратаваць не маглі.

На першым паверсе школы тое-сёе яшчэ ўцалела. Кожны выносіў на вуліцу спачатку свае асабістыя пажыткі. Тэа дапамагла Эве вынесці бялізну з шафы, іншыя дзяўчаты збіралі коўдры і матрацы. Тэа падганяла:

Агонь ужо на трэцім паверсе. Кіньце вы гэтыя казённыя рэчы, я вазьму ваш чамадан.

Эва падумала, што цяпер трэба паказаць сваю смеласць. Трэба нешта ўратаваць, рызыкуючы жыццём... Але яна вынесла толькі некалькі пакункаў бялізны з калянага палатна.

Агонь распаўзаўся зверху ўніз. Вуліца была падобная на вайсковы лагер. Калі абвалілася столь у яе пакоі — Эва з вуліцы бачыла, як полымя адразу ахапіла фіранкі і зацямняльныя шторы — тут яна прыпомніла, што ў кутку за шафай стаяла лютня, скандынаўская бас-лютня.

Яна забылася пра яе.

## 5
## СПРАВА І ЗЛЕВА АД ПАМЕРАНСКАГА ВАЛА

Эва не пайшла да штабсцальмайстра Панцгафа і не сказала: «Глядзіце, якая я». Ноч, на нядзелю раптам усё змяніла. Панцгаф накрычаў на ўпаўнаважанага Германскага працоўнага фронту, які прыйшоў да яго і запатрабаваў, каб Леангард выязджала на курсы. Ці ён сляпы і не бачыць, якія задачы Эвы Леангард у гэты момант, адсек яму цальмайстар. Цяпер задача ў тым, каб згуртаваць дзяўчат, якія храбра паводзілі сябе ў час бамбёжкі, дапамагчы ім адолець страх

перад паўторнымі налётамі. Вайсковае ўпраўленне па абмундзіраванні на першы выпадак перадае ім вялікае памяшканне, дзе яны могуць спаць на сенніках і матрацах. Але комплекс будынкаў лічыўся магчымым аб'ектам для налётаў. Эва сама настойвала на хутчэйшай замене. Дзяўчаты перажылі шок, некаторыя і цяпер яшчэ не могуць спаць.

Німц і Панцгаф далажылі генерал-інтэнданту. Праз некалькі дзён школу маладых штабных памочніц распусцілі. Курсантак накіравалі ў вайсковыя ўстановы, дзе яны ўжо праходзілі практыку, ім трэба было знайсці сабе ў горадзе мэбляваныя пакоі. Дзяўчаты не пярэчылі. Яны цяпер уяўлялі сябе птушкамі, перад якімі расчынілі дзверцы клетак. Цяпер ужо і гаворкі не было, каб трымаць іх у інтэрнаце. У Штэціне больш не было дамоў, дзе можна было б размясціць іх разам.

Эва ездзіла па ўсім горадзе, глядзела пакоі, гутарыла з гаспадарамі, пыталася ў сябе: «Навошта я патрэбна, калі маладых дзяўчат з лёгкім сэрцам пакідаюць на саміх сябе?» Толькі адну Тэа Панкнін паслалі туды, дзе яна нарадзілася. Эва ведала чаму.

— Што будзе са мной?— спыталася яна ў Панцгафа, калі часовы лагер ва ўпраўленні па абмундзіраванні быў распушчаны.— Можа, ёсць магчымасць перавесці мяне ў Дрэздэн? Мне гэта вельмі важна, па асабістых прычынах.

Панцгаф холадна глянуў паверх яе галавы.

— Кожная ваенная акруга рыхтуе сама сабе кадры. Можаце быць упэўнены, што мы вам хутка знойдзем справу. Пакуль што оберштабсінтэндант распарадзіўся, каб вы папрацавалі тут.

Рабочае месца Эвы аказалася ў кабінеце пажылой супрацоўніцы, вядомай пляткаркі, якая амаль увесь час бегала па ўстанове. Эве даручылі складаць спісы і запаўняць картачкі, якія здаваліся ёй бессэнсоўнымі. Панцгаф ніколі не заходзіў у яе пакой. Ён заўсёды выклікаў яе да сябе ў кабінет. Аднойчы ён хацеў прадыктаваць ёй вялікае пісьмо, таму што не змог злавіць пляткарку, якая звычайна абслугоўвала яго. Ён дыктаваў амаль без перапынкаў. Эва папрасіла яго гаварыць крыху павольней.

— Няўжо вы не ўмееце стэнаграфаваць?— спытаўся ён.

— Я стэнаграфіі не вывучала. У мяне свае скарачэнні.

— Значыць, вы не ўмееце! А што ж вы тады ўмееце наогул?— злосна выціснуў ён праз зубы.

— Мне здаецца — не шмат.

Ён з'едліва засмяяўся.

— Мне здаецца тое самае.— Ён дыктаваў далей у тым жа тэмпе, убачыўшы, што яна пачырванела ад напружання, разваліўся ў крэсле

каля пісьмовага стала і спыніў дыктоўку, каб толькі прыпаліць сігарэту.

— Вы ўмееце хаця б чыста друкаваць на машынцы?— спытаўся ён у канцы.

Яна прыгнечана пацвердзіла і пайшла.

У цэнтры горада на Фрыдрых-Карл-штрасэ яна здымала пакой на чацвёртым паверсе, адкуль адкрываўся шырокі від, таму што дамы насупраць былі разбураны. Пакой быў утульны, але ёй здавалася, што няма сэнсу як след абжываць яго. Яна адчувала сябе вандроўніцай, якая толькі запынілася на адпачынак; яна лічыла, што ў яе зашмат рэчаў і што дэвіз Ганса Ціфенбаха аб неабходнасці мець вольныя рукі знайшоў сваё апраўданне. Яна паведаміла яму пра сваё новае становішча. Ён напісаў ёй коратка, самае галоўнае, каб яна не губляла галавы. Пра самога сябе, пра сваё вяртанне з Усходняй Прусіі — ані слова.

З Дрэздэна Штэфі пісала, што яна чакае сына ў канцы года Швентмайр вар'яцее. На яго думку, Рольф забаяўся адказнасці і яго душэўная хвароба — толькі адгаворка.

Эва доўга раздумвала. «Мне трэба паехаць да яе,— думала яна, — я павінна расказаць ёй пра нашу апошнюю сустрэчу». У яе вушах яшчэ гучалі словы Юргена Бэра. «У гэтай вайне дэзерцір — не здраднік». Яна назірала за зменамі, якія адбываліся ў Рольфе. Дойчландгале — Познань — Штэцін. Гэта было паслядоўнае развіццё. Імкненні і істота ў Рольфа былі неаддзельныя. Тое што ён дадаў да гэтага свядома, не ішло ў разлік. Эва вырашыла папрасіць Німца перавесці яе бліжэй да Дрэздэна. Яна патрэбна была Штэфі.

Оберштабсінтэндант сарамліва ўсміхнуўся, калі яна выказала яму сваю просьбу. Перш чым адказаць. Ён падняў трубку і выклікаў да сябе штабоцальмайстра Панцгафа.

Эва разгубілася. Значыць, праўда, што Німц рабіў толькі тое, што раіў Дзяцел. Яна дарэмна пайшла сюды, Панцгаф паздзекуецца толькі з яе як след, што яна дзейнічала праз яго галаву.

Ён прыйшоў, ледзь прыкметна ўсміхнуўся, ўбачыўшы Эву ў свайго начальніка, а на пытанне Німца, якія планы наконт фройляйн Леангард, даў сціплы адказ:

— Загадчыца інтэрната Леангард адкамандзіроўваецца ў інтэрнат штабных памочніц у Грос-Борн-Вестфаленгоф у якасці памочніцы загадчыцы. Дакументы на адбыццё ўжо выпісаны.

Гэта для Э вы быў сюрпрыз. Грос-Борн, гэта далёка на ўсход. Магчыма, гэта ўжо недзе каля Усходняй Прусіі!

З Дрэздэнам справа не выгарала.

Пляткарка пакруціла галавой.

— Грос-Борн! Тады бярыце з сабой толькі самае неабходнае і не здавайце тут свайго пакоя. Больш я гаварыць нічога не буду, інакш вы данясеце на мяне за паражэнчыя выказванні.

Эва паехала з невялікім ручным багажом. ёй сказалі ў казіно, што Грос-Борн — гэта ўсходні Ютэборг. Шырокая раўніна, палігон — тэрыторыя, на якой муштруюць салдат.

Яна ехала некалькі гадзін, спачатку на хуткім поездзе, потым у пасажырскім, потым яна трапіла не ў той канец палігона, у Ліндэ. Яна мусіла чакаць транспарту які б забраў яе ў Вестфаленгоф. Яе везлі ў адкрытай машыне праз раскіслую пясчаную раўніну.

Афіцэр засмяяўся, калі яна расказала яму, з якой мэтай прыехала.

— Штабныя памочніцы сядзяць ужо на чамаданах. Кім вы збіраецеся кіраваць?— Ён давёз яе да Іа.

Яна аказалася перад маладым капітанам у прапацелай форме, які, відаць, ганарыўся, што ён франтавік ён змрочна павітаў Эву, і нецярпліва ўскочыў з крэсла калі даведаўся пра мэту яе прыезду.

— Няўжо кіраўніцтва ваеннай акругі з глузду з'ехала! — закрычаў ён,— Два месяцы назад я прасіў падмацаванне для інтэрната. Тады ў іх не было. Тым часам я мог оы колькі хочаш атрымаць іх з генерал-губернатарства. І ам іх, між іншым, ужо распусцілі. Але на гэта у Штэціне, відаць, не звяртаюць ніякай увагі.

Эва папрасіла капітана даць запытанне ў Штэцін што ёй рабіць. Нанач яна заняла ізалятар інтэрната

Незадоўга да наступлення ночы яна крыху прайшлася па тэрыторыі. У казарменным гарадку, цэнтрам якога было даволі дапатопнае казіно, панаваў нервовы неспакой. Аднак нельга было зразумець, чаму і куды спяшаліся салдаты, афіцэры і штабныя памочніцы пехатой на машынах і веласіпедах. Гразь ляцела ў бакі, калі яны' ехалі па разбітых дарогах, у стальных касках з маскіравальнымі сеткамі, у накідках паверх формы. Усе былі сур езныя, маўклівыя, рабілі крутыя павароты, тупалі нячышчанымі ботамі. Здавалася, што кожны ведаў чаму ён так спяшаецца, навошта патрэбна гэтая яго хада.

Эва здалася сабе лішняй і нікому не патрэбнай.

Потым яна ўбачыла, як міма казіно прайшоў начальнік гарнізона. На ім не было накідкі, яна ўбачыла шырокія чырвоныя лампасы, і ён быў адзіны, хто ішоў павольна. Ён падняўся па лесвіцы ў казіно, цяжкі і змораны.

«Кіраўніцтва гарнізона Дойч-Кронэ паведамляе. Выкарыстаць для пабудовы Памеранскага вала»— так было напісана ў катэгарыч-

ным распараджэнні ваеннай акругі на запытанне Іа.

Эва пакінула нямую дзелавітасць палігона і трапіла у шумную дзелавітасць, якая спрабавала ашукаць сваю няўцешнасць смехам.

Перад Дойч-Кронэ тысячы хлопцаў і дзяўчат перакопвалі памеранскую зямлю, каб пабудаваць абаронную лінію, усходнюю лінію Зігфрыда, якая ў апошнюю мінуту павінна здзейсніць тое, чаго не маглі зрабіць за пяць гадоў танкі і самалёты-знішчальнікі, артылерыя і армія.

На ўсіх плошчах гарадка стаялі палаткі, дыміліся палявыя кухні, паміж імі тоўпіліся вясёлыя групы, сёрбалі суп з хлебам.

Эва спынілася каля ўмураванай водаправоднай трубы. Далей ходу не было. Група хлопцаў з гітлер'югенда цягнула тонкія дрэвы, бярозы і сосны, кроны якіх мялі вуліцу, як шырокія венікі; па плошчы валялася голле; крыкі, песні: «Нам сёння належыць Германія, а заўтра ўвесь свет».

Дзяўчаты са смехам разбягаліся ў бакі.

— Месца для танкавых пастак!— крычаў прыземісты старшы.

З трубы фантана ў басейн цёк тоненькі струменьчык вады. Малады яфрэйтар з Жалезным крыжам першай ступені і серабрыстым значком за раненне мыў рукі. Сам сабе ён лаяўся: «Праклятая дзятва. Пакуль што смеяцеся! А як дадуць вам у рукі «Фаўсты», наваліце ў штаны».

Ён заўважыў, што ў яго ёсць слухачка. Не саромеючыся. Ён гучна высмаркаўся, без насоўкі, спытаўся з недаверлівым косым позіркам:

— Вы таксама з гэтага свінарніка?

— Не,— адказала Эва.

— Вы, мусіць, з прэсы, ці што? Тады напішыце, што вы чулі думку невядомага салдата, і яна вось якая!— Ён тройчы пагардліва плюнуў на выбіты брук і павольна пайшоў. Потым заспяшаўся змяшацца з натоўпам моладзі, якая лічыла пабудову Памеранскага вала велічным народным святам.

Вайсковы штаб размяшчаўся недалёка ад ям, пастак для танкаў. Эва прыбыла з ваеннай акругі, і таму пра яе адразу далажылі кіраўніку. Начальнікам ваеннага кіраўніцтва быў маёр. Яго прозвішча было Говер, два гады назад ён быў яшчэ капітанам.

Для абодвух бакоў нечаканасць была ў роўнай ступені вялікая. Аднак Говер хутка ўзяў сябе ў рукі. Ён падаў Эве руку, павітаўся, як са старой знаёмай, адаслаў ад'ютантаў.

— Нашы лініі, так сказаць, скараціліся,— сказаў ён.— Амаль кожны дзень тут бачыш знаёмыя твары. Вас я, праўда, чакаў

найменш.

— Веру,— сказала Эва і, падпарадкоўваючыся яго запрашэнню, села. Яна прыслухоўвалася, баялася таго ледзянога тону ў яго голасе, які так сапсаваў ёй настрой два гады назад у Бодэнхаўзе. Але не пачула.

Говер выглядаў заклапочаным, здавалася, яшчэ больш схуднеў. Крылы яго вялікага носа абвіслі, крутая складка на лобе ператварылася ў глыбокую маршчыну.

— Мы спаткаліся ў нядобры час,— сказаў ён.— Востраў не выканаў, што абяцаў,— і вось дзеці вымушаны будаваць барыкады.

Эву здзівіла яго шчырасць. Яна асцярожна абмалявала ўражанні ад убачанага.

Ён усё ведаў, толькі ківаў. Прыхарошваць не было чаго.

— Хутка мы ўсе возьмем у рукі «Фаўсты», каб ўратаваць, што можна.— Ён яшчэ тое-сёе спытаў і без усякай сувязі раптам уклініў у размову:— Мы з вамі заўсёды добра разумелі адно аднаго, фройляйн Леангард, праўда? У цяжкі час трэба дапамагаць, я так лічыў заўсёды. Мне не хацелася б, каб вы тут махалі лапатай.

Яму далажылі, што з'явіўся старшы з гітлер'югенда. Говер папрасіў Эву пачакаць у прыёмнай, пакуль ён разбярэцца з яе справай. У Штэціне, пэўна, не ўяўляюць сабе як след, як арганізавана будоўля Памеранскага вала.

Прысадзісты юнак з хуткімі вачыма на круглым твары пранікліва глянуў на Эву, калі яна выходзіла з кабінета маёра. Говер прадставіў яе.

— Штэцінская школа штабных памочніц,— раздумваў гітлер'югендавец уголас. — Значыць, ты замяніла фраў — як жа яе было прозвішча, якая ўстарэла для гэтай пасады?

— Фраў Вольф,— сказала Эва.

— Правільна! Значыць, ты яе замяніла. Нам паведамілі пра гэта. Шкада, што школа разбурана. Чым ты займаешся цяпер?

— Пакуль што мае заняткі не вызначаны. Магчыма, застануся тут капаць.

— Глупства! Такія дзяўчаты патрэбны ў іншым месцы!

Эва ўбачыла, як Говер, усхваляваны, азірнуўся ў дзвярах. Але ён вяртаўся ў свой кабінет паволі, быццам яму было вельмі важна пачуць апошнія фразы. Нядоўга падумаўшы, прычым ён увесь час трымаў Эву ў полі зроку, гітлер'югандаўскі фюрэр сказаў:

— Мая машына сёння вяртаецца ў Штэцін. Яна забярэ цябе Далажы пра сябе сваёй старшай і скажы ёй: пароль «Гламбекзэе». Яна знойдзе табе справу, калі верхмат не дае.

Ён па-таварыску паціснуў ёй руку і баявым крокам увайшоў у кабінет свайго камандзіра.

Неўзабаве дзверы імкліва расчыніліся, салдаты-пісары ўбачылі чырвоныя лампасы, ускочылі са сваіх месцаў і выцягнуліся «смірна». Эве яны напомнілі карыкатуру з «Сімпліцысімуса», камплекты якога пыліліся на гарышчы ў дзядулі ў Лангенбруку.

Генерал, не гледзячы ні ўлева, ні ўправа, адразу запатрабаваў кіраўніка ўстановы.

— Стары перакуліўся з машынай, — расказаў нейкі унтэр-афіцэр, калі стук зачыненых дзвярэй за спіной генерала даў каманду «вольна»,— Цяпер нехта павязе яго ў Штэцін. Сёння вечарам. Учора ў Штэціне здорава грымела.

У кабінеце маёра ўсё вырашылася хутка. І енералу, які быў камендантам Штэціна, гітлер'югандавец прапанаваў сваю машыну. З грузам. Гэта былі: шафер і начальніца дзявочага інтэрната.

Так атрымалася, што Эва Леангард вярталася ў горад на Одэры ва ўпрыгожанай штандарам машыне абласнога кіраўніцтва гітлер'-югенда Памераніі побач з камендантам гарнізона, з маленькім ручным багажом і вельмі няясным даручэннем.

Калі яна ў Дойч-Кронэ садзілася ў машыну да генерала, Говер надзьмуў шчокі і шумна выдыхнуў, як чалавек, якога ад непрыемнасці кінула ў пот. Эва холадна развіталася. Яна ніяк не выдавала, што ў яе было на душы. Яна цьмяна аб нечым здагадвалася, і гэта давала ёй упэўненасці. Говера ўжо баяцца не варта. Яна магла ясна і дзелавіта адказаць на пытанні, якія ёй задаваў генерал у час язды.

— Штабныя памочніцы!— сказаў ён — Іх яшчэ раней трэба было абмундзіраваць, як гэта зрабіла люфтвафэ. Форма надае годнасць. І вас прызнавалі б лепш як, начальніцу. Вам трэба было зберагчы свой ўплыў пасля бамбёжкі. Дысцыпліна — усё. Вы самі з Познані?

— Не, з Цэнтральнай Германіі.

Але ж вы будзеце трымацца, калі давядзецца абараняць Памеранію, зубамі і кіпцюрамі? Па чалавеку відаць, як ён зразумеў дух часу. — Ён пранікліва глянуў ей у вочы, кіўнуў і, здавалася, зноў паглыбіўся у свае думкі.

Давялося ехаць у аб'езд. У горадзе былі закрыты цэлыя кварталы, праз Фрыдрых-Карл-штрасэ таксама праезду не было. Эва папрасілася вылезці. І тут яна убачыла, што яе дома не было. А яна ж не хацела пад язджаць да яго са свастыкай на штандары Генерал адпусціў яе, афіцыйна развітаўшыся. Чым глыбей яны уязджалі у горад, тым больш замкнутым рабіўся яго твар. Яго горад зноў быў абстраляны. Ён зрабіў такую міну, якая бывае ў гаспадара, які давед-

ваецца, што яго аканом пусціў на вецер усю гаспадарку, варта было яму толькі адвярнуцца.

На Фрыдрых-Карл-штрасэ застаўся толькі вузкі праход пасярэдзіне, па якім можна было так-сяк прабрацца. Усюды руіны дамоў бессаромна выстаўлялі напаказ вантробы разарваных целаў з каменю, сталі і дрэва

Гэта было абсурдна, і тым не менш Эва, убачыўшы гэтую безуцешную каменную пустыню, у першую чаргу падумала: «І мая акарына загінула!» Яна пралезла праз груды абваленых сцен і апаленых бэлек да ўваходу ў дом. Першы паверх застаўся. Ён ператварыўся ў мятлішча для трох паверхаў. Тое, што не ўмясцілася, вывальвалася праз аконныя праёмы. Каля ўваходу ў дом былыя жыхары прымацавалі запіскі, на якіх яны паведамлялі сваім блізкім новыя адрасы. Без вялікай цікавасці Эва пачала чытаць іх. Яна жыла тут не так доўга каб шукаць некага. Яна ледзь не прапусціла сваё прозвішча. «Эва Леангард. Я чакаю. Вакзальны тунэль перон 2» было напісана без подпісу. Гэта быў шматок паперы, вырваны з блакнота, на якім пісалі дробна на дрэннай падложцы тонкім алоўкам. Але літары былі выведзены старанна, з завіткамі, почыркам Бургль Фраер, які нельга было пераблытаць.

Праходы і куткі тунэльнай сеткі пад платформамі галоўнага вакзала былі падобныя да начлежкі для бяздомных. У Штэціне выгрузіліся першыя бежанцы з прыбалтыйскіх краін, з генерал-губернатарства і Усходняй Прусіі. Яны сядзелі на сваіх пажытках і чакалі, калі іх пераправяць далей. Імжыстая вільгаць пранікала ў гэты падземны горад, рабіла лесвіцы слізкімі, а праходы бруднымі. Выпарэнні скопішча людзей, якія пасля шматдзённай дарогі сядзелі і ляжалі дзе папала, змораныя чаканнем, што цягнулася ўжо гадзінамі, патыхнулі ў нос Эве. Яна павольна ішла ўздоўж слаба асветленых праходаў. Тут цяжка было знайсці Бургль. Горы пажыткаў, чамаданаў, скрынак, прывязаных да веласіпедаў, вялізных пасцельных цюкоў загароджвалі ёй дарогу. Бургль, відаць, чакала з нецярпеннем. Ледзь толькі Эва падышла, як ад сцяны аддзялілася цёмная фігура. Бургль, якая звычайна не насіла нічога на галаве, здалася Эве незнаёмай і старой у чорнай хустцы, якая закрывала густыя чорныя валасы і моцна вылучала вялікі лоб пад прамой лініяй прычоскі. Калі яна падышла да Эвы, здавалася, цяжар зваліўся ў яе з плячэй. У бакавым праходзе яны знайшлі куточак, дзе іх ніхто не мог бачыць. Бургль пачала расказваць.

Гэта здарылася ўчора. Пачалося з таго, што дзве іншаземныя работніцы, штурхаючы занадта цяжка нагружаную тачку, перакулілі

яе. Адказны тэхнік, малады хлопец, патрабаваў, каб дзяўчаты зноў склалі скрынкі. Без дапамогі гэта было немагчыма, і калі адна дзяўчына, француженка, запярэчыла, тэхнік раззлаваўся і ўдарыў яе кулаком так, што ў той з носа палілася кроў. Тады да іх падбегла Бургль, якая ўсё бачыла праз адчыненыя дзверы транспартнага цэха. Абураная, усхваляваная, яна дала маладому хаму аплявуху, павярнулася і адразу ўзялася дапамагаць ім укладваць скрынкі на тачку. У француженкі моцна цякла кроў, і гэта, мусіць, утрымала тэхніка ад даносу на Бургль. Ён толькі груба вылаяўся і пачаў злосна гразіцца.

Пасля працы пра гэта ўжо ведала начальніца лагера. Бургль далі наганяй. Здарэнне само па сабе наогул не цікавіла Эльзбет Шлегель. У віну ёй ставілі: Вальбурга Фраер выступіла ў абарону замежнай работніцы і зняважыла нямецкага салдата! Не было сакрэтам, чаму два гады назад Вальбурга ўцякла са сваіх родных прырэйнскіх мясцін. Эльзбет папярэдзіла яе тонам суддзі, у якога ў руках уся уклада і які не выносіць адразу прысуду сваёй ахвяры толькі таму, што ў яго сёння добры настрой... Пасля гэтага Бургль доўга ляжала ў ложку, думаючы. Яшчэ не заснуўшы, яна падскочыла. Па кароткім бліску святла, які ўдарыў ёй у вочы праз заплюшчаныя вейкі, яна здагадалася, што нехта стаіць каля ложка. Яна спужалася і падхапілася. Яшчэ паміж сном і явай яна пачула шоргат крокаў і ціхі стук дзвярэй. У змроку яна паклікала сваіх таварышак. У адказ пачула толькі заспанае бурчанне. Адначасова ў Бургль з'явілася нязвыклае адчуванне: на шыі штосьці было не так. Яна хапілася тады рукой і памацала, намацала няроўныя канцы абрэзаных валасоў. Нехта адным хуткім прыёмам абстрыг ёй збоку валасы. Страх і адчай уступілі месца пераканáнню: гэта было другое папярэджанне Шлегель, і яно гаварыла: «У Равенсбруку табе абстрыгуць галаву нагала...»

Эва слухала расказ з усё большым хваляваннем. Яна ведала салдат на заводзе, якія, падганяючы жанчын, хацелі паказаць сваю перавагу і прывілеяванае становішча. Яна ведала цынізм начальніцы лагера, ведала, што былі дзяўчаты, якія выслужваліся перад ёю і бессаромна ішлі на такія брудныя ўчынкі. Яна ўбачыла перад сабой усю тэрыторыю лагера, перажыла ў душы ўсё: як Бургль ціха ўстала, склала ў чамадан самае неабходнае і непрыкметна ўцякла; як ёй удалося пералезці цераз агароджу; як яна прайшла не да бліжэйшай, а да наступнай станцыі і села на ранішні цягнік.

— Ты спытаешся ў мяне, чаму я прыехала менавіта сюды,— пасля невялікай паўзы няўпэўнена сказала Бургль,— Я не магла падацца туды, дзе. яны пачнуць шукаць мяне ў першую чаргу: да цёткі або дамоў. Мне падумалася, што тут цяпер пераварочваецца шмат бе-

жанцаў. Значыць, неяк можна схавацца сярод іх.

Эва пакруціла галавой.

— Ты ведаеш, куды пасылаюць бежанцаў? У Мекленбург,— Яна задумліва сядзела на адным рагу чамадана, Бургль — на другім.

«Наша становішча такое ж безнадзейнае, як гэтыч вакзальны тунель,— думала яна,— такое ж страшэнна пустэльнае, як сырая сцяна насупраць. Але Бургль трэба было ўцякаць. Вядома, яна зрабіла правільна! Хану Пэплаў адправілі ў Равенсбрук. Хто ведае, што яе там чакае. Хана дапамагла ёй, Эве, у бядзе, не чакаючы просьбы, не пахваляючыся гэтым. Цяпер Бургль — у большай небяспецы».

— Я падумала, — пачала Бургль няўпэўнена, — у цябе так шмат знаёмых, магчыма, ты можаш даць мне адрас — прыткнуцца на першым часе. Вайна ужо нядоўга працягнецца. Як ты думаеш — нядоўга?

Нядоўга! Нават калі давядзецца хавацца чатыры тыдні гэта можа ператварыцца ў вечнасць. Эва не чула нічога навокал. Людзі хапалі свае рэчы, некуды спяшаліся прыходзілі новыя, па гучнагаварыцелі аб'яўляліся цягнікі. Вось такі голас з дынаміка і пранік у свядомасць Эвы. Дрэздэн. Праз дваццаць хвілін адыходзіць цягнік тры вагоны вызваляліся для бежанцаў.

Дрэздэн! Гэта слова самкнула кантакты, ператварылася ў ідэю, прынесла рашэнне.

— Ты ж помніш Штэфі. Яна чакае дзіця, а побач няма ніводнага чалавека. Яна жыве ў дачным доме. Напэўна, яна дасць табе прытулак. Яна — малайчына. Я дам табе запіску. Ты — сваячка з «вартэгау», хан гаворыць так, калі трэба будзе, ці нешта такое падобнае.

Дакументы згубіліся ў дарозе.

— Ты думаеш?..— У Бургль з'явілася надзея.

Эва заспяшалася. На другім баку паперкі, знойдзенай у развалінах Фрыдрых-Карл-штрасэ, яна напісала адрас Штэфі, а ўнізе: «Штэфі, дапамажы!»

— Вось,— сказала яна,— Больш нічога не трэба. Штэфі ведае мой почырк,— Яна ўзяла яе рэчы.

Бургль яшчэ сумнявалася.

— У цябе выпадкова няма з сабой нажніц?— Яна ўзялася за хустку на галаве.

Эва ў нэсэсэры знайшла манікюрныя нажнічкі.

— Я так баюся,— сказала Бургль, развязваючы хустку — У дарозе хустка можа спаўзці з галавы. Падраўняй хоць крыху ззаду,— Эва заспяшалася выканаць просьбу У цёмным кутку пераходу яна пачала абстрыгаць збоку за левым вухам маленькімі нажнічкамі,

увесь час мацаючы рукой.

Вагоны для бежанцаў былі перапоўненыя. Ьургль прымасцілася на чамадане. Ёй гэта было няважна. Цяпер у яе была мэта.

— Што б ні здарылася, — сказала Эва, калі яны абняліся на развітанне, — адрас Штэфі — месца нашай сустрэчы. Больш мяне нікуды не цягне. Штэфі гэта вядома. Але ты можаш сказаць ёй пра гэта яшчэ раз.

Цягнік адышоў. Эва засталася, махаючы яму ўслед. Яна ведала, што Бургль вельмі ўдзячная, але гэта не радавала яе.

Штабсцальмайстар Панцгаф павёў сябе па-бацькоўску, калі пачуў, што Эва вярнулася ў кампаніі каменданта. Ён адвёў ёй маленькі пакойчык у прыватным доме недалёка ад кіраўніцтва ваеннай акругі. Распараджэнне далажыцца ў абласным кіраўніцтве ён адразу адмяніў. Гітлер'югенд на ўчастку, размешчаным каля возера Гламбекзэе, хацеў зрабіць зборны лагер для бежанцаў, якія патокам хлынулі з усходу. Але пасля налёту на яго нечакана налажыў лапу вермахт. Ён вырашыў размясціць там загарадны аддзел упраўлення вайсковага абмундзіравання, якое было моцна разбурана ў час налёту.

— Калі вы зараз пойдзеце ў абласное кіраўніцтва, вас напэўна пашлюць на абслугу бежанцаў на вакзале.— Бацькоўскі тон Панцгафа быў ёй не па душы.

— Я адразу б пайшла туды,— упарта сказала Эва.— Там хоць можна нечым дапамагчы. Ведаеш хоць, што ты патрэбная.

Панцгаф адчуў нязгоду. Ён загаварыў крута:

— Калі вам хочацца пайсці санітаркай, зрабіце ласку. Мы абыдземся і без вас. Прадстаўляйце ваенную акругу на вакзале.— Ён махнуў рукой.

Эва была свабодная.

У змрочным калідоры яна ўбачыла, што ў дзверы яе кабінета стукаецца чалавек з вялікім чамаданам і скруткам. Пляткарка, відаць, зноў бегала па будынку, бо ніхто яму не адчыняў. Падышоўшы бліжэй, Эва пазнала каржакаватую фігуру афіцэра. Гэта быў Эрых Розенталь. А чамадан, які ён цягнуў, належаў ёй.

Цяжка паверыць, але так і было: яе чамадан, упакаваны. Ён застаўся стаяць, падрыхтаваны, каля шафы.

Эва адчыніла дзверы свайго кабінета. Ёй не хапала слоў. Няўжо магло быць? Ён прабраўся ў дом, на які ўпала бомба, падняўся на чацвёрты паверх, у той час, калі жыхары яшчэ сядзелі ў падвале і не адважваліся сунуцца ў свае кватэры, аддаўшы ўсё агню і пагібелі! Як цудоўна было зноў атрымаць свой чамадан. Як цудоўна было ведаць, што ў падшыванай коўдры закручаны некалькі сукенак і спадніц, але

ўсё гэта нічога не варта было ў параўнанні з фактам, што перад ёй стаяў чалавек, які непакоіўся за яе.

Ён не забыўся, што яна пры налётах рэдка спускалася ў падвал. Якраз незадоўга да адбою яму трэба было ехаць у горад, ён убачыў у агні дах яе дома, яна магла быць там — такія думкі наваліліся на яго. Адчыніў дзьверы ў калідор, за якімі ўжо чуўся шум і трэск агню. Ён клікаў яе, гукаў на ўвесь дом, бо яе чамадан стаяў яшчэ наверсе, і гэта, здалося, яго вельмі напалохала. Але потым ён паспяшаўся ўніз. І вось вынік! Розенталь паказаў на чамадан і скрутак.

Эва была ўзрушана і кранута. Яна паказала на яго лоб, дзе над левым брывом быў наклееены пластыр.

— А гэта адкуль?

— Зачапіла вушаком у вашым пакоі, якраз, калі я выбіраўся. Гэта несур'ёзна.

Яна абняла яго за шыю і пацалавала.

— Вы сарвігалава, Эрых!

Ён хацеў утрымаць яе, але яна пачала ўжо раскручваць коўдру.

Эва падумала “Я сапраўды павіна быць удзячнай яму. Ён не такі, як Швентмайр”. Яна параўнала яго пранырлівасць у жыцці са швентмайраўскай. Як толькі ён пойдзе, я пагляджу ў чамадане, ці жывая акарына. Яна павінна ляжаць паміж купальнікам і льняным жакетам.

У Швентмайра былі госці. Аднак гаспадыні не падабалася, як праходзіў вечар. Справа была не толькі у тым што муж нечакана затрымаўся на службе. Віной было нешта без назвы, што лунала у паветры.

Дзень пачаўся з непрыемнасцей. Гільда, служанка-полька, разбіла блюда з дарагога сервіза і, перш чым папрасіць прабачэння, задрала галаву. Яе “прабачце”, выціснутае праз зубы, гучала хутчэй пагардліва, чым прыгнечана.

“Такая дзеўка і ўяўленняў мае пра цану супавай міскі з залатым абадком з мейсенскага фарфору”, — сказала сабе Люсі Швентмайр і вырашыла не дарыць ёй цёмнай шарсцяной сукенкі, якой Швентмайр не любіў.

Прыбіраючы ў пакоях, Гільда набралася нахабнасці і самавольна ўключыла радыё. Наогул, яна была У добрым настроі, і гэта тым больш кідалася у вочы, што звычайна яна была вельмі стрыманая — хутчэй меланхалічная, чым ветлівая. Вермахт паведамляў, што рускія ўзялі Варшаву. Магчыма, гэта і была прычына яе добрага настрою, але што такая дзяўчына разумела ў ваеннай тактыцы! Што яна ведала пра выроўніванне ліній фронту, пра завабліванне ў пасткі, пра скара-

чэнне шляхоў забяспячэння.

Густль Швентмайр якраз некалькі дзён назад растлумачыў жонцы неабходнасць усяго гэтага.

«Уяві сабе становішча так,— гаварыў ён,— нібы мы стаім за шырокімі шклянымі дзвярыма і назіраем за кампаніяй, якая гуляе ў карты. Незадаволена круцячы галавой, мы б убачылі, як удачнік выкідвае карту за картай. Не маючы магчымасці заглянуць яму ў рукі, мы не разумеем яго дзеянняў. Але потым, калі ён адкрые свой козыр, каб зрабіць рашаючы ход, мы стукаем сабе па лобе і прызнаём, што яго тактыка была правільная».

І ўсё ж Люсі Швентмайр у гэты вечар выконвала ролю гаспадыні з пэўнай неахвотай. Шкада было, што ўрадавы саветнік Хен, былы начальнік Штэфі, настаяў не выключаць радыё, каб не прапусціць якіх-небудзь паведамленняў. Ад палітыкі нідзе не схавацца.

— Калі мы будзем вымушаны пакінуць Познань, дык наогул невядома, куды падавацца,— сказала жонка ўрадавага саветніка. Яна сама была з Усходняй Прусіі.

Люсі Швентмайр адмахнулася.

— Выехаць з Познані? У гэта я не веру. Калі і трэба будзе, дык толькі часова. У такім выпадку, гаворыць мой муж, установы павінны трымацца разам, каб адразу быць гатовымі, калі прыйдзе пара, зноў заняць свае старыя месцы.

Фраў Хен уздыхнула.

— Будзем спадзявацца, што да гэтага не дойдзе. А то палякі тым часам ачысцяць нашы кватэры. Адны толькі дываны! Яны ў нас усе натуральныя. Ніводнай рэчы я б тут не пакінула.

Губерле, маладая дзяўчына са службы Швентмайра, якая бывала ў доме, таму што была аўстрыячка і сябравала са Штэфі, усміхнулася не зусім пачціва.

— Атрымаўся б абоз з адной мэбляй,— сказала яна.

Фраў Хен загарачылася.

— Вам добра смяяцца, у вас нічога няма, узялі свой чамадан — і паехалі дадому.

— Дадому! Да Лінца далёка,— сказала дзяўчына.

Яна пайшла следам за гаспадыняй на кухню па шклянкі. Люсі Швентмайр дзяўчына падабалася. Яна напамінала ёй Штэфі. З таго часу, як Штэфі не было з імі, у прасторнай кватэры не хапала яе вясёлай цеплыні. З'яўленне ў Штэфі пазашлюбнага дзіцяці было для Швентмайра ўдарам. І вось яна, пакінутая на волю лёсу, жыла адна ў Дрэздэне. Хлопчыку ўжо, мусіць, каля чатырох тыдняў. Люсі Швентмайр адчула нешта падобнае на чуласць. Калі надвор'е палепшае,

вясной, яна абавязкова наведае яе, нават калі Швентмайр будзе пратэставаць. Урэшце, гэта — жаночая справа. Акрамя таго, там можна б сустрэцца з Эвай. Магчыма, яна таксама прыехала б у Дрэздэн. Пара пабачыцца. Эве, відаць, летась прыйшлося нялёгка. Яна ж паведамляла заўсёды толькі намёкамі. Штэфі — больш адкрытая, праз яе Маці дазнавалася пра такія-сякія падрабязнасці. У прынцыпе, Люсі Швентмайр ганарылася сваёй дачкой. Няхай бы хто іншы паспрабаваў дамагчыся таго, што Эва! Густль, вядома, разумеў гэта, хоць і не хацеў прызнавацца. І яго злосць на Штэфі была тым мацнейшая, чым больш умацоўвалася Эвіна становішча ў Штэціне. Ён цяпер пазбягаў выразаў накшталт «спадчынныя заганы» і да таго падобнага.

Яна ўздыхнула з палёгкай, калі нарэшце пачула, як стукнулі дзверы ў прыхожай. Ён яшчэ ніколі так доўга не затрымліваўся на службе. На жаль, госці сабраліся ўжо разыходзіцца.

Ён выглядаў вельмі змораным і толькі адмахнуўся, калі яна прапанавала папрасіць гасцей пабыць яшчэ. Не, не, хай лепш разыходзяцца. Ён ухіліўся ад позірку ўрадавага саветніка, калі той пры развітанні запытальна глянуў яму ў вочы.

— Як становішча? Ёсць навіны?

— Не, не, нічога асаблівага. Мы праводзім ва ўстанове невялічкую рэарганізацыю, вось і ўсё.

— Ах, вось што, тады дабранач, партайгеносэ Швентмайр.

На бадзёрыя словы Губерле «Значыць, да заўтра, гер амтсляйтэр» Швентмайр, здалося, хацеў нешта адказаць.

Ён марудзіў падаваць ёй руку, але сабраўся з духам і моўчкі развітаўся. За апошнім госцем дзверы прыхожай замкнуліся на два замкі.

— Люсі!— Ён забегаў па пакоях, шукаючы жонку, якая збірала брудны посуд.— Пакінь гэта ўсё! Нам трэба пакавацца. Рускія каля Чэнстахова. Гэта — дваццаць пяць кіламетраў ад нямецкай граніцы.

Люсі як скамянела... Пакавацца! Толькі што ён сказаў Хену, што нічога асаблівага не здарылася... Значыць, усё ж такі ўцякаць з горада? Тактыка? Не. Раптам яна зразумела, што ўсё гэта сур'ёзна, што ўсё страчана. Яна бачыла гэта па мужы, які выглядаў вялым і змораным, хоць шмат гаварыў, ужываючы такія словы, як «часова» і «толькі мера перасцярогі для бяспекі па прычыне вялікай колькасці палякаў у горадзе». Яна не разумела, чаму ён адпусціў гасцей, нават не намякнуўшы ім.

— Эвакуацыя яшчэ неафіцыйная,— сказаў ён.— Не будзем рабіць панікі. Чым раней мы выедзем, тым больш рэчаў возьмем. Я спадзяюся яшчэ з адным кіраўніком аддзела дастаць грузавік. Вось

убачыш, праз дваццаць чатыры гадзіны ўсе дарогі ў заходнім напрамку будуць забіты машынамі.— Швентмайр не спускаў вачэй з тэлефона. Ён чакаў весткі. Пакавацца! З чаго пачаць? Люсі Швентмайр праверыла кладоўку. Не хапала чамаданаў і кашоў, каб упакаваць усё: бялізну, дарагі посуд, прадукты, касцюмы, паліто і абутак. Гільда заўтра вылупіць вочы, як прыйдзе. Найлепш будзе адаслаць яе адразу дадому. А можа, іх ужо не будзе, калі грузавік падгоняць у час.

Швентмайр пазваніў у сваю ўстанову. Ён ледзь не зваліўся з крэсла. Значыць, загад аб эвакуацыі ўсіх нямецкіх установаў ужо быў! Гэта азначала: заўтра раніцай адаслаць усіх супрацоўнікаў дамоў і даць права кожнаму выкарыстаць наяўны транспарт. Калі ўвесь горад зрушыць з месца, напэўна, гэта будзе нялёгка.

— Ці не маглі б мы ў такім выпадку ўзяць з сабой Губерле? Дзяўчына зусім адна,— сказала Люсі, пачуўшы, што ўстановы выязджаюць неарганізавана. Гэта пацвердзіла, што звароту назад ужо не будзе.

— Калі дастанем грузавік, дык будзе відаць. Упэўненасці няма. Прабіваюць.

«А куды мы паедзем?»— спыталася ў сябе Люсі, зачыняючы вялізны куфар. — Магчыма, на першым разе нам дасць прытулак Штэфі, — сказала яна.

Швентмайр стаяў перад шуфлядамі кніжнай шафы, дзе ён хаваў свае каштоўнасці.

— Не, — не пагадзіўся ён,— ты паедзеш да сваіх бацькоў у Лангенбрук.

— А ты?

— Я, вядома, павінен далажыцца ў Берліне. Ці ты думаеш, што мы ўжо здаёмся?

Ён пачаў складваць у дарожны кош карабкі сігар, некалькі бутэлек французскага каньяку, мясныя кансервы і тканіну на касцюм.

— Паслухай,— яго голас гучаў крыху няўпэўненай зусім не так рэзка,— вы паслалі тады касцюм Эве, праўда? Ён, мусіць, добра падышоў ёй, матэрыял быў выдатнай якасці — наогул, самае лепшае з таго, што я калі-небудзь трымаў у руках. Напішы ёй адразу з Лангенбрука, што яна можа зноў прыязджаць туды як дамоў, хай не сумняваецца. Яна ж не злапомная, так? Вядома, яна ведае жыццё і павінна зразумець, што ў кожнага можа быць мінута слабасці, потым сам шкадуеш. Але што ты там робіш, Люсі?

Ён гаварыў праз адчыненыя дзверы ў суседні пакой і раптам убачыў, што рукі жонкі, занятыя дагэтуль справай, апусціліся, што яна села на чамадан і ўтаропілася на яго.

«Вось, значыць, якія справы»,— падумала Люсі Швентмайр. Становішча такое безнадзейнае, што ён ужо думае, што будзе пасля! Аб часе адплаты. Хто запатрабуе справаздачы? Палякі? Гільда? Яе першы муж у Амерыцы? Пра гэта ў яе не было ніякага ўяўлення. Але ў гэты момант яна ўсёй душой ненавідзела свайго другога мужа, які з усіх сваіх касцюмаў не ўпакаваў толькі карычневай формы, ужо цяпер шукаў сабе апраўдання і ўсё-такі сцвярджаў, што нічога не страчана.

Спрачацца на гэту тэму, аднак, часу не было. Зазваніў тэлефон. Перадалі, што атрымаць грузавік — справа безнадзейная. Затое для выезду рыхтуецца службовая машына. Цяпер ужо стала цяжка дастаць бензін.

Швентмайр быў раз'юшаны. Значыць, яго абышлі больш высокія інстанцыі! Значыць, той-сёй даведаўся раней за яго! Напэўна, ужо машыны, нагружаныя мэбляй, імчалі на захад.

Ён акінуў позіркам парад чамаданаў і скрынак, якія ўжо выставіла жонка. І паловы гэтага не памесціцца ў яго чатырохмеснай легкавушцы. З болем у сэрцы ён пачаў распакоўвацца.

— Ці нельга ўсё ж узяць Губерле?— нясмела спыталася Люсі.

— Можа, ты ў Лангенбрук рашыла прыехаць з адной папкай? Да свайго бацькі?— спытаўся ён кпліва ў адказ.

Яны працавалі зацята, таргаваліся за кожную рэч, якую адзін лічыў пільна патрэбнай, а другі меркаваў, што можна абысціся і без яе. Яны не заснулі ні на хвіліну. Ужо зашарэла раніца, калі Люсі пачула, як яе муж спускаўся ў двор. Ён зноў падняўся наверх з замкнутым тварам і паклаў на стол пісталет.

— Я застрэліў сабаку.

— Цэзара?— Яна ўздрыгнула.

— Так. Няўжо яшчэ і ён займаў бы месца і жор прадукты?

Ён меў рацыю. І ўсё ж яна была ўзрушана, што ён так лёгка расстаўся са сваім шматгадовым сябрам.

Потым Швентмайр апрануўся і паехаў на службу. Люсі нічога іншага не заставалася, як чакаць, але перш за ўсё трэба было купіць прадуктаў.

Каля дзвярэй яна сутыкнулася з Гільдай. Дзяўчына, пэўна, заўважыла па ёй, што ноч была бяссонная. Яе позірк стаў уважлівы.

Люсі была задаволена, што перахапіла Гільду, перш чым тая ўбачыла беспарадак у кватэры.

— Мы атрымалі вестку ад нашай дачкі,— сказала яна з робленай лёгкасцю і адвярнулася ад пранізлівага позірку полькі,— Яна захварэла і не можа без нас. Магчыма, мы там застанёмся на нейкі

час. Вось — разлік,— Яна працягнула дзяўчыне грошы,— Калі мы вернемся, мы паведамім табе.

Гільда ўсміхнулася праз сціснутыя вусны.

«Як і ўчора, калі разбіла дарагую міску»,— злосна падумала Люсі і паспешліва павярнулася. Яна хутка пайшла да вуліцы з гандлёвымі радамі. Тут яна адчула, што горад узварушыўся. Многія магазіны былі зачынены. Перад адчыненымі людзі ўтварылі доўгія чэргі. Толькі падышла чарга Люсі, як хлеб кончыўся. З усім натоўпам людзей, што стаялі за ёю, яна заспяшалася да наступнага магазіна. Там яна сустрэла фраў Хен.

— Ці не страх?— загаласіла тая.— Хто б мог падумаць яшчэ ўчора вечарам? Вы ўжо ўладзілі з ад'ездам?

— Не,— зманіла Люсі Швентмайр і засаромелася.

— І мы яшчэ не. Раптам не аказалася службовых машын, сказаў мой муж. Але думаю. Ён неяк знойдзе выйсце. Кажуць, што ўжо з полудня цягнікі не пойдуць. Ва ўстанове ўсім гавораць, каб далучаліся да цывільнага абозу. О божа, каб мы хоць ведалі, куды нам падацца!

Люсі падумала: нешта трэба рабіць. Дом у Лангенбруку вялікі. Яна назвала адрас сваіх бацькоў.

Яе непрыемна ўразіла, што Гільда ўсё яшчэ чакала каля дома, калі яна вярнулася на Швертфегерштрасэ. Гільда хацела забраць рабочы абутак і фартух. Проці волі Люсі ўзяла дзяўчыну з сабой наверх. Кухонны стол быў застаўлены дарагім посудам. Яна не магла перашкодзіць польцы зазірнуць у разгромленыя пакоі.

Кранутая раптоўным парывам спачування, Люсі ўзяла з шафы цёмную шарсцяную сукенку і падала яе Гільдзе.

Гільда не кранулася з месца.

— Мы не бяром падачак,— ціха, але выразна сказала яна,— Першыя танкавыя часці Чырвонай Арміі стаяць пад Лоддзю. Заўтра ўжо, магчыма, горад не будзе называцца Ліцманштат. Нашы людзі таксама ёсць там. Я ведаю.— Яна горда выпрасталася.— І я заўсёды ведала, што так будзе,— Яна пайшла, забраўшы свае драўляныя калодкі і шэры рабочы фартух. Люсі Швентмайр сцялася, калі дзверы за ёй зачыніліся.

Швентмайр пасля полудня яшчэ раз спыніўся з нагружанай машынай перад установай, каб узяць запасны бак з бензінам. Ён быў нервова ўзбуджаны. Нічога не ладзілася. Занадта позна ад'язджалі. А Люсі нават не дастала дастаткова хлеба. У апошнюю хвіліну яму яшчэ ўдалося памяняць дзве бляшанкі мясных кансерваў на бохан хлеба. Вось як павярнулася!

Напаследак перад будынкам установы ён убачыў Губерле. Яна

здавала тут вялізны чамадан, які на багажнай машыне павінны былі даставіць у Берлін. Дзе яны возьмуць машыну, Швентмайру заставалася загадкай. Але калі маладыя былі такія легкаверныя і аддавалі свае рэчы — за гэта адказнасці ён не нёс.

У лыжных штанах, шаліку і зімовым паліто, з дзвюма дарожнымі сумкамі на рулі веласіпеда — вось як адпраўлялася ў дарогу дваццацігадовая аўстрыячка.

— Цягнікі больш не ходзяць,— паведаміла яна,— Мы павінны ўвесь час ехаць толькі на захад, так нам сказалі, разам з цывільным абозам.

Яна нацягнула на рукі бясформенныя пальчаткі і асцярожна ўзлезла на цяжка нагружаны веласіпед, які хістаўся туды-сюды.

Люсі Швентмайр сядзела, заціснутая паміж чамаданамі і кашамі. Яна адвярнулася, калі дзяўчына паехала ў змрок ранняга студзеньскага вечара.

## 6
## ЧЫСЦЕЦ

Штабсцальмайстар Панцгаф са злосцю адзначыў, што цягнік зноў спыніўся. Ужо недалёка павінен быць Пазевальк. Цягнікі, што ішлі па раскладзе, мусілі чакаць, бо пуці былі занятыя таварнякамі. Гаварылі, што, як і раней, бесперапынна ішлі боепрыпасы і зброя на страшэнна блізкі Усходні фронт. Калі гэта было сапраўды так, гэтыя прыкрыя затрымкі можна было патрываць. Але тое, што ён пачуў у час непрацяглай інспекцыйнай паездкі па ваеннай акрузе, ніяк не спрыяла веры ў аптымістычныя паведамленні радыё і газет. Матэрыялы паўсюдна канчаліся. А кожны дзесяты з такіх дарагіх снарадаў, як «Фаў-2», аказваўся дэфектным. Такія звесткі паступалі з асобага атрада.

Панцгаф адклаў наведванне доследнай установы Востраў на канец. Ён ужо выканаў даручэнне аб роспуску астатніх службаў установы. Увесь завод разам з выпрабавальнымі цэхамі ўжо некалькі месяцаў назад быў канчаткова пераведзены ў цэнтральную Германію. Пад зямлёй, недзе каля Нордгаўзена, тысячы зняволеных канцлагера выраблялі гэтыя цуд-штуковіны, «Фаў-2».

Паны вучоныя паспяшылі выбрацца з усходніх тэрыторый. Відаць, яны лічыліся занадта дарагімі, каб трапіць у рукі рускім. Вайсковы служачы Панцгаф лічыў гэтых людзей дзівакамі, калі не вар'ятамі. Тое, што крыху прыціснулі Доктара, гэтага паўбога. Ён лічыў справядлівым. Памылка гэта была ці не памылка — не мела

асаблівага значэння. Адчуць над сабой уладу — карысна такім панам ва ўсякім разе. Яны ваююць толькі галовамі. Сумленныя салдаты на сваіх палігонах — так яны любілі называць свае лабараторыі — павінны былі трымаць язык за зубамі. І не дзіва, што за пяць гадоў яны не зрабілі нічога, што магло б вярнуць ваеннае шчасце, якое пасля Сталінграда перайшло да ворага. Замест гэтых заклятых ракет трэба было больш вырабляць танкаў.

Панцгаф быў старым кавалерыстам. Ён трымаўся традыцый. Калі артылерыю матарызавалі, кавалерыя рашыла пасадзіць частку сваіх часцей на самакаты. Пакуль тэхнічны прагрэс дайшоў да ракет, кавалерыст Панцгаф якраз прызнаў значэнне танкаў.

Увесь учарашні вечар ён прагаварыў пра гэта са сваім прыяцелем Ханке, які яшчэ стаяў на пазіцыі на Востраве з невялікім атрадам. Ханке быў гарачы прыхільнік ракет, як і ўвесь Востраў калісьці. Ён нават верыў яшчэ ў цуд, шчаслівы канец. «Ліквідаваць ворагаў ва ўласных радах»,— такі быў яго дэвіз, і ён ужо дапамог расправіцца з пэўнай колькасцю ненадзейных элементаў.

Панцгафу гэта здавалася наіўным. Ён лічыў, што прыйшла пара адчыніць чорны ход. Вялікая дзея ў сусветным тэатры скора закончыцца. Неабходна забяспечыць сабе надзейнае выйсце і непрыкметна засяродзіць увагу на эпілогу. Калі Ханке вёў цяпер паляванне на людзей і спадзяваўся сарваць злосць на дзяўчыне, напрыклад, Эве Леангард, якая, па яго словах, была яўрэйка на чвэрць, калі толькі яна пападзецца яму ў рукі, дык сам ён быў іншай думкі. На момант у яго адняло мову, калі ён даведаўся ад Ханке: у Леангард яўрэйская кроў! Значыць, яму падлажылі свінню. Яе паставілі начальніцай, на яе звярнуў увагу гебітсфюрэр, нават камендант! Бязглуздая гісторыя! Калі б Німц даведаўся пра гэта, у яго б задрыжалі калені. Ён зваліў бы ўсё на яго, штабсцальмайстра, бо гэта ён прапанаваў дзяўчыну, і палічыў бы сваім абавязкам падаць справу на расследаванне наверх. Вось тут яго, Панцгафа, і ўзялі б за шчэлепы! Але ён таксама не дурны! Недарма ён больш за два дзесяцігоддзі насіў вайсковы мундзір. За такі час навучышся выходзіць сухім з вады ў самых нечаканых сітуацыях — і яшчэ з выгадай для сябе. Цяпер трэба прывесці да ладу свае справы. Закадчыца інтэрната Леангард не можа паскардзіцца, што ён дрэнна аднёсся да яе. ёй хацелася ў Дрэздэн? Калі ласка, вайсковая акруга IV.

Запатрабаванне адтуль неяк прыходзіла. Будзе лепш, калі вайна скончыцца без яе прысутнасці тут. Калі б не было інцыдэнту ў падвале, яму было б усё роўна. А цяпер адкуль яму ведаць, ці не выкарыстае яна выпадак супраць яго? Панцгаф хацеў быць упэўненым і

не рызыкаваць.

Цягнік зноў крануўся. Ад штуршка прачнуўся яго спадарожнік, вайсковы ўрач. Ён разлёгся ў сваім кутку, уздыхнуў і сказаў:

— Свет спакойна канае.

Потым ён дастаў яду і пачаў лупіць яйцо. Гэта было вельмі вялікае яйцо, і Панцгаф далікатна разглядаў яго, таму што ўрач трымаў яго, нібы дэманструючы. «Зязюльчына яйцо», — падумаў Панцгаф.

— Гэта гусінае яйцо, — сказаў урач. — Смачнае.

Панцгаф крыху пакланіўся, згаджаючыся са старшым па званні.

«І ўсё роўна зязюльчына»,— падумаў ён. Як яна ўмудрылася! Яна павінна была запатрабаваць яшчэ раз дакументы, якіх не хапала ў асабовай справе. Яна цягнула, выкручвалася адгаворкамі. Ён сам тут крыху папусціўся, а пазней, калі школа згарэла, яго ўжо гэта больш не цікавіла. А, забудземся пра гэта! Німцу не трэба нічога ведаць. Яе трэба адправіць. Але крыху патрапятацца ёй варта. «Я гутарыў пра вас з цальмайетрам Ханке, — можна будзе сказаць ёй, між іншым. — Ён займаецца чысткай у сваім асяроддзі. Вораг на сваёй тэрыторыі, вы разумееце...— і толькі тады, калі яна здагадаецца, што яму ўсё вядома, даць ёй зразумець, што ў яго зусім іншая тактыка, чалавечная, так сказаць. Ён зробіцца яе добрым сябрам, які адважыцца на нешта большае, чым оберлейтэнант Розенталь, які з'явіўся пасля налёту нагружаны, як Дзед Мароз. Далібог, яна ўпэўнена: мужчына гатовы дзеля яе пайсці ў агонь і ў ваду! Няўжо нельга дапусціць, што і ён, штабсцальмайстар, у свае лепшыя гады — салдат, смяльчак з галавы да пят, не пайшоў бы дзеля яе на ўсё?.. Пазевалак. Змрочны вакзал. Панцгаф адказырнуў аматару яек і перасеў на цягнік на Штэцін.

— Хутчэй, хутчэй, нам трэба ехаць. Усё роўна, куды б цягнік ні ішоў. Магчыма, рускія яшчэ не дайшлі туды!

Высокая мажная жанчына з хвалістымі белакурымі валасамі абы-як засунула скрутак з пасцеллю ў перапоўнены вагон, прыняла ад маладой памочніцы дзяжурнага па вакзале траіх малых дзяцей і пачала праціскацца праз людскую сцяну, што засланіла ўваход у таварны вагон.

На Эву ў знак падзякі нават не зірнулі. Яна паволі развязала з рукава павязку дзяжурнай... Пакуль што — усё. Апошняя, каму яна дапамагла ўцячы разам з дзецьмі і цяжкімі манаткамі, была падобная на тых, каго вучылі рабіць дзяцей і камандаваць у школе рэйхснявест. Там жа ім прышчапілі і страх перад рускімі. Яна так ашалела ад страху, што за ёй гоняцца рускія, што, напэўна, ужо даўно згубіла б адно сваё дзіця, каб на вакзале пра яе ніхто не паклапаціўся.

Эва яшчэ раз прайшла па пераходах падземнага тунеля. Вось у гэтай нішы некалькі тыдняў назад яна стрыгла Бургль. А там, у тым бакавым пераходзе, яна толькі пазаўчора наткнулася на старую бабулю, якая, як выявілася, ужо дзень і дзве ночы сядзела там, скурчыўшыся на сваіх манатках, пад прыглядам медыцынскіх сясцёр, якія, праходзячы, давалі ёй супу і ячменнай кашы. Старая так дрэнна чула, што не магла зразумець ніводнай аб'явы пра адыход цягнікоў. Калі ж яна заўважала, што людзі беглі, хапаючы рэчы і дзяцей, ёй ужо было запозна. Калі яна так-сяк дацягвалася да лесвіцы, падыходзіла памочніца, брала яе пад рукі, вяртала на старое месца і тлумачыла, што на гэты цягнік яна ўсё роўна не паспее і няхай едзе на наступным.

Старая нарэшце махнула на ўсё рукой і ўпала ў апатыю. Эва з вялікай цяжкасцю змясціла яе, самую бездапаможную сярод бездапаможных, у нейкі вагон.

Ужо некалькі тыдняў было так: цягнікі на ўсход далей як да Штэціна не ішлі, іх пасажыры запаўнялі чакальную залу, праходы і пераходы цэнтральнага вакзала. Цягнікоў з кожным тыднем рабілася ўсё менш, бывалі дні, калі адыходзілі толькі два. Іх састаўлялі з таварных вагонаў. Амаль ніхто не пытаўся, куды поезд ідзе. Толькі паехаць, паехаць далей, глыбей пад ахову рэйха, спадзеючыся, што ён іх абароніць, цяпер, калі ўсходнія фарпосты хісталіся і рушыліся.

Эва неахвотна думала пра тое, што і яе маці была сярод тых, хто пабег у панічным страху, баючыся ўдару маятніка сусветнага гадзінніка, які, разгайданы зладзейскай рукой, вяртаўся цяпер да такой жа вышыні, якой ён дасягнуў на другім баку.

Эву не цягнула ў Лангенбрук. Яе мэта была маленькі домік Штэфі ў Дрэздэне. Там на свет з'явілася дзіця, там знайшла прытулак Бургль. Заўтра яна паедзе, хай сабе нават стоячы ў таварным вагоне, усё роўна. Ёй нават не паверылася, калі Панцгаф сказаў ёй. Нешта яму было вядома пра яе. Ён размаўляў з Ханке. Пасля апошняй камандзіроўкі ён абыходзіўся з ёю ветліва, амаль прыязна. Яна ўжо ледзь не паверыла яму, але потым ёй прыпомніўся Говер, у якім адбылася такая ж раптоўная перамена. Магчыма, і ў Панцгафа былі тыя ж прычыны: «Мы з табой заўсёды былі ў добрых адносінах».

Эва змораная вярнулася дадому. Гаспадар, хворы сэрцам, заўчасна адпраўлены на пенсію супрацоўнік страхавой кампаніі «Дойчэр геральд», якая страхавала на выпадак смерці, аб'явіў ёй, што яе чакае нейкі пан. Яго занятак, скіраваны на замагільны свет, здавалася, затуманіў яму розум. У апошнія тыдні Эва даволі часта адчувала на сабе яго змрочна-дакорлівы позірк, калі занадта моцна ляпала дзвярыма ці перамахвала адразу праз дзве прыступкі. А

цяпер, калі нейкі мужчына адважыўся спытацца пра яе, яго позірк стаў проста абвінавачым.

Розенталь не мог адвыкнуць сігналіць вечарам перад домам.

— Мне зноў захацелася пагутарыць з прыстойным чалавекам, — сказаў ён, калі яна выбягала, каб спыніць гэты неасцярожны шум. Ад яго амаль заўсёды несла алкаголем.

— У нас цяпер моташна,— прызнаўся ён — Чым там можна яшчэ займацца? Застаецца толькі піць. Справа — дрэнь.

Некалькі дзён назад, калі яны ў змроку стаялі каля яго матацыкла з каляскай, яна папракнула яго:

— Каля Старграда і Пірыца сцякаюць крывёй дзеці, гітлер'-югенд, а вы, старыя вопытныя салдаты, папіваеце ды займаецеся спекуляцыяй.— Яна чула пра гэта ў час дзяжурства на вакзале, у бараку Чырвонага Крыжа. Памеранскі вал быў здратаваны танкамі. Было так: дзеці, якія лапатамі ўзводзілі яго, цяпер, хто яшчэ не ляжаў у магіле, выкапанай для сябе, адбіваўся «фаўнамі». «І нават калі нам прыйдзецца кіпцюрамі ўчапіцца ў нашу свяшчэнную памеранскую зямлю!»— вось як падбадзёрваў Гебельс хлапечы дух. Такія, як Розенталь, ужо не праглынулі б такога. Вядома, не. Але ён, Розенталь, і пальцам не варухнуў, каб спыніць гэта вар'яцтва.

Гаспадар крыкнуў ёй услед, калі яна падымалася па лесвіцы:

— Вашаму госцю нельга заставацца тут, каб вы ведалі. Я не дазволю прымаць тут мужчын.

Эва не адказала яму, бо ўжо адчыніла дзверы пакоя і аказалася твар у твар з Гансам Ціфенбахам. Яна адчула, як затрэсліся ў яе калені, нібы пасля надзвычайнага фізічнага напружання.

Каб не кінуцца яму на шыю, яна села на першае крэсла.

Ён хутка падышоў да яе.

— Што з табой, Эва? Ты хворая?

— Не, не, я толькі ўявіла сабе, што было б, калі б ты прыехаў на суткі пазней... Заўтра раніцай я ад'язджаю ў Дрэздэн.

Ён сеў насупраць і ўзяў яе рукі ў свае. Яна доўга дапытліва глядзела на яго. Зморшчынкі ў кутках вачэй пагусцелі, вочы, здавалася, запалі яшчэ глыбей. Ён звыкся з нейкім нервовым жэстам. Вялікім і ўказальным пальцамі правай рукі ён праводзіў сабе, пачынаючы ад знешніх куткоў вачэй, па вачах, пры гэтым моршчачы лоб і нос. З кішэні пінжака тырчалі акуляры. Яна двума пальцамі выцягнула іх. Ён сказаў з усмешкай:

— Я зняў іх, каб не напужаць цябе. Ты магла б наогул не пазнаць мяне.

Яна папрасіла надзець іх.

— Ты нават падабаешся мне ў іх. У цябе страшэнна разумны выгляд.

— Я адчуваю сябе зусім наадварот, — горка сказаў ён.

На душы ў яе стала так, быццам свет пасвятлеў. Некалькі тыдняў яна вымушана была толькі дапамагаць і суцяшаць, нягледзячы на тупы цяжар у душы. Ці не цяпер, калі гэты цяжар зваліўся, трэба набрацца сілы, каб адкінуць сумненні, займець надзеі? Як гэта было неабходна, яна адчула, яшчэ не ведаючы падрабязнасцей пра яго жыццё ў апошнія месяцы. Ён губляў грунт пад нагамі. Гэты грунт быў не нацыскі рэйх, па якім бы ён жалобіўся, гэта быў парушаны парадак, які быў патрэбны яму, як паветра лёгкім. Ён ляжаў на вузкай канапе з цвёрдымі бакавымі падушкамі, ляжаў сапраўды там, дзе «Дойчэр Геральд» не мог дапусціць мужчынскага азадка, адпаведна з распарадкам дома. Абражаная годнасць, магчыма, ганяла цяпер гаспадара па пакоі, даючы час на абдумванне, якім чынам даць самы эфектыўны выхад свайму бяссіллю.

Калі праз паўгадзіны не пачулася стуку ў дзверы. Эва з палёгкай уздыхнула. Заўтра яна сцерпіць любыя папрокі, з усмешкай прыме любыя вымовы.

Ганс Ціфенбах расказваў, быццам пра чыесьці неверагодныя прыгоды. Восем тыдняў назад яна нечакана забралі ў Берлін. Ён не меў права нікому паведамляць свой новы адрас. Ва ўпраўленні вайсковага ўзбраення яго трымалі пад замком разам з трыма супрацоўнікамі. Яны спалі, елі, жылі, працавалі каля сямі тыдняў у двух памяшканнях, куды староннім уваход быў забаронены. У чым быў сэнс? Гэта былі апошнія намаганні зрабіць сапраўдны цуд, цуд ваеннай адплаты, якога ўсё яшчэ не было, на які ўсё яшчэ спадзяваліся.

— Лёйпальд хітра схаваўся ў нару.— Голас Ціфенбаха задрыжаў,— Прытварыўся хворым. А маё прозвішча стаіць жа таксама на кнізе.

— Ваша сумесная праца ўбачыла свет?

— З'явілася.— Ён дастаў з кішэні кніжку ў шэрым паўкаленкоравым пераплёце. «Фізіка атамных ядраў»— пагібельная назва ў пагібельны час. Адразу звярнулі ўвагу, зразумелі, што я зусім не там, дзе павінен быць.

— І што цяпер?

Ён перавярнуўся на другі бок на вузкай канапе, павярнуўся да яе.

— Я заўтра раніцай разам з табой сяду ў цягнік. Твая мэта — Дрэздэн. Яна такая ж бессэнсоўная, як і мая.

Эва здзівілася.

— Мая мае сэнс. Мяне там чакаюць. У Штэфі — дзіця.

— Дзіця.— Двума пальцамі правай рукі ён правёў па вачах.— Не, гэта не бессэнсоўна. Гэта — не. Для мяне цяпер існуюць толькі мянушкі, зашыфраваныя назвы — вось мая арыядніна нітка. У маіх дакументах стаяла: прадпрыемства Таненберг, месца размяшчэння Хайдэкраўт. Цяпер: канчатковы пункт прыбыцця Горная крэпасць.

— Дзе гэта?

— Недзе ў Баварыі. Мне здаецца, што трэба паспяшацца, калі я яшчэ хачу паспець туды.

— Застанься. Паедзем у Дрэздэн.

Ён узяў яе руку, пацалаваў, слаба ўсміхнуўся.

«Ён не ўспрымае гэта сур'ёзна,— падумала яна.— Яму і ў галаву не прыходзіць, што можна застацца і разам дачакацца канца. Але ж ён не хоча мець багажу, у яго павінны заўсёды быць свабодныя рукі». У апошнія тыдні, у тунелі, на перонах, дзе можна прайсці толькі зігзагамі, прабіраючыся паміж пасцельнымі скруткамі, дарожнымі кашамі, скрынкамі і нагружанымі тачкамі, паміж зняможанымі, скалелымі дзецьмі і бездапаможнымі старымі, яна часта думала: як бы ён выглядаў тут? Ён, Ганс, які любіў засунуць рукі ў кішэні скуранога паліто, які ў дарогу клаў зубную шчотку і брытву ў кішэні і не вазіў з сабой нічога, акрамя некалькіх зачытаных малафарматных кніжак. І вось ён прыехаў з чамаданчыкам, каб адправіцца далей. У іх былі розныя канечныя станцыі. Гэта яе непакоіла, хоць яна не ведала, што будзе пасля прайгранай вайны.

Яны думалі, здавалася, над тымі самымі пытаннямі.

— Застанься! Больш немагчымага ты не магла прыдумаць,— пакпіў ён пяшчотна.— Праз колькі дзён яны паставілі б мяне да сцяны.

Яна адвярнулася.

Ён з сур'ёзным выглядам разглядаў яе.

— Я ведаю, што ты думаеш: адважся нарэшце хоць на што, усё роўна ўсё пайшло дагары нагамі, умоўнасцей больш няма. Нас ашукалі, нам нахлусілі, мы будзем дурнямі, калі яшчэ будзем адчуваць сябе абавязанымі некаму. Мы маем цяпер толькі адно аднаго.

Ён падняўся, гаварыў хутчэй, чым звычайна, у глыбокім хваляванні.

— Ты плюнула б на забарону свайго гаспадара-мешчаніна і пакінула б мяне тут начаваць, я ведаю. Заўтра ж нас усё роўна тут не будзе. Але я б на гэта не пайшоў... Так, а чаму б і не? Я мог бы жыць у палатцы ў пустыні, ты ведаеш, але пакуль мы ў чалавечым грамадстве, я цалкам прызнаю яго законы. У тым ліку — вузкалобыя законы

твайго гаспадара, які хоча сам распараджацца ў сваім доме. Я павінен прызнаваць і законы вайны. Не таму, што баязлівец, я падпарадкоўваюся загаду, а таму, што не хачу здраджваць самому сабе. Мне трэба было б адмовіцца ад сваёй натуры. Я гэтага не магу. Рабі што хочаш!— ён прыціснуў два пальцы да куточкаў вачэй. Гэта быў бездапаможны жэст.

Яна, збянтэжаная, сядзела перад ім.

— Што гэта можа быць — Горная крэпасць?

— Нічога асаблівага. Нас проста недзе хочуць сабраць усіх разам. А ў першую чаргу, мусіць, не хочуць, каб мы трапілі ў рукі рускіх. Магчыма, нас лічаць трафейнай маёмасцю Я не ведаю.

Яны сядзелі, прыціснуўшыся адно да аднаго, нейкую хвіліну памаўчалі. Эва ціха спыталася:

— Ты ўяўляеш сабе, як мы будзем жыць потым?

— Не. Я яшчэ не бачу прынцыпу, кіруючыся якім можна прывесці ўсё да ладу. Лёйпальд лічыць, што парадак прыйдзе з усходу. Я мала думаў пра гэта. Такія пытанні не мелі нічога агульнага з маёй працай. Ты ж ведаеш: трэцяе крыло! Вось я і не ведаю, ці ўскладаць на яго надзеі, ці чакаць яшчэ большага непарадку.

— Значыць, самае цяжкае ў тваім жыцці яшчэ не вырашана?

Ён адразу здагадаўся, пра што яна гаворыць.

— Адрозніць праўду ад няпраўды. Вось галоўнае для цябе! З-пад замка мне было занадта мала відаць. Магчыма, мір дапаможа нам разабрацца ў гэтым. Магчыма!

Яны правялі ноч у чакальнай зале, у цёплых выпарэннях сотняў бежанцаў, якія спалі на сваіх клунках; старыя — храпучы і сапучы, дзеці — часам хныкаючы, калі занямелыя рукі знясіленых маці апускаліся.

Яны сядзелі на цвёрдых крэслах, Ганс Ціфенбах прыхіліў галаву да калоны. Ён абняў Эву, і яна прытулілася да яго пляча.

«Калі цяпер я яго доўга не ўбачу,— думала яна, дрэмлючы,— у маёй памяці назаўсёды застанецца гэта карціна: мы ўдваіх сярод скопішча людзей, якія не бачаць нас. Я заўсёды буду адчуваць абдымкі яго рукі, якая прытрымлівала мае плечы, і цеплыню яго далоні на баку».

— Часам плацяць за тры ложкі, а карыстаюцца толькі адным,— сказаў ён з пачуццём горка-салодкага ўспаміну пра «Вялікага спадчыннага герцага»,— а ў цяперашнім становішчы каралеўства аддаў бы за вузкія нары.

Яны гаварылі пра іх дні ў Гюстраве. Эва расказала яму пра не да канца здзейсненую сустрэчу з анёлам Барлаха, прызналася яму, што

ўвесь леташні год успрымала гэтую скульптуру як сімвал.

— У мяне тады было правільнае прадчуванне,— сказала яна,— а цяпер я ўжо не ведаю, што будзе. Я ўжо амаль не памятаю, што такое мір, і не магу ўявіць сабе, які ён будзе. Усе гэтыя людзі,— яна абвяла позіркам навокал сябе,— бяздомныя, яны страцілі глебу пад нагамі.

Яны апошнія, каб не штурхацца, улезлі ў вагон-цялятнік доўгага цягніка для бежанцаў. На пероне Ганса Ціфенбаха шмат разоў затрымліваў вайсковы патруль. Калі ён паказваў свае дакументы, яны аддавалі чэсць.

Усю дарогу іх пакутліва трэсла. Яны сядзелі ў змроку побач на чамаданах. Цягнік часта спыняўся. Кожны раз Эва думала: выйграна яшчэ некалькі хвілін, яшчэ цэлая вечнасць разам з ім. Будучыня заставалася загадкай, і яны размаўлялі пра мінулае. Гаворачы, яны амаль развесяліліся.

— Што парабляе Карла Вінтэр?— пацікавілася яна пазней.

— Для яе праекта нарэшце, дзякаваць богу, не хапіла матэрыялу.

— Яна, мусіць, будзе і ў Горнай крэпасці. Адна-адзіная жанчына.

— Магчыма. Але і цяпер табе не варта зайздросціць ёй. У яе ўсё скончылася, а ў цябе толькі пачынаецца.

— Каб толькі ведаць — дзе і як! Мне здаецца, трэба яшчэ раз пачаць усё нанава. Ва ўсіх адносінах. Але мне ўжо споўніцца дваццаць тры. А якая ў мяне адукацыя?

— Твой вопыт кампенсуе шмат якія прабелы.

— Вопыт — наўрад ці! Я ж стаяла не з таго боку пасля працоўнай павіннасці. А потым пайшло адно за адным. «І певень не паспее заспяваць, як тройчы ты адрачэшся ад мяне», так гаворыцца ў Бібліі. Вось якая я.

— Ад чаго ты пакутуеш? Пакінь гэтыя сімвалы і параўнанні, будзь сабой, гэта самае лепшае. Ты вершы яшчэ пішаш?

— Зрэдку. Але яны толькі гучаць ува мне. Магчыма, мне не хапае — як ты гэта назваў — прынцыпу, які прыводзіць усё да ладу.

— Прынцып яшчэ будзе.

— Вось бачыш, мы ўжо ў будучыні.

— Таму што без яе нельга жыць. Кожнае новае імгненне — будучыня. Пакуль мы сядзелі ў зале, язда ў вагоне была яшчэ нязведанай будучыняй, а цяпер мы ўжо жывём ёю.

Эва кіўнула.

— Наступны адрэзак будучыні — наша развітанне.

— Не будзем адносіцца да яго хваравіта. Не будзем ускладняць. Будзем спадзявацца, што гэта ненадоўга.

«Ненадоўга, ненадоўга»,— стукалі колы і каціліся да Дрэздэна.

«Не зацягвай развітання,— загадвала сабе Эва,— Пакажы яму, што ты таксама верыш у гэтае «ненадоўга».

Вакзал у Дрэздэне кішэў. Бежанцы з Познані і Сілезіі запоўнілі пероны. Вайсковыя патрулі затрымлівалі маладых цывільных. Іх тлумачэнні, калі будуць цягнікі, былі больш падобныя да загадаў. Наступны! Наступны! Кожны мужчына — патрэбны! Дзе і навошта, гэта ведаюць толькі бог і генералы.

Эва добра арыентавалася на вакзалах. Яна ў паспешлівым тлуме знайшла сабе востраў. На дзве хвіліны.

— Беражы сябе,— сказаў Ганс Ціфенбах.

— У цябе ёсць адрас Штэфі?— спыталася яна.

— Помню,— сказаў ён.

Потым яе востраў, цеснае вольнае месца паміж дзвюма багажнымі тачкамі, знік.

Ганс ускочыў ужо на хаду. У праёме адкрытага вагона-цялятніка ён стаяў, шырока расставіўшы ногі, моўчкі, з вымучанай усмешкай, безбагажны сярод нагружаных. Яны глядзелі адно на аднаго і больш нічога не бачылі.

Ненадоўга! Што гэта азначала ў той час, калі тысяча гадоў прайшла за дванаццаць?

«Магчыма, мы потым будзем жыць у Дрэздэне»,— думала Эва, едучы ў трамваі па горадзе. Яна ўбірала ў сябе ўсё, што бачыла: шырокую плынь Эльбы, медныя дахі сабораў, сады, якія пачыналіся, здавалася, з самага цэнтра горада.

Ёй было цікава, і сэрца яе моцна забілася, калі яна ішла праз запушчаны сад, у канцы якога стаяў маленькі домік, Эвін прытулак. Яна заўважыла, што за ёй нехта назірае, і як толькі яна падышла да дзвярэй, яны адчыніліся. Рука Бургль падхапіла яе. Гэта была цудоўная сустрэча. І тое, што крычаў малы, таксама было цудоўна. Здаровае дзіця нарадзілася ў першы дзень каляд, хлопчык, якога Штэфі назвала Райнерам.

Толькі адно было нядобра: Штэфі ляжала ў бальніцы з мастытам. Урачы называлі гэта запушчаным мастытам. Сілы на супраціўленне не было, гаварылі ўрачы, справа ў дрэнным харчаванні, а дзіця забрала ў маці ўсё, што яму трэба было.

У Бургль цяпер кароткая прычоска. Яна пахудзела. Нялёгка было пражыць без картачак. Яна павяла Эву да малога, якому было толькі некалькі тыдняў. Хлопчык выглядаў бледным, але дужанькім.

— Мне ўжо часам здаецца, што гэта маё дзіця,— пяшчотна сказала Бургль.— Ён мяне ўжо добра ведае. Ты бачыш, як ён весялее, калі я падыходжу.

Эва не бачыла, але кіўнула. Дзіця растрывожыла яе. Яно было часцінкай Штэфі і Рольфа, яно нарадзілася на свет, бо яны кахалі адно аднаго... Пасля паездкі на Руген яна, Эва, баялася, што ў яе можа быць дзіця. Яна баялася гэтага цяжару, ахвяра і адмаўленне здаваліся ёй тады занадта вялікімі. Штэфі была маладзейшая за яе. Яна ні пра што больш не думала — толькі пра сваё каханне. Магчыма, так яно і лепш! Эва здавалася сабе вельмі нясталай у параўнанні з малодшай сястрой, якая навучылася ахвяраваць, стаўшы маці, і цяпер пакутавала за гэта.

— Пайшлі, сходзім да яе,— сказала Бургль,— Райнер пакуль што спіць. Да бальніцы не вельмі далёка.

Штэфі якраз зрабілі ўкол. Яна выглядала бледнай і знясіленай. Ее суседка па палаце ўжо ўставала. Яна далікатна выйшла з палаты, убачыўшы, што Штэфі вельмі ўзрадавалася гасцям. Штэфі паказала на свае грудзі. Правы бок быў занадта высока падвязаны, левы — забінтаваны.

— Яны правялі сапраўдную каналізацыю,— сказала яна з сумнай усмешкай.— Усё яшчэ збіраецца гной. Добра, што Рольф не бачыць. Напэўна, застануцца рубцы.— Ціха і крыху сарамліва яна дадала:— Рольф асабліва любіў гладзіць мне грудзі. Ты думаеш, яму будзе непрыемна, калі ён убачыць рубцы?

— Усё загоіцца,— суцешыла Эва.

— Будзем спадзявацца! Як табе падабаецца Райнер? Салодзенькі мой. Праўда. Ён падобны на Рольфа? На жаль. Ён нарадзіўся без шлюбу. Тата злуецца на мяне, але так ужо атрымалася: Рольфу не дазволілі прыехаць яшчэ раз, а завочны шлюб я лічу безгустоўнасцю. Але вайна павінна хутка скончыцца. Тады яны выпусцяць Рольфа з бальніцы. — Яна спыталася шэптам: — Ты верыш, што ён захварэў? Я не веру. Ён проста не захацеў больш забіваць людзей. Вярнуўшыся. Ён будзе, пэўна, такі, як і раней.

Бургль заўважыла пакутлівы позірк Эвы. Непрыкметным поціскам рукі яна папрасіла яе маўчаць і хутка сказала:

— Пачакай толькі, Штэфі, пакуль прыйдзе мір. Тады ўсё праясніцца.

— Вядома,— павольна прамовіла Эва.— Бургль мае рацыю. Мы ж усе не такія яшчэ старыя. Рольф зашмат бачыў смерцяў, вось адкуль усё гэта.

Штэфі паспрабавала ўстаць.

— Але ж цяпер у яго сын. Гэта павінна дапамагчы яму забыць пра жахі, як ты думаеш?

Бургль паправіла ёй падушку пад галавой.

— Вядома, гэта дапаможа яму, Штэфі. Райнер такі разумны і прыгожы. Эва будзе цяпер з намі, і мы будзем добра даглядаць яго.

Штэфі адлеглася, з палёгкай уздыхнула. Яна паглядзела на Бургль з удзячнасцю.

— Я так рада, што мы сабраліся ўтрох, я хацела сказаць — учатырох — з Райнерам. Можа, дасць бог, я хутка выйду адсюль. Нядобра вось так ляжаць увесь час адной і чуць, як усюды ўсё рушыцца. Мне здаецца, што настрой цяпер такі, як у буру. Хочацца ўтуліцца і адчуваць побач некага, каго любіш. І ў вас тое ж самае на душы?

Бургль і Эва кіўнулі.

— Праўда ж, мы будзем разам, пакуль не надыдзе мір?

— Вядома.— Эва, кранутая, паціснула руку Штэфі.

Бургль нерашуча напомніла, што трэба ісці —Райнер адзін. Эва паабяцала прыйсці на другі дзень вечарам. Перад ёю ляжаў яшчэ нялёгкі шлях. Яна рашыла наведаць бацькоў сваёй сяброўкі-нябожчыцы Марліс у Мейсене. Яна не магла адкладваць, цягнікі хадзілі з кожным днём усё горш.

Штэфі кіўнула ім і, уздыхнуўшы, лягла і падклала левую руку пад перавязаныя грудзі.

— Перадавайце прывітанне майму хлопчыку, — сказала яна са скрыўленай ад болю ўсмешкай.

Штэфі адчувала сябе такой шчаслівай, якой даўно ўжо не была. На яе коўдры ляжала пісьмо з Лангенбрука Маці паведамляла, што яны пасля ўцёкаў, поўных прыгод, па забітых машынамі і людзьмі дарогах, дзе ў іх машыне зламалася вось, прыбылі нарэшце на радзіму. Свае рэчы яны часова пакінулі у Франкфурце-на-Одэры. Праўда, Густль Швентмайр пабыў у Лангенбруку толькі некалькі дзён. Ён зноў выехаў, каб пашукаць сабе занятку. Апошнія словы маці кпліва узяла ў двухкоссе.

У пісьме не адчувалася злосці, былі толькі пытанні і парады, якія датычылі малога, а кульмінацыяй было пытанне пра Эву — пра яе даўно не было ніякіх звестак.

Штэфі з нецярплівасцю чакала прыходу Эвы, каб паказаць ёй пісьмо. Бургль мела рацыю, усё уладзіцца, толькі б быў мір, і з Рольфам таксама. Шчыра кажучы, яна магла быць зусім спакойнай. Жахліва, калі б ён быў цяпер у Будапешце або каля Шнейдэмюля. Яна вырашыла пагаварыць з Эвай яшчэ раз. Яна ж бачыла яго апошняя.

Але сястра не прыходзіла. Штэфі прачакала цэлы дзень. Што ж, магчыма, Эва затрымалася у Менсене даўжэй чым планавала. Вядома, старыя вельмі узрадаваліся, што яна прыехала. І цягнікі, пэўна, ходзяць нерэгулярна. Гаварылі, што рускія стаяць ужо пад Герліцам, а

на вакзалах бежанцаў — яблыку упасці няма куды.

Затое як надзейна адчуваеш сябе ў цудоўнай сучаснай радзільнай клініцы. «Я і кроку не зраблю з Дрэздэна — падумала Штэфі, — ніводнага кроку. Я цяпер не адна. Ах, як цудоўна адчуваць, што ты не адна!»

Сірэны паветранай трывогі адкінулі яе ад таго парога, які раздзяляе сон і яву. Яна неахвотна устала, пераадолела лёгкае галавакружэнне і няспешна накінула халат. Грудзі балелі пры кожным руху левай рукі.

Далёкі гром прымусіў яе ўздрыгнуць. Гром нарастаў, здавалася, набліжаўся, як навальніца, і выбухнуў аглушальным грукатам. Калідоры і лесвіцы клінікі запоўніліся людзьмі. Сёстры неслі насілкі, падтрымлівалі жанчын, якія ледзь трымаліся на нагах і ад слабасці і жаху вось-вось маглі страціць прытомнасць. Звінелі асколкі, дрыжалі сцены, а перапалоханыя людзі не паспелі яшчэ дабрацца да падвала.

Штэфі, адчуваючы нясцерпны боль у грудзях, трэслася ў доўгім памяшканні, якое пад зямлёй злучала два галоўныя крылы вялікай клінікі. Сёстры нястомна прыносілі насілкі і пасцелі, на якіх ляжалі хворыя.

Грукат, што быў падобны на гром, прымусіў скалатнуцца і самых аслаблых хворых. Парадзіха закрычала, не помнячы сябе:

— Маё дзіця! Дзе нашы дзеці?

Гэта было як сігнал усяму хору жанчын.

— Аддайце нам дзяцей!-— крычалі яны.

— Дзеці ў бяспецы!— гучным голасам крыкнуў урач. Штэфі схавала твар на плячы маладой жанчыны, што стаяла побач. «У бяспецы?»— падумала яна. У гэтым шалёным пекле за сценамі клінікі больш не было бяспекі.

— Райнер,— прашаптала яна. Яна магла не асцерагацца, што нехта пачуе яе адчайны крык. Удары раздаваліся ўсё часцей. Магчыма, ужо ўвесь комплекс будынкаў быў разбураны.

— Райнер! Эва! Бургль! Дзе вы? Мы ж рашылі жыць разам!

Пранізлівы крык заглушыўся трэскам і грукатам.

— Рольф!— закрычала Штэфі, убачыўшы, як заварушылася перад ёю сцяна. Тоўстая сцяна, якая абяцала бяспеку, як прывід, пачала валіцца на яе.

Крык Штэфі перайшоў у хрып. Падаючы, яна ўжо не магла вымавіць акрываўленым ротам ніякага імя.

Бургль, з цяжкасцю ўстаючы, абтрэсла тынкоўку і пабелку з галавы і плячэй. Яна не ведала, колькі яна праседзела, скурчыўшыся на зямлі, сваім сагнутым целам прыкрываючы камячок, які называўся

Райнерам. Раз, у час смяротнага налёту, які цягнуўся, здавалася, вечнасць, яна паспрабавала выйсці з падвала. Але адзін толькі позірк на тое, што рабілася знадворку, вярнуў яе назад у вугальны склеп, пакінуты гаспадарамі, бо яны палічылі яго недастаткова надзейным.

Райнер заплакаў, калі яна пры першых выбухах выхапіла яго з каляскі. Потым, па дарозе ў склеп, яна ўбачыла «крыжы», чырвоныя і зялёныя светлавыя фігуры, якія валіліся на начны горад.

Спачатку яе трывожыла, што не было Эвы. Потым яна падумала сабе, што сяброўка хутчэй, напэўна, уцалее ў вакзальным бамбасховішчы, чым у непрыстасаваным склепе. Калі яна ехала апошнім цягніком, дык незадоўга да трывогі павінна быць у Дрэздэне. І ў Штэфі, мусіць, усё ў парадку. На дахах вялікай жаночай клінікі адусюль былі відаць чырвоныя крыжы. У святле ракет лётчыкі павінны былі заўважыць іх. «Мне трэба зберагчы Райнера,— падумала яна,— а то як я гляну ў вочы Штэфі?»

Ёй пашанцавала. Яе прыгнутая спіна засланіла яго ад граду абломкаў. Яны парвалі ёй паліто, з вуха цякла кроў. Яна сутаргава трымала сумку з дзіцячымі рэчамі, яе адзіны скарб. Туды ж яна палажыла некалькі пісьмаў і фатаграфій Рольфа, дзеля Штэфі.

На здранцвелых нагах, разбітая і брудная, прыцiснуўшы да сябе дзіця, яна вылезла са склепа. Яна ледзь не задыхнулася ад смуроду. У адчаі яна стаяла перад варонкай, якая зеўрала ў тым месцы, дзе быў дамок у садзе.

Эва рухалася, як у гарачцы.

Недзе кіламетраў за пяць ад гарадской мяжы цягнік, што ішоў з Мейсена, спыніўся. Здалёку яна ўбачыла жахлівае зарыва над горадам. Языкі полымя, якія падхоплівалі вецер, ад якіх закіпаў асфальт, не давалі ісці. Падэшвы яе туфляў пачалі адклейвацца. Едкі дым рэзаў да слёз выядаў вочы. Яна бегла ў плыні перапужаных людзей, якіх нейкі таямнічы страх гнаў да Вялікага Саду. Гаварылі, што гэта папярэджанне перадало англійскае радыё. Эва думала: толькі наперад, бліжэй да Штэфі і Бургль. Тут, у самім горадзе, ніхто не мог сказаць ёй, куды падацца. З моста яна ўбачыла, як на Эльбе гарэлі лодкі. Жудасная ілюмінацыя, якую падвойвала цёмная рака ў адлюстраванні.

Вялікі Сад, прасторны парк з шырокімі лугавінамі і старымі дрэвамі, уяўляў сабой цёмны ціхі чатырохкутнік у жудасным вогнішчы сённяшняй ночы. Тысячы людзей, нягледзячы на холад, збіліся пад дрэвамі. Сотні хадзілі туды-сюды, затрымлівалі кожнага, хто трапляўся ім па дарозе, пыталіся пра сваіх блізкіх.

Раптам — удар, нібы пярун, і пасля жудаснай нематы страшэн-

ны ўскрык з тысячы глотак разам:

— Яны ляцяць зноў!

Ніхто не чуў сірэны трывогі. Магчыма, і сірэны ўжо былі разбомблены.

І зноў неба разарвалася.

Зверху пасыпаўся дождж агню і серы. Кроны старых дрэў у адно імгненне ўспыхнулі. Фосфар пырскаў з ёмістасцей, якія разрываліся ў паветры, сыпаўся на людзей, рэчы, змяіўся па траве. Куст, за якім схавалася Эва, загарэўся так раптам, што яна не паспела адскочыць і агонь схапіўся за рукаў. Яркая стужка прабегла ад пляча да кісці рукі. Яна, адчайна размахваючы, біла па ёй папкай, а калі не дапамагло, хуценька скінула паліто і прыціснулася рукой да халоднай зямлі. Гэтак жа, як і яна, па зямлі качаліся сотні людзей, стогнучы ад болю. Тыя, каму яшчэ больш не пашанцавала, бегалі без памяці — палаючыя факелы.

Эва ўткнула твар у зямлю. Вось так было і на Востраве, калі гарэлі дзяўчаты з дома Зээштэрн і іншых інтэрнатаў. Ёй расказвалі пра гэта. Ёй было жудасна чуць такое, але толькі цяпер яна зразумела, наколькі слабай была сіла яе ўяўлення, наколькі малой была спагада. Тое, што яна ўбачыла, пераўзышло ўсякія меркі: лётчыкі ляцелі зусім нізка, відаць, добра ведаючы, што ў гэтым парку яны знойдуць свае ахвяры. Яны не баяліся, што іх саб'юць.

Эва адчула, як аднекуль у рот пацякла кроў. Страшэнны кашаль скалануў яе, а разам з ім узняўся асляпляльны гнеў. Яна паспрабавала спыніць кроў, прыціснуўшы да рота рукаў паліто. Здохнуць! Цяпер яна ведала, што гэта значыць. «Здохні, юда!»— прачытала яна аднойчы на сцяне і спыталася ў маці, што гэта азначае. За гэта яна зарабіла аплявуху і строгі наказ: ніколі не вымаўляць гэтага агіднага слова. Цяпер, тут — гэта была не смерць, гэта было «здыханне».

Але яна не хацела здыхаць, не хацела, каб спраўдзіліся тыя словы, напісаныя на сцяне. Ні ў чым не было іхняй праўды. Ні ў іх напышлівых прамовах, ні ў іх вайне, ні ў тым, што яўрэі ў адрозненне ад іншых людзей — непаўнацэнная раса. Яна хацела дажыць да дня, калі скажа ім гэта акрыта ў вочы, усім, хто лічыў яе разумнай, і прыгожай, і жаданай.

«У мяне адвальваецца рука»,— падумала яна. Рана гарыць невыносна. Без рукі можна жыць. Жыць! Яна хацела жыць, яна паабяцала Штэфі, пакуль не скончыцца вайна...

Штэфі, Бургль, Райнер! Успамін пра іх падняў яе. Не мела сэнсу чакаць адбою. Сірэны анямелі.

Самалёты паляцелі. Яны зрабілі сваю работу. Эва пабрыла, хіста-

ючыся, па выгаралай траве, паміж забітых і параненых, міма тысяч няшчасных, трымаючы ў галаве імёны толькі траіх людзей, блізкіх ёй.

Горад хаваў яшчэ аднаго чалавека, пра прысутнасць якога Эва і здагадвацца не магла.

За тоўстымі сценамі дрэздэнскай турмы сядзеў Юрген Бэр. На ім была чорная вопратка смертніка. Рукі ў яго былі закаваныя, як і ў, яго таварышаў па камеры. Праз маленькае закратаванае акенца струменілася ледзяное начное паветра. Падлога была ўсеяна асколкамі шыбы.

Ён стаяў, зняможана прыхіліўшыся да дзвярэй. Ён да крыві збіў локці, барабанячы, але цяжкія дзверы не адчыняліся, хоць тоўстыя турэмныя сцены хісталіся пад цяжарам выбухаў. Ніводзін турэмшчык не паказаўся ім на вочы за час двух начных налётаў. Яны сядзелі ў падвале, пакінуўшы зняволеных на волю лёсу. Таго, што бачылася і чулася праз акно камеры, было дастаткова, каб давесці да мяжы магчымага напружанне нерваў зняволеных, прыгавор якім маглі выканаць у любы дзень.

«Вось як выглядае канец»,— падумаў Юрген Бэр, у той час як каля турэмнай сцяны рваліся фосфарныя і запальныя бомбы. Ён хацеў дажыць да краху фашызму. Яго надзея расла з кожным днём. Чуткі пра прыбліжэнне Усходняга фронту праніклі і ў турму. Гэтым, відаць, тлумачылася няўпэўненасць турэмшчыкаў і адтэрміноўка выканання прысуду.

Ужо некалькі гадзін розум Юргена Бэра вёў жорсткую барацьбу з пачуццямі. Розум гаварыў яму: «Наступная бомба можа быць нашай. Вось і выкананне прысуду». А пачуцці супраціўляліся. Амаль уся турма была запоўнена палітычнымі. Смерць з паветра азначала б разню ў сваіх радах. Ён не мог пагадзіцца з такой бязглуздай смерцю.

Яго схапілі летась летам, неўзабаве пасля таго, як быў раскрыты перадатчык у Цыновіцы. Яго апошнім востравам была даліна каля Одэра.

Маленькі закутак у цеснай рабочай кватэры часта напамінаў яму пра пакойчык Ханы Пэплаў пад трысняговым дахам рыбацкай хаты. І складаючы тэксты лістовак. Ён выразна бачыў перад сабой паплечніцу, як яна са стрыманым хваляваннем паказала яму першы самастойна напісаны зварот, прачытаны пазней Марліс Хасэ перад мікрафонам перадатчыка.

Марліс загінула, Хану кінулі ў Равенсбрук, а ён ведаў, што гэта азначала. Многія таварышы з яго апошняга прыстанішча, рабочыя з прыодэрскай даліны, якія размнажалі яго тэксты ў падпольнай друкарні, а потым распаўсюджвалі іх, былі ў канцлагерах, нават назваў

якіх ён не ведаў. Яны недзе таксама з нецярпеннем чакаюць вызвалення. Ці, можа, гэта зашмат — чакаць і спадзявацца, што яны яшчэ жывыя, у той час калі яго жыццё яму самому здавалася цудам?

Але менавіта гэта пачуццё няпэўнасці заўсёды падымала яго на ногі, калі пасля жудасных допытаў яго, знясіленага ад катаванняў, ахопліваў адчай бязмежнай зняможанасці. Няўжо? Няўжо ўсё гэта дарэмна? Увесь страх, усе пакуты, усе мукі? Калі карычневыя загоншчыкі правялі такое шчырае паляванне, што больш нікога не ўцалела, хто іх абвінаваціць у дзень X?

Ён, вязень Юрген Бэр, хацеў жыць. Ён мусіў жыць, бо ён імкнуўся выжыць не дзеля сябе. Людзі там, за сценамі турмы, павінны былі пачуць праўду пра Хайно, Хану, пра шмат іншых, якія з агнём у сэрцы і нечуванай мужнасцю выступілі супраць Гітлера, а цяпер не маглі нічога сказаць. Яму прыпомнілася, што некалькі гадоў назад ён гаварыў Эве Леангард: для яе ракавым было тое, што яна не бачыла пакут свайго бацькі. Увесь час знаходзіліся пацвярджэнні: чалавечыя пачуцці не могуць да канца ўспрыняць нечы боль. Усё трэба зведаць на сабе.

Таварышам у прыюдэрскай раўніне чужы боль быў як свой. Калі Юрген Бэр, уцякаючы, трапіў да іх. Ён узрадаваўся, бо зразумеў, як шырока разгалінаваны быў падпольны рух і колькі людзей былі гатовыя на звышнатуральнае самаадрачэнне, якога патрабавала ад кожнага жыццё ў пастаяннай небяспецы. Гэта было шмат, гэта было велічней і магутней, чым цуд А4, які некалі запаланіў яго.

Вялікае супраціўленне не ведала нацыянальных граніц. Таварышам па камеры ў Юргена Бэра быў славак. Схуднелы невысокі чалавек зняможана ляжаў на нарах побач з ім. Ён ужо быў даўно ў зняволенні, таму знясілеў. Дрэннае харчаванне разбурала яго цела і нервы.

Яны ўжо два месяцы былі ў адной камеры. Калі яны аказаліся разам, славак з недаверам паглядзеў на Юргена Бэра. Спатрэбіўся пэўны час, пакуль ён упершыню з цяжкасцю загаварыў з немцам.

— Ты не рабочы, праўда? З кім ты супрацоўнічаў?

Юрген Бэр адчуў стрыманасць гэтых слоў і паспрабаваў выклікаць давер у таварыша па камеры. Ён расказаў яму пра Востраў, пра групу ў Берліне, самае ядро якой было ў міністэрстве авіяцыі і прыцягвала да супрацоўніцтва людзей з розных пластоў насельніцтва, гатовых на супраціўленне фашысцкай дыктатуры. Ён прызнаўся, што спачатку быў толькі працаўнікам нацызму і толькі ў час вайны зразумеў важнасць мэты, за якую можна аддаць усяго сябе. Простыя рабочыя ваеннага завода падвялі цвёрды грунт пад яго расплывістае ўяўленне пра пасляваенную Германію. На гэтым грунце ён цяпер

стаяў непарушна.

А цяпер Чырвоная Армія дайшла да Одэра! Вызваленне было зусім блізка. Але не настолькі блізка, каб канчаткова знікла пагроза гібелі. Колькі дзвярэй зляцела ў гэту ноч з завесаў. Чаму ж гэтыя трымаюцца?

Бургль прыціснула малога да сябе. Яна не магла плакаць. Вочы, якія запаліліся ад дыму, былі сухія.

Штэфі загінула.

У садзе клінікі Бургль прайшла ўздоўж радоў выратаваных, зазірнула ў твары параненым. Яна вымушана была паверыць таму, што ёй гаварылі ўрачы і сёстры, якія раскопвалі засыпаных: Штэфі загінула ў абвале падземнага пераходу.

А Эва? На вакзале неразбярыха была асабліва вялікая, так ёй сказалі пажарнікі. Яны не абнадзейвалі яе. І ўсё ж Бургль яшчэ крыху пачакала. Але потым даў знаць пра сябе Райнер. Ёй дазволілі сесці на грузавік, які вывозіў ўратаваных дзяцей з горада, дзе ім дадуць малако, ад якога залежала іх жыццё.

Замораная, маўклівая ад болю і адзіноты, Бургль гарачымі вачыма глядзела перад сабой.

— Жанчына, трымайце ж сваё дзіця!— падбадзёрваючы, крыкнуў санітар.

Бургль спалохана ўздрыгнула. «Сваё дзіця»,— так сказаў гэты чалавек. Яна паспешліва схапілася за скрутачак, прытуліла яго да сябе. Малое заўсміхалася.

Вочы Бургль напоўніліся слязьмі. Яна таксама ўсміхнулася, а слёзы закапалі на немаўля. У гэтую хвіліну Райнер стаў яе дзіцем.

Яшчэ грузавік, на якім ехала Бургль, не выехаў за горад, як пачаўся трэці налёт на горад. Бомба трапіла ў турму, частка вязняў загінула, а астатнім адкрыўся шлях на волю.

Турэмшчыкі раніцай не ўсе з'явіліся на працу. Яны ўжо не маглі справіцца з раз'юшанымі вязнямі, якія рынуліся з адчыненых дзвярэй камер. Яны толькі назіралі, як адзін вязень разбіваў аковы смертнікам.

Юрген Бэр распрастаў рукі. Адзін крок, самы першы, быў зроблены. Але гэты крок мог страціць свой сэнс, калі адразу ж не зрабіць наступнага. Толькі па той бок тоўстых сцен турмы была надзея на волю.

Гэты «пазасценны пейзаж»— ён за месяцы зняволення ў журботных думках уяўляўся райскай прыгажосцю — на самай справеператварыўся ў задымленую, спустошаную, бездарожную голую мясціну. І ўсё-такі не было больш жаданай мэты, чым нырнуць у хмару, што

стаяла над горадам, схавацца ў самым разбураным, пакінутым людзьмі і жывёлай жытле.

У сценах турэмнага двара з'явіліся вялікія праломы. Паднялася паніка.

Юрген Бэр дзейнічаў імгненна. Ён адцягнуў назад свайго таварыша па камеры, яны патупалі па лесвіцы ў падвал, паспешліва перасеклі, увесь час апасліва азіраючыся па баках, некалькі памяшканняў, дзе па моцным скразняку здагадаліся, што недзе тут павінен быць выхад на двор. Праз разбураную сцяну яны выбіліся на волю.

Вось ён — гэты пейзаж, жудасны і каварны, дзе тлелі пажары і ўсё яшчэ рушыліся сцены.

Для двух, якія хацелі непрыкметна схавацца, гэта смяротнае пекла было найлепшым прытулкам. Прыгнуўшыся, яны сядзелі ў падвальным калідоры разбомбленага дома.

Ім патрабаваўся нейкі час, каб прыйсці ў сябе. Ашаламляла ўсведамленне, што пашчасціла ўцалець.

— У цябе ёсць сябры ў горадзе?— спытаўся славак.

— Не,— сказаў Бэр.— У мяне тут нікога няма.

Славак маўчаў. Юрген Бэр паспрабаваў сабраць сваю мужнасць.

— Неяк прарвёмся.

Пад вечар два мужчыны, у сваіх цёмных, не вельмі чыстых касцюмах падобныя да слесараў ці манцёраў, брылі ў бок Радэбойля. Яны прагаласавалі, і іх крыху падвёз грузавік, які дастаўляў прадукты ў горад.

— Куды ён нас вязе?— ціха спытаўся славак.

— Мне здаецца, на волю.

Пачуццё адзіноты навалілася на Эву а такой сілай, што ёй здалося, быццам яна адчула фізічны боль. Калені задрыжалі, а рана на левай руцэ, якую вайсковы ўрач аскроб, каб фосфар не ўядаўся глыбей, балюча пякла. «Раненне трэцяй ступені», — пачула яна і страціла прытомнасць. Калі яна ачуняла, яе ўжо перавязалі.

Эва з апусцелым позіркам сядзела на развалінах жаночай клінікі. Яе гора, якое, здавалася, не мела граніц, ніхто не заўважаў. Яе плач у гэтай бядзе быў не больш, чым узмах крыла птушкі ў час грукатлівага запуску ракеты. «Магчыма, гэта і ёсць адплата за А4»,— падумала яна. У такім разе Юрген Бэр меў рацыю. На вайне адплата непазбежная. За яе заплацілі Штэфі і Бургль — і маленькі Райнер.

Вусны і думкі больш не слухаліся яе. Нейкая жанчына паглядзела на яе, хітаючы галавой, калі яна спыталася ў яе пра дарогу да Горнай крэпасці. Эва засаромлена прыкусіла вусны і павярнула ў другі бок. Цяжка было адрозніваць жаданні і імкненні ад рэчаіснасці,

па якой яна брыла, як непрытомная. Яе пальцы намацалі маленькі бранзалет, які яна зняла з абгарэлай левай рукі. Ён быў віной яе бязглуздага пытання.

Ёй здалося, што яна прайшла вельмі доўгі шлях, які яе стаміў, і не хацелася верыць, што ўжо канец.

Амаль імгненна прыняўшы рашэнне, яна пайшла з гэтага могільніка.

А потым Эва стала адной з тысяч вандроўніц тых дзён, і на шляху, дзе рухалася гэта вялікае войска, яна ўбачыла карцінку «чароўнага ліхтара» са свайго дзяцінства, якая стала жудаснай рэчаіснасцю.

І яна не забылася яе ніколі.

## АСАБІСТА ПЕРАЖЫТАЕ

Майскі месяц, які заглядваў праз акенца ў франтоне больш не асвятляў шлях бамбардзіроўшчыкам. Не чулася страляніны замоўклі сірэны. Разам з яшчэ трыма дзяўчатамі я знайшла прытулак у рабочай сямі у горадзе Рэндсбургу ў Гальштыніі, хаця гэтым прытулкам і была ўсяго толькі паветка на сена.

Хоць для нас страхі ўжо ўсе мінуліся, спакою не было. На саламяных мяшках, якія мы цэлымі днямі напіхалі, у памяшканнях школы, якія мы пераабсталявалі ў дапаможныя бальніцы ляжалі яны — найслабейшыя са слабых, былыя вязні канцэнтрацыйнага лагера Штутгоф пад Данцыгам.

«Штутгоф», — гаварылі яны хрыпла, калі я, запаўняючы іх гісторыі хваробы, пыталася, адкуль яны прыбылі. І ніводзін не хацеў гаварыць мне, што я раней не чула такой назвы

«Забітыя» — адказаў мне пятнаццацігадовы юнак-яўрэй калі я хацела запоўніць графу «бацькі» ў яго гісторыі хваробы. «Забітыя», — прагучала яшчэ раз з нянавісцю, калі я яшчэ раз асцярожна спыталася пра бацькоў і сясцёр, іншых блізкіх.

У картачцы рускага, бледнага, як воск, пажылога чалавека я не змагла нават напісаць дакладна прозвішча, так пакамечаны быў яго лагерны аусвайс. Яго першага, закручанага ў прасціну вынес наш гальштынскі кучар.

У гэты дзень большасць хворых адмовілася ад яды Са страхам, нянавісцю і недаверам сачылі яны за дзейнасцю ўрача і персаналу. Цяпер, пасля вызвалення, смерць ім уяўлялася толькі звязанай з лякарствамі і ядой з нашых рук.

Фінвандрат, галандзец, хворы на сухоты, мог дыхаць толькі седзячы. Ад яго я і даведалася, што азначала весці антыфашысцкую барацьбу. А цяпер не было ні сродкаў, ні ўрачоў, якія маглі б выратаваць жыццё ў яго змардаваным целе.

Мы з сяброўкай стараліся аблегчыць яго цяжкія пакуты З удзячнасцю назіраў ён, як мы па некалькі разоў на дзень мянялі яму пасцель. Ён не падзяляў панічнага настрою іншых Ён пытаўся у нас: «Вы сапраўды немкі?» Мы пацвярджалі, дзівячыся з яго сумнення. Тады ўсе сваё незадавальненне краінай, якая паддалася навале варварства. Ён уклаў у адзін сказ: «Як могуць быць немкі такімі добрымі!»

Пякучы сорам ахапіў мяне. Раней я думала, што няма нічога жахлівага ў тым, што ў мяне пасля вайны спытаюцца: «А што ты рабіла у той час?» Цяпер я зразумела, што маё чыстае сумленне — ілюзія. Нешта было не так у законах маралі таго свету, дзе я вырасла. Чвэрць майго жыцця панавалі законы вайны, яшчэ адну чвэрць — законы, якія рыхтавалі гэту вайну.

Усведамленне, што ўсе мы вінаватыя, бо мала думалі і таму занадта мала дзейнічалі, стала маім указальнікам у жыцці і вызначыла мой выбар як у асабістых справах, так і ў прафесійных Таварышаў, падобных па духу да шгутгофскіх антыфашыстаў я ў наступныя гады сустракала ў рэдакцыйных кабінетах радыё Лейпцыга, затое не сустрэла сярод маіх былых сяброў, якія аселі ў Франкфурт, Гамбургу ці Мюнхене і ўсё яшчэ пахваляліся сваім чыстым сумленнем, хоць у мінулым яны працавалі над гітлераўскай зброяй «Фаў».

Вось такім чынам шлях, які я выбрала сабе адразу пасля акупацыі Рэндсбурга англічанамі, прывёў мяне да стварэння рамана «Востраў без маяка».

Праўда, трэба было мінуць гадам, перш чым я адчула сябе здольнай перадаць у літаратурных вобразах тое, сведкай чаго я была ў вайсковай доследнай установе ў Пенемюндэ. Я ўсіх іх ведала асабіста: апантаных даследчыкаў, процьму дробных "памочнікаў у вайсковай форме і без яе, важныя і менш важныя дэталькі ў вялізным механізме, без якіх, аднак, немагчыма было б весці вайну. І я сама была адной з такіх дэталек.

З пазіцыі маленькай тэхнічнай супрацоўніцы я не магла хоць бы прыблізна ўбачыць ні ўсёй складанай структуры вялікай доследнай установы, ні яе шматлікіх перапляценняў з вайсковымі службамі і прамысловасцю. Толькі калі мы ўсе на свае вочы ўбачылі за соснамі пенемюндскай касы А4, пра які вялося так многа супярэчлівых размоў — а мне ён быў вядомы па мадэлі ў аэрадынамічнай трубе, —

я атрымала нейкае ўяўленне пра цягу, стабільнасць і велічыні Маха, хоць тайны кіравання на адлегласці засталіся для мяне — вылічальнікі балістычных крывых — абсалютна незразумелымі, як і ўзаемадзеянне тысяч дэталяў у гэтай лётаючай лабараторыі.

Значыць, трэба было «абагаціць» гэту сыравіну, калі я хацела памастацку асэнсаваць яе.

Кур'ёз майго жыцця: я вымушана была займацца фізікай, не маючы да яе ні здольнасцей, ні асаблівай прыхільнасці.

Але не толькі таму, што я вырашыла глыбей папоўніць свае фізіка-тэхнічныя веды, я толькі праз дзесяць гадоў змагла адкласці ўбок сваю працу над радыёперадачамі, папулярнымі фільмамі і кнігамі для дзяцей, каб узяцца за раман. У першую чаргу мне трэба было не ўгразнуць у натуралістычных выпадковых вобразах, выявіць грамадска-палітычныя асновы свайго матэрыялу.

Я хацела стварыць антываенную кнігу, выкарыстаўшы для гэтага малавядомы факт другой сусветнай вайны. Не як адасоблены сенсацыйны выпадак, а як тыповую з'яву агрэсіўнай палітыкі «трэцяга рэйха» — звяно ў гістарычных падзеях канца другой сусветнай вайны. Акрамя таго, мне было важна, пасля ўсяго таго, што я ўбачыла ў Пенемюндэ, узняць праблему адказнасці вучоных у наш час — прынамсі, паставіць такое пытанне. Вясной 1957 года гэта праблема, дзякуючы звароту прафесараў Гётынгена, аказалася ў цэнтры ўвагі сусветнай грамадскасці.

Выбраўшы ў галоўныя гераіні рамана маладую дзяўчыну-паўяўрэйку, я закранула яшчэ адну праблему, характэрную для таго часу. Паказваючы розум і зычлівасць жыццярадаснай Эвы Леанард, я хацела даказаць, на якіх няўстойлівых падпорках будавалася фашысцкая расавая тэорыя.

Чалавечая трагедыя Эвы Леангард — гэта не тая трагедыя, якая пачыналася з шасцікутнай зоркі і канчалася катаваннямі і газавай камерай. Яна больш блізкая да тых трагедый, калі сыноў зняволеных антыфашыстаў пасылалі ў школы Адольфа Гітлера і выхоўвалі ў варожасці да тых, каму яны былі блізкія па крыві. І як бы лёс Эвы Леангард ні здаваўся адзінкавым выпадкам — ён пацверджаны лёсам вельмі многіх. Нейкі час такая маладая істота сядзела за пісьмовым сталом насупраць мяне, а таксама ў мяне была сяброўка дзяцінства, якая, прайшоўшы «дзяржаўную працоўную павіннасць», адным росчыркам пяра была адлучана ад свайго бацькі, яўрэя, які эмігрыраваў, а потым...

З майго вопыту я прыводжу яшчэ адзін больш сур'ёзны доказ жыццёвасці маёй гераіні: ад звышнатуральнай жорсткасці, ад

сведчанняў ахвяр Асвенціма ці Тэрэзіенштата большая частка немцаў адмяжоўваецца сваім «чыстым сумленнем». Напрыклад, пакутны шлях Анны Франк — гэта смерць шчырага, чыстага дзіцяці — пра гэта яны не ведалі. Але ж пра «меншае зло», якое тварылася побач з намі, знявагу нашага суседа, кплівыя здзекі з яго дзяцей у школе, паклёпы на працы, пра дэградацыю чалавека дэ староннягa назіральніка — пра ўсё гэта мы ведалі! Гэта ўсё адбывалася сярод нас, на нашых вачах. Мы не можам адмовіцца ад гэтага. Але ж менавіта гэта і было пралогам да Берген-Бельзена або Равенсбрука. А тыя, каму пашчасціла не трапіць туды, гадамі жылі пад страхам у падполлі або наперакор свайму сумленню падладжваліся пад абставіны. Вось дзе наша віна, пра якую нам трэба помніць заўсёды, бо лозунг «Супрацiўляйцеся пачатку!» будзе актуальны да тае пары, пакуль у ФРГ не прыцягнуты да адказнасці адказныя за гэтыя злачынствы.

У гэтым сэнсе перад Эвай Леангард стаіць важная задача. Я не надзяліла яе паслядоўнасцю Ханы Пэплаў або сілай Юргена Бэра, таму што яе выпрабаванні яшчэ далёка не закончаны. Даказаць, ці павучыла яе нечаму свая бяда, бяда сяброў і радзімы, яна можа толькі ў наш час.

З самага пачатку «Востраў без маяка» быў задуманы як адно цэлае з другім томам, а канец вайны — загадзя абазначаны ў пекле налётаў на Дрэздэн — з'яўляецца толькі цэзурай у жыцці маёй галоўнай гераіні. Неабходнасць падзелу на два тамы выявілася ў час напісання, калі выразна ўбачыўся шырокі план.

Мне было вельмі важна ў адпаведнасці з праўдай жыцця разнастайна намаляваць і адмоўныя фігуры, такія, як Розэмары Клемт, Ханке, Швентмайр, група вакол генерала — прадстаўнікоў фашызму і мілітарызму розных масцей. Імкнучыся рэалістычна паказаць гэты гістарычны адрэзак, я вырашыла не акарыкатурваць, не вульгарызаваць прыхільнікаў антыгуманных прынцыпаў. У іначшым выпадку я б пазбавіла іх той небяспечнасці, якая была яшчэ большая таму, што ў будзённым жыццёвым абыходжанні яны здаваліся часам надзвычай адукаванымі і лаяльнымі.

Пранікненне ў псеўдафіласофію гітлераўскіх фашыстаў прыносіла мне найбольшыя цяжкасці, хоць яны і былі духоўнай спажывай майго школьнага часу. Наколькі мы аддаліліся ад той пары, калі выразамі штодзённага ўжытку былі такія тэрміны, як «спадчына продкаў», «голас крыві» і іншае, я зразумела толькі тады, калі паспрабавала асвятліць змест гэтых гадоў. Спатрэбіўся сістэматычны прагляд гебельсаўскай прэсы ў Інстытуце сучаснай гісторыі, каментарыяў пасля бітвы на Волзе і перш за ўсё заклікаў аб неабходнасці

трымацца ў апошні перыяд вайны. А тое, што я зусім незнарок, між іншым, натыкалася на тыповыя дэталі таго часу, пра існаванне якіх хоць і ведала, але ніколі не мела з імі асабістай справы, спатрэбілася для тых раздзелаў, дзея ў якіх адбываецца ў Познані. Асяроддзе школы нявест і арганізацыі Тота, напрыклад, прыйшлі з гэтых крыніц.

Процівагай гэтаму сканцэнтраванню інтэлігенцыі, якая працавала над стварэннем знішчальнай зброі, магла стаць толькі група антыфашысцкага супраціўлення. Гістарычна абумоўлена, што яна нязначная ў параўнанні з пануючым супрацьлеглым бокам і не можа сур'ёзна перашкодзіць ажыццяўленню праграмы А4. Абапіраючыся на свае ўспаміны пра раптоўныя арышты у доследнай установе і пра баязлівыя шэпты, што ў цыновіцкіх жыхароў выявілі штосьці забароненае, я звязала гэтыя разрозненыя акцыі у агульную карціну маўклівага паўстання, пра якое мы даведаліся пасля 1945 года. Так, антыфашыст Фінвандрат, які выканаў сваю залачу — адкрыў мне і маім сяброўкам праўду пра Штутгоф, — аказаўся блізкі па духу з маладым вучоным Пенемюндскай доследнай установы, які ў размовах са мной часта выказваў сваю духоўную нязгоду з рэжымам Гітлера.

Я з удзячнасцю прыпомніла пра гэтыя першыя вехі, калі у 1945 годзе спалохаўшыся свайго самнамбулічнага слізгання па паверхні ў тым дзесядзігоддзі, калі панавалі забойцы, пачала шукаць пуцяводных агнёў для свайго будучага жыцця. Паступова я знаёмілася з лёсам эмігрантаў — Рудольф Леангард і Бруна Апіц расказвалі нам, маладым, нас узрушылі лёс Тэльмана і Асецкага, пра гэта пісаў Гюнтэр Вайзенборн — і я усвядоміла, што я не стаяла перад неабходнасцю сур'ёзнага выбару, не перажыла сапраўднага канфлікту сумлення і што першых забітых на самай жудаснай з усіх войнаў я ўбачыла толькі пасля ее заканчэння: нямых сведкаў з канцлагера Штутгоф.

Адсутнасць сваёй віны, гэты падманлівы шчыт «я нічога не бачыў» стала зыходным пунктам да матыву «ты не бачыла яго пакут» у маёй кнізе. Гэта не прабачэнне за тое, што выйшла, а спроба растлумачыць, што часта здавалася загадкавым у паводзінах людзей.

Даследчык Ціфенбах, у якога яшчэ з бацькоўскага дому была адбіта ахвота займацца палітыкай, і ў наступіўшым хаосе яшчэ не бачыць урока. Ён занадта лёгка адкруціўся ці дакладней: я дала яму занадта лёгка адкруціцца! Мне было даволі цяжка пакідаць гэтага разумнага, удумлівага чалавека ў такім зманлівым самазаспакаенні. Але як інакш ён бы трапіў да тых, хто пасля вайны гужам пацягнуўся ў Амерыку? (Гэта ўжо намёк на наступны том!)

Або Эва! У прысвячэнні, якое стаіць у пачатку кнігі, я абвінавачваю яе ў адсутнасці дастатковай сілы. Пры гэтым я даю чытачу

самому вырашыць, ці з'яўляецца слабасцю воля да жыцця, прыродны інстынкт хацець убачыць заўтрашнюю раніцу. Што ж азначае гады прысвячэнне? Фокус? Не. Выклік? Магчыма. Штуршок думцы Перш за ўсё — просьба да чытача: не забываць пра жанчын Равенсбрука, Берген-Бельзена ці Тэрэзіенштата, у якіх не было магчымасці трымацца «з краю свету».

Няма больш такіх астравоў, куды можна было б беспакарана збегчы,— гэта Эва разумее ў канцы кнігі. І яна — як і я — позна бачыць першых забітых на вайне. А тое, што для мяне стала ўнутраным законам, калі я знаходзілася за некалькі сотняў кіламетраў на поўнач, я ўклала ў яе душу, пасля таго як яна перажыла спусташальныя налёты на Дрэздэн: «І яна не забыла гэтага ніколі».

*Рут Крафт*

**ЗМЕСТ**



Рут Крафт ,

ОСТРОВ БЕЗ МАЯКА
Роман
Минск, издательство «Мастацкая літаратура» На белорусском языке